

МОЙ РОДНЫ КУТ

# ВІЦЕБШЧЫНА

## Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў





МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 2000

УДК 882.6-3+398.22(=826)
ББК 84(4Бен)+82.3(4Бен)
В 54

*Серыя заснавана ў 1995 годзе*

Складанне, запіс і апрацоўка
доктара філалагічных навук
**А. М. Ненадаўца**

ISBN 985-01-0107-5



# ВІЦЕБСК

Калі ўсё гэта здарылася, дык людзей тут зусім яшчэ мала жыло, паселішчы далекавата адно ад другога знаходзіліся. Але не падумайце, што зямлю не апрацоўвалі ці якой іншай справай не займаліся. Зусім не. Усё было ў парадку, бо тыя людзі намнога здаравейшыя былі. Калі сёння адзін чалавек можа плугам узараць якую вузенькую палоску, то ў тыя часы адзін вясковец спраўляўся з агромністым полем. Ды не плугам жа аралі, а драўлянай сахой, што намнога цяжэй. Запрагуць валоў і паганяюць паціху. А тыя валы — што горы. Нездарма па нашым краі і ў гэтыя дні можна пачуць, што не камяні вялізныя ляжаць на палях, а валы здаравенныя, багамі за нейкую правіннасць пераўвасобленыя ў маўклівыя валуны. Вось і тут так здарылася — з заклёну. Сапраўдная гісторыя пачалася не з першабытнага паселішча, а яшчэ раней — ад назвы невялічкай рачулкі, на якой сталі сяліцца ды размнажацца людзі.

Некалі тут рэчкі не было, а была чысцюткая і звонкая крынічка. ПрылятаЛі сюды птушачкі напіцца вадзіцы, ці звер які падыходзіў ды з капытца піў. З самой крыніцы піць баяліся. Можа, нешта адчувалі, а можа, не хацелі муціць ваду. Вы не думайце нічога дурнога, бо жывёлы ў тыя часы разумелі гаворку людзей, былі даверлівыя, як і самі жыхары.

Колькі часу так доўжылася — толькі сама крынічка і ведала. Зімою яна спакойненька гурчэла пад лёдам, пакінуўшы невялічкую адтуліну для таго, хто захоча напіцца, а вясною, калі ажывала ўся прырода, то і крынічка станавілася весялейшай.

Аднае такое вясны ішоў аднекуль падарожны. Не адзін крочыў, а з хлопчыкам-павадыром. Спяшацца ім не было куды. Хаціны не мелі. Дзе пусцяць людзі добрыя переначаваць — там і прыткнуцца, а найболей, у цёплую часіну, так і спалі — то пад кустом, то пад стогам. Навошта прасіцца, калі і так можна па-панску адпачыць. Іншая справа ў восеньскія залевы ці маразы траскучыя. Тады любы жабрак стараўся куды-небудзь схавацца да вясны. Бывала, збіраліся ў якую будыніну агулам і байкі ўсялякія баялі, а хто — да якой добрай душы прыбіваўся. Тады нельга было адмовіць у кавалку хлеба ці начлезе жабраку або падарожнаму. Кожны чалавек лічыў такую адмову вялікім грэхам. Лепей чалавека знясіленага прыгрэць-накарміць, бо сёння ён жабрак, а ты гаспадар, і дзе гарантыя, што заўтра наадварот не адбудзецца?

Дык вось ішлі гэтыя падарожныя вельмі павольна. І не толькі таму, што, як мы ўжо адзначалі, спяшацца ім не было куды, а і таму яшчэ, што бяда ў іх здарылася, і вось якая. Мінулай ноччу, калі яны падыходзілі да адной вёскі, стары жабрак і кажа свайму павадыру:

— Дзіўная нейкая вёска, Мікітка. Дзіўная...

— Чаму, дзедку?

— А хіба ты нічога не заўважаеш? Прыслухайся.

Пару хвілін хлапчынка ўважліва слухаў, а жабрак гэтак жа ўважліва пазіраў на яго. Потым погляды іхнія сустрэліся.

— Ну што?

— Нічога я не разумею. Вёска як вёска, не болей...

— Эх, унучак, колькі часу я цябе вучу прыкмячаць усё, а ты...

— Я ж уважліва глядзеў і слухаў...

— І глядзеў, і слухаў, а чым гэтая вёска ад іншых адрозніваецца, так і не заўважыў.

— Невялічкая... У лесе стаіць...

— Невялічкая. У лесе стаіць, — перадражніў стары малога. — А ці за дрэвамі можна ўбачыць, колькі тут хат?

— І то праўда, — не пакрыўдзіўся Мікітка. — Але што ж тады?

— Баюся я, унучак, што тут нас блага людзі сустрэнуць...

— Колькі мы з табою, дзедка, ходзім, а такое ўсяго адзін раз здарылася, і то вельмі даўно.

— А тут у мяне адчуванне такое.

— З чым яно звязана, дзядулька?

— Эх, Мікітка, няўжо ты не памятаеш, як мы да іншых паселішчаў падыходзілі?

— Памятаю, чаму ж не.

— Ну дык там жа заўсёды птушкі спявалі, песні гаспадары выводзілі. Так?

— Так.

— А тут?

Павадыр-хлапчынка ашаломлена круціў галавою. Толькі цяпер да яго дайшло, чаго дабіваўся ад яго стары.

— Дзядулька, дык тут жа не тое што гаспадары ды гаспадыні не спяваюць, тут нават птушак не чуваць. Адно, што выразна даносіцца, — гэта сабачы брэх.

— Гэта мяне, Мікітка, і насцярожвае. Каб чаго не здарылася...

— Няўжо нехта пачне на нас сваю злыбеду вымяшчаць? Няўжо мы некаму гора прынеслі ці пошасць якую?

— Нічога ты не разумееш, родненькі. Калі чалавек злы, то ён зачэпку, каб табе нашкодзіць, абавязкова знойдзе і пры любым выпадку скарыстае. Гэта таксама навука, якая з пройдзенымі дарогамі прыходзіць.

— Я ад цябе, дзядулька, такога ніколі не чуў.

— Проста не хацеў казаць, бо ў пераважнай большасці вакол нас спагадлівыя, чуллівыя людзі знаходзяцца. Праўда, здараецца і адваротнае... Ды што гэта я пра такое гаманю з табою?

— Нічога, я ўсё разумею, — зусім па-даросламу запярэчыў Мікітка.

— Калі так, то пайшлі, не будзем болей варажыць, што нас чакае наперадзе. А раптам тут людзі лепшыя, чым дзе, а мы на іх усялякае кажам...

Увайшлі, па баках азіраючыся, на вясковую вуліцу, а там нікога з жыхароў не відаць, нібы вымерлі ўсе. Падышлі да адной хаціны, пачалі сваю жаласлівую песню спяваць, каб гаспадароў расчуліць і потым пераначаваць да іх папрасіцца, але ніхто да іх не выйшаў, нават голасу не падаў. Тады дзед з Мікіткам да другой хаціны падышлі, але і там іх гэткі ж прыём чакаў. Пастаялі і пайшлі да трэцяй. Толькі зацягнулі сваю адвечную жабрацкую песню, як з-за высокага плоту пачулася:

— Чаго гэта вы тут, бадзягі, раты паразяўлялі?! Толькі

і шукаеце, каб украсці што-небудзь ды пажывіцца за кошт сумленных людзей! Прэч адсюль, зладзеі!

Стары жабрак абурыўся:

— Не трэба так, пане гаспадару, не трэба... Мы і сапраўды бедныя. Мы і сапраўды жабракі. Але мы ніколі чужога без дазволу нават не краналі, не тое каб кралі. Так што не трэба на нас абы-што плявузгаць.

— Што?! Я плявузгаю?! — узвіўся голас за плотам. — Ды за такія словы я зараз на вас сабак спушчу!

Падарожныя падумалі, што гаспадар проста так пагражае, таму стары сказаў:

— Пайшлі адсюль, бо яшчэ чаго добрага...

Яны прыспешылі крок, але прайшлі ўсяго дзесятак крокаў, і раптам Мікітка што было сілы загарлаў:

— Дзедку, сабакі!

Стары акінуўся, а яны ўжо побач. І не адзін, а штук пяць, ды ўсе здаравенныя, ашчэраныя, як лютыя ваўкі.

— Да плоту, унучак! Да плоту прыціскайся ды кіем адмахвайся! — закрычаў дзедка і да Мікіткавага плечука прыхіліўся.

Але што яны маглі ўдваіх, стары ды малы, зрабіць супраць зграі сабак? Пакусалі іх моцна. Каб не зжаліўся гаспадар, ля плота якога яны стаялі, ды не выскачыў са здаравенным цурбалкам ім на дапамогу, то разарвалі б на часткі і ніхто не пашкадаваў бы.

Мікітка плакаў ад болю і крыўды і ўсё прыціскаўся да старога:

— Дзядулька, міленькі, пайшлі прэч адсюль. Пайшлі ў чыстае поле, пад любы кусцік, каб толькі тут ні хвіліны не заставацца...

Стары плакаў таксама. Буйныя слёзы каціліся па ягоным твары.

— Няхай бы мяне сабакамі травілі, а за што ж Мікітку, майго павадыра?.. Ён жа зусім дзіцятка горкае... Як жа можна такое?.. Нідзе на нас такога гора не абрыналася, толькі ў вас...

Гаспадар, які іх выратаваў, панура стаяў побач і маўчаў. Было відаць, што і яму баліць за тое, што здарылася. Ён усё азіраўся навокал, а потым, калі пераканаўся, што паблізу нікога няма, звярнуўся да старога:

— Ідзі, Божы чалавек, далей ад нашай вёскі. У нас ніколі і нікому не спачувалі, нікому нават кавалка хлеба не падалі. Злыя тут усе ў нас, злыя...

— Неба ўсё бачыць. Запамятай гэта, чалавеча, — ціха прамовіў жабрак. — І тое, што вы сёння зрабілі, вам за грэх непапраўны палічыцца. Так і ведай.

Потым павярнуўся да Мікіткі, узяў яго за плячук:

— Пайшлі, родненькі, кінь плакаць. Я табе ад перапуду замову прашапчу, і ўсё пройдзе. На лес, на балота ярасць іхніх сабак перакінецца, ды няхай яны іхніх жа дзяцей грызуць-кусаюць...

— Ды я не вельмі спалохаўся, вось толькі пакусанае смыліць, — ледзьве чутна азваўся Мікітка.

— Я тут, унучак, недалёка ад гэтай чортавай вёскі, ведаю адну крынічку... Пойдзем да яе. Я вадой з тае крынічкі табе раны прамыю — яны адразу пазацягваюцца.

— Праўда?

— Праўда, хлапчынка, праўда.

Селянін стаяў маўкліва і, толькі калі яны зрушыліся з месца, прашаптаў: «Чакайце» — і кінуўся ў хату. Неўзабаве ён выйшаў са здаравенным кусам сала і вялізным боханам хлеба.

— Вось... Вазьміце...

— Не трэба нам нічога, — грэбліва прамовіў стары.

— Вазьміце, вельмі прашу вас. Я ведаю, што мой сусед учыніў непапраўнае зло, але...

— Вазьмі, дзядулька, можа, гэты чалавек нам зла́ і не жадае, — падказаў Мікітка, які ўжо перастаў плакаць і толькі крывіўся ад болю.

Стары жабрак узяў, паклаў сала і хлеб у сваю бяздонную торбу, і яны моўчкі пайшлі далей ад гэтага страшнага месца. Але толькі параўняліся з апошняй хацінай, як зноў загыркалі сабакі і да іх вылецела з добры дзесятак вялізных ваўкарэзаў.

— Уцякаем, дзядулька...

— Адыходзім пацiху. Калі мінём іхнюю сядзібу, пачнуць адставаць...

Так яны і цiснуліся памалу, адмахваючыся кіямі. Потым, калі ўжо добра адышліся, пабеглі. Вось тут самае страшнае і здарылася. Каб жа беглі ды не азіраліся, то ўсё добра было б. А тут жа баяліся, што сабакі дагоняць, і... натыркнуўся Мікітка вокам на сук. Закрычаў страшным голасам:

— Дзядулька, вока!

— Што?.. Што?..

— Вока выбіў...

Глянуў дзедка — і сапраўды: суком Мікітка выпараў вока, і зараз яно выцякала.

Так вось, выючы, адзін ад болю, а другі ад ўсяго, што здарылася, і крочылі пацiху наперад. Толькі ў прыцем-

ках дабраліся да крыніцы. Стары жабрак кінуўся да яе і прашаптаў:

— Гудзе... Значыцца, усё добра, унучак, усё добра. Зараз табе лягчэй стане. Патрывай яшчэ крыху.

Хуценька распаліў вогнішча на высокім грудочку, пад алешынамі, і паджгаў да крынічкі. Намачыў у вадзіцы анучку — і назад. Пачаў прыкладваць да ран, якіх было некалькі на хлапчуковым целе, і той неўзабаве зашаптаў:

— Дзядулька, а сапраўды дапамагае...

Праз нейкі час Мікітка спаў глыбокім сном, толькі раз-пораз уздрыгваў, мабыць, ад перапуду. А стары доўга яшчэ выціраў ягонае цела, а потым — свае раны і толькі пасля гэтага стаў шаптаць над хлопчыкам замову. Заснуў і сам, а калі прахапіўся, то навокал весела шчабяталі птушкі, а Мікітка ўжо не спаў і пахмура глядзеў на старога.

— Ці ж я, унучак, вінаваты, што так здарылася і ты вочка свайго пазбавіўся?

— Я не вінавачу цябе, дзядулька.

— То ідзі памыйся ды прыходзь, есці будзем.

Хвілін праз колькі ад крынічкі данеслася:

— Дзеду! Дзеду!

Старога як хто падкінуў. Ён кінуўся на голас. Баяўся, што зноў нешта здарылася. І што ж вы думаеце? Здарылася. Але на гэты раз не бяда, а радасць. Вока, якое амаль усё выцекла, пасля таго як Мікітка прамыў яго крынічнай вадой, стала бачыць.

З таго часу пра гэтую крынічку пайшла пагудка сярод людзей, што яна лечыць ад усіх хвароб, дапамагае нават безнадзейна пакалечаным ды параненым. Яе абгарадзілі, і пацягнуліся да вадзіцы местачкоўцы і прыйшоўшыя здалёк. Усё так добра і далей ішло б, але аднаго разу здарылася ліха.

Сяляне з той вёскі, дзе некалі сабакі ледзьве не парвалі старога жабрака з Мікіткам, сюды не хадзілі. Яны не верылі, што такое можа быць на самай справе. Болей таго, калі чулі, што нехта вылечыўся, то гаманілі паміж сабою:

— Нічога, даскачацеся вы ў нас са сваёй крыніцай!

І зрабілі-такі назло іншым.

Аднаго разу здалёк дабіралася да той цудадзейнай крыніцы старая бабулька з унучкай. Тая хварэла нейкай цяжкай хваробай, і ніхто ўжо не мог дапамагчы. Добрыя людзі параілі паспрабаваць шчасця тут. Старая ведала

мноства ўсялякіх замоў і шэптаў і прыносіла людзям толькі шчасце і радасць, таму і людзі ёй дапамагалі ў такім горы.

Нарэшце датэпалі старая з малой, бабуля і кажа:

— Давай, унучачка, крыху адпачнём, здарожылася я нешта. Потым напаю цябе вадзічкай, а зараз набяру яе ў гаршчочак, і пасядзім крыху. Так і зрабілі. А на той час адна злая баба з тае вёскі, дзе адны злыдні жылі, прыйшла да крынічкі і давай у ёй брудную бялізну паласкаць. Гэта каб людзям не дапамагала.

Бабулька як убачыла такія здзекі над цудадзейнай вадой, дык ажно закрычала:

— Што ж гэта ты робіш?

А баба адвярнулася і рагоча:

— Вось вашай крыніцы... Вось ёй...

— Каб ты за гэта віцьбай вілася! — узлавалася старая і прашаптала страшны заклён.

Так і здарылася. Крынічка тая прапала, а з яе пачала выцякаць рачулка, ды такая пакручастая, такая непрадказальная, што ўсё жыццё з ёю пакутавалі тыя, хто жыў па яе берагах. Рачулку людзі сталі Віцьбай зваць. Потым на беразе вырас высокі, спачатку драўляны, а там ужо і мураваны, замак-крэпасць. Яго таксама звалі, ад рэчкі, Віцьбескам, а пазней — Віцебскам.

## РУБА

У нас тут гісторыя была, як у вядомай казцы, якую усе, мабыць, чулі.

Жылі-былі дзед з бабай, і была ў іх унучка, Сцепанідка. Раней былі і дачка, і зяць. Але спачатку зяця на нейкай вайне забілі, а потым і дачка нечакана памерла — вось і засталася малая на руках у старых людзей. Гаспадары шкадавалі ўнучку, заступаліся ўсюды, сачылі, каб ніхто яе не пакрыўдзіў, усялякай працы навучалі. І гэта, як потым аказалася, дапамагло ёй выжыць.

Мінула не так ужо і многа часу — захварэла бабуля, якая ва ўнучцы душы не чула. Трапіла пад халодны восеньскі дождж, застудзілася, і ўсё — з ляжанкі болей не ўстала. Гарэла ўся, трызніла. Як ні стараліся ёй дапамагчы, каго толькі да яе ні клікалі — лягчэй не станавілася. Гаспадар зусім рукі апусціў, не ведаў, бедалага, што рабіць.

Але тут надзея з'явілася. Старой нібыта лягчэй стала.

Яна пачала пазнаваць людзей, гаманіла з імі, нават жартаваць спрабавала. Стары лягчэй уздыхнуў, ды дарма ён спадзяваўся. Вечарам пачуў, як жонка ўнучцы казала:

— Шкада, што памру скора, мая ты галубка, ой як шкада... Спадзявалася, што дажыву да твайго вяселля, дачакаюся. Ды не, не атрымліваецца ў мяне... Не сёння-заўтра адыду...

— Не трэба, бабулька, не трэба, міленькая, як жа я застануся? — пярэчыла ёй Сцепанідка.

— Ты жыві, радуйся. Жыццё — яно прыгожае, ласкавае, калі ўсё добра складзецца. А калі не пойдзе, то тут ужо як ні пніся, а не перайначыш...

— Бабулька, родненькая, пажыві яшчэ...

— Каб жа гэта, каханенькая, ад мяне залежала, дык и з табой і не разлучалася б... Усё зверху наканавана, хочаш не хочаш — збірайся... А ты не плач. Ты лепей добра запомні тое, што я табе зараз скажу.

— Навошта мне яшчэ нешта запамінаць?

— Трэба, абавязкова трэба...

— Не будзе цябе, бабулька, і жыццё мне не мілым стане, радасці я ў ім не знайду.

— Знойдзеш. Але запомні наступнае: калі табе вельмі блага ды дрэнна зробіцца і падасца, што ты ўжо сама выйсця не бачыш, то ты да мяне, да маёй памяці звярніся. Я абавязкова прыду на дапамогу, абавязкова падкажу...

— Як гэта? З таго свету ніхто не прыходзіць і не вяртаецца.

— Вяртаюцца. Я да цябе, родненькая, у сне прыду і ўсё падкажу. Толькі ты не забудзься. Калі што — адразу звяртайся. Гэта некалі мяне мая бабуля навучыла.

— І што, ты звярталася?

— А то як жа...

— А яна дапамагала?

— Так, і не адзін раз.

Пагаманілі яны так паміж сабою, а да раніцы гаспадыня і памерла. Яна нібыта прадчувала, што смерць ужо за яе ўчапілася, таму і спяшалася навучыць Сцепанідку, каб тая не засталася ў жыцці сам-насам з цяжкасцямі.

Пахавалі бабулю, а дзед пахадзіў-пахадзіў і задумаў зноў жаніцца. Суседзі яго адгаворвалі, сябры таксама, а ён упёрся, нікога не паслухаў. Узяў ён сабе жанчыну з дачкой, якую тая вельмі шкадавала. Як даведалася, што ў дзеда ўнучка ёсць, то яшчэ да таго, як у чужую хату перабралася, умову паставіла:

— Глядзі, стары, жыць з табой доўга не буду, калі Сцепаніду з хаты не прагоніш. Так і ведай. Даю табе тэрміну адзін месяц, за гэты час каб справіўся з ёю.

Гаспадар пагадзіўся. Можа, падумаў, што жартуе жанчына, ■ можа, што пажыве ў яго, паглядзіць, як усё добра, і перастане да дзяўчынкі чапляцца. Так падумаў і забыўся на той тэрмін.

Як прыйшла тая жанчына ў дзедаву хаціну, то не стала Сцепанідзе ніякага жыцця, толькі і чуваць было:

— Ці ўсю работу парабіла, што я табе давала? Ідзі ў лес ды прыцягні вязанку дроў! Ідзі і не спрачайся, а то прызвычаілася... Нічога не робіш, толькі агрызаешся. Во звалілася ліха лянівае на маю галаву...

Сцепанідка ад такіх праклёнаў і сама гатова была сысці з хаты, толькі каб яе не лаялі, не папракалі, не папікалі тым, што яна нечый хлеб дарма есць.

Аднаго вечара жанчына падступіла да старога і кажа:

— Дзед, заўтра тэрмін канчаецца.

— Які тэрмін?

— Як які? Калі ■ ў тваю хату перабіралася, якую ўмову ставіла? Прыгадаў?

— Прыгадаў...

— Дык вось, каб заўтра і духу яе ў хаце не было!

Прыспела раніца, дзед і кажа ўнучцы:

— Паедзем па дровы...

Тая моўчкі апранулася і выйшла ў двор. Не пыталася, не пярэчыла. Справа ў тым, што ўвечары яна не спала і ўсё чула. Узяла толькі невялічкую сякерку, апранулася ў тое, што мела, ды есці ўхапіла добры кус хлеба. Ведала, што назад ужо ніколі не вернецца.

Лес адразу за іхнімі агародамі пачынаўся. Паехалі. Стары вясёлы такі, усё розныя гісторыі распавядаў, смяяўся, быццам штосьці каштоўнае знайшоў і нарадавацца не мог. Сцепанідка ж, наадварот, маўчала ўвесь час і толькі адзін раз запыталася:

— Дзеду, а табе бабуля не сніцца?

— Не, — бомнуў той і заціх, зразумеў, што ягоныя словы не даходзяць да ўнучкі, бо яна пра нешта зусім іншае думае.

Спыніў стары каня і гаворыць:

— Тут секчы будзем.

— Ты і сячы, а я пайду. Няма ў мяне болей дзеда.

І пайшла. А куды ж ты ў глухім лесе пойдзеш? Хадзіла-

хадзіла, стамілася і звалілася пад елку Спіць, і сніцца ёй, быццам бабуля пільна-пільна на яе глядзіць і кажа: «Унучка, ты ідзі па зарубінах... Па зарубінах кіруй...»

Прахапілася дзяўчына, паглядзела — а на елцы і сапраўды зарубіну відаць, нехта пакінуў. Яна па іх пайшла і выйшла да лесарубаў. Тыя, хлопцы маладыя, пакінулі яе ў сябе. Стала ім Сцепанідка есці варыць, вопратку зашываць. Праз некаторы час адзін з лесарубаў ажаніўся з ёю. А мясціну тую, дзе яны жыць сталі, пачалі называць Заруба. Потым, з цягам часу, засталося толькі Руба.

## БУЕВА

Некалі наша вёска стаяла значна бліжэй да Заходняй Дзвіны, чым цяпер. І не таму, што людзі аднеслі будынкі ці на ўсялякі выпадак вырашылі падстрахавацца і паставілі хаціны воддаль. Не. Проста рэчышча кожнай рэчкі з цягам часу мяняе свой накірунак. Здараецца, на пару сажняў, а бывае — на сотні крокаў, а то і болей. У выніку такога адвольнага спрашчэння Заходняя Дзвіна штогод паволі адсоўвалася ад паселішча. Такая свавольніца рэчка, як наша, па-іншаму і не магла, бо калі гандляры ці проста людзі падарожныя прабіраліся па вадзе, то ім даводзілася такіх жахаў і бядотаў натрывацца, што і дзесятаму заказвалі. Дзе ж вы бачылі, каб на адну вярсту рэчкі — больш за дзесятак віроў, столькі ж падводных камянёў, ды яшчэ адмеліны? А ў нашай менавіта так і ёсць. Апошнім часам мала плаваюць, а раней жа толькі па вадзе і дабіраліся. Колькі ўсялякіх тавараў ды людзей хапнула сваім сквапным ротам Заходняя Дзвіна, цяпер і падлічыць немагчыма. Але старыя людзі памятаюць асобныя жудасныя здарэнні, пераказваюць маладзейшым, таму нават і мы ведаем.

Аднаго разу прабіваўся ці то князь, ці то багаты пан з дружынай. Куды ён хацеў даплыць — ці да суседа з добрым намерам, ці да другога з вайною — невядома. Спрактыкаваныя воі і стырнавыя не вельмі баяліся цяжкіх дарог і нечаканых сутычак з ворагамі. А вось у іншым яны прайгравалі. Калі плылі па рацэ, дзе раней бывалі, то трымаліся спакойна і ўпэўнена, а калі трапілі на новы ўчастак і караблі пачалі то на адмеліны садзіцца, то на камяні трапляць і днішчы прабіваць, знясілелі людзі за адзін дзень да такой ступені, што ледзьве ногі перасоўвалі.

Князь той з усімі разам працаваў, бо ў тыя часы не было такога, што адзін гарбаціцца, а другі толькі загадвае. Усе роўныя ў працы былі і ў бітве.

Моўчкі сядзелі стомленыя людзі на беразе вакол вогнішчаў і толькі стрымана саплі, есці і то не хацелася. Старэйшыя пазіралі на маладзейшых, а тыя, у сваю чаргу, на больш сталых. Нечакана ад караблёў-чаўноў данёсся крык вартавога:

— Вада спадае! Чаўны на беразе аказваюцца!

Воіны пабеглі туды, і сапраўды: вада адступала, і там, дзе яшчэ гадзіну назад яе было па пояс, зараз было меней чым па калена. Усе круціліся, не ведаючы, што рабіць. І тут сівагаловы вой, які, мабыць, усё сваё доўгае жыццё правёў у паходах, прапанаваў:

— Адпіхвайце чаўны на сярэдзіну! Толькі на сярэдзіну, бо да раніцы яны апынуцца на якой-небудзь кручы, і тады давядзецца іх на плячах несці! Хутчэй!

Цяпер людзі ўжо не азіраліся на князя, не чакалі, што той загадае, бо і самі адчулі, як імгненна мялее рэчка. Напружваючыся, сінеючы ад цяжару, неяк усё ж спіхнулі чаўны на сярэдзіну Заходняй Дзвіны, а адпачываць на бераг ужо не палезлі, засталіся на месцах. Праз якую хвіліну навокал стаяў густы храп,ператомленыя воі спалі ўпокат.

На невялічкім цурбалку сядзеў князь, а насупраць яго, абапершыся спінаю на нейкі цюк, — той самы стары вой, які так удала і своечасова скамандаваў.

— Што гэта, Белавус? — звярнуўся да яго валадар. — Колькі па рэчках плаваў, але такога бачыць не даводзілася, каб так хутка вада сыходзіла... Як жа нам далей прабірацца?

— Я і сам, княжа, да канца яшчэ не разабраўся. Раніцай пабачым. Тут і сапраўды справа нейкая дзіўная атрымліваецца. Можа...

— Што можа? — нахіліўся валадар да суразмоўца.

— Падумалася так...

— Гавары, ты ж мяне ведаеш, я за праўду нікога ніколі не пакараў і не пакрыўдзіў.

— Я не баюся, княжа, але сумняваюся...

— І ўсё ж?

— А раптам гэта нас багі перасцерагаюць, каб далей не плылі?..

Князь замаўчаў. Было відаць, што ён спрабуе знайсці і сваё тлумачэнне такой перасцярозе.

— Хто яго ведае, Белавус, — нарэшце выдыхнуў валадар. — Нічога дакладнага сказаць не магу. Можа, загадаць, каб вешчуна разбудзілі? Хай бы ён па сваіх ахвярах-прадказаннях паспрабаваў у будучае заглянуць...

— Ноч зараз, княжа. Хай спяць людзі, а раніцай паспрабуем ва ўсім разабрацца.Ператаміліся воі, нават есці не пажадалі...

— А ты чаго не спіш, Белавус?

— Я, княжа, мала апошнім часам сплю. Стары ўжо. Уваб'ецца што ў галаву, дык да самай раніцы, бывае, вочы не заплюшчу, ляжу ды ўсё думаю-перадумваю. Ёсць што прыгадаць. Хутка давядзецца пакінуць гэты свет, а на тым будзе мне час і магчымасць добра адпачыць, там турбавацца ды спяшацца не давядзецца...

— Чаго гэта ты? — запярэчыў валадар. — Туды яшчэ паспееш. Пабудзь з намі, парадуйся жыццю вольнаму, няўрымсліваму. Туды ўсе паспеем, хто раней, хто пазней, і часта не толькі ад старасці гэта залежыць, сам ведаеш...

— Так, княжа, ведаю. Таму і перадумваю пра ўсё.

— Ну думай, а я крыху пасплю. Стаміўся моцна, але воям не магу паказваць гэта.

— Спі, княжа, а я пасяджу, паразважаю, можа, нешта цікавае прыдумаю...

Валадар як сядзеў, то толькі споўз на цёплыя, нагрэтыя за дзень дошкі і адразу захроп.

Што той ночы, асабліва летам. Не паспееш прылегчы ды на другі бок перавярнуцца, а сонца ўжо над лесам грае, птушкі прачынаюцца, шчабечуць-заліваюцца навокал.

Белавус так і не спаў, сядзеў поруч з вартавымі і думаў пра нешта сваё. Тыя яму не перашкаджалі, ведалі, што гэты чалавек абы-чым галаву забіваць не стане.

Неўзабаве пачалі прасынацца воі, і ўсе спалохана пазіралі па баках, ніхто не забыўся пра тое, як імкліва ўчора ўцякала вада з-пад ног. Але чаўны-караблі спакойна плавалі пасярэдзіне рэчкі. Ніякай небяспекі, здавалася, не было, нішто не пагражала.

— Ну што, Белавус? — падышоў да старога князь. — Прыдумаў што-небудзь ці вешчуна клікаць?

— Княжа, вада нікуды не ўцякала. Нам давялося адчуць і ўбачыць, як яна сваё адвечнае рэчышча раптоўна ўбок пераносіла... І яшчэ, хачу параіць... Не трэба нам, княжа, спяшацца ў паход. Гэта нам можа дорага каштаваць. Рака памяняла рэчышча, і кудою плыць — сказаць нават цяжка, не тое што стырнавым чаўны весці...

— Дык што ты прапануеш?

— Паціху прабірацца наперад, старанна пазнаючы шлях, каб на будучы год ішлі ўжо ўпэўнена.

— І то справа. Але як жа на вадзе сляды пакінуць?

— Будзем пазначаць якімі плаваючымі прадметамі, мацуючы да іх невялічкія грузілы. Яны так і будуць на месцы заставацца.

— Ну і галава! — у захапленні ўсклікнуў князь.

Так і зрабілі. Знакі тыя пазней сталі зваць буямі, ■ потым і вёсачку на беразе назвалі не інакш як Буева.

## БУЯНЫ

Жылі некалі тут, дзе зараз нашая вёска стаіць, стары дзед з бабай. Хітры чалавек быў, мала каму даводзілася яго перахітрыць, але калі такі знаходзіўся, то Нічыпар (так яго звалі) не хаваў задавальнення:

— Не перамруць, значыцца, кемлівыя ды разважлівыя на нашай зямлі. А то, на нашых гледзячы, здаецца, што ўсё навокал дрэнна. Не сумуй, баба, дажывём і мы да смерці па-людску. Хаціну маем, гаспадарку такую-сякую таксама, а дзе і дзеці дапамогуць, трое ж іх у нас... Няўжо сумленне не загаворыць у іхніх душах?..

— Да таго часу ногі ў нас апруцянеюць ды ахаладаюць. Трэба ж было такому здарыцца... — пачынала плакаць жонка Нічыпара.

— Што ўжо зробіш? Самі вінаватыя, што такіх сквапных выгадавалі. Трэба было ў дзяцінстве глядзець, ■ зараз, калі яны бароды паадпускалі ды самі бацькамі сталі, позна нешта перайначваць.

— Каб жа ведаў... Усё шкадавалі, шкадавалі і даймеліся — на наш падворак і нагой не ступаюць, толькі і чакаюць нашай смерці, каб апошняе парасхапаць з хаціны, а саму будыніну падзяліць па бярвенцу. Вось дзе сапраўднае гора...

— Нічога, неяк жа і мы жыць будзем...

Так і жылі старыя ў сваёй хацінцы, а не разам з сынамі. Параздавалі ім усю зямлю ды сенакос, які мелі, а самі асобна засталіся, нібы прадбачылі, што такое ліха можа здарыцца. Добра, калі ні да каго кланяцца не трэба ісці, як захочаш, так сам і зробіш. Ды радасць старых была нядоўгай. Аднае ночы прахапіўся Нічыпар, а ў хаце дыму

гэтулькі, што не прадыхнуць, яшчэ хвілін колькі — і гамон бы яму разам з бабай быў. Ці ў дыме задыхнуліся б, ці згарэлі б разам з хацінай. Разбудзіў гаспадыню, і выскачылі яны ў двор. Крычаць ці ратаваць што-небудзь было позна: страха, страляючы ва ўсе бакі вясёлымі агеньчыкамі, абвалілася.

Заплакала тут бабуля:

— Ой, Божачка, што ж нам цяпер рабіць, дзе жыць? Няма болей хаціны, а мы ж не маладыя...

— Што будзе, тое і будзе, жонка. Пайшлі да дзяцей кланяцца. Пажывём колькі часу, а там бачна будзе.

Сабраліся і пайшлі да старэйшага сына. Нядоўга той трымаў у сябе бацьку з матуляй. Недзе праз тыдзень ён, хаваючы вочы, прамовіў:

— Тата, мама, самі бачыце — сям'я ў мяне вялікая, дзяцей многа, павярнуцца няма дзе. Таму ў сярэдняга сына вам будзе лепей, ідзіце да яго...

Моўчкі праглынуў Нічыпар знявагу, адно толькі і прамовіў:

— Дзякуй за навуку, сынку...

Пабылі ў сярэдняга пару тыдняў, і той кажа:

— Можа, вы пайшлі б жыць да малодшага сына...

— Чаму, сынок? — запыталася маці.

— Ды самі ж бачыце, што на стол вам у мяне няма чаго паставіць. Хацеў бы лепей карміць, дык і самім жа не хапае...

— Гэтая бяда — не бяда, сынку. Што вам — тое і нам, не трэба ніякіх прысмакаў, — не адставала матуля.

Сын маўчаў, а потым узяўся за сваё:

— Пажывіце ў яго, пасля зноў да мяне прыйдзеце...

Стары Нічыпар толькі і прамовіў у адказ:

— Дзякуй і табе, сынку, за навуку. Не падай, маці, перад ім на каленцы, неяк пражывём...

Сталі жыць у меншага. Той, можа, і патрываў бы які месяц, але жонка ў яго — што тая маланка: там крычыць, там лаецца, там сварыцца счэпіцца. Спачатку не гаварыла са старымі, а запатрабавала ад мужа:

— Няхай ідуць жыць у нашую адрыну, там зараз цёпла.

Пайшлі маці з бацькам жыць у адрыну, а дзён праз колькі і там ёй надакучылі. Ухапіла яна мужа за каўнер і зашыпела:

— Колькі я гэтых дармаедаў карміць буду? Ці ж у мяне што лішняе ёсць? Твае браты ад іх адмовіліся, а ты добранькім хочаш заставацца і наша дабро на іх пус-

каць... Няхай плацяць за ўсё, не тое за вароты выпраўлю...

Як пачулі старыя ад сына пра плату, то маці загаласіла, а Нічыпар губы прыкусіў, каб таксама не завыць. Сабраліся і пайшлі з двара. А куды ж ісці? Дзеці родныя выгналі, да людзей сорамна паказацца. Прыгадаў дзед, што недалёка каваль Мікола жыве, да яго і павёў старую.

Гаспадар уважліва выслухаў нечаканых гасцей і прамовіў:

— Нічога, суседзе, неяк жа трэба ратавацца... З месяц пажывіце ў мяне, а потым нешта прыдумаем. У мяне сям'я вялікая, ды месца не шкада. Ежа, праўда, не надта, але што нам — тое і вам...

Заплакаў Нічыпар ад крыўды, што чужы чалавек гэтак хораша разважае, а родныя дзеці за парог прагналі. Гаспадар яго суцешыў. Селі, усе разам павячэралі, а потым узяліся малым казкі ды павер'і ўсялякія пераказваць. Тут Нічыпар усіх далёка ззаду пакінуў, бо ведаў ён казак і легендаў вялікае мноства.

Так і жыць сталі. Бабуля гаспадыні па гаспадарцы дапамагала, а Нічыпар з кавалём у кузні быў.

Аднаго разу гаспадар пачаў загадкава ўсміхацца.

— Што такое, чалавеча? — спытаўся Нічыпар.

— Здаецца мне, што я прыдумаў, як вам уратавацца...

— Як?

— Зараз выкую вам прыгожы вялізны жбан, накладзём туды ўсялякага жалезнага ламачча і запаяем, а сынам вашым скажу, што вы жбан з золатам знайшлі. Гэтыя скнары за золата ўсё для вас зробяць.

— Але ж і галава ў цябе, Міколка...

— Толькі вы нікому нашу таямніцу не выдавайце.

— Магіла...

Назаўтра па вёсцы маланкай пранеслася чутка — стары Нічыпар знайшоў жбан з золатам, ды такі вялікі, такі цяжкі, што не ўзняць. Яшчэ і полудзень не прыспеў, а старэйшы сын ужо прыджгаў у Міколаву хату:

— Пайшлі, тата. Кліч матулю, ды да нас пойдзем жыць, а то вы як чужыя нам сталі — не ідзяце, не паказваецеся...

— Не, сынку, мне і тут добра.

Тут сярэдні падляцеў:

— Тата, збірайся. Бяры матулю — і да нас.

— Не, мне спяшацца няма куды...

Неўзабаве і малодшы прыджгаў:

— Пайшлі да нас, тата. Жонка наказала абодвух прывесці.

Тады Нічыпар і прамовіў, на гаспадара хітра пазіраючы:

— Не хочацца мне, сыночкі, болей вам цяжкім мехам на спіне вісець. Пастаўце вы мне новую хату на старым месцы.

А бабуля не ўтрывалася і свой голас падала:

— І хляўчук, і плот каб быў, і адрына новая...

— Зробіце — я вам гэты жбан і аддам, — сказаў дзед, дастаючы яго з-пад стала, прыгожы і цяжкі.

Сыны нібы на крылах паляцелі з чужой хаты. Як узяліся працаваць, дык за які месяц паставілі ўсё, ды яшчэ і сцяжынкі жоўтым пясочкам пасыпалі. Прыбеглі назад і гамоняць:

— Ну, бацька, мы тваю ўмову выканалі, аддавай нам золата.

— Аддам, сыночкі, толькі працу ж паглядзець трэба. Пайшлі, старая, і ты, Міколка, збірайся...

Прыйшлі да падворка, а гаспадыня ажно ў рукі пляснула:

— Ну, цяпер мы зажывём! Аддавай, дзед, грошы, як абяцаў.

Нічыпар не паспеў перадаць жбан сынам, а тыя ўжо за чубы ўхапіліся і давай лупцаваць адзін аднаго. Крычаць, б'юцца па-сапраўднаму. Людзей назбіралася, глядзяць. Сведкамі гэтай бойкі сталі сяляне з чужой вёскі.

— Што гэта ў вас робіцца? — пытаюцца.

— Ды буяны паміж сабою разбіраюцца, — адказваюць мясцовыя жыхары.

Так і павялося. Як збіраліся людзі ехаць міма нашай вёскі, дык казалі:

— Глядзі там, каб не нарвацца на буяноў...

Так і стала наша вёска Буянамі.

## КАЗАКІ

Назва нашай вёскі пайшла не ад тых казакоў, да якіх мы сёння з вамі прызвычаіліся, хоць нельга адмаўляць і іх удзелу ў падзеях.

Некалі, калі сюдою войскі напалеонаўцаў з Расіі ўцякалі, у тутэйшых лясах жыло даволі многа беглых сялян ды салдат — беларусаў, украінцаў, рускіх, палякаў. Жылі мірна, бо яднала іх адно — барацьба супраць... багатых.

Не вельмі глядзелі, чыя там карэта стаяла ці ехала, галоўнае, каб скарб багаты быў. Хто не аказваў супраціўлення — адпускалі на ўсе чатыры бакі, калі адбіваліся, то вынішчалі. З жанчынамі і дзецьмі не ваявалі, лічылі, што гэта закранае мужчынскую годнасць і такі грэх не даруецца ніколі.

Жылі яны не на пустцы, не там, дзе сёння вёска стаіць, а ў лесе, які ў тыя далёкія часы валадарыў у гэтых мясцінах. Такая ўжо пушча стаяла — непралазная, першастваральная, што нават сярод мясцовых жыхароў мала хто ведаў у ёй дарогі-сцяжынкі на пару вёрстаў у глыбіню.

Вось тыя ліхія людзі знайшлі сабе прыдатны астравок і на ім усталявалі нешта падобнае на лагер. На першым часе жылі ціха, бо баяліся, каб іх, уцекачоў, не кінуліся шукаць. А калі да іх далучыўся мясцовы асілак Сымон, то асмялелі. Здавалася б, па натуры ён павінен быў быць маўклівым, а гэты, наадварот, сыпаў словамі, нібы гарохам, і вельмі добры быў, ні разу нікому нічога благога не зрабіў. Вось ён і стаў у лясных разбойнікаў за атамана. Праўда, разбойнікамі іх далёка не ўсе называлі, бо яны бедных ды жабракоў не чапалі, толькі за багатымі палявалі, якія, вядома, дабро ды багацце не ўласнымі рукамі прыдбалі, іншыя на іх гарбаціліся.

Дазоры ў Сымона былі ўсюды, яны і трымалі атамана ў курсе спраў. Толькі паказваўся які абоз ці карэта, а людзі ўжо ведалі. Многа дапамагала і тое, што Сымон быў з гэтых мясцін і выдатна ведаў, дзе зрабіць засаду, а кудою, калі прыцісннуць, уцякаць, каб раней часу не трапіць пад кулю ці на пакуты да ворагаў. Удзень пільна сачылі за наваколлем лясныя жыхары, а ноччу ці куды да багатага пана ў «госці» падаваліся, ці адсыпаліся і сілы набіраліся, каб якую больш важную справу здзейсніць.

Мясцовыя жыхары калі прачулі, што ў іхніх лясах разбойнікі завяліся і багатым спакою не даюць, то пачалі і самі туды бегчы. З цягам часу Сымонаў атрад налічваў ужо болей за сотню чалавек. Ды якія тут людзі былі! І агонь прайшлі, і ваду сцюдзёную ды гарачую, і смерці не адзін раз у твар глядзелі. З такімі хлопцамі можна было кідацца на непрыяцеля, які колькасна ў некалькі разоў пераўзыходзіў.

Добра гулялі разбойнікі. Слава пра іх кацілася на сотні вёрстаў навокал. Нават французы, якія пастаянна тут ездзілі падчас акупацыі, баяліся свае абозы без моцнага прыкрыцця наперад высылаць. Але і гэта не заўсёды да-

памагала, бо старанна задуманыя і спланаваныя напады заставалі чужынцаў знянацку, толькі і заставалася, што каму ўцякаць, а каму ўздымаць рукі і спадзявацца на літасць нападаючых.

Сымонавы хлопцы ўзбагаціліся. Грошай ды каштоўнасцей усялякіх мелі мноства. Сам атаман таксама не з бедных ужо быў, але тым не меней пастаянна прыструньваў хаўруснікаў:

— Памятайце, што не грошы самае галоўнае. Галоўнае, каб паны нас да смерці баяліся, каб унукам сваім заказалі бедных чапаць. Лішняй крыві не трэба ліць. Навошта яна нам? З-за пары залатовак чалавека жыцця пазбаўляць бесчалавечна. Каму такія парадкі не падабаюцца — я не трымаю і парушаць іх проста так не дазволю.

Ягоныя хлопцы нічога не мелі супраць, [redacted] таму і панавалі ў лагеры спакой ды весялосць. Чужынцаў не баяліся, бо тыя самі лічылі за лепшае гэтыя дарогі бокам аб'язджаць.

Аднаго разу прыляцеў у лагер вершнік, якраз у той час, калі казакі палуднаваць збіраліся, і, не сконьваючыся, закрычаў:

— Абоз! Абоз паказаўся! Сотні дзве, [redacted] можа, і тры фургонаў будзе! Многа багата ўпрыгожаных экіпажаў! Нашы там засталіся, [redacted] да вас прыляцеў. Хутчэй, бо праедуць!

— Не праедуць, — спакойна запэўніў Сымон, які пачуў голас і выйшаў. — А ты з каня злезь. Крычыш так, што ажно мяне напалохаў.

Навокал зарагаталі. Прызвычаіліся ўжо, што нават перад тварам смерці Сымон жартуе.

— Няхай едуць чужынцы, а разведчыкі нашы няхай сочаць. Мы іх ля ручая перастрэнем. Там і месца зручнае: вузкае, надта не разгонішся і не агледзешся, таму нам на руку. Збірайцеся, казакі, узбройвайцеся, відаць, гарачая справа будзе.

Праз некалькі хвілін лагер апусцеў. Ежа так і засталася некранутай, бо не да яе зараз было. Людзі спешна прабіраліся да месца засады. Казакі гэтыя не ваявалі на конях, [redacted] аддавалі перавагу пешаму бою. Спадзяваліся на свае сілы, верылі ў тое, што зямліца-матухна ніколі не адкажа ім у падтрымцы. Яны выраслі на зямлі і не жадалі ад яе адрывацца. А ў лесе ці зловіш ты чалавека, які зжыўся з ім?

Недзе гадзіну спяшаліся казакі да таго месца, якое прызначыў Сымон, і паспелі. Замаскіраваліся старанна і сталі чакаць. Некаторыя ўжо і сумнявацца пачалі, нехта нават прашаптаў:

— А можа, яны іншым шляхам паехалі?

— Ага, — з'едліва прашаптаў у адказ Сымон, — паехалі. У карэтах... Па вадзе...

Бліжэйшыя хіхікнулі і змоўклі — пачуўся скрып колаў.

— Ну вось, цяпер без маёй каманды не пачынайце, бо ўсё сапсуяце, — загадаў атаман.

Калі абоз нібы перапалавініўся — адна палавіна паўзла наверх ад ручая, а другая спускалася да яго, прагучаў голас:

— За справу, казакі!

Што тут за бойка ўсчалася! Стрэлы, стогны, крыкі, праклёны. Чужынцы, хоць і болей іх было, не марудзілі — кідалі ўсё і ўцякалі. За імі не гналіся, няхай сабе ўцякаюць, абы багацце пакінулі.

На гэты раз больш за дзесяць чалавек загінула і з боку нападаючых. Пахаваў іх Сымон з паплечнікамі на высокім узгорку, недалёка ад таго самага ручая, дзе была засада. Месца тое так і сталі зваць у народзе — Казакі.

## КРЫНКІ

Што тычыцца назвы нашай вёскі, то тут надта даўняя гісторыя згадваецца. Яе некалі мой прадзед распавядаў.

На курганку, які зараз амаль пасярэдзіне вёскі знаходзіцца, некалі даўным-даўно выбілася з-пад зямлі крынічка. Спачатку яна маленькая была, ледзьве прыкметная, але потым на яе пастухі натрапілі. А тыя, калі знойдуць дзе крынічку, то абавязкова да ладу давядуць. І ў гэтым выпадку стары дзед, у якога амаль паўвёскі ў падпасках за ўвесь яго пастуховы век бегала, прамовіў, да малых звяртаючыся:

— Вось што, дзеткі. Трэба гэтую крынічку раскапаць і пашырыць ёй месца для вады. Асцярожненька толькі ўсё рабіце, каб нічога не пашкодзілі, каб ненарокам не туды кіем не паранулі, бо яна тады пакрыўдзіцца можа.

— Дзеду, а хіба яна жывая, што стане крыўдзіцца? — не зразумеў самы малы і дапытлівы.

— А як жа, унучак. Чуеш, яна паціху пра нешта гурко-

ча? Гэта яна размаўляе. Бяда ў тым, што мы не ведаем той таямнічай гаворкі, а так пра ўсё адразу даведаліся б: і адкуль цячэ, і што там робіцца...

— Дзеду, а як ты думаеш, адкуль яна выцякае?

Стары і задумаўся.

Хлапчукі раскопвалі крынічку, малы падпасак цярпліва чакаў, калі дзед ачнецца ад думак і адкажа на пытанне. Пастух усё маўчаў. Потым ускінуў галаву і, задуменна гледзячы на малога, прамовіў:

— Мабыць, унучак, яна выцякае недзе прама з грудзей маці-зямлі... Няйначай як адтуль, бо паглядзі сам, якая вада чысцюткая ды халодная. Толькі ў глыбокай нетры вада такой можа быць, бо калі б дзе з паверхні пачатак свой вяла, то брудам запаўзла б, замуцілася б, а так... Зразумеў?

— Зразумеў, — хіснуў ґалавою малы, але працягваў думаць пра нешта патаемна ці, можа, уяўляў, як гэта ўсё адбываецца з вадою і як яна выбіваецца з-пад зямлі на паверхню.

Тым часам хлопцы закончылі працу і разагнуліся.

— Дзедка, зрабілі. Усё, як ты і вучыў.

— А вось зараз праверым.

Пастух схіліўся над вадою і пачаў углядацца.

— Тое, што яна зараз мутная, — нічога, гэта вы проста пяском вадзіцу прымуцілі. Праз паўгадзіны стане чысцюткай. Толькі каб нідзе яе выток не пашкодзілі...

Дзеці маўчалі, не перашкаджалі старому. Нарэшце той разагнуўся і выдыхнуў:

— Усё ў парадку, малайцы.

Малыя заскакалі, засмяяліся.

— Рана радавацца, родненькія. Мы ж яшчэ не ўсё зрабілі.

— А што яшчэ трэба?

— Заўтра возьмем з дому пілу, сякеру, іншае прычындалле і зруб над крынічкай зробім.

— Навошта? — зноў не вытрымаў самы меншы.

— Эйш, званочак, які дапытлівы...

Дзеці зарагаталі.

— Зробім зруб, а спляту з бяросты карэц, павесім яго вунь на гэтай гольцы, і любы чалавек пры выпадку зможа напіцца вады. Тая, што будзе праз край пераліваецца, пацячэ ў адну мясціну, там мы пазней азярцо зробім, каб нашыя кароўкі ды авечкі таксама напіцца маглі. Як бачыце, многа яшчэ працы наперадзе.

Малых нельга было запалохаць працай, яны ўжо загарэліся жаданнем хутчэй глянуць, як каровы ды авечкі будуць піць з азярца, а людзі будуць дзякаваць тым, хто гэтак даўмеўся зрабіць.

Дні чатыры, а то і болей працавалі ў вольны час пастух з падпаскамі, але зрабілі так трывала і надзейна, што ніхто і не здагадаўся б, што тут у асноўным гаспадарылі дзеці.

З таго часу нямала гадоў мінула. Тыя дзеці ўжо дарослымі сталі, а што крынічка валодала цудадзейнымі магчымасцямі, так і не ведалі. Здарылася і адкрылася ўсё гэта зусім выпадкова.

У аднаго вяскоўца быў стары конь, ужо ледзьве ногі перастаўляў. Стаў ён думаць, што рабіць з жывёлінай. Такога каня ніхто не купіць, таму вырашыў прагнаць яго з двара. Ухапіў кол і перацягнуў каня па спіне — той з апошніх сіл пабег і... напароўся галавою на сук ды выбіў вока.

Пастушкі пачалі заўважаць ля сваіх чародак нейкага каня. Не адганялі яго, а, наадварот, шкадавалі, што могуць ваўкі разарваць. Так конь побач з каровамі і хадзіў, пафырквраў. Аднаго разу ён захацеў вады напіцца і падаўся да азярца, а там праслізнуўся і ўпаў, ды так атрымалася, што галавою ў ваду трапіў. І што, вы думаеце, пасля гэтага здарылася? Правільна, ён стаў відушчым і, болей таго, займеў сілы і спрыту гэтулькі, што далёка не кожны конь у лепшых гадах меў.

Так той выпадак паказаў цудадзейную ўласцівасць мясцовай крынічкі, і пацягнуліся да вады людзі. Даволі часта крынічная вадзіца вылечвала ад усялякіх хвароб. Так і сталі яе Цудадзейнай зваць.

Хто яго ведае, як бы далей ішло, але даведаўся вясковы бацюшка, што крыніца карыстаецца вялікай папулярнасцю, і захацеў на гэтым барыш мець.

Паклікаў ён нейк сялян, якія да царквы хадзілі, і загадаў:

— Зараз разыдзіцеся па хатах, вазьміце сякеры, пілы ды зноў сюды збірайцеся. Пойдзем адну справу рабіць, каб да вечара скончыць.

Людзі хуценька пабеглі па хатах і гэтак жа хутка вярнуліся. Акрамя загаду бацюшкі ім і самім карцела даведацца, куды гэта ён іх павядзе.

А ён прывёў іх да крыніцы і загадаў будаваць над ёю капліцу. Стараліся вяскоўцы, не адпачывалі, не разгіналіся, а працу зрабілі. Прыгожая такая, беленькая каплічка атрымалася, нібы яе хто фарбамі намаляваў. Бацюшка ім падзякаваў і па хатах адпусціў, паабяцаўшы ўсе наступныя малебны толькі тут служыць.

Сабраліся людзі ў нядзелю да капліцы, [redacted] яна на вялікі замок зачынена — да вады не дабрацца, хворым і тым падаць яе нельга.

— Як жа так, бацюшка? — пытаюцца.

А той, не доўга думаючы, адказвае:

— Цяпер за ваду мне плаціць будзеце.

Застагналі людзі ад абурэння. Гэта ж трэба такое выдумаць! Пастаялі і падаліся дамоў. А раніцай навакопле маланкай абегла навіна — крыніца перастала біць з зямлі. Праз пару дзён яшчэ адна навіна — у многіх іншых месцах сталі біць крыніцы, крынкі па-нашаму. Таму і вёску, якая пазней на тым пагорку з крынічкамі ўзнікла, назвалі таксама Крынкі.



# БЕШАНКОВІЧЫ

Жыў тут у даўнія часы адзін дзед па прозвішчы Бешанковіч. Казалі, што атрымаў ён яго за тое, што ў маладосці такія штучкі вытвараў, такое вырабляў, што нікому ад яго спакою не было. Адным словам, любіў пагарэзнічаць. Характар у яго быў няшкодны. Ні з каго не здзекаваўся, а вось пасмяяцца — іншая справа, але пасмяяцца так, каб потым нехта слязьмі ды крывёй не адплачваў. Звалі яго Змітрыкам. Бацька ж і дзед ягоныя, наадварот, былі злымі людзьмі. Пра іх нават казалі, што яны чараўнікамі чорнымі перакідваліся, толькі пра сябе дбалі.

Так і рос Змітрык Бешанковіч — гарэзлівы, прыгожы, дужы. Да бацькоўскіх парад адносна пераймання злых чараў ці шэптаў і чуць не жадаў:

— Мне людзі дабро робяць, чаму я павінен ім злом адплачваць? Няўжо так карціць пабачыць ды пачуць, як бедныя ў плачы заходзяцца?

Старэйшыя злаваліся:

— Вось вырасце даўбешка! Усё наша багацце, потам ды крывёю нажытае, умомант з рук спусціць! Толькі, мабыць, і чакае, каб да яго ўсё перайшло!

У адказ Змітрык весела смяяўся, чым выклікаў яшчэ большае абурэнне з боку родзічаў:

— Не трэба мне ні вашага багацця, ні вашых грошай! Дайце які кавалачак зямлі, а хаціну я сам пабудую, да вас за дапамогай не звярнуся. Мне чужыя дапамогуць, бо ▪ім нічога благога не рабіў. А слухаць вас, як людзям зло рабіць, я не буду. Што іншае — калі ласка, толькі не гэта.

Так у іх цягнулася не дзень, не месяц. Нарэшце старэйшыя браты вырашылі:

— Калі ты ў нас такі сумленны ды чысты, то выбірайся! Дай яму, тата, зямлі, хай жыве, як хоча. Але ведай, што мы табе не дапаможам, як бы цяжка ні даводзілася, хто б цябе ні крыўдзіў. Гэта наша апошняе слова.

— Я і так ведаў, маглі б і не гаварыць, — ціха прамовіў Змітрык. — А за кавалак зямлі дзякуй, там і жыць буду.

Сказаў і адразу пайшоў прэч з хаціны ў тую мясціну, якую бацька аддаў. Там і пераначаваў пад чыстым небам першую ночку. З раніцы пачаў меркаваць, як будавацца, бо нават звычайнай сякеры пад рукой няма, нічога ж родныя не далі. Засумаваў хлопец. А бацька з сынамі старэйшымі быццам бы выпадкова ўвесь час побач круцяцца, пасміхваюцца, гледзячы на тое, як Змітрык перажывае, ды ўголас усялякія жартачкі адпускаюць.

Сядзеў, сядзеў хлапчына, а потым устаў і пакіраваў да бліжэйшай вёскі. Родныя недаўменна пераглянуліся, бацька ўсміхнуўся і сказаў:

— Пайшоў да некага ў парабкі наймацца...

Астатнія падтрымалі гэты жарт дружным смехам.

Але на самай справе аказалася, што зусім не для таго пайшоў Змітрык у вёску.

Зайшоў ён у паселішча, падышоў да мужчын і хлапцоў, сваіх добрых знаёмых, якія сядзелі на вуліцы і абмяркоўвалі нейкія навіны, і папрасіўся:

— Браточкі, родненькія, не пакіньце ў бядзе, дапамажыце...

— Што, Змітрык, здарылася?

Расказаў Бешанковіч пра свае справы, з-за чаго ён з роднымі пасварыўся. Сяляне толькі галовамі пакруцілі:

— Ну і справы! Гэта ж трэба са сваім сынам ды братам гэтак абысціся! Няўжо ім багацця мала?

А старэйшыя тут жа і запэўнілі:

— Не перажывай, чалавеча. Зараз сабяром усё, што трэба, для будоўлі і пойдзем з табой. Не табе першаму дапамагаем.

— Я ўсё жыццё вам, людцы, дзякаваць буду і дапамагаць, толькі выручыце мяне ў гэты цяжкі момант...

— Мы, хлопча, добра памятаем, як ты нам дапамагаў, хоць родныя і глядзелі на цябе скрыва за гэта. Таму і ідзём, як адзін, бо паважаем цябе.

Неўзабаве вялікі гурт людзей рушыў да той мясціны, дзе Змітрык збіраўся будавацца. Бацька з сынамі, як заўважылі — ажно раты паразяўлялі. Нарэшце нехта з іх выдыхнуў:

— Ты пабач, яшчэ і дня не прайшло, а ён ужо цэлы гурт вядзе купляць бацькоўскую зямлю. Вось табе і маеш...

— А я вам што, сыночкі, гаварыў? Хіба ж я хлусіў, калі сцвярджаў, што толькі і чакае зручнага выпадку, каб усё да ўласных рук прыбраць. Цяпер глядзіце, як спадчыннае ў чужыя рукі ўцячэ...

Толькі дарма яны так хваляваліся і лілі бруд на Змітрыка. Прыйшлі людзі, размералі, пахадзілі туды-сюды, пра нешта паспрачаліся, а потым паехалі фурманкі да лесу, астатнія ж пачалі капаць яміны. Бацька з сынамі ніяк не маглі дацяміць, для чаго. Але недзе пасля паўдня, калі вярнуліся падводы, да іх дайшло.

— Бач ты, усіх нас перахітрыў. Будавацца ўздумаў... Дзе ж ён гэтулькі грошай набярэцца, каб усяму гурту заплаціць? Тут жа дзесяткі два людзей.

— Бацька, а можа, ён краў дзе паціху, а мы і не заўважалі?

— Хто яго ведае... — злосна буркнуў той, не зводзячы вачэй з сялян, якія ўжо весела цюкалі сякерамі, завіхаліся вакол здаравенных бёрнаў.

— Так і пабудуецца нам назло.

— Спалім, каб надта не радаваўся.

— А калі зловіць? З ягонай сілай — на тры часткі пераломіць. Гэта ж не жартачкі...

— Няма чаго языкамі мянташыць! Пайшлі дамоў, а то наша справа стаіць, а вы тут вочы павылуплівалі! — нечакана ўзвыў бацька. Відаць, заела яго, што Змітрык, насуперак ягоным прадказанням, знайшоў зусім іншае выйсце.

А самы малады з Бешанковічаў не сумаваў. Цяпер яму было чым заняцца, было дзе прыкласці рукі. Натаміўшыся за дзень, вечарам валіўся нібы сноп.

Між тым справа рухалася. Вяскоўцы добра ведалі нораў старэйшых Бешанковічаў, разумелі, што тыя проста так не супакояцца, абавязкова будуць малодшаму пом-

сціць. Таму вырашылі пільнаваць будыніну, каб нечакана чырвонага пеўня не падкінулі. Бывала, Змітрык спіць соладка, ■ чалавек колькі сядзяць па кутках будынка і пільна сочаць за наваколлем. І што ж вы думаеце? Як толькі хату амаль скончылі, ужо і страхý зрабілі, то і госці непажаданыя з'явіліся.

Вечар быў цёмны, хоць вока выкалі. Вецер такі ўсхадзіўся, што дрэвы здаравенныя да самае зямлі гнуў, нібы тонкія чароціны. Потым і хмары чорныя, груваcткія паказаліся, маланкі пачалі неба палавініць. Тут старэйшы і больш вопытны з добраахвотных вартаўнікоў, звяртаючыся да сябрукоў, прамовіў:

— Ну, хлопцы, сёння мы іх дачакаемся.

— Чаму ты так думаеш? — не паверыў нехта.

— У такое надвор'е толькі чорныя душы і ходзяць, іншым крыўду носяць.

— Ага, пусцяць з полымем гэтулькі працы, ■ потым, маўляў, са слязьмі на вачах будуць даводзіць, што маланка вінавата...

— Цішэй, хлопцы, слухайце лепей ды ўглядайцеся... Я цвёрда перакананы, што зараз з'явяцца.

Прыціхлі вартаўнікі, ■ гром страляе, маланкі бліскочуць — ажно жудасна робіцца. І раптам адзін з сялян зашаптаў:

— Чаўкае...

— Што чаўкае? — не зразумелі астатнія.

— Нехта ідзе...

— Мо падалося?

— Ды не, хіба не чуеце?

Цяпер і астатнія выразна пачулі зусім блізка крокі. Праз пару імгненняў выразна вырысаваліся і тры цені, якраз насупраць вокнаў.

— Бацька і два мае браты, — шапнуў Змітрык. — Прыйшлі павіншаваць з заканчэннем будаўніцтва.

— Пасля іхняга віншавання адны галавешкі засталіся б.

— Нічога, пасля нашага ім таксама соладка не падасца.

— Цішэй, хлопцы, і не спяшайцеся. Трэба ў такі момант выскачыць, каб яны ўжо ні ўцякаць, ні супраціўляцца не ўздумалі.

А тыя да сухой сцяны прыціснуліся і, не баючыся, бо не здагадваліся, што будыніну вартуюць, загаманілі:

— Зараз мы братку свайго крыху падсушым...

— Ага, каб не надта ганарыўся ды нос перад намі не задзіраў...

— Каб не лічыў, што мы дурнейшыя...

Схіліліся ўсе і давай вогнівам агеньчык здабываць. У гэты момант з дзвярэй ды праз вокны выскачылі сяляне. Нядобразычліўцы і піскнуць не паспелі, як іх у адзін момант скруцілі і пачалі лупіць у плечы ды ў жываты, асабліва не разбіраючы і не шкадуючы. Лупяць і прымаўляюць:

— Як жа вы гэта, гадаўё чорнае, роднага чалавека гэтак пакрыўдзіць задумалі?! Вы яму ў сваёй сям'і жыць не давалі і тут не адступаецеся?! То мы вам дарогу замовім! Не толькі да яго, але ўвогуле ні да каго з вяскоўцаў прыставаць у далейшым не будзеце!

Зладзюгі адчулі, што для іх справа можа зусім блага скончыцца, і пачалі прасіцца:

— Родненькія, міленькія, адпусціце...

— Братачка, родненькі, заступіся, гэта ж нячысцік паблытаў думкі...

— Сыночак, пабойся Бога, адпусці жывымі. Я ж табе жыццё даваў...

— Жыццё даваў? А колькі вы з мяне здзекаваліся і кпіны ладзілі? Каб вас не злавілі, вы зараз скакалі б ад радасці, што працу нашу дымам пусцілі. Не, атрымлівайце роўна столькі, колькі трэба. Каб на будучае добры знак застаўся.

Самы старэйшы і мудрэйшы з сялян не лез у размову. Калі астатнія скончылі гаманіць, то і ён слова ўставіў:

— Хлопчыкі, давайце да мяне іх, па адным. Я іх на мой зэдлік пасаджу, няхай адпачнуць — вунь як узапрэлі...

— А што, хлопцы, давайце па адным да дзеда, — узрадаваўся нехта слушнай прапанове.

Першым з усяго маху гопнулі на зэдлік бацьку. Раздаўся такі магутны крык, быццам бы адразу шасцярых здаравенных жарабцоў лягчалі.

— Давайце другога, — закамандаваў дзед.

Другі намнога перакрычаў бацьку, а калі адпусцілі, то ён так прыпусціў, так папёр, што ледзьве не прабіў з адчаю і болю галавою сцяну.

— Цяпер апошняга. Дзе ён там?..

Доўга ў цемры было чуваць, як трашчыць кустоўе ды хлюпоча пад нагамі гразь — гэта бацька з сынамі, не выбіраючы дарогі, уцякалі ад гэтага страшнага месца.

Тыя, што засталіся ў хаціне, супакоіліся, запалілі агеньчык, і тут толькі Змітрык запытаўся:

— Дзядулька, а што ў цябе там такое страшнае на зэдліку было, што мае родныя гэтак крычалі?

— Так, цікава ж даведацца, — настойвалі і астатнія.

— Ай, хлопцы, вам скажы, дык вы да раніцы рагатаць будзеце...

— Скажы, дзеду.

— Ды вожык, каханенькія вы мае...

Стары хацеў яшчэ нешта дадаць, але выбухнуў такі рогат, што раскаты грому ў параўнанні з ім падаліся лёгенькімі пошчакамі. Мужчыны хапаліся за жываты, валіліся на падлогу і паўтаралі:

— Дык там быў, аказваецца, вожык... Просты вожык...

— Так, просты вожык. Я яго яшчэ за́відна злавіў, хацеў таму злодзею ў штаны ўкінуць, каб і дзесятаму замовіў... Потым ужо пра зэдлік прыдумаў...

Вяскоўцы ніяк не маглі разысціся. Усё гаманілі, смяяліся, а калі дождж сціх і ўсе пачалі збірацца дамоў, то нехта прамовіў:

— Пайшлі, Змітрык, з намі. За хату не хвалюйся, болей сюды ніхто не прыйдзе.

— Ага, твае родныя ад вожыка лечацца... Іголкі вымаюць...

Толькі гаспадар, шчыра падзякаваўшы сялянам за ўсё, сказаў:

— У мяне, сябры, цяпер свая хата ёсць, пад адкрытым небам спаць не буду.

Так стаў малодшы Бешанковіч жыць у сваёй хаціне. За год-другі такі падворак адляскаў, гэтулькі жывёлы развёў, што ўсё наваколле зайздросціла, а бацька з братамі — сама болей. Яны ажно счарнелі са злосці, а потым, каб усяго гэтага не бачыць, сабраліся і пераехалі жыць у іншае месца. Але Змітрык на гэта асаблівай увагі не звяртаў. Хлапчына спраўна вёў сваю гаспадарку і пры першай жа патрэбе дапамагаў тым, хто гэтак выручыў яго.

Аднаго разу да Змітрыка пастукаўся падарожны і папрасіўся пераначаваць.

— Вядома ж, чалавеча, заставайся. Месца ў мяне вунь колькі, есці таксама знойдзецца.

Селі есці, і тут толькі гаспадар убачыў, што ягоны госць ледзьве сядзіць.

— Што з табой, дзедка?

— Ды хвароба мяне скруціла і ўжо, можа, з месяц не адпускае. А сёння зусім дрэнна стала, толькі я пабаяўся сказаць табе пра гэта, каб не прагнаў.

— Чаго ж праганяць? — здзівіўся Бешанковіч. — З кожным такая злыбеда можа прыключыцца. Дапамагаць трэба адзін аднаму, [redacted] не злога жадаць...

Доўга старэча хварэў, не мог ніяк пераборацць хваробу. Хлопец не адыходзіў ад падарожнага. Калі той устаў на ногі, то, збіраючыся ў дарогу, запытаўся:

— Чым жа, чалавеча, я цябе аддзячу? Няма ў мяне ні хаты, ні падворка, ні кавалка хлеба...

— Ды мне, дзедку, нічога і не трэба.

— Усё роўна добра чалавеку нечым адплаціць.

— Яно-то так, але надта не ўбівайцеся. Каб толькі здароўе болей не падводзіла ды ногі па-ранейшаму па зямлі насілі.

— І ўсё ж я маю чым табе аддзячыць, Змітрык...

Той здзіўлена паглядзеў на падарожнага.

— Я табе не прызнаваўся, што ведаю мноства замоўшэптаў і магу самага знясіленага чалавека ці жывёліну параненую на ногі паставіць. Вось толькі на самога сябе яны не дзейнічаюць, а так бы і цябе не турбаваў.

— Вось яно што...

— Так, чалавеча. І перадаецца гэтая спадчына не абыкаму, а толькі тым людзям, якія яе не будуць выкарыстоўваць супраць іншых людзей. Цяпер слухай уважліва і запамінай: нельга перастаўляць словы замоў, бо яны тады трацяць сілу, і казаць іх трэба, даўшы папіць хвораму сцюдзёнай вадзіцы. Не забудзь — усё паўтараецца тры разы. Я скажу табе замову ад залатніка, а потым яшчэ мноства прымушу завучыць на памяць. Глядзі, каб запамятаў!

«Памяні, Госпадзі, цара Давыда і ўсю кротасць яго і вялікую памяць яго. Судзяржаў цар Давыд ваду і зямлю і нашы грэшныя душы, судзяржаў раба Божага залатнік.

Здраствуй, вадзіца-царыца, красная дзявіца, рака (такая-то). Кацілася вадзіца па дням, па начам і па вячэрнім зарам, змывала вадзіца белае каменне, серае карэнне, змый жа, вадзіца, залатнік рабу Івану з жыл, з пажылак, з касцей, з мазжэй, з буйнае галавы, з ясных воч.

На сінім моры, на лукамор'і, на вострaві стаіць дуб без сучкоў, без ражкоў, без вярхушкі, без макушкі. На том дубу сядзіць ястраб без кагцей і вострага носа і быстрага крылля. І як у гэтага ястраба няма ні кагцей, ні вострага носа, ні крылля, каб у таго раба Божага Івана залатніка не было. А няхай усе залатнікі хаваюцца на мхі, на балота, на гнілыя калоды. Там толькі ім гулянне-буянне, а раба Божага Івана ніколі не чапаць».

Сказаў падарожны замову і пытаецца ў Змітрыка:

— Запомніў?

— Так, запомніў.

— А цяпер распавяду ад хвароб на жывёлу — самую магутную, яна ад усіх хвароб дапамагае:

«На моры, на лукамор'і стаіць дуб без караня, і без каката, і без галавы; на тым дубе сядзіць сокал без крыла, без носа і спяваець, на ўвесь белы свет зычны голас пускаець, усялякія хваробы выймаець. Ух, лёгкі дух!»

З такімі замовамі ты станеш першым памочнікам людзям у наваколлі, а я, сынку, дзякуй табе, пайду далей, бо не магу доўга на адным месцы затрымлівацца, цягне мяне дарога.

Развіталіся яны, нібыта самыя блізкія, самыя родныя, і падарожны пакіраваў далей, а Змітрык застаўся на сваім падворку.

І сапраўды, з таго самага дня Бешанковіч адчуў, што ягоныя шэпты і замовы вельмі дапамагаюць хворым. Прычым аднолькава — што сялянам, што жывёле. Толькі прыйдзе чалавек і скажа, што ў яго нехта ляжыць ці з каровай або з канём няшчасце здарылася, Змітрык усё кідае і адразу прастуе туды, дзе патрэбна дапамога, бо ні на хвіліну не забываўся пра тое, як яму ўсім агулам дапамагалі.

Аднае начы ў акно пастукалі. Аказалася, што ў селяніна моцна захварэла старэйшая дачка. Пайшоў з ім хлапчына і як глянуў на хворую, то адразу ж і прамовіў, да яе бацькі звяртаючыся:

— Дзядзька, дайце слова, што калі я вашу дачку на ногі пастаўлю, то вы яе за мяне замуж аддасце. Сам сябе сватаю, сам за сябе і прашу.

— Добра, толькі выратуй яе, бо баімся — да раніцы не дажыве...

Усё сваё ўменне прыклаў Змітрык, мноства замоў перашаптаў, але дзяўчыну адабраў у вернай смерці. Бацькі яе стрымалі слова, і зажылі маладыя добра ды шчасліва. Дзеці ў іх сталі нараджацца, і звалі іх суседзі паміж сабою проста — Бешанковічамі. Адтуль і назва да паселішча назаўсёды прымацавалася.

## УЛА

Жыў-быў адзін вельмі багаты селянін. Было ў яго трынаццаць дзесяцін зямлі, лес ды яшчэ луг. Адным словам, чалавек заможны. Сям'я ў яго была не надта вялікая —

сам з жонкай і трое сыноў. Гады хутка міналі-ляцелі, дзеці незаўважна раслі, і аднаго вечара стары кажа жонцы:

— Слухай, маці. Трэба нам пра далейшае жыццё меркаваць. Хлопцы нашыя павырасталі, жаніць іх ужо трэба. А калі ажаніць хлапчыну, то і зямлі трэба даць кавалак, каб не з пустой кішэняй яго з хаты выпіхнуць. Маем жа нешта мы з табой і на чорны дзень...

— Твая праўда, — пагадзілася тая, — няхай паціху жэняцца, пакуль мы жывыя. Хочацца ўнукаў палашчыць, пагушкаць...

— Я тут трохі падумаў і вось да чаго прыйшоў. Лесу ў нас даволі многа, таму трэба кавалак яго прадаць. Грошай прыдбаем, у крайнім выпадку нехта з сыноў, калі палічыць за патрэбнае, сам сабе зямлі прыкупіць. З той часткі, якая ў нас застанецца, будзем выбіраць бёрны на новыя будынкі. Думаю, што хопіць і яшчэ даволі застанецца. Нам жа давядзецца майстроў-цесляў склікаць ды два новыя дамы пабудаваць. У адным аднаго сына паселім, у другім — другога, а адзін з намі застанецца.

— Добра ты, бацька, задумаў, давай так і зробім.

— Тады пайду дзяцей паклічу.

Сыны зайшлі і моўчкі селі за стол побач з бацькам. Акінуў ён іх поглядам і пачаў расказваць пра яго і маці рашэнне. Сыны слухалі моўчкі, толькі пот пакрыў іхнія твары. Скончыў гаспадар гаварыць і пытаецца ў старэйшага:

— Што ты, Сцяпанка, наконт гэтага думаеш?

— Я, тата, зраблю так, як вы размеркавалі. Вам добра — і мне таксама. Супраць вас я ніколі не ішоў і надалей не пайду.

— З табой зразумела. А ты, Кірылка, што паведаміш?

— Я што?.. Я нічога... Як вы хочаце, так і зраблю. Мне абы ціха было, нічога больш мне не трэба, — неяк палахліва і занадта спяшаючыся адказаў той.

Бацька ўважліва паглядзеў на яго, памаўчаў, але болей не сказаў нічога, звярнуўся да малодшага:

— А ты, Васілька, што адкажаш?

— Ды мне, тата, пакуль што жаніцца не карціць.

— Што ж ты хочаш рабіць?

— Хачу я, тата, па белым свеце пахадзіць, паглядзець, як людзі ў розных мясцінах жывуць, бо далей жа за роднае паселішча ніколі не выязджаў. Пазней, калі сям'я з'явіцца, дзеці пойдуць, не да таго будзе. А тут такая магчымасць па свеце паблукаць, пакуль нішто не трымае, пакуль сам малады...

Усхапілася матуля:

— Што гэта ты, Васілька, удумаў? Хіба не ведаеш, што можна і заблукаць, і на ліхіх людзей нарвацца, і назад не вярнуцца?

— Такі, значыцца, лёс у мяне, — спакойна адказаў малодшы.

— Няўжо, сыночак, у нас нечага не хапае? Ці, можа, мы нечага табе шкадавалі? — пакрыўджаным голасам пачаў дапытвацца і бацька.

— Ды ўсё добра, тата. Усяго хапала, і адносіліся вы да мяне гэтаксама, як і да братоў. Але хочацца пахадзіць па свеце...

У хаце запанавала прыгнечаная цішыня, якую перарвала гаспадыня.

— Хадземце спаць, раніцай будзем разбірацца далей, а то на ноч такога наслухаемся, што спаць дрэнна будзем, — паспрабавала перавесці ўсё на жарты жанчына.

Браты паджгалі задаволеныя, а Васіль, сумны, пакіраваў за імі. Гаспадары толькі зірнулі яму ў спіну, і бацька прашаптаў:

— Нічога, за ноч многае пераменіцца. Раніцай і не прыгадае пра сваю задуму — забудзецца.

Старая пагадзілася. Але, як аказалася, паспяшаліся яны супакойвацца, бо толькі сонца зайграла і ўсе пачалі завіхацца па гаспадарцы, з хаты выйшаў Васіль, падышоў да астатніх і спакойна прамовіў:

— Ну вось я і сабраўся. Блаславіце мяне на далёкую дарогу...

Горка заплакала матуля.

— Сыночак, можа, перадумаеш, застанешся з намі? Што ты там, у далёкім краі, пакінуў? Чаго цябе туды гэтак цягне?

— Не, мама, не магу.

— Прасі яго, стары, — звярнулася жанчына да мужа.

— Не трэба, жонка. Калі чалавек захацеў, то няхай ідзе да сваёй мэты. Вернецца — з намі жыць будзе. Правільна, сынок?..

— Правільна, тата. Калі намерыўся, то няма чаго на паўдарозе супыняцца.

Але маці не здавалася і звярнулася да старэйшых дзяцей:

— Сыночкі, пагаманіце вы з ім, можа, ён вас паслухаецца і нікуды з дому не пойдзе...

Тыя да брата падышлі:

— Можа б, ты, Васілька, перачакаў пакуль што дома, на другую вясну ў дарогу пусціўся б?

— Эх, браточкі, не пойдзе мне гэтакі адклад на лад. Час страчу, а карцець жа па-ранейшаму будзе...

Зразумелі ўсе, што дарма адмаўляць Васіля. Тады бацька гукнуў:

— То пайшлі ўсе за стол, там пагаворым ды і развітаемся па-чалавечы...

Якая там ужо ежа, якое пітво, калі ва ўсіх настрой сапсаваны? Але паселі, нечага перакусілі, гаспадар наліў віна і мовіць:

— Каб мы, дзеткі, праз год гэтак жа дружна сядзелі і мірна гаманілі... Каб усё ў нас добра было.

Блаславілі бацькі Васільку, браты з ім развіталіся і адзінае, да чаго ўгаварылі, — гэта ўзяць з дому коніка, каб не мераць пешшу тыя незлічоныя вёрсты. Выбраў Васіль самага старога коніка, ад якога ў гаспадарцы амаль ніякай карысці не было, адно толькі век свой дажываў, і паехаў.

Не адзін дзень ужо доўжылася ягоная дарога. Усяго паспеў наглядзецца, але нечага цікавага, непаўторнага, чаго ў іхніх мясцінах не сустракалася б, пакуль што не заўважыў. Вось неяк сядзіць ён на возе, ногі спусціўшы, а конік паціху трухае. Хлапчына нават песню зацягнуў:

Ой, косю, мой косю,
Чаго ж ты нявесел?
Чаго ж ты, мой косю,
Галоўку павесіў?..

І тут падалося яму, што наперадзе таксама весела спяваюць. Прыслухаўся — і сапраўды. Ды не проста спяваюць, а такімі ўжо раднымі галасамі выводзяць, што пазайздросціць можна. Пачаў Васіль коніка падганяць, каб глянуць хутчэй, што ж там такое адбываецца. Сам ляркуе, але здагадацца не можа. Вяселле? Не. Якое ле-там вяселле? А што ж яшчэ можна ў такі час святкаваць?

Выехаў з кустоўя і спыніўся адразу, бо тое, што ўбачыў, цяжка было асэнсаваць: вяскоўцы на плячах неслі дамавіну з нябожчыкам і... весела спявалі, а жанчыны, маладзіцы і дзяўчаты танцавалі. Васіль па старой звычцы зняў шапку і злез з воза. Калі пахавальная працэсія параўнялася з ім, то прыгожанькая дзяўчына хіхікнула і спыталася:

— Чаго, чалавеча, сумуеш? Давай да нас, разам паскачам, песні паспяваем, а далей, можа, што і большае атрымаецца!

Астатнія зарагаталі, а Васіль густа пачырванеў і нібыта аслупянеў, не ведаў, як сябе паводзіць. Так і стаяў, разважаў, чаму тут такім манерам нябожчыкаў хаваюць, а распытаць не было ў каго. Звернешся з запытаннем да такой вось вострай на язык маладзіцы ці дзяўчыны — потым сораму не абярэшся.

Раптам бачыць — старэнькая бабулька прама на яго клыпае. Падыдзе з дзесятак крокаў, на кіёчак абапіраючыся, адпачне крыху і далей рушыць. Вырашыў Васіль у яе пра ўсё і распытацца, гэтая смяяцца-жартаваць над ім не будзе. Дачакаўся, пакуль старая да яго падышла, павітаўся і запытаўся:

— Што гэта ў вас, бабулька, робіцца?

— Дзе?

— Ды толькі што нябожчыка пранеслі...

— Так, пранеслі, і я за ім іду... Але не здужаю хутка, дык паціху дабіраюся.

— Не, я не пра гэта.

— А пра што?

— Мяне цікавіць, чаму гэта яны нясуць нябожчыка, а радуюцца і весяляцца, нібы не ў зямлю яго хутка закапаюць, а ажэняць ці на царства якое ўзвядуць?

— Вось што цябе непакоіць... Па праўдзе кажучы, калі я тут стала жыць, то мне таксама было нязвычна за гэтым назіраць. Мяне муж некалі прывёз сюды здалёк. Даўно тое было, ужо і мужа сярод жывых няма... Дык паверыш ці не, голубе, што і дасюль да такога звычаю не прызвычаілася. Вось яны павесяляцца, паскачуць, закапаюць нябожчыка на могілках, а я ўжо пасля зайду на магілку і там па-свойму паплачу-пагалашу, каб душу адвесці...

— А чаму яны так робяць?

— Мясцовыя жыхары тлумачаць, што пры жыцці чалавек пакутуе, працуе, змагаецца, ні дня, ні ночы спакойна правесці не можа, а як памрэ — усе праблемы самі па сабе вырашаюцца. Не трэба яму болей бегаць, не трэба нечага непакоіцца ці хвалявацца, усяго ў яго будзе ставаць, усё ў час будзе рабіцца... Вось з гэтага і скачуць, вось з гэтага і песні спяваюць.

— Дзіўны звычай, — толькі і выдыхнуў Васіль.

— А што ж ты, мой галубок, думаў? Колькі людзей — столькі і дзівацтваў...

Развітаўся хлапчына з бабулькай і далей паехаў. Едзе, коніка паганяе, а супакоіцца ніяк не можа. Разважае,

што ў тым звычаі благога, а што добрага. Падумаў-падумаў і прыйшоў да высновы, што, можа, яны ў нечым і мелі рацыю, гэтыя дзіўныя местачкоўцы.

Ужо добры месяц прайшоў, як ён з роднымі развітаўся. Засумаваў па бацьку, па маці, па братах, пацягнула дахаты. Толькі што ж ён такога пабачыў? Хацеў свет спазнаць, людзей, а тут толькі і ўбачыў цікавага — як спяваюць і танцуюць, нябожчыка на могілкі выправаджаючы. Вырашыў далей ехаць, яшчэ паблукаць па іншых мясцінах.

Добра, што Васіль нарадзіўся і вырас стрыманым ды паважаючым старасць і сталасць, любога мог разгаварыць. Чалавеку што? Чалавеку акажы ўвагу — ён з табой як з роўным трымацца будзе.

Начаваў ён у незнаёмых людзей, гутарыў з імі пра ўсялякія падзеі-навіны і стараўся незаўважна выпытаць усё самае адметнае, своеасаблівае. Яму многа ўсялякіх казак ды паданняў распавялі, але такога і бацька дома цэлы кош за адзін вечар наказаў бы.

Так і ездзіў. І аднаго разу яму зноў пашэнціла дзіўнае напаткаць. А здарылася ўсё вось як.

Васіль выехаў з хутара, дзе начаваў у гасціннага гаспадара. Шлях трымаў на вялікую вёску, якую параіў наведаць хутаранец. Дарога блізкая была — усяго пару вёрстаў, надвор'е стаяла добрае, сухое, але не гарачае, таму конік з ахвотай перабіраў нагамі і даволі хутка сунуўся наперад.

Неўзабаве і вёска паказалася. Пад'ехаў хлопец бліжэй і пачуў гучны плач-енк. Спыніў коніка, услухаўся — не, не падалося, галасілі-заходзіліся жанчыны. Праз расчыненыя вокны неслася:

— А мой жа ты саколічак...

— А наш жа ты галубочак...

— Ды што ж з табою далей будзе?..

— І чаго табе лёс такі выпаў?..

Васіль хацеў было зазірнуць у акно, але, на яго шчасце, з хаціны выйшла маладзіца.

— Што ў вас тут за гора вялікае здарылася, што ўсе жанчыны гэтак галосяць? — пытаецца.

— А хіба ты не ведаеш?

— Не...

— Гэта ж у маёй сяброўкі сыночак нарадзіўся.

— Сыночак нарадзіўся? Дык чаго ж вы галосіце? У такім выпадку радавацца трэба.

— Памыляешся, чалавеча. Ты, мабыць, не з нашага краю?

— Так...

— Вось бачыш... Дзіця нарадзілася. А што наперадзе яго чакае? Мы, дарослыя, дакладна ведаем, што і гора яму не абмінуць, і бядоты ўсялякай, і няшчасце не раз у хаціну пастукаецца... Вось з-за гэтага і галосім.

Сказала так і пайшла сваёй дарогай, а Васіль пастаяў яшчэ крыху і пакіраваў коніка ў другі канец вёскі. Незаўважна выбіўся да прыгожай рачулкі і вырашыў, што сёння на начлег ні да каго прасіцца не будзе, пераспіць тут, пад гоман рачных хваляў.

Сабраў сучча-ламачча, запаліў вогнішча. Добра стала навокал, цішыня незвычайная, толькі хвалі пляскочуць ды ветрык злёгку падыхае. І тут раптоўна да вогнішча нехта ступіў. Васіль ажно ўздрыгнуў:

— Хто гэта?

Але, ўбачыўшы перад сабою дзяўчыну, супакоіўся.

— Чаго ты тут ходзіш, дахаты спаць не ідзеш?

— Я здалёк прыйшла. Тут некалі мой татка ўтапіўся, дык я штогод прыходжу да гэтага месца. Раней з матуляй хадзілі, а цяпер сама, бо і яна, гаротніца, памерла...

Дзяўчына прыціхла. Васіль таксама маўчаў. Праз некаторы час, слова за слова, разгаварыліся.

— Цябе як завуць? — запыталася незнаёмка.

— Васіль. А цябе?

— А мяне — Ула.

— Ула? Дзіўнае нейкае імя.

— Мой татка быў з далёкага краю, а ў іх такія імёны былі звыклымі.

Пра што яны далей гаманілі — ніхто не ведае, але дамоў Васіль вярнуўся з дзяўчынай, дакладней, з жонкай, і стаў жыць з бацькамі. Месца, дзе новую хаціну ды іншыя гаспадарчыя будыніны паставіў, назваў Улою, у гонар жонкі. Так з таго часу наша паселішча і завецца.

## БУДЗІЛАВА

Жыў адзін дзед. Так здарылася, што ці то ён ад самага нараджэння нешчаслівы лёс меў, ці то з цягам часу ў яго ўсё перамянілася, але пастаянна ледзьве канцы з канцамі зводзіў, дня не было, каб у яго нешта благое не здарылася. Мала таго — і дзяцей не было, і ўжо жон-

ка — то такая крыклівая ды сварлівая была, што пра яе аднавяскоўцы казалі:

— Гэтая, відаць, ніколі не маўчыць, яна, мабыць, і ў сне сварыцца. Схуднела, што той шкілет, [redacted] злосці — то на паўсвета хопіць. Ніколі рот не закрываецца, да таго дайшло, што і ля царквы крычыць...

— Што «крычыць», — перапынялі другія, — у мінулую нядзелю ёй бацюшка заўвагу зрабіў, то яна яму такое паказала, такое паказала, што бацюшка гатовы быў усіх жанчын праклёнам дзікім праклясці. І гэта нягледзячы на тое, што сам Богу служыць...

Дзед, а звалі яго Мікола, яшчэ толькі вочы пратрэ і пачне на вуліцу збірацца, каб па гаспадарцы нешта дагледзець, а жонка ўжо гырчыць на яго:

— Дурань стары! Лайдак смярдзючы! Нічога не робіш, толькі і ведаеш, што спіш ды ясі! У іншых двары ад багацця ломяцца, [redacted] ў цябе і палена дроў няма! Пакуль не падкажаш, пакуль не палаешся, то і не паедзеш! Толькі і глядзіш, каб я ўсё рабіла!

Стары за доўгае сваё гаротнае жыццё прызвычаіўся да такіх спраў, таму спакойна пасёрбаў нішчымнай капусты, увапхнуў праснак у кішэню і толькі тады азваўся:

— І адкуль гэта ты, старая, ведаеш, што я сёння ў лес збіраўся? — і хутка шуснуў за дзверы, бо ззаду такое пачалося, што і да вечара цішыня не настала б.

Вывеў коніка, якому, мабыць, не на многа меней гадоў было, чым яму самому, і пачаў вупраж надзяваць. Ды якая там вупраж — вяроўка гнілая, вузельчык на вузельчыку. Неяк усё ж прыладзіў, паклаў самае неабходнае і паціху паехаў. Едзе і разважае:

— На спраўным коніку я разы два туды-сюды паспеў бы абярнуцца, [redacted] на такім і раз з натугаю выйдзе. Зноў вечарам будзе мне столькі слоў, столькі слоў... Вось ужо сапраўдны будзіслоў, — у рыфму закончыў стары.

У лесе ветру не было. Надвор'е стаяла такое, як звычайна ў сакавіку. Дзед давай сякерай махаць. Горача стала — скінуў світку, кінуў на пень і пайшоў далей працаваць. Нарэшце змарыўся і вырашыў адпачыць ды і праснак той самы з'есці, каб сілы крыху аднавіць. Толькі ён так падумаў, глядзіць, ажно нячысцік — морда такая брудная, смешная — хоп за той праснак з кішэні і ўцякаць. Стары таксама не дурань — за ім.

Ведама ж, нялёгка ўгнацца за чортам, бо ён можа і бегчы надзвычай хутка, і скакаць высока, і, болей таго,

ляцець. Тым не меней дзед амаль не адстаў. Нячысцік да балота — і ён туды ж. А там пашанцавала старому. Самы галоўны чорт нечага сваіх падначаленых сабраў. Пастроіў іх, як салдатаў, і нешта гамоніць. Дзед да яго. Так, маўляў, і так — непарадак гэта. Праснак у мяне апошні быў, і, акрамя таго, я вас ніколі не чапаў, не крыўдзіў, нават словам благім не згадаў. За што ён мяне так абразіў? Я ж галодны і стомлены, ды не ў маіх гадах па лесе за чарцямі ганяцца.

Што самае дзіўнае — самы галоўны чорт выслухаў уважліва Міколу і пытаецца ў сваіх слуг:

— Ці праўду гэты чалавек сказаў?

— Канешне, — пачулася з усіх бакоў. — Ён нас ніводнага разу не пакрыўдзіў.

— А хто яго праснак украў? Аддайце зараз жа!

Усталявалася цішыня. Ніхто, ведама ж, не прызнаваўся. Тады на дапамогу старому чорту прыйшоў сам Мікола:

— Загадай, каб усе раты паразяўлялі, я хутка даведаюся, каго трэба пакараць.

Так і зрабілі. Божачкі, што тут сталася! Як пачалі нячысцікі раты свае разяўляць, і кожны ж стараўся смешна гэта зрабіць, каб і самому пацешыцца, і іншым даць магчымасць парагатаць. Як ні трымаўся Мікола, але і ён разам са старым чортам так рагаталі, што ледзьве ішлі ўздоўж строю нячысцікаў. Нечакана селянін спыніўся.

— Глядзі, вунь ён, злодзей! — і пальцам паказаў на чарцяку, які не паспеў яшчэ цалкам з'есці праснак, частка яго заставалася ў роце.

— Хадзі-тка сюды! — зароў старэйшы, ухапіў малодшага за хвост і як стаў яго пярэсціць, як стаў хвастаць — толькі водгулле неслася па кустоўі ды па балоце.

Стары лупіць, а малады верашчыць:

— Ой, што хочаце прымушайце мяне рабіць, толькі болей не біце! Не вытрымаю болей, пашкадуйце, злітуйцеся!

— Ну што, хопіць? — звярнуўся стары чарцяка да Міколы.

— Ды чаго ўжо там з-за таго праснака так нячыстую душу лупцаваць. Я з голаду не памру, а ён жа і сканаць можа. Адпусці. Добры яму ўрок на ўсё астатняе жыццё будзе, ніколі болей чужога не кране. Не трэба біць, адпусці.

— Добры ты чалавек, а таму я не проста адпушчу яго, а прымушу адпрацаваць на цябе цэлы год. Забірай яго і не шкадуй дома. Што пажадаеш — тое няхай і выконвае.

— Дзякуй за справядлівасць, — адказаў Мікола і пакіраваў да сваіх саней, да якіх трэба было тэпаць не адну вярсту.

— У нас таксама ўсё папраўдзе робіцца. Дарма людзі думаюць, што менавіта мы, чэрці, ва ўсіх іхніх бядотах вінаватыя, — данеслася ззаду.

Не давялося Міколу ісці па лесе, бо нячысцік пікнуў:

— Сядай на мяне, старэча, умомант будзем на месцы.

Праз колькі імгненняў стары хадзіў ля саней і меркаваў, колькі яшчэ трэба насекчы дроў. Ды і тут чорт выручыў:

— Пасядзі, я зараз усё сам зраблю.

Ламануў налева, ірвануў направа — і зваліў пару такіх дубоў, што і два дзесяткі самых добрых коней не пасунулі б, а нячысцік гопнуў іх на сані і гамоніць далей:

— Што, паехалі?

— Ды час ужо...

— То коніка ззаду прыпражы, і сам зверху сядай.

Валачэ чорт сані, і Мікола скардзіцца яму:

— Усё добра было б, каб маю жонку хто перайначыў.

— А што такое?

— Ды лаецца па-чорнаму з усімі, сварыцца, за валасы хапаецца. Усё жыццё так прайшло, не ведаю, што і рабіць. Не біцца ж з ёй на старасці гадоў, каб людзі смяяліся...

— Навошта біцца, я яе і так перайначу. Яшчэ і пазайздросцяць вяскоўцы, што старая на вачах перамянілася.

— Вось каб ты так зрабіў, то я цябе да скону жыцця свайго згадваў бы, хоць, кажуць, і нельга гэтага рабіць.

— Многа чаго рабіць нельга. Ты толькі мне якую мянушку прыдумай, і ўсё будзе ў парадку.

— Мянушку? Ды будзь ты Будзісловам. Я бабу сваю гэтак пра сябе дражню.

Прысунуў чорт дубы дамоў і давай з дзедам іх пілаваць. А баба, па звычцы, бегае ды крычыць на іх. І тут яе нешта як ухопіць за валасы, як рэзне паплескаю па спіне, — яна ажно заціхла. А тое невядомае стварэнне другім разам яшчэ мацней заехала. І так разоў з дваццаць. Баба ў крыкі:

— Стары, ратуй!

Мікола сядзіць на бервяне, пакурвае сваю люлечку і адказвае:

— А ты заві Будзіслова, можа, яно цябе і пашкадуе.

— Ды каго хочаш пазаву, толькі каб болей не білі.

— А сварыцца не будзеш?

— Не... Во і сведка, — гэтае, як яго, Будзіслова...

І сапраўды, баба болей ніколі на старога не сварылася. А як на новае дварышча перабраліся, то назваў яго дзед Будзіслова — як добры ўспамін пра тую падзею, якая ягоную жытку хоць на глыбокай старасці, але ўсё ж перайначыла. Потым стала Будзілава.

## БЫСТРЫ

Наша вёска стаіць на левым беразе Заходняй Дзвіны. Так атрымалася, што спадабалася далёкім продкам гэтая мясціна і вырашылі яны тут пабудавацца. Хто яго ведае, колькі іх было спачатку, але потым з кожным годам станавілася ўсё болей. Назва вёскі пайшла ад смешнага здарэння. Праўда, некаторыя зусім па-іншаму тлумачаць яе паходжанне, але хто там зараз разбярэ ды ўсё па палічках раскладзе.

Ехаў неяк бацюшка ў далёкую вёску. Ці то яго папрасілі ў кагосьці на хаўтурах адспяваць, ці то радзіны адправіць — няведама. Дакладна тое, што ехаў на спраўным, сытым коніку.

Сонца спачатку горача прыпякала, а потым падзьмуў ветрык, на першым часе невялікі, а потым добры ўзяўся, ажно кустоўе зашумела ды голле дрэў затрэсла, нібы ў ліхаманцы. Конік адчуў, што дождж з навальніцаю ў хуткім часе будзе, крыху збочыў з дарогі ды ўбіўся ў густое кустоўе, каб хоць ад ветру ды дажджу нейкая абарона была, каб не так секла.

Тым часам і грымоты пачаліся, а бацюшка хроп і ў бараду сабе не дзьмухаў. Як лёг на спіну, то і не павярнуўся ніводнага разу.

Ажно дождж улупіў нібыта з вядра. Усхапіўся тут бацюшка і давай ашалела азірацца, не можа, бедалага, адразу дацяміць, дзе гэта ён? Навокал вада ліецца, маланкі бліскочуць, гром грукоча і нічога не відаць. Куды ехаць, дзе паратунак шукаць, у які бок каня гнаць? Укленчыў тут бацюшка:

— Божачка, падкажы, куды ехаць, дзе ратавацца? Я ж штодня цябе праслаўляю, штодня цябе згадваю, падкажы...

Але ў адказ чуўся толькі магутны грукат і неба перапалавіньвалася маланкамі. Ні слова ніадкуль у адказ не пачулася. Бацюшка зусім разгубіўся і загаласіў:

— А няўжо ж гэта мяне тут смерць чакае, няўжо я апошнія імгненні свае дажываю? За што мне лёс такі, у чым я правінаваціўся? У мяне ж жонка дома, дзеткі мяне чакаюць... Як жа мне, гаротнаму, далей быць? Лясне страла Божая з неба, і ўсё, гамон мне.

Ды пашанцавала бацюшку, бо якраз у той дзень двое вяскоўцаў, Пятро ды Павел, у лес хадзілі — ці то бярвенні нарыхтоўвалі для нейкай будыніны, ці то выбіралі тонкія жэрдкі, якія заўсёды спраўнаму гаспадару ў любы момант могуць спатрэбіцца. І так атрымалася, што меркавалі сяляне паспець да дажджу дабегчы дамоў, ды куды там! Як ні стараліся — не здолелі хмару перагнаць. Секануў такі дождж, што за адну хвіліну мокрыя навылёт былі.

Пятро і гаворыць:

— Давай, браце, у кустоўе звернем ды перасядзім. Колькі тут дамоў засталося...

На што Павел не без рацыі адказаў:

— Ты думаеш, што як мы тут сядзець будзем, то высахнем? Сам жа бачыш — прамоклі, што тыя сабакі, таму лепей ісці, не спыняцца, бо хоць і лета зараз, але пад дажджом сядзець халаднавата будзе. Пайшлі.

Цяпер ужо не спяшаючыся пайшлі сабе далей. Прамокнуць не баяліся, бо ўжо прамоклі, а бегчы пад такім дажджом, як бы ні хацеў — не пабяжыш. Размаўлялі паціху, каб весялей было, жагналіся зрэдку.

Зірнуў Павел наперад і мовіць:

— Глядзі, братка, нехта на кані куды ўпёрся.

Пятро пастаяў хвілінку і кажа:

— Здаецца, гэтага каня я дзесьці ўжо бачыў.

— І чый жа ён будзе?

— Бацюшкаў.

— Бацюшкаў? А чаго ён тут стаіць?

— Ды вунь жа і бацюшка ракам поўзае...

— Дзіўна...

— Зараз яшчэ больш дзіўна будзе.

— Што ты збіраешся рабіць?

— Коніка ў бацюшкі свіснем.

— Грэх жа гэта.

— Канешне. А яму нас не грэх абіраць?

Павел маўчаў. Пятро штурхнуў яго:

— Каня, калі я яго табе перадам, добра схавай, потым падмога ў гаспадарках будзе.

Бацюшка іх не заўважаў, маліўся шчыра ды галасіў так, што ажно водгулле ішло. Пятро падышоў ззаду,

ціхенька зняў з коніка аброць і на сябе насунуў, сябруку ж паказаў, каб той жывёліну звёў.

Тым часам дожджык пачаў сцішвацца, а бацюшка супакойвацца ды Бога ўслаўляць, што сярод жывых яго пакінуў. Пачакаў, пакуль зусім перастала з неба капаць, і сабраўся далей ехаць. Адвярнуўся назад і аслупянеў. Замест каня стаяў... здаравенны мужык і ўсміхаўся.

— Божачка, а што ж гэта такое?

— Я, бацюшка, быў зачараваны ў каня. Ты так шчыра маліўся, што Усявышні не толькі дожджык перапыніў, але і мяне зноў чалавекам зрабіў. Радасць для мяне якая...

— Табе радасць, [redacted] [redacted] пазнюся. Што мне рабіць?

— А ты, бацюшка, садзіся на мяне. Толькі падказвай, дзе хутчэй ехаць...

Бацюшка ўскараскаўся на мужыка, а той як папёр па дарозе, па лужынах, па траве. Вады навокал, бруду — па калені, а поп прыспешвае:

— Быстрэй! Быстрэй!

Пятро ляцеў ды з усяго маху як гопнуўся на зямлю. Бацюшка праз галаву перакуліўся, устаў і, ледзьве не плачучы, вымавіў:

— На табе лейцы і аброць, няхай яны табе назаўсёды будуць! Знайшоў каго «быстрэй» крычаць! — і пайшоў прэч, толькі разоў колькі азірнуўся на селяніна, які стаяў і няведама чаго смяяўся.

Той груд і празвалі потым Быстрэй, [redacted] ад яго і вёску.

Іншыя гавораць, што насупраць нашай вёскі, на правым беразе Заходняй Дзвіны, цячэнне больш моцнае, хуткае, быстрэйшае. Раней дык увогуле паселішча называлі Быстрэя, гэта ўжо потым, з цягам часу, стала Быстры.

## МАМОЙКІ

Жыў у нас тут адзін чалавек. Памяркоўны, спакойны, ніколі за ўсё сваё жыццё ні з кім не пасварыўся, а біцца — дык і думаць такога сабе не дазваляў. Слова калі за дзень вымавіць — вельмі добра, а то з раніцы да вечара маўчаў. Жонка ўсё пілавала яго:

— Ну чаго ты маўчыш? Сказаў бы што-небудзь! Дзеці ад цябе слова не чулі! Няхай [redacted] пакутую, а яны за што?..

У адказ чулася не вельмі выразнае «М-м-м...» і яшчэ болей злавала гаспадыню.

Дык вось з-за гэтага самага вяскоўца і вёска наша назву атрымала. А звалі яго проста — Мікіта.

Аднаго разу зайшоў да іх падарожны і папрасіўся пераначаваць:

— Пусціце, людцы, бо здарожыўся надта. Адасплюся, і далей шкрэбціся трэба.

Гаспадыня першая азвалася:

— Ды чаго ўжо там. Начуй, чалавеча, месца на ўсіх хопіць, — і пайшла кароў даіць. Мужчыны за ёю падаліся.

Вось зрабіла яна справу і ў хату пайшла. Мікіта — следам, а падарожны крыху затрымаўся. Бачыць, ажно гаспадыня забылася бычка ў хлеў загнаць. Ён зыркнуў па баках — нікога няма. Ухапіў тады кавалак вяроўкі, на рогі бычку накінуў, а другім канцом да вугла прывязаў. Потым, не спяшаючыся, пайшоў у хату, дзе гаспадары за сталом ужо чакалі яго вячэраць. Сеў і гаворыць:

— Я вам адразу не сказаў, што не адзін прыйшоў, а з бычком. Баяўся, што не пусціце пераначаваць.

— Так ужо і не пусцім. Я ж сказала, што на ўсіх месца хопіць, а бычка свайго, чалавеча, прывяжы ля хлява, у двары. Зараз цёпла, і сабакі, калі што якое, у нас надзейныя... Таму можаш спаць спакойна.

Павячэралі, пагаманілі (падарожны з гаспадыняй, бо Мікіта маўкліва слухаў іхнюю размову) і спаць пакладаліся.

Раніцай, падарожны яшчэ спаў, гаспадыня ўсхапілася і пайшла да хлява. Падкінула бычку травы, глянула на яго і падумала, што надта ж на іхняга падобны. Калі зайшла ў хату, то так мужу і сказала:

— А бычок у гэтага чалавека гэткі ж самы, як і наш... Здараецца ж такое, як і сярод людзей...

Падарожны ўсё чуў, але выгляду не паказаў і быццам бы проста так уступіў у размову:

— Дык гэта ж я вяду яго прадаваць. Да мястэчка далекавата, вось і давялося пераначаваць у дарозе. Дзякуй вам вялікае за ўсё. Заставайцеся здаровы.

— Ідзіце з Богам, — чулліва адказала яму гаспадыня, а на свайго прыкрыкнула:

— Бачыш, які чалавек. І пагамоніць, і раскажа, не тое, што...

У адказ пачулася ўжо звыклае «М-м-м».

— Давай, можа, і мы на базар з'ездзім? У нас жа кажух новы ёсць. Ён нам не надта патрэбны, а вось калі яго прадаць, то грошай колькі з'явіцца...

Сабраліся, узялі з сабой старэйшага сына і, пасеўшы на воз, пакіравалі ў мястэчка. Недзе вярсты праз дзве

напаткалі таго самага чалавека, які ў іх начаваў. Ён весела тэпаў наперад, а за ім борздзенька ішоў бычок.

— Мама, — закатурхаў гаспадыню за рукаў сын, — дык гэта ж наш бычок... Гэта ж наш Ласун...

— Цішэй ты, дурань, — адмахнулася тая, — многа ты разумееш... Маўчы лепей ды не смяшы людзей. Ты яшчэ нешта разумееш...

— Ласун гэта, — мармытнуў зноў хлапчынка і адразу ж атрымаў гучнага плескача.

— Маўчы, а то горай будзе.

Так яны і мінулі таго падарожнага з бычком. Заехалі на базар і сталі з возам з краю — кажух прадаваць. Стаяць сабе, глядзяць, што навокал робіцца, як народ віруе.

Тым часам і падарожны прыспеў на базар. Ён за цаною не стаяў, ведама ж, не сваё — дармавое, таму першаму з сялян і прадаў. Грошы ўзяў і задаволены падышоў да Мікіты з жонкай.

— Што прадаяце?

— Кажух, чалавеча, — гукнула гаспадыня. — А ты ўжо прадаў бычка?

— Прадаў.

— Можа, наш кажух купіш?

— Чаму б і не. Кажух жа новы, прыгожы, — і накінуў яго на плечы, быццам бы мерае.

Крутнуўся так, гэтак:

— Глядзі, як добра мне падходзіць. Пайшлі ў карчомку, абмыем справу.

Мікітава жонка ўсхапілася:

— Трэба, трэба. Пайшлі.

У карчомцы падарожны адразу ўзяў кварту гарэлкі і смажанага гуся, каб закусіць. Селі яны, выпіваюць, а Мікіта ўсё думае: «Вось зараз вып'ю і ўсё скажу... Не адзін ты такі хітры, я таксама ведаю, чыйго бычка ты прадаў...»

Тут госць нечакана ўскокнуў і кажа:

— Вунь мой кум ідзе. Пайду і яго паклічу, няхай з намі пасядзіць ды вып'е якую кроплю...

— Ведама ж, заві, — падтрымала гаспадыня. — Няхай і ён з намі пасядзіць.

Той падарожны як быў у кажуху, накінутым на плечы, так і выбег за дзверы і закрычаў, каб яго ўсе ў карчме чулі:

— Кум, кум, хадзі вып'ем! Чаго ты ўцякаеш?! Вось жа я цябе даганю!

Мікіта з жонкай сядзелі і чакалі. Ужо і крыкаў тых не стала чуваць, а нікога не было. Пераглянуліся яны паміж сабою, гаспадыня і кажа:

— Давай вып'ем самі, бо пакуль яны дабяруцца...

Піць, ведама ж, не працаваць. Лыкнулі па адной, па другой, а падарожнага ўсё няма. Тут Мікіту нешта цюкнула ў галаву, ён паспрабаваў было падняцца, але жонка апярэдзіла:

— Куды гэта ты сабраўся? Давай лепей я збегаю, бо ад цябе дачакаешся... Я мігам туды-сюды абярнуся...

Выскачыла яна з карчомкі, падбегла да сына, які сядзеў па-ранейшаму на возе, і пытаецца:

— Ці не бачыў ты таго дзядзьку?

— Якога? Што нашага бычка прадаў?

— Ат, няхай будзе па-твойму. Ён жа ў нас кажух купіў...

— Што, і кажух? А хоць грошы аддаў?

— Не, сказаў, што пойдзе кума пакліча...

— Ага, а кум ягоны жыве вёрстаў за сорак адсюль... Ён, той гіцаль, ужо даўно уцёк, а вы, дурныя, чакаеце...

Паджгала гаспадыня назад у карчомку і крычыць на Мікіту:

— Чаго ты тут рассеўся?! Пайшлі!

А карчмар выйшаў наперад і кажа:

— Пойдзеце, толькі спачатку за гарэлку ды за гуся заплаціце...

Давялося і тут заплаціць. Мікіта парываўся сказаць, што яны ежу і гарэлку не бралі, што гэта зусім другі чалавек купляў, ды нічога ў яго не атрымалася. Болей таго, жонка на яго пачала гарлаць, даказваць, што менавіта гаспадар ва ўсім вінаваты. У адказ пачулася звычайнае «М-м-м»...

Гэта ўзарвала жанчыну:

— Мамейка ты няшчасны! Маўчун пракляты! За што мне пакаранне такое?!

Ды на гэты раз здарыўся цуд. Мікіта даволі жвава пачаў адбрэхвацца:

— А ты сама... Мамейчыха. Усё лезла, лезла, во і даскакалася...

Яны лаюцца, а людзі пазбіраліся і слухаюць. Хто новы падыходзіць, дык пытаецца:

— Што тут здарылася?

— Ды Мамейка з Мамейчыхай сварацца.

Так яны і прывезлі з таго базару назву нашай вёсцы.

# ХОЛМ

Вёска наша з'явілася шмат гадоў таму назад, яшчэ пры прыгоне. Багатыя прыгняталі бедных, і самае галоўнае, што за здзекі нікога не каралі, лічылі гэта будзённымі справамі. Куды ты скардзіцца пойдзеш, калі табе з усіх бакоў даводзяць, што паны на зямлі ад самога Бога з'явіліся, што менавіта ён іх на свет пусціў.

Сама па сабе мясціна гэтая заўсёды вылучалася непаўторнасцю і прыгажосцю: з двух бакоў нібы абвіта двума азёрамі — Белым і Саро. Такі своеасаблівы кубачак атрымліваўся, толькі агромністых памераў.

Дык вось у гэтым месцы некалі пасяліліся два паны — Асінскі і Лазінскі. Пабудавалі прыгожыя палацы, загадалі пасадзіць дзівосныя, на манер замежных, паркі, і тады давай ужо гасцей кожны да сябе клікаць:

— Прыязджайце, госцейкі, паглядзіце, як мы тут жывём, ды разам з намі парадуйцеся, павесяліцеся. Колькі таго жыцця — прамільгне бліскавіцай і заўважыць не паспееце, таму трэба гуляць, калі магчымасць надараецца...

А ў паноў якая работа? Толькі піць ды гуляць. Вось і ехалі з усіх бакоў. Збіраліся, напрыклад, у панядзелак, то да наступнага панядзелка раз'ехацца не маглі. Не паспявалі адаспацца, а тут ужо іншы гаспадар да іх сваіх слуг дасылаў, каб да яго збіраліся. Так і цягнулася іхняе жыццё.

Асінскі з Лазінскім на першым часе таксама дружна жылі. Але аднаго разу па п'янай справе пасварыліся моцна, нават за валасы адзін аднаго хапалі, бо шаблі з похваў дастаць ужо сілы нeставала. Здарылася ўсё наступным чынам.

Сабраліся яны па-сяброўску, удваіх, у пана Лазінскага, у летняй альтанцы, якая стаяла прама ў Белым возеры. Сядзяць, гарэлку п'юць, на слуг па-ўсялякаму лаюцца. Тут пан Асінскі і кажа:

— Браце, глядзі, які шыпун прама на нас плыве.

— Дзе?

— Ды вунь жа.

Лазінскі вытрашчыў п'яныя вочы і доўга, не міргаючы, узіраўся. Потым адкінуў пядзяй валасы і прагугнявіў:

— Ніякі гэта не лебедзь.

— А хто ж тады?

— Звычайны гусак, прашу пана прабачыць.

— Быць такога не можа — гэта лебедзь-шыпун.

— А я кажу — гусак!

— Дык гусак жа меншы.

— А я кажу — гусак!

— Пан Лазінскі, нельга ж так... Вы спецыяльна так жартуеце?

— Не жартую я, шаноўны пан, а сцвярджаю, што гэта гусак!

— Я не дазволю так над сабой здзекавацца! — узвысіў голас госць.

— І п такіх здзекаў не дарую, — грозна мовіў гаспадар. — Гэта ж трэба, звычайнага гусака выдаваць за лебедзя ды яшчэ цэлую гадзіну ў гэтым мяне пераконваць! А можа, пан розніцы паміж імі не ведае? То тады я, прашу мяне прабачыць, растлумачыць магу!

— Растлумачце лепей уласнай пакаёўцы! А мне няма чаго зубы загаворваць!

— Ах так?!

— Так!

— То атрымайце, пане, першы доказ! — І Лазінскі адпусціў сябруку такога звонкага «ляшча», што ажно жабы спалохана квокнулі і скокнулі куды глыбей і далей ад месца спрэчкі, нібы адчувалі, што гэтым справа не скончыцца.

— А я без здачы не бяру! — гукнуў Асінскі, і ягоны кулак упіўся прама ў вялізны гаспадароў нос. Нешта чмякнула, хліпнула, і Лазінскі зароў не сваім голасам:

— То так?!

— Не іначай!

— Трымайся, пане!

— Трымаюся!

Пачалі яны адзін аднаго лупцаваць. Каб цверазейшыя былі, то шаблямі рэзаліся-калоліся б. А так — толькі кулакамі.

Паны б'юцца, а іхнія лёкаі сядзяць у карчах і спрачаюцца. Адзін кажа:

— Сёння мой твайго намне!

Другі не пагаджаецца:

— Не, бо твой п'янейшы!

— Зараз пабачым!

— Ды ўжо ж, пачакаем!

— Вось толькі, браце, каб потым гэта ўсё на нас не перакінулася. Яны паміж сабою паб'юцца, а потым давай нам у каршэнь сыпаць. Заўсёды ж так здаралася.

— Трэба хітрэйшым быць!
— А як гэта?
— Як? Табе скажы...
— Ды не цягні, бо зараз заверашчаць — нас пачнуць клікаць.
— Я заўсёды свайму пану кажу: «Вы, пане, сёння перамаглі. Так ужо таму Лазінскаму надавалі, што ён ледзьве жывы ляжыць. Вы так па-майстэрску яго лупцавалі, што ён вам, можа, ні разу добра і не трапіў». Пачуўшы такое, мой гаспадар не тое што не біў мяне ніколі, але нават залатоўкай трактаваў.
— Дзякуй табе, братка, за навуку.
— Ды якая там навука. Сваім розумам дапёр, бо даводзілася ж раней трываць... А так і ім добра, і нам няблага.
Сядзяць лёкаі, не вылазяць, а з той альтанкі ўжо не крыкі, и стогны нясуцца, але паны ўсё роўна не супакойваюцца.
— Бачыш ты, гонар не дазваляе каму першаму з бойкі выйсці. Цяпер яны не хутка разыдуцца.
— Распаўзуцца...
Калі зусім сціхлі крыкі і енкі, то лёкаі паціху падаліся да альтанкі. Тое, што яны ўбачылі, было для іх звычайным відовішчам: паны, моцна абняўшыся, ляжалі на падлозе і храплі так, што здавалася, з невялічкай будыніны сарвецца дах. Слугі расцягнулі сваіх гаспадароў, пераміргнуліся і сказалі:
— Ты ж глядзі, як дамаўляліся...
На наступны дзень яны нараспавядалі сваім панам такога, што тыя, кожны па-свойму, узвыў і запэўніў:
— Ды пасля такога я чуць пра яго не хачу! А яшчэ ў сябрах хадзіў! Як жа мне з суседам не пашанцавала!..
Прыкладна тое ж самае гаманіў і другі.
Так паны пачалі варагаваць. Потым, калі яны пастарэлі і перасталі гэтак біцца, то побач з іхнімі палацамі сталі сяліцца людзі. Спачатку жылі на хутарах, а на пачатку дваццатых гадоў ужо нашага стагоддзя хутаранцаў сталі зганяць у калгас. Так і ўзнікла вёска Холм. Сваю назву яна атрымала ад той мясцовасці, дзе знаходзілася, — навокал адны ўзгоркі, и лесу і не відаць. Так і засталося — Холм.

# ЦЯЛЕПЫ

Такім словам у нас завуць непрыстасаванага да жыцця чалавека, з якім увесь час што-небудзь здараецца. Старыя людзі, дый маладзейшыя таксама, звычайна кажуць:

— Ну і цялепа. Такі ўжо цяльпук, што трэба добра пашукаць, па свеце пахадзіўшы, каб другога такога ж знайсці. Такім ён і да смерці застанецца.

А ўпершыню, сцвярджаюць, слова гэтае выкарысталі ў адносінах да карчмара. Стаяла яго карчомка на раздарожжы. Месца, вядома ж, выгоднае — людзей заўсёды многа. Той гаспадар быў яўрэй, і звалі яго Меер.

Сям'ю меў такую вялікую, што, можа, і сам добра не ведаў, колькі ў яго дзяцей. Бегаюць — і няхай сабе бегаюць, такія ўжо клопаты ў дзяцей, і не толькі ў яўрэйскіх. Калі хто з вельмі цікаўных пытаўся: «Меер, а колькі ж у цябе дзяцей?» — то той, пачухаўшы сваю рыжую ўскудлачаную бародку, мовіў: «А хто ж іх, братка, ведае... У мяне бегаюць — значыцца, мае. Двара не шкода, няхай бегаюць».

Так і вырашаліся ўсе пытанні. Жонка Меерава, Сора, была поўнай супрацьлегласцю мужу — таўшчэразная, але надзіва ўвішная — усюды паспявала. Вось гэтая самая Сора і перахрысціла свайго ж мужа тым дзіўным словам — цялепа. Нешта прымусіла зрабіць гаспадара, а той пакуль з сялянамі пагаманіў, пакуль туды-сюды пахадзіў, то і дзень прайшоў. Вечарам, калі за стол паселі, жонка і пытаецца:

— Меер, а ці зрабіў ты тое, што я прасіла?

— А што ты прасіла?

— Ды няўжо не памятаеш? Як жа мне гэты цялепа надакучыў! Толькі і робіць, што целяпаецца па двары ды з сабакамі языкі чэша.

— З якімі сабакамі? Ты пра што? — абурыўся Меер.

— Маўчы, лепей маўчы, інакш дрэнна будзе!

— Ой, за што мне такі крык, — зацiснуў вушы Меер.

Ды гаспадыня не звяртала на ягоны манеўр увагі, гарлала так, быццам бы некага забілі і яна ўбіваецца з-за гэтага. Потым да яе крыку далучылі свае галасы дзеці, і Меер выскачыў на вуліцу.

— Што ж мне рабіць? Як далей жыць? Гэта ж кожны дзень на мяне крычыць, і горла ёй не запухне...

— Што, што ты сказаў? — нечакана пачуўся ззаду жончын голас.

Меер зніякавеў.

— Кажу... гэта... крычаць крычыш, [illegible] што мне рабіць — не гаворыш, — нарэшце выціснуў ён.

— Што рабіць, пытаешся?

— Так, трэба ж нешта рабіць. Што без працы сядзець? Хоць і вечар на дварэ, але працы заўсёды хапае.

— Ой, чуйце? Мой муж просіць, каб яму працу далі! — у голасе Соры чуліся і здзек, і крыўда.

— Кажы, што рабіць, ды [illegible] пабягу. Потым крычы.

— Прэч з вачэй, цялепа няшчасны. Бяры нашу казу ды папасві яе хоць пару гадзін. Зараз і камароў не будзе, і спёкі няма...

Згорбіўся Меер і паджгаў да хлеўчука. Адчыніў дзверы, вывеў казу і пагнаў пасвіць. Гоніць і аглядваецца, куды б далей загнаць, каб жончын крык не чуць. Адышоўся, можа, за вярсту, адпусціў казу, а сам сеў на купіну і ўзрадаваўся, што можа спакойна адпачыць ад хатняга вэрхалу. Сядзеў — і непрыкметна задрамаў, а потым лёг на бок і захроп.

Тым часам воўк падкраўся да казы і давай яе душыць. Тая, бедная, ва ўсе бакі кідаецца, крычыць: «Ме-е-е! Ме-е-е! Ме-е-е!»

Ды што было крычаць? Гаспадар так соладка спаў, нібы тры мяхі пшаніцы задарма недзе ўмыкнуў.

Раніцай толькі прадзёр вочы Меер — няма казы. Туды прабег, сюды — няма. Потым убачыў костачкі ды шэрстку і ўсё зразумеў. Ледзьве не заплакаў гаспадар. Ведаў, што яго дома чакае, ды і казы шкада было. Сеў ён на купіну і загараваў.

— Гэта ж яна, небарака, мяне на дапамогу клікала... Я і чуў, як яна крычала: «Меер! Меер!», але каб жа здагадаўся, што пагражае жывёліне, то ўмомант ускочыў бы, а так... Будзе мне цяпер...

Памаўчаў крыху і зноў пачаў:

— Але ж і разумная была... Гэта каб каму сказаў, што каза ведала, як мяне завуць, і сама нават звала, то ніхто не паверыў бы... А яна ж крычала: «Меер!» Яшчэ колькі часу ў мяне пажыла б — усіх родных ведала б па імёнах...

Пасядзеў, пасядзеў і пасунуўся дамоў. А там ужо Сора чакае:

— А дзе ж каза?

— Мяне самога ваўкі ледзьве не разарвалі, а яна пра казу пытаецца...

— Ды лепей бы яны цябе разарвалі, цялепа чортаў. Ад жывёліны хоць нейкі толк быў, а ад цябе?.. Ой, што ж мне рабіць з гэтым дурнем?..

Меер палічыў за лепшае адмаўчацца.

Прайшло дзён колькі, і Сора паслала мужа ў мястэчка, каб купіў усяго для карчмы, бо людзі прыходзяць — ім жа нешта трэба прадаваць, іначай для чаго ўсё гэта трымаць? Як выпраўляла — папярэдзіла:

— Глядзі ж, Меер, нічога ў гэты раз не выкінь...

— Ды не выкіну, не хвалюйся, ці ў першы раз еду? Сядзі спакойна дома, заўтра пад полудзень прыеду.

Запрог гаспадар коніка і паехаў. Добра ўсё атрымлівалася ў Меера: што трэба было — прадаў, чаго нестала — купіў, і, галоўнае, з вялікай выгодай. Падлічыў грошы і ажно засмяяўся.

— Во, [redacted] тая дурніца мяне папярэджвала. Хай бы яна ўсё так лоўка абкруціла. Яна яшчэ даведаецца, хто такі Меер.

Упакаваў акуратна ўсё і выбраўся ехаць дамоў. Раніца. Сонца яснае свеціць. Баяцца няма каго. Меер сеў на воз і пагнаў коніка. Усё добра ішло. Ужо амаль і прыехаў, але раптам з-пад моста выскачыў нейкі здаравенны чужынец і загарлаў:

— Давай грошы!

Меер моўчкі і аддаў яму ўсё, што выручыў.

Прыехаў карчмар дамоў, [redacted] там яго ўжо Сора з дзецьмі чакае.

— Ну што?

— Дарма ты, жонка, баялася, нічога я не выкінуў.

— Нічога не здарылася? — не паверыла тая.

— Чаму ж не, але нарваўся зух на зуха. Я еду, а з-пад моста рабаўнік: «Давай грошы!» А я яму: «На драбязу!»

Сора ашаломлена моргала і нічога не магла сказаць. Толькі потым яе прарвала:

— А дзе ж астатнія?

— Ой, ды яны ўсялякія для мяне драбяза...

Доўга чуліся ля карчмы праклёны і пагрозы, лаянка і стогны, не раз і не два згадвала Сора цялепу...

З таго часу і прыжылося гэтае слова ў нашых мясцінах, [redacted] потым і назвай вёскі стала. Вось адкуль Цялепы пайшлі.



# БРАСЛАЎ

У нейкім даўнім стагоддзі ўсё гэта адбывалася, нават і згадаць цяжка, у якім. Старыя людзі гамоняць, што папраўдзе ўсё так і было.

Жыў у нашых мясцінах багаты ці то пан, ці то князь. Казалі, столькі золата-каштоўнасцей меў, што тры самых вучаных чалавекі паўгода пералічвалі — не маглі да канца рады даць. Сям'я ў яго была невялікая: сам ды двое сыноў. Жонкі не было. Здарылася так, што неяк вырашыла яна паехаць да сяброўкі ў суседні маёнтак. Загадала закласці карэту шасцерыком і паехала. А коні нечага спалохаліся і панеслі. Нібы віхуры, ляцелі па палях ды дарогах і ўляцелі на вялікай хуткасці ў рэчку. І самі ператапіліся, і гаспадыню сваю на дно звалаклі зусім маладой.

З таго часу пан сам гадаваў дваіх сыноў, але здарылася з ім нешта дзіўнае — увесь час гаварыў з нябожчыцай жонкай. Каго толькі да яго ні прыводзілі, каго толькі ні клікалі — нічога не дапамагала. Толькі што — адразу звяртаўся да каго-небудзь:

— Ясенька... Ясенька... Што ж гэта ты не адгукаешся, не размаўляеш са мной?..

Толькі адзін чалавек знайшоў прычыну такіх паводзін — стары-стары падарожны, які, можа, ужо сто гадоў

размяняў. Пэўны час ён уважліва сачыў за памешчыкам, а потым адказаў на запытанне яго сыноў:

— Справа ў тым, шаноўныя панічы, што матуля ваншая не пахавана, як таго патрабуе звычай. Яе вада некуды ўбок, відаць, аднесла... Так было?

— Так, — пагадзіўся старэйшы, — матулю і сапраўды не пахавалі, бо не знайшлі, хоць амаль тыдзень мноства людзей шукала. Так яе і не пахавалі. Толькі хусцінку, якая за лазовы корч зачапілася, у дамавіну паклалі...

— Яе не пахавалі, таму душа не можа знайсці сабе прытулку, блукае дзесьці непадалёку, толькі вы гэтага не адчуваеце. А бацька перажывае і пакутуе...

— І колькі гэта будзе доўжыцца?

— Хто ж яго ведае... У некаторых выпадках з цягам часу праходзіць, а ў некаторых...

— Што ў некаторых?

— А ў некаторых — толькі са смерцю. Вось памрэ ваш бацька, тады ягоная душа матуліну знойдзе, і яны супакояцца разам, ужо ніколі не разлучацца. Відаць, кахалі моцна адзін аднаго, калі такое адбываецца ўжо колькі гадоў запар...

— Дзякуй табе, старэча. Скажы, якая з нас плата патрабуецца?

— Якая плата? Вы запыталіся — я адказаў. Гэта мала хто ведае. Мне ад дзеда перайшло.

— Усё роўна, чалавеча, вазьмі хоць пару залатовак. Па дарогах ходзіш, не заўсёды і перакусіш, а так смялей сябе адчуваць будзеш.

— Дзякуй вам вялікае.

Развітаўся падарожны і пайшоў далей, а сыны засталіся ў пакоях. Сядзяць і разважаюць, як ім далей быць, як бацьку зберагчы-ўратаваць, бо калі так і далей цягнуцца будзе, то ён ці рукі на сябе накладзе, ці знойдзе смерць якім іншым шляхам.

Звалі тых братоў Сцяпан ды Іван. Харошыя былі хлопцы, разумныя, шчырыя, нічога, што панскія дзеці. Многае ўмелі рабіць і многім спачувалі ды дапамагалі.

— Будзем сачыць за ім па чарзе, прыслухоўвацца да ягоных слоў — так будзем ведаць яго думкі. Хоць і надзейныя ў нас слугі, але яны ж бацьку чужыя. Дзе ці праспяць, ці адвернуцца — сам разумееш... — прапанаваў Іван.

— Слушныя словы, браце, — пагадзіўся Сцяпан, — я і сам пра гэта думаў. Так і зробім.

З самае раніцы за панам пачаў прыглядваць Іван. Яму нібыта цікава было хадзіць туды-сюды з бацькам, слухаць ягоныя блытаныя размовы, адказваць на не вельмі зразумелыя пытанні. Пасля полудня яго падмяніў Сцяпан. Памешчык, відаць, і не здагадваўся пра намер сыноў сачыць за ім.

Прайшло, можа, з месяц. Усё было ў парадку: і бацька навідавоку, і сыны задаволеныя.

Аднаго разу стары пан і кажа Сцяпану:

— Давай мы заўтра ў горад з'ездзім.

— Давай, тата, — пагадзіўся той. — Я з табой таксама праедуся, бо і мне даўно ўжо не даводзілася ў горадзе быць.

Сцяпан з бацькам і яшчэ з дзесятак слуг пачалі збірацца, а раніцай, жартуючы ды смеючыся, развіталіся з Іванам. Ніхто і не падумаў, што апошні раз усе разам стаяць, гамоняць, што да раніцы наступнага дня многае пераменіцца ў іхніх лёсах. Каб жа ведалі наперад, што адбудзецца, то многае па-іншаму зрабілі б. А так — паселі бацька са Сцяпанам у экіпаж, лёкаі ды слугі свае месцы занялі, і паімчалі коні, за якіх пару хвілін зніклі з вачэй.

Іван пастаяў крыху, памеркаваў нешта і пайшоў да палаца. Там паклікаў аканома і пачаў будзённымі справамі займацца. Не прывык чалавек без працы сядзець. Ды і дзе тут пасядзіш, калі ўладанні вялікія, за імі ж вока ды вока трэба.

А коні імчалі па роўнай, убітай дарозе, толькі пасвістваў вецер за сценамі карэты ды бацька задаволена паціраў рукі. Сцяпан глядзеў на яго і бачыў, як той перамяніўся на вачах: то быў задуменны, прыбіты горам, а тут неяк адразу перайначыўся.

Лёкай нахіліўся да акенца і спытаўся:

— Пане, наперадзе рэчка, ці будзем спыняцца?

У іхняй сям'і ўжо ўвайшло ў звычку: калі пад'язджалі да рэчкі, то спыняліся на нейкую гадзіну, каб паглядзець, паплаваць, пасядзець на ўлонні прыроды.

— Ну што, сынок, перакусім? Пасядзім?

— А чаму б і не, тата?

— Тады спыняемся.

Надвор'е стаяла цудоўнае, навокал так хораша і звонка спявалі птушкі, што здавалася, яны стараліся спецыяльна для нечаканых гасцей.

Слугі разаслалі посцілку, паклалі на яе ўсялякія прысмакі і віны. Бацька з сынам выпілі, закусілі і ляглі на траве. Бацька, нечакана спахмурнеўшы, звярнуўся да Сцяпана:

— Давай, можа, паплаваем? Памятаеш, як у дзяцінстве ты любіў са мной навыперадкі?

— Памятаю.

— Дык давай?

— Часу ж многа забавім.

— Мы ж не на базар гандляваць едзем, калі заедзем — тады і добра.

— Тады можна крыху і паплаваць.

Кінуліся яны ў ваду і паплылі крыху ўбок ад тае мясціны, дзе звычайна коні рэчку перабродзілі. Плывуць, размаўляюць, жартуюць, адзін аднаго здаганяючы. І тут бацька прамовіў:

— Здаецца, і спакойная рачулка, а бачыш, як вада круціць... Адчуваеш?..

— Ажно ногі нечага зводзіць, — адказаў Сцяпан.

— То плыві да берага, а я яшчэ крыху пабоўтаюся.

Сцяпан вылез на траву і прылёг, каб аддыхацца ды выкруціць бялізну. Нечакана ззаду пачулася адчайнае:

— Сынок! Сынок! Ратуй!..

Акінуўся Сцяпан — а бацька ваду ўжо глытае і рукамі махае, нібы плаваць не ўмее. Да яго ўсяго нейкія трычатыры дзесяткі крокаў было. Нягледзячы на тое, што ў яго ногі скурчвала і яму нельга было лезці ў ваду, сын ірвануўся, але адразу ж упаў ля самага берага. Тады загарлаў:

— Слугі! Слугі! Ратуйце бацьку!

Тых не трэба было клікаць — яны ўжо ляцелі да месца здарэння хто з вяроўкай, хто распранаўся. Праз імгненне слугі ўжо бохаліся ў вадзе, але... вада круціла старым панам, як хацела. Ён то паказваўся на паверхні, то, глытаючы ваду, спрабаваў нешта крычаць. Апошняе, што пачуў Сцяпан, які нібы акамянеў ля берага, было:

— Б-р-а... с-л-а-ў-л...

Так крыкнуў апошні раз і пайшоў каменем на дно, болей на паверхні не паказваўся. Слугі нyралі, чэрпалі рукамі дно, але пана не знайшлі. Стары лёкай, стоячы на беразе, размазваючы слёзы, ціха сказаў:

— Вада знесла... Умомант знесла... Тут жа цячэнне шалёнае, віры па ўсёй рацэ круцяць ды крыніцы б'юць... Яго ўжо, можа, на паўвярсты аднесла... Дарма ўсё...

Сцяпан, гледзячы на змораных людзей, якія ўжо самі чапляліся рукамі за лазовыя галінкі, каб не пайсці на дно, прамовіў:

— Вылазьце, адпачніце, і будзем шукаць цела бацькі. Не пакіну яго рацэ. Хопіць ёй таго, што некалі матулю забрала. Ці мала ёй такой ахвяры?..

Адпачылі людзі і ўжо разам са Сцяпанам палезлі ў ваду. За гэты час нават паспелі з'ездзіць да бліжэйшай вёсачкі і ўзялі там вялікі невад. Раскінулі яго на ўсю шырыню і пацягнулі. З надзеяй глядзеў паніч, як, напружваючы рукі, цягнулі слугі тоўстыя вяроўкі, спадзяваўся, што хоць бацьку аддасць рэчка. Толькі не спраўдзіліся ягоныя спадзяванні. Цэлы тыдзень каламуцілі ваду, а старога пана так і не знайшлі...

Маркотным вяртаўся Сцяпан да маёнтка. Не ведаў, як скажа брату, што не ўпільнаваў бацьку, як гляне яму ў вочы. Слугі адчувалі настрой гаспадара, таму нават не пазіралі на яго, каб не вярэдзіць лішні раз хлапчыне душу.

Калі да маёнтка заставалася ўсяго нейкая пара вёрстаў, то на дарогу, прама перад коньмі, выскачыў скрываўлены чалавек:

— Пане, пане, бяда!..

Невядома было, да каго ён звяртаўся, але, мабыць, да старога пана, бо думаў, што менавіта ён сядзіць у экіпажы, не ведаў, што адбылося на рэчцы.

Сцяпан уздрыгануўся:

— Што за бяда яшчэ?

Спыніліся і ўсе кінуліся да чалавека, які ўжо бездапаможна ляжаў у дарожным пыле.

— Вады, дайце яму вады, — першым апамятаўся паніч.

Халодная вада дапамагла, і паранены адплюшчыў вочы, але позірк быў замутнёны.

— Што здарылася? Гавары.

— Бяда, пане... Як толькі вы паехалі ў горад са старым панам, той жа ноччу на маёнтак напалі разбойнікі. З тае самае банды, што вось ужо колькі гадоў гаспадарыць у мясцовых лясах. Нікому не давалі літасці...

— З братам што? З Іванам?

— Пане...

— Што? Не цягні...

— Калі яны наскочылі, то, відаць, не чакалі, што нехта будзе ім супраціўляцца. А тут усе слугі ды паніч біліся. Не аднаго разбойніка ўхайдокалі, але і нашых пад корань усіх пусцілі...

— А...

— Яго таксама не пашкадавалі. Паніч літасці і не прасіў, толькі ўсё імкнуўся твар выцерці, бо ў бойцы яму галаву прабілі.

— Божачка, — застагнаў Сцяпан, — за што ж гэта ўсё адразу на мяне навалілася?..

— Яны паніча на тым дубку павесілі, што ваш бацька некалі сам пасадзіў.

У адчаі Сцяпан толькі заскрыпеў зубамі ды глуха застагнаў. Зразумеў хлапчына, што застаўся на белым свеце зусім адзін.

Доўга так стаялі прама пасярод дарогі, пакуль стары лёкай не адважыўся дакрануцца да Сцяпанавага плечука:

— Паніч, можа, далей паедзем? Трэба ж усё роўна дамоў дабрацца. Як бы там горка ні было, але ж нічога не пераменіш...

Ад ласкавага, спакойнага голасу слугі Сцяпану стала крыху лягчэй, і ён прашаптаў:

— Ведама ж, паехалі да палаца. Там усё трэба зараз да ладу давесці... Там жа... зноў гора. Чаму на мяне аднаго гэтулькі бяды абрынулася?..

Коней ужо не гналі. Ледзьве круціліся колы ў экіпажы, ледзьве перастаўлялі ногі жывёліны. Чаго было да бяды спяшацца? Загінуўшым не дапаможаш, а малады паніч і так ледзьве дыхаў. Ці вытрымае ён такі ўдар?

Неўзабаве да вушэй слуг і Сцяпана данеслася шматлікае галашэнне. Паранены растлумачыў:

— Гэта жонкі ды родныя загінуўшых галосяць. Можа, загадаць, каб цішэй вылі?

— А яны што, чалавеча, не людзі? Як служыць ды паміраць — то нароўні з усімі, а як у магілу праваджаць — дык і слёз ліць не трэба?

— Я ж хацеў як лепей...

— Лепей ужо тое, што над імі хоць паплачуць, а над маім братам ніхто не зойдзецца ў адчайным крыку, ніхто не стане рваць валасы на галаве ды прасіць, каб і яго ўкінулі разам з загінуўшым у магілу. Ні жонкі, ні дзяцей не паспеў завесці. Гэткі малады — і ў магілу...

— За што той вылюдак загадаў усіх перабіць?.. — нібы ў самога сябе запытаўся здаравенны слуга.

— Крыві яму мала было... Мала папіў, мала сірот па белым свеце пусціў, вось і святкаваў, як той крумкач, што да мерцвячыны дарываецца, — адказаў Сцяпан. — Але

гэта, хлопцы, апошні ягоны баль. З-пад зямлі яго дастану, а за Івана адпомшчу...

— Разам помсціць будзем. Ён вунь колькі нашых паклаў, а там жа то брат, то бацька, то дзядзька кагосьці з жывых...

— Дзякуй вам, хлопцы, дзякуй, — гэтыя словы Сцяпан вымавіў, ужо вылазячы з экіпажа і кіруючы туды, дзе галасілі жанчыны і дзеці.

Нібы скамянеў тварам паніч, ніводны мускул не таргануўся, ніводная слязінка не скацілася па шчацэ, толькі кулакі, збялелыя, моцна сціснутыя кулакі выдавалі, як яму цяжка, як яму баліць.

Яшчэ адна падзея адбылася ў той вечар. Да палаца дабраўся той самы стары падарожны, які некалі тлумачыў, чаму гэтак дрэнна стала іхняму бацьку. Як даведаўся, што тут адбылося, то папрасіў слуг падвесці яго да гаспадара.

— А чаго сам не падыдзеш? Вунь ён сядзіць, толькі ўлічы, што чалавеку...

— Сам ведаю... Ведаю...

Стары кашлянуў, каб звярнуць на сябе ўвагу. Паніч, здавалася, і не глянуў на яго, але прамовіў:

— А, гэта ты, старэча... Бачыш, што ў нас робіцца?..

Той змоўчаў, а паніч працягваў:

— Ты, відаць, не ведаеш пра бацьку.

— Ведаю ўсё, пане. Мне што людзі сказалі, а пра што сам даўмеўся...

— Такое страшнае пакаранне на наш дом абрынулася, такое гора...

— На ўсё воля Божая, пане.

— Як жа мне цяпер быць, дзядуля?

— Найперш трэба вашага брата пахаваць.

— Так, я ўжо загадаў падрыхтаваць усё належным чынам...

— Толькі вы яго не тут хавайце, пане.

— Чаму?

— Яго трэба пахаваць там, на узгорачку, ля самай рэчкі, дзе некалі ваша матуля, а цяпер во і бацька ўтапіліся. Іхнія душы сустрэнуцца і будуць разам жыць...

— Душы? Жыць? А што далей?

— Далей, пане, вы ж пакляліся адпомсціць разбойнікам.

— Я ад сваіх слоў не адмаўляюся.

— І не трэба. Я вам дапамагу, падкажу, дзе іх прасцей знайсці.

— Добра. Толькі папрашу цябе болей не ісці нікуды... З табой мне лягчэй на душы...

— Воля ваша, пане, магу і тут свой век дажыць, не так ужо і многа мне засталося...

— Ведаеш, як бацька тапіўся, то нейкія словы незразумелыя крычаў...

— Якія?

— Нешта падобнае на б-р-а-с-л-а-у...

— Відаць, пане, ваш бацька адчуваў, што дома не ўсё добра адбываецца, а можа, заклікаў вас сачыць за малодшым братам. Хацеў нагадаць у свой апошні момант, што ваш брат слаўны... Добры чалавек, адным словам.

— У апошні момант і то не пра сябе думаў, — мармытнуў Сцяпан і надоўга задумаўся.

Як раіў стары падарожны, так усё і зрабілі. Пахавалі Івана на высокім грудку ля ракі, а над магілай каплічку невысокую пабудавалі.

Пасля пахавання сабраў Сцяпан сваіх верных людзей і сказаў:

— Ну што, сябры. Хто баіцца за сваё жыццё — адразу гаварыце, бо пачнём паляваць на тых злыдняў — бойка на смерць пойдзе. Глядзіце, адразу папярэджваю.

Але ніхто не захацеў пакінуць свайго гаспадара, усе дружна стаялі, плячо да пляча.

Праўду казаў стары падарожны. Ён і сапраўды ведаў, дзе збіраюцца, дзе на ноч застаюцца ліхія людзі. Некалькі разоў ён удала наводзіў Сцяпана з дружынай на разбойнікаў, але тыя, пакідаючы забітых і параненых, уцякалі. Карысталіся то цемрай, то лепшым веданнем патаемных сцяжынак.

І ўсё ж аднаго разу іх заспелі. Ужо і бітва была! Многія галовы свае паклалі, але завадатара бандытаў схапілі жывым. Загадаў Сцяпан везці яго да магілы брата, і там павесілі на крывой бярэзіне.

Тое месца, дзе пахавалі разбойніка, стала ажно чорным. Людзі казалі — што ад крыві нявіннай, і пачала расці на ім «воўчая ягада». Тое, дзе Іван вечным сном спаў, наадварот, зелянела буйна. Мясцовыя жыхары пазней яго празвалі Братслаў, ад слоў «брату слаў». Значыцца, Сцяпан Іванаву магілку высцілаў, вось таму лёгка і ляжалася. Пазней засталося Браслаў.

# ВІДЗЫ

У невялічкім мястэчку, якое даўней стаяла якраз на гэтым месцы, дзе і сённяшні гарадскі пасёлак, пасялілася маладая сям'я. А раней жа як было? Жыць пачыналі звычайна на той зямлі, якую давалі на пасаг маладой, ці якую бацькі жаніха ад сваёй адразалі, або калі ўся гэтая зямля злучалася недзе ў адзін ладны кавалак. На ім ставілі хатку, гаспадарчыя будынкі, і новая сям'я пускала свае карані. Так цягнулася са стагоддзя ў стагоддзе. Не быў выключэннем і гэты выпадак.

Маладыя, Ева і Змітрок, сталі жыць побач з ягонымі бацькамі, амаль што падворак у падворак. Маладыя са старымі, асабліва нявестка са свякроўкай ці зяць з цешчай, заўсёды не ўжываліся — таму шмат доказаў і зараз.

Вось аднаго разу пачалі старыя жанчыны маладых абгаворваць. А сядзелі якраз ля царквы. Гаманілі і не заўважылі, як на крык перайшлі. Адны крычалі, што маладыя зусім благія сталі, а іншыя сцвярджалі, што гэткія ж, як і самі ў маладосці. Бабулькі гатовы былі за валасы ўхапіцца. Можа, да гэтага справа і дайшла б, але стрымлівала тое, што царква побач ды народу шмат назбіралася. На іх ужо пачалі ўвагу звяртаць. Найбольш кемлівыя сталі супакойваць сяброўак:

— Цішэй, цішэй, людзі ж глядзяць... Знайшлі з-за чаго спрачацца. Як яно ёсць — так ужо і будзе, сваімі крыкамі нічога не перайначыце, давайце спакойна размаўляць.

Неяк усё ж супакоіліся.

— Паслухай, Гапка, — звярнуліся тады да Еўчынай свякроўкі. — А што гэта ты сваю маладзіцу аблайваеш? Хіба яна ў цябе такая ўжо благая?

— Ды... — адразу замялася тая.

— Вось бачыш, — і ўсе навокал засмяяліся.

Потым нехта зноў запытаўся:

— То, можа, ужо і добрая стала?

На гэтае пытанне Гапка бойка адрэагавала:

— Якая ж яна добрая? Год пражыла, а ніводнага разу руку не пацалавала...

Раздаўся такі рогат, што людзі паблізу царквы паволі пасунуліся да старых, каб даведацца, у чым там справа. Толькі дарма — жанчыны паволі разыходзіліся ў розныя бакі.

Як бы там ні было, а паміж сабой Ева і Змітрок жылі дружна. Ды і Гапка, нягледзячы на тое, што мела востры

язык, сваіх ніколі ў крыўду не давала і дапамагала маладой нявестцы, чым магла. А як убачыла, што тая ўжо цяжарная ходзіць, то і ўвогуле перайначылася: стала родненькай і каханенькай клікаць, іншых і слоў не знаходзіла.

Нібы заклінаючы, Гапка прасіла маладую жанчыну:

— Ты мне ўнучку, унучку прынясі. Хлопца потым, а мне дзяўчынку давай.

— Хто ўжо будзе, мама, — сарамліва адказвала Ева.

— Толькі ўнучку давай, іншага і чуць не жадаю.

— Пагаджайся, жонка, на ўнучку, — смеючыся, дадаваў ахвоты старой Змітрок.

Так, жартуючы, і жылі, здзіўляючыся, чаго гэта раней нейкія спрэчкі заводзіліся ды непаразуменні ўсялякія? Можна ж жыць спакойна, мінаючы ўсё гэта.

Тым часам надышла пара радзін. Ева паціху сказала пра гэта Гапцы. Тая расчулена ўзмахнула рукамі:

— Не палохайся, я паклічу сваю лепшую сяброўку. Мы з ёю ого колькі дзяцей у маладзіц прынялі... Усю ваколіцу абслугоўваем, не палохайся.

— Я і не палохаюся, але неяк не па сабе, — апраўдвалася нявестка.

— Ведама, не па сабе, у цябе ж гэта першае дзіцятка.

Нарадзіла Ева, на радасць Гапцы, дзяўчынку. Ды чорнае ліха-гора заглянула ў хаціну — дачушка нарадзілася невідушчай. Убівалася маладая матуля, заломвала рукі Гапка, стагнала Гапчына сяброўка, не знаходзіў сабе месца Змітрок. Ды што ты крыкам ці плачам пераменіш? Калі ўжо наплакаліся да такога, што ледзьве здужалі гаварыць, то Гапка мовіла:

— Што ўжо, дачушка, зробіш? Нічога не адыдзе назад. Наша крывіначка — мы яе і гадаваць будзем, якой бы ні была. Будуць у цябе яшчэ дзеці, і, дасць Бог, з тымі ўсё нармальна атрымаецца...

— Матулечка, дык гэта ж мая першая дачушка, і так вось трэба было зрабіцца...

— Супакойся, супакойся, родненькая, набірайся сілкі.

Так і змірыліся з бядою. Змірыцца-то змірыліся, але ўсё роўна шукалі магчымасці вылечыць дзіця. Да каго толькі ні звярталіся за дапамогай: да знахараў, варажбітоў, да старых людзей — нічога не дапамагала, дзяўчынка па-ранейшаму не бачыла.

А час ішоў, і ўжо не адзін, а можа, тры ці пяць гадоў мінула з дня нараджэння. Старая Гапка дык тая дзень і ноч гатова была з унучкай гаманіць, адказваць на ўсялякія яе пытанні. Тлумачыла, пераконвала, даказвала, а калі нешта не магла давесці, то пачынала плакаць у рукаў і ціхенька шаптала:

— Эх, мая ты ўнучачка, мая ты даражэнькая. Была б ты відушчай, то ўсё па-іншаму стала б. Ты ж не ведаеш, як гэта ўсё выглядае, таму і расказаць табе надзвычай цяжка.

Старая таксама з усяго наваколля прыводзіла ў хаціну людзей, якія ведалі хоць нейкія замовы ды шэпты. Але ніякія словы не вярталі ўнучцы зрок.

Неяк, зусім выпадкова, папрасіўся да Евы са Змітраком падарожны пераначаваць.

— Пусціце, — кажа, — бо мне яшчэ таптаць сцяжынкі-шляхі не адзін дзень, а на вуліцы ці пад кустом дзе начаваць мне ўжо ўзрост і здароўе не дазваляюць.

— Чаму ж не, чалавеча, — адазваліся гаспадары, — заходзь. Хата ў нас прасторная, на шматлікую сям'ю будавалі, толькі вось гора ў нас ужо не першы дзень жыве...

— А што здарылася? Можа, я вам змагу дапамагчы?

— Ды, відаць, добры чалавек, нам ужо ніхто не дапаможа, бо да каго мы толькі ні звярталіся, хто толькі сюды ні прыходзіў — усе ў бяссіллі апускалі рукі.

— Усё роўна паведайце мне, — настойліва прасіў вандроўнік.

— Слухайце, калі ёсць такая ахвота, — азваўся Змітрок і ўсё чыста расказаў.

— Так, справа цяжкая, сапраўды цяжкая, — выдыхнуў незнаёмец. — Але некалі я чуў, што ў мястэчку, не так далёка ад вашай хаціны, ёсць невялікае возера. І вада гэтага возера быццам бы не простая, а цудадзейная. Калі паліць яе ці памачыць на хворае месца, то чалавек адразу становіцца здаровым. Толькі пры адзінай умове: хворага трэба прывезці ці прынесці непасрэдна на возера.

— Дзякуй, чалавеча. Я ўжо і не веру, але ўсё роўна паспрабуем. Вось пераначуем, а заўтра з раніцы і паедзем з дачушкай да возера.

Раніцай, ледзьве развіднела, Змітрок запрог каня, пасадзіў дачушку, і паехалі яны да названага возера. Зачэрпнуў ён там вады, і малая прамыла ёю вочкі. Па дарозе дадому, праязджаючы нейкую там мясціну, дачушка раптоўна закрычала:

— Тата, тата! Я віджу! Віджу!

Так і з'явілася назва спачатку Віджы, а потым, з цягам часу, мястэчка сталі называць Відзы.

Як сцвярджаюць карэнныя жыхары пасёлка, узнікла назва ў той час, калі частка Беларусі знаходзілася пад уладай Польшчы і пераважная большасць насельніцтва размаўляла па-польску. Сама назва гаворыць аб гэтым.

## АХРЭМАЎЦЫ

Яшчэ пры паншчыне гэта было, у даўнія гады, калі тут такія прыгожыя ды непаўторныя лясы стаялі, што, здавалася, днямі сядзеў бы ды імі захапляўся. А звяр'я ўсялякага, птушак навокал бегала і лётала незлічона.

Вёска наша тады таксама вялікая была. Людзі не надта заможна жылі, бо на памешчыка даводзілася працаваць чатыры дні ў тыдзень, і гэта калі добры пан, а калі які дзікаваты ды ліхі, то і ўсе шэсць патрабаваў на сябе гарбаціцца. Вось і мяркуйце, як там весці ўласныя справы, калі амаль увесь тыдзень на іншага гаспадара гнуцца даводзіцца.

Але людзі і ў гэтай сітуацыі не надта гаравалі і плакаліся на лёс, прызвычаіліся. Дзе б ні працавалі, а ўсё роўна песні гучалі, смех раздаваўся. Жывыя ж пра жывое думаюць.

Так і жылі нашы далёкія продкі — дзе плакалі, але найболей стараліся смяяцца, бо адчувалі, што смех жыццё падаўжае. Як бы там ні было, але маглі і перад страхам смяротнай кары зарагатаць. Праўда, здараліся выпадкі, калі і смех не дапамагаў. Адзін з іх, надзвычай трагічны, і назву вёсцы даў.

Невядома чаму, так здарылася і з-за чаго атрымалася, але на паселішча наслаў Усявышні нейкую незразумелую кару. Людзі Бога шанавалі, маліліся яму старанна, ніколі сваёй увагай не абыходзілі, а ён ім вось чым аддзячыў.

Убілася ў тыя страшныя дні ў вёску халера, не пры вас, даражэнькія, пра гэтую заразу згадваючы, каб яна на сухі лес ішла-паўзла, каб яна на гнілыя балоты кіравала ды на асінавыя пні там узбіралася. Як загаспадарыла хвароба, то людзі сем'ямі пачалі хварэць. Каб жа яшчэ ведалі, як ратавацца, дык ратаваліся б, а то хто малітвы, хто замовы шэпча, а смерць ужо, нібы касою, усіх падрад косіць. Спачатку родныя па памерлых галасілі,

і потым сціхлі, бо сілы нават на гэта неставала. Некаторых і не хавалі, асабліва там, дзе сем'і ўпокат ляжалі.

А жыў тут у нас Ахрэм. Здаравенны такі дзядзька быў, можа, нават роўны з мядзведзем і па росце, і па сіле. І вясялун — то пашукаць, і ці знойдзеш. Дык вось гэты Ахрэм, калі ўбачыў, што навокал адбываецца, то забараніў сваім дзецям і жонцы нават на падворак выходзіць. Усё па гаспадарцы рабіў сам, корпаўся ў будынінах, каб справа не стаяла. Жывёлу пасвіцца выпускаў тут жа, за хлеў, на абгароджаны лужок.

Тое-сёе рабіў гаспадар і думаў, як зберагчы сям'ю. І дадумаўся — пачаў заварваць у вялікім гаршку ядловец і прымушаў піць. Калі нехта з дзяцей пачынаў скардзіцца, што горкі, што ў роце непрыемна, то бацька злосна перабіваў:

— Можа, на могілках саладзей будзе?.. Не хочаш піць — хвароба праз пару дзён прычэпіцца, і ніхто не выратуе, ніхто не дапаможа...

І малыя слухаліся, пілі той, такі непрыемны на пах і на смак, узвар.

А вяскоўцы ўсё хавалі памерлых. Ды толькі не надоўга здаравейшых хапіла — павыміралі ўсе праз нейкі месяц.

Але ж і хвароба адступала. Ахрэм калі зразумеў гэта, то пачаў гаспадарыць: паліў пустыя будынкі, адганяў здзічэлых жывёлін, хаваў на могілках трупы вяскоўцаў і ўсюды, дзе толькі можна было, паліў ядловец, каб ягоны дух адганяў прэч халеру.

Усё дагледзеў селянін, усё папрыбіраў, і з ягонай сям'і ніхто не захварэў. Паступова тое месца, дзе ён застаўся жыць з жонкай і дзецьмі, назвалі Ахрэмаўцы. Так да нашага часу і засталося.

## ДУДАЛІ

Даўно гэта было, яшчэ спрадвеку. У адной вёсцы жылі тры родныя браты. Прыгожыя хлопцы былі, здаровыя, дружныя, да працы неабыякавыя. Іншыя і вялікай грамадой столькі не адолелі б, як яны толькі ўтрох. Звалі іх Янка, Сцяпанка і Рыгор.

Выгадаваў іх стары дзед, бо так здарылася, што бацькі іхнія памёрлі, калі яны зусім малыя былі. Дык той стары ім усіх родных падмяняў.

І навучыў ён сваіх унукаў на дудачцы іграць. Пасядуць дзе-небудзь усе разам, дзед ім і кажа, пасмейваючыся:

— Гуляйце, хлопцы, спявайце, пакуль не позна.

— А чаго гэта «не позна»? — заўсёды чапляўся Янка.

— Не будзеш жа за дзедавай спінай усё жыццё хавацца.

— І не збіраюся. Яшчэ пару гадоў падрасту і пачну сам на хлеб зарабляць, табе, дзядуля, дапамагаць.

— Ды я не тое, унучак, меў на ўвазе.

— А што?

— Ды прыйдзе час, ажэнішся, а там то жонка захамутае, то, барані Божа, ліхая цешча трапіцца і ўведаеш, пачым фунт ліха...

— Усё палохаеш нас, дзядуля. Усе жэняцца і не паміраюць ад гэтага. Каб ужо так дрэнна было, то стагналі б ды на могілках месца для нябожчыкаў не было б, — умешваўся, падтрымліваючы старэйшага брата, Сцяпанка.

— Яно-то так, браце, але ж не толькі стогнуць, хаваюцца, а і спяваюць...

— А што?

Едзе прымак, едзе прымак,
У дудачку свішча.
Хавай, цешча, хлеб і сала,
Едзе прымачышча!..

Унукі весела рагаталі з такой вясёлай, як ім тады здавалася, песні і крычалі:

— Нічога, як-небудзь і мы выжывем!..

Стары дзед і сам разумеў, што рана яшчэ над гэтым хлопцам задумвацца, таму нечакана прапаноўваў:

— Давайце, унучкі, лепей на дудачках сыграем. На розныя галасы...

І пачыналася... Хто іх чуў у той момант, абавязкова спыняўся і казаў:

— Гэта ж трэба, так іграюць! І на чым?! На звычайных дудачках! А песню так жаласна выцягваюць, што ажно за сэрца бярэ...

Так і жылі хлопцы, так і сталелі, з дзедам размаўляючы, да яго за парадамі ўсялякімі звяртаючыся і за дапамогаю, калі нешта не атрымлівалася.

Год за годам — і выраслі ўнукі. Выцягнуліся, што тыя гонкія дубкі. Неяк сталі перад дзедам і заявілі:

— Усё, родненькі, цяпер працаваць толькі мы будзем, а ты заставайся за хатніка: пільнуй, вартуй, глядзі за хатай ды агародам.

Працавалі, як мы ўжо адзначалі, браты шчыра, ды жыццё сваё бярэ. Нейк незаўважна побач з іхнім дваром у суседскай сям'і вырасла дзяўчына. Звалі яе Кацярына. Калі разам у дзяцінстве бегалі ды ў гульні гулялі, то і ўвагі на яе не звярталі, а калі агледзеліся, то заўважылі, што сапраўдная прыгажуня вырасла. Кожны з братоў не супраць быў з ёю словам-другім перакінуцца ці на вячорках падурэць, але суседка не дазваляла ім надта вольна сябе паводзіць. На пасёдках дзе-небудзь з іншымі смяецца, спявае, а на братоў і ўвагі не звяртае. Хіба што калі паскакаць захоча, то нібыта без ахвоты прамовіць, на іх не гледзячы:

— Хоць бы хто пайграць здагадаўся, а то ўжо ногі, седзячы, замлелі, дамоў не дабяруся...

Як пойдзе таньчыць, дык і старыя і малыя за ёю цікуюць. Старыя перамірґваюцца, сябе маладымі прыгадваюць ды мараць нявестку гэткую ж увішную і спраўную займець, а хлопцы мараць, каб на каторага з іх Кацярына ўвагу звярнула.

І браты так разважалі. Спачатку самы старэйшы, Янка, сказаў малодшым:

— Мая Кацярына будзе, толькі мая.

Але прайшоў, можа, тыдзень, і апусціў Янка галаву.

— У чым справа, браце? — дапытваліся браты.

— Ды сказала, што я з беднай сям'і. Такой абразы і знявагі нікому не дарую, і ёй таксама. Знайду сабе дзяўчыну, але да яе болей не падыду.

Другім Сцяпанка да Кацярыны пачаў падсыпацца. Як толькі ні стараўся — і гэтак выгінаўся, і гэтак пацвельваўся, каб дзяўчына прыхільна на яго глянула, ды дзе там. Праўда, сярэдні брат, можа, з месяц за ёю хадзіў. Бывала, прыйдзе дамоў пад раніцу, злосны, што той чорт, а дзед з печы кірхае:

— Што гэта ты, Сцяпанка, рана сёння заявіўся? Ці то працы ў нявесткі ніякай не было?..

Браты яшчэ болей маку падсыпалі:

— Ды не, дзеду, ён ужо ўсё парабіў, а парабіў — то яна яго дамоў і адправіла. Што болей можа наш Сцяпанка рабіць?..

Выбух рогату ў хаце палохаў нават пеўня на двары: ён ніяк не мог дацяміць, ці не праспаў той час, калі трэба было трэці раз кукарэкнуць. Сцяпан спачатку злаваўся, а потым і сам пачынаў жартаваць.

Хадзіў-хадзіў, а так нічога і не выхадзіў. Аднаго разу

прысунуўся і сам, ад парога, каб родныя не паспелі і слова вымавіць, паведаміў:

— Сёння я, хлопцы, нават пагаварыў з Кацярынкаю...

— Што ты кажаш?.. — здзівіўся дзед.

— Цікава, і што ж яна табе сказала? — надзвычай даверлівым і ласкавым голасам спытаўся Янка, штурхаючы локцем Рыгора.

— Ды чаго там цікавага... Сказала, што з такім носам, як у мяне, толькі са старой Капурыхай гуляць (у іхняй вёсцы была такая бабуля).

— Во пара была б... Ніхто і слова супраць не сказаў бы, — весела гіргітнуў дзед.

— Ага, як выйшлі б на людзі, то ўсе з рогату пападалі б і гаварыць ніхто не мог бы, — дадаў Янка.

Некаторы час кпіны несліся з усіх бакоў, але потым іх прыпыніў дзед:

— Ну, хлопцы, вы ўжо да Кацярыны схадзілі і атрымалі ад варот паварот. Цяпер Рыгорава чарга.

— Не, не пайду я да яе. Табе, дзеду, трэба, ты і хадзі, а я пачакаю якую іншую.

— Яна цябе адшые — я і сапраўды пайду, каб паказаць вам, падшыванцам, як да дзевак у мае гады хадзілі...

— На кульбах, — з'едліва падаў голас ажыўшы Сцяпанка.

Так пагаманілі, і, здавалася, Кацярына прапала для іхняй сям'і. Ды дзяўчына сама братоў зачапіла. Дакладней, зачапіла малодшага, Рыгора, які і не збіраўся да яе хадзіць. Неяк пасля вячорак браты прыпусцілі за дзяўчатамі, а Рыгор паклыпаў дадому.

— Можа, правёў бы, сусед? — пачуўся голас Кацярыны.

— Мне браты казалі, што гэтая справа дрэнна канчаецца...

— То з імі, — засмяялася дзяўчына, — а з табой, можа, і па-іншаму ўсё атрымаецца...

Так пажартавалі адзін раз, пастаялі другім разам, а потым і прыкіпелі адно да аднаго. Не прайшло і месяца, як Рыгор у хаце заявіў:

— Дзеду, хай браты як хочуць, а я жаніцца буду!

— На кім жа гэта? — весела запытаўся Янка.

— На Кацярынцы! — бойка прагучала ў адказ.

— А яна згодная? — падаў голас Сцяпанка.

— Яна і падбіла на гэта!

— Вось так, хлопцы, нашы да дзевак хадзілі, — цвёрда вымавіў дзед, злазячы з печы.

Калі гулялі вяселле, то гэтулькі гасцей было, што ні ў кога раней столькі не збіралася. Маладыя сядзелі ў куце і ні на каго не звярталі ўвагі. Дзед назіраў за імі, а потым вымавіў, як яму падалося, ціха, ды толькі не з яго басам гэта было рабіць:

— Яна цяпер сваім дудалём не нацешыцца...

Пачулі госці і перахрысцілі Рыгора. Хоць і раней на дудачцы іграў, а тут цвёрда стаў Дудалём. Ад яго і назва вёскі пайшла — Дудалі.

## ЗЫБКІ

Некалі ў нашых мясцінах такія глыбокія ды непралазныя балаціны былі, такія густыя лясы, што людзі баяліся праз іх хадзіць. Толькі дзікія жывёлы смела разгульвалі па сваіх адвечных сцяжынках ды адзін-два вяскоўцы, якія ад бацькоў, ад дзядоў добра ведалі ўсе пуцявіны і маглі прабрацца ў любы куточак. З тае пары і назва пайшла адпаведная.

Там, дзе зараз жытнёвыя палі рунеюць ці чым іншым людзі іх засяваюць, некалі ляжаў вялізны камень, такі вялікі, што, можа, на ўвесь свет іх усяго некалькі і было. Дык вось па начах ад таго каменя ўсялякія вясёлыя гукі несліся, песні ды крыкі. Местачкоўцы баяліся набліжацца да валуна. Адна справа ўдзень, калі сонца свеціць, калі на дапамогу можна паклікаць, і зусім другая — глыбокай ноччу, калі за кожным кусцікам ці вуглом цябе нячыстая сіла падсцерагае, чорт рагаты з мяшком стаіўся, каб ухапіць ды прымусіць працаваць на сябе да скону жыцця.

Жыла там, на ўскрайку балаціны, адна сям'я. Не надта вялікая, але і не малая, пяць чалавек, бо ў тыя гады сем'яў малых амаль не было. Дзеці дапамагалі бацьку ў любой працы, таму зямлі многа апрацоўвалі.

Старэйшага сына таго гаспадара звалі Астапам. Хлопец як хлопец. Ды пачаў бацька заўважаць, што не надта да працы прыкіпае яго асноўная надзея. А тут і жонка неяк сказала:

— Паглядзеў бы ты, мужу, за нашым Астапам. Ён жа толькі ляжыць, калі са мной на поле паедзе. Я на яго слова — а ён на мяне два, ды яшчэ і крычыць.

— Зараз як вазьму лейцы, то шкуру спушчу, — зазлаваў гаспадар. — Я яму хутка растлумачу, што да чаго і каго трэба слухацца.

— Можа, так і не трэба, — запярэчыла жонка, — давай з ім проста так пагамонім, можа, і дойдзе да дурной галавы...

— Пустымі размовамі ён і сам каго хочаш накорміць. А так як паддам, дык мала не падасца, на ўсё жыццё запомніць гэтую навуку. Дзе гэта відана, каб насуперак роднай маці гаварыць? Ці [illegible] некалі слова насуперак сваім бацькам сказаў?

— Другі час быў, чалавеча. Па-іншаму нас выхоўвалі, не тое, што зараз, — пачала ўшчуваць жонка.

— Можа, і па-іншаму, але я з-за працы вольнай хвіліны ніколі не бачыў.

— Так-то яно так...

І ўсё ж хітрая жанчына дабілася свайго: і на сынагультая паскардзілася, і не дазволіла мужу з ім сурова абысціся.

Але Астап усё-ткі атрымаў сваё.

Аднаго разу пайшоў гаспадар у свіран. Глядзіць, [illegible] ў адным куце зерне нібыта правалілася. Захваляваўся, падумаў спачатку, што мышы дзірку прагрызлі. Кінуўся на двор і палез знізу глядзець. Дзіркі не было. Пачухаў патыліцу селянін, нешта ў яго не супадала. Потым зразумеў. Зноў палез і знайшоў тое, што шукаў: свярдзёлам акуратна была пракручана невялічкая адтуліна і... забіта шпунтом. Прыйшоў у хату і гаворыць гаспадыні:

— Ведаеш што, жонка? Да нас зладзеі ўбіліся...

— Авохці, — заламала тая рукі.

— Не крычы, бо дарма ўсё гэта.

— А што ж рабіць, мужу?

— Трэба пільнаваць.

— А калі тых зладзеяў некалькі, як жа ты адзін з імі справішся?

— Па-першае, на злодзеі заўсёды шапка ґарыць і ён сам усяго, нават куста, баіцца, а па-другое, я хлопцаў вазьму. Сёння вечарам і пойдзем. Узброімся цапамі. Калі такой штукай каго-небудзь уздоўж спіны пачаставаць, то мала не падасца...

— Добра было б і Апанаса ўзяць, ён жа сапраўдны асілак, — прапанавала гаспадыня.

Але селянін, нібы нешта адчуваючы, прамовіў:

— Няхай Апанас коней у начное гоніць, там з яго толку болей будзе. А то яшчэ засне ў засадзе ды храпці пачне — зладзеяў распудзіць.

Непрыкметна прыспеў вечар. Гаспадар загадаў Апанасу:

— Збірайся і вядзі коней у начное.

— Чаму я? — пасправабаваў было той аспрэчваць бацькава рашэнне.

У адказ атрымаў такога плескача, што ажно кот на печы дзіка віскнуў і паляцеў у цёмны кут хавацца. Ухапіў Апанас шапку, світку, кавалак хлеба і выскачыў на вуліцу.

— А з вамі, сынкі, пойдзем у засаду. Нехта ў нас збожжа крадзе...

Тыя, ведама, узрадаваліся гэткаму даверу, кінуліся збірацца.

Заселі яны ў кустоўі, якое побач са свірнам расло, і сталі чакаць. Час цягнуўся марудна. Хлопцы спачатку торкалі насамі, а потым і паснулі. Гаспадар іх не будзіў, ведаў, што сыны за дзень добра натаміліся, а калі злодзей з'явіцца, то тады і будзе дзейнічаць у залежнасці ад абставін.

Раптам зусім недалёка трэснула голька. Селянін азірнуўся і ўбачыў выразную постаць чалавека, якая рухалася прама да свірна. Вось незнаёмец падышоў, пачаў азірацца. Тут адзін з сыноў, які прачнуўся ў адказны момант, зашаптаў бацьку на вуха:

— Апанас...

— Што Апанас? — не зразумеў той.

— Гэта, тата, наш Апанас...

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам. Злодзей нацадзіў праз дзірку збожжа, закінуў за плечы і адышоўся ад свірна. Бацька з сынамі яму не перашкаджалі і пайшлі за ім следам. Апанас пакіраваў прама да карчмы, увайшоў у будыніну, і хутка да іх данеслася:

— Янкель, дай кварту гарэлкі!

— Я дам, але чым ты плаціць будзеш?

— Ёсць чым... Толькі гібні (па-яўрэйску, значыцца, дай) кварту гарэлкі. Я табе гібну два пуды чыстага збожжа.

Бацька, стоячы з сынамі пад акном, прамовіў:

— А я табе сёння гібну вяроўкі...

Павёў ён сыноў да таго вялізнага каменя-валуна, і схаваліся там. Гаспадар сказаў сваім хлопцам:

— Ён сюдою пойдзе, болей шляху няма. Тут мы яго і вучыць будзем...

Добра п'яны Апанас дабіраўся дахаты. Ужо амаль і прыйшоў, як раптам пасярод сцяжынкі ўбачыў тры постаці ў белых апратках. Яны стаялі і маўкліва чакалі.

— Хто вы? Прэч з дарогі!

Але тыя па-ранейшаму стаялі. Падышоў Апанас бліжэй, хацеў узяць які цурбалак, ды не паспеў — тыя постаці накінуліся на яго з цапамі і пачалі секчы. Загарлаў хлапчына не сваім голасам, кінуўся туды-сюды, а яны не адступаліся. Тады ён пабег. Ляціць — зямлі пад сабой не чуе. Выскачыў прама на начлежнікаў. Тыя падумалі, што нейкі нячысцік, бо скрываўлены ж, мурзаты, і таксама ўцякаць. Тут самы старэйшы, дзед ужо, гопнуўся на зямлю і вымавіў:

— Няхай б'е-забівае, але болей не пабягу, не маю сілы...

Тое страшыдла падляцела да чалавека і заверашчала:

— Там... зыбкі... там... зыбкі...

— Ага, — са страху ляскаючы зубамі, прамовіў дзед.

— Зыбкі... б'юцца... — і пабег далей.

Начлежнікі павылазілі з кустоўя і да старога:

— Дзеду, хто гэта быў?

Той, каб свой спалох не паказваць, люлечку закурыў і прашаптаў:

— Ды так... Апанас... Апанас з зыбкаў...

Так той хутар і стаў у памяці людзей Зыбкамі, а потым і вёска такую назву атрымала.

## ОПСА

Некалі тут жыў багаты памешчык па прозвішчы Мілановіч. Да людзей той пан адносіўся добра. Адзіным ягоным выбрыкам было тое, што на добрым падпітку ззываў усіх мужчын і дзецюкоў і загадваў ім страляць з ружжа ў мішэнь. Мішэнь магла быць самая розная. Часам Мілановіч маляваў муху на ўсю сцяну, і тады ўжо сяляне пасмейваліся:

— Сёння пан лішнюю кварту перакуліў, цяпер нам гасцінцаў не будзе...

Гасцінцамі яны называлі тыя не надта моцныя аплявухі, якімі гаспадар узнагароджваў не надта трапных стралкоў. Ды такое здаралася тады, калі мішэнь нагадвала сабою дубовы лісток, прыбіты да сцяны, і трэба было патрапіць у самую сярэдзіну. Тут не каралі толькі тых, хто біў прама ў мішэнь ці хоць крыху яе закранаў. Астатнія, вяртаючыся дахаты, жартаўліва перасмейваліся.

— Во ўжо настраляліся, ажно ў вушах звініць. Хоць бы ў наступны раз пан намаляваў муху, з ёю мы справіліся б...

У астатнім памешчык быў цудоўным чалавекам. Ён ніколі не адмаўляў у дапамозе бедным, да яго звярталіся за парадамі. А што ўжо п'яны вучыў лепей страляць, то нездарма ж у народзе здавён кажуць: «П'яны чалавек — святы. Што ён робіць — тое трэба Богу, абы толькі благога не чыніў».

Сам Мілановіч страляў без промаху. Пра яго памешчыкі-сябрукі гаманілі:

— Калі загналі што на Зыгмунта (так яго звалі), то ўжо няхай жывёліна тая на жыццё не спадзяецца, зваліць з аднаго стрэлу...

Памешчыкі як вып'юць, дык абавязкова пачыналі спрачацца і даказваць, што ад ружжа многае залежыць, ад набояў таксама, што калі б ветрык у вочы не дзьмуў, то тады б... На такія заўвагі Мілановіч рэзаў прама:

— Дрэннаму танцору, як кажуць мае вяскоўцы, і штаны перашкаджаюць. Дайце мне любую стрэльбу, і я вам дакажу, што вы не маеце рацыі.

Аднаго разу нейкі пан, які слабавата ведаў пана Зыгмунта ці, можа, зусім не ведаў, грэбліва прамовіў:

— Што гэта пан спасылаецца на гэтых смердзюхоў, быццам яны такія ж людзі, як і мы...

У адказ прагучала знішчальнае:

— Яны не такія самыя, як і мы.

— Вось бачыце.

— Яны лепшыя.

— Ды хто вам дазволіў мяне, двараніна, з мужыком параўноўваць?!

— Я і не параўноўваю, бо параўнанне не на вашу карысць.

Памешчык ледзьве не ўпаў ад абурэння і хапаў паветра шырока разяўленым ротам.

— Ды я... Ды я...

— Што?

— Ды я... Я...

— Гаварыце хутчэй, бо дамоў паеду.

Навокал зарагаталі.

— На дуэль! — нарэшце зароў раз'юшаны памешчык.

— Што вы, пане, — паспрабавалі было адгаварыць яго іншыя паляўнічыя, якія выдатна ведалі здольнасці Мілановіча, — не трэба так... Не трэба, бо дрэнна скончыцца...

— Дуэль!

— Ага, — пасмейваўся Зыгмунт, — на дулях ці на кіях?

— Страляцца будзем са стрэльбаў!

— Вось як? — здзівіўся Мілановіч. — А пан і што такое стрэльба ведае?

Памешчык ухваціў сваю дарагую стрэльбу і адбегся.

— Дваццаць крокаў! Ні кроку болей!

— Я магу і бліжэй падысці...

— Страляем адначасова! — віскнуў памешчык.

— Ды не, страляйце вы першы, бо калі я, то вы ўжо стрэліць не паспееце.

Раз'юшаны пан улупіў з двух ствалоў. Мілановіч як стаяў, пасміхваючыся, так і застаўся на тым самым месцы стаяць, нават стрэльбу не ўздымаў.

— А зараз вы, пане, даведаецеся, хто такія мужыкі і чаму я іхні гонар заўсёды абараняю.

З гэтымі словамі Мілановіч ухапіў дубовы кіёк аднаго з загоншчыкаў і запусціў ім у разгубленага пана. Кіёк трапіў якраз па вялізнай, як цэбар, панскай галаве. Нешта глуха тумкнула. Навокал зарагаталі.

— Во гэта стрэл!..

Але Мілановіч узлаваўся ўжо не на жарт. Фанабэрыстасць памешчыка яго ўзрушыла. Ухапіў ён той самы кіёк ды пачаў пярэсціць ім пана. Той спачатку спрабаваў было адбівацца, а потым кінуўся ўцякаць. Можа, і ўцёк бы, каб быў у два разы танейшы ды крыху шпарчэйшы на ногі. А так што ні крок, то на спіну ды на карак клаўся магутны ўдар.

— Будзеш ведаць, як фанабэрыцца! А хто цябе хлебам корміць?!

— Ой, ой! — толькі і чулася ў адказ.

— А дзякуючы каму ты такі азадак наеў?!

— Ой, свенты Езус!..

— Не, не ён цябе карміў і корміць.

— Ой, ой, даруйце!..

— Ды не я павінен табе дараваць. Ты ў народа прабачэння прасі.

— Ой, забіваюць! — цяпер ужо памешчык звяртаўся за дапамогай да астатніх паляўнічых.

Толькі блізкія суседзі добра ведалі нораў Мілановіча і за лепшае ў такіх выпадках лічылі не ўмешвацца. Таму стаялі і глядзелі, не смяяліся, бо білі ж іхняга брата — памешчыка. Нарэшце Зыгмунту, відаць, надакучыла зганяць злосць на таўшчэразным памешчыку. Падышоў да паляўнічых і звярнуўся да свайго слугі, які стаяў непадалёку:

— Паехалі дамоў, а то гэты паляўнічы таго... прасмярдзеў ужо... — ускочыў у сядло і паімчаў. А пабіты памешчык яшчэ доўга галасіў-пагражаў у старой пушчы.

А яшчэ пан Мілановіч меў вельмі добрых паляўнічых сабак. Не многа, толькі трох, затое якіх! Любога звера ўздымалі і маглі самі заваліць. Зыгмунт ганарыўся імі.

Аднойчы на паляванні на яго напаў воўк. Што адзін воўк для такога вопытнага паляўнічага? Ды, як на тое ліха, ці то адсырэў порах, ці што яшчэ здарылася, толькі ружжо не стрэліла.

Застаўся жыць пан толькі дзякуючы аднаму з сабак, які ў той момант аказаўся побач з гаспадаром. Мілановіч усё ж неяк злаўчыўся і зарэзаў таго ваўка нажом. Але ў паядынку са зверам сабака атрымаў шмат ран і тут жа сканаў. Памешчык сам прынёс яго дамоў і загадаў пахаваць на высокім грудку, недалёка ад маёнтка. Побач слугі паклалі вялікі камень з памятным надпісам: «О пса». Так Мілановіч выказаў сваю павагу да сабакі, дзякуючы якому застаўся жыць. Вось адкуль нашу вёску пачалі называць Опса.



# ВЕРХНЯДЗВІНСК (ДРЫСА)

Было гэта ў старадаўнія часы. У аднаго бацькі расло трое сыноў. Двое, як ён сам усім казаў, разумнейшых, а адзін — дурнейшы. Чаго так павялося? Хто ж яго ведае. Вось нечага неўзлюбіў бацька свайго малодшага, як толькі што якое, то адразу ж крычаў:

— А, гэтага дурня слухаць... Адкуль у ягонай галаве розум?

Маці ўступалася за малодшага, старэйшыя браты — таксама, а вось бацька і чуць пра нейкую там памылку не жадаў. Як разыдзецца, дык усіх адмалаціць мог толькі з-за аднаго слова, якім імкнуліся пахваліць незаслужана пакрыўджанага хлопца.

Звалі сыноў Мікіта, Алесь і Якаў, бацьку — Антось, а матулю — Надзея. Так і жыла гэтая сям'я. Ужо і парадак такі завёўся — здарылася нешта благое ці ў нечым не пашанцавала — вінаваты Якаў. Як ты ні круціся, як ні апраўдвайся, ніхто з цябе абвінавачвання не здыме. Ды ён і сам прызвычаіўся. Крычыць на яго бацька, а хлапчына галаву апусціць, каб ніхто не бачыў, што слезы на вочы набеглі, і маўчыць цярпліва. Малы быў, то мог і па галаве атрымаць кулаком, але калі яму стала амаль два

дзесяткі гадоў і вырас ён магутным хлопцам, то на спробу бацькі ўгрэць яму ў каршэнь ціха прамовіў:

— А гэтага не трэба, тата, стрымлівайся, бо ў мяне таксама здароўя воз...

Гаспадар крутнуўся па хаце і закрычаў:

— Чуеце? Ён жа бацьку пагражае!..

Старэйшыя сыны маўчалі і рабілі выгляд, што не чулі слоў брата, а гаспадыня сказала:

— Сам вінаваты. Усё чапляешся, чапляешся, дзе-небудзь ды на сук і напорашся...

— Самы старэйшы з сыноў, нібыта неўзнарок, дадаў:

— На яловы...

Бацька выскачыў на двор і пачаў спаганяць злосць на сучцы, якая лянотна адпачывала пад грушай.

Сям'я невялікая, дзеці дарослыя, усе працуюць, як тыя валы ўпрогшыся, а хлеба на кожны дзень не хапала. Таму хлопцы глядзелі ды распытвалі, дзе якую працу знайсці, капейку-другую зарабіць, тады можна было б лягчэй дыхнуць. Праўда, такое здаралася надзвычай рэдка, бо бедных было многа, а багатых, тых, хто наймае, малавата.

Аднаго разу прыйшоў да Антося бацюшка, які жыў у суседняй вёсцы і там жа, у царкве, службы свае правіў. Пагаварыў з гаспадаром спачатку, як мае быць, пра ўсялякія навіны, а потым запытаўся:

— Можа, чалавеча, ты аднаго са сваіх сыноў да мяне ў работнікі аддаў бы?

— А чаму ж і не, бацюшка.

— Мы старгаваліся б... Я нічога не пашкадую, толькі пры адной умове: працаваць будзе сумленна, як на сябе...

— У гэтым можаце не сумнявацца. Мае заўсёды шчыра працуюць. Вось толькі малодшы, — пачаў было Антось, але зразумеў, што словы будуць не да месца, і супакоіўся.

— Дай тады Мікіту, старэйшага. Дамаўляемся на год. Пяць пудоў жыта і дзесяць рублёў грошай. Заўтра няхай і прыходзіць. Па руках, гаспадар?

— Па руках, бацюшка.

— То тады я пайду, дома работніка буду чакаць.

Бацюшка паклэпаў, а гаспадар ледзьве ад радасці не спяваў. Гэта ж трэба, так пашэнціла, ды і не шукаў — дахаты прыйшлі.

Раніцай Мікіта паджгаў да бацюшкі. Ідзе, а з галавы не выходзяць Алеськавы словы:

— Братка, глядзі там, каб сабакі не парвалі, бо ў бацюшкі іх, можа, штук пятнаццаць.

— А ты адкуль ведаеш?

— Ды мы з хлопцамі часта ягоны сад трыбушым.

Маці пачула іхнюю гаворку і кажа:

— Не бойся, сынок, я табе зараз замову адну прашапчу, то ты, калі будзеш да падворка падыходзіць, прашапчы яе тры разы, тады ніякі сабака да цябе і блізка не падыдзе. Слухай уважліва: «Сабачка маленькі, нарадзіўся сляпенькі, век у лазні не быў, нават духу таго не чуў, каб ты гэтаксама ніколі не чуў і не бачыў мяне».

Зараз Мікіта і шаптаў гэтую замову, спяшаючыся паўтарыць тры разы, бо бацюшкаў падворак быў ужо зусім блізка.

Чорныя дні пачаліся для хлопца. Замест таго каб пазнаёміць, расказаць, што да чаго, накарміць, бацюшка адразу пагнаў яго працаваць.

І пайшло. Цэлы дзень Мікіта шчыруе, напрыклад, на полі — арэ. Прыедзе, [redacted] гаспадар дасць яму хлеба з вадою і загадвае:

— А зараз, чалавеча, трэба коней на начное гнаць. Збірайся, там і адпачнеш, дома няма чаго болей рабіць.

З начлега прыйдзе Мікіта, а бацюшка ўжо на нагах, бегае ды на іншых работнікаў пакрыквае, але і гэтага не забывае:

— Пакуль сняданак, то бяры, чалавеча, жорны ды змялі вось гэты кораб...

А ў тым корабе, можа, пуды тры. І пакуль справу не зробіш — не накорміць, будзе стаяць ззаду і ўсё гугнявіць, што дрэнна працуеш.

Перакусіш, [redacted] пасядзець магчымасці не надарыцца, бо бацюшка ўжо да сябе кліча і кажа, куды на дзень падавацца і што да вечара зрабіць.

Хоць і быў Мікіта здаровы ды працавіты, але адчуў, што болей не вытрымае. Спаць жа — не спіць, есці — не есць, адпачываць — не адпачывае. Адкуль тая сіла возьмецца, каб усю бацюшкаву працу парабіць?

Неяк прамучыўся тры месяцы. Схуднеў хлапчына, што і не пазнаць. Падышоў неяк да бацюшкі і папрасіўся, каб дамоў адпусціў, з роднымі пабачыцца закарцела. Але той і чуць не пажадаў:

— Чаго хадзіць, калі працы гэтулькі? Адпачні пару хвілін ды ў лес кіруй.

Тады вырашыў Мікіта ўцякаць. А бацюшка ж таксама не дурань быў, прадбачыў такі паварот справы і напярэдадні з работнікам адносна гэтага гамонку вёў.

— Хто ад мяне ўцякае, таго я ўсё роўна даганяю і бязлітасна караю. Хай ведаюць, што дамова ёсць дамова.

Але Мікіта не мог болей трываць, падабраў цямнейшую ноч і пабег. Ды трэба ж было такому здарыцца — забыўся прашаптаць матуліну замову. Каб не гэта, то можа, усё ў парадку было б, а так... Толькі ён да лесу дабег, толькі сабраўся адпачыць, як накінуліся на яго сабакі. Што яны з чалавекам зрабілі! Парвалі не толькі вопратку, але і цела так, што на ім жывога месца не засталося. На тым грудочку і пакінуў бацюшка ўцекача, а сам дамоў вярнуўся. Згінуў бы, відаць, Мікіта, каб не пашанцавала: якраз сяляне на вазах ехалі і бачылі ўсю справу, дык не пакінулі хлапчыну, прывезлі да бацькоў.

Як убачыла матуля, што з яе старэйшым сынам стала, то ўголас загаласіла, застагнала, стала бацюшку праклёнам праклінаць. Антось жа толькі спахмурнеў і ўсё нешта сам сабе бубнеў пад нос.

На другі дзень, з самае раніцы, той бацюшка ўжо ў іхняй хаціне сядзеў і як ні ў чым не бывала гаманіў:

— Што ж гэта, Антоська? Мы дамовіліся, па руках ударылі, а ён збег. Толькі тры месяцы адпрацаваў, а яшчэ дзевяць засталося. Давай мне другога сына на ягонае месца.

Пачула гэтыя словы гаспадыня і схапіла бацюшку за грудкі:

— Зараз я табе пакажу другога сына. Зараз ты ў мяне зведаеш, чорт даўгагрывы!

Ледзьве выпіхнуў яе Антось за дзверы, а сам пагадзіўся Алеся да бацюшкі на тыя няшчасныя дзевяць месяцаў адправіць. Мікіта на лаве стогне, а бацька так усё павярнуў, хацеў паказаць, што менавіта ён усяму галава.

Алесь супакоіў матулю і Якава:

— Нічога, усё добра будзе, не хвалюйцеся. Ці ж мне да працы прызвычайвацца. Дый усяго дзевяць месяцаў.

— Глядзі, сыночак, — плакала матуля, — глядзі, каб і з табой ліха не здарылася. Не забывайся пра тое, чаму я вас вучыла...

Якаў таксама падвучваў брата:

— Ты не спяшайся, трывай да апошняга. А ведаеш што, давай лепей я за цябе туды пайду. Я ж намнога здаравейшы, ды і плакаць па мне так не будуць.

— Што ты, братка, кінь дурное. Ты тут за матуляй ды за Мікітам прыглядвай. А на бацьку не сярдуй...

Так пагаманілі перад дарогай, і Алесь пакіраваў да бацюшкі. Сустрэлі яго гэтак жа, як і старэйшага брата. Бедны хлопец думаў, што патрапіў некуды ў іншы свет, — так яго прыціскалі ды патрабавалі выконваць самыя розныя загады. Толькі і хлапчына трапіўся не слабы. Бацюшка і той пачаў надзею страчваць, што давядзе параб-ка да такога стану, калі той не ўтрымаецца і кінецца бегчы. Ні спаць, ні есці лішняга не даваў жа, а той усё ходзіць і ходзіць, нібы заведзены, і на ўсё толькі адказвае:

— Ага, зараз зраблю, зараз. Няма чаго хваляваццa, гаспадар, праца гэтая не застанецца.

І сапраўды, не заставалася. Бацюшка на сваю жонку ўжо пачаў пакрыкваць:

— Можа, ты што прыдумаеш такое, ад чаго ў яго сіла хутка спадзе?

А той жонцы Алесь з першага погляду спадабаўся. Ды і сама яна была жанчына ў самым саку. Таму ў адказ на прапанову мужа ажно затрымцела:

— Ужо я яго, галубочка, давяду да такога стану, што ён ні рук ні ног не здолее пасунуць, не хвалюйся. Толькі аб адным прашу — не перашкаджай.

— Добра, — пагадзіўся гаспадар, — рабі ўсё, як сама ведаеш...

І гаспадыня пачала ўсюды суправаджаць Алеся. Куды ён ні ідзе, то і яна побач, куды ён ні едзе, то і ёй, аказваецца, якраз туды трэба. Дзён праз колькі дасягнула свайго, але пакуль што не таго, чаго хацеў яе муж. Цяпер яны ўжо заязджалі не на поле, а ў які-небудзь лясок і там мілаваліся. Натомяцца, дык жанчына і мовіць:

— Я тут, на возе, адпачну, пасплю крыху, а ты, Алеська, папрацуй, каб бацюшка не здагадаўся.

Той надта не задумваўся і ляцеў на працу. Там як находзіцца, натоміцца, то ледзьве назад да возу цягнецца, а гаспадыня ўжо адпачыла, і ёй зноў хочацца любошчамі займацца. Спачатку хлопец радаваўся, а потым узмаліўся, каб гаспадыня пакінула яго ў спакоі ці дала перадыхнуць. Але тая адразу закрычала:

— Яшчэ раз такое пачую, дык пайду і мужу скажу, што ты мяне згвалціў...

Куды тут дзецца пасля такой пагрозы? Нікуды. Трэба рабіць так, каб бацюшка не даведаўся і з працы не праг-

наў, бо амаль паўгода працаваў жа. Шкада ўсяго: і зняваг перанесеных, і сілы патрачанай. Таму маўчаў Алесь, а гаспадыня па-свойму рэй вяла.

Недзе праз тыдзень зразумеў парабак, што ўсё роўна нічога не атрымаецца, нестае ўжо сілы. Паехаў ён у поле араць, і гаспадыня, як звычайна, з ім. Сядзіць сабе на возе, раскірэчыўшыся, ды гулліва прапаноўвае:

— Не едзь на поле, давай спачатку ў кустоўе звернем...

Не ўтрываўся парабак, ухапіў пугу і давай яе палыскаць. Як завішчэла жанчына, як закрычала, але ўцякаць не здагадалася, толькі на возе пакручвалася. Алесь раз'юшыўся і не ўбачыў, адкуль бацюшка з'явіўся, ды не адзін, а з сабакамі. Як загарлае ён:

— Вазьміце яго! Кусі!

Але і хлопец не дурань. Ухапіў ладны цурбалак, які на ўсялякі выпадак заўсёды ў возе ляжаў, і давай адбівацца. Палову тых сабак на смерць пабіў, але і яму дасталася: пакусалі сабакі моцна. На развітанне Алесь лупянуў тым цурбалкам гаспадыню па азадку і пайшоў дамоў. Ледзьве дацягнуўся. Убачылі яго матуля з Якавам, кінуліся абмываць ды перавязваць, а самі распытваюць:

— Што здарылася?

Хлапчына расказаў усё падрабязна, а калі матуля пабегла ў хаціну за чыстымі анучамі, каб цела перавязаць, то шапнуў брату:

— Ён заўтра па тваю душу прыйдзе. Запамятай адно — бойся ягонай жонкі. Страшная жанчына. Сваё сіло як расставіць, то потым з яго, бачыш, якое выйсце...

Раніцай бацюшка ўжо гаманіў у Антосевай хаце:

— Што гэта ў цябе, чалавеча, такія хлопцы нявытрыманыя? Усяго тры месяцы засталося, а ён узяў ды во што нарабіў... Сабак палову перабіў, жонку скалечыў...

— Каб не бацька, дык я зараз і цябе скалечыў бы, — данеслася з кута.

Гаспадару з бацюшкам давялося на ўсялякі выпадак падацца за дзверы.

— Калі ўжо такое здарылася, то аддавай мне на тры месяцы свайго малодшага, Якава, — запрапанаваў госць.

Самае дзіўнае, што гаспадар з радасцю пагадзіўся:

— Гэтага забірай. Можаш і на паўгода.

— Хопіць яму і трох месяцаў.

Заплакала матуля, засумавалі браты, бо ведалі, куды малодшы накіроўваецца, і кожны па-свойму прасіў яго,

каб асцерагаўся. А бацька... Бацька нават і блізка не падыходзіў, быццам бы яму і справы не было да гэтага сына.

Развітаўся Якаў і пайшоў. Бацюшка як убачыў яго, дык ажно прысвіснуў: перад ім стаяў сапраўдны волат. Гаспадыня хоць і войкала, але таксама паглядала з замілаваннем. Вырашылі яны і гэтага работніка загнаць. Калі Якаў выйшаў у двор, жанчына і кажа:

— Давай з самага пачатку ўдваіх яго абходжваць, ён тады доўга не вытрымае...

З раніцы гаспадар загадаў парабку ехаць у поле. Гаспадыня шусь у воз і сядзіць у задку, быццам бы так і трэба. Ад'ехаліся за вёску, яна і гамоніць:

— Ты не едзь адразу ў поле, ■ давай коніка ў кустоўі прыпынім ды лепей пазабаўляемся...

Хлапчына паслухаўся, звярнуў з дарогі, з'ехаў у кустоўе, ■ там выразаў ладную паплiску і давай лупцаваць гаспадыню:

— Дык гэта я з табою павінен забаўляцца, карыта ты разлезлае?!

Лупцаваў, пакуль не стаміўся, потым сеў побач з ёю і кажа:

— Я паеду араць, а ты цягніся дамоў. І запомні — гэта табе адплата за Алеську, ■ будзеш лезці, яшчэ і за сябе дам.

Сабраўся і паехаў. Жанчына ледзьве дамоў дабралася і расказала бацюшку пра ўсё. Той ажно войкнуў. Але да чаго тут прыдрацца? Парабак спраўна працуе.

Аднаго разу загадаў ён ехаць у лес і насекчы дроў.

— А дзе ваш лес, бацюшка? — пытаецца Якаў.

— Ды дзе вокам ні кінеш, там мой і стаіць.

Паехаў Якаў. Пад вечар гаспадар выйшаў з хаты і закрычаў з адчаю:

— Хто гэтулькі хмызняку навазіў ды двор з усіх бакоў абклаў?

— Вы ж самі сказалі, дзе вокам ні кінеш, там ваш лес і ляжыць. Дык я, каб болей навазіць, з бліжэйшага сек...

Што было казаць злыдню? Толькі і крыкнуў:

— Бяры каня і вазі салому, каб было чым насцілаць!

Якаў паехаў. Да ночы ўвесь двор саломай заваліў. Бацюшка нечага хацеў было вылезці, дык крычаць давялося, каб з хаціны выпусцілі.

Разздаваны гаспадар узяўся на ноч печ паліць, ды забыўся, што ў двары поўна саломы. Вытапіў, ■ галавешкі

засталіся. Палеглі спаць спакойна, а пад раніцу пачулі крыкі:

— Пажар! Пажар!

Усхапіліся ўсе, глядзяць, ажно і праўда — палаюць іхнія будыніны. Схапіў гаспадар грошы, якія ў чыгунку хаваў, а гаспадыня — пару падушак, запрог пару коней і крыкнуў:

— Уцякайма ад гэтага парабка, бо дзе ён, там вялікае гора і не будзе нам выратавання!

Улупіў гаспадар па конях, а тыя як панеслі! Азірнуўся назад і ледзьве не заплакаў: іх верхам на стаенніку даганяў Якаў і гукаў:

— Не спяшайцеся, я ж вам яшчэ не адпрацаваў! Не спяшайцеся!

— Каб ты згарэў, дурань! — злосна адказаў бацюшка, а жонка «адстрэльвалася» буйнымі дулямі, якія па-майстэрску круціла, трасучыся ў вазку.

Хітры Якаў надта блізка не пад'язджаў, але і не адпускаў ад сябе далёка ўцекачоў. Спецыяльна так рабіў, каб як мага далей адагнаць.

Бацюшка, такім чынам, глядзеў не на дарогу, а ўсё гнаў коней і азіраўся, не заўважыў, як збіўся са шляху і вылецеў на круты бераг ракі. Толькі і паспеў крыкнуць з адчаю:

— Дзяр-ж-ы-с-я...

Бухнуў воз з кручы ў раку і ўтапіўся, а разам з ім і ўся сквапная сям'я. Якаў пастаяў крыху на беразе, паглядзеў, як разыходзяцца кругі па вадзе, плюнуў і павярнуў назад. Але тое апошняе бацюшкава слова «дзяржыся» засталося на зямлі. Крыху пазней тут стала паселішча, якое і назву ад яго займела, праўда, перайначаную, відазмененую — Дрыса. А Верхнядзвінскам горад ужо за савецкім часам стаў.

## КУЛЬНЕВА (Царковішча)

Здарылася гэтая гісторыя вельмі даўно, тады, калі новую, хрысціянскую, веру ўводзілі ў нашых мясцінах. Жудасная яна, жахлівая, але што ўжо зробіш. Усё гэта трэба было людзям перажыць, вытрымаць, перанесці. Божачка міленькі, колькі такое бяды-злыбеды выпадала на долю нашых продкаў...

Тут, дзе зараз наша вёска, была высокая мясціна, на якой рос густы-густы хмызняк, а на самай сярэдзіне

ўзвышаўся агромністы, таўшчэразны дуб. Яму было, можа, тысяча гадоў, а можа, і значна болей, іх жа ніхто, тыя гады, не лічыў. Пад тым дубам стаялі старадаўнія язычніцкія багі, якіх шанавала і якім пакланялася мясцовае насельніцтва. Да гэтых ідалаў прыносілі ахвяры і падарункі, тут здзяйсняліся таемныя язычніцкія рытуалы, калі людзі спрабавалі даведацца пра волю ўсемагутнага неба на бліжэйшы час, што іх чакае наперадзе, чаго трэба асцерагацца. Так працягвалася не адно стагоддзе. Але ўсё мяняецца ў жыцці, памяняліся і гэтыя парадкі.

Спачатку пайшла пагудка, што па зямлі ідуць нейкія людзі, якія прапаведуюць новую веру, сцвярджаюць, што яна намнога лепшая за старую, што адзіны Бог прынясе жыхарам сапраўднае шчасце. Жыхары гаманілі, разважалі паміж сабой і разыходзіліся са спадзяваннем, што пранясе і ў іхнюю глухую мясціну ніякія чужынцы не дабяруцца.

Толькі з кожным месяцам навіны даходзілі ўсё больш трывожныя, казалі, што нават у слаўным горадзе Полацку князь з прыбліжанымі, [illegible] таксама дружына прынялі новую веру, а ад сваіх даўніх багоў аднадушна адракліся. Забыліся, відаць, колькі добрага яны прынеслі ім у свой час.

Звесткі прыносілі палачане, якія на гэты раз не пажадалі падпарадкоўвацца волі князя і пад покрывам ночы выбраліся за гарадскія сцены. Зараз яны прабіраліся патаемнымі сцяжынкамі далей ад нашэсця непажаданых ім царкоўнікаў. Мясцовым жыхарам казалі:

— Хадземце з намі, бо і да вас дабяруцца. Год, няхай два працягнеце, а там усё роўна знойдуць. Чым далей зойдзем, тым болей гарантыі, што не дацягнуцца рукі хрысціян да нас...

— Не, мы да роднай зямлі прызвычаіліся. Прынясём ахвяры свяшчэннаму дубу, ён і адвядзе ад нас бяду. Так было ўжо не раз, і на гэты раз дапаможа наш волат. На яго ўсе нашыя спадзяванні.

І што ж вы думаеце? Тыя ўцекачы-палачане праўду казалі. Не год прайшоў, а можа, усяго нейкія паўгода, як данеслася чутка, што суседняе паселішча акружылі вершнікі і прымушаюць жыхароў паказаць, дзе знаходзіцца капішча і дзе стаяць усемагутныя язычніцкія багі.

Людзі трымаліся мужна і не гаварылі. Ды заўсёды ж такое здараецца — адзін не вельмі разумны чалавек выzваўся паказаць. Не мог ён дацяміць, што гэта не для дабра і не для радасці робіцца.

Натоўп асуджальна загуў, але што ад гэтага дурню, ён быў задаволены, што яго пасадзілі верхам на каня. Калі пасыпаліся праклёны на яго галаву, то засвісталі бізуны, заплакалі жанчыны, зараўлі дзеці, застагналі ад болю мужчыны...

Тыя злыя людзі пасеклі на пагорку ідалаў, склалі ў гурбу і падпалілі, а калі стары вяшчун кінуўся да вояў, каб заступіцца за гонар багоў, то яго забілі і кінулі ў тое самае вогнішча. Нехта яшчэ весела крыкнуў:

— Вось і апошняя ахвяра язычніцкім багам! Прымайце яе і радуйцеся, бо болей у гэтых мясцінах вы нічога не атрымаеце.

Потым чужынцы вярнуліся ў паселішча і зноў сабралі жыхароў. Старэйшы над воямі аб'явіў:

— Вашых багоў болей не існуе. Цяпер вы ўсе будзеце пакланяцца адзінаму нашаму Богу — Хрысту. Хто не падпарадкуецца, то на першы раз атрымае гарачых бізуноў, а на другі — пазбавіцца жыцця. Запамятайце — старое да вас ужо не вернецца. Цяпер слухайце яшчэ адзін загад. З заўтрашняга дня ўсе дарослыя мужчыны і хлопцы будуць працаваць на ўзвядзенні святой царквы, якую мы вырашылі паставіць на тым самым узгорку, дзе расце стары дуб. Майстры будуць нашыя, вам застанецца толькі выконваць загады. На гэтым усё, можаце разыходзіцца.

Пачалі будаваць царкву. Мясцовых жыхароў прымушалі з усяго наваколля звозіць на гару камяні. Цяжка ім было, ніхто не шкадаваў, ніхто не звяртаў увагі на просьбы аб тым, каб далі адпачыць, пусцілі пераначаваць да родных. Толькі і чулася з усіх бакоў:

— Давай хутчэй, бо як аперажу бізуном, то хутка заскачаш! Разамлелі на сонцы, што мухі пасля сытнага сняданку! — І свісталі бізуны, крычалі ад болю людзі.

Сярод мясцовых быў адзін чалавек. Малады яшчэ. Звалі яго Адзінец. Здаровы быў надзіва! Працай вылучаўся сярод астатніх, таму дзесяцкі, ва ўзнагароду, вырашыў адпусціць яго дамоў на ноч, але наказаў, каб з самае раніцы быў на будоўлі.

Не адчуваючы пад сабою ног ляцеў Адзінец да маленькай дачушкі — Бярозкі, якая толькі-толькі навучылася вымаўляць свае першыя словы і рабіла гэта надзвычай смешна.

Што тае ночы? Не паспелі і пагаманіць, а сонца ўжо паўзе з-за гары, трэба ісці. Пацалаваў муж жонку і кажа:

— Ты тут беражыся сама і дачушку беражы.

— Ды не хвалюйся, усё будзе добра. А зараз давай мы цябе правядзём. Хоць крыху.

Ухапіла жанчына сонную дачушку (каб жа ведала, што гора здарыцца, дык з хаціны не вылазіла б!), і пайшлі з Адзінцом. Адышліся ад вёскі, развіталіся. Мужчына пабег да гары, а жонка з Бярозкай назад павярнулі. І тут прама на іх вылецеў конны аршак. Жанчына саступіла з дарогі і стала чакаць, пакуль яны праскочуць міма. Але тыя параўняліся, і адзін з вершнікаў раптоўна выхапіў дачушку з яе рук. Яна і крыкнуць не паспела, як коннікі былі ўжо далёка. Кінулася за імі бегчы, ды дзе там. Паджгала на будоўлю, але туды не пусцілі, бо царква яшчэ не была гатова.

Сама не свая пайшла жанчына, галосячы і праклінаючы ўласную неабачлівасць і свой лёс. З гора валасы на галаве рвала, выла не сваім голасам. Жанчыны спрабавалі суцяшаць, але разумелі, што гэтакае гора несуцяшальнае.

Змрочныя, страшныя дні пацягнуліся. Адзінца болей не адпускалі дамоў, і ён, ведама, не ведаў пра бяду.

Нарэшце царкву пабудавалі. Высачэннай, аграмаднай цвярдыняй стаяла яна на ўзгорку і была намнога вышэйшай за свяшчэнны дуб. Мясцовых жыхароў, хто не памёр ад напружанай, непасільнай працы, адпусцілі дамоў. Прыйшоў і Адзінец. Як даведаўся ад жонкі пра здарэнне, то валасы на галаве за некалькі хвілін сівымі зрабіліся. Знямеў, знерухомеў чалавек.

Крыху апрытомнеўшы, пайшлі яны на ўзгорак і ўкленчылі перад толькі што пабудаванай царквой:

— Божа, за што? За што нам такое гора?..

Ад іхніх плачаў-стогнаў прама на вачах у анямелых сведак стала развальвацца мураваная царква, і праз нейкі момант толькі здаравенная гурба камення нагадвала пра тое, што тут быў будынак. За ноч і яно раскацілася па сваіх адвечных мясцінах.

Людзі пазней гаманілі, што такі цуд адбыўся таму, што Бярозку тыя муляры ў сцяну замуравалі, каб царква болей прастаяла. А выйшла, як аказалася, наадварот: за загубленую непавінную душу язычніцкія багі разбурылі будыніну, якая ўзводзілася на стагоддзі. Месца тое мясцовыя жыхары назвалі паміж сабой Царковішчам. Такую назву і вёска мела, пакуль не перайначылі ў 1964 годзе ў Кульнева — у памяць аб герої вайны 1812 года.

# САР'Я

Існуюць дзве версіі адносна паходжання назвы нашай вёскі.

Паводле адной легенды, даўным-даўно, калі яшчэ, можа, і прыгону не было, а ўсе людзі як родныя браты жылі, пачалося рассяленне плямёнаў. Гэта ж вы ведаеце, што з адной сям'і ўсе людзі на нашай зямлі пайшлі. Было ў бацькі спачатку два сыны, а ў тых сыноў ужо ажно па дванаццаць дзяцей. Ведама ж, такім вялікім гуртам у адным месцы жыць цяжка, бо і ежы недастаткова, і зямлі не хапае. Таму пачалі рассяляцца нашы далёкія продкі недзе ўжо ў трэцім ці чацвёртым калене. Спачатку ішлі на невялікія адлегласці, паселішчы стаялі побач, а потым — усё далей і далей. Ужо і варагаваць пачыналі. Праўда, на першым часе не біліся, але потым, калі з'явіліся багатыя і бедныя, то зведалі, што такое бітвы і сечы. Ды што тут казаць, калі яны і да нашага часу не заціхаюць.

У адной вялікай сям'і быў самы малодшы брат, і звалі яго Сар'ян. Чаму менавіта так — не ведаю. Мне так казалі, я вам так і пераказваю. Дык вось гэты Сар'ян, калі ажаніўся, атрымаў ад свайго бацькі толькі невялікую лапінку зямлі. Як быў малады ды дзяцей не было, то здавалася, што і на ёй можна пратрымацца. А як пачалі нараджацца дзеці, як сталі прасіць есці... Жонка ўсё часцей прасіла мужа:

— Схадзіў бы ты, Сар'янка, на паляванне. Трэба ж нешта прыкусіць, неяк далей жыць.

У першыя гады Сар'ян да паўдня якую касулю ці дзіка ўпалёўваў, а потым стала горай — здабыча нялёгка давалася ў рукі. Ужо і да вечара даводзілася бегаць па лясах ды барах. Каб жа толькі бегаць, а то ж і сляды шукаць, жывёл дзікіх з лежбішчаў узнімаць... Позняй ноччу вяртаўся чалавек дамоў і падаў амаль як нежывы, голасу падаць не мог — гэтак стамляўся.

Аднаго разу пайшоў ён у лес і да самага вечара па сцяжынках блукаў, у самыя глухія мясціны забіраўся, але так і не натрапіў на звера, якога можна было б падстрэліць з лука ці забіць кап'ём.

Тым часам і ноч прыспела. Спачатку хацеў сунуцца дамоў, ды перадумаў. Куды ісці, калі рукі пустыя. Сям'я ежы чакае, а што ён ім прынясе? Таму пахадзіў да сама-

га змроку, а потым знайшоў нейкі выварацень, забіўся пад яго і пастараўся заснуць, каб з самае раніцы ісці паляваць далей, а раптам пашанцуе.

Прахапіўся на досвітку і бадзёра пакрочыў па сцяжынцы. Да самага полудня нічога істотнага не траплялася, толькі недзе ў другой палове дня забіў невялічкую касулю. З ёй і пайшоў дамоў.

Пасярэдзіне невялічкай паўзямлянкі ледзьве тлела вогнішча. Дзеці спалі, жонка таксама, змарыўшыся, правалілася ў глыбокі сон. Паціху распаліўшы агонь, Сар'ян пачаў падпякаць мяса. Пах смажаніны абудзіў усіх членаў сям'і. Дзеці радасна заварушыліся і падаліся да бацькі. Толькі недзе пад раніцу яны зноў леглі спаць. Сар'ян не мог адразу заснуць і, назіраючы за тым, як сытыя дзеці, нібы медзведзяняты, ціснуліся адно да другога, з сумнай усмешкай прамовіў, звяртаючыся да жонкі:

— Нешта не падабаецца, роднелькая, мне на гэтым месцы...

— Чаму?

— Хто яго ведае, але не падабаецца, і ўсё.

— Можа, так проста, стаміўся. Галодны ж быў, ноч пад вываратнем праляжаў, здарожыўся. Праз дзень-другі пройдзе.

— Каб жа так, а то нешта грызе пад сэрцам...

— Супакойся.

— Я ўжо супакоіўся, бо думаю пра гэта даўно, проста табе не гаварыў. Баяўся, што няправільна мяне зразумееш.

— Гавары, у чым справа, не цягні, [redacted] то толькі мяне мучыш.

— Чаму [redacted] цябе мучу?

— Мне ж таксама баліць, а раптам...

— Надумаў [redacted] пакінуць гэтую мясціну. Вось і ўсе навіны. Даўно думаў і ўсё ж вырашыў.

— Чаму ж ты, Сар'янка, так вырашыў? Зямля ж бацькоўская, памятаеш ты пра гэта?

— Усё я добра памятаю, але...

— Што?

— Заселена гэтая зямелька густа, куды ні паткнешся — усюды людзі. Думаеш, чаму я ўчора не вярнуўся? Таму, што звяроў мала стала. Дзе павыбівалі іх, а дзе яны самі жыць падаліся ў іншыя лясы ды балоты. Трэба

шукаць такую мясціну, дзе людзей паменей, дзе зямля вольная, і там пускаць свае карані...

— Боязна, Сар'янка. Тут мы ўсё навокал ведаем, нас усе паважаюць, [redacted] там... А раптам там значна горай будзе? Каб жа толькі самі, [redacted] то і дзеці ж...

— Менавіта з-за дзяцей [redacted] на такое і іду. Яшчэ год-два, [redacted] потым тут на ежу нічога і не знойдзеш. Якія надзелы я сынам раздам, калі ў самога зямлі той — за дзень два разы абыдзеш? Ці думала ты пра гэта?

— Не, родненькі, не думала, толькі ты не злуйся.

— Чаго мне злавацца? Хіба ты ў нечым вінавата перада мной ці перад нашымі дзецьмі?

— І калі ты надумаў перабірацца?

— Вось дачакаемся вясны і пойдзем. Трэба, каб добра падсохла, воды сышлі, бо праз рэкі-ручаіны надта не находзішся. Збяром нажытак, пакладзём на вазы, запражом валоў і падамося шукаць лепшай долі ды вольнай зямлі...

— Як скажаш, чалавеча, так і зробім.

Дачакаліся яны, калі снягі сышлі, калі рэчкі абмялелі, сабралі сваё невялікае дабро, паклалі на вазы, запрэглі валоў і паехалі. Валы ж, ведама, спяшаюцца, як мокрае гарыць. Крок-другі ступяць, азірнуцца, пастаяць і далей. Так і ехалі. Не адзін дзень, не два. Дзеці дык тыя ад радасці не ведалі, што і рабіць, бо для іх усё навокал было новым, незвычайным, непаўторным. Толькі і чулася:

— Тата, што гэта?

— Мама, [redacted] гэта што?

Тыя нават адказваць не паспявалі.

Недзе праз месяц Сар'ян з палёгкай сказаў:

— Тут ужо вальней. Людзей значна меней, а звяр'я-птаства ўсялякага болей. Але мы яшчэ далей паедзем.

Яшчэ тыдні два прабіваліся наперад. Аднаго дня спыніліся на высокім грудочку. Побач працякала рэчка, быў луг і лес.

— Вось тут, дзеці, і жыць станем.

Ад таго Сар'яна і пайшла наша Сар'я.

Паводле другога падання, некалі на сучаснай тэрыторыі вёскі жылі вольныя землякробы, якія падчас войнаў выступалі наёмнікамі ў паходы. Іх называлі сар'янамі (воіны-наёмнікі), [redacted] само паселішча мела назву Сар'я.

# САСНОВЫ БОР (Галяшы)

Жыў тут адзін чалавек — Рыгор. Працавіты быў, але ў жыцці яму не пашэнціла. Здарылася так, што і ажаніўся ён па каханні, і жонку сабе добрую ўзяў, і зажылі мірна і заможна, але не доўга ёй было наканавана па зямлі пахадзіць — непрыкметна падкралася нейкая цяжкая хвароба. Як толькі ні біўся муж, як толькі ні стараўся, каго толькі да хворай ні клікаў, каб замовы пашапталі ды пошасць тую на лес прагналі, — нічога не дапамагала. Яшчэ горай было Рыгору ад таго, што ў калысцы ляжала ды сама сабе нейкія малазразумелыя для дарослых песні выводзіла дачушка-немаўлятка. Як жа аднаму такое дзіцятка гадаваць, як далей быць? Сядзе Рыгор ля ложка, дзе жонка трызніць, абхопіць галаву і думае, думае. Так раніцы і дачакаецца, а пасля такога які з яго ў полі работнік. Адно толькі, што выедзе ды назад спяшаецца, бо баіцца і за малую і за хворую.

Прывёў аднаго разу гаспадар старую бабульку, якую параілі яму добрыя людзі. Пра яе казалі, што яна адразу ўздымала чалавека на ногі ці дакладна казала, колькі яму засталося на зямлі гараваць.

Вось увайшла тая старэнькая ў хаціну, пражагналася на абразы і адразу да калыскі падалася:

— Як ты яе, чалавеча, завеш?

— Ганначка.

— Прыгожае імя. Расці, Ганначка, доўга-доўга, здаровенькая будзь, прыгожанькая, шчаслівенькая...

— Бабулька, у мяне не малая, а жонка хворая... Жонка, — Рыгор паспрабаваў было акцэнтаваць увагу на зусім іншым.

Тая хуценька ўскінула на яго свае васільковыя вочы, якія не выцвілі, нягледзячы на даволі стары ўзрост:

— А я ведаю, гаспадару, ведаю...

— Дык...

— Няма чаго мне ля яе, сынку, рабіць. Не буду цябе дарма суцяшаць і хлусіць не стану, бо не ўмею.

— Гавары, бабулька, гавары. Ці зараз, ці пазней, але я пра гэта ўсё роўна даведаюся.

— Яно-то так... Жонка твая зусім мала на гэтым свеце прабудзе. Яна ўжо тут госця. Адзінае, што магу, дык гэта зрабіць так, што яна прыйдзе да памяці і хоць крышачку пагамоніць з вамі.

— Зрабі, родненькая, бо я болей не вытрымаю. Ля-

жыць мая жоначка, ні слова мне не гаворыць, ні рукой не паварушыць. Як жа мне цяжка...

— Цярпі, сынок. На ўсё воля Божая, ён усё бачыць. Нічога тут не перайначыш, калі лёс такі бязлітасны...

— За што на мяне неба гэтак зазлавала, бабулька?

— На гэта, каханенькі мой, ніхто не адкажа, бо не мае чалавек такой магчымасці: зведаць уласны лёс. А зараз дапамагай...

Доўга варажыла над хворай бабулька. Ужо стаяла глыбокая ноч, [redacted] яна ўсё нешта заварвала, разлівала, далівала, то націрала цела, то давала глынуць. Рыгор пачаў носам кляваць, і старэнькая ціхенька, каб не разбудзіць немаўляці, шапнула яму на вуха:

— Ідзі, чалавеча, паспі хоць пару гадзін, не пераважывай. Я сама за ўсім пагляджу, а жонка твая да раніцы ўсё роўна не прачнецца, бо нестае ёй жыццёвай сілы. Пакуль мае зёлкі пачнуць дзейнічаць, ды пакуль кроў хворую ажывяць... Паспі пару гадзін.

Рыгор толькі адкінуўся на палок і адразу ж заснуў. А старэнькая ўсё нешта шаптала, усё перамешвала.

Прачнуўся гаспадар ад таго, што ў хаціне нехта размаўляў. Ускочыў на ногі і толькі тут зразумеў — жонка апамяталася і гамоніць з бабулькай. Падскочыў да ложка. Сапраўды, хворая глядзела і нават спрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешка выйшла нейкая горкая.

— Вось і прыспела, Рыгорка, мая апошняя часіна, вось і адхадзіла [redacted] сваё па гэтай зямлі. Шкада, што так рана адыходжу, але, відаць, не мне наканавана жыць тут. Толькі аб адным прашу цябе — глядзі за нашай дачушкай. Заклінаю — не жаніся, не шукай жанчыну, [redacted] яе на ногі пастаў. Калі кахаў мяне, то не парушай майго апошняга слова...

— Ды я цябе не толькі кахаў, але і зараз кахаю, галубка ты мая...

— Не перабівай, Рыгорка, не перабівай, бо ў мяне сілы не так ужо многа засталося, каб спакойна размаўляць. Абяцай глядзець за дачушкай. Абяцаеш?

— Абяцаю.

— Памятай, што калі парушыш слова, то і на тым свеце [redacted] табе спакою не дам... Не будзе спакойна твайму сумленню.

— Абяцаю, родненькая. Каханнем нашым клянуся...

— Добра. А зараз пакажы мне нашу дачушку... Падымі

яе, яна і не пачуе, што ты дакрануўся. Хачу глянуць у апошні раз на сваю крывіначку...

Рыгор падняў соннае немаўля і паднёс да жонкі. Тая зірнула, і буйныя слёзы пакаціліся па яе змарнелым твары.

— Пакладзі, няхай паспіць. Вось яшчэ што. Я папрасіла бабульку жыць у нашай хаціне, калі ты не супраць. У яе нікога няма, то будзе з дачушкай сядзець. Значная палёгка табе будзе...

Рыгор яшчэ ніжэй апусціў галаву і прашаптаў:

— Ды я не супраць. Няхай і бабулька жыве, і ты з намі заставайся...

Толькі хворая ўжо не чула гэтых слоў. Яна зноў правалілася ў бяспамяцтва і цяжка-цяжка дыхала.

— Адыходзіць, Рыгорка, адыходзіць... Зараз развітвайся, бо праз якую хвіліну позна будзе. Развітвайся...

Так сканала жанчына. Пахавалі яе муж з бабулькай, і сталі ўсе разам жыць. Ганначка маленькая падрастала, а дарослым цяжкавата даводзілася. Бабулька ўжо амаль не адыходзіла ад хаціны, таму ўсе справы віселі на адным Рыгору. Паспрабуйце так: і па гаспадарцы ўсё зрабіць, і агарод да ладу давесці, і за малой, калі тая гарэза куды ўцячэ далекавата, прасачыць.

Ды не падалі духам, неяк жылі. Калі хвіліна вольная дазваляла, то ўсе разам і да памерлай на магілку хадзілі. Суседзі хто спачуваў, а хто, былі і такія, адкрыта пасмейваліся. Як была Ганначка маленькай, то не разумела, што да чаго, а як падрасла і стала добра размаўляць, то пачала пытанні задаваць.

Аднаго разу дзяўчынка прыхінулася да Рыгора і запыталася:

— Татка, а чаго нас галяшамі завуць?

— Ды гэта дурныя людзі...

— А чаму?

Рыгор бездапаможна азірнуўся на старую, але тая плакала, апусціўшы вочы долу. Гаспадар задумаўся. Праўды ж не скажаш, што яны бедныя і што з іх так насміхаюцца багацейшыя. І змоўчаць нельга, бо дзяўчынка не адчэпіцца.

— Галяшы? Таму... што па зямлі басымі нагамі ступаем. Зразумела?

— Ага...

— Ты толькі да такіх, хто так кажа, болей не хадзі, з бабулькай будзь...

Той хутар, дзе жыла гэтая сям'я, так, з тых языкоў, і сталі зваць Галяшамі, а пазней і вёска з такой назвай вырасла. Сасновым Борам яна стала ўжо значна пазней.

## СВАБОДА (Вароны)

Быў-жыў пан па прозвішчы Хлябцэвіч. Сябраваў ён не з такім жа, як сам, памешчыкам, [redacted] са звычайным селянінам, якога звалі Яўхім. Ніякая кампанія ім не трэба была, ім удваіх было добра. Вельмі любілі сябры на паляванне хадзіць. Збіраліся, бывала, з самае раніцы і да вечара, а то і да глыбокай ночы па пушчах ды барах лазілі.

Сяброўства іхняе завязалася незвычайна. У бацькі гэтага самага пана Хлябцэвіча некалі служыў вясковец, і быў у яго сын, шустры, здаровы хлопец. Куды хочаш залезе, куды хочаш зойдзе, ні хвіліны на месцы не пасядзіць.

Аднаго разу паніч збег ад слуг і пайшоў да возера — вырашыў пападарожнічаць. Сеў ён у човен і адпіхнуўся ад берага. Хвалі вынеслі яго ажно на сярэдзіну, і там вада захліснула праз борт. Закрычаў паніч, просячы ратунку, але навокал нікога не было. У думках ён ужо і са светам белым развітаўся, як раптам нехта ўхапіў яго за каўнер і павалок што сілы да берага. На сушы доўга не мог апрытомнець паніч, адно толькі цяжка дыхаў і кірхаў, бо вады наглытаўся. А незнаёмы хлапчук, яго выратавальнік, сядзеў побач ды спакойна паглядваў, быццам бы ён не чалавека толькі што з вады выцягнуў і тым самым яму жыццё выратаваў, [redacted] нейкую жабоцьку з-пад кола выкінуў.

Нарэшце паніч прыйшоў у сябе і запытаўся:

— Як цябе завуць?

— Яўхім, [redacted] што?

— Ты мне жыццё выратаваў, і цяпер я табе да скону абавязаны, вось што. Прасі, што хочаш. Мой бацька багаты, ён за мяне добра заплаціць.

— Ёсць у мяне ўсё. А калі чалавека выратаваў, дык пра якую плату можа ісці гаворка...

— Тады пайшлі да маёнтка.

— Не, мне дахаты трэба. Бацька сварыцца будзе, што недзе доўга галёкаў і нічога па гаспадарцы не дапамог зрабіць.

— Тады заўтра прыходзь.

— Добра, прыйду.

Паніч паплёўся дамоў, а Яўхім прыпусціў у вёску.

Калі ў маёнтку даведаліся пра здарэнне, то пані ледзьве не памерла з перапуду, і стары пан сурова прамовіў:

— Ты, сынку, хоць таго чалавека аддзячыў?

— Ён нічога браць не пажадаў, нават сюды ісці адмовіўся.

— Сумленныя людзі заўсёды такія, ведай на будучае.

— Я заўтра з ім пабачуся.

Так пачалі сустракацца паніч з Яўхімам. Хлябцэвіч нават у сялянскай хаціне ўпершыню ў жыцці пабыў, пазнаёміўся з Яўхімавымі роднымі і, у сваю чаргу, пачаў прыводзіць вяскоўца ў палац. Спачатку слугі крывілі насы і паспрабавалі было гнаць яго прэч, але стары гаспадар добра даў ім на арэхі.

Прайшло гадоў з пяць. Сябры выраслі і сталі сапраўднымі жаніхамі. Але, што самае цікавае, Хлябцэвіча цягнула не да паненак, не да ўсялякіх заморскіх вінаў і страў, а да вясковых аднагодкаў, дзе ён мог і адпачыць, і павесяліцца, і надта не хваляваццa, што недзе парушыць панскі этыкет.

Яўхім вырас такім волатам, што, здавалася, мог рукамі самы здаравенны дуб з зямлі выкарчаваць. Хлябцэвіч жа быў намнога слабейшы, але затое на язык больш спраўны. Апрануцца, бывала, па-вясковаму і пойдуць на вечарынку. Там слова за слова, Хлябцэвіч прычэпіцца чаго да мясцовых, дык тыя ляцяць за ім, каб добра надраць каршэнь. Паніч уцякае, толькі пяткі мільгацяць, а на вуліцы, дзе-небудзь у цёмным куце, пільнуе здаравяка Яўхім.

Дачакаецца, калі мясцовыя падбягуць на адлегласць выцягнутай рукі, і давай іх пярэсціць. Ды яшчэ і прыгаворвае: «Гэта вам за тое, што слабейшых крыўдзіце». А Хлябцэвіч таксама ўжо не ўцякае, а шчыра сябруку дапамагае.

Так разамнуцца і пойдуць па хатах.

Але найболей любілі сябры хадзіць на паляванне. Збяруцца з раніцы, сабак возьмуць, стрэльбы за плечы закінуць, і толькі іх і бачылі. Цэлы дзень вылазяць, стомы не ведаючы, але без здабычы амаль ніколі не вярталіся. Здаралася, што прыйдуць у хату да Яўхіма, пасядуць за стол, а сабакі ля парога жаласлівымі галасамі, нібы людзі, скардзяцца, што ўжо лапы перасоўваць не могуць — гэтак стаміліся. Тады гаспадыня звычайна казала:

— Во ўжо, хлопцы, нахадзіліся, нават сабакі не вытрымалі...

Але тыя на сабак мала звярталі ўвагі, бо хапалі гарачую ежу. За цэлы дзень, ведама, згаладаліся.

Так яны і жылі. Найбольш бывалі ў Яўхімавай хаце, там часта і начавалі, на што стары пан казаў:

— Хутка, сынку, ад мяне зусім туды пяройдзеш...

— Нічога, тата, табе мая сястра застанецца. Яна ад панскага стала нікуды не пойдзе, а мне, сам ведаеш, за ім цесна.

Пайшлі аднаго разу сябры на паляванне — гусей на возеры пастраляць. І нечага ж закарцела старому Хлябцэвічу паглядзець, як яны там палююць. Загадаў запрэгчы парку коней, сеў у лёгкую брычку і паехаў следам. Каб жа хлопцы пра гэта ведалі, то да такога канца не дакаціліся б. А то ж...

Адным словам, па дарозе зайшлі яшчэ на адзін хутар, дзе жыў родны дзядзька Яўхіма, каб вады напіцца ды праведаць роднага чалавека, а той узяў дый пачаставаў гасцей. Мёд сам варыў, таму і ўпіліся паляўнічыя.

Гаспадар ужо нічога не гаварыў — соладка спаў, уткнуўшы нос у місу з капустай. А сябрукі неяк вылезлі з-за стала і, хістаючыся, пакіравалі да возера. Каб жа цвярозыя былі. А то пераблыталі дарогу і хадзілі ўсё наўкола хутара. Потым Хлябцэвіч мармытнуў:

— Гэтыя чортавы вароны нам усю справу сапсуюць.

— Якія?

— Хіба ты, Яўхім, не бачыш? Вунь жа яны ходзяць...

— Дык мы іх зараз...

— Давай...

Заляскалі-загрымелі стрэлы, і панесліся радасныя крыкі:

— Я двух уклаў!

— Я таксама двух!

Стары Хлябцэвіч ехаў па дарозе, мармытаў нейкую песеньку, і тут прама пад ногі коням кінулася жанчына:

— Пане, дапамажы!

— Што здарылася, галубка?!

— Ды ваш сын з Яўхімам зараз усіх маіх курэй пастраляюць!

— Як?

— Страляюць па чорных курах — яны ў мяне ўсе такія, — а гарлаюць, што гэта вароны, якія ім на паляванні перашкаджаць будуць...

Саскочыў пан, ухапіў паплiску і за маладзіцай. А горапаляўнічыя, нічога не заўважаючы, білі ды рагаталі.

Ажно тут і пачалося. Стары Хлябцэвіч таксама немалую сілу меў. Дык як даў, то даў — абодва раўлі і ўцякалі, а ўслед ім неслася:

— Я вам пакажу, дзе куры, а дзе вароны! Каб заўтра ўсё сплацілі!

Не толькі сплацілі, але і закапалі забітых хатніх птушак сябрукі. З таго часу, як толькі дзеці заўважалі іх, дык абавязкова гарлалі:

— А вунь вароны, вароны!

Тое месца, дзе яны курэй пабітых закапалі, назвалі ў народзе Вароны, ці Воранаў Груд. Пазней там людзі сталі жыць, а назву ніхто і не мяняў, так і заставалася на працягу стагоддзяў.

А на Свабоду перайначылі недзе ў 1938 годзе.

## ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК
## (Быкі)

Жылі на хутары дзед з бабай. Удваіх толькі жылі, болей нікога ў іх не было. Ведама ж, сумна жыць адным, таму часта сварыліся. Не, не злосна, ■ так проста, каб весялей было ды час ішоў хутчэй, асабліва ў святочныя дні. Так і жылі, так амаль што ўсё жыццё і мінула. Але аднаго разу...

Неяк на світанні запрог дзед валоў і паехаў араць на далёкае поле, бо ўжо часіна прыспела. Валы не спяшаліся, ды і дзед іх не падганяў — ведаў, што іх усё роўна не падгоніш, а за доўгі дзень сам яшчэ ой як натомішся. Таму паводзіў сябе памяркоўна. Ужо далекавата Хведарка — гэтак яго звалі — ад'ехаўся ад дому, і тут яму падалося, што недзе зусім блізка нехта плача. Селянін супыніў валоў і стаў прыслухоўвацца. Праз нейкую хвіліну крык паўтарыўся, і гэткі выразны, адчайны: «Куга... Куга...»

Цяпер Хведарка зразумеў — крычала немаўля.

Стары кінуўся на крык і неўзабаве напароўся на жанчыну, якая ляжала на спіне і неміргаючымі вачыма гля-

дзела ўверх. На ёй ляжала і плакала немаўля. Гаспадар узяў спачатку дзіця і збіраўся было ехаць дадому, але потым вярнуўся, каб забраць і нябожчыцу ды дома пахаваць па-людску.

Калі Тэкля заўважыла, што муж вяртаецца дадому, то адразу зразумела, што нешта здарылася. Падбегла яна да воза, глянула і пачала жагнацца:

— А Божухна, што ж гэта такое?..

— Смерць заспела жанчыну ў дарозе, што тут болей казаць... Ды яна ж з немаўлём...

— З немаўлём?.. То мы яго, Хведарка, і выгадуем. Сваіх дзяцей не было, а на старасці гадоў такая радасць здарылася...

— Трэба гэтую небараку пахаваць...

— Усё зробім як мае быць. Усё зробім...

Пахавалі жанчыну-гаротніцу, і сталі яе сыночка гадаваць. На першым часе дзе іхнія спрэчкі падзеліся. Ціха было ў хаціне, спакойна, ніводнага крыку не чуваць. Малога назвалі Сымонкам. Калі ён пайшоў, то нарадавацца дзед з бабай не маглі. Толькі і гаворкі было, што пра першыя крокі хлопчыка.

Час мінаў незаўважна. Гаспадары старэлі, а Сымонка выцягваўся ў падлетка. Ужо добра дапамагаў па гаспадарцы. Імкнуўся ўсё сам рабіць, але, праўда, яшчэ не ўсё атрымлівалася, бо даволі часта сілы не хапала. Хведарка супыняў сына:

— Не рвіся, родненькі, не трэба. Заўтра дзень будзе, заўтра і даробіш.

— Навошта кідаць на заўтра, калі можна справу да канца сёння давесці.

Старыя, седзячы дома, не хацелі гультаяваць, таму, параіўшыся, вырашылі гадаваць гусей на продаж. Птушак развялі многа, бо хутар дазваляў гэта зрабіць — зямлі вольнай было многа. Калі восень прыспела, яны ўжо былі даволі ладнымі і трэба было везці іх прадаваць. Вось сабраўся Хведарка з раніцы, узяў дзесятак гусей і паджгаў на базар. Коніка ледзьве не загнаў — так спяшаўся. Але прадаў толькі палову. Вярнуўся дамоў, а Тэкля давай яго дакараць:

— Што ж ты, дзед, гэтак мяне падводзіш? Што ж мы так заробім?

— Хіба я блага сёння зарабіў?

— Ды ты ж толькі палову прадаў, а трэба было ўсіх.
— Болей ніхто купляць не жадаў...
— У наступную нядзелю сама павязу, а ты дома застанешся.
Дачакалася гаспадыня нядзелі, узяла на воз дзесятак гусей і паехала. Хведарка дома сядзеў, а Сымонка хадзіў да сяброў у суседнюю вёску. Пад вечар заяўляецца задаволеная Тэкля.
— Ну, — звяртаецца да яе стары, — прадала?
— Толькі я заехала на базар, ажно падыходзяць да мяне трое хлопцаў і прапаноўваюць купіць усіх гусей, а грошы заўтра прынесці. Я пагадзілася. Вось пераначую дома ды паджгаю грошы забіраць.
— Старая ты чапяла! — узлаваўся гаспадар. — Цябе ж ашукалі! Які дурань табе заўтра прынясе грошы?! Дзе ты такое чула?!
Як усхадзіліся старыя сварыцца, то каб не прыйшоў Сымонка і не стаў іх сарамаціць — да раніцы той гоман не заціхаў бы.
Выслухаў сын, што атрымалася, і прамовіў рашуча:
— Цяпер я прадаваць гусей буду, а то пасля вашых паездак толькі сорамна людзям у вочы глянуць.
Прыехаў Сымонка на базар, стаў з возам і давай у людзей распытваць, ці не ведаюць яны, хто ў мінулую нядзелю ў старой бабы задарма гусей купляў. Неўзабаве яму паказалі дваіх хлопцаў, якія сноўдалі сюды-туды. Падбеглі і да Сымонкі. А ён жа не дурань:
— Хлопцы, хочаце, я вас у карчомцы пачастую?
— Хочам.
— Дык пайшлі.
Папрасіў добрых людзей за таварам прыглядзець, а сам у карчму. Зайшлі — ён і давай частаваць. Гарэлкі не шкадуе тым зухам, падлівае:
— Піце, піце, мне не шкада.
Напіліся тыя, што ўжо і не цямяць добра, і хлопец ім прапаноўвае:
— Купіце ў мяне быкоў. Такія быкі, што ўсе пазайздросцяць.
— А за сколькі прадасі?
— Ды як усе, нават саступлю крыху.
— Тады давай.
Яны прама тут грошы яму адлічылі, ён ім гусей пакідаў з воза і паехаў дамоў.

Тыя п'яніцы прачнуліся і лыпаюць вачыма: грошай няма, а што куплялі — не ведаюць. Яны да карчмара, а той рагоча, ажно качаецца:

— Дык вы ж быкоў купілі.

— Быкоў? А дзе яны?

— Вунь два, бачу, ходзяць, — і на гусакоў паказвае.

Цяпер толькі зразумелі тыя, што іх хлапчына правучыў. Ды позна было што-небудзь выпраўляць. Болей таго, як толькі хто іх бачыў, дык адразу казалі:

— Вунь тыя дзядзькі, што гусакоў за быкоў купілі.

Так і павялося, што родам не адкуль-небудзь, а з вёскі, якая і назву з-за іхняй недарэчнай п'янкі атрымала адпаведную — Быкі. Ужо за Саветамі яе перайначылі ў Чырвоны Кастрычнік.



# ГАРАДОК

Было ў аднаго бацькі трое дзяцей, і так атрымалася — усе дочкі. Гаспадар у адчаі плюнуў і сказаў адно:

— Давядзецца нам, жонка, цяпер да зяцёў туліцца, раз сваіх хлапцоў не маем.

— Так, — пагадзілася тая.

— Каб жа хоць людзі добрыя трапіліся, а то састарэем, знясілеем, тады як хочаш, так і жыві. Во ўжо будзе радасць на апошнія гады...

— Хто яго, чалавеча, ведае, як усё атрымаецца. Што Бог дасць, тое і будзе, супраць яго ўсе мы нішто.

Пагаманілі так і разышліся кожны па сваіх справах.

Час непрыкметна ляцеў. Дочкі ў дзяўчат выцягнуліся, старэйшыя ўжо і на хлапцоў галовамі круцілі.

Звалі іх Яся, Кася і Анухя. Першыя дзве занадта бойкія былі, и малодшая сціплая, нясмелая. Адзінае, што лепш за сясцёр рабіла, — гэта працавала. Усё ў яе руках гарэла. А вось на вячоркі сёстры яе не бралі, як тая ні прасілася.

Так і прывучылі Анусю: як гуляць, то толькі яны. Раніцай іх было не дабудзіцца. Бацька пачынаў злавацца, хапаў што-небудзь, каб правучыць паганак, але матуля адразу кідалася заступацца:

— Ці не здурнеў ты, чалавеча? Ці ж так можна?

— А колькі спаць можна? Людзі ўжо даўным-даўно працуюць, а мае ляжаць упокат. Адна Ануся працуе, не глядзіць на іх.

— То і вазьмі з сабой у поле Анусю. Не трэба хвалявацца. Спакойна перакусі, ды і едзьце. А я з гэтымі зласліўкамі сама разбяруся. Я ім тут такога дыхту задам, што месца не знойдуць...

— Так і зраблю, — пагаджаўся гаспадар, бо не мог болей трываць, сам ён быў чалавек гарачы да працы, — але ж глядзі, правучы як мае быць.

Пасля снедання гаспадар клікаў:

— Анусечка, дачушка, паехалі са мной!

Тая ад радасці не ведала, як дзякаваць тату, быццам бы той браў яе не на цяжкую працу, а на вячоркі ці на які кірмаш.

Увечары, вяртаючыся дамоў пасля, здавалася б, непасільнай працы, зацягвалі ў два галасы песню. І так хараша ў іх атрымлівалася, што людзі паміж сабой перамаўляліся:

— Во ўжо выцягваюць... А галасы, галасы якія звонкія...

— А што ўжо Ануся... Сарамлівая, прыгожая, добрая. Во некаму пашанцуе з жонкай...

Між тым гаспадар з дачкой ступаў на парог і гукаў:

— Маці, стаў на стол есці, мы ледзьве жывыя...

— Ага, ледзьве жывыя, — уступалі старэйшыя дочкі, — а песню гарлалі — здалёк чуваць было.

— Вы яшчэ вучыць мяне будзеце? — ажно падскокваў са злосці селянін.

— Ой, татачка, нас сёння ўжо матуля біла, гэтак вучыла, што нават сесці не можам.

— Мала дала! Каб яшчэ і легчы не маглі, тады, можа, і перайначыліся б! — заключаў гаспадар і садзіўся есці з Анусяй.

Любіў той чалавек, асабліва калі ехаў на кірмаш, дапытвацца:

— Што вам сёння прывезці, мае шчабятушкі?

Наперад адразу кідаліся старэйшыя сёстры і крычалі:

— Тата, мне трэба хусцінку прыгожую!

— Татачка, а мне каралі!

— А што ж ты, Анусечка, маўчыш? — звяртаўся гаспадар да малодшай. Што табе прывезці? Табе я прывязу абавязкова, бо ты мне ва ўсім дапамагаеш, ніколі ад мяне не ўцякаеш, не хаваешся.

— Ды мне, татулечка... — пачынала тая і сарамліва апускала вочы долу.

— Што? Што? Гавары, не палохайся, — падбадзёрваў бацька.

— Мне, татулечка, прывязі маленькага котку з кірмашу...

— Навошта табе котка? Прасі што лепшае, — умешвалася маці, — катоў у нас і сваіх хопіць.

— Не, [redacted] хачу толькі котку... Каб мне яго тата прывёз з кірмашу...

— Добра, дачушка. Каб што даражэйшае прасіла, і тое выканаў бы.

Вечарам, вярнуўшыся з кірмашу, бацька раздаваў падарункі жонцы і дочкам і заўсёды што-небудзь Анусі, што яна і не прасіла. Малодшая нарадавацца не магла на котку: цалавала яго, падкідвала. І што ж вы думаеце? Так да сябе таго коціка прывучыла, што ён за дзяўчынай усюды хадзіў: яна на працу — і яе Мурык бяжыць, яна сядзіць — і ён ля яе ўмываецца, яна спіць — дзесьці побач і кот мурлыча. Дзівіўся на такую справу гаспадар і ніяк зразумець не мог:

— Кот, здавалася б, але ты паглядзі, як ён дабро ды ласку адчувае. Да другіх жа і блізка не падыходзіць...

Прайшоў яшчэ год. Зноў бацька збіраецца на кірмаш, зноў дапытваецца:

— Ну, дачушкі, гаварыце, каму што сёння прывезці.

Старэйшыя адразу да яго і ў адзін голас:

— Татка, нам падарункі. Чакаем падарункаў.

— Якіх?

— Мне сукенку прыгожую, — закамандавала адна.

— А я хачу капялюшык. Такі, як пані носяць, — азвалася другая.

— А табе, Ануська?

— Мне, татка, прывязі пару курачак і пеўня.

— І ўсё?

— Усё.

Увечары гаспадар зноў раздаваў падарункі. Старэйшыя дочкі ад радасці не ведалі, што рабіць, [redacted] гаспадыня сярдзіта бурчэла на Анусю:

— Трэба было яшчэ перці гэтых курэй і пеўня з кірмашу... Ці ў нас іх дома не хапае?

Малодшая маўчала, нізка апусціўшы галаву, але за яе ўступіўся гаспадар:

— Чым ты, жонка, не задаволена? Ці нешта я не так зрабіў? Ці табе падарункаў не прывёз?

— Усё так. І падарункі прывёз. Толькі навошта курэй і пеўня з кірмашу перці, калі іх вунь колькі па падворку бегае...

— А табе што, месца шкада? Ці можа Анусяў мяне падарунка не заслужыла? Што папрасіла — тое я і прывёз, і давай пра гэта болей не згадваць.

Так і заціхала нечаканая спрэчка, бо гаспадыня пабойвалася мужа. Толькі пастаянна папінала:

— Пачакай, пачакай. Віешся ўсё вакол сваёй малодшанькай, а ці нажывешся ля яе...

— А ты за старэйшых увесь час заступаешся, пакрываеш іхняе лайдацтва. Думаеш, я не бачу? Чаму ў іх можа быць радасць, а у Анусі — не?

Не было чаго гаспадыні адказаць, і яна рабіла выгляд, што займаецца нейкай неадкладнай справай.

Так яшчэ крыху часу прайшло. І вось неяк старэйшыя — Яся ды Кася — заявілі:

— Тата, чакай сватоў. Павінны быць на гэтым тыдні.

— Што ж, сватоў дык сватоў.

— А ты пра пасаг не забыўся?

— Не забыўся.

— Глядзі, каб перад чужымі людзьмі нас галадранкамі не выставіў...

— Не выстаўлю.

Хто ж падумаў бы, што родныя дочкі з бацькам такое зробяць? З бацькам дык з бацькам, але з матуляй? Яна ж за іх заўсёды заступалася, усё рабіла так, каб працавала Ануся, а не яе старэйшыя сёстры.

Першымі прыйшлі сваты да Ясі. Яна на бацькоў як зыркнула, як глянула і прамовіла скрозь зубы:

— Давайце мне палавіну.

— Не, дачушка, — ласкава пачаў было бацька, — не палавіну, а траціну, бо вас жа ў мяне трое...

Маці нібыта пра нешта здагадалася і голас падала ў падтрымку мужа:

— І не траціну, а чацвярціну. Дзе ж гэта мы, чалавеча, з табой старасць дажываць будзем?

А дачка нічога, што маладая, але ж і хітрая на сваю карысць, кажа:

— Аддасце мне палавіну — ля мяне і прытуліцеся. Не бойцеся. Усё ў парадку, усё ладам пойдзе.

Бацька з матуляй, не спяшаючыся даваць адказ, пераглянуліся і змоўчалі. Потым жанчына выдыхнула:

— А можа, і праўда так зрабіць? Можа, яна і дагледзіць нас?..

— Каб жа потым даверлівасць нам бокам не вылезла, — са скрухай у голасе прамовіў селянін. — Не вельмі мне гэта падабаецца. Не, не аддадзім ёй палавіну, толькі чацвярціну.

Вой, што тут пачалося! Як загарлала Яся, як стала тупаць нагамі, а кулакамі трушчыць усё на сваім шляху. Мала гэтага, яшчэ і верашчала:

— Ой, людцы! Падманулі! Падманулі! Ад мяне пазбавіцца хочуць! Пасагу ніякага не даюць! Як жа мне сваю сям'ю ствараць?!

Пакуль у хаце галасіла, гаспадары трывалі, а потым, здагадалася, на вуліцу выскачыла. Там ужо іншая справа, там жа суседзі. Людзі прыслухоўваліся, зразумець, што да чаго, не маглі. Тады жонка і кажа мужу:

— Давай ёй аддамо тое, чаго яна дабіваецца, бо перад усёй вёскай такога накрычыць, што потым суседзям у вочы сорамна глядзець будзе.

Гаспадар пачухаў патыліцу і адказаў запытаннем:

— А ці не гэтага яна сваім крыкам і дабіваецца? Аддаць-то лёгка, але дзе ж мы потым возьмем? Яшчэ ж дзве дачкі на руках...

— Дык гэтая ж абяцала забраць да сябе жыць, то ёй давай палову і аддамо, [redacted] другую палову паміж Касяй і Анусяй падзелім...

Селянін задумаўся. Здавалася, нешта слушнае раіла гаспадыня.

— Няхай так і будзе. Заві тую крыклівую.

Маці радасная выскачыла на падворак, а праз хвіліну, гэткая ж радасная і ўзбуджаная, за сталом сядзела Яся.

Адскакалі адно вяселле, а тут і Кася падыходзіць да бацькоў.

— Чакайце ў гэтую нядзельку сватоў да мяне.

— Добра, дачушка.

— Толькі ж вы мяне беспасажніцай не выпхніце ў людзі.

— Не хвалюйся, усё будзе добра.

— Каб і мне гэтулькі ж далі, як і Ясі.

— А то як жа. Меней не атрымаеш.

Гамоняць бацькі з дачкою, а не, каб удумацца ў тое, што яна просіць і што яны ёй абяцаюць.

Толькі вяселле прызначылі, Кася і запатрабавала:

— Давайце тое, што абяцалі.

— Што? — здзівіўся гаспадар.

— Маю палавіну.

— Э не, дачушка, не палавіну, а ад палавіны палавіну.

— Як гэта?

— А вось так. У мяне ж яшчэ Ануся ёсць. Ёй таксама нешта трэба даць, калі стане на ручнік з кавалерам. І сабе трэба нешта на старасць пакінуць...

— А вам навошта? У нас жыць будзеце. Не бойцеся, гора не зведаеце.

— А не падманеш? — дапытваўся бацька.

— На чым хочаце прысягну, — адразу забожкала тая.

Параіліся бацька з матуляй і вырашылі аддаць ёй амаль столькі, колькі аддалі Ясі, а жыць па чарзе ў кожнай са старэйшых дачок, самай малодшай пакінуўшы хатку і лапінку зямлі.

Зажылі старэйшыя дочкі сваімі сем'ямі. Ні адна з іх пасля таго, як адышлі, ні разу ў родную хаціну так і не зазірнула. Болей таго, людзі распавядалі, як яны скардзяцца, што бацькі ім нічога не далі, ■ гэтулькі ж жывёлы ды птушак маюць. Каму такое прыемна слухаць? Аддалі і коней, і валоў, і авечак, і свіней, сабе, можа, пару чаго пакінулі.

У іншай сям'і малодшая хутка голас падала б і запатрабавала сваё. Але Ануся была не з такіх. Яна маўчала. Ужо суседзі сталі селяніну гаварыць:

— А як жа твая малодшая замуж пойдзе, ты ж ёй нічога не пакінуў? Ці правільна ты зрабіў, што тым усё, а гэтай толькі нейкую лапінку?

Гаспадары ўжо і самі-зразумелі, што схібілі, але ўсё спадзяваліся, што неяк абыдзецца, неяк выкруцяцца, калі сваты ў хаце з'явяцца.

І з'явіліся, толькі не сваты, а абедзве старэйшыя дочкі. Прыйшлі і запатрабавалі, каб выбіраліся родныя з хаціны. Як пачуў такое бацька, дык ухапіў пас — і да іх. Але яны былі хітрыя: самі ў хату завіталі, а мужоў ды іх сваякоў за парогам пакінулі. Пачулі тыя крыкі аб дапамозе, уляцелі ў будыніну і выкінулі адтуль гаспадароў з Ануськай. Толькі і паспелі яны забраць пару падушак ды яшчэ нейкую драбязу. Затое за дзяўчынай бег котка і ішлі куры з пеўнікам.

Так яны і пасяліліся на той лапінцы зямлі. Добра, што вясна на дварэ была. Бацька з матуляй сядзелі і нікуды

не выходзілі — так гора да зямлі прыбіла. Не маглі паверыць, што родныя дочкі з імі так паступяць.

За справу ўзялася Ануська. Пабегла па суседзях, па тых людзях, каму некалі сама дапамагала, і папрасіла прыйсці на выручку. Трэба ж неяк хаціну агараць, бо маразы не за гарамі, а ў іх жа нічога няма. Паслухаліся людзі, і недзе праз месяц і хаціну, і хлеў паставілі. Толькі ў тым хляве жывёлы не было — усё ж адабралі Яся з Касяй ды іхнія мужыкі. Гаспадар сабраўся было пайсці і запатрабаваць назад сваё дабро, але Ануська яго супыніла:

— Ніколі я, тата, табе і слова насуперак не вымавіла, а сёння паслухайся мяне, калі ласка. Не ідзі туды, не прыніжайся, неяк і самі разжывёмся...

Заплакаў селянін з адчаю, ды што ўжо рабіць, калі так здарылася.

І павялося ў іх з дня ў дзень: баба курэй пасвіла на падворку, дзед з катом нешта па гаспадарцы тоўкся, а Анузя тую лапінку зямлі даглядала, і так спраўна ўсё рабіла, што хоць ты любуйся.

Неўзабаве і да яе жаніх пасватаўся, ды такі багаты, такі прыгожы. Як пачуў пра ўсё, што тут здарылася, то толькі прысвіснуў і сказаў:

— Ды мы з вашага гародчыка сапраўдны гарадок зробім. Грошы ў мяне ёсць, зямлі прыкупім і зажывём багата.

Тую мясціну людзі з таго часу сталі Гарадком зваць.

## АСТРАЎЛЯНЫ

У надта даўнія часы здарылася гэтая гісторыя, якая дала назву нашаму паселішчу.

Па дарозе ішлі два жабракі, і вёў іх хлопчык-павадыр. Не спяшаліся Божыя людзі, бо не было ў гэтым патрэбы. Што ім спяшацца, калі ні гаспадаркі, ні жывёлы, адно толькі пахіленая хаціна, якую любы вецер наскрозь прадзімаў, і яе нельга было натапіць так, каб хоць крыху цяпло ў ёй затрымлівалася. Таму гаспадары вымушаны былі грэцца, па чарзе залазячы ў печ, і пасля такой працэдуры яшчэ доўгі час нагадвалі сабою чарцей. Справа ў тым, што самі былі сляпыя, а ўмывацца не вельмі перліся, вось і хадзілі ў сажы да таго часу, пакуль яна сама па сабе не абціралася ці не абсыхала. Хлопчык толькі пасміхваўся, але нічога не гаварыў старым, бо на ўсе заўвагі яны звычайна адказвалі аднымі і тымі ж словамі:

— Што табе, даражэнькі, гэтая сажа здалася? Мядзведзь, кажуць, адвеку не ўмываецца, а бачыш, які здаровы ды магутны расце. Што нам тая сажа, мы ж у чыстых падушках спаць не прызвычаіліся...

— Ды нейк сорамна, — пачынаў павадыр, — мы ж на людзях ходзім...

— Вось няхай людзі і бачаць, што мы брудныя і знясіленыя, што ў нас амаль нічога няма, тады і шкадаваць нас больш будуць, лішні кавалак хлеба-сала перакінуць, а гэта якраз-такі нам і не перашкодзіць.

— Вашы справы, вы як сабе хочаце, так і рабіце, — прамаўляў хлопчык і, пасміхваючыся, адварочваўся, бо глядзець на мурзатых старых без смеху проста нельга было.

У той дзень усё адбывалася як звычайна: паціху крочылі жабракі і вялі паміж сабою гамонку. Што яшчэ заставалася рабіць? Сонейка прыгравала, птушкі навокал спявалі, ласкавы ветрык абдзімаў твары. Неяк сама па сабе завялася гаворка пра скарбы. Тут адзін стары і пачаў распавядаць пра тое, што пачуў некалі ад свайго бацькі, а той быццам бы на ўласныя вочы ўсё бачыў. Гаворка ішла пра аднаго парабка Васіля, які ў купальскую ноч знайшоў у лесе папаратнікаў цвет

— Во каму пашанцавала, — выдыхнуў хлопчык-павадыр, — во каму багацця прываліла...

Ён так казаў, бо ведаў ужо, што папаратнікаў цвет даваў любому чалавеку магчымасць глыбока пад зямлёю ці дзе ў якіх іншых мясцінах бачыць схаваныя скарбы.

— Так, яму пашанцавала. Усяго за нейкі год той Васіль, якім усе пагарджалі, стаў заможным гаспадаром. Накупіў жывёлы, пабудаваў багаты двор, наняў ужо сабе парабкаў і стаў жыць-пажываць. Вось яно як здараецца ў жыцці...

— Па-ўсялякаму бывае, — пагадзіўся другі жабрак, які не перабіваючы выслухаў гэткую цікавую гісторыю. — Калі багатаму пашанцуе, а калі і беднаму... Не хачу я папараць-кветкі, мне б які кашалёк з грашыма знайсці, і то добра было б...

— Бачыш, чаго захацеў, — упікнуў першы. — Дзе яны, тыя грошы, валяюцца?

Прайшлі якую сотню крокаў, і хлопчык раптоўна ўскрыкнуў:

— Я знайшоў! Знайшоў!

— Што?

— Кашалёк.

— Ты што, жартуеш?..

— Не... У ім і грошы ёсць...

Хлопчык падаў сваю знаходку. Жабракі яе паціху абмацалі і пагадзіліся:

— Сапраўды, так хрумсцяць грошы... Гэта, мабыць, яны і ёсць... Паглядзі-тка ты, даражэнькі, у сярэдзіну.

— Ой, іх жа тут многа! Што мы з імі рабіць будзем? — занепакоіўся павадыр.

— А вось сядзем зараз і падумаем, — прапанаваў адзін з жабракоў.

Селі яны ўзбоч дарогі і пачалі разважаць, што на грошы тыя прыдбаць можна. Неяк пацiху-пацiху і выбіліся да адзінай думкі — пабудаваць добрыя будынкі і зямлі прыкупіць, каб гаспадарку завесці. Самі-то яны нічога ўправіць не здолелі б, але ж хлапчынка расце-падрастае. Праз колькі гадоў і на ногі стане. А калі зямля ды хата ў селяніна ёсць, то яму пра іншае і марыць не даводзіцца. Ажэніцца, сям'ю завядзе, іх даглядаць да магілы будзе. Чым справа дрэнная? Так вырашылі — так і зрабілі. На тым самым месцы, дзе стаяла іхняя пахіленая хацінка, новую сядзібу вырашылі ставіць. Нанялі майстроў, і тыя шчыра ўзяліся за працу. Праз пару месяцаў усё было гатова.

Калі найбольш цікаўныя ды нецярплівыя дапытваліся, адкуль у іх грошы з'явіліся, то старыя адказвалі своеасаблівай загадкай:

— А мы, родненькія, узялі на дарозе кашаляне і з яго сталі астраўляне...

Паспрабуй здагадайся, што тут да чаго. Хоць усё вельмі проста — знайшлі кашалёк на дарозе і з яго займелі хутар — востраў. Таму і засталася назва Астраўляны.

## ВЕРАМЕЕВА

Чалавек некалі ў нас такі жыў, звалі яго Верамей. Адкуль ён родам ці адкуль прыйшоў, ніхто і не ведае, але старыя людзі расказваюць, нібыта менавіта ён першы тут сваю зямлянку пабудаваў. Не здзіўляйцеся. Прыйшлося так выкручвацца, бо ўжо восень позняя стаяла і маразы павінны былі неўзабаве прыціснуць. Пра нейкую там хаціну і думаць не даводзілася, таму ён і знайшоўся. З жонкай удваіх выкапалі яміну шырокую, ды і ўдаўжкі лад-

ную, а зверху ўжо нешта падобнае на зруб зрабіў. Пасярэдзіне склаў невялічкую печку, і атрымалася своеасаблівая будыніна. Дзеці дык тыя нарадавацца не маглі, што ў ёй жыць будуць, смяяліся, жартавалі, часта заміналі дарослым, і тыя незласліва пакрыквалі:

— Эйш, жэўжыкі! Няма ад вас паратунку! Тут праца стаіць, а яны...

Добра, што паспелі, добра, што Верамей здагадаўся так зрабіць. Хто яго ведае, як бы ўсё далей атрымалася, калі б не практычная хватка гаспадара.

Было ўсялякае, але найболей радасці прыносіла жыццё той сям'і. Новую хату Верамей паставіў на пагорачку, і была яна бачна здалёк. Хто ні ішоў па бліжэйшых сцяжынках, то заварочваў да падворка, каб бліжэй зірнуць на працу рук сапраўднага майстра. Зачэпка часцей за ўсё была адзіная — папрасіць вады напіцца, але калі бачылі хаціну, падворак, то забываліся на загадзя падрыхтаваныя словы, адно толькі і выдыхалі:

— Гэта ж трэба адной сякерай такі цуд вырабіць! Вось дзе рукі залатыя, не кожнаму такое дадзена ад Усявышняга! Берагчы іх трэба, бо яны яшчэ не адну хаціну за сваё жыццё зробяць.

Верамей разводзіў рукамі і разгублена казаў:

— Ды што ўжо тут такога незвычайнага, самае простае. Любому дай сякеру, дык адробіць куды лепей, чым у мяне. Толькі і ўсяго...

— Э, не, чалавеча, дарма ты працу ўласных рук не ацэньваеш па-сапраўднаму. Ці можа жартуеш, думаеш, што мы ў сапраўднай працы не разбіраемся? Ды мы ж не першы дзень на белым свеце жывём...

Гаспадыня найбольш маўчала, адно толькі апускала вочы долу, бо каму ж не прыемна слухаць, як хваляць роднага чалавека. Потым прыносіла нечаканым гасцям і халоднага малака ў гладышу, і яблычак са свайго садка, які ўжо шчодра адорваў сям'ю пладамі.

Так слава пра незвычайнага цесляра ішла-кацілася па ўсім наваколлі, і неўзабаве яго пачалі запрашаць будаваць усялякія гаспадарчыя будыніны розныя сяляне. Кожны лічыў за гонар перацягнуць Верамея да сябе, таму плацілі яму заўсёды болей, чым іншым майстрам, каб не пакрыўдзіць чалавека. А для таго не плата была галоўнае. Сям'я ягоная ўжо моцна стаяла на нагах, зямлі меў ладны кавалак, будыніны ўсе новыя, прыгожыя, надзейныя, сад вялікі, жывёлы многа, і дзеці ўжо падрасталі,

дапамагалі бацькам. Проста рабіў чалавек, як сабе, дрэнна працаваць не мог, не прызвычаіўся.

Але самі ж ведаеце, што вельмі часта чалавек залежыць ад зусім іншых, нейкіх глабальных, абставін, якія ўплываюць на цэлыя народы. Што ўжо тут гаварыць пра асобныя сем'і...

Працаваў неяк Верамей у далёкай вёсцы — з падручнымі стаўляў багатаму селяніну вялікі дом. Выканалі ўсю работу, задаволены гаспадар добра заплаціў майстрам і накрыў даўжэзны стол, за які запрасіў і работнікаў, і суседзяў (гэта прыкмета такая — каб шчасце ды здабытак вяліся ў новым жыллі). Добра пасядзелі людзі, падзякавалі селяніну і давай ужо разыходзіцца. Падняўся і Верамей, пакланіўся гаспадару і прамовіў:

— Дзякуй табе, чалавеча, за добры пачастунак, за шчодрую плату, за тое, што ацаніў нашу працу. Жыць табе векаваць у гэтай будыніне. Каб усё самае лепшае, самае светлае сюды ў госці наведвалася.

Русчулены селянін ледзьве не заплакаў ад такіх пажаданняў:

— То не спяшайцеся, майстры, выпіце яшчэ па чарачцы. Самі ж ведаеце, для мяне гэта радасць. Пасядзіце, ад шчырага сэрца прашу...

Пераглянуліся паміж сабой работнікі, і Верамей за ўсіх адказаў:

— Паважаючы цябе, чалавеча, мы яшчэ раз прысядзем, але толькі на хвіліну. Далекавата нам дабірацца. Пакуль тое-сёе, то і сонейка зойдзе. А ў цемры можна і гуз набіць, дык потым людзі смяяцца будуць, што гарэлку надта шануем...

Зарагаталі ўсе і прыселі. Выпілі па адной, па другой і зноў усталі. І тут старая, ссохлая, счарнелая ўся, як варона, жанчына, якая сядзела з самага краю стала, незадаволена прабурчала, ды так моцна, што ўсе пачулі:

— Нядоўга ўжо нам радавацца засталося, нядоўга... Дарэмна вы тут радуецеся, песні спяваеце...

Усе, хто чуў, так і зніякавелі, пачалі дапытвацца ў гаспадара:

— Хто, хто гэта такая? Чаму яна так у святочны дзень гаворыць?

— Гэта, хлопцы, мая маці. Яна ўжо з розуму выжыла, таму і гамоніць абы-што. Не слухайце вы яе. Як гэта нам мала радавацца засталося? Такую хаціну вы мне адляс-

калі, што зайздросцяць ужо зараз, а праз нейкі год яшчэ колькі зайздроснікаў дадасца...

— Але ці ж можна так?..

— Я ўжо прызвычаіўся, таму і вы забудзьцеся, — стараўся падбадзёрыць майстроў гаспадар.

Тут зноў пачулася пагрозлівае:

— Нядоўга засталося радавацца, вось пабачыце. Чакае вас агонь і бура. Чакае вас смерць і жахі ўсялякія, хутка пра гэта даведаецеся, хутка...

Плетануў Верамей з сябрамі далей ад таго падворка, нават ужо і развітанне не зацягваючы, бо душу скалыхнулі тыя словы. Пакуль ішлі, пакуль гаманілі паміж сабой, то неяк супакоіліся. А там і родныя мясціны пачаліся. Хлопцы па адным, па два разыходзіліся, да сем'яў імкнуліся. Нарэшце адзін Верамей бадзёра крочыў да ўласнага хутара.

Зайшоў на падворак і аблегчана ўздыхнуў — дабраўся. Адразу ў хаціну не пайшоў, а прысеў на камень пад старой грушай. Любіў ён тут сядзець ды ўслухоўвацца ў вечаровую цішыню. Так і на гэты раз было. Збіраўся ўжо крочыць спаць, як пачулася далёкае галашэнне. Верамей паслухаў, зайшоў у хаціну і не вытрымаў — разбудзіў жонку:

— Ганна, пайшлі, паслухаеш нешта...

Тая здзівілася, але не стала пярэчыць, выйшла разам з мужам. Сталі ўслухоўвацца, каб разабраць хоць паасобныя словы, а той жаночы голас не заціхаў, і, што самае дзіўнае, стагнала-крычала жанчына не з боку вёскі, а з боку непралазнай пушчы.

— Страшнае прадвесце гэта, жонка, — выдыхнуў Верамей.

Тая не адказала, бо ўважліва прыслухоўвалася.

— Чалавеча, яна галосіць і гаворыць: «Ой, Божа ж мой, Божа, што будуць бедныя людзі ў той час рабіць, калі ліхі д'ябал стане кроў ліць?»

— Нам, Ганна, сёння ўжо старая адна, там, дзе мы працавалі, пра страшныя падзеі наперадзе пляла. Пайшлі лепей спаць, а то потым не заснём.

Толькі сон не выратаваў іх ад жудасных падзей. Праз нейкі тыдзень сапраўды пачалася вайна лютая. Адзін ці то цар, ці то кароль ваяваў з другім. Пачалі вяскоўцаў хапаць на тую бойню. І Верамея лёс не мінуў. Як пайшоў чалавек на вайну, то назад і не вярнуўся, але памяць пра яго засталася ў народзе. Ля ягонай хаціны сталі другія сем'і хаціны будаваць і назвалі сваю вёску — Верамеева.

# ПРУДОК

Гэтая вёсачка знаходзіцца зусім побач з Верамееўкай. А заснавана была крыху пазней за першую. Здарылася гэта вось як.

Жылі два браты — адзін багаты, а другі зусім бедны. Старэйшага, багатага, звалі Хведарам, а малодшага, беднага, — Раманам. Так яны і жылі побач. Бацька ім, пры старасці, зямлю і ўсе будынкі пароўну падзяліў. Праўда, сам пайшоў жыць не да старэйшага, а да Рамана, і гэта нягледзячы на ягоную беднасць. Паўтараў толькі стары:

— Не можа такога быць, каб Усявышні так і застаўся глухі да мальбы беднага. Нешта некалі пераменіцца...

Хведар рагатаў з такіх слоў:

— Нічога не пераменіцца, як было — так і будзе. Хоць не, я яшчэ болей узбагачуся...

Стары ў адказ толькі галавой круціў:

— Грэх гэта, чалавеча, грэх вялікі... Ты ж з роднага брата насміхаешся. Разам жа раслі, адны рукі вас гадавалі, а такое гаворыш. Лепей бы дапамог беднаму, табе потым залічылася б...

— А навошта мне потым? Навошта мне дапамагаць? У мяне ўсё ёсць, і ніхто мне нічога не даваў, усё ўласнымі рукамі ды гарбом зарабіў. Калі Раман працаваць не ўмее, то няхай і дзяцей не плодзіць. Іх ужо гэтулькі, што і сам, мабыць, не ведае ўсіх па імёнах. Тут дык і розуму, і спрыту хапае.

Бацька грэбліва пляваў і мовіў:

— З табой пагамоніш — розуму не набярэшся.

Сын таксама не заставаўся ўбаку:

— А я ад размоў не багацею.

— Усё пра багацце...

— А то як жа... Навошта тады і жыць, калі бедным ды гаротным сядзець?

— Па-твойму, дык бедным і гаротным і жыць ужо на гэтым свеце не выпадае?

— Ну я такога не гаварыў, — пачынаў злавацца Хведар, — гатовы ўсяго навешаць на мяне, абы толькі маўчаў.

— Ты змоўчыш, — выціскаў з сябе стары і ішоў на падворак да Рамана.

Там садзіўся і, апусціўшы галаву, думаў нейкія адвечныя думы, а навокал яго дзеці бегалі, скакалі, песні спявалі, з просьбамі ўсялякімі звярталіся. Радасна ім было

ад таго, што сонейка свеціць, што цёпла, што трава расце ды дрэвы шапочуць, што жывуць, нарэшце. Так, гледзячы на іх, адыходзіў душою стары. Ён працаваў да апошняга, усяляк імкнуўся дапамагчы малодшаму, але той, калі заўважыў, што бацька стаў слабець, наказаў:

— Сядзі, тата, дома, не трэба больш ездзіць са мной у поле — не маладзенькі. Глядзі за малымі, мы з жонкай самі ўправімся. Яшчэ гадоў пару — і старэйшыя ўжо дапамагаць будуць, не доўга чакаць засталося. Вось толькі не шанцуе...

— Трымайся, сынку, не можа такога быць, каб лёс увесь час ад цябе адварочваўся, нешта ж павінна перайначыцца...

— Каб жа так здарылася, каб хоць раз мне пашанцавала. Працуем многа, амаль не спім, а ўсё не тое... Жывёлу збіраліся разгадаваць, дык хвароба ўбілася, і павыдыхала амаль уся. Жыта то не зародзіць, то звяры лясныя патопчуць. І так пастаянна. Вунь у Хведара, на суседніх жа нівах, зусім па-іншаму атрымліваецца...

— Зайздросціць, сынку, не трэба, ад гэтага лягчэй не стане. Я ніколі нікому не зайздрыў, на сябе спадзяваўся і неяк жа выжыў. Недзе і табе пашанцуе, вось пабачыш.

— Эх, тата. Столькі ўсяго на мяне аднаго навалілася, што часам, здаецца, рукі наклаў бы на сябе.

— Ты чаго гэта, дурында? — узарваўся бацька. — І не сорамна такое казаць? У цябе ж дзеці, нібы тыя галубкі, падрастаюць! Не паспееш азірнуцца, а яны ўжо сваімі плячамі цябе і падтрымаюць! Каб апошні раз ад цябе такое чуў! Добра, што нікога побач не было! Я цябе ўзгадаваў — [redacted] табе і дарую, але пры жонцы ці пры дзецях каб такіх гамонак болей не было!

— Вырвалася неяк, тата, і сам таго не жадаў. Цяжка проста, таму і сказалася...

— Ведаю, што цяжка, але, пакуль можаш, пакуль чуеш у сабе сілу, павінен старацца, гэта табе залічыцца.

Так яны гаманілі ўвечары, калі сядзелі на прызбе і абмяркоўвалі падзеі мінулага дня, а з раніцы гаспадар пачаў збірацца на луг, касіць сенажаць. Дабірацца трэба было вёрст пятнаццаць, таму стары селянін параіў:

— Запражы, сынку, коніка, лягчэй будзе дабірацца, а па дароге назад і адпачнеш крыху, пакуль прыедзеш.

— Не, тата, я пайду пешшу, коніка вам пакіну. Вы з маімі старэйшымі лепей на поле зазірніце, там парадак навядзіце, а [redacted] пераначую на нашай сенажаці. За два дні

даб'ю ўсё. І вы справу зробіце, і ў мяне ладам атрымаецца.

— Таксама слушна, — пагадзіўся стары, — але ж натомішся моцна...

— Нічога, потым адпачну, час будзе.

Так колькі слоў сказалі, і Раман паджгаў на луг. Выйшаў, дык яшчэ сонца спала, а пакуль дабраўся, то ўжо птушкі весела вызвоньвалі на ўсялякія галасы, услаўляючы раніцу. Забіў ён касу і давай махаць. Калі гуртам касяць — адна справа, а калі сам намагаешся — зусім іншая. Працуеш, працуеш, а, здаецца, зрабіў зусім мала. Так і ў гаспадара атрымлівалася. Столькі выкасіў, што трое за дзень не ўвабралі б, адпачыць ні разу і не прысеў. Касіў ды ўсё паглядваў, каб на заўтрашні дзень меней пакінуць, бо, вядома, цяжэй касіць будзе пасля такой стомы. Засталася ўжо, можа, трэцяя частка, тады толькі кассё ўбіў у зямлю касец і пайшоў на высокі груд, каб распаліць агеньчык і, перакусіўшы, легчы адпачываць.

Выйшаў, назбіраў крыху ламачча, але потым неяк прыткнуўся пасярод кустоўя і соладка заснуў. І што ж вы думаеце? Які стомлены ён ні быў, але прачнуўся ад таго, што непадалёку нехта гаманіў. Прыслухаўся касец уважліва і чуе:

— Ды што нам з сабой усё насіць? Давайце дзе-небудзь прыхаваем.

— А дзе?

— Дзе, дзе? — выразна даносіўся незадаволены голас. Ды вось пад гэтым дубам і закапаем. Хто тут стане скарб шукаць? На дзесяць вёрстаў ніводнай хаціны няма, глухі луг...

— Сена ж нехта косіць...

— Ага, нехта косіць, а яшчэ нехта і есць.

На такую заўвагу некалькі галасоў коратка рагатнулі.

— Ну дык што вырашаем?

— Калі так, то тут і закапаем.

Раман ціхенька папоўз на галасы. Тое, што ўбачыў, не на жарт яго ўсхвалявала: нейкія, відаць, рабаўнікі пад старым дубам закопвалі свае каштоўнасці.

На другі дзень дакасіў вясковец сенажаць, і ўвесь час цікаваў, ці не вернуцца тыя ліхія людзі назад? Нікога не было. Тады ён асмялеў, адкапаў іхняе золата, а там яго даволі многа было, набраў сабе паўторбы і пакіраваў дамоў. Калі прыйшоў, то аднаму бацьку паведаміў пра ўсё, бо добра памятаў, што язык можа і да гора давесці.

Стары параіў перш-наперш зямлі дакупіць і будавацца нанова.

Раман так і зрабіў. У тым жа паселішчы, але з другога боку купіў ладны кавалак зямлі, жывёлы і наняў майстроў, каб будавалі хату. Калі пра ўсё гэта даведаўся Хведар, то адразу прыляцеў, нібы яго нячысцікі прынеслі, ды давай дапытвацца:

— А адкуль у цябе, братка, грошы?

— Назбіраў.

— А чаму ты ля мяне не захацеў будавацца?

— Ай, Хведарка, — адказваў Раман, — няхай ужо табе аднаму будзе той грудок, а мне — прудок.

І сапраўды, яго хаціна стаяла ля невялічкага прудка. Так і атрымалася з таго часу, што адна вёска падзялілася на дзве — Верамееўку і Прудок.

## СМОЛАЎКА

Калісьці даўным-даўно на тым самым месцы, дзе зараз стаіць наша вёска, быў вялікі і непралазны лес, а больш дакладна — лес гэты быў першастваральным. Як зрабіў Усявышні зямлю, з дрэвамі ды раслінамі, так тут усё і стаяла. Ведама, цяжка было знайсці такое месца на белым свеце, але ж трэба ўлічваць тое, што народу тады жыло значна меней, чым цяпер, некаторыя пусткі сотні гадоў увогуле не засялялі і не выкарыстоўвалі, а выглядалі толькі такія мясціны, дзе можна было лягчэй пракармічца: ля азёраў ды рэчак, ля халодных крынічак і г. д.

Праўда, з цягам гадоў справа крыху перайначылася. Цяпер ўжо нашы продкі не выбіралі найлепшыя ўчасткі, а проста шукалі незанятыя мясціны, дзе і ставілі хаціны ці зямлянкі.

Аднаго разу і сюды прыйшло чалавек колькі. Спадабалася ім тут. А чаму б і не? Птаства ўсялякага хапае, звяры самыя розныя праз кожныя дзесяць крокаў сустракаюцца. І што самае галоўнае, пушча навокал такая, што ажно шапку здымаць трэба, калі спрабуеш да верхавін агледзець дрэвы.

А тады ж такія часы былі, што Бог і ягоныя святыя па зямлі, нібы самыя звычайныя грэшныя, хадзілі, жылі сярод народу, усялякія просьбы выконвалі. Калі бачылі, што цяжка нейкаму чалавеку, то і ў працы яму дапамагалі, калі заўважалі дзе які непарадак ці пошасць, то тэрмінова

ўсё выпраўлялі. Нічога рабіць не адмаўляліся, бо і самі людзі намнога дабрэйшыя былі.

А тут здарылася такое. У тое лета стаяла вялікая засуха ў гэтых мясцінах, здавалася, што сама зямля патрэскалася і да сярэдзіны ваду выпарыла, бо вільгаці не было, рэчкі не звінелі, усюды толькі стогны ды жальбы людскія чуліся. Збожжа, што пасеялі восенню і вясной, павыгарала. Болей таго, не было ні ягад, ні яблык, ні груш, ні іншай садавіны, а рыба ў такія некалі глыбокія віры пазабівалася, што людзі там і на чаўнах плаваць баяліся, не тое каб лавіць рыбу. Казалі, што там вадзянікі гаспадараць.

Вось на гэтае самае лета там вады ўсяго, можа, па калені было, ды ўсё роўна нашы продкі баяліся туды падыходзіць, а можа, проста ўжо сілы неставала. Адным словам, усё прапала і не засталося ніякай надзеі на тое, што мясцовыя жыхары здолеюць перамагчы такую бязлітасную і працяглую стыхію. Як яны ні маліліся, як ні прасілі, якія толькі ахвяры ды словы да Бога не пасылалі — нічога не дапамагала. Малыя ды старыя першымі адчулі знямогу і адразу па хацінах паляглі. Як перасоўвацца ці бегаць па вуліцы, калі ў роце і скарынкі хлеба не было, вады і той не хапала. Заціхла гамонка на некалі вясёлых вуліцах, змрочна навокал зрабілася. Ужо і мёртвых ніхто на могілкі не вазіў, бо не было каму.

Так здарылася, што менавіта ў тое лета хадзілі па тутэйшых мясцінах святыя Пятро і Павел. Нідзе проста так не праходзілі, а ўсюды які знак пакідалі. Калі і каралі каго, то рабілі гэта так, каб усе навокал ведалі за што: злыдзень які, скнара, злодзей ці жонка распусная. Абавязкова збіралі мноства народу, распавядалі пра ўсё і толькі потым свой прысуд выносілі, і абавязкова яго выконвалі. І рабілі гэта з такімі кпінамі, жартамі, са здзекамі, што той злодзей ці гультай да скону веку нават думаць пра мінулы занятак баяўся, стараўся, каб усе забылі.

Спачатку ўсё добра было: ціха, зелена навокал, птушкі ды звяры дарогу ў розных мясцінах перасякаюць. Але потым Пятро і кажа:

— Нешта мне не падабаецца ўсё гэта.

— Што менавіта?

— Ды звяры і птушкі ў адным толькі накірунку рухаюцца. Бачыш, толькі да нас ляцяць...

— Назіральны ты. Я на гэта і ўвагі не звярнуў. Можа, так проста?

— Проста так нічога не здараецца.

— Хоць бы бяды якой не было. Пайшлі далей, там і пабачым.

Тут трэба мець на ўвазе, што святыя маглі рухацца і як звычайныя людзі, і як Бог, калі гэтага патрабавалі абставіны. Вось яны і прыпусцілі, колькі было сілы.

Праз нейкую гадзіну Пятро звярнуўся да Паўла:

— Ну што [redacted] табе казаў? Бачыш, павысыхала ўсё навокал. Людзі, відаць, пакутуюць, бо мы тут даўно ўжо не былі...

— Каб што добрае, а да гэтага заўсёды нядоўга...

— Трэба ўсё агледзець ды неяк дапамагчы...

— Згодны, братка, давай. Спачатку мясцовасць гэтую абяжым, каб пабачыць, як яно на месцах.

— Доўга бегаць давядзецца.

— Іншага выйсця я не бачу.

Як джгнулі святыя — толькі густы-густы пыл слупом ззаду ўзняўся ды вецер у вушах засвістаў. Але куды яны ні зазіралі, усюды ці мёртвыя ляжалі, ці хворыя пакутавалі, а калі чалавека ў якім двары заўважалі, то стаяў ён нерухома, бо сілы неставала нават на які крок.

Бегалі, бегалі святыя і прытаміліся. Прыселі, каб дух перавесці, а Пятро і прапануе:

— Давай хіба, братка, перакусім.

— Есці хочаш?

— Так. У мяне ж у торбачцы і кавалачак хлеба ёсць, ад учарашняга застаўся. Хто ж ведаў, што тут такое робіцца...

— Нешта не хочацца мне есці, калі людзі навокал галадаюць ды пухнуць з голаду, — ціха адказаў Павел. — Я патрываю.

— Ну як хочаш, [redacted] я хоць крышачку з'ем.

Пятро сядзіць і жуе, а Павел побач разважае, як людзям дапамагчы:

— Яны ж усе вымруць, калі не падспорыць справу. Есці ж няма нічога, усё выгарэла, усё...

Раптам Павел павесялеў:

— Ты не ўвесь хлеб з'еў?

— Не, крышачку табе пакінуў...

— Давай-ка, братка, дапамажы мне.

— А што рабіць?

— Бяры кавалачак хлеба ў рот і старанна жуй.

— Ды гэта...

— Рабі так, але не надта захапляйся — не праглыні.

Сядзяць і жуюць. Потым Пятро падняўся, падышоў да высокіх ялін і давай малюсенькімі долькамі той хлеб выплёўваць. Дзе выплюне — адразу грыб вялікі з'явіцца. Павел таксама гэтай справай заняўся, і неўзабаве яны мноства грыбоў напладзілі. Паджгалі ў вёску і давай падвучваць людзей, як выжыць.

— Масляк ды смаляк — ваш паратунак, болей нічога. Збірайце грыбы, іх у вашым лесе многа, варыце ды ешце. А каб зарабіць якую капейчыну, каб збожжа прыдбаць, паліце смалякі ды смалу тапіце...

Узрадаваліся людзі. Адны па грыбы пасунуліся, і жанчыны іх варыць сталі, а другія — дрэвы сякуць, з карчоў смалу здабываюць. Так і ўзнікла вялікая вёска ў смаляным лесе. І назву прыдумалі ёй смалакуры-сяляне — Смалаўка. Рэшткі таго вельмі вялікага лесу і зараз да вёскі з розных бакоў падступаюць, як напамінак аб тых далёкіх часах.

## ЦЫГАНЫ (Цыганяты)

Аднаго разу, было гэта ў даўнія гады, пачалася вайна. І такая яна была вялікая ды жорсткая, што амаль усё насельніцтва тутэйшае ў ёй удзельнічала. Па-рознаму людзі на вайну глядзелі. Хто гаспадарку спраўную меў ды сямейку, той імкнуўся і сам уратавацца, і жонку з дзецьмі выратаваць, ■ ў каго тае зямлі было, як дзвюм каровам пераступіць, той стараўся на вайне разжыцца.

Біліся не дзень, не два, ■ некалькі гадоў запар, і столькі ўжо крыўды людзям тыя бойкі ды сечы прынеслі, што ні ў казках расказаць, ні пяром апісаць.

І яшчэ адна асаблівасць у той вайны была — удзельнічалі ў ёй цыганы. Дагэтуль сядзелі яны ціха, не лезлі ні ў якія справы, ■ тут... Можа, ім многа грошай паабяцалі пасля перамогі даць ці чым іншым зацікавілі, але цыганы ад малога да старога ў бітву палезлі. Цікава было наглядаць, як яны на вайну ехалі. У іх, як і ва ўсіх людзей у тыя гады, былі багатыя і бедныя. Вось едзе спераду мажны цыган, і ў яго адной аховы, можа, чалавек трыццаць, а ззаду дзе-небудзь паціху пасоўваецца бедны цыган, кабылка або конік у яго ледзьве ногі перастаўляе, вупраж уся з гнілой вяроўкі, ■ зброі — якая булава ў руцэ — і ўсё.

Бачыце, тры невялікія курганы? У гэтых курганах, як старыя нашы гаварылі, ляжаць забітыя ў той працяглай

вайне. Многа іх было з абодвух бакоў. А крыві гэтулькі пралілося, што рэчка нашая ды навакольныя крыніцы тры гады крывёю сцякалі і нагадвалі зраненае цела чалавека, піць ваду не абы-дзе можна было. Ваўкі не давалі праходу местачкоўцам — гэтулькі іх развялося па навакольных лясах і балацінах.

Падчас той вайны і здарыўся выпадак, які нашу вёску заснаваў.

Ехалі цыганы разам з войскам. Куды? Хто ж яго ведае. Можа, даганялі ворагаў, а можа, наадварот, уцякалі ад іх. Наперадзе джгалі самыя багатыя і знатныя воіны з невялікімі атрадамі ды аховай, [redacted] ззаду — бедныя, хто верхам, а хто і пешшу.

Недзе ў апошніх шарэнгах ехаў малады і прыгожы цыган. Звалі яго Раман. Ён быў са старадаўняга і магутнага некалі роду. Але толькі некалі, бо ў гэтай бойцы яму не шанцавала. Па-першае, бацька аддаў яму апошняга коніка, а па-другое, сябрукі насміхаліся:

— Слухай, браце, і як гэта ты на такой шкілецiне ездзіш?

— Ты б падушку замест сядла падкладваў, каб не так азадак грукацеў...

— Ага, здалёк чуваць. Яшчэ выдасі нас ворагам...

Ім што, у іх усё ёсць. А ў яго?.. Таму Раман стараўся трымацца ўбаку ад іх і неўзабаве апынуўся ў самым хвасце шматлікага войска. Там ехалі гэткія ж самыя беднякі і з цыгана ніхто не смяяўся, хутчэй наадварот — яго прынялі за свайго. Хутка ён пазнаёміўся з маладым хлопцам-селянінам, Васілём. Гэта быў сапраўдны волат: магутны, здаравенны, памяркоўны. Ніколі ён не спяшаўся, ніколі не хваляваўся, адно толькі са шкадаваннем у голасе ўвесь час паўтараў:

— І чаго мяне на гэтую вайну паперлі?.. З кім ваяваць?.. Ці ж мне нехта благое ўчыніў ці [redacted] некаму дарогу перайшоў?..

— Чаго ты, Васіль, усё галаву ламаеш? — дапытваўся цыган. — Ведама ж, не па ўласнай волі едзеш. Табе загадалі — ты і кіруеш.

— Загадалі... кіруеш... У мяне дома бацька з матуляй засталіся... Я ў іх адзіны сын. Хто старым дапаможа, хто іх падтрымае ў цяжкую часіну? І вады не будзе каму падаць, калі захварэюць. Вось чаму [redacted] перажываю. Хто ў гэтай вайне пераможа — мяне не цікавіць, бо ўсё роўна з бедных галоў у першую чаргу валасы пасыплюцца. Багатыя выкруцяцца, [redacted] вось мы...

— Праўду кажаш, браце, — не вагаючыся, пагадзіўся Раман. — У мяне таксама дома засталіся родныя, а я, самы старэйшы, тут прападаю...

— Каб не мой пан, то я тут і дня не сядзеў бы, — са скрухай у голасе прашаптаў Васіль.

— А ў нас паноў няма, — запэўніў Раман, — у нас усе роўныя.

— Я й бачыў, — зарагатаў сваім магутным голасам Васіль. — Адзін едзе — вочы ледзьве ад тлушчу расплюшчвае, а ты на гэтай беднай жывёлінцы, якая ледзьве не падае. Эх, браце, чаго ўжо там... І ў цябе, і ў мяне, відаць, адна хвароба — беднасць. Няма чаго хавацца адзін ад аднаго. У хаўрус увайшлі, то і праўду не трэба пакрываць.

— Так, браце, згодны я з табой.

— То давай разам ратавацца.

— А як?

— Табе ўсё адразу скажы. Не ўдваіх жа едзем — людзі навокал. Патрывай, пакуль дзе лагерам станем і пачнём да ночы рыхтавацца, тады і пагамонім, адышоўшыся куды ўбок.

Раман дачакацца не мог, калі войска спыніцца на начлег. Карцела даведацца пра задуму Васіля і як ён марыць вылечыць тую самую хваробу — беднасць.

Здарылася так, што сябрукоў паслалі на ноч у дазор. Ад'ехаліся яны з паўвярсты ад лагера, знайшлі невялічкую палянку і сконіліся.

— Вось што я задумаў, Раман. Калі ты згодны, то давай разам, а калі не, то і без цябе абыдуся.

— Спачатку скажы, што задумаў, а потым ужо прыспешвай.

— Вырашыў я, чалавеча, уцячы. Не трэба мне гэтая бойня, не патрэбны чужыя землі. Вярнуся назад, ад пана свайго ўцяку і зажыву на вольнай зямлі. Вунь яе колькі навокал ляжыць, ніхто не апрацоўвае. І мне хопіць, і маім праўнукам застанецца... Потым, калі хатку якую агораю, бацькоў сюды забяру. Вось і ўсе мае лекі, Рамане, ад беднасці. Як ты на гэта глядзіш?

— Гляджу, як і ты, браце. І мне вайна надакучыла, і ў мяне дома родныя засталіся. Праўда, мае браты ды сёстры да зямлі не прызвычаіліся, іх дарогі клічуць... А я з табой застануся, я ж каваль добры...

— У вёсцы гэта першы чалавек, — падхапіў Васіль.

Нядоўга збіраліся сябры. Ускочылі на сваіх верных конікаў і пад покрывам ночы пакіравалі ўбок ад тае мясціны, дзе лагерам стаяла іхняе войска. Можа, з тыдзень блукалі па лясах ды барах, пушчах ды лугах, выбіраючы прыдатную мясціну. Нарэшце знайшлі вялікую паляну, [redacted] з усіх бакоў да яе шчыльнай сцяною падступаў адвечны лес.

— Тут, Рамане, і жыць станем. Пачнём паціху будавацца, каб да зімы ў хаціну ўлезці, а потым і за роднымі пакіруем.

Так сябрукі і сталі будаваць будыніну. Справа даволі хутка рухалася, неўзабаве і хатку зрабілі. А праз пару гадоў ужо стаяла побач некалькі падворкаў і, што самае галоўнае, дзяцей на іх бегала вялікае мноства. Усялякіх — і белых, і чорных. Але назвалі паселішча Цыганяты, бо чорных, мабыць, было болей. Некаторыя людзі называюць нашу вёску Цыганы. Як бачыце, заснавалі Васіль з Раманам, [redacted] назвалі толькі ад цыгана, ды, відаць, Васіль не надта крыўдаваў на гэта.



# ГЛЫБОКАЕ

Наш горад заснаваны вельмі даўно. Ніхто і не памятае, які чалавек першым вырашыў тут будавацца і асесці назаўсёды. Але вядома, што людзі не надта сюды імкнуліся, бо месца не вельмі прыдатнае для жылля. Самі мяркуйце, прыгожае яно-то прыгожае, але ж балаціны, камары, іншы гнюс. Усё гэта даволі доўгі час адпалохвала людзей. Нездарма яшчэ і ў нашыя дні можна пачуць такія словы, якія пераказваюць адзін аднаму старажылы: «У гэтым горадзе двух паноў балота па шыю». Чаму двух паноў? Ды таму, што рэчка Беразоўка падзяляла горад на дзве часткі. Адна належала пану Зяновічу, другая — пану Корсаку.

Вось з гэтых самых паноў, ці, мажа, з іхніх бацькоў, а то і з дзядоў, уся дурніца і пачалася. Дзе ж гэта вы бачылі, каб адзін памешчык ды другому ў нечым саступіў? Няхай сабе гэта будзе самая дробязная справа — кроку назад не зробіць, слова не забярэ, прабачэння не папросіць, нават калі ўжо сам адчуе, што вінаваты, што не мае падстаў так сцвярджаць. Так і вялося, і часам такія трагедыі з-за панскай дурноты адбываліся, такія бядоты трывалі людзі, што і ўявіць сабе цяжка. Але што ж ты зробіш ці скажаш, калі перад табою дурань і галаву сваю папраўляць не жадае?

Дык гэтыя два паны — Зяновіч і Корсак — надта любілі закладацца на што-небудзь. Не было такой іхняй сустрэчы, каб яны не пасварыліся ці на нешта не пайгралі ў карты. А дамовіліся паны, што будуць ездзіць у госці адзін да аднаго праз дзень. Калі вечарам п'юць і гуляюць у Зяновіча, то палуднуюць у Корсака. Як завялі так з маладосці, то амаль што да самай старасці ўсё так і цягнулася. Чаму амаль? Таму што наперадзе было яшчэ тое дзіўнае здарэнне, якое і дало назву гораду.

Справа ў тым, што ў аднаго маёнтак стаяў на правым беразе, у другога — на левым, між імі было вялізнае балота, а пасярэдзіне гэтага балота — невялічкае возера. Невялічкае-то невялічкае, але такое глыбокае, што ажно жах! Птушкі і тыя баяліся блізка падлятаць і на ваду садзіцца, бо там такія вялізныя самы вадзіліся, што старых лебедзяў з аднаго разу заглытвалі.

У памешчыкаў гэтых не столькі багацця-грошай было, колькі пыху. Але каб паказаць, што яны надзвычай заможна жывуць, раз у тыдзень, звычайна ў святую нядзельку, выбіраліся на полудзень у саму Вільню. Туды ехалі з серады, [redacted] назад — з нядзелі да серады дабіраліся. Нічога не шкадавалі, самі сябе марнавалі, і ўсё дзеля таго, каб пафанабэрыцца.

Вось неяк сабраліся Зяновіч з Корсакам і паехалі — кожны ў сваёй карэце. Фурманам загадалі, як і заўсёды гэта рабілі, побач ехаць, каб перамаўляцца можна было па дарозе, бо моўчкі сядзець надакучыць, шлях жа няблізкі. Колькі з-за такой своеасаблівай язды сварыліся ды біліся з сустрэчнымі, і пераказаць немагчыма, але неяк нарэшце дабраліся да Вільні.

Зайшлі ў карчомку, селі за стол і тут убачылі знаёмага, і пан Корсак запрасіў яго, каб навінамі перакінуцца, пагаманіць. Выпілі яны, закусілі, і усхапіліся закладацца Зяновіч з Корсакам. З усяго гэтага справа ледзьве да бойкі не дайшла. Калі б паны ўдваіх сядзелі дзе-небудзь дома, то ўжо чубы трашчалі б, а тут неяк стрымаліся. Ды і зачэпка была дробязная. Зяновіч, вырашыўшы пахваліцца перад незнаёмцам, прамовіў:

— У мяне гэткі багаты маёнтак, гэтулькі многа зямлі, што і за тыдзень на самым лепшым кані не аб'едзеш.

— Што?.. — усхапіўся Корсак.

— Тое, што пан чуў, — высакамерна адказаў Зяновіч.

— Гэта ў каго столькі зямлі? — не адставаў сусед.

— У мяне.

— І за тыдзень на самым лепшым кані не аб'ехаць?
— Так.
— Ды гэта ж смех!
— Прашу не забывацца!
— А тут і забывацца няма на што! Я за дзень на сваіх конях аб'еду!
— Не!
— Аб'еду!
Паспрачаліся і папрасілі таго госця быць сведкам. Паехалі паны дамоў. А што праўда — то праўда. Людзі расказвалі, што такіх выдатных коней, як у Корсака, ні ў кога не было.
Прыехалі яны да маёнтка Зяновіча, і Корсак, за лейцы сеўшы, як прыпусціў! Зяновіч адразу зразумеў, што прайграў, але выгляду не паказваў. А Корсак ляцеў, ляцеў ды не ўправіў коньмі, і яны, праз балота прабіўшыся, уляцелі ў возера. Кажуць, толькі бурбалкі пайшлі. Іншыя пераказваюць, што Корсака выцягнулі, бо і пасля гэтага выпадку род працягваўся. Але адтуль пайшло ў нашых людзей, усе казалі звычайна:
— О, тут глыбока. Глыбока... — і прыводзілі гэты самы прыклад. Так і паселішча назвалі — Глыбокае.

## ВОСАВА

Наша вёска ўзнікла на тым месцы, дзе ў старадаўнія часы людзі займаліся бортніцтвам, а таксама здабывалі мёд з асіных кублоў. Старыя людзі расказваюць, што на свеце гнюс ды восы з'явіліся вось адкуль.
Як Бог ствараў усялякіх звяроў і птушак, неабходных на зямлі, то побач з ім сядзеў і нячысцік. Справа ў тым, што яны тады яшчэ сябравалі і ўсюды хадзілі разам. Вось Усявышні зляпіць з гліны якога звера і выпусціць.
— Бяжы, радуйся жыццю, размнажайся. Потым пабачу, як ты прыжыўся, а пакуль што сам мацуйся.
Нячысціку весела ад такіх слоў, ён задзярэ капыты і рагоча, ажно валасаты жывот яго калышацца.
— Чаго ты? — пытаецца Бог.
— Ды смешна такія словы чуць.
— Чаму?
— Смешна, дый годзе.
— Ты сам бы што-небудзь карыснае зрабіў, тады не смяяўся б, зведаў бы, як гэта цяжка.

— А і паспрабую.

— Паспрабуй, паспрабуй, то перастанеш качацца ды рагатаць з чужой працы.

Пасля гэтага чорт пачаў пільна сачыць за тым, як Усявышні працуе. Вось набраў Бог у жменю пяску, падкінуў вышэй і крыкнуў: «Ляціце, усялякія птушкі: дробныя і вялікія, галасістыя і не надта...»

Птушкі адразу пырхнулі ў розныя бакі і заспявалі на розныя галасы, тым самым аддзячваючы свайму стваральніку.

Тут і нячысцік асмялеў, захацелася і яму ў такой адказнай справе быць нароўні з Богам. Набраў ён поўную жменю сухога-сухога пяску, устаў, падкінуў яго ўгору і, гэтаксама як і Усявышні, прамовіў: «Ляціце!»

Каб жа ён, чорт дурны, здагадаўся сказаць, каго стварае, то ўсё, можа, і добра атрымалася б. Але ён не дадаў, толькі адно слова і прамовіў, таму з кожнай драбнюткай пясчынкі сыпанулі тыя самыя жывыя істоты, якія і да сённяшняга дня людзям жыць спакойна не даюць: восы. Спачатку яны жылі побач з жыллём чалавека, не забіраліся ў глухія мясціны. Праўда, карысці ад іх было мала: хіба што якая лыжка мёду. Калі надакучылі людзям балючыя ўкусы вос, то сталі нашы продкі іх агнём ды дымам выкурваць з дуплаў і кублоў ці ўвогуле вынішчаць або далёка куды выганяць.

З цягам гадоў восы пасяліліся ў глухіх лясах і на дужа высачэнных дрэвах, куды і залезці было няпроста, таму вяскоўцы ўвогуле перасталі іх чапаць. Каму ахвота займацца цяжкай справай дзеля конаўкі мёду? Лепей пашукаць кубло дзікіх пчолак ды выдраць яго. Тыя і не так балюча кусаюцца, і мёду там значна болей.

Так і ў нашых мясцінах здарылася. Сяляне, якія жылі пасярод адвечнага бору, займаліся бортніцтвам, а на вос і ўвагі не звярталі. Так вялося не першы год. Старыя малым наказвалі:

— Вос, дзеткі, не чапайце, а яны вас ніколі не зачэпяць, бо баяцца, што на іх нашая ярасць абрынецца. Хто зачэпіць — той ліха займее, бо восы з нячысцікам звязаны і не даруюць крыўды.

Пару стагоддзяў местачкоўцы жылі тут, і ўсё ціха і спакойна было ў гэтых адносінах.

І вось аднаго разу ехаў сюдою дужа багаты пан. І не адзін, а са шматлікімі сябрамі, і не проста так, а на паляванне. Звяроў і птушак гэтулькі раней было, што пры зда-

ровых руках і зоркіх вачах і без стрэльбы можна было набіць. Але памешчыкі голымі рукамі на звера не ішлі — хто баяўся, а хто, каб прыкрыць сваю палахлівасць, сцвярджаў:

— Не панская гэта справа, а мужыцкая — з голымі рукамі ці з якім ражном на звера кідацца. Яны ружжаў не маюць, то хай так выкручваюцца. Нам больш спраўна з ружжом.

Сяляне толькі пасміхваліся, бо даволі часта выпадала наглядаць, як стралялі фанабэрыстыя паляўнічыя: вясковец са звычайным лукам набіваў звера значна больш, чым той памешчык з ружжом ды кулямі.

Той дужа багаты пан, можа, і праехаў бы далей, але нехта з сябрукоў крыкнуў:

— Якія тут мясціны прыгожыя! Давайце тут прыпынімся! Вогнішча слугі распаляць, вып'ем па чарцы-другой, пастраляем! Куды нам спяшацца?

— Сапраўды, чаму б і не прыпыніцца? — загулі астат-нія паны.

Гаспадар азірнуўся, каб пабачыць, ці ўсе такога жадаюць, і прамовіў, патрапляючы гасцям у лад:

— А што, мне таксама тут падабаецца, давайце спынімся.

Сконіліся і тут жа загадалі слугам раскладваць вогнішча, есці варыць ды смажыць, а самі за пляшкі ўзяліся. Як пачалі піць, ды не маленькімі ж чаркамі, то ўзмацнелі галасы, і неўзабаве нехта запытаўся.

— А чаго гэта ў нас так маркотна?

— Сапраўды, чаго?

— Дык што пан прапануе?

— Давайце пагуляем у хованкі.

Наступіла цішыня. Паны хоць і п'яныя былі, але не настолькі, каб гуляць у хованкі.

— Што гэта вы, шаноўны, прапануеце нейкую дзіцячую гульню?

Другі голас здзекліва дадаў:

— Ды яшчэ і хамскую.

Астатнія падтрымалі:

— Так, трэба ў што іншае гуляць, а то дома сорамна будзе сказаць.

— То няхай пан і не гаворыць, хто яго за язык цягне.

Доўга, мабыць, спрачаліся б, каб не рашучы голас гаспадара, якога ўсе паважалі і да ягонага меркавання прыслухоўваліся:

— А што, давайце пагуляем, чаго саромецца? Будзе пра што дома згадаць.

Паны зарагаталі, і зноў узнікла пытанне:

— Хто вадзіць будзе?

— Давайце я, — падрадзіўся гаспадар.

Паны пабеглі ў розныя бакі — хавацца, а гаспадар вочы заплюшчыў і стаяў ля карэты, чакаў, пакуль скажуць ісці шукаць. Божачка, што тут пачалося! Лес загуў на розныя галасы — гэта дражнілі таго, хто вадзіў. А ён, хітры, прыслухаўся, вызначыўся, дзе шукаць большасць з памешчыкаў, і паклікаў, сказаўшы, што бачыць іх. Знайшоў усіх, акрамя аднаго. А той жа дацяміў — залез на сасну і стаіўся, перакананы, што ніхто яго не знойдзе. Так бы яно і было, але пан убачыў мноства, як яму самому падалося, пчол, што віліся ля кубла. Зразумеў вяльможны, што гэта пчолы мёд зносяць у кубло, і вырашыў набраць мёду і пачаставаць астатніх. Але як гэта робіцца, можа, і не ведаў. Адным словам, раскатурхаў ён тых пчол, а на самай справе аказалася, што гэта былі восы, і ўжо працягнуў руку да кубла, як у гэты самы адказны момант яго пачалі джаліць восы. Ён, бедалага, як ні хапаўся за голле, але не ўтрымаўся і гопнуўся долу.

— Вось ён! — усклікнуў задаволены гаспадар. — Апошні!

Але той ратаваўся ад вос: круціўся, адбіваўся, і потым... пабег да паноў. Неўзабаве ўсе яны вылі дзікімі галасамі і імкнуліся куды-небудзь схавацца, але паратунку ад ліхіх вос не было. Пазашываліся памешчыкі ў непралазныя балаціны, у гушчар, у кустоўе, да глыбокай ночы іх потым слугі збіралі. Дасталася там панам. Ледзьве выехалі познім часам, а тую мясціну так і празвалі ў народзе — Восава. Зараз, канешне, зусім ужо не тое, што даўней было.

## ГАТАЎШЧЫНА

Людзі тут даўно жывуць, ужо стагоддзяў пяць ці шэсць, можа, і болей — ніхто ж не падлічваў. Мясцовасць у нас балоцістая, непралазная. Мясцовыя жыхары выбіраліся куды ў дарогу, ці, як казалі, «у Вялікі свет», толькі ў лютыя маразы ці страшэнную засуху, калі вада з балот крыху спадала. Справа ў тым, што падчас не дужа халоднай зімы па балотах усё роўна ездзіць ці хадзіць было небяспечна: зверху снегам прысыпала, лядком ледзь-ледзь пры-

хватвала, а знізу «чортавы вокны» так і заставаліся. Там усялякія нячысцікі толькі і пільнавалі моманту, каб які чалавек рот разявіў ды ўваліўся. Паспрабуй булькнуцца туды хоць па калені, назад не выберашся, нават калі і людзі блізка будуць. Па-першае, яны, заўважыўшы такую справу, будуць баяцца прама да пацярпеўшага бегчы і тым самым час упусцяць, а па-другое, тыя ж нячысцікі за ногі ўхопяць і ў багну глыбей пацягнуць.

Такія вось гісторыі расказвалі нам продкі. Многае яны ведалі з балотнага жыцця, усяго баяліся, але і ўсё маглі растлумачыць, бо за стагоддзі, што тут пражылі, зліліся з прыродай і навучыліся гаспадарыць, прычым няблага, і на тых лапінках зямлі, якія самотна выторкваліся з балот.

Згадвалі, што ў самым страшным і недаступным месцы, у балоце, жыў цар гэтых мясцін — балотнік. Да яго тых няшчасных і валаклі, якія ці выпадкова траплялі ў балота, ці жыццё ім надакучвала і яны вырашалі такім чынам абарваць усе жыццёвыя клопаты. Так бы яшчэ, відаць, вельмі доўга цягнулася, каб не адзін выпадак, які многае перайначыў у жыцці тутэйшых сялян.

А справа здарылася вось якая. Выбралася руская царэўна Кацярына II да Чорнага мора прагуляцца. Ведама ж, царэўна едзе, то з ёю разам і світа незлічоная, і войска, і слугі, і ахова. Адным словам, людзей ехала вялікая колькасць. Усе дарогі пазабівалі, усе сцяжынкі перакрылі, каб чаго дурнога не здарылася. Разведка ва ўсе бакі насілася, глядзела, каб якія ліхія людзі на дарозе раптоўна не паўсталі.

Пакуль па сталіцы ехалі ды па роўнай мясцовасці, усё было спакойна, а як убіліся ў лясы, як накінуліся на іх камары ды іншы гнюс, то не стала чуваць ні вясёлай музыкі, ні спеваў, усе пазачыняліся ў экіпажах і баяліся нават нос высунуць. А яшчэ звяры ўсялякія, крыкі па начах, ды і спаць жа даводзілася не ў мяккіх пярынах, а прама ў дарожных экіпажах, дзе не надта і развернешся. Ужо не крычалі дамы ды іхнія кавалеры, што згодны ехаць з царэўнай хоць на край белага свету.

Адным вечарам, калі ўсе ўжо храплі па экіпажах, Кацярына II разам са сваім галоўным міністрам падышла да вогнішча, ля якога грэліся ці ратаваліся ад гнюсу некалькі чалавек з аховы. Убачыўшы сваю царэўну, салдаты ўскочылі, але тая махнула рукою:

— Адпачывайце, адпачывайце...

Салдаты пераглянуліся паміж сабою і нерашуча прыселі, але было відаць, што ў любы момант яны гатовы ўскочыць.

— Што, браточкі, змарыліся? — запыталася царэўна.

— Ды не... Наша служба такая: днём стамляемся, а ноччу адпачываем, — бойка адрэзаў маладзенькі салдат.

— Дык не стаміліся?

— Ёсць крыху, — ціха прамовіў стары салдат. — А можа, у мяне ўжо гады такія, што час стамляцца прыспеў...

— Даўно служыш, чалавеча?

— Трэці дзесятак, матухна-царэўна.

— Дык хутка і дамоў?

— Здаецца, так. Але ці чакаюць мяне там?..

— Чаму ж так?

— Усялякае ў жыцці здараецца. Раптам неўраджай ці засуха якая або пошасць — і ўсё тады. Не стане вёскі, не стане жыхароў, адна памяць — пагорачкі ды напаўразбураныя хаціны, а потым і іх не будзе. Ды і тэрмін немаленькі — дваццаць трэці год...

Кацярыне II чамусьці захацелася перамяніць тэму гутаркі.

— Дарога, салдацікі, цяжкая?

— Так сабе.

— А мне ўжо надакучыла і хочацца выбіцца на раўнейшы шлях, бо душу гэтыя лясы вынялі.

— Наперадзе, матухна-царэўна, яшчэ самае страшнае — балоты. Вось там будуць сапраўдныя пакуты, там не будзе магчымасці ні пастаяць на месцы, каб перадыхнуць, ні бокам аб'ехаць.

— Чаму гэта? — упершыню падаў голас міністр.

— Балоты пойдуць, на месцы ўжо не станеш, бо засмокча багна. І не аб'едзеш, бо, не ведаючы мясцовасці, можна трапіць у які вір ці ў «чортава акно», і тады... толькі вада чорная ды смярдзючая над галавой сыдзецца.

— А ты адкуль, чалавеча, усё ведаеш? — пацікавілася царэўна.

— Я з гэтых краёў. Не раз у маладосці даводзілася па балацінах прадзірацца.

— Кажаш, самае цяжкае наперадзе? — перапытаўся міністр.

— Так. Што гнюсу многа — адна справа, толькі б дажджы не пайшлі. Сонца паліць — гэта нам на руку, ваду добра сцягвае, і праехаць паціху можна. А як дождж па-

лье, то ўсё навокал паплыве, і тады адно выйсце застанецца...

— Якое? — не ўтрываўся міністр.

— Павярнуць назад, — падказала царэўна.

— Можна і не паварочваць, — не пагадзіўся салдат, — але тады давядзецца...

На гэты раз яго перабіла ўжо Кацярына II:

— Што давядзецца?

— Гаці насцілаць па балоце і па іх ехаць.

— А хіба так можна?

— Мясцовыя жыхары так і робяць, калі патрэба ўзнікае. Па гаці яно, як і па роўнай дарозе, толькі больш павольна, бо коней жа не пагоніш — ногі паламаць могуць, ды і зляцець з гаці нядоўга...

— Зразумела, — задуменна працягнула царэўна, — цяпер маліцца трэба, каб дажджоў не было ў бліжэйшы час... Добра, салдацікі, адпачывайце.

Кацярына II са сваім галоўным міністрам пакрочылі ля экіпажаў, а вартавыя засталіся сядзець ля вогнішча.

Невядома, ці маліліся вяльможныя асобы, ці звярталіся яны да Бога, каб у бліжэйшыя дні не было залевы, але праз колькі дзён пайшоў дождж. За лічаныя гадзіны балота стала суцэльным возерам. І назад ужо павярнуць нельга, і наперад страшна прабівацца. Загадала тады Кацярына II знайсці таго старога салдата і прывесці да яе. Неўзабаве служывы выцягнуўся перад царыцай.

— Дапамагай, чалавеча. Бяры людзей і гаці тыя кладзі. Ты і мясцовасць ведаеш, і ведаеш, як гэта рабіць. Колькі людзей табе трэба, столькі і забірай. Камандуй, не саромейся. Там і афіцэры будуць, глядзі, каб і яны цябе слухаліся. А я, калі справу добра зробіш, аддзячу.

Праз пэўны час справа была зроблена. Паставілі экіпажы і паехалі па гаці, як па роўнай дарозе, ніякіх перашкод болей не было.

Кацярына II зноў паклікала салдата:

— Прасі, чалавеча, што хочаш.

— Дазволь, матухна-царэўна, тут, у родных мясцінах, застацца. Служыў я табе верай і праўдай, сябе не шкадаваў. Хутка і тэрмін службы канчаецца.

— Няхай будзе па-твойму. Дам табе яшчэ залатовак і срэбраны медаль за гэтую справу ў падзяку...

Так той салдат і застаўся жыць у родным месцы, а паселішча, дзе ён спыніўся, назвалі ад той гаці — Гатаўшчынай. Так і да нашага часу цягнецца.

# ГВАЗДОВА

Даўным-даўно татары вельмі часта нападалі на ўладанні мясцовага князя. Не паспявалі загаіцца раны ды аднавіцца папялішчы ад мінулага набегу, ■ ўжо зноў гарлалі-стагналі жанчыны, плакалі дзеці, люта адбіваліся мужчыны — новая навала пачыналася. І самае галоўнае, ворагі такія хітрыя ды скрытныя былі, што своечасова заўважыць іх не маглі, нібы з-пад зямлі ўзнікалі. Вылятаді на конях, усе са зброяй, рабілі сваю чорную справу і гэтак жа незаўважна знікалі, пакідаючы пасля сябе пабітых-пасечаных ды выпаленыя паселішчы.

І ў той раз гэтак жа ўсё здарылася. Местачкоўцы ўжо прызвычаіліся, што ворагі ў пераважнай большасці выпадкаў нападалі напрадвесні, калі сыходзіў снег, пачынала зелянець трава і значна мялелі рэкі ды балаціны, што адыгрывала немалаважную ролю, асабліва для коннага войска. Таму княжацкая дружына, падзеленая на невялікія рухомыя атрады, стаяла заставамі ўздоўж мяжы і пільна сачыла за наваколлем. Але ўсё было ціха і спакойна. Неўзабаве прыйшоў загад князя ўсім збірацца да стольнага горада, бо калі вораг да гэтага часу, а ўжо пачалося лета, не з'явіўся, то і не з'явіцца. Дружыннікі развіталіся з сялянамі і паехалі на кліч князя. Відаць, трэба было тэрмінова збірацца ў які іншы паход ці дзе ў другім месцы разбірацца з чужынцамі.

Мясцовыя жыхары займаліся звычайнай для сябе працай — шчыравалі ў полі. Але нездарма гавораць ў народзе, што бяда прыходзіць нечакана. Відаць, недзе з тых жудасных часоў гэтая прыказка пайшла, там, у тых крывавых сечах ды бітвах, яе вытокі.

Усяго тыдзень прайшоў з таго часу, як паехалі воі. Сонца ўжо па-сапраўднаму на лета павярнула, і не толькі дні, але і ночы стаялі пагодлівыя, цёплыя. Якраз тая пара, калі сяляне пра сена дбаюць. Амаль не спалі вяскоўцы, дацямна працавалі, а ледзь толькі пачынала на вуліцы шарэць, ужо рухаліся, спяшаліся, каб як мага болей зрабіць за дзень. Тут ліха і здарылася.

На двары было ўжо добра цёмна, стомленыя вяскоўцы палеглі спаць і ўмомант паснулі. І тут каля крайніх хат паказаліся нейкія дзіўныя постаці. На першы погляд яны нагадвалі сабою вершнікаў, але надзіва ціха рухаліся, і

толькі калі б хто-небудзь зблізку паглядзеў, то заўважыў бы, што ногі ў коней былі старанна абмотаны анучамі, таму яны і перасоўваліся нібы здані. Абкружылі тыя здані паселішча паўкруглым аршаком і давай па хатах шнырыць. А што ты ўначы зробіш, калі ў будыніну ўломяцца ўзброеныя чужынцы? Ведама, пачнеш адмахвацца, то і атрымаеш шабляй па галаве ці бізуном па спіне... Так яны і дзейнічалі. Праз гадзіну ўжо дымам ішоў увесь нажытак да неба, а жыхары, каторыя жывыя засталіся, былі перавязаны і сагнаны ў адзіны натоўп. Найбольш каштоўнае татары не палілі, а зносілі да падвод, якія навучыліся выкарыстоўваць не горш за мясцовых жыхароў. Усё хапалі, асабліва не грэбавалі.

І так ад вёскі да вёскі, ад горада да горада.

У той раз татары, як звычайна, усё хітра зрабілі. Такі багаты палон узялі, што нават стары мурза і той задаволена чмякаў і казаў:

— Колькі жыву, колькі ў набегі хаджу, але гэткага палону, гэткага багацця ніколі браць не выпадала. Нашы багі нам дапамаглі, і трэба штодня прыносіць ім шматлікія ахвяры і прынашэнні. Не шкадуйце, выбіраць жа ёсць з чаго. Замест аднаго палоннага, якога на вогнішчы спалім, на наступны дзень дзесятак захопім, а за залатоўку — сотню знойдзем.

І тыя не шкадавалі ні старога, ні малога, ні хворага, ні параненага. Такія ім былі не патрэбны. Што з іх возьмеш? Выкупу за такі тавар ніхто не дасць, і працаваць яны не будуць, перамруць па дарозе ці на месцы ўжо сканаюць — ніякай выгады не атрымаецца. А вось за здаровых мужчын, за ўмелых майстроў-рамеснікаў татары маглі і паміж сабой за шаблі схапіцца, бо надзвычай дорага яны каштавалі. Такога паланнага за колькі скажаш, за столькі і купяць, асабліва таргавацца ніхто не будзе.

Яшчэ з тыдзень палёталі, пасеялі смерць па наваколлі чужынцы, і мурза загадаў:

— Усё, хопіць, паварочваем назад. Дома нас зачакаліся, ды і палону браць болей не выпадае, каштоўнасцей таксама — няма куды.

У татараў дысцыпліна была суровая, начальніку заўсёды падпарадкоўваліся. Таму павярнулі ворагі назад. Але з перагружанымі абозамі не надта паспяшаешся. Гэта не верхам у полі скакаць, вецер пераганяючы. Рыпелі колы, напружваліся, выжыльваліся коні ды валы, а вершнікі

бязлітасна дратавалі іх бізунамі — падганялі. Жывёлы ў татараў было болей чым дастаткова, таму коней і валоў не шкадавалі: адзін падаў — другога на яго месца прыпрагалі і далей рушылі без затрымкі. Ды напаткала бяда чужынцаў у іншым: перагружаныя вазы сталі развальвацца. Татары ў конях добра разбіраліся, а ў вазах — не надта. На першым часе прымушалі палонных перагружаць багацце з аднаго воза на другі, але потым зразумелі, што гэта не выйсце. Мурза таксама скеміў, што нешта не так атрымліваецца, і загадаў даведацца ў вопытных палонных, у чым тут прычына. Яго воі пачалі дапытваць сялян, але тыя зацята маўчалі, нават калі іх бязлітасна катавалі. Так і не далі б ворагі ніякай рады, калі б не адзін стары. Прыўзняўся з каленяў, бо так прымушалі стаяць палонных, і кажа:

— Я сакрэт ведаю, мяне бярыце.

— Што ты, дзеду? — зашапталі на яго з усіх бакоў.

— Не палохайцеся, родненькія, яны мяне яшчэ згадаюць...

Павялі старога да мурзы.

— Ну, гавары, у чым справа, чаму вазы не едуць, а колы адвальваюцца? Не цягні, бо галаву загадаю адсекчы!

— Не загадаеш, бо калі мяне заб'еш, то астатнія не скажуць, — сурова звёў бровы дзед. — Трэба гваздоў насекчы і імі калёсы затакаваць, то і паедзеце спакойна.

— А як гэта зрабіць?

— Дай мне памочнікаў, я з імі ў кузні папрацую.

— Даць яму, што патрабуе, — загадаў мурза. — Калі вазы паедуць, то я падарую табе жыццё!

— І за гэта дзякуй, — прашаптаў стары, не гледзячы на валадара татараў.

Сталі яны гвазды тыя рабіць, а дзед падвучыў людзей жалезныя палоскі перапальваць, тады жалеза не будзе трымаць, а, як звычайна дрэва, стане рассыпацца. Вучні трапіліся кемлівыя: справу зрабілі хутка і «надзейна», яшчэ і ў запас гваздоў накляпалі. Пазакладалі іх у восі, і мурза адпусціў майстроў, хацеў паказаць, які ён добры. Але татары не далёка ад'ехалі. Зноў пачалі спадаць колы, зноў закладвалі гвазды... Пакуль так час бавілі, то і княжацкая дружына прыспела. Татараў разбілі дашчэнту, а мурзу ў палон захапілі.

На тым месцы, дзе некалі той дзед са сваімі памочнікамі

гвазды каваў, узнікла вёсачка, і назвалі яе людзі — Гвараздова, у гонар таго смелага чалавека, які многіх ад вечнай смерці выратаваў.

## МАЛІНАЎШЧЫНА

Вельмі даўно на месцы нашай вёскі знаходзіўся невялікі двор пана Маліноўскага. Вядомы гэты памешчык быў многім, далёка ягонае прозвішча паўтаралі людзі, нібы ад пошасці ягой жагналіся.

Меў Маліноўскі дужа многа зямлі, але двор быў небагаты, бо шкадаваў пан грошы на будынкі траціць. Увогуле, ён быў надзвычай сквапны. Наймаў парабкаў і работнікаў, бо сам жа, ведама, не рабіў, але так людзей тых даймаў, што яны ўжо і шкадавалі, што за капейкай пагналіся. Гэта ж дадумацца трэба! Сядуць парабкі есці, і гаспадар да іх за стол лезе. Тады і яму кухар у місу варыва налівае. Там і есці няма чаго — адна вада з лебядой ці бацвіннем, але ўсё роўна Маліноўскі задаволена прамовіць:

— Кармлю вас, родненькія, як на выкарм, а вы нешта працаваць не надта рвяцеся. Як гнілое гарыць, так і вы варушыцеся. Ці ж так можна? Я ж вам грошы абяцаў заплаціць, але калі справа і далей так пойдзе, то аддам толькі палову.

Бедныя парабкі ледзьве сядзяць ад стомы ды голаду, толькі лыпаюць вачамі, небаракі, ды паміж сабою пераглядваюцца, а гаспадар далей працягвае іх навучаць:

— Дзе ж гэта вы бачылі, каб гэтулькі парабкаў, як у мяне сёлета, адно поле ўжо другі тыдзень зжаць не маглі... Канешне, калі спаць да полудня, то што паспееш за дзень зрабіць? Нічога. Якую драбніцу, што і для малога дзіцяці па сілах. А вы ж усе людзі дарослыя, здаровыя, і няма чаго прыкідвацца. Наняліся — усё роўна што прадаліся. Не забывайцеся пра гэта. А зараз кіруйце спаць, бо з сонцам трэба на працу ісці. А ты, аканом, чаго жывот адпусціў, чаму парабкаў тыднямі не бачыш? Ты ж таксама на маіх грашах сядзіш, ды на вялікіх... Чаму спіш у хаціне, асобна ад людзей? Трэба побач з імі ляжаць і будзіць іх як мага раней. А то, ведаю, яны цябе абуджаюць. З сённяшняе ночы каб з імі і дняваў, і начаваў. Зразумеў мяне?

— Зразумеў, — ціха лепятаў аканом, задаволены тым, што гэтак добра для яго ўсё скончылася, а магло быць зусім іначай.

Маліноўскі клыпаў у свае пакоі, а работнікі і аканом цягнуліся да вялізнай пуні, дзе ўсе ўпокат і спалі на збітым, прасмердлым сене. Аканом толькі чухаўся, нібы прадчуваючы, як ягонае цела будуць бязлітасна грызці-кусаць ноччу вошы.

— Ён свайго сына роднага не пашкадаваў, а вы хочаце, каб над намі зжаліўся, — буркнуў нехта з парабкаў.

— Як гэта? — не зразумеў нехта, відаць, з тых, хто яшчэ нядоўга працавалі ў гэтага гаспадара.

— А вы што, не ведаеце?

— Не.

— Ды ўсё наваколле пра гэтую падзею гаманіла. Як жа вас такая чутка абышла?

— Можа, малыя яшчэ былі, а можа, дома ў той час не жылі — дзе парабкавалі... То раскажыце.

— Давайце ў пуню зойдзем ды ляжам, а то цела ўсё гарыць ад стомы. Там і раскажу.

Людзі ўлягліся на сена, прыціснуліся адзін да аднаго і прыкрыліся нейкімі дзяружкамі. Аканом ляжаў асобна і глыбока ўздыхаў. Нехта не вытрымаў і напаўголаса сказаў:

— Пан, паўзі да нас, бо акалееш, ночы ўжо халодныя...

Аканом прамаўчаў.

Тады пачуўся голас:

— Не хочаш — як хочаш, потым адаграваць цябе не будзем.

— А да яго пакаёўка прыбяжыць, таму ён асобна і лёг — баіцца, каб яна ў цемры не пераблытала, — не ўтрымаўся і пажартаваў нехта з маладых.

У адказ пуня коратка рагатнула. Але аканом не адзываўся, таму пра яго хутка забыліся, а можа, стараліся не звяртаць увагі.

— Дык як там, дзядзька, было? — запытаўся нехта. — Распавядай, а то паснём і нічога не пачуем.

— Тады слухайце. Мне гэта таксама людзі расказалі, якія ўсё на ўласныя вочы бачылі і на свае вушы чулі.

Значыцца, так. У пана Маліноўскага быў усяго адзін сын. Болей дзяцей жонка яму не нарадзіла, бо яе, гаротніцу, памешчык да самагубства за пару гадоў давёў сваёй жорсткасцю. Толькі і глядзеў, каб яна чаго не ўзяла без дазволу, каб куды не пайшла і, даруй Божа, каб на якога маладога паніча не глянула. Калі такое заўважаў, то не выпускаў жонку з пакояў, сачылі за ёю і ўдзень і ўначы. Гаспадар жа і ў маладыя гады такім самым быў.

Невялічкага расточку, крывыя ножкі, і горб прабіваўся. Яна б і не пайшла за яго па сваёй волі, але ж паходзіла хоць і са знатнай, ды з беднай сям'і. Вось бацькі і ажанілі яе на грашах. Не думалі, які лёс, якая жытка будзе ў дачкі за гэтым вылюдкам, абы з хаты выпхнуць. Аддалі замуж і супакоіліся, а маладую пані Маліноўскі як хацеў, так і крыўдзіў. Жонка ж, людзі пераказвалі, такая добрая і ласкавая была, што ні на каго з парабкаў слова дрэннага не сказала, уступалася за невінаватых.

— Ага... — пачулася з таго боку, дзе самотна ляжаў аканом, і ўслед за гэтым зашамацела салома — ён перабіраўся бліжэй да работнікаў.

— Што, боязна аднаму?

— Ці мышы напужалі?

— А можа, блохі кусаюцца?

Але аканом надзіва спакойным голасам ціха прамовіў зусім не тое, чаго ад яго чакалі жартаўнікі:

— Такая яна была, такая... Я яе добра ведаў...

— Каго?

— Жонку Маліноўскага. Я ж тады якраз наняўся да іх аканомам, і гэтую гісторыю і да сённяшняга дня забыць не магу. Так усё і стаіць перад вачамі...

— Дык, можа, пан аканом далей раскажа?

— Не, няхай чалавек распавядае, а я таксама паслухаю ды яшчэ раз усё ў памяці аднаўлю.

— Ну то слухайце. Сыну іхняму адзінаму было ўсяго каля двух гадкоў, як гаспадыня пазбавіла сябе жыцця — павесілася. Пахавалі яе, і Маліноўскі стаў запраўляць гаспадаркай адзін. Разоў колькі хацеў жаніцца, але жанчыны ведалі гісторыю з першай жонкай, таму баяліся яго, як нячысцікі ладану. Так і застаўся ён адзін.

Сын вырас прыгажуном, здаравяка такі быў, што каня кулаком з капытоў мог збіць. У адрозненне ад бацькі, меў матчыну, шчырую душу. І трэба ж было так здарыцца — закахаўся ў дзяўчыну-пакаёўку. І яна без яго таксама жыцця не ўяўляла. Тады вырашыў паніч папрасіць бацькавага блаславення, але Маліноўскі як пачуў, каго хоча сын сабе за жонку ўзяць, то заявіў:

— Не будзе такога ніколі! Ніколі!

Хлапчына не знайшоў іншага выйсця, як атруціцца. У страшэнных пакутах пакідала гэтую зямлю ягоная душа. Калі паніча пахавалі, то нехта пасадзіў на яго магілцы дубок. Недзе праз тыдзень і дзяўчына тая павесілася, і яе паклалі побач з каханым. Ад злосці Маліноўскі загадаў

зраўняць магілкі. Так зараз ніхто і не ведае, дзе яны ляжаць...

— На такое толькі ваўкалакі здольныя, а не людзі, — прашаптаў нехта.

У пуні ўсталявалася цішыня. Яе перарваў аканом:

— Я вам заўтра пакажу тое месца... Я яго добра памятаю...

Вось такім быў пан Маліноўскі. Неўзабаве ён памёр, і ўсім запраўляць стаў той самы аканом. Гэта ўжо зусім іншага характару быў чалавек — спагадлівы. Тады ля маёнтка сталі сяліцца людзі, і месца тое чамусьці Малінаўшчынай назвалі, хоць, мабыць, ніхто і не жадаў ўвекавечваць прозвішча таго злыдня.

## НАВАСЁЛКІ

Наша вёска пачалася з аднае горкі. Справа ў тым, што ў даўнія часы тут людзі не жылі. Мясціна была надзіва глухая, таму доўгія стагоддзі тут гаспадарылі толькі вецер ды звяры дзікія. Каб не той самы выпадак, то невядома, ці сталі б людзі ўвогуле тут жыць. А здарылася вось што.

У аднаго багатага пана была прыгажуня дачка. Вачэй з яе памешчык не спускаў, баяўся, што які паніч падміргне дзяўчыне хітрым вокам, закруціць па-заліхвацку вус і павядзе за сабой. Не хацелася яму адпускаць ад сябе сваю Марыльку, а па-другое, ён сам шукаў дачушцы адпаведную пару. У самога гаспадара грошай-каштоўнасцей было гэтулькі, што на добрага князя хапіла б, а зямлі — дык не абысці, не аб'ехаць.

Прыедзе, бывала, паніч сватацца ці які пан ужо ў гадах прыклыпае, а гаспадар адразу дачку кліча:

— Марылька, выйдзі да гасцей ды скажы якое слова. Спадабаецца табе жаніх, то я пярэчыць не стану, ну а калі не, то, прашу прабачыць мяне, дарагія сваточкі, папрастуеце адсюль, не паеўшы і не папіўшы...

Выйдзе паненка, зірне сваімі чорнымі-чорнымі вачанятамі і засмяецца:

— Татка, навошта мне такі стары дзед? Што мне з ім — у хованкі гуляць ці казкі на ноч распавядаць? Мне малады муж трэба, а не перастарак.

Яшчэ пару разоў усміхнецца, паклоніцца нізка-нізка, прабачайце, але нічога не атрымаецца, і пойдзе да сябе ў пакой. Гаспадар далей ужо сам заўсёды рэй вёў:

— Бачыце, не спадабалася нешта маёй Марыльцы. Што зробіш, але сэрцу не згадаеш. Як яна сказала, так я і зраблю. Выпіце, госцейкі, са мной віна ды кіруйце дамоў, бо тут вам болей нічога не свеціць.

Госці з гора налыкаюцца так, што ўжо і гаварыць не здужаюць, а памешчык адно толькі рагоча, гледзячы на тое, як сваты выбіраюцца з палаца ды на коней іх слугі закідваюць.

Прыязджалі маладыя сватацца. Але яны заўсёды былі пыхлівыя, фанабэрыстыя, ад іх пагардай так і патыхала. Гаспадар вітаўся, распытваў, што да чаго, і дачку клікаў:

— Марылька, выйдзі да нашых гасцей, яны да цябе вялікі інтарэс маюць. Выйдзі на хвілінку ды скажы пару словак. Паглядзі, які жаніх сядзіць, не ведаю, як і сказаць...

— Не трэба гаварыць, тата, ■ сама пагляджу, — адказвала дзяўчына і выходзіла са свайго пакоя. Павітаўшыся, падыходзіла да жаніха ўшчыльную і раптам:

— Давайце мы з вамі песню праспяваем...

— Дык цвярозаму ж нешта... — пачынаў адмаўляцца жаніх.

— То пан і папівае? — касавурыла вочкі паненка.

— Ды не, не...

— Але ж вы толькі што адваротнае сцвярджалі...

— Гэта неяк міжволі атрымалася...

— То чаму ў паніча такі вялікі і чырвоны нос?

Небарака-паніч круціў галавою, шукаючы падтрымкі, але, не атрымаўшы яе, спрабаваў выкручвацца сам:

— Вецер на вуліцы халодны... нос ажно пасінеў...

— Але ж ён не сіні, а чырвоны ў вас, — не адступалася Марылька.

Жаніх зусім губляўся і бездапаможна апускаў рукі.

— Дык паніч не будзе са мной спяваць?

Той разумеў, што гэта ягоная апошняя зачэпка, і пагаджаўся.

— Як махну рукою, то паніч няхай дапамагае. Я першая пачну, так?

Гаспадар ужо не першы раз прысутнічаў пры такіх сцэнах, таму адразу адварочваўся і лез у кішэню па вялізную насоўку, каб праз хвіліну выціраць слёзы ад несупыннага смеху.

Марылька голасна зацягвала народную песню, абавязкова народную, нечакана махала рукой, падаючы знак жаніху. Вы і ўявіць сабе не можаце, што пачынаў спя-

ваць чалавек, які, па-першае, не ведаў слоў, а па-другое, не меў ні слыху, ні голасу. Такое выццё неслася, што нават самі сваты адварочваліся ці хілілі галовы долу, каб жаніх не бачыў, што іх калоціць ад смеху. Павыўшы хвілін колькі, нечаканы прэтэндэнт у мужы ўскокваў і ўцякаў прэч, [redacted] ўслед яму неслася:

— Куды вы, куды? Мы ж яшчэ не даспявалі...

У адказ даносіўся толькі таропкі пошчак капытоў і брыдкая лаянка.

Бацька з Марылькай смяяліся і кладіся спаць.

Так цягнулася пару гадоў, пакуль аднаго разу гаспадар не ўзяў новага слугу — Сымона. Малады хлапец, прыгажун, асілак, са звонкім, як званочак, голасам, спадабаўся пану тым, што хутка і добра працаваў. Маці не хацела адпускаць ад сябе адзінага сына, але супраць панскай волі не папрэш.

Стаў Сымон служыць у маёнтку. Гаспадар трымаў яго недалёка ад палаца, каб у любы момант такі ўвішны хлопец быў пад рукой. Паненка першыя дні не бачыла Сымона, бо ён быў недзе па справах. Але аднае раніцы Марылька прачнулася і пачула, што ў двары нехта спявае. Прычым не раве, як гэта звычайна рабілі яе жаніхі, а менавіта спявае: меладычна, прыгожа. Апранулася, выскачыла на ганак і стаілася за калонай. Глядзіць — а гэта здаравенны русавалосы хлапчына рамантуе бацькоўскі экіпаж і між справай спявае. Падкралася яна бліжэй, за спінай стала, але слуга яе не заўважаў.

— Хто ты такі? — нечакана запыталася паненка.

Той уздрыгнуў і павярнуўся.

— Слуга.

— Сама бачу. А як цябе завуць?

— Сымон.

Хлапчына глядзеў на яе шырока адкрытымі вачыма, бо ўмеў цаніць прыгажосць. Потым асмялеў і запытаўся:

— А ты... ты паненка, так?

— Так, — гулліва адказала дзяўчына.

— А завуць цябе...

— Марыля, — прамовіла прыгажуня і адчула, што твар яе пачынае пунсавець.

— Што гэта ты за песню спяваў?

— Ды нашу, мужыцкую.

— Ведаю, што не панскую. Перакажаш мне яе?

— Перакажу...

Так непрыкметна і завязалася спачатку сяброўства, а

потым шчырае, светлае каханне паміж Марылькай і Сымонам, паміж багатай паненкай і бедным слугой.

Бацька нічога не падазраваў і адпускаў дачку ездзіць па палетках ды па мясцовых дарогах у экіпажы, а Сымон сядзеў за лёкая. Так яны і кахаліся. Спачатку хацелі ўпасці пану ў ногі, каб дазволіў ім пажаніцца, але Марылька рашуча сказала:

— Ён табе не даруе такога, загадае закатаваць. Давай лепей...

— Што?..

— Збяжым. Пакуль ачомаюцца, пакуль у пагоню кінуцца, мы ўжо далёка будзем, а там перачакаем і зажывём спакойна.

Так і вырашылі зрабіць.

Наступным днём паехала паненка прагуляцца. А бацьку ці то падказаў нехта, ці то самому нешта стукнула, захацелася праверыць, чым яны займаюцца. Узяў слуг і паджгаў. Так і ўтварылася своеасаблівая пагоня. Марылька з Сымонам убіліся ў глухі лес і вырашылі адпачыць, а далей ужо прабірацца пехатою. Тут і наваліліся слугі. Ведалі, што Сымона не адолеюць па сіле, дык з ручніцы хацелі застрэліць. Грымнуў стрэл. Марылька кінулася на грудзі каханаму, каб выратаваць яго, і сама загінула. Ухапіў тады асілак цурбалак і давай тых слуг малаціць. Многіх паклаў, але сам пан другім стрэлам з ручніцы забіў яго на горцы. Там іх і пахавалі, бо памешчык забараніў везці цела дачкі дамоў.

Маці Сымона доўга шукала магілу сына. Нарэшце ёй падказалі, відаць, нехта са слуг. На тым пагорку яна і стала жыць, днямі праседжваючы на магіле закаханых. Потым туды пачалі людзі ад ліхіх паноў уцякаць, бо ў гэтае месца ніякія панскія служкі не дабіраліся. Кожнага новага чалавека тыя, хто раней тут апынуліся, называлі «навасёлам». Так і ўтварылася наша вёска Навасёлкі.



# ДОКШЫЦЫ

Жыў тут некалі, можа стагоддзяў сем таму назад, адзін селянін. Звалі яго Янка. Бедны чалавек быў. Зямлі ў самога мала было, а прыкупіць яшчэ — грошай неставала. Вось і думай тут, як пракарміцца. Ажаніўся Янка ў свой час на гэткай жа галадранцы Адэлі. Таго пасагу і было, што стары маркач, які ўжо і мэкнуць ленаваўся, ды зямлі вузенькая палоска. Злучыў Янка гэта са сваім набыткам і нявесела пачасаў патыліцу:

— Жыць неяк трэба, жонка, а як? Сама бачыш, што робіцца... Дзе ж мы на гэтай палосцы і жыта пасеем, і авёс, і агародніну якую пасадзім? Тут жа з боку на бок не перакінешся...

— Што зробіш, чалавеча, калі ў нас доля такая, — ціха прамовіла Адэля, а трэба сказаць, што яна была жанчынай сціплай, прыгожай і надзіва працавітай, — нічога мы не перайначым, і з неба нам шчасця ніхто не пашле. Раз ужо такое наканавана, то да самай смерці пакутаваць давядзецца.

— І працуем жа не разгінаючыся...

— Каб жа ад гэтага ў нас зямлі, Янка, большала...

— Яно-то, канешне, няблага было б... Яно так і выпадае, як мой дзед некалі казаў, — докша ён докша і ёсць. Як ты яго ні прыкрывай, як ты яго ні хавай, а лахманы ўсё роўна тырчаць збоку ці зверху будуць.

— А хто гэта такі? — не зразумела жонка.
— Хто?
— Ну докша...
— А-а-а, — працягнуў Янка і засмяяўся, — гэта мой дзед так чамусьці бедных людзей, такіх як мы з табой, зваў. Ён жа не з тутэйшых мясцін быў, аднекуль здалёку прыбіўся сюды... Мне ў дзяцінстве расказваў, ды я ж тады толькі казкі ды былічкі слухаць любіў, астатняе міма вушэй пралятала.
— Не ўбівайся надта, мужу, можа, нешта і пераменіцца. У адным мы з табою ўжо багатыя.
— У чым гэта? — здзівіўся Янка.
— Дзецьмі мы багатыя. Бачыш, шасцёра бегаюць. Радасныя, вясёлыя, нам ужо спрабуюць дапамагаць. Каб толькі зямлі які кавалак расстарацца, астатняе самі зробім. Я ж не лянотная, і ты не зломак. Каб які пасаг ці што са спадчыны дасталася, то і падтрымала б нас добра ў цяжкую хвіліну.
— Мой дзед хоць бедны быў, але на зямлі зусім мала гнуўся.
— А чым жа жыў?
— Чым жыў... Справа ў тым, што ён вельмі многа замоў ведаў усялякіх, шэптаў, да яго людзі цугам цягнуліся, каб замовіў тое ці іншае, каб вылечыў.
— І дапамагаў?
— Здаецца, не было такіх выпадкаў, каб ён камусьці не здолеў дапамагчы...
— А багацця не сабраў і твайму бацьку-нябожчыку не перадаў. Так нам намнога прасцей было б. Хоць бы крышачку якой дапамогі, і перайначылася б наша жыццё.
— Каб жа... А грошы ён не браў таму, што лічыў гэта справай надзвычай небяспечнай: станеш браць грошы — замовы сілу страцяць. Тады жыві, як хочаш, круціся...
— Я пра такое і не падумала.
— Калі пыталіся, чым аддзячыць, то казаў, каб каравай хлеба прынеслі ці кавалак сала, астатняе яго проста не цікавіла: страха свяцілася, зімою ў печ залазіў грэцца... Лядашчы да працы быў, — зноў паўтарыў Янка.
— Слухай, мужу, а ты ад яго ніякіх замоў не пераняў?
— Ды як табе сказаць...
— Як ёсць, так і кажы.
— Бацька мой не хацеў нічога ад старога пераймаць, смяяўся, што глупства гэта несусветнае і такім шляхам сорамна на хлеб зарабляць. Дык дзед мяне навучаў. Я і

словы ведаю некаторых замоў, да гэтага часу памятаю, хоць ужо многа гадоў прайшло, як дзед памёр.

— А можаш якую пераказаць?

— Чаму ж не...

— То давай.

— Зараз? А ад чаго?

— Ад чаго ў галаву зараз прыйдзе, ад таго і гавары.

— Тады ад уроку: «Памалюся, пакланюся Госпаду Богу, усім святым святочкам, гадавым праздчічкам, ранняй (вячэрняй) зарачцы. Госпада Бога прашаю, Прачыстую Маці на помач прызываю і рабу Божаму помачы даваў, і ўрок гаварыў з следу, з ветру, з яды, з вады, з боку паглядных, з пустых рачэй, з паганых вачэй, і соллю сціраў, сваім духам здымаў. Як гэтай солі ў вадзе не ляжаць, так і ўроку не бываць ні сходком, ні маладзіком, ні пад поўню. Як было на раду, так і стаць на стану, маці цябе нарадзіла, [illegible] [illegible] ўсю хваробу адхадзіла, па гэтую порачку, па ранююю зорачку...»

Янка прагаварыў замову і глянуў на Адэлю. Тая пра нешта думала.

— Ведаеш што, чалавеча... І ты ж можаш паспрабаваць вылечваць людзей...

— Навошта?

— Хто кавалак сала дасць, [illegible] хто хлеба прынясе ці збожжа — усё лягчэй нам стане. Не будзеш тады сябе докшам называць.

— А калі не атрымаецца? Людзі засмяюць жа.

— А калі атрымаецца? — пытаннем на пытанне адказала гаспадыня. — Можна будзе і сабраць што-небудзь, і потым зямлі прыкупіць, якой нам гэтак не хапае.

— Добра было б...

— Дык вырашай.

— Паспрабаваць, канешне, можна, — нерашуча прамовіў Янка.

— Вось і добра. Пра астатняе я сама паклапачуся: і хворых табе знайду, і чым плаціць дамоўлюся. Толькі пастарайся.

— Пастараюся, — зараз ужо здавалася, што і Янка загарэўся гэткім жаданнем.

З самае раніцы Адэля прывяла ў хаціну суседку, якая, павітаўшыся, адразу пачала гаманіць:

— Яначка! Родненькі! Выратуй ты мяне ад гэтай пошасці!

— А што такое, цётка, здарылася з вамі? — сур'ёзна запытаўся гаспадар.

— Ой, чалавечку, і не пытайся. Гэта ж у мяне ажно з лета мінулага цягнецца... Амаль год пакутую...

— Дык што здарылася?

— Каб жа я, каханенькі, ведала, што са мною здарылася.

— То раскажыце, як усё было.

— Пайшлі мы з маёй нявесткай у чарніцы. Сталі браць... А там іх столькі было, што, здавалася, зямля ўся густа-густа ўсыпана. Ходзім поруч, не адыходзімся далёка. Ужо многа панабіралі, але заўсёды яшчэ болей хочацца. І тут нешта як закрычала, як загарлала прама ў мяне над галавою. Божачка, што са мною зрабілася! Як ламанула я напрасткі з таго лесу... Ажно чую — нехта тупоча, даганяе. Пабегла яшчэ хутчэй — а крокі тыя ўсё роўна ззаду стукаюць. Ужо ў мяне і сілы няма, і духу не хапае, а да ўскрайку яшчэ далекавата. Неяк усё ж вылецела на дарогу, да поля дабралася, а там і гопнула... Колькі ляжала — не памятаю. Абудзілася ад таго, што мяне нявестка катурхае. Аказваецца, я так ляцела, так бегла, што яна не магла мяне дагнаць. І чарніцы ўсе парассыпала, і вопратку парвала...

Янка трымаўся сур'ёзна. Ён адразу здагадаўся, што здарылася і гэтак напалохала суседку.

— Гэта ў вас, цётка, не што іншае, як зляк. Перапужаліся вы моцна...

— Ой, моцна, ой, моцна, родненькі-каханенькі... Словамі перадаць немагчыма...

— І замову вам трэба ад злякання шаптаць, моцную замову, каб пераборала. І не адзін раз, а тры дні запар па разу.

— Чалавечку, ты мяне толькі выратуй, а я цябе аддзячу, крыўдзіцца не будзеш. Праўду кажу.

— А я і не сумняваюся, — пагадзіўся Янка і ласкава глянуў на Адэлю, якая так і стаяла ля печы. — Зараз і пачнём шаптаць. Прашу толькі ўсё чыста выконваць так, як я вам гаварыць буду, ды не перабівайце пытаннямі.

— Добра, Яначка, добра, — затараторыла тая, — толькі дапамажы, то я ўжо патрываю.

— Сядайце тады пад абразы, вазьміце нож у рукі і сядзіце спакойненька.

Суседка хуценька шмыгнула ў кут пад абразы і заціхла. Гаспадар падышоў да яе, стаў бокам, каб яна, крый Божа,

не ўбачыла, што ён можа не ўтрымацца і засмяяцца ці проста ўсміхнуцца, паклаў жанчыне руку на галаву і пачаў сваю замову. Адэля чакала тую замову, якую ёй Янка пераказваў увечары, але загучала зусім іншая:

«Памалюся, пакланюся Госпаду Богу і ўсім святым святочкам, гадавым празднічкам, ранняй зорачцы, святому аўторачку. Госпада Бога прашу, Прачыстую Маці на дапамогу заклікаю і рабе Божай, Марысі, помачы даю, сцень, іспуг пужаны, ліканы, і прыдумны, і прымоўны, прыгаворны, пасмешны, пацешны, дзявоцкі, мужчынскі, бацькаў, маткін, з ветру, з вады, з яды, удавіны, пагрnative бенны, і слядошны загаварываў. І па касці ты не хадзі, касцей не ламі, шырокіх плячэй не сушы, буйнае галоўкі не палі, жывата і сэрца не тамі. Я ж цябе, зляк, выбіраю, з буйнае галоўкі, з сівых валасоў, з чорных бровак, з ясных вочак, [redacted] красных губак, з белых зубак, з румянага ліца, са шчырага сэрца, з грудзей і з гаручай крыві, з ногцікаў і з когцікаў, і з жылак, і з паджылак, і з касцей, з усіх машчэй і адмятаю, на сіне мора адсылаю, на ніцыя лозы, на цёмныя ляскі, на жоўтыя пяскі. Там вам піцьгуляць, у пуховых падушках спаць і ў рабы Божай, Марысі, болей ніколі не бываць, па гэтую пару, па раннюю зару...»

Прамовіў замову Янка, абышоў пару разоў суседку:

— Ну вось, цётачка, сёння павінна вам добра спацца. Заўтра з самае раніцы прыходзьце, а на трэці дзень прыйдзеце перад сном. Прашапчу трэці раз, і зляк гэты адыдзе ад вашага цела назаўсёды.

— Вось дзякуй табе, Яначка, вось дзякуй. А гэта табе за працу, — і падае вялізны кус сала. — Бяры, чалавечку, толькі дапамажы...

Пайшла суседка, а гаспадар з сур'ёзным выглядам прамовіў:

— Вось табе і маеш. І докша ўверх пайшоў. Ужо і за дзедава гультайства мне салам плацяць. Дай жа, Божа, каб не ў апошні, а толькі ў першы раз, і сёння было сама мала...

З таго самага дня з лёгкай жончынай рукі і стаў Янка лячыць хворых людзей замовамі. Спачатку толькі за іх браўся, [redacted] з цягам часу навучыўся і на хатніх жывёл шаптаць. І пайшла справа ў гаспадарцы: ужо і дзеці галоднымі спаць не клаліся, і самім есці хапала. А аднаго дня здарылася такое, чаго ні сам Янка, ні ягоная жонка і не прадбачылі.

Толькі яны прачнуліся і яшчэ нават на падворак не выходзілі, як загрукацела нейкая павозка пад акном.

— Каго гэта так рана прынесла? — здзівіўся гаспадар.

— Калі да нас, то зараз і даведаемся, нехта ж увойдзе ў хату.

Праз пару хвілін і сапраўды — загрукацела ў сенцах і на парог ускараскаўся... бацюшка.

Гаспадары толькі пераглянуліся. Не маглі здагадацца, якая нячыстая прынесла яго да іх, бо шаптаць жа яму не станеш, ён жа адмаўляе ўздзеянне ўсяго гэтага на чалавека, а прызнае толькі волю Усявышняга.

Павітаўся госць і, не марудзячы, прамовіў:

— Прыйшоў да вас па патрэбе...

— Ды мы ўжо здагадаліся, бацюшка.

— Пачуў я, што ў вас зямлі мала, што есці не хапае. У мяне ўсё гэта ёсць, але няма каму апрацоўваць, то, можа, Янка пагадзіўся б наняцца да мяне ў работнікі...

Узрадаваўся селянін, падумаў, што яшчэ і капейчыну нейкую заробіць. А як грошы завядуцца, то і на ногі лягчэй узняцца будзе, за іх усё купіць можна. Думкі пра зямлю не пакідалі яго ні на хвіліну. Але адказваць не спяшаўся. Паглядзеў на Адэлю, тая таксама нешта меркавала.

— Сядайце, бацюшка, трэба ж дамовіцца добра, пра ўсё перагаварыць, каб не крыўдзіць адзін аднаго.

— Вядома, — пагадзіўся госць і сеў на лаўку.

— Дык якая ваша плата будзе за маю працу?

— Думаю, што пяць пудоў жыта дам і пяць рублёў грошай.

— Нешта ж вельмі мала, бацюшка.

— Я ж, чалавеча, наймаю цябе з вясны да позняй восені, і ўсё. Калі табе закарціць дамоў схадзіць — калі ласка, я і слова супраць не скажу.

— Яно-то зарабіць не пашкодзіла б, але малавата вы кладзяце свайму работніку.

— А колькі ты хочаш?

— Я хачу сем пудоў жыта і дзесяць рублёў грошай.

— Авохці, Янка...

— Ага, бацюшка, і каб яда добрая была, інакш не пагаджуся, шукайце сабе іншага работніка.

— Саступі крыху...

— Хіба ж я так многа папрасіў?

— Але ж і не мала.

— Вы ведаеце, што калі я пачну працаваць, то са мной далёка не кожны чалавек справіцца.

— Гэта я ведаю, гаспадар, таму менавіта да цябе і завітаў.

Доўга спрачаліся Янка і госць, і бацюшка, як яму падалося, дабіўся свайго: селянін згадзіўся адзін рубель саступіць, а на большае цвёрда адказаў:

— Не магу, бо нявыгадна працаваць будзе.

Ударылі па руках, і паехаў бацюшка дамоў, дамовіўшыся, што Янка пачне працаваць на бацюшкавым падворку роўна праз тыдзень, з наступнага панядзелка.

Толькі выехаў бацюшка, як Янка зарагатаў і пляснуў рукамі:

— Во, Адэлька! Ты ўсё гаманіла, што абарванцы мы ды галадранцы. Да нейкага няшчаснага докшы сам бацюшка прыехаў, каб у работнікі наняць.

— Слухай, Яначка, калі ён табе столькі грошай заплаціць, то мы здолеем ладны кавалак зямлі прыкупіць. У нас жа гэтулькі грошай ніколі не было, падумаць толькі...

— Нешта яму яшчэ карціць, раз сам прыпёрся, не можа такога быць, — задуменна адказваў гаспадар.

— А можа, і сапраўды толькі каб наняць цябе ў работнікі?

— Хутка даведаемся, не так ужо многа засталося.

Праляцеў незаўважна той тыдзень, і Янка пайшоў працаваць да бацюшкі. Гаспадар трымаў сваё абяцанне: і праца не надта цяжкая на аднаго была, і ежа добрая. Але селяніна здзіўлялі паводзіны бацюшкі — ён пастаянна круціўся побач, усё пра нешта хацеў запытацца, толькі не асмельваўся.

Так прайшоў месяц, другі пачаўся, і аднаго разу не вытрымаў гаспадар.

Паехалі яны тады па сена.

— Слухай, Янка, я хацеў цябе прасіць...

— Што, бацюшка?

— Ці не дапаможаш ты мне?

— А што робіць? Можа, і дапамагу.

— І смяяцца не будзеш?

— Усялякае ў людзей здараецца. Чаго тут смяяцца?

— Ведаеш што, — пачаў бацюшка і змоўк, азірнуўся па баках, каб ніхто не пачуў. — Жонка мая з дзякам гуляе. І ведаю, і нічога зрабіць не магу.

— Справа сур'ёзная.

— Ці не адшэпчаш ты, чалавеча, яе?.. Дзеці вялікія, смяюцца з мяне ўсе...

— Адшапчу, бацюшка, адшапчу... Такую замову ведаю, што адверне яе ад дзяка...

Прыехалі яны з лугу стомленыя, што зямля тая. Бацюшка адразу спаць паваліўся, нават есці не стаў, ■ Янка, паабяцаўшы чалавеку дапамагчы, узяў раменную дзягу і пачаў за пападдзёй цікаваць. Вось яна апранулася, нібы на вяселле, і падалася ў прыцемках у канец агарода — работнік за ёю. Як ён і прадбачыў, дзяк сядзеў у стозе і чакаў. Селі ды давай сабе там любошчамі займацца. І тут, у самы непадыходзячы момант, нешта як зараўло побач, ■ потым выскачыў здаравенны мужык з мяшком на галаве і як пачаў апярэзваць іх дзягай па чым папала, то не да любошчаў ужо стала. Крычаць-верашчаць абое, на чым свет белы стаіць, а ліха тое не адыходзіць, лупцуе. Людзі прачнуліся, не могуць зразумець, што такое робіцца. Запыталіся раніцай у бацюшкі, ■ той усім адказваў, як яго Янка падвучыў:

— А гэта нейкія докшы лянотную жонку вучылі, як за гаспадаркай глядзець, ■ не за тым, дзе які мужык бегае...

— А чыю жонку?

— Хто ж яго там ведае...

Заплаціў гаспадар за паслугу Янку ўдвая болей, не пашкадаваў, бо сапраўды выправілася жонка. Селянін на тыя грошы прыкупіў зямлі, і зажылі яны мірна ды шчасліва, а гаспадарамі такімі заможнымі і ашчаднымі сталі, што пашукаць трэба было. Усе вяскоўцы зайздросцілі ды з павагаю прамаўлялі:

— Ого, на тым хутары... Там докшыцы жывуць... Яны сваю справу ведаюць...

Так і засталося з тых часоў — Докшыцы ды Докшыцы.

## БЯГОМЛЬ

Кажуць, што ў даўнейшыя гады назва гучала крыху іначай — Бягомля. Што пайшла яна ад першых людзей, якія некалі тут пасяліліся. Хто яны былі? Гэту гісторыю мне некалі бабуля расказала, то і я вам зараз паведаю.

Тады, калі гэта ўсё адбывалася, панства панавала, прыгон жорсткі быў. Чалавечае жыццё нічога не кашта-

вала, асабліва калі гэты чалавек правоў не меў. Што памешчык загадваў слугам зрабіць, тое і выконвалі, нікога не шкадавалі. Як ты ў іх ні прасіся, як ты перад імі не прыніжайся, яны сваю справу ведалі цвёрда — біць да смерці.

Так і несліся па гэтым краі стогны ды плач. Смеху амаль ужо і не чулі, бо ад чаго смяяцца было, калі навокал ракою слёзы ды кроў ліліся. А найболей за ўсіх памешчыкаў лютаваў пан Жваніцкі. Такі ўжо вылюдак быў, што сумняваліся людзі, ці жанчына яго нарадзіла. Адзін стары пастух, якога біць сабраліся, не вытрымаў і, ведаючы, што ўсё роўна яго смерць чакае, прамовіў, плюнуўшы ў бок гэтага ката:

— Не магло такога быць, каб цябе, вылюдак, маці нараджала. Ад ваўкалака ў цябе і сэрца, і душа. Толькі ад яго, бо не можа чалавек над людзьмі гэтак здзекавацца...

Ажно завішчэў ад злосці Жваніцкі:

— Эй! Слугі! Чаго стаіце?! Біце яго да смерці, гада, да смерці!

— Сам ты гад, — паспеў яшчэ прашаптаць стары, перш чым страціў прытомнасць пад магутнымі ўдарамі.

Казалі, што спачатку гэты пан нічым асаблівым сярод іншых не вылучаўся. Болей таго, нават пры матулі заўсёды знаходзіўся, прыслужваў ёй. Але вось сталі заўважаць, што ён з асаблівай лютасцю забівае катоў і сабак. Для яго нібы радасць якая была — глядзець і слухаць, як бедныя, ні ў чым не вінаватыя жывёліны выкручваюцца і крычаць не сваімі галасамі, прымаючы пакутніцкую смерць. Потым Жваніцкі стаў аддаляцца ад сяброў-таварышаў, завёў сабе хаўруснікаў, для якіх чалавечае жыццё нічога не каштавала, і пачаў чакаць, калі бацькі душу Богу аддадуць. Маці неўзабаве памерла, а пра бацьку страшнае сцвярджалі. Былі ў свой час сведкі, якія на ўласныя вочы бачылі, як старога памешчыка родны сын шабляй па галаве паласнуў — і той нават праклён на злыдня накласці не паспеў, адляцела ягоная душа ў іншы свет, засталося на зямлі толькі мёртвае цела...

Прыбраўшы бацькоў, Жваніцкі пачаў паляваць за братамі ды адзінай у іхняй сям'і сястрой. Браты адчулі, чым справа пахне, адмовіліся ад сваёй часткі спадчыны і паўцякалі. А сястра засталася. Яна не верыла ў тое, што

брат стаў такім вылюдкам. Мала гэтага, аднаго разу прыйшла да яго ў пакой і сказала:

— Ведаеш што, Юрась (так яго звалі), на цябе людзі жахлівыя словы гавораць. Такое распавядаюць, што калі каму чужому сказаць, дык у таго валасы дыбарам стануць. Няўжо ўсё гэта праўда?

Юрась падхапіўся і з ласкавым выглядам чулліва прамовіў:

— Ясенька, няўжо ты ўсяму гэтаму паверыла?

— Але ж...

— Хочаш сказаць, што іншыя гавораць?

— Так...

— Дык, значыцца, чужым людзям ты верыш, а роднаму брату — не?

— Не ведаю, што табе і сказаць, але нейкае падазрэнне і дрэннае прадчуванне ў мяне ёсць.

— Але прадчуванне, сястрычка, — гэта не доказ.

— Дык сведкі ж ёсць, — з гарачкі выпаліла Яся і тут толькі зразумела, што дала маху.

— А ты хоць аднаго назаві, — спыніўся насупраць яе Юрась.

— Ды гэта я ляпнула не падумаўшы. Хацела сказаць, што людзі гамоняць, — пачала выкручвацца дзяўчына.

— Гавораць — гэта не бяда, пашэпчуць і сціхнуць. А ты ж мая родная сястра і павінна ведаць, што да чаго...

— Родная-то родная, але ж браты паўцякалі і мяне папярэджвалі, каб тут не сядзела, што гэта небяспечна.

— Дык чаму ты не збегла?

— Не паверыла я.

— Тады і не дапытвай мяне болей. Кажу табе — хлусня ўсё гэта.

— Добра, калі так. Пайду я тады спаць. Спакойнай ночы табе, Юрась.

— І табе таксама. Ды вось яшчэ што. Я хацеў сказаць...

— Слухаю цябе, братка.

— Ты цяпер з палаца без майго дазволу — ні кроку.

— Чаму?

— Так трэба. Навокал разбойнікі ўсялякія лазяць, на іх нарвацца можаш.

— Разбойнікі? Ля нашага палаца? Ды людзі яго бокам за дваццаць вёрст абыходзяць, табе ў няміласць трапіць баяцца, а ты нешта пра разбойнікаў гамоніш. Не разумею.

— Зноў пачала? Сказаў — нельга выходзіць без дазволу, значыцца, нельга, і ўсё на гэтым, болей мне дурных пытанняў не задавай.

— Цяпер усё зразумела, — спакойна прамовіла Яся і выйшла за дзверы.

«Ага, — пагрозліва прахрыпеў малады Жваніцкі, — цяпер ты ў мяне паскачаш. Цяпер я тут за галоўнага, няма ў цябе ні татанькі, ні маманькі. Будзеш рабіць тое, што загадаю, [redacted] не выканаеш — пашкадуеш, ды позна будзе. Разгаманілася, управы на сабе не адчуваеш. Паскачы яшчэ пару тыдняў, паскачы, а там...» — ён не скончыў сваю думку, але радасная ўсмешка асвяціла ягоны твар.

Яся сапраўды не ведала, што задумаў брат, [redacted] калі б і дазналася, то не паверыла б, што да такога мог дадумацца родны брат.

Раніцай дзяўчына заўважыла, што яе не выпусцяць з палаца. Куды яна ні ішла, за ёю кіравалі два здаравенныя шляхцюкі, ад якіх пацягвала такім перагарам, што паненка толькі нос заціскала. Пакуль Яся хадзіла ля палаца, яе суправаджальнікі нічога не казалі, але як толькі адышлася на пару крокаў у кірунку да вялізнага саду, то адразу ж прагучала даволі груба:

— Туды нельга. Няма чаго там рабіць.

— Як гэта нельга? Вы хто такія, каб мне загадваць?

— Нам загадана не выпускаць, вось і ўсё!

— П'яныя свінні! — грэбліва прамовіла паненка.

У адказ прагучаў магутны рогат.

Так і хадзіла дзяўчына, можа, цэлы тыдзень. За ёю, літаральна па пятах, крочылі ахоўнікі-вартаўнікі, і чуць што — гучала пагрозліваe: «Туды нельга!»

Так Яся стала вязніцай. Туды нельга, сюды — таксама. Што было рабіць беднай дзяўчыне? Сядзела ў пакоях і ціхенька плакала. Ды і там яе ў хуткім часе знайшоў братаў загад.

Аднаго разу паненка сядзела і спявала самотную песню, якая адпавядала яе настрою, і тут у дзверы пастукалі, і на парозе паўстаў адзін з вартаўнікоў-шляхціцаў:

— Вас пан кліча.

— Які гэта яшчэ пан мяне кліча? — гнеўна ўскінула вочы дзяўчына. — Хто мае права так са мной абыходзіцца?

— Вас пан Юрый кліча.

— Нікуды [redacted] не пайду.

Крокі аддаліліся па калідоры і заціхлі, але неўзабаве яны зноў прагучалі і з-за дзвярэй пачулася:

— Пан Юрый не просіць, а загадвае вам тэрмінова спусціцца ў залу!

— Не пайду!

Праз нейкі час у пакой уляцеў малады Жваніцкі і загарлаў:

— Колькі я магу чакаць!

— Колькі хочаш!

— Я сказаў, каб ты спусцілася ўніз!

— А я не жадаю!

— Не пойдзеш — занясуць слугі!

— Не пайду!

— Ах так! Занясіце яе ў залу, дзе чакаюць госці!

Не паспела Яся і вокам міргнуць, як здаравенны шляхціц зграб яе ў абярэмак і, нібы пёрка, лёгка панёс па калідоры.

У зале і сапраўды сядзелі госці. Аднаго з іх, ссівелага і ссохлага старога пана, Яся некалі бачыла, астатніх — не. Дзяўчына стрымана павіталася і села ў крэсла. Малады Жваніцкі, каб дарэмна не траціць час, прамовіў:

— Тут, сястра, да цябе сваты прыехалі.

— Сваты? Да мяне?

— Да цябе. А што, табе яшчэ мала гадоў і ты з лялькамі гуляешся?

— Не гуляюся, і гадоў мне не мала, але хто ты такі, каб вырашаць за мяне і нават сватоў прымаць?

— Я твой брат.

— І не болей. Да таго ж і брат далёка не з лепшых... За каго ж ты мяне замуж аддаць хочаш?

— За мяне, — пачуўся нейкі дзіўны голас, які вельмі нагадваў скрып драча.

Дзяўчына павярнулася на яго і толькі тут зразумела, што гэта мовіў той самы стары і ссохлы, як апенька, памешчык.

— За каго?.. — хутчэй па інерцыі, чым спецыяльна, перапыталася яна.

— За мяне, — задаволена прамовіў стары.

— Ой, Божачкі, ды яму ўжо ў магілу пара заглядваць, а не ў шлюбны ложак, — зарагатала Яся. — Што гэта ты прыдумаў, Юрась? І не сорамна табе?

— Якая мне справа, куды яму трэба заглядваць. Ён вельмі багаты, і шкада будзе, калі прапануе сваё сэрца...

— Бабе Язе, — прамовіла дзяўчына і, устаўшы, пакіравала наверх. — Ні за каго я з тваёй ласкі замуж не пайду, так і ведай.

Раз'юшаны Жваніцкі пырскаў слінай і ніяк не мог вымавіць ніводнага слова, а калі апамятаўся, то доўга яшчэ не змаўкалі пагрозлівыя крыкі:

— Ты ў мяне гэта да смерці памятаць будзеш! Я табе такой абразы перад паважанымі людзьмі ніколі не дарую! Цяпер ты ў мяне свету белага не ўбачыш!

Яся і заснула пад тыя крыкі ды праклёны.

Жваніцкі слова стрымаў. Праз пару дзён ён увайшоў у пакой да сястры і ў прысутнасці ўсё тых жа жарабцоў-шляхціцаў прагуў:

— Ведаеш, што я вырашыў?

— Мяне гэта не цікавіць, — прамовіла дзяўчына і адвярнулася.

— А дарма. Гэта ж цябе датычыцца. Усё ж аддам я цябе за гэтага пана.

— Я ж сказала...

— Сілаю, сілаю аддам, і тваёй згоды тут не трэба. Мы ўжо і барыш папілі. Нядоўга табе тут сядзець засталося.

— Ах ты, выпаўзень! Сястру родную прадаў! Табе месца мала было, грошай не хапала?! Юда! За колькі чырвонцаў мяне прадаў?!

— Ну гэта не твая справа, — надзіва спакойна прамовіў Жваніцкі і выйшаў.

Дзяўчына загаласіла, потым ускочыла і падбегла да акна, але там адразу паўстала постаць вартавога. Зразумела, бедная, што гаварыў брат не пустое, што так і зробіць.

У жудасным чаканні прайшоў, можа, тыдзень. Пакаёўкі данеслі Ясі, што Юрась рыхтуецца да пышнага вяселля, каб не ўдарыць тварам у гразь перад шаноўнымі гасцямі, якіх ужо запрошана было вялікае мноства.

Да вяселля заставалася ўсяго два дні. Была ноч з пятніцы на суботу, а ўрачыстасці павінны былі пачацца ў святую нядзелю. Яся ўсё малілася і прасіла Бога, каб забраў ён яе да сябе, каб не дапусціў гэткай знявагі. Бог не спяшаўся. Паспрабавала налажыць на сябе рукі, але вартаўнікі падгледзелі, і тады малады Жваніцкі, не звяртаючы ўвагі на пратэсты Ясі, загадаў шляхціцам ахоўваць яе прама ў пакоі. Бедалага нават і спала апранутая, пастаянна ўздрыгваючы і ўсхліпваючы, а тыя толькі бессаромна распраналі яе вачыма. Калі б не баяліся гаспадара, то даўно ўжо згвалтавалі б паненку. Яны добра ведалі люты нораў пана.

Ноч цягнулася, як звычайна, марудна і жудасна. Паціху зарыпелі дзверы, але Яся ўжо не звяртала ніякай увагі ні на храп, ні на рыпенне — шляхціцы прывучылі яе да ўсяго. Потым пачуліся стогн і валтузня там, дзе звычайна сядзелі ці ляжалі вартавыя. Раптам успыхнула свечка, і дзяўчына ажно адхіснулася — прама перад ёю стаяў сапраўдны волат. Стаяў і... пасміхваўся.

— Гэта цябе пан сілай замуж аддае?

— Мяне.

— А ты не хочаш?

— Не.

— Дык пайшлі адсюль.

— А...

— Яны спяць, глядзі, — і хлапчына кулаком, велічынёю з добры гарбуз, бухнуў па галаве аднаго са шляхціцаў, там нешта толькі трэснула.

— Я спачатку іх адлупцаваў. Пайшлі... Праз акно...

— Дык там жа...

— І тыя спяць.

— Ты і іх?

— І я, і хлопцы.

Асілак выскачыў у акно і выцягнуў рукі. Яся моцна абхапіла яго за магутную шыю. Неўзабаве яны ўжо скакалі прэч ад палаца, ззаду ляскацелі капыты яшчэ некалькіх коней. Раптам дзяўчына ўскрыкнула:

— Ой, што гэта! — і паказала на водбліскі агню ззаду.

— Палац гарыць. Ён жа табе не трэба, толькі брат запраўляе... А яму, людажэру, на гэтай зямлі месца няма. Паехалі далей, нас чакаюць у лесе.

Ехалі яны амаль што да самай раніцы. Паненка стамілася ад трасяніны і ледзьве ўжо дыхала, калі яны выскачылі на вялікую паляну, пасярод якой тлела вогнішча.

— Вось мы і дома.

— Хто дома, а хто і ў гасцях.

— Гэта як сказаць.

Яся не зразумела спачатку, што меў на ўвазе яе вызваліцель. Дайшло толькі потым, калі прачнулася і вылезла з будана. Першым, хто трапіўся ёй на вочы, быў яе малодшы брат. Увешаны зброяй, ён стаяў побач з сівым старым, і той нешта яму распавядаў.

— Юзік! — ускрыкнула паненка і падбегла да брата.

Пакуль цалаваліся, пакуль распытвалі адзін аднаго пра жыццё, навокал назбіралася шмат людзей.

— Хто гэта? — спыталася Яся.

— Тыя, каго наш брат зваў разбойнікамі. Добрыя людзі, з імі можна жыць. Таму, Яся, я нават...

— Што?..

— Прыжанілі мы яго, — прагуў знаёмы бас, і дзяўчына ўбачыла свайго вызваліцеля.

— Як гэта? — пытанне было недарэчным.

— Знайшлі дзяўчыну і...

Навокал зарагаталі. Яся таксама засмяялася, шчаслівая ад таго, што апынулася сярод сапраўдных людзей, якія маглі падтрымаць, прыйсці на дапамогу ў любы момант.

Легенда апавядае, што яна выйшла замуж за таго самага асілка, які вывез яе з палаца ноччу, што дзяцей яму нарадзіла прыгожых і здаровых, што жылі яны доўга і дружна, а калі памерлі, то пахавалі іх дзеці пад магутным дубам. Ён яшчэ ў мінулым стагоддзі рос, а потым, ад старасці, упаў.

Месца тое, дзе тыя ўцекачы-сяляне жылі, назвалі Бягомля, ад слова «бягомель», што і азначала — уцякач.

## БАКШТЫ

Даўным-даўно ўвесь пушчанскі край пакарыў бязлітасны князь Жмудзін, і адразу ж вырашыў ён звесці са свету ўсіх мясцовых князёў, радаводы якіх мелі надзвычай старажытныя і знатныя карані. Той зласлівец так і гаварыў сваім сябрам:

— Яны, дурні, думаюць, што я з імі хаўрус вадзіць буду. Дзе ж гэта бачылі, каб самы моцны князь усяго краю з нейкімі там пстрычкамі вадзіўся? Я іх да пазногця прыцісну — боты мне цалаваць будуць. Падумаеш, радавод да дванаццатага калена... Колькі заплачу, колькі скажу, столькі мне каленаў перапісчыкі і напішуць, ад самага Адама род мой працягнуць... Знайшлі чым ганарыцца, сярмяжныя рылы. Пабачаць яны ў мяне, зведаюць яшчэ, па чым фунт ліха...

Сябрам адно гаварыў, а князям нашэптваў зусім іншае:

— Як браты станем жыць, зайздросціць суседзі будуць, што мы гэтак паядналіся. Не палохайцеся, дарма на мяне ўсялякае плятуць. Ведама ж, языкі без касцей, як імі круцяць, так яны і мелюць. Усё ў нас пароўну будзе. Любы паход ці бітва — усё разам, не іначай. Якія

багацці ды землі маеце — няхай яны вам і застаюцца. У мяне свайго хопіць.

— Вось дзякуй табе, Жмудзін, вось дзякуй, а то ўжо нам...

— Што ўжо вам наплялі?

— Ды не проста наплялі, а такога нараспавядалі, што ў нас і ногі трымцець пасля гэтага пачалі.

Зарагатаў гаспадар краю, ды гэтак голасна, што ажно водгулле па лесе пайшло, а за ім загігатала і шматлікая дружына. У прысутных князёў гэты смех ускалыхнуў жудаснае прадчуванне.

— Яшчэ раз вам кажу — не бойцеся мяне

— Ды мы і... — спрабавалі нешта даводзіць мясцовыя князі, ■ самі ўсё па баках азіраліся, за дружыннікамі сачылі, якія цесным колам іх абкружылі.

— Людзі хто з зайздрасці, хто з нянавісці абы-што плявузгаюць. Калі такой хлусні верыць, то і жыць не трэба.

— Яно-то так...

— Ды вы не азірайцеся, не бойцеся, нічога вам мае вої не зробяць. Гэта ў іх звычка такая — абкружаць мяне колам, калі я з некім перамовы вяду.

— Цяпер зразумела. Нам бы ўжо час раз'ехацца, княжа.

— Ды ніхто вас затрымліваць не будзе. Толькі вось яшчэ што... Запрашаю я вас усіх да сябе ў госці. Усе прыязджайце.

— А калі?

— Ды ў гэтую нядзелю, што надыдзе. У гэтую...

Так, хітрыкамі ды падманам, ён заваблівау да сябе ў замак сваіх суседзяў і забіваў. Нарэшце засталіся толькі тры браты-княжычы, самыя магутныя з усіх, бо валодалі Лоскай зямлёю і Лоскім замкам. Доўга цікаваў іх Жмудзін з дружыннікамі і неяк усё ж дабіўся свайго — перастрэў братоў з малой дружынай на лясной дарозе, і адтуль іх ужо жывымі не выпусцілі. Але так здарылася, што жывым застаўся іхні брат — княжыч-малалетак, які ў той раз не ездзіў з братамі. Калі пра гэта даведаўся Жмудзін, то найперш загадаў ссекчы галаву з плеч таму военачальніку, які павінен быў усіх братоў вынішчыць пад корань, а потым ужо загарлаў на слуг ды дружыннікаў:

— Што, ужо і мой загад для вас не загад? Так атрымліваецца? А не пашкадуеце? Забіце неадкладна і таго шчанюка, каб толькі я адзін кіраваў гэтым спакойным ды багатым краем! Даю вам усяго тры дні тэрміну!

— Княжа, — азваўся смялейшы, — дык ён жа ў замку з воямі сядзіць...

— То вы, бедалагі, і не ведаеце, як у такіх выпадках паступаць? Што, вы ніколі замкаў у аблогу не бралі, не авалодвалі імі?! Тры дні вам тэрміну, ні дня болей. А калі загад не выканаеце, то самі будзеце на па́лях матляцца! Ідзіце!

Наступнай ноччу ўзялі прыступам той замак і ўсіх яго-ных абаронцаў перабілі, а самога княжыча ў палон захапілі. Сталі раіцца, як яго жыцця пазбавіць. Доўга меркавалі, амаль да самай раніцы, потым адзін з іх прамовіў:

— Вось гляджу я на гэтае хлапчаня, і шкада мне яго. Ён жа нікога не пакрыўдзіў, то за што ж мы павінны яго забіваць? Няўжо крыві на нашых руках і душах мала? І так невядома, дзе пасля смерці апынёмся...

— Яно-то так, — выдыхнуў нехта.

— Таму я прапаную не забіваць яго.

— А загад?..

— Загад мы выканаем.

— Што ж гэта атрымаецца?

— А мы яго звязанага ў човен пакладзём і адпіхнём ад берага, няхай плыве. Выплыве да людзей, дапаможа яму хто — ягонае шчасце, а не, то мы таксама не вінаватыя...

— Жорстка гэта...

— Але ж па-іншаму нельга, бо самі жыццём паплацімся.

Параіліся яшчэ трохі і павезлі хлопчыка да вярхоўя Бярэзіны. Прывязалі яго да чоўна і пусцілі той човен па цячэнні.

На трэці дзень вылавілі багамольцы ўжо зусім зняможанага ад смагі і голаду княжыча. Жылі яны ў патаемным скіце. Вось тыя людзі выхадзілі і ўзгадавалі маладога чалавека. У Лоск княжыч болей не вярнуўся, не было яму што там рабіць. На беразе Бярозы, у тым месцы, дзе вылавілі яго манахі, збудаваў ён драўляны замак-вежу. Сцены яго для трываласці і надзейнасці так былі прасмолены і пракураны, што неўзабаве блізкія суседзі і самі жыхары празвалі яго «Чорнай вежай».

Ажаніўся князь з пушчанкай-прыгажуняй і нікуды адсюль далёка не выязджаў: паляваў, лавіў рыбу. Асабліва любіў прымаць у сябе ў замку купцоў, што падымаліся на стругах-лодках з Нёмана або спускаліся па цячэнні з-пад яго роднага Лоска. Шчодра пачаставаўшы гандлёвых людзей, уважліва слухаў малады гаспадар іхнія раска-

зы-навіны. Купцы ж па ўсяму свету тады плавалі-ездзілі і многа ўсялякага ведалі.

Вось такія купцы, яшчэ здалёк убачыўшы чорную княжацкую вежу, што ўзвышалася над лясамі, быццам бы і гарлалі-крычалі, паведамлялі ўсяму астатняму каравану: «Бакшты! Бакшты!» З таго часу і паселішча, што пабудавалася каля княжацкай вежы, сталі называць Бакшты. А потым, калі ўжо скончыўся род бакштанскіх князёў-пушчанцаў, іх старажытную бакшту-вежу вялікі князь ператварыў у турму.

## БЕРАЗІНО

Жыў у нас адзін мужык, Архіп. Такі ўжо лайдак быў, такі гультай, што тыдзень па наваколлі шукаць будзеш на яго падобнага — не знойдзеш. Дзе сядзіць — там і спіць. Пачне што рабіць ці то ў полі, ці то ў лесе, ці то па гаспадарцы, да канца справу так і не давядзе. Смяюцца суседзі:

— Што гэта такое хрыпіць, братка?

— Дзе?

— Ды хіба не чуеш?

— Гэта ж Архіп храпе ў кустоўі.

— Божачка, дык ён жа нічога і не зробіць за дзень. Цікава, што ён ноччу рабіць будзе.

— Трэба ў жонкі ягонай запытацца...

Рагочуць сяляне, а лайдак на іх не зважае — спіць сабе соладка, і мухі яго, камары ўсялякія не турбуюць. Калі людзі не пабудзяць, то да глыбокай ночы праспіць.

Выскачыць на вуліцу гаспадыня і дапытваецца:

— Ці ж майго абібока там не бачылі?

— Чаму ж не бачылі — бачылі.

— А што ён там гэтак доўга?

— Запрацаваўся... З боку на бок варочаецца...

— Каб ужо яго зямля сырая прыгарнула! Каб яму спакойнага месца на гэтым свеце не было! Каб яму на кожным баку па сем скул села, як ён мне ўжо надакучыў. Дзяцей напладзіў, а карміць я іх адна павінна.

— Хоць дзяцей ды пастараўся. У нас нешта не надта атрымліваецца, а ён, бачыш, які спрытны: і спіць, і дзеці бегаюць, — жартавалі вяскоўцы.

— Вам толькі зубы скаліць, а да майго гора справы няма, — адмахвалася ад іх гаспадыня.

— А якое ў цябе гора? Бачыш, якая круглая ды гладкая. Нібы пірагоў наелася.

— Наясіся за такім мужам, — ужо са слязамі на вачах казала жанчына і кіравала да хаціны, каб карміць дзяцей.

Архіп прыязджаў у такія вечары надзвычай позна і на ўсе стогны жонкі звычайна прамаўляў:

— Каму ты верыш? Ды яны спецыяльна цябе супраць мяне настройваюць.

— Спецыяльна? А чаму гэта ў цябе на штанах такая дзірка?

— Парваліся, дык і дзірка.

— Ага, парваліся... яна ж прапаленая...

— А я і не заўважыў...

— Ды дзе ўжо табе заўважыць. Спаў, лайдачына, каб на цябе хвароба якая прыляпілася.

— Ці ж можна такое мужу жадаць? Ці ж то можна праклёнамі клясці бацьку сваіх дзяцей?

— Чым такі бацька, як ты, лепш ніякага не было б. Хоць бы сэрца маё не рваў.

— Дай што пад'есці.

— Пад'есці табе? А ці ты сёння зарабіў?

— Не крычы ўжо. Сёння не даараў — заўтра зраблю, толькі тае і бяды...

— Даарэш, як жа, — мякчэла гаспадыня і ставіла на стол ежу.

Архіп так хлюпаў і сёрбаў, што ажно за вушамі трашчала. Жанчына з гэтай нагоды не вытрымлівала зноў:

— Во, каб гэтак ты на полі стараўся, дык ужо апоўдні дома быў бы і яшчэ справу зрабіў бы. Дык там спаць укінешся, сваім храпам людзей палохаеш...

— Яшчэ ніхто ад майго храпу не памёр, — парыраваў мужык.

— Памерці не памёр, але і ты сёння ў мяне пакаранне атрымаеш...

— Якое?

— Якое? А такое! Паеж і давай вядзі кабылку пасвіцца на начлег. Хоць які ўжо тут начлег, калі хутка віднець пачне.

— Не пачне, восень жа на двары, ночы доўгія...

— Ночы доўгія, а дні затое кароткія, дык ты і іх прасыпаеш. Каб ты і на начлезе не заснуў, ■ з табой Паўліка адпраўлю (Паўлік быў іхнім старэйшым сынам).

— Ты, сыночак, там хоць не засні.

— Не, матуля, не засну. Хіба ж я першы раз кабылку пасвіць павяду? А тут яшчэ з татам. Не засну.

— І яму, лайдаку, спаць не давай, сам лепей прыдрамні...

Даеў Архіп, вылізаў міску і пачаў моўчкі збірацца. Ведаў, што калі закране зараз жонку, то такога атрымае, што і ў завязаныя штаны не ўлезе. Лепей выбрацца паціху, а там ужо ўсё рабіць па-свойму.

Паўлік стаяў ля печы ўжо апрануты і чакаў бацьку. Гаспадыня і гэтага не даравала мужу:

— Дзіця апранулася за хвіліну, і лапцікі абула, а гэты будзе гадзіну кешкацца, пакуль шапку знойдзе. Скажы яшчэ, што нешта згубіў.

— А ты адкуль ведаеш?

— Гавары хутчэй!

— Люлькі ніяк не знайду. Недзе паклаў...

— А ў зубах ты што трымаеш, боўдзіла рыжае?!

— А і сапраўды. Як жа я гэта...

Прамовіўшы апошнія словы, Архіп пакіраваў за дзверы.

Заехалі яны на луг, і тут бацька і пытаецца:

— Сынку, ты спаць не хочаш?

— Не, тата.

— А я за цэлы дзень так натаміўся, што вочы зліпаюцца. Дык ты, можа, папасві адзін, а я крыху падрамлю, потым пераменімся. Імжа сыпле... Спаць добра...

— А якая яна, імжа? — запытаўся сын.

— Шэрая, — адказаў Архіп, ужо пахропваючы.

Сядзіць хлапчынка адзін і раптам бачыць — нейкі шэры звер да іхняй кабылкі падкрадаецца.

— Тата, тата, — пачаў катурхаць ён Архіпа, — імжачка ідзе.

— Няхай ідзе, сынку, гэта не самае страшнае.

Сказаў так і зноў захроп.

— Тата, тата, тая імжачка да кабылкі скача.

— Толькі тае і бяды... Няхай сабе скача. Шкуру не праб'е.

— Тата, тата, дык яна кабылку паваліла.

— І гэта не страшна. Няхай сабе паляжыць.

— Але ж мне страшна...

— Ты ж са мной, не бойся.

— Тата, тата, а тая імжачка кабылку нашу на кавалкі рве.

Бацька перавярнуўся на другі бок і яшчэ грамчэй захроп.

— Тата, тата, ужо і кроў палілася...

Усхапіўся Архіп — ажно гэта воўк.

— А чаму ж ты, Паўлік, не казаў мне раней?

— Я ж казаў, што імжачка ідзе... Я ж думаў, што гэта яна... Ты сам сказаў, што імжачка шэрая...

— Гэта ж воўк. І ён нашу кабылку задушыў. Што мы цяпер рабіць будзем? — ледзьве не завыў уголас Архіп. — Нам жа араць не будзе на чым... Сена ці дроў якіх прывезці — таксама... Маці нас з хаціны прагоніць...

— Але ж я будзіў цябе, татка, — захліпаў хлапчынка.

— То ты ідзі дамоў, а я не пайду. Пайду куды вочы глядзяць ды дзе-небудзь утаплюся.

— Не трэба, татка, не трэба...

Архіп борздзенька падаўся ў бок лесу. Ён ішоў і яшчэ сам добра не ўсведамляў, што будзе рабіць у бліжэйшы час, проста яго гнала ад таго страшнага месца.

Па дарозе са злосцю размахнуўся і як лупянуў нагою ў купіну, то тая ажно ўгару падкінулася і... зазвінела. Спачатку Архіп і ўвагі на гэта не звярнуў, але калі ўбачыў нешта бліскучае, то нахіліўся, а як нахіліўся — дык загарлаў:

— Паўлік, сынок! Да мяне! Да мяне бяжы!

Той падскочыў і аслупянеў: бацька збіраў нешта ў шапку і рагатаў.

— Што ты робіш, тата?

— Грошы, сынку, грошы... Гэта ж нехта іх тут некалі захаваў, а ■ нагою лупянуў, золата і рассыпалася. Дапамагай, усё трэба сабраць, усё, да адзінай манеткі. Цяпер мы зажывём як людзі...

Прынеслі дамоў тое золата, і мужык яшчэ з парога заявіў:

— Ты, жонка, як хочаш, але я куплю і той кавалак зямлі, дзе мне сёння пашанцавала.

— Як хочаш, так і рабі, — радасна адказала тая.

— Хоць там і беразно, але тым не меней куплю. Трэба ж, каб памяць засталася.

Разбагацеў тады Архіп, заможна зажыў. І, што самае галоўнае, усе свае шматлікія вялікія будынкі паставіў ля таго самага лугу, у тым самым беразняку. Людзі ўжо сталі зваць ягоны хутар — Беразном, ад яго ж слова. Потым, з цягам часу, перайначылася назва і зрабілася — Беразіно, але гэта было значна пазней, калі цэлае паселішча на

тым месцы вырасла. Да гэтага часу жывуць тут нашчадкі таго гультая Архіпа, але яны, у адрозненне ад далёкага продка, працалюбівыя.

## БІРУЛІ

Было гэта вельмі даўно, у тыя яшчэ гады, калі Бог са сваімі святымі як простыя людзі па зямлі хадзілі. Добра тады ўсім было. Што-небудзь не атрымліваецца ў працы ці зямля не родзіць, то проста папросішся:

— Божачка, дапамажы. Тут такое, што неўраджай ды неўраджай і наесціся не заўсёды выпадае. Зрабі так, каб зямля радзіла, як у іншых мясцінах.

— Добра, — адказвае той, але выконваць просьбу не спяшаецца, а сам пачынае да ўсяго дапытвацца:

— А ці добра ты, чалавеча, зямлю гэтую апрацоўваеш?

— Колькі сіл маю, столькі на яе і трачу. Як мяне бацькі навучылі, так і я дзяцей сваіх вучу, каб яны да зямлі-мацеркі з павагай адносіліся. І працую, і вучу, а адплаты шчырай не атрымліваю. Каб яшчэ сам жыў, дык іншая справа, а то ж сям'я, а сям'ю карміць трэба...

— Зразумелая справа, — адзавецца Усявышні, а сам павернецца да каго са святых, якія абавязкова яго суправаджалі то па двое, а то і па адным, і ўдакладніць, ці праўду чалавек сказаў, ці не падманвае.

— Не, Божа, гэты мужык шчыруе на ніве ад рання да змяркання і яму сапраўды не шанцуе. У суседзяў зямля родзіць, як надзіва, а ў яго ўсё то высушвае, то залівае, а то проста неўраджаем сыходзіць.

— Болей такога, чалавеча, у цябе не здарыцца, бо гэта і сапраўды не справядліва: ты добра працуеш, а ўзамен атрымліваецца, што зямля цябе падманвае. Зародзіць і ў цябе зямелька, як і ў многіх іншых.

Бог са святымі кіраваў далей, а земляроб падаў на калені і маліўся ўслед:

— Дзякуй табе, Усявышні, што выслухаў маю жальбу і што паабяцаў дапамагчы, а я ўжо цябе ў сваіх малітвах ніколі не забуду і дзецям накажу, каб цябе заўжды славілі. Для нас жа самае важнае — зямля, і абавязкова каб яна радзіла, іначай як нам жыць...

Аднаго разу Бог хадзіў па зямлі з Пятром, якога ён больш за ўсіх святых любіў. Стаміліся абодва. Усявышні і гаворыць:

— Давай прыпынімся дзе ды паляжым якую гадзіну, каб спёка спала (а справа, бачыце, летам была, у самую гарачыню, калі на зямлі жніво распачалося), потым далей пакіруем.

— А можа, яшчэ крыху пройдзем, там і адпачнём? Чуеш, нехта жніўную песню жаласліва выцягвае? Там і спынімся ды пагамонім...

— Няхай па-твойму будзе, Пётра. Падыдзем яшчэ крыху, толькі надта не спяшайся, а то я зусім ногі пазбіваў, ажно смыляць.

— Памыць бы іх зараз не шкодзіла, то палову стомы як рукой зняло б.

— Ды дзе ты ў такую спёку ваду знойдзеш? Каб хоць цянёчак які — і то добра. Пячэ-смаліць сонца бязлітасна. Бедалагі-жнейкі ў такой спякоце жнуць... Як толькі яны вытрымліваюць?..

— Нездарма ж гаворыцца сярод людзей, што ў клопаце і поце будзеце здабываць хлеб свой... Вось і даводзіцца ім за ўсё салёным потам плаціць.

— Так, тут я з табой цалкам пагаджаюся. Нялёгка людзям працы жывецца.

Гамоняць гэтак Бог з Пятром ды паціху па сцяжынцы наперад прабіраюцца. Вось недзе ўжо зусім, здаецца, побач голас жнейкі душу рве, і просіць, небарака, не многа: каб сонейка за бор высокі закацілася ды прыцемкі хутчэй надышлі, тады можна было б даць спачынак стомленаму целу, бо з самае раніцы зноў давядзецца на ніўку кіраваць.

— Песня сумная, але голас які... — задуменна прамовіў Пятро.

— І я хацеў гэта сказаць.

— Як гэта людзям удаецца так праспяваць, нібы ў самую душу зазірнуць і там усё перавярнуць...

— На тое яны і людзі.

— Так, што ні кажы, а і ў горы, і ў скрусе яны мужна трымаюцца. Гэтулькі ўсяго на іхнія плечы валіцца, але не згінаюцца — трымаюцца, да апошняга трымаюцца...

— Зараз вось да гэтай жанчынкі дабяромся і пра ўсё распытаем-даведаемся. Можа, яна нам нешта такое адкрые, чаго мы не ведаем, пра што нават і не здагадваемся.

Выйшлі на больш шырокую дарогу і адразу ўпёрліся ў жытнёвую ніву.

— Тут, мабыць, і спявала, — зазначыў Бог, бо недзе ж побач голас чуўся, а болей ніў і не відаць...

— Здаецца, што тут...

Ажно і сапраўды: недалёка ад сябе заўважылі жнейку, якая, не разгінаючыся, хуценька жала, толькі серп маланкаю мільгацеў у яе руках. І, што самае цікавае, яшчэ і спяваць ўмудралася.

Падышлі да яе Бог з Пятром і сталі за спінай. Пачакалі крыху, і, каб не напалохаць, Усявышні ціхенька прамовіў:

— Добры дзень табе, жнейка.

Тая павярнулася, і тады падарожныя ўбачылі, што ніякая гэта яшчэ не жанчына, а маладзенькая дзяўчына, ды гэткая прыгожая, што Пятро, нягледзячы на тое, што святы, ажно крэкнуў. Усявышняму няёмка стала за паводзіны свайго святога, і ён паспяшаўся загаварыць, каб неяк згладзіць няёмкае становішча:

— Дзе ж гэта ты так спяваць навучылася?

— Ад матулі.

— А чаму адна?

— Матуля хварэ, а тата памёр. Болей у нас нікога няма.

— Можа, ты хочаш чаго ў нас папрасіць?

— Папрасіць?..

Дзяўчына задумалася, а потым ціха сказала:

— Дайце мне каго ў помач, каб не самой тут гнуцца, а з кім удваіх. І весялей будзе, і хутчэй.

— Вось гэта мы для цябе зробім. Зараз пойдзем і каго спаткаем, таго да цябе і прышлём, каб дапамагаў. Ну, прабач нас, што адарвалі цябе ад працы, жні здаровенькая ды вясёленькая.

— І вы будзьце здаровыя, — пакланілася ім дзяўчына.

Адышліся Бог з Пятром і гавораць паміж сабою:

— Маладая, а такая працавітая.

— А як старэйшых паважае... Каго б да яе прыслаць...

— Мы ж паабяцалі: каго першага напаткаем — таго і пашлём.

Ідуць яны, ідуць і бачаць — пад старой грушай-дзічкай ляжыць здаравенны хлапчына з разяўленым ротам. Ляжыць і не міргае нават.

— Чаго гэта ён, Пётра?

— Ды гэта лайдачына лянуецца грушу сарваць, дык вось лёг, рот разявіў і чакае, пакуль яна сама яму ўпадзе.

Успомніў тут Бог пра маладзенькую жнейку і вырашыў даць ёй у пару гэтага хлопца.

— Гэтага біруля? Ды ён жа рабіць нічога не стане, — усхадзіўся Пятро. — Лепей другога пашукаем, а гэты няхай чакае свайго часу.

— Разумееш, Пётра, усё, што ў жыцці людзей ні робіцца, — яно робіцца да лепшага.

— Але ж дзяўчыну шкада...

— Дамо мы ёй гэтага хлопца, дык гультай будзе на працавітую глядзець і пачне ёй дапамагаць, а калі абое лянівыя, то з голаду памруць. Адкуль яны, бірулі, як ты кажаш, толькі на зямлі бяруцца?..

— Хто ж іх ведае...

Так яны і зрабілі, як Бог вырашыў. Вось адкуль назва пайшла — ад слова, якое азначае «маўклівы», «сярдзіты», «лянівы». Так мне казала мая бабулька, а яна многа ўсялякага ведала. Так нашы Бірулі і сталі.

## КРУЛЯЎШЧЫНА

Некалі тут гаспадарыў адзін памешчык па прозвішчы Быкоўскі. Багаты быў пан, усялякага багацця, каштоўнасцей, зямлі гэтулькі было, што на палову нашай старонкі хапіла б. Але ён нікому і дробнай капейчыны не даў. Жабракі і тыя бокам абыходзілі панскія ўладанні, тут у іх маглі адабраць і тое, што людзі добрыя далі, ды яшчэ ў спіну бізуноў нарэзаць.

У гэтага Быкоўскага столькі гонару ды пыхі было, што ён ставіў сябе вышэй нават за караля тагачаснага. Зарагоча, закалыша чэравам ды гыркне:

— А што мне той кароль? Ён што, мяне корміць ці поіць? Можа, грошы мне дае? Не, я сам усё здабываю. А багацця ў мяне гэтулькі, што таму каралю трэба добра напрудзіцца з усёй раднёй разам, каб назбіраць столькі. Падумаеш, кароль...

— Так, так, шаноўны пан гаспадар, — лісліва пасмейваючыся, падтрымлівалі Быкоўскага шматлікія госці. — Не кожнаму каралю такі гонар і пашану аказваюць, як вам...

— Хай паспрабуе каторы і не акажа, то хутка ў мяне атрымае. Я ўмею ўзнагароджваць, але ўмею і караць! — ужо з адкрытай пагрозай у голасе прамовіў гаспадар палаца.

Госці выдатна ведалі характар Быкоўскага і таму за лепшае палічылі яшчэ ніжэй схіліцца ды прамаўчаць у адказ.

Усё было ў Быкоўскага ў вялікай колькасці. Але ведалі суседзі, ды госці таксама, чаго ў яго не хапала. Часта на добрым падпітку гаспадар пачынаў у адкрытую плакаць:

— За што на мяне такая кара нябесная абрынулася? За што?

Усе маўчалі, і тады здаравенная панская рука торкала каго-небудзь за плячук:

— Вось ты, адкажы...

— На што, шаноўны пан? — пачынаў той, быццам бы нічога не ведаючы.

— Адны дзеўкі ў мяне, а хлопчыка, нашчадка, няма. Разумееш ты, няма!.. Ці то жонка вінаватая, ці то хто іншы, але такая справа атрымліваецца...

— Што тут сказаць, шаноўны пане...

— Скажы, скажы, раз я да цябе звяртаюся, а то ўмомант!..

— Лёс такі, відаць...

— Лёс? То табе лёс з сённяшняга дня маіх свіней пасвіць! Прэч адсюль, нягоднік! — грымеў Быкоўскі.

Так здаралася амаль штодня, і многія суседзі ды госці былі глыбока абражаны і пакрыўджаны Быкоўскім. Але што яны маглі зрабіць? Сілай ваяваць не станеш, а скажаш што-небудзь — то праз гадзіну памешчык ведаць будзе і пусціць цябе па белым свеце голым ды босым.

Чалавек ён быў жудасны і як пан для сваіх прыгонных, і як гаспадар, і як муж. Для жонкі асабліва. З яе ён здзекаваўся за тое, што нарадзіла яму адных дачок. Некалькі разоў яна збягала ад гэтага вылюдка і хавалася ў суседзяў ды сваякоў, але і там яе знаходзілі верныя мужавы паслугачы. Тады не шкадаваў Быкоўскі нікога: жонку забіваў да непрытомнасці, а тых, хто хаваў няшчасную, мог ці спаліць, ці пасадзіць у сваю вязніцу, што знаходзілася прама пад панскім палацам. Адтуль адзіная сцяжынка была — на неба, да мёртвых.

А Быкоўскі ўжо, мабыць, зусім страціў розум, бо пачаў такія дзікунствы вытвараць, што і пераказваць жудасна. Мала таго, што ён амаль кожны дзень катаваў ні ў чым не павінных сялян, дык яшчэ здекаваўся з іхніх жонак і дзяцей. Ён проста прагнуў крыві. Забіць чалавека стала для яго звычайнай справай, такой, як, напрыклад, пакруціць вус ці плюнуць на сырую зямлю. Калі на працягу двух дзён не ўдавалася зрабіць нічога падобнага, то Быкоўскі пачынаў сумаваць, браў стрэльбу і выходзіў у лес на паляванне. Толькі паляванне гэтае было своеасаблівае. Па-першае, ён кіраваў на яго адзін, без слуг, а па-другое, паляваў не на звяроў, а на... вяскоўцаў. Сядзеў у засадзе і падпільноўваў. Разбэшчаная ўшчэнт натура гэтага чалавека нястрымна вяла яго да пагібельнага канца. У хуткім часе гэта і адбылося.

Аднаго разу Быкоўскі, нечага раззлаваўшыся, загадаў запрэгчы карэту і на ёй пакіраваў у лес. Па дарозе ўжо было відаць, што вось-вось разгуляецца навальніца, бо страшная, чорная і груvasткая хмара выплывала прама з-за таго лесу, куды пан кіраваў, але яго нішто не магло стрымаць.

Незадоўга перад гэтым, можа за якіх паўгадзіны, адзін з прыгонных сялян пана Быкоўскага непрыкметна прабраўся ў лес, каб ссекчы там сухое дрэва на дровы. Правільна, бедалага, разлічыў: пад гром ды шум навальніцы ўдары сякеры не будуць чутны. Ды не падумаў, што на яго напарацца пан. Памешчык выехаў на няўдалага лесаруба і, доўга не раздумваючы, застрэліў яго. Як толькі прагучаў стрэл, адразу загрукатаў гром, засвяцілі маланкі, стваралася ўражанне, што само неба выступала супраць такой гвалтоўнай і недарэчнай смерці. Дрэвы вывaрочвала з карэннем, у лесе зрабілася цёмна, як уначы, коні пачалі спатыкацца і не хацелі далей ісці — баяліся. Раней Быкоўскі менавіта ў буру і любіў усялякія прагулкі, але цяпер, пасля забойства, нейкая нястрымная сіла пацягнула яго дамоў.

Аказваецца, быў тады Бог на небе і ўсё бачыў. У той момант, калі Быкоўскі застрэліў безабароннага селяніна, у невялічкую вёсачку, дзе жыла ягоная сям'я, уязджаў сам кароль са шматлікай аховай і слугамі. Убачыў, што разыгралася такая навальніца, і загадаў спыніцца. Але ў карэце сядзець не захацеў, пабег з сакратаром у хацінку, якая стаяла паблізу. Пераступілі парог — а там жанчына галосіць, валасы на сабе рве, дзеці плачуць.

— Што здарылася, гаспадыня? — запытаўся кароль.

— Мужа майго толькі што забілі... Паехаў з сынам, каб сухое дрэва на дровы ссекчы, а яго застрэлілі... Хлопчыка не заўважылі, а то і яму канец быў бы... Ён зараз прыбег і ўсё паведаміў... Ой, гора мне... Як жа я адна з малымі жыць буду?..

— Хто яго забіў? З-за сухога дрэва і забіць?..

— Наш пан Быкоўскі. Ён робіць, што хоча, управы на яго ніякай няма...

Кароль рэзка павярнуўся да сакратара. Той схіліў галаву і прамовіў:

— Гэта і ёсць той пан, які сябе вышэй за караля ставіць.

— І я яго вышэй за сябе пастаўлю. Загадаць воям прывезці яго сюды.

Праз пару гадзін скручанага пана Быкоўскага прыцягнулі да караля.

— Дык пан Быкоўскі сябе вышэй за мяне ставіць? Маіх законаў не выконвае, людзей забівае па сваёй ахвоце...

Быкоўскі нічога не адказваў, толькі пазіраў асалавелымі вачыма на караля.

— Павесіць яго! Вунь на той асіне! Хай усе бачаць, які лёс такіх злыдняў чакае! А гэтай жанчыне, удаве нябожчыка, з ягонай зямлі выдзеліць добры кавалак, даць жывёлы і грошай! На гэта мая каралеўская воля! Выконвайце!

Пана Быкоўскага павесілі, удаве далі ўсяго і пабудавалі новыя будынкі, і месца тое людзі пазней Круляўшчынай назвалі, ад волі таго добрага караля, які простай жанчыне не даў з дзецьмі з голаду памерці.

## ПОРПЛІШЧА

Згодна мясцоваму паданню, назва гэтая паходзіць ад першапачатковай — Праклішча.

Некалі даўно-даўно, у далёкія часы, калі пры славутым Глыбоцкім тракце не стаяла яшчэ ніводнай вёскі, ніводнага хутарочка, толькі лясныя звяры гаспадарылі ў тутэйшых мясцінах, і навокал ляжалі непралазныя ды непраходныя балоты, задумаў быў адзін купец з далёкіх краёў праехаць у Глыбокае на таргі. Нагрузіў ён вялікі абоз усемагчымых тавараў, наняў моцную ахову, запрасіў з сабой сяброў-купцоў і, развітаўшыся з роднымі, выбраўся ў дарогу. Праўда, яшчэ калі збіраўся, то жонка неяк адвячоркам нерашуча сказала:

— Можа б, ты, чалавеча, не спяшаўся так?

— З якой гэта нагоды і адкладваць стану? — здзівіўся той. — Для мяне кожны ўпушчаны цяпер дзень дорага каштуе. Паспрабуй зарабіць тую залатоўку...

— Я не пра заробкі кажу, мужу, я пра іншае тамонку вяду.

— То пра што тады?

— Разумееш, мінулай ноччу мне сон дзіўны прысніўся. Ніколі такога ліха не бачыла. Калі прачнулася, то ўся мокрая з перапуду была. Спачатку хацела цябе будзіць, а потым ужо адумалася, што ты і так стаміўся, за цэлы дзень набегаўшыся.

— І што ж табе снілася?

— Як толькі я задрамала, то ўваччу паўстаў нейкі дзіўны чалавечак... Невысокага расточку, з даўжэзнай, зблытанай барадою, з хітрымі вочкамі... Ён нічога не га-

варыў, а толькі перасцерагальна махаў перад тварам рукамі, нібы не пускаў кудысьці... Здавалася, што так і ўчэпіцца зараз за валасы...

— Дык і што з таго, што ён рукамі махаў?

— А раптам ён гэтым самым не мяне, а цябе, мужу, перасцерагаў? Не хацеў, каб ты зараз у дарогу выбіраўся... Прасіў счакаць крыху дома...

— Я заўсёды ў такую часіну выбіраўся, і нічога не здаралася. Адзін у глухіх мясцінах, дзе разбойнікі гаспадарылі, ездзіў, і неяк жа абыходзілася... А на гэты раз ахоўнікаў наняў, слуг, фурманаў колькі едзе, сяброў запрасіў — і яны не адмовіліся, бо таксама выгаду нейкую хочуць атрымаць...

— Я ж не супраць таго, каб ты ехаў, а супраць таго, каб тэрмінова... Можа, счакаў бы які тыдзень-другі?..

— А кірмаш гэтулькі ж часу цягнуцца будзе? Ты думаеш, што гаворыш?

— Каб не думала, дык нічога не казала б.

— Прабач, родная. Я толькі пра сябе ўсё думаю, а тое, што ты перажываеш, неяк і з галавы выскачыла. Прабач.

— Дык ці застанешся?

— Не, давядзецца ехаць, бо і час ідзе, і слугі будуць абы-што плявузгаць, воі пачнуць зачэпку якую шукаць, і сябры могуць адмовіцца... Бачыш, колькі ўсяго назвязвалася?

— Так, але ж боязна мне...

— Нічога, Богу памолімся дый паедзем. Не адзін раз ён мяне выручаў і на гэты раз не кіне.

Праз пару дзён купец той з абозам выбраўся ў дарогу. Памаліліся, развіталіся і паехалі. Нішто не прадказвала непажаданую сустрэчу ці бяду. Гаспадар адразу пачаў падганяць возчыкаў, каб нагнаць упушчаны час, а калі праехалі пару дзён, то загадаў, як яго вопытныя людзі ні адгаворвалі, збочыць на бакавую дарогу і такім чынам значна скараціць шлях. Стары фурман прабурчаў:

— Хто так ездзіць, той з чарцямі вячэрае.

— Ты, стары, меней гамані, а выконвай, што загадана, — раззлаваўся гаспадар. — Я па гэтай дарозе ўжо ездзіў.

— А я, колькі ні езджу, ні разу не чуў, каб нехта па ёй у Глыбокае прабіваўся.

Тады сам купец разам са старым фурманам павёў пярэдні воз з таварамі. Нейкую вярсту коні ішлі, а потым

заўпарціліся: стаяць на месцы і б'юць капытамі. Усё ж неяк далей працiснуліся і апынуліся ў непралазных лясных нетрах.

— Ну што я гаварыў? — запытаўся стары.

Купец нічога не адказваў, бо і сам ужо добра разумеў, што завёў абоз у благую мясціну.

— Мне яшчэ мой бацька-нябожчык гаварыў, — ужо спакойна пачаў фурман, — што ў гэтых мясцінах балотнік людзей палохае, а каторыя асмеляцца ў ягоныя ўладанні ўступіць, то могуць і жыцця пазбавіцца.

— Вось яно што... Дык вось што за маленькі стары сніўся маёй жонцы... Гэта, відаць, ён мяне і перасцерагаў, а я не паслухаўся...

— Нічога, гаспадар, яшчэ не ўсё страчана, будзем неяк ратавацца.

— Што ж тут рабіць?

— Дарогу трэба шукаць.

Купец загадаў усім не рухацца з месца, а сам з фурманам пайшоў шукаць дарогу. За ім ўвязалася і старая кабылка.

Хутка сцямнела. Фурман з купцом спыніліся на выспачцы, бо баяліся ў гэткай цемры ў дрыгву праваліцца, і раптам зусім побач заіржала кабылка. Фурман адразу сцяміў, што да чаго, павярнуўся, схапіў яе за хвост і гаворыць:

— Толькі яна нас цяпер і выратуе. Давай, гаспадар, руку.

Купец са страху не мог ступіць ні ўзад ні ўперад.

— Ды я лепш да раніцы тут, на сухім месцы, сядзець буду, чым пайду за тваёй кабылкай.

Але фурман ўсё-ткі пацягнуў купца за сабой. І што вы думаеце? Не паспелі яны з дзесятак крокаў прайсці, як замест багністай гразі адчулі пад нагамі цвёрдую дарогу. Вось як кабылка вывела іх на тракт. Стары фурман вярнуўся і вывеў астатніх на высокае месца.

Узрадаваны купец вырашыў у гонар свайго выратавання ўзвесці тут храм Божы.

— Месца тут праклятае, дык няхай стаіць на страх усялякім лесунам і ведзьмакам.

Спачатку нібы і сапраўды стаяла царква пры тракце, а потым каля яе, у Праклішчы, пачалі сяліцца людзі. А калі вёска пабудавалася, разраслася ды папрыгажэла, людзі перайменавалі Праклішча ў Порплішча.



# ДУБРОЎНА

Сярод мясцовага люду існавала павер'е, што ў дубовую насаду без дай прычыны няма чаго хадзіць. Там, маўляў, можна было сустрэцца з ліхімі людзьмі, а то і з гаспадаром лесу — лесавіком ці з ягонымі служкамі, усялякімі нячысцікамі і ваўкалакамі. Баяліся людзі, сваім дзецям пераказвалі гэта, а тыя — сваім, і гэтак традыцыя тая доўжылася, можа, некалькі стагоддзяў запар. Але ж як у лесе не ўсе дрэвы аднолькавыя па таўшчыні ды вышыні, так і сярод вяскоўцаў: адзін баіцца, а іншы сцвярджае, што яму і ў возеры вады па калені будзе. Добра, калі проста пахваляецца, а калі нешта і зробіць? Вось як у гэтым выпадку.

Жыў у адной невялічкай вёсачцы, якая ўшчыльную тулілася да той самай дубровы, адзін селянін. Звалі яго Грышка. Можа, і не згадвалі б людзі гэтага чалавека, каб не адна акалічнасць. Справа ў тым, што вясковец вельмі хораша іграў на скрыпцы і дудзе. Казалі, што ён і на іншых інструментах змог бы людзей развесяліць, ды іх проста не вадзілася ні ў каго ў наваколлі. Дзе якое вяселле ці іншая прычына — Грышку адразу і клікалі. А ён не адмаўляў, тым болей што і жонка не затрымлівала, ведала, што заплацяць, а капейчына тая ў гаспадарцы рэч незаменная. Таму звычайна казала:

— Схадзі, Грышка, пайграй, няхай людзі паскачуць, песні паспяваюць. А ты ўжо і пра нас не забывайся, што мы дома засталіся...

Апошняе гаспадыня спецыяльна казала, каб чалавек, які запрашаў, зразумеў, што і жонцы з дзецьмі таксама трэба які гасцінец праз музыку перадаць. Кемлівы селянін звычайна прамаўляў:

— Я яму пра гэта нагадаю, пані гаспадыня. І перадам вам з дзецьмі што-небудзь. Не бойцеся, не забудзецца пра вас муж.

— Ды нам нічога і не трэба, даражэнькі, — рассыпалася Грышчыха, а сама думала: «Вось добра, калі чалавек пра ўсё наперад здагадваецца. Ты толькі рот разявіў — а ён ужо цябе супакойвае. Іншы раз у адкрытую гамоніш, а ён так і не перадасць, і не падзякуе табе, адно Грышку ўслаўляе, ды быццам бы толькі ад яго ўсё залежыць».

Так Грышка падзарабляў да свае гаспадаркі. Селянін ён быў спрытны, кемлівы і ад нараджэння вясёлы. Калі выбіраўся з хаты, адыходзіў крокаў з трыццаць і зацягваў сваю любімую песню:

Пайду дуброваю,
Пушчу голас дуброваю.
Няхай голас галасуе,
Няхай мая мамка чуе
І мне вячэру прыгатуе.
Вячэрае, падлівае
І ў вакенца паглядае...

Толькі рэха ў адказ падцягвала старажытную песню ды жонка задаволена ўсміхалася. Насміхацца над ім не спрабавалі, бо ў чалавека язык быў, што той нож востры, ты яшчэ рот не паспееш разявіць, ■ ён ужо цябе адбрые.

Ды аднаго разу і на яго, як кажуць, наехала. Хоць гэта з якога боку глядзець: з аднаго — дык ён трапіў на языкі, а з другога — добра ўзбагаціўся, стаў заможным мужыком, такім спраўным гаспадаром, што і сам, відаць, не марыў.

Іграў ён тады вяселле ў далёкай вёсцы. Там як мае быць разлічыліся: грошай далі, гасцінцаў жонцы і дзецям і нават падвезлі амаль да хаты. Прывезлі б і да самай хаты, ды музыка сам запрапанаваў:

— Ай, чаго вы, хлопцы, коней гнаць будзеце, мяне везці. Ці то я ўжо такі вялікі пан? Вы мяне падвезлі — і на гэтым дзякуй, а я папрастую праз дуброву і праз пару га-

дзін дома буду. Вы лепей вяртайцеся, і вам жа адпачыць хочацца.

Тыя таксама вырашылі добрага чалавека аддзячыць:

— Давай, Грышка, па адной вып'ем, бо ты на гарэлку на вяселлі не насядаў, усё іграў і іграў. Давай хоць тут вып'ем па чарцы. Мы болей часу затрацілі б, пакуль цябе завезлі.

— А што, — пагадзіўся музыка, — з добрымі хлопцамі, ды ўсяго па чарцы... можна і пасядзець.

Прывязалі яны коней, селі пад маладым дубком і ўзялі па той ужо кроплі. Пагаманілі яшчэ крыху і развіталіся. Хлопцы дамоў паджгалі, а Грышка да свайго падворка папраставаў. Ідзе, ідзе і, нібы яго хто за язык тарганув, узяў і прамовіў:

— Трэба ж так, за сваё жыццё, мабыць, усім людзям вяселле іграў, акрамя чорта.

Сказаў і зарагатаў задаволена, што гэтак удала пажартаваў, толькі шкада, што людзі не чулі, а то і яны павесяліліся б. Але потым ужо і сам пашкадаваў, бо пачуўся голас:

— А што, давай і нам сыграй. Заплацім, колькі пажадаеш.

Крутнуўся Грышка туды-сюды — няма нікога. Спачатку падумаў, што падалося, але голас прагучаў зноў:

— Не круціся, лепей пагаджайся.

— Хто? Хто гэта? — затахкала сэрца ў музыкі.

— Як хто? А ты не здагадваешся?..

— Не...

— Тыя, каму ты вяселля да гэтага часу ніводнага разу не іграў.

— Чэрці?..

— Яны самыя.

У беднага музыкі і ногі адняліся, і голас прапаў. Хацеў нешта спытацца, але ў горле толькі затрашчала. Так і стаў, бедалага, пасярод сцяжынкі.

— Сядай, чалавеча, у наш вазок, і павязём мы цябе да сваіх сталоў.

Што было рабіць? Ушчаміўся Грышка ў той вазок, ■ коні як паляцяць, то нібы яны не па лесе імчаць, а па раўнюткай, убітай дарозе. Ужо і п'янка ўся прайшла, і весялосць тая знікла, і хочацца дамоў музыку, але ж... Сам вінаваты, ніхто за язык не цягнуў, трэба ж было такое вось ляпнуць...

Неўзабаве прыляцелі да ярка асветленага вялізнага дома. Нехта адразу закрычаў:

— Вось цяпер ужо патанцуем! Цяпер ужо паскачам, бо і музыку прывезлі!

Грышка паспрабаваў было з вазка ў другі бок плетануць, але атрымаў ад некага, нябачнага, гэткага магутнага выспятка, што ледзьве носам зямлю не заараў, і зразумеў: уцякаць няма сэнсу. Падышоў ён да ганка, а там сустракае яго здаравенны чарцяка і кажа:

— То ты, можа, есці хочаш ці чарку ўзяць? Не саромейся, гавары, у мяне ўсяго хапае. Дачку замуж аддаю і зяця спраўнага ў хату бяру. Таму з радасці палову гэтага краю гатовы задарма накарміць і напаіць, каб толькі ў маіх родных усё добра пайшло.

— То, — музыка хацеў сказаць: «Дай, Божа», але ў час адумаўся, што для нячысцікаў гэта будзе найбольшай абразай, і таму ўжо спакайней дадаў: — Няхай у іх будзе ўсё належным чынам. Каб дзеці вяліся, каб самі паважаліся і цябе, бацька, паважалі...

Спадабалася гэткае пажаданне гаспадару. Ён расчуліўся і даў Грышку тры залатоўкі.

— За што ж гэта мне? Я ж яшчэ не зарабіў, яшчэ не іграў...

— За тое, што іграць будзеш, атрымаеш ад мяне шчодрую плату, а гэта за тое, што так добра сказаў. Мае сваякі ды суседзі — толькі б да гарэлкі дарвацца. Ніхто не тое што слова не скажа, але нават і не здагадаецца.

— То дзякую, гаспадар, за шчодрасць. Што мне цяпер рабіць загадаеш? На вяселлях у людзей я звычайна не пытаўся, бо і сам добра ведаў. А на такім я першы раз, таму не крыўдуй — падкажы.

— Ведаеш што, музыка.. Як цябе завуць?

— Грышка.

— Грышка... Добрае імя. Ведаеш што, Грышка, рабі так, як і ў людзей, бо я і сам не ведаю. Нашы ж вяселляў не ладзяць, а мне захацелася перайначыць жыццё. Рабі так, як і ў людзей.

— Добра, — пагадзіўся музыка.

Зайграў ён марш і зайшоў у суправаджэнні гаспадара ў сярэдзіну будыніны. А там! Гэтулькі сталоў! А на сталах такога ўжо настаўлена-накладзена, што ў Грышкі ў жываце забурчэла і сліна пабегла, і гэта нягледзячы на тое, што на вяселлі ж быў і там яго не шкадуючы накармілі.

— Ну як? — ціхенька, з-за спіны, запытаўся гаспадар.

— Такога я і не сніў, не тое што не бачыў, — шчыра прызнаўся музыка.

— Малайчына, што праўду сказаў. На табе за гэта яшчэ пару залатовак. Я зараз пайду гасцей сустракаць, а ты тут сядай і іграй. Есці ці чарку выпіць захочаш — не саромейся.

Чарцяка пайшоў, а Грышка за скрыпку ўзяўся і давай жарыць вясёлыя мелодыі. Ажно бачыць — па хаце рухаецца той самы чалавек, які зусім нядаўна ў суседняй вёсцы павесіўся, і прама да музыкі падбягае.

— Ты чаго тут? — запытаўся ў яго Грышка.

— Я, брат, вядома чаго, бо душу сваю нячысцікам запрадаў яшчэ пры жыцці, а вось як ты тут апынуўся? Няўжо не здагадваешся, чым такое вяселле для цябе можа абярнуцца?

— Здагадваюся, ды што я магу зрабіць? Паспрабаваў было з вазка ўцячы, то нехта пад азадак лупянуў, дык я і сцішыўся.

— Тут сцішышся...

— Слухай, а каго тут сёння жэняць ці замуж аддаюць?

— Нашага пана. Таго самага перастарка, які ўсё паненак сабе выбіраў, памятаеш?

— Так.

— Дык вось ён вырашыў жаніцца на дачцэ вядзьмаркі. І ўсё з-за грошай, бо гаспадар гэтай хаціны яму паўмяха залатовак адразу адваліў, а пасля вяселля паабяцаў яшчэ ў два разы болей. Вось ён і жэніцца.

— Дзяўчына хоць нішто сабе?

— Калі першы раз ўбачыш, то не закрычы з перапуду, бо ўсю справу сапсуеш.

— Зразумеў...

— Нават і не ведаю, як табе, братка, дапамагчы. Вельмі ж пільная ў іх ахова. Нікуды не паткнешся, адразу ў лапы нячысцікам трапішся; а тады яны ўжо душу з цябе хутка вымуць. Дарэчы, як ты сюды трапіў?

Расказаў Грышка ўсю праўду. Пахістаў незадаволена той вясковец галавою:

— Іншыя Бога просяць, каб ад чарцей уратавацца, а ты сам да іх напрасіўся.

— Атрымалася ўжо так... Не хацеў жа...

— Цішэй ты, а то, бачыш, на нас ужо пазіраюць.

— Як жа быць?

— Давай зробім так. Калі ўсе пачнуць адорваць маладых, ты не спяшайся і таксама ўстань, як і на вясковых вяселлях. Там жа ты заўсёды нешта сваё, адмысловае, дорыш?

— Абавязкова, іначай гаспадароў пакрыўджу, і мяне перастануць на вяселлі запрашаць.

— І тут так зрабі. Прыгадай Бога і ад ягонага імя ўжо прасі, каб неяк выратавацца. Калі пачуеш голас Божы, і ён нешта ад цябе запатрабуе, то пагаджайся, бо гэта адзінае выйсце з такога становішча, іначай чэрці цябе са свету зжывуць. Так што глядзі, не праміргай...

— Дзякуй табе.

— Калі ўсё добра атрымаецца, то пакланіся там, на зямлі, маім. Папрасі прабачэння, скажы, што болей проста не мог іх падманваць, таму так з сабою і зрабіў.

— Абяцаю, толькі вырвацца б... Абавязкова зраблю...

— Я болей да цябе не падыду, каб не западозрылі. Бывай...

— Бывай і ты...

Сядзіць Грышка, іграе вясёлыя мелодыі і наглядае, як чэрці ў хату набіваюцца. Гэтулькі ўжо іх паналезла, што ажно кішаць, і да страў цягнуцца. Але без маладых нельга есці пачынаць. Нарэшце ўсе навокал загулі і пачалі ўставаць. Грышка зірнуў у той бок, куды госці галовы выцягвалі, і ўбачыў пана з суседняй вёскі пад руку з такой ужо пачварнага выгляду дзяўчынай, што і ўявіць сабе цяжка.

Пачалі чэрці есці і піць, а музыка сядзіць ціхенька і Бога ў думках просіць, каб дапамог яму адсюль выбрацца. Шэпча пра сябе ўсялякія малітвы, якія толькі ведае, але пакуль што ніякія думкі ў галаву не лезуць. Спалохаўся чалавек, што давядзецца застацца тут назаўсёды, затрымцелі рукі, затрэсліся калені, і ў гэты момант пачуўся ўнутраны голас: «Дапамагу табе, але так і ведай, што гэта першы і апошні раз...»

Грышка яшчэ шпарчэй зашаптаў малітвы.

«Толькі дапамагу табе не проста так. Дай мне слова, што ты з гэтага самага дня пасялішся тут, у дуброве, і станеш сваёй музыкай разганяць адсюль нячысцікаў. Не бойся, яны гэтак, як сёння, цябе ўжо не абдураць і даймаць меней будуць. Як станеш тут жыць, то папрасі сваякоў ды сяброў дапамагчы табе збудаваць невялічкую капліčку. Там, дзе крыж, — там чорт не вельмі пагаспадарыць».

— Божа, дзякуй табе! — узрадаваўся Грышка.

Ён і сам не адчуў, што апошнія словы прамовіў уголас. Пачуўшы іх, чэрці загарлалі:

— Давай іграй! Чаго сядзіш?! Давай, мы танцаваць будзем!

Як зайграў музыка ад радасці, а нячысцікі як пайшлі скакаць! Яны ж не гэтак, як людзі, скакалі, а па-свойму. Якія толькі морды ні выраблялі, як толькі ні выкручваліся, пакуль аднаму паважанаму чорту па п'янай справе хвост не адарвалі. Тым часам Грышка ачомаўся і на ўсю хату прамовіў:

— А цяпер пажадайце і падарыце, што хто хоча, маладым на вяселлі і на ўсё будучае жыццё.

Давай нячысцікі падарункі валакчы і прамовы казаць. Не паспее адзін — другі ўжо катурхаецца. Так яны цэлыя гурбы золата нассыпалі. Малады ажно засвяціўся і пра жонку маладую забыўся. Яшчэ б, столькі багацця.

Музыка, як і дамаўляўся з тым чалавекам, устаў апошнім, агледзеў усіх і прамовіў:

— Заднія сказалі, пярэднія — таксама, а цяпер мая чарга прыспела. Жадаю маладым, каб, дай Бог, яны жылі і весяліліся!

Ад першага згадвання Бога чэрці раптоўна знямелі і прыціхлі, а музыка далей сыпле:

— Каб, дай Бог, яны гора не ведалі!

Навокал нешта затрашчала, застагнала.

— Каб, дай Бог, мне на такіх вяселлях болей не бываць!

Толькі гэта сказаў, як навокал пуста стала. Нібы нікога і не было. Толькі густая дуброва шумела адвечным шумам-гудам.

Папраставаў чалавек дамоў. Прыйшоў да раніцы і распавёў гаспадыні, што, маўляў, сон яму прысніўся і трэба ў дуброву жыць перабірацца. Па людзях пайшоў, прасіў дапамагчы, і тыя не адмовіліся.

На тым месцы, дзе нячысцікі ладзілі сваё вяселле, пабудавалі новую хаціну, а крокаў за сто ад яе паставілі невялічкую каплічку. Так мужык стрымаў слова, якое даў Богу ў цяжкую хвіліну. Ягоны хутар людзі спачатку звалі Дуброўня, а потым Дуброўна стала. Але гэта ўжо крыху пазней, калі Грышка і сваім дзецям побач хаціны паставіў, і ўжо паўстала невялікае паселішча з такой назвай. Вось адкуль Дуброўна пайшло.

## БРУХАЎЦЫ

Было некалі ў мясцовага пана некалькі слуг. А вы ж ведаеце, што іх звычайна набіралі з вясковых людзей. Каторы добры памешчык, то той на службу да сябе най-

маў, а ўжо каторы ліхі, то той проста загадваў слугам прывесці ў палац хлопца ці дзяўчыну, дый годзе. Ніхто не супраціўляўся, кожны за сваю шкуру баяўся, а пра тое, што іншы ў бядзе апынуўся, дык няхай ужо той ці да Бога спасылаецца, ці на лёс уласны крыўдзіцца. Так і жылі не адно стагоддзе, ад таго самага часу, калі паны на зямлі з'явіліся.

У нашага памешчыка было трое слуг і яшчэ дзесяткі два парабкаў. Справа ў тым, што пан багаты быў, зямлі меў многа, грошай — таксама. Не надта іх шкадаваў, але і дарма нікому не даваў. І што дзіўна — падбіраў сабе ленаватых вяскоўцаў, а калі знаходзіў добрага лайдака, то ажно пахваляўся перад дваровымі:

— Ото такога бэйбуса знайшоў, якога не кожны дзень напаткаеш...

Аднаго разу асмялелі дваровыя і запыталіся:

— А чаго гэта вы, пане, толькі лайдакоў на службу наймаеце?

Памешчык быў у добрым гуморы, таму не пакрыўдзіўся, а ўкінуўся ў размову:

— Вы ж ведаеце, што лайдакі ніколі працаваць не стануць. Так?

— Так.

— Таму я ім ніякай справы і не даручаю. Але затое выдатна ведаю і другое...

— Што, пане?

— Ды тое, што гэтыя лайдакі з вас шкуру спусцяць, калі я ім даверу назіраць за вамі ў полі. Яны ж вам не тое што прысесці, але і перадыхнуць не дадуць. Вось там вы не толькі за сябе, але і за іх адпрацуеце. Мне ж усё роўна прыбытак. Ці так, ці інакш, але я ніколі свайго не страчу. Цяпер зразумелі?

— Цяпер зразумелі, — адказалі дваровыя і парабкі ды папляліся па сваіх справах, і па дарозе ўсё разважалі, як хітра прыдумаў іхні гаспадар.

Так і цягнулася. І вось неяк у памешчыка сабралася трое лайдакоў: фурман, кухар і аканом. Пан вырашыў нікога больш не браць. Навошта? І гэтыя яму пра ўсё і пра ўсіх распавядалі. Не паспее ён аканома ў поле накіраваць, а той ужо назад ляціць і даносіць гаспадару:

— Сяляне працаваць, пане, не жадаюць.

— Дык што рабіць будзем? — пытаецца той.

— Ды нічога, акрамя бізуноў, нам не застаецца.

— Глядзі, зрабі так, каб працавалі, — аддаваў усё яму пад уладу памешчык.

— Добра, пане...

І бедныя вяскоўцы плацілі за ўсё ўласнымі спінамі. А хто там правяраў, вінаватыя яны былі ці не. Калі сказаў аканом, то памешчык жа яму болей давяраў. Скрыпелі зубамі, стагналі сяляне, але нічога зрабіць не маглі. А паслугачы ўсё болей распускаліся. Цяпер не толькі аканом, але і фурман, і кухар над парабкамі ды местачковымі мужыкамі і жанчынамі ўладу займелі. Прыйдуць у поле да свайго сябрука — аканома — і пачынаюць таго ўшчуваць:

— Што гэта яны ў цябе амаль не працуюць, ледзьве рухаюцца? Давай крышачку падгонім.

— Стаміўся я, зрабіце самі, — адмаўляўся той лайдак.

Тады кухар з фурманам накідваліся на безабаронных людзей і збівалі іх на горкі яблык. І з кожным разам усё бязлітасней рабілі гэтую справу. Можа, каб не надта часам наведваліся ў поле ды не здзекаваліся з працуючых, то ім гэта і сыходзіла б з рук, але ж самі ведаеце — чалавечая натура своеасаблівая, чым болей з рук сыходзіць, тым болей і выраблаць такое хочацца.

Пасля таго як іх моцна збілі ў чарговы раз, парабкі не вытрымалі, не пайшлі адразу да маёнтка, а падаліся да рэчкі, каб там кроў, бруд апаласнуць і параіцца. Ідуць, саромеюцца адзін аднаму ў вочы зірнуць, і тут самы старэйшы з іх кажа:

— І колькі ж мы іх, хлопчыкі, трываць будзем? Пакуль зусім скуру з плячэй жыўцом не паспускаюць? Ці ж можна так сябе паводзіць?

Ягоныя пытанні нажом рэзалі астатніх па жывым. Першым не ўтрываўся здаравенны хлапчына:

— А што рабіць, дзядзька, ты толькі падкажы. Я ім за ўсіх нас адпомшчу!

— Аднаму не трэба, хлопча, трэба ўсім разам брацца. Але не спяшайся, тут спяшацца не выпадае. І так спіны гараць, а потым нядоўга будзе і на вяроўцы захістацца...

Астатнія падтрымалі разважлівага парабка. Памыліся ў рэчцы, вылезлі на бераг, селі і давай думаць. Адзін прапанаваў:

— А што з імі валэндацца? Ноччу падпалім — і гамон!

— Выпісаць добра на іхніх спінах, як яны на нашых, тады зразумеюць! — падтрымаў другі.

— Падпільнаваць ды з-за вугла гадаў камянякамі!

— Чакайце, браточкі, чакайце, — перабіў той самы

старэйшы парабак. — Трэба так зрабіць, каб не толькі гэтыя зласліўцы добра запомнілі, але каб і нашчадкі іхнія ведалі, як дрэнна з іншых здзекавацца, за кошт другіх жыць. У гэтым, родненькія, уся затрымка. А проста так адлупцаваць мы здолеем у любы момант.

Доўга сядзелі тады парабкі, перабіралі розныя варыянты адплаты і нарэшце вырашылі — накіраваліся да маёнтка. А там ужо кухар сяброў падбіваў адлупцаваць бадзяг гэтых за тое, што позна есці прыйшлі. Моўчкі пасунуліся людзі ў варыўню. Адным словам, усё было як і раней. Толькі калі апошні з парабкаў зайшоў у памяшканне, дзверы за ім шчыльна зачыніліся і зашчапіліся... з сярэдзіны.

Кухар яшчэ ні пра што не здагадваўся і паводзіў сябе так, нібыта ён быў самы галоўны на свеце. Зразумеў толькі тады, калі пачалі дубасіць. Служка загарлаў, але ж усё зачынена, да таго ж гарлалі тут кожны дзень, толькі тады гэта былі парабкі. Збілі так, што кухар ужо і крычаць не мог.

— А зараз, хлопцы, пакормім, небараку. Дайце вялікі чыгун з той вадзічкай, што ён нам засмуродзіў нейкім ванючым салам!

— Пакуль усё не з'ясі, мы адсюль не пойдзем...

Недзе апоўначы ў пакой, дзе сядзелі і гулялі ў карты аканом з фурманам, уваліўся нехта незнаёмы: таўшчэразны, пабіты, брудны...

— Ты хто?

— Кухар...

Сябры рагаталі да ўпаду, але калі даведаліся, што да чаго, то прыціхлі.

— Хадземце пану скажам...

— А ён пачне дапытвацца — за што. Што адкажам?

Вырашылі памаўчаць, бо, відаць, спадзяваліся, што пранясе. Але не пранесла. Недзе праз дзень парабкі злавілі фурмана. Яго чакала гэткая ж лупцоўка і прымусовае кармленне, якое адрознівалася толькі тым, што чыгун быў значна большых памераў. Кухар для сябра пастараўся — бедалага-фурман ледзьве не трэснуў. Адыходзячы, нехта з парабкаў прамовіў:

— Вось так, брухаўцы, яшчэ і галоўнага вашага накормім.

Накармілі і аканома. Яго білі і карамілі цэлых два дні, не давалі ні адпачынку, ні перадыху. Толькі ён рот разя-

віць, яму адразу лыжку сунуць, бо ў самога ўжо сілы неставала. У аканома і так чэрава было, што ночвы, а тут раздзьмулі яму паранай рэпай такое, якога ў людзей рэдка калі ўбачыш. Як вылез са свайго пакоя, то пабег да сяброў.

Здаецца яму, што бяжыць, а сам ледзьве ногі пераստаўляе. Прыпёрся да фурмана з кухарам і гамоніць:

— Браточкі, яны ведаеце што мне сказалі?

— Што?

— Каб мы адсюль выбіраліся, бо са свету звядуць.

— А што ж рабіць?

— Я ўжо прыдумаў, пакуль яны мяне катавалі. Давайце ў пана нашага купім які хутар і зажывём спакойна.

Доўга пан не пагаджаўся адпускаць верных слуг, але потым яны дамагліся свайго і купілі-такі невялічкі хутар. Як ужо там сябры гаспадарылі, нам не вядома, але назва тае мясціны ад іх засталася — Брухаўцы.

## ЗАЛАТОВІЧЫ

Неяк уцякалі Хаім з Нохімам. Ад чаго ўцякалі? Ды мала ад чаго можна было тады рушыць у дарогу. Край наш быў неспакойны, амаль штогод войны палыхалі: то на нашых князёў нападалі, то нашы ў адказ на чужыя землі рушылі. Бедным людзям, акрамя смерці, чаго было палохацца? А вось багатым трэба было і паразважаць, як тое дабро, што паспелі нажыць, куды-небудзь прыхаваць ці з сабой звезці.

Кажуць, што і на гэты раз Хаім з Нохімам сарваліся не проста так — голымі ды босымі. Яны паспелі нагрузіць цэлыя абозы і наняць возчыкаў, каб перавезці ўвесь нажытак на іншае месца. Жылося ім няблага на ранейшым месцы, бо трымалі карчомкі ў людных мясцінах, і наведвальнікаў заўсёды хапала. Чалавек калі вып'е, то гатовы апошнюю кашулю ў карчме закласці, абы толькі даказаць іншым, што ён не скваліны ды не баіцца жонкі, якая вось-вось павінна падысці ў гэтую, толькі для мужчын адведзеную, мясціну. Толькі і чуваць было штохвілінна:

— Гаспадар! Яшчэ кварту!

— Давай сюды, чаго ты там бавішся?!

— Падкінь, карчмарыку! Нешта ў горле даўно не драла!

А колькі таму селяніну, стомленаму-ператомленаму, трэба? Вып'е чарку-другую, закусіць рукавом і ўжо торкае носам, мяркуючы ў місу патрапіць. Так і вялося з дня ў дзень: адны апошняе прапівалі, другія на гэтым нажывалі багацце. Так бы і далей доўжылася, ды аднаго разу прыджгаў на коніку да Хаіма ягоны сусед — Нохім:

— Ведаеш што, браце? Людзі навіну прынеслі...

— Якую?

— Не навіна, а бяда сапраўдная.

— Што за ліха, Нохім, здарылася?

— Гэта ж прыехаў учора да мяне Шлёма з суседняга мястэчка. Пад самую ноч прыпёрся. І што самае дзіўнае — п'яны, як апошні мужык. Ён жа ніколі да гэтага і на губу гарэлкі не браў. Я яму: «Чалавеча, паспі», и ён адказвае: «Глядзі, каб апошні раз прылегчы не давялося...» Спалохаўся я, пачаў дапытвацца, што здарылася, то ён растлумачыў, што войска вялікае ідзе вайной на нашы мясціны. Ці то на Вільню прабіраецца, ці то яшчэ куды — нам ад гэтага не лягчэй, бо ўсё роўна рабаваць пачнуць. Тут мяне ўзарвала. «Дык ты, — гавару, — замест таго, каб рыхтавацца да ўцёкаў, гарэлкі нажлукціўся і да мяне прыпёрся?!» — «А куды ўцякаць? — адказвае ён. — Усё роўна дагоняць і апошняе адбяруць. Лепей ужо на месцы сядзець і чакаць апошняга дня. А раптам ды пранясе?»

Я параіў яму не спадзявацца на тое, што пранясе, а хутчэй скакаць дамоў, збіраць на вазы самае каштоўнае ды ўцякаць. Ён палыпаў вачамі, пасядзеў крыху і папёр. Можа, успрыняў маю параду. Хто ж яго, дурня, ведае...

— Так, Нохім, сапраўды ты гора прынёс, — залапатаў гаспадар.

— Тут, Хаім, не трэба час губляць, трэба тэрмінова збірацца і рушыць. Дзеля гэтага да цябе і наведаўся. Давай разам паедзем. Па-першае, весялей будзе, а падругое, больш упэўнена будзем сябе адчуваць. А калі ўсё скончыцца, то і назад разам вернемся. Сам жа разумееш: адзін яўрэй другога ніколі не падмане, заўсёды дапаможа.

— Яно-то так, — асцярожна пагадзіўся Хаім, але было відаць, што ён не асабліва давярае салодкім Нохімавым словам. — Пачну збірацца... Трэба сялян наняць з вазамі...

— І парай ім, каб са свайго нажытку таксама штонебудзь бралі, тады яны і наша дабро будуць ашчаджаць.

— Хітры ты, Нохім, — нечакана прамовіў Хаім.

— Якая там хітрасць, братка? Сам жа бачыш, жыццё

якое. Чаму хочаш навучыць. Толькі крыху жыць пачалі, то на табе — выбірайся ў дарогу.

— Тады дамовіліся. Буду чакаць цябе, толькі ты не баўся там, каб потым позна не было.

— Дарма папярэджваеш. Я ўжо амаль усё падрыхтаваў, потым вырашыў заехаць да цябе і пагаманіць, ці не пагодзішся і ты.

— Хітры ты, — паўтарыў гаспадар, — і тут мяне апярэдзіў.

Але Нохім ужо не чуў гэтых слоў. Ягоны конік папёр, нібы на крылах, толькі заляскалі капыты і клуб пылу закурыўся ззаду.

Недзе сярод ночы Нохім з абозам пад'ехаў да Хаіма. Той ужо чакаў. Сабраў таксама даволі вялікі абоз, пабраў сям'ю, нажытак.

— Ну што, паехалі?

— Рушайма, братка...

Зарыпелі ніколі не мазаныя колы, карчмары рушылі наўцёкі. Ім здавалася, што цяпер іх ніхто не дагоніць і ніхто ім не страшны. Але адна справа думаць, а другая...

Дні тры возчыкі ўдала выкарыстоўвалі глухія лясныя дарогі і прабіваліся наперад, абмінаючы населеныя пункты, ні на каго не натокрваючыся. Гаспадары ўзбадзёрыліся, з'явілася надзея — а раптам уцякуць і захаваюць нажытак, але...

Аднаго разу расклалі яны на ноч вогнішча, паселі вакол яго і пачалі ежу гатаваць. Думалі, што далёка ад'ехаліся і ніхто ім ужо не пагражае. І тут зусім нечакана наляцелі на іх узброеныя людзі і загарлалі:

— Хто такія?!

Хаім з Нохімам маўчалі, як вады ў рот панабіраўшы, а сяляне адказалі:

— Ды вось паўцякалі мы ў лес, бо баяліся, што пераб'юць без дай прычыны.

— А на вазах што?

— Тое-сёе з гаспадарак пазабіралі, каб калі прыцісне, то і на новым месцы неяк абжывацца.

— Вазоў нешта ж мнагавата... — не адставалі чужынцы.

— Дык і нас жа многа...

Так бы, можа, і абышлося, але адзін з вайскоўцаў вырашыў зірнуць, што там, у вазах, пачаў корпацца і закрычаў:

— Хлопцы, ды тут дабра!.. На ўсіх хопіць.

І пачалі яны шныраць. Сялянскае дабро не чапалі, а ўсё яўрэйскае прама з вазамі забралі. Там жа золатакаштоўнасцей многа было. Вяскоўцам, разам з карчмарамі, літасціва дазволілі:

— Едзьце сабе далей, а гэта мы забіраем.

Хто там будзе што аспрэчваць, калі жыццё на валаску вісіць? Нягледзячы на цемру, пашчаміліся ўцекачы ў глыб пушчы і спыніліся толькі тады, калі далей ужо нельга было ехаць — навокал густой сцяной замыкаўся лес. Тут толькі завыў-загаласіў Нохім:

— Братка, я — жабрак!.. Усё забралі!.. Няма нічога!.. Як жа далей жыць?..

— Неяк пражывём, — ціха адказаў Хаім, — мы ж не адны — з людзьмі. Як яны, так і мы.

Сяляне вырашылі не вяртацца ў родныя мясціны і будавацца тут, бо баяліся натрапіць яшчэ на якіх ліхіх людзей. Навокал лес, пушча, дарог няма, можна спакойна жыць. Сабралі ўсё, хто што меў, да кучы, паскідалі і тут бачаць — ляціць Нохім, ажно свеціцца.

— А я... А я, аказваецца, не такі ўжо і бедны... Я ж залатовачку маю...

Дзе ён яе адшукаў — аднаму яму вядома. Але калі паставілі будынкі, то назвалі сяляне сваё паселішча — Залатовічы, каб грошай болей вадзілася. Вось адтуль і назва пайшла.

## КОПЦІ

Жыў дзед з бабаю. Дзынькалі гады міма іхніх галоў, што тыя восы. Не паспелі азірнуцца, а ўжо валасы сівыя наскрозь. Дзяцей сваіх не мелі, таму пад старасць блага стала. Што ж, памруць, і не будзе каму той дворык ды палоску зямлі перадаць. Сядуць, пачнуць гаманіць, і бабця неўзабаве заплача.

— Чаго гэта ты, старая?

— Як жа мне не плакаць? Усіх унукі, дзеці хаваць будуць, а нас з табой чужыя людзі ў зямлю пакладуць...

— Абы паклалі, толькі там тае бяды. Адтуль усё роўна ніхто не вяртаецца.

— Гэта, мужу, праўда, але ж хочацца, каб і на нашыя магілкі нехта прыйшоў ды паплакаў ці проста так пасядзеў, прыгадаў нас...

— Што ўжо тут казаць. Канешне, добра было б, але калі ўжо так атрымалася...

Суседзі ў іх добрыя былі, спагадлівыя, дапамагалі, бо раней жа кожны такім людзям спачуваў, ведаў, што і сам старым будзе, і нікуды ад гэтага не дзенешся, нікуды не схаваешся.

А дзед з бабай амаль здзяцініліся. Сядзяць, сядзяць, а потым на печ залезуць і там ужо гамонку далей вядуць. І вось аднойчы зайшла гаворка пра хуткую смерць. Тут баба і кажа:

— Ты, відаць, чалавеча, мяне абы-як пахаваеш. Каб толькі ў магілу кінуць, а сам да другой пабяжыш. Ведаю я вас.

— Ды што ты, баба, — запярэчыў стары, — не было такога і не будзе. Усё самае лепшае, самае чыстае на цябе апрану. Апошняе з хаты аддам, але пахаваю належным чынам. Дарэмна ты на мяне плявузгаеш. Хоць бы ў такім узросце ўжо крыху перайначылася ды язык свой не распускала. Ці ж не сорамна?

— А чаго? Як сказала, так яно і будзе, — не паддавалася гаспадыня.

— Вось табе і маеш, вось табе і пражылі столькі гадоў разам, — усхадзіўся стары.

— А ты хацеў, каб я змаўчала?

— Ды не пашкодзіла б.

— Авохці мне, ён жа яшчэ і лаецца.

— Як будзеш сябе так паводзіць, то не толькі лаяцца буду, але і з печы скіну, даскачашся.

— Не палохай, стары пень, не з палахлівых, — фанабэрыста зазначыла бабця і перакацілася на другі бок.

Ляжаць — маўчаць. Потым гаспадар задумаў праверыць, як старая будзе апранаць яго ў апошнюю дарогу. Ледзьве раніцы дачакаўся і пабег да суседа. А той таксама добры жартаўнік быў. Калі пачуў такую просьбу ад старога, то адразу запэўніў:

— Зробім усё належным чынам. Толькі давай дамовімся, каб чаго не пераблытаць ды не схібіць, каб усё атрымалася як на самай справе...

— Значыцца, так, братка. Я прыкінуся, што моцна захварэў і што прыспелі мае апошнія часіны, скажу бабе, каб бацюшку адспяваць мяне паклікала, а цябе — абмыць. Ты потым засведчыш, як яна мяне апранаць будзе. Надакучыла кпіны яе слухаць, хай і яна атрымае.

— Добра, дзеду, зраблю.

Пайшоў селянін дамоў, сеў на лаву і замаркоціўся, а гаспадыня да яго:

— Што гэта з табой сёння робіцца, мужу?
— Захварэў я. Нешта сэрца цісне. Відаць, памру неўзабаве...
— То ляж паляжы.
— Хіба што.
Да вечара дзед так усхадзіўся, што старая ўжо наўкола яго бегала. А ён усё роўна не супакойваецца, працягвае сваё:
— Ідзі ўжо, родненькая, кліч бацюшку, няхай мяне паспавядае перад смерцю.
Неўзабаве старая прывяла бацюшку, а той быў падслепаваты, глухаваты, надта не прыглядаўся да хворага і гамоніць:
— Гаспадынька, хоць бы да заўтрашняй раніцы твой муж працягнуў. У яго ж душа з целам развітваецца. Не спі ноччу, а ідзі да каго, каб абмылі, пакуль яшчэ цёплы будзе, бо потым захаладзее — і не апранеш.
Дзед падказвае гаспадыні:
— Да суседа ідзі... Да суседа... Я з ім ужо гаманіў пра гэта...
Бацюшка сваю справу зрабіў і падаўся дадому, а жанчына пайшла да суседа. Той, малайчына, і выгляду не падаў, што нешта ведае, выслухаў старую ўважліва і сказаў:
— Раз трэба, то трэба. Прыйду абавязкова. Ледзь развіднее — у вас буду. А вы да таго пастаўце ў печ ваду, каб з раніцы цёплая была.
Баба дамоў прыплялася, вады паставіла, сама села ля печы і давай прыгалошваць:
— Во, стары надумаў раней за мяне паміраць... Як жа я адна застануся?.. Што ж я рабіць буду?..
Стары ляжыць, маўчыць. Так і ноч тая прайшла. Толькі золак усчаўся, а сусед ужо на парозе.
— Давай ваду, бабуля.
Мацае старога і гаворыць:
— Ледзь не ахалодаў. Каб яшчэ крыху запазніўся, дык і ўсё — не пераапранулі б. Так і давялося б у рыззі хаваць.
Гаспадыня маўчыць, дзед вочы заплюшчыў, а сусед працягвае:
— Кажу, гаспадынька, што калі б нябожчык ахалодаў, то і не пераапранулі б...
Старая і на гэты раз перамоўчала. Сусед ужо падумаў, што болей і казаць такога не трэба, бо чалавек, можа,

сапраўды перажывае, але потым вырашыў праверыць яшчэ раз:

— Ну яшчэ б паўгадзіны, і ўсё... Захалодаў бы дзед, ніякай рады не далі б... Чыстую вопратку не насунулі б...

Сказаў проста так, каб перад дзедам слова стрымаць, але пачуў такое, ад чаго і рот разявіў:

— А навошта яго пераапранаць? Яму ж усё роўна. Можа, яшчэ каму вопратка ягоная спатрэбіцца, мала што здараецца...

У хаціне ўсталявалася незвычайная цішыня. Толькі недзе ў куце надакучліва бзыкала-спявала муха. Першым не ўтрываўся сам «нябожчык»:

— Дык вось яно што? На мяне абы-што плявузгала, а як давялося, то, відаць, сама замуж выскачыш?..

Сусед трымцеў са смеху, але ўголас смяяцца пакуль што не адважваўся.

Гаспадыня разгублена пхікала губамі, але нічога выразнага прамовіць не магла. Як сядзела ля печы, так і засталася на месцы, толькі чагосьці руку на прыпечак пацягнула. Гэтага ніхто не заўважыў, ■ бабка і не ведала, чаго яна яе туды ўсунула. Толькі праз пару хвілін ужо позна было ў гэтым разбірацца: хто яго ведае, па якой нагодзе яна выграбла трэску, якая гарэла, прама ў кучу смецця, і полымя шуганула па сухіх сценах. Сусед загарлаў:

— Уцякайце! Уцякайце, бо будуць вам жартачкі!

Гаспадыня плетанула за дзверы, але не трапіла адразу на клямку і добра рэзнулася лбом у сцяну. Сусед вылецеў трапна, а стары пакуль усхапіўся, пакуль у дыме разабраўся, куды кіраваць, то пачарнеў ад дыму, што той чорт. Калі вылез на падворак, то хату ратаваць было ўжо позна. Адно толькі баба ўсплёснула рукамі і загаласіла:

— Ой, Божачка, увесь у копці!

Сусед і тут не вытрымаў, дадаў:

— Ага, як сам дзед Копаць. Так да таго дзеда мянушка Копаць і прыліпла, ■ вёску потым ужо Копцямі назвалі. Ды так і засталося, бо ніхто перайначваць не пажадаў.

## ЛЯДЫ

Жылі два браты — Зміцер ды Аўтух. У аднаго бацькі выраслі, адна маці іх нарадзіла, а так у жыцці атрымалася, што адзін, Зміцер, стаў багатым, а другі, Аўтух, ледзьве з мякіны на лебяду перабіваўся. Бацька калі

паміраў, то ўсё ім пароўну падзяліў: і сенажаць, і лес, і поле. Праўда, Зміцер быў хітрэйшы. У яго ад нараджэння так вялося: брата свайго ён і за грош не лічыў, захоча абкруціць, то пакуль той рот разявіць, дык старэйшы ўжо ўсю справу зладзіць. Так і тут атрымалася.

Паклікаў іх бацька, каб апошняе слова сказаць, развітацца перад смерцю, а Зміцер ужо загадзя да гэтай сустрэчы падрыхтаваўся. Толькі парог пераступіў і зароўзагаласіў, не раўнуючы, як тая жанчына:

— Ой, татачка, ой, родненькі, на каго ж ты нас пакідаеш?.. Мы ж за табой, як за мураванай сцяной жылі, ніякага гора не ведалі, ніякае бяды не адчувалі... Ты ж нам і параіш, і падкажаш, і як усё зрабіць навучыш... На каго ж ты нас пакідаеш?.. Чаго ты так на тое далёкае неба спяшаешся?.. Ці ж мы табе нечым не дагадзілі, ці ж мы цябе нечым пакрыўдзілі?.. Пажыві, пабудзь яшчэ з намі, то і нам намнога лягчэй стане...

Аўтух жа пераступіў парог і стаў маўклíва, толькі слёзы заблішчэлі на вачах. Бацька паслухаў, паглядзеў і прамовіў:

— Вырашыў я, сыночкі, усю сваю гаспадарку, да самых драбніц, на дзве палавіны перадзяліць.

Зміцер і тут знайшоўся:

— Татачка, у мяне ж сям'я вялікая. Дзеткі мае цябе гэтак любяць, гэтак паважаюць... Яны ж кожны дзень да цябе ў хату парываюцца, але я сам не пускаю, каб твой спакой не парушалі, каб далі хоць у гэтыя дні адпачыць... Мне бліжэй зямлю ды сенажаць аддзяліў бы, бо не выпадае з дзецьмі туды дабірацца...

Аўтух зноў маўчаў. Стары павярнуў галаву да яго:

— А ты чаго, сыночак, маўчыш?

— Каб не турбаваць у такі момант цябе, тата, лішні раз. Што ўжо мне трапіць, тое і трапіць, плакаць не буду. І за тое дзякуй.

— Не хвалюйся, сынку, я ўсё пароўну падзялю.

Так абяцаў бацька, а на самай справе Зміцер выхапіў лепшыя кавалкі зямлі, сенажаці, лесу, ды яшчэ і межавыя знакі пераставіў, пакуль туды малодшы брат з'явіўся.

Нічога і на гэта не прамовіў Аўтух. Моўчкі гарбаціўся на сваім полі, шчыраваў ад раніцы і да змяркання. Жонку ашчаджаў, не пускаў араць ці скародзіць — усё сам рабіў. Але нібы адвярнулася шчасце ад ягонай сям'і. Так атрымлівалася, што з кожным годам у Зміцера багацця прыбывала, а малодшы брат, як ні стараўся, нічога пут-

нага не атрымліваў. Вось нібы хто закляў чорным праклёнам! Хоць ты каравул крычы — ніхто на дапамогу не прыйдзе. А Зміцер першыя год-два яшчэ неяк трымаўся, а потым махнуў рукой на такога беднага сваяка:

— Як хочаш, так і жыві, у мяне свая сям'я і свае клопаты. Не магу я больш і на цябе працаваць, і на сябе.

Калі па праўдзе, дык ён толькі так гаварыў, каб людзі не асуджалі, а на самай справе ніколі малодшаму і не дапамог.

Аўтух не надта чакаў выратавання ад некага, на сябе толькі разлічваў. Прыйдзе дамоў і за стол не садзіцца. Жонка будзе зваць:

— Чалавеча, хадзі да стала, перакусі, ты ж натаміўся...

А ён адкажа, спакойна так, нібы толькі што даволі наеўся:

— А не хочацца, жонка, мне. Аддай маё малым, няхай сёрбаюць. Яны ж растуць, я і так вунь які вымахаў... Я перакусіў на полі, ты ж мне з сабою многа паклала.

— Што гэта ты, мужу? Ці можна так? Ты ж ног не пацягнеш праз пару тыдняў, сядай.

— Я лепей паляжу ды паслухаю, як вы гамоніце, мне ад гэтага на душы весялей становіцца. Не бачу я малых: з рання іду, увечары вяртаюся, а яны ж растуць...

— Ага, — павесялелым голасам пачынала гаманіць і сама гаспадыня, — яшчэ крыху, і дапамагаць стануць. Яшчэ крыху...

Неўзабаве Аўтух заціхаў, і жонка тады ўжо пакрыквала на дзяцей:

— Цішэй вы, няхай тата паспіць. Натаміўся ён, нацягаўся па полі... Заўтра зноў пойдзе. Не чапайце, не крычыце...

Так і ішла ў іх справа. Неяк аднаго разу вярнуўся дамоў Аўтух і ледзьве не плача.

— Што, родненькі, здарылася?

— Ды нічога.

— Не хавай, ад мяне ўсё роўна не схаваеш. Тыя ж дні не такі прыходзіў, а то і твару на табе няма. Скажы, то лягчэй на душы зробіцца, а так каменем тая навіна ляжыць, спакою не дае.

— І не дасць.

— Дык што здарылася?

— Сёння заязджаў на нашу ніву.

— Ну і?

— Узышла збажына так, нібыта мы яе там і не сеялі. Што на галаве валасоў у лысага, столькі і каліўцаў вы-

тыркнулася з зямлі. Зноў ураджаю не будзе. Як зімаваць будзем?.. Дзеці ж падрастаюць, а хлеба не хапае...

Змоўкла і гаспадыня, схілілася да стала — нібыта нейкую працу сабе шукае, а слёзы так і закапалі з яе вачэй. Але ж хіба слязьмі ў такой справе дапаможаш?

Так і прасядзелі амаль да поўначы. На вуліцы дождж усхадзіўся, вецер завыў-загаласіў. Аўтух прамовіў сам сабе:

— Дождж зараз не шкодзіць. Хай зямля п'е, то, можа, і наша збажынка выправіцца.

Жонка меркавала іначай:

— Можа, якому чалавеку падарожнаму і не ў самы раз дождж...

— Ды ўжо на вуліцы цёмна. Куды там падарожнаму хадзіць? Яшчэ вочы павыбівае ці сабакі накінуцца, — адказаў гаспадар задуменна.

— Хто яго ведае, як яно людзям даводзіцца. Бывае, што і ноч у дарозе заспее, — вымавіла жанчына.

На гэта і гаспадар пагадзіўся:

— Так, здараецца і такое...

Толькі яны гэтак пагаманілі, як у аканіцу нехта стукнуў.

— Ці чуеш, чалавеча?

— Ды, можа, гэта вецер ці дождж барабаніць.

Але стук паўтарыўся.

Гаспадар адчыніў дзверы і гукнуў:

— Хто там стукае? Заходзь у хату.

— Ці не пусціш пераначаваць, пане гаспадар? — І на парозе паўстала постаць старога чалавека.

— Чаму б і не. Здарожыўся, дзядулька, мабыць, прамок?

— Ніткі сухой няма на целе, зуб на зуб не трапляе. Вецер жа такі ўсхадзіўся, а ■ якраз з аднае вёскі выйшаў, а да вашай не дайшоў... Заўважыў агеньчык у вашым акне, дык і прышкандыбаў сюды. Вы ўжо прабачце, што патурбаваў.

— Нічога, нічога. Жонка, налі там чалавеку чаго перакусіць, можа, засталося...

Гаспадыня борздзенька кінулася да прыпека і наліла старому нішчымнай кіслай капусты.

Той паеў, перахрысціўся і яшчэ раз падзякаваў.

— І вы, відаць, не соладка тут жывяце?

— Ды вось не шанцуе нам, дзядулька, — адказаў гаспадар.

Так і завязалася ў іх гамонка. Гаспадыня лягла адпачываць, а мужчыны ўсё сядзелі. Стары прыхіліўся спінаю да печы і ўважліва слухаў Аўтуха. Калі той скончыў, то хвілін пару маўчаў, нібы задрамаў, а потым загаварыў:

— Мне здаецца, гаспадар, што ведаю і тваю прычыну. Магу і падказаць, як ад яе вызваліцца.

— Як жа?

— Табе бацька зямлю даў?

— Так.

— Яна яму ад дзеда твайго перайшла. А зямелька спустошылася. Табе трэба на іншае месца рушыць, па новаму сеяць.

— Але куды? Грошай жа няма.

— А ты той участак, які пад лесам у цябе стаіць, не прадавай, а высечы на ляда. Выпаліш, пасееш і пабачыш: зародзіць так, што і не пазнаеш.

Так той незнаёмы чалавек параіў зрабіць, а Аўтух яго паслухаўся. І што ж вы думаеце? Закаласілася на ягоных нівах такое збожжа, як ні ў каго іншага. Неўзабаве і ён заможным гаспадаром стаў, а паселішча тое, дзе ён жыў, людзі назвалі Лядамі.

## МАРДУХІ

Жыў у нас тут некалі яўрэй Мардух. Нішто сабе чалавек быў, толькі надта ж да жыцця непрыстасаваны ўрадзіўся. Яго Сара, дык тая поедам мужа ела. Толькі прачнецца, а ўжо гыркоча:

— Чаго ты ляжыш?

— Яшчэ ж на двары цёмна.

— Табе і днём, лайдак, цёмна.

— Не, днём сонца свеціць, — не адчуваючы ніякай крыўды, адказваў Мардух, — тады ўжо і сляпы, па цяпле, здагадаецца, што светла...

— Ай, дурань, не пра гэта я гамонку вяду.

— А пра што ж ты толькі што мовіла?

— Кажу, што ўсе людзі працуюць, а ты ляжыш.

— Але ж цёмна, і пакажы мне зараз такога чалавека, які б ужо ў полі гнуўся ці па гаспадарцы нешта рабіў.

— Языком ты добра мянташыш. Каб так і працаваў, то і багацце ў нас было б.

— Навошта нам багацце? Жыві, пакуль жывецца. Вунь Борух грошай колькі меў, то ўвесь час заснуць спакойна не мог, усё баяўся, каб не пакралі. А ўсё роўна не ўпіль-

наваў, зладзеі да ніткі абчысцілі. Ён пасля гэтага пакірхаў нейкі месяц і памёр. Скажы, каму ад гэтага лепей стала? Дзецям? А можа, жонцы?..

— Ты нагаворыш...

— Але ж у жыцці так атрымліваецца. Няхай той злодзей да мяне лезе, няхай. Я яго як злаўлю, то завішчыць у мяне не сваім голасам.

— Ага, так ён да цябе і палезе, каб тут час дарма губляць. Што ён у цябе займее?

Мардух сярдзіта адварочваўся да сцяны, але гаспадыня сваю справу ведала выдатна.

— Ты мне тут характар не паказвай. Збірайся ды кіруй на падворак, можа, жэрдку якую ці слупок у парадак прывядзеш, бо толькі і назвы аднае ў нас, што карчму трымаем, а на самай справе ні плота, ні агарода — нічога няма. Дзяцей толькі вунь — цэлая куча.

— Вось ты за гэта хоць дзякуй Богу скажы.

— Ага, скажы, іх жа карміць трэба, а ці ты нешта прынясеш, ці нешта дастанеш?

— Можа, і дастану. Вось толькі не шанцуе мне апошнім часам.

— Ці ж толькі апошнім? Вырастуць гэткія ж мардухі, як і ты: ні зрабіць нічога, ні падаць нічога, адно толькі — паветра псаваць...

Пасля такіх слоў гаспадар разумеў, што болей яму затрымлівацца ў хаце няма чаго, гаспадыня калі расходзіцца, дык і за каршэнь можа ўхапіць, а гэта не вельмі пажадана. У Сары рука была, не раўнуючы, як той трапкач.

— Добра, добра, я пайду, не крычы. Няхай хоць дзеці паспяць, калі мне не давялося.

— Яшчэ нехта болей за цябе спіць? Толькі гэта са смакам і робіш, толькі гэта і ўмееш. Вунь, адзін конік у нас — і таго дагледзець як след не можаш.

— А ведаеш што, Сара?

— Што? — адразу ўзняла галаву тая, бо адчувала, што гаспадар зараз нешта ляпне.

— Вырашыў я ўчора каня прадаць.

— Навошта?

— Хачу за тыя грошы купіць вала. На яго і цяжар можна большы пакласці, чым на каня, і карміць можна любой ежай, і ў начное не трэба вадзіць...

Жонка маўчала, відаць, разважала, потым падала голас:

— Давай, толькі глядзі, каб цябе не перахітрылі.

— Мяне перахітрыць, Сарачка, немагчыма.

Мардух радасны вылецеў з хаціны на двор. У той жа дзень ён павёў коніка на базар, прадаў і купіў вала: чорнага, вялікага.

Пажылі пару месяцаў з валом — нешта не надта гаспадарка ўгору пайшла, як меркавалі. Зноў замаркоціўся Мардух.

— Што не гамоніш? Што ўсё сядзіш ды сумна пазіраеш? — пытаецца ў яго Сара.

— Ды чаму тут радавацца? Бачыш жа сама — не атрымліваецца з гэтым валом у людзі выбіцца.

— Ужо па-іншаму мяркуеш?

— Ды ёсць задумка.

— Якая?

— А крычаць не будзеш?

— Не, ты што?

— Можа, і вала прадаць?

— І як жа мы, чалавеча, пасля гэтага жыць будзем? Сказаць-то ты сказаў, але ж ці падумаў? Дзяцей чым карміць, калі зямлю не апрацуеш? Яны ж у нас і так галодныя пастаянна бегаюць, трэба пра іх у першую чаргу думаць, а не пра тое, як самому бесклапотна прасядзець.

— Я ж не гаварыў такога. Болей таго, я тут сеё-тое змікіціў. Пачуеш — адразу павесялееш.

— То гавары, не цягні, а то заўсёды так: спачатку падражнішся, а потым маўчыш. Да канца ўсё дагаворвай.

— Давай прадамо вала і купім...

— Каго купім?

— Не перабівай. І купім гуску.

— Гуску? — гаспадыня выдыхнула і... гопнулася на спіну. Вялізны жывот яе закалыхаўся-забулькаў, а рукі раскінуліся шырока ўбакі. — Кажаш, гуску? І які ж навар мы будзем мець з гэтай гускі? Вол хоць воз валачэ ці саху па зямлі цягне, а з гускі што?

— Во дурніца! Да якога часу ты гэткай дурной заставацца будзеш?

— Сам такі, — адмахнулася жонка.

— Гуска ж яек нанясе, мы на іх яе пасадзім, яна гусянятак маленькіх выведзе, прадамо — вось і навар. Тады яшчэ болей можна будзе развесці. Цяпер зразумела?

— Зразумела, — не вельмі ахвотна адказала гаспадыня.

Прадаў Мардух вала і купіў гуску. Усёй сям'ёй за ёй сачылі, каб не прапала нікуды, каб якія сабакі не парвалі. Але і гэтая радасць нядоўга працягвалася. Справа ў тым, што прыспела пара сенакосу. Сам жа карчмар, як вядома, ніколі не касіў, а наймаў каго з вяскоўцаў. Так і на гэты раз. Пайшоў да суседа, і той пагадзіўся зрабіць усё за кварту гарэлкі. Толькі папярэдзіў карчмара, што не мае свайго бруса, якім касу востраць. Той запэўніў, што ў яго ёсць брус, прыйшоў дамоў, пачаў шукаць, ды дарма — так і не знайшоў. Крычыць на Сару:

— Што мне цяпер рабіць? Дзе брус узяць?

Сеў, падумаў і гамоніць:

— А ведаеш што, пайду [redacted] на базар, прадам гуску і куплю новы брусок. Паспею вярнуцца да таго часу, пакуль касец прыйдзе.

Узяў гуску і паджгаў на базар. Прадаў там яе, купіў брусок і назад вяртаецца. Дарога ішла міма балаціны. Ідзе карчмар і бачыць — непадалёку качка плавае. Падумаў: вось добра, птушку заб'ю і мяса свежае будзе, [redacted] яно ж такое каштоўнае. Замахнуўся і боўць — прамазаў. Прапала і мяса, і брусок.

Прысунуўся дамоў, галаву апусціўшы, а там яго ўжо наняты касец чакае.

— Ну, дзе брусок? — пытаецца Сара.

Расказаў усё Мардух. Гаспадыня закрычала:

— Сам Мардух, і дзеці твае мардухамі будуць!

Селянін паспяшаўся карчмара выручыць:

— Не крычы, Сара, ёсць у мяне брусок, гэта ж я пажартаваў, не крычы.

Пайшоў касец з гаспадаром на луг, а вечарам, калі дамоў вярнуўся, жонцы весела распавядаў:

— Ой, як [redacted] сёння з гэтых Мардухоў нарагатаўся, каб ты толькі ведала... Мардухі, сапраўдныя Мардухі...

Так яно і павялося з таго часу, так і вёску нашу, дзе тая карчма некалі стаяла, Мардухамі празвалі.



# ЛЕПЕЛЬ

Наш горад вельмі старадаўні. Кажуць, што раней ён не на гэтым месцы быў, а крыху ўбаку, там, дзе цяпер вёска, якая так і называецца — Стары Лепель. І стаяў ён на вялікім востраве пасярод возера. А вакол вялікага і шумнага горада былі ўзведзены моцныя і непрыступныя сцены. На іх узабрацца далёка не кожны воін мог, а горадам авалодаць і тым болей далёка не кожнаму военачальніку ўдавалася. Нездарма, відаць, бліжэйшыя ад сённяшняга горада вёскі называюцца Мацюшына Сцяна і Вірковая Сцяна. Сцвярджаюць, што стагоддзяў колькі таму назад на месцы возера не было вады, а было роўнае-роўнае месца. Сеялі людзі збожжа, жалі і жылі непадалёку, а потым сталі і хаціны стаўляць. Спадабалася ім тут. Зямля радзіла добра, навокал лясы густыя стаялі, звяр'я ды птаства ўсялякага вадзілася мноства вялікае — не прападзеш з голаду. Вёсачка паступова разраслася, і стала ў ёй некалькі вуліц і болей за сотню хацін, што, як вы разумееце, многа для паселішча. Некаторыя са старых нават казалі, што называлі тую вёсачку — Злыднёўка. Гэта, маўляў, ад таго, што сяляне тыя былі ліхія ды надта сквапныя. Пра іх гаманілі суседзі, што калі аднойчы праз іхняе паселішча ішлі два жабракі з павадыром і

папрасілі паесці, дык ім нічога не далі, акрамя дзвюх гнілых цыбулін, ад якіх ішоў жудасны смурод.

Дык вось жыў-быў там адзін малады хлопец, самы бедны з усёй вёскі. Бедны-то бедны, але гэта ў параўнанні з аднавяскоўцамі, а калі браць з суседнімі вёскамі, то быў ён заможным і добрым гаспадаром лічыўся б. Сам бедны, а дзяўчыну нагледзеў і вырашыў сватаць багатую. Яна і прыгожая была. Яго звалі Мартын, а яе — Эмілія. Чаму такое імя? Бацькі на паноў меркавалі быць падобнымі, дык так і назвалі.

Гаспадары не маглі проста так адмовіць Мартыну, таму што ў Злыднёўцы існаваў няпісаны закон — жаніць дачок і сыноў толькі са сваімі, не аддаваць за межы паселішча, каб якія галадранцы, выпадкам, у род іхні не працiснуліся.

Мартын не адразу сватацца пайшоў. Усё імкнуўся болей сабраць багацця. Але дзе ты там за суседзямі паскачаш? Пакуль ён адзін свіран зернем засыпаў, то найбольш спрытныя схітрыліся па два-тры напоўніць. І тым не меней Мартын вырашыў сватацца. Прыйшоў да бацькоў Эміліі, а тыя нібыта і не здагадваюцца, што да чаго, пра будзённыя справы размову вядуць. Нарэшце хлопец адважыўся:

— Я прыйшоў да вас, каб прасіць рукі вашай дачкі. Мы з ёю кахаемся і хочам пабрацца.

Бацькі пераглянуліся, але ў іх, відаць, даўно быў падрыхтаваны адказ для любога жаніха. Таму і тут доўга не цягнулі:

— Аддамо, Мартынка, аддамо. Калі ўжо ў вас так пайшло, то і мы супярэчыць не станем. Але, хлопча, спачатку мы цябе выпрабуем.

— Не без гэтага, — хіснуў галавою жаніх.

Пагадзіцца-то ён пагадзіўся, але якое выпрабаванне чакала яго — не ведаў, таму і перажываў, што зараз скажуць.

А яны і сапраўды сказалі, ды такое, што ў вачах пацямнела.

— Якая ў цябе гаспадарка — мы ведаем, у адной жа вёсцы жывём. Як працуеш — таксама. Таму хочам, каб прынёс ты нам праз пару месяцаў цэлую торбу грошай, ды не дробнай манетай, а каб усё буйныя былі...

Хлапчына панурыўся і ледзьве чутна прашаптаў:

— Дзе ж гэта я столькі грошай вазьму?

Але так ужо было заведзена, што кожнаму жаніху

ставілі ўмовы, і каб іх выканаць, трэба было добра напружыцца. Таму ён устаў, пакланіўся і спытаўся:

— А ці можна мне зараз з Эміліяй хоць пару хвілінак пагаманіць?

— Вядома, можна. Не станем жа мы на шляху да шчасця ў адзінай дачушкі. Не палохайся, чалавеча, не цяжкае заданне мы табе далі. Добра падумаеш — і раздабудзеш.

Выйшаў Мартын да дзяўчыны на вуліцу, а гаспадары задаволена зарагаталі:

— Ну што, бачыш, як выкруціліся? Хто цяпер на нас скажа, што мы нешта не так зрабілі? Дзе ж ён тых грошай гэтулькі дастане? Сотню-другую — пазычыў бы, а цэлую торбу — хай трэсне, а за два месяцы не назбірае.

— Так, мужу, тут ты надзвычай добра прыдумаў, — падтрымала гаспадара жонка. — Нават калі гаспадарку ды ўсю сваю жывёлу прадасць, то нічога не атрымаецца.

— У такім выпадку і паўторбы не будзе. Ды і не стане ён гаспадарку прадаваць, бо разумее, што за беднага мы дачку не аддадзім. Хай дзякуй скажа, што ўвогуле з ім на роўных размаўлялі.

А на падворку зусім пра іншае гамонка вялася.

— Здаецца, Эмілія, што бачымся мы з табой у апошні раз, — сумна прамовіў Мартын.

— Чаго гэта ты так гаворыш?

— Ды так...

— Скажы праўду, можа, я табе чым-небудзь дапамагу.

— Не дапаможаш. Тут трэба самому думаць, але, як бы ні думаў, як бы галаву ні ламаў, не атрымаецца ў мяне нічога.

— І ўсё ж скажы, што табе загадалі мае бацькі?

— Сказалі, каб праз два месяцы поўную торбу грошай ім за цябе прынёс, тады і пачнуць гаворку пра вяселле.

Эмілія ў адчаі працягнула:

— Што гэта яны такое складанае выпрабаванне табе прызначылі?

— Ды не складанае яно, а проста невырашальнае. Як ні круціся — нічога не перайначыцца.

Так яны і развіталіся. Эмілія заплакала і пабегла ў садочак, а Мартын пацíху падаўся да сваёй гасподы, па дарозе праклінаючы і белы свет, і тое, што бедным урадзіўся, і тое, што дзяўчына, якую ўпадабаў, выслізне з ягоных рук. І здарыцца гэта зусім хутка — усяго праз нейкіх пару месяцаў.

Прыплёўся дахаты, сеў на ганку. Маці заўважыла, што з сынам штосьці няладнае робіцца, але маўчала.

Час ляцеў. Мартын, як ні думаў, як ні меркаваў, нічога пакуль што прыдумаць не мог. Застаўся ўсяго тыдзень да азначанага тэрміну. Да яго ўжо дайшлі чуткі, што бацькі Эміліі іншаму хлопцу дачку аддаць паабяцалі, так і сказалі:

— Пачакай крышачку. Тыдзень застаўся. Мы перакананы, што той басяк грошай гэтулькі не прынясе, табе выпрабаванне прызначым лёгкае, бо ў твайго бацькі і грошай, і іншага дабра многа.

Вырашыў тады Мартын схадзіць да вешчуна, які жыў у той жа Злыднёўцы. Самы горшы чалавек быў сярод усіх астатніх. Нічога не баяўся, ні перад кім галавы не схіляў, валодаў такімі чарамі, што толькі гляне на каго, дык таму адразу блага стане і калі не памрэ, дык пахварэе. Падумаў жаніх, што калі ўжо і вяшчун не дапаможа, то пойдзе да бацькоў Эміліі і сам скажа, каб аддавалі за каго іншага дачку, бо не здолеў выканаць задання.

Зайшоў да вешчуна, а той якраз у добрым настроі быў, відаць, насаліў некаму. Сядзеў на прызбе: стары, счарнелы, у нейкіх лахманах — і задаволена пасміхваўся. Убачыў нечаканага госця і звярнуўся да яго:

— Чаго прыбег, Мартынка? Няма ад мяне людзям ніякай дапамогі. Стары стаў, слабы зусім.

— Дарма вы, дзядзька, на сябе благое намаўляеце. Пра вас такая пагудка ідзе, што пазайздросціць любы можа, і тое вы можаце, і тое для вас не праблема...

Стары задаволена закірхаў, было відаць, што словы яму спадабаліся.

— Але цябе ж, хлопча, нешта да мяне прывяло? Не так жа ты прыйшоў?

— У мяне ўзніклі невырашальныя цяжкасці, дзядзька.

— Няма такога, каб я ды не вырашыў. Распавядай.

Вяшчун уважліва выслухаў расказ.

— І гэта ўсё?

— А хіба мала?

— Ды гэта дробязі для мяне.

— Дзядзька, міленькі, дапамажы, — кінуўся на калені перад ім Мартын, — усё астатняе жыццё памятаць буду. Адплачу, чым скажаш.

— Устань, устань, — лагодна забурчаў вяшчун, — я табе і так дапамагу, бо добры ты хлапчына. Слухай уважліва.

Мартын радасна прыціснуўся да вешчуна.

— У суседняй вёсцы, вёрст з дзесятак ад нашай, людзі ўсе разам жывуць, гаспадарку агулам вядуць. Яны прадалі жывёлу, ■ грошы ў адным месцы трымаюць, дакладней, па чарзе бяруць у свае хаціны і ахоўваюць. Збіраюцца з вясны зямлі дакупіць. У нас, мабыць...

— Чаго гэта яны так гаспадарку вядуць? — здзівіўся Мартын.

— Ну, у нас свае парадкі, ■ ў іх — свае. Дык вось, сёння ноччу гэтыя грошы будуць у аднаго селяніна. Ён ужо стараваты, і саўладаць з ім будзе даволі проста. Жыве ён у хаціне, якая крайняя ў паселішчы, калі ісці з нашага боку. Яго можна трэснуць па галаве, і тады зажывеш шчасліва... Грошай, братка, хопіць не толькі для таго, каб за Эмілію заплаціць, але і на чорны дзень пакінуць. Вырашай... Не цягні, бо заўтра грошы будзе ахоўваць другі, а ён няўломак...

— Дзякуй, дзядзечка, за навуку, дзякуй, — ажно праслязіўся Мартын і пабег.

Раніцай ён, задаволены, прынёс бацькам дзяўчыны торбу, поўную грошай.

— Тое, што вы загадалі, я зрабіў, цяпер забіраю вашу дачку.

— Бяры, — толькі і змаглі сказаць здзіўленыя гаспадары.

Заможна зажыла маладая сям'я. Грошай і сапраўды многа засталося, на іх адляскалі такія будынкі, што і самыя багатыя людзі ў вёсцы зайздросціць сталі. Дзеці пайшлі адно за другім. Жылі Эмілія з Мартынам і гора не ведалі. Ні яны, ні хто іншы з жыхароў Злыднёўкі і не думаў і не гадаў, што канец ім ужо прадвызначаны.

Усё здарылася ў той дзень, калі памёр стары вяшчун. Як толькі ён сканаў, то яго паклалі на лаву і паспрабавалі было пераапрануць, але ў гэты момант такая страшная навальніца пачалася, што ўсе спалохаліся і разбегліся па дварах. Вырашылі, што раніцай усё зробяць. Палеглі спаць, а да раніцы і не дажылі — правалілася Злыднёўка разам з жыхарамі і іхнімі сядзібамі скрозь зямлю, і на тым месцы ўтварылася вялізнае возера. Сяляне з суседніх вёсак калі прыбеглі глянуць, то ўбачылі мноства гадзюк па берагах, і трымалі яны ў зубах гнілыя цыбуліны. Смярдзела навокал страшна.

З цягам часу па берагах павырастала мноства ліпак, і яны сваім прыемным пахам перабілі той смурод ад вады,

а потым і сама вада стала чысцюткая і сцюдзёная. Гаварылі, што тыя жабракі даравалі ўсе грахі злыднёўцам, і мясціна ачысцілася. Але назвы пакуль што не было ні ў возера, ні ў бліжэйшага паселішча.

І вось аднаго разу ехала царыца Кацярына праз нашы месцы. Так тут прыгожа было, так хораша, так ёй спадабалася, што яна штохвілінна паўтарала: «Пышна! Пышна!»

З-за гэтага і вёска адна стала называцца Пышна. А калі царыца прыехала туды, дзе зараз горад, ■ там жа і возера, і ліпы, словам, мясціна яшчэ прыгажэйшая, дык яна не стрымалася і прамовіла:

«А тут яшчэ лепей!..»

Вось так і пайшоў Лепель.

## БЯСЕДЫ

Пайшла адна старая жанчына з суседняй вёскі ў наша паселішча, якое тады яшчэ ніякай назвы не мела, да сваёй дачкі, каб унукаў адведаць, распытаць пра тое-сёе. Прыджгала бабуля да хаціны, дзе жыла дачка, і сумелася. Справа ўжо пад глыбокі вечар пасоўвалася, а на двары ды на прызбе паўнютка было людзей. Спачатку спалохалася жанчына, падумала, што, можа, бяда якая здарылася, кінулася да людзей распытваць:

— А што гэта ў вас такое здарылася?..

— Цішэй, — цыкнулі на яе, — дай паслухаць, ды і сама садзіся паслухай, як цікава расказваюць.

Бабуля, зразумеўшы, што нічога благога не здарылася, прыляпілася побач з вяскоўцамі на прызбе і прыслухалася. Да яе данёсся голас апавядальніка.

«...Палезлі Саўка з Грышкам у агарод... Чужы агарод... А адзін жа з іх быў сляпы, ■ другі глухі. Уявіце сабе, як гэта атрымлівалася...

Ноч навокал такая глухая, што хоць вока выкалі. Убіліся сябрукі ў граду з агуркамі. Панарывалі, колькі маглі, але многа яшчэ заставалася. Тады сляпы ўшчаперыў глухога за грудкі дый гамоніць:

— Глядзі, што зробім...

Саўка здагадаўся, што трэба сачыць за паводзінамі Грышкі, і ўтаропіўся ў цемры на сябрука. А той моўчкі зняў штаны, завязаў калашыны і нібы ў мех насыпаў пад самую завязку агуркоў. «Цяпер нясі да мяжы», — паказвае Саўку. Ухапіў глухі штаны і павалок. Потым прыбег

назад і свае гэтак жа напоўніў. Засталіся зладзеі толькі ў кашулях, а тут дождж пачаўся. Халаднавата стала сябрам, вырашылі выбірацца. Папаўзлі — наперадзе Саўка, а за ім, торгаючы яго за нагу, Грышка. Сляпы ж, ведама, усё навобмацак рабіў. Вось абмацаў ён гарох і гаворыць:

— Стручысты...

Глухі не дачуў і адразу:

— Дзе стучыцца?

Але сляпы ўжо мацаў у іншым накірунку і не зразумеў, што Саўка падрыхтаваўся ўцякаць. Наторкнуўся на мяжу і па-філасофску зазначыў:

— Мяжа...

— Дзе бяжаць? — у адчаі крутнуўся Саўка і ўжо болей не распытваў — лупянуў з агарода, ды праз плот, цераз канаву, у карчы, а адтуль яшчэ далей заламаў, да далёкага лесу, і толькі там супыніўся. А сляпы, небарака, пачуўшы, што Саўка папёр, кінуўся за ім. Як памкнуўся, так і ўляцеў прама... у канаву. Там не столькі вады, колькі бруду ўсялякага ды ламачча было. Круціўся, круціўся злодзей і загарлаў. Не думаў ужо і пра пакаранне:

— Ратуйце, людзі добрыя! Дапамажыце!

А агарод той належаў старому дзеду. Лайдак ён быў вялікі, ленаваўся нават зазірнуць на агарод, не тое што дапамагчы гаспадыні садзіць ці палоць, усё на старой вісела. Як пачуў дзед, што нехта гарлае, вылез з дзвярэй і падаўся на крык. Убачыў у канаве чалавека і адразу ж зразумеў, чаго той тут апынуўся:

— Ах ты, лайдачына! Ах ты, ваўкарэзіна! Як жа табе не сорамна?! Ды ты ў мяне, у старога, апошняе забіраеш?!

Сляпы крычаў сваё:

— Бі-забі, чалавеча, але дапамажы выбрацца адсюль, бо ўтаплюся!

— А чаго сам не вылазіш?

— Бо не магу.

— Чаму гэта? — здзівіўся гаспадар.

— Не магу.

— Не скажаш — не дапамагу, так і сядзі там.

— Сляпы я...

— Дык гэта ты, Грышка? Авохці мне... Гэты злыдзень увесь агарод перамікіціў, што ж там застанецца?

— Дапамажы, гаспадар.

— Добра, вылазь, на мяне бярыся, на голас.

— Ага, ты пакіруй, бо самому ж цяжка.

— Не трэба было лезці.

— Ведама што...

Сляпы пачаў выбірацца паціху наверх, а стары як убачыў, што ён без штаноў, дык вырашыў адразу і пакараць зласліўца. Крутнуўся крыху ўбок, [redacted] там густая і высокая, што кустоўе, крапіва ўраслася. Бедалага Грышка на голас жа пасоўваўся, вось туды і забраўся. Як пачало яго джыгаць, як пачало з усіх бакоў смаліць, заверашчаў тады сляпы не сваім голасам:

— Што ты нарабіў, дурань?! Куды ты мяне завёў?

— А я што, падраджаўся цябе некуды весці? Ці, можа, прасіў, каб ты да мяне ў агарод забіраўся? Як паносіш пухіры на целе, то да скону веку болей не палезеш, будзеш ведаць, як па чужых агародах карміцца. Ты ж, мабыць, не адзін быў, як бы сам у агуркі трапіў... Хто яшчэ быў?

— Ага, так [redacted] і сказаў, — горда прамовіў сляпы. — Памру тут, у гэтакай пакуце, але нікога не выдам.

— Памірай, памірай, — лагодна ўжо працягваў гаспадар, — але там не толькі крапіва...

— А што яшчэ? — узвіўся Грышка.

— Многа чаго...

— Чаго?

— Тут яшчэ мноства ўсялякіх вужоў і гадзюк...

Як сказаў дзед пра вужоў ды гадзюк, то сляпы і завішчэў:

— Выведзі хутчэй, бо загрызуць мяне тут! Няўжо табе жывой душы не шкада?

— Двуххвостыя гадзюкі нават ёсць, — працягваў стары палохаць.

Сляпы кідаўся ва ўсе бакі, але навокал толькі трашчала і па-ранейшаму пяклося.

— Выведзі хутчэй!

— Гавары, хто з табой быў? — не адставаў гаспадар.

— Саўка!.. Саўка быў!.. Толькі выведзі!..

— А таму чорту глухому чаго не хапала, што ён сюды забраўся?

— Куды ісці? — адчайна крычаў Грышка.

— Павярні туды свой нос, дзе зараз азадак, і вылазь, ды не гарлай болей, [redacted] то ўжо галава трашчыць ад твайго крыку.

Вось так яны і злазілі ў агуркі, вось так яны і асарамаціліся».

Навокал зарагаталі людзі і сталі гаманіць:

— Наеліся, па самыя вушы...

— Да смерці сорам на іх вісець будзе...

Тут пачуўся нечы голас:

— А вось бацька мой некалі быў у гасцях у свайго сябрука. З суседняй вёскі. Яго Пілінком усе звалі. Дык вось, ён угаварыў майго тату ехаць з ім да дзяўчыны. Яшчэ запрасілі з сабой скрыпача — Дударчыка. І гэтага павінны ведаць...

— Ведаем, чаму ж не, — пачулася з усіх бакоў.

— Пра гэтага скрыпача ўсё гаварылі, што ён з ведзьмакамі сяброўства водзіць, а бацька мой не верыў да таго часу. Паехалі яны, а коні як паляцелі, дык немагчыма было стрымаць, толькі вецер свістаў. Бацька мой з Пілінком зубамі ляскаюць ад страху, а скрыпач толькі рагоча і падганяе. Потым коні, нібы ўкапаныя, сталі пасярод лесу і ні кроку далей. Стаяць, і пена з рота вывальваецца. Да самай раніцы на адным месцы прастаялі.

— Бачыш, як зрабіў, — чалавек у сваты не паспеў. Гэта ж назло ўсё выкруціў, — зазначыў нехта са старэйшых.

Астатнія пагадзіліся.

Так бабуля сядзела разам з людзьмі і слухала ўсялякія гісторыі, а калі вярнулася дамоў, то дзеду свайму сказала:

— Ой, стары, ды ў іх жыццё намнога лепшае, чым у нас. Адны, лічы, бяседы...

Так назва і павялася — Бяседы.

## ЗАКАЛІЎЕ

Недалёка ад таго месца, дзе некалі стаяла старадаўняя вёска, жыла ў тыя даўнія часы адна старая бабулька. Ніхто пра яе не памятаў бы, ніхто і не згадаў бы, каб не была яна злой вядзьмаркай. Вось не спадабаецца ёй хтосьці — і ўсё на тым. Адзінае выйсце было для такога небаракі — пасяліцца ў іншым месцы, да таго ж зрабіць гэта так, каб старая не ведала і дарогі туды не знайшла, бо магла вельмі проста пошасць ці хваробу і туды напусціць. У яе і слуг усялякіх процьма была. Ля хацінкі, якая амаль цалкам у зямлю ўрасла, і ўдзень і ўночы сядзелі на кустоўі совы ды крумкачы. У іншым месцы іх днём з агнём не знойдзеш, а тут пастаянна сядзелі і чакалі таго моманту, калі іхняя гаспадыня вылезе на свет Божы і загадае ляцець, шукаць чарговую ахвяру.

Можа, цэлае стагоддзе тая старая жыла, і смерць яе не брала. Пазней людзі казалі, што сама смерць яе баялася.

А памерла яна, мае дзеткі, са злосці. Так, так, менавіта са злосці, а не з чаго іншага. Не магла глядзець, калі ў вяскоўцаў нешта насуперак яе волі атрымлівалася. Тады скрыгатала, кірхала, верашчала, але імкнулася дабіцца свайго. І трэба ж было так здарыцца, што напаролася на сваю смерць, тут ужо ад яе не выкруцілася. А выйшла ўсё вельмі проста.

Прачула гэтая вядзьмарка, што ў сялян жывёла добра вядзецца. Яно і сапраўды так атрымлівалася. Нібы спецыяльна кароўкі ды бычкі дружна раслі. Жыхары радаваліся, гледзячы на свой статак, пераказвалі адно аднаму:

— Нарэшце і нашы малітвы да Бога дайшлі. Праз год-другі здолеем развесці многа жывёлы. І на малако, і на мяса хапаць будзе. Што прадамо, што сабе пакінем, а на выручаныя грошы лесу ды поля болей прыкупім.

Здарылася тое ліха ў самым канцы лета. Пагнаў пастух, які ўсё жыццё толькі і рабіў, што жывёлу пасвіў, са сваімі падпаскамі чараду на пашу. Справа рухалася да полудня. Кароўкі сталі ля мелкай рачулкі і пачалі перажоўваць тое, што за паўдня набралі, а пастухі прылеглі ў цяньку. Каб жа яны ведалі, што не яны адны цікуюць за чарадой, то што-небудзь рабілі б, а так...

Вядзьмарка ў той дзень не выседзела дома: з раніцы ўстала і павалаклася ў той бок, куды пагналі пастухі жывёлу. Ведама, пакуль клыпала, пакуль дацягнулася, то і полудзень настаў. Дык старая ў кустоўе зашылася і адтуль узялася злую замову-нагавор на каровак шаптаць. Прашаптала тры разы, плюнула ды тупнула нагою, і потым яшчэ і зелля нейкага ў бок каровак пасыпала. Жывёліны адразу перайначыліся: то спакойна на месцы стаялі і жавалі, а то нібы пашалелі — пачалі насіцца адна за адной. Ды добра, каб насіліся, а то ж потым падалі на зямлю ды пена з рота густая ляцела, вочы крывёю наліваліся. Дзеці-падпаскі перапужаліся і да старога пастуха прыціснуліся:

— Што гэта такое здарылася, дзядзечка?

Той быў ужо вопытны ў такіх справах, адразу вызначыў, у чым справа.

— Эх, родненькія, не ўпільнавалі мы каровак... Не ўпільнавалі... Трэба было ўважліва сачыць...

— Ад чаго мы не ўпільнавалі? — не разумелі дзеці. — Ваўкоў жа побач не было, ніводнай скацінкі не згубілі...

— Ды не толькі ў гэтым справа. Нейкае злое вока на нашых каровак глянула...

— А хіба ж мы маглі б каровак закрыць? Іх вунь колькі, нас жа зусім мала.

— Закрываць не трэба было. Мы сабак напусцілі б на таго нядобразычліўца, і ён бы ўцёк, не да сурокаў яму было б. А так вось што маем...

— І што ж цяпер будзе, дзядзечка? — дапытваліся падпаскі.

— Што будзе? Трэба нейкую раду даваць чарадзе, інакш перадохнуць могуць кароўкі..

— Перадохнуць?

— Так, і гэта часта здаралася. Старыя людзі згадваюць пра такія выпадкі. Трэба нешта прыдумаць...

І праўда, каровак нельга было падаіць. Яны гаспадынь да сябе і блізка не падпускалі — білі нагамі ды рогі настаўлялі. Баяліся жанчыны, што і іх яшчэ перакалечаць.

Ужо двое сутак чарада стаяла на месцы. На ноч нават у вёску не гналі, тут жа ахоўвалі мужчыны ды дзецюкі, глядзелі, каб яшчэ якое ліха не здарылася. А пастух усё хадзіў па людзях і раіўся, што рабіць? І вось адна жанчына параіла схадзіць да млынара.

— Мой дзядуля-нябожчык некалі гаварыў, што ўсялякі млынар знаецца з нячыстай сілай, з-за гэтага яго ўсе баяцца і галовы перад ім схіляюць. Калі тут які заклён прыплецены, то млынар абавязкова выратуе, нікуды гэтая пошасць ці што якое іншае ад яго не падзенецца, абавязкова адступіць. Да млынара, толькі да млынара трэба ісці...

Пастух павесялеў, бо ён, небарака, за гэтыя пару дзён ажно счарнеў ад перажыванняў. Сумленны чалавек быў, лічыў, што з-за яго ўсё здарылася. Жонцы дома так і сказаў:

— Пакуль каровак дамоў не прыганю, пакуль ад іх гэтая пошасць не адчэпіцца, то не чакай мяне.

Паляцеў, нібы на крылах, да таго млынара. А туды крочыць вёрст, можа, з дзесяць было. Ішоў, ішоў, і хоць ногі яго звычныя да дарог, але крыху і прытаміўся. Нарэшце ўбачыў той доўгачаканы млын. Бліжэй падышоў, азірнуўся і заўважыў гаспадара, які нешта рабіў ля пляціны.

— Добры дзень, пан млынар.

— Дзянёк добры, чалавеча, — весела адказаў той.

— Справамі займаецеся?

— Ды так, па дробязях... Няма чаго малоць. Млын мой далекавата ад вёсак стаіць, то і вязуць да мяне мала, усё глядзяць, каб бліжэй дзе змалоць. Нешта ў цябе, чалавеча, выгляд заклапочаны. Можа, здарылася што?

— Здарылася, дзядзька... І мяне, калі шчыра, да вас накіравалі...

— Калі накіравалі, дык распавядай.

— Ой, бяда, дзядзька, была вялікая.

— Не хвалюйся, чалавеча, гавары спакойна.

— Нехта на нашых каровак чорны праклён павесіў. Дурэюць двое сутак, не даюцца да рук. Так і стаяць нядоеныя.

— Гэта ўжо дрэнна, дрэнна, чалавеча, — пагадзіўся млынар. — Дык ты, відаць, хочаш, каб я вам чараду выратаваў?

— Так, дзядзька, болей звяртацца няма ўжо да каго. Усіх абышоў, але ніхто нават і не браўся дапамагчы, спасылаючыся на тое, што не маюць гэткай моцы.

— А вашы мужыкі будуць да мяне зерне вазіць малоць, калі я дапамагу? — хітра павёў гамонку млынар.

— І дзецям сваім загадаюць акрамя як да вас болей ні да каго не вазіць. Вы толькі выратуйце нас у цяжкую хвіліну. Усе ж гэтак спадзяваліся, што жывёла развядзецца, а там, самі ведаеце, намнога лягчэй жыць стане...

— Добра, чалавеча, не будзем болей затрымлівацца, бо пакуль даджгаем, то і надвячорак стане брацца. Зараз я толькі пазачыняю ўсё і гаспадыню папярэджу, то і пойдзем.

Прыйшлі да той чарады, паглядзеў млынар на каровак і прамовіў ціха, але сурова:

— І навошта такое вырабляць? Каму гэта слёзы ды злосць радасць прыносяць?

Потым нешта пашаптаў, пашаптаў і павярнуўся да сялян:

— Забірайце і ганіце каровак дамоў. Памятайце: збожжа будзеце вазіць толькі да мяне малоць. І яшчэ я вам хачу сказаць: тую старую, якая сёння памерла ў вашай вёсцы, вы не на могілках хавайце, а збоку. І пракапайце глыбокую канаву.

— Навошта? — выдыхнуў нехта.

— Каб яна і з магілы да вас не наведвалася...

Сяляне ўсё так і зрабілі. І болей ніякія ні хваробы, ні пошасці на іхняе паселішча не находзілі. Тую канаву называлі чамусьці людзі між сабою — Калівец, а вёску пачалі называць ужо крыху па-іншаму — Закаліўе, бо за канавай жа стаяла.

## КРЫЎКІ

Мая маці казала, што назва нашай вёскі пайшла ад таго, што даўней у нас людзі надзвычай шкодныя жылі, так і глядзелі, каб каму дурное ўчыніць. Можа, яны і не жадалі балюча зрабіць, але і стрымацца не маглі.

А тады ж, вы ведаеце, Бог хадзіў сярод людзей па зямлі. Нездарма яшчэ і сёння дзе-нідзе гамоняць:

— Не вельмі выхваляйся, бо Усявышні з-за горкі выглядае...

Так атрымалася, што ішоў Бог аднаго разу якраз па нашых мясцінах. Здарожыўся, відаць, моцна і вырашыў адпачыць. Паглядзеў навокал і заўважыў, што непадалёку ад яго нейкі селянін поле скародзіць. Пасунуўся паціху прама на вяскоўца. Там, падумаў, і весялей сядзець будзе, і, можа, кавалкам хлеба пачастуе чалавек. Яно даўней так часта здаралася: то Усявышні скарынкай з кім дзяліўся, то яму прапаноўвалі апошняе людзі. Так разважаючы, Бог і падышоў да працуючага ўшчыльную, павітаўся і пытаецца:

— Як справы, гаспадар?

Селянін скасавурыўся на Бога і буркнуў:

— Табе да гэтага якая справа?

— Ды проста пытаюся. Неяк жа няёмка падысці да чалавека і не загаварыць.

— Калі ёсць пра што, то можна і пагаманіць, калі проста так языком мянташыць, дык прастуй адсюль. Няма ў мяне для цябе нічога — ні хлеба, ні солі.

— Я ж, здаецца, нічога яшчэ і не прасіў...

— А бачна па тваім твары, вунь як слязліва на мяне пазіраеш.

— Слязліва, бо вочы старыя і слязьмі залівае.

— Не толькі таму.

— А чаму яшчэ?

— Дармавога хлеба захацелася.

— Каб пачаставаў, дык і не адмовіўся б, — шчыра прызнаўся Бог.

— Вось бачыш, падышоў павітацца, а ўжо і есці просіш.

Усявышні раззлаваўся, не стаў болей гаманіць і пакрочыў далей, толькі бурчэў сярдзіта: «Што гэта тут за крыўлякі-крыўкі такія? Я яму слова, а ён, перакрыўляючы мяне, — дзесяць, ды яшчэ і абражае па-ўсялякаму. Крыўкі няшчасныя...»

Так і назва ў паселішча з'явілася — Крыўкі. І хоць людзі ў нас зараз працавітыя ды сумленныя жывуць і нікога не дражняць, усё роўна нехта дый нагадае: «Эх, Крыўкі гэтыя!..»

## МАЦЮШЫНА СЦЯНА

Непадалёку ад возера, там, дзе сёння горад Лепель, раскінулася адна невялічкая вёсачка. Месца там непараўнаўча прыгожае, а даўней жа прырода была яшчэ куды прыгажэйшай. Берагі возера пазарасталі ўсялякім лесам: раслі там і магутныя дубы, і светлыя разгалістыя ясені ды клёны, крохкія алешыны і асіны, непаўторныя красуні бярозкі і ліпкі, пахучыя чаромхі і касцястыя брызгліны — словам, усяго хапала.

І вось у тыя старадаўнія часы, калі ўсё навокал гэтак хораша цвіло-распускалася, і правалілася вёска Злыднёўка, а на яе месцы стала возера з востравам пасярэдзіне. Спачатку паселішча на ім было невялікае, як і паўсюдна, але потым пачало разрастацца, пашырацца і так стала горадам. Назвалі яго Лепелем.

Войны ж усялякія часта здараліся, таму калі прыспеў пэўны момант, то вырашылі жыхары горада пабудаваць крапасныя ўмацаванні, а сам Лепель абнесці высокай каменнай сцяною, каб чужынцам няпроста было падступіцца да абаронцаў, каб адпалохвалі гэтыя сцены іх, каб не думалі, што можна Лепелем лёгка авалодаць і пажывіцца тут за кошт мясцовых людзей.

Сабраў князь сваіх дружыннікаў, жыхароў усіх і сказаў:

— Вось што, шаноўныя, будзем умацоўвацца. Той час, калі мы за драўлянымі сценамі адседжваліся, прайшоў. Будзем цяпер на іхняе месца каменныя муры стаўляць. Справу трэба хутка зрабіць і надзейна, трывала, каб у цяжкую хвіліну без страху сядзець за імі ды адбівацца. Зразумелі?

— Зразумелі, княжа, — загарлалі воі. Ды так гэта дружна ў іх атрымалася, што людзі, асабліва гараджане, зарагаталі. Дружыннікі, наадварот, хмурылі бровы і пазі-

ралі на князя, што ён прамовіць. Валадар таксама ўсміхнуўся і адказаў:

— Сапраўды, крычаць моцна і б'юцца самааддана...

— Але ж гэта, княжа, яшчэ не ўсё.

— Хто там такі смелы, пакажыся? — нечакана запытаўся валадар. — Ці палохаешся і толькі з-за спін крычыш-насміхаешся?

— Чаго баяцца? — данёсся голас, і наперад выступіў высокі, моцна складзены чалавек. — Не баюся я, бо не насміхаюся, а хачу параіць, ці, дакладней, параіцца...

Князь уважліва паглядзеў на гараджаніна. На выгляд яму не было і дваццаці пяці сонцаваротаў, але зараз ён не смяяўся, трымаўся сур'ёзна.

— Дык што ты хочаш сказаць, чалавеча?

— Не трэба, княжа, спяшацца закладваць вежы ды сцены.

— Чаму?

— Тут мы можам людзей насмяшыць...

— Што вежы ўзвядзём, дык нехта смяяцца стане?.. — не зразумеў валадар.

— Не з гэтага, канешне, а з таго, што нашы вежы і сцены праз нейкі час абвальвацца пачнуць. Ды яшчэ калі ворагі ў такі момант пад бокам з'явяцца, увогуле безабароннымі акажамся...

— Растлумач, чалавеча, каб усе зразумелі, пра што ты гаворыш.

— Трэба, княжа, спачатку зямлю, на якой мы будаваць збіраемся, праверыць. Каб нідзе нізіна не трапілася, бо там заўсёды вада да паверхні зямлі блізка і сцякаецца з вышэйшых мясцін. Самы моцны камень у мокрай сцяне доўга трываць не будзе, вада што хочаш разбурыць, а сцяна ці вежа для яе не перашкода.

Князь ужо з павагай пазіраў на хлапчыну, падумаўшы: «Бачыш ты, малады, а гэтак хараша разважае...» Але запытаўся валадар зусім пра іншае:

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? Малады ж, здаецца.

— Так, княжа, малады, але гэта ведаю.

— А хто навучыў?..

— Дзядуля мой цэрквы ставіў. Хадзіў па гарадах і ставіў, дык і мяне за сабой вадзіў, бо бацькі мае рана загінулі. Ад яго я ўсё і пераймаў паціху.

— Дык чаму ж ты маўчаў, што такі майстар побач з намі знаходзіцца? Дзе твой дзядуля? Давай яго сюды.

— Няма яго, княжа, ужо трэці год як памёр. Таму і шкада, ён зараз вельмі спатрэбіўся б. А так...

— А ты што, без яго нічога не можаш?

— Чаму не, магу, але не гэтак, як ён. Ён зямлю наскрозь бачыў, ведаў, што да чаго. А я зусім мала будаваў. Дакладней, будаваў многа, але сам не кіраваў.

— Зараз давядзецца, чалавеча, кіраваць будоўляй. Усе мы маладымі былі, усе з нечага пачыналі. Пачынаць заўсёды цяжка, ды трэба. Як цябе завуць?

— Мацюша, княжа.

— Значыцца, так, Мацюша. Вазьмі, колькі табе трэба, людзей, якія спадабаюцца, і джгай вакол горада, вызначай, дзе можна ўзводзіць сцены і вежы. Астатніх я тут падзялю і без цябе. Давай, бо часу ў нас малавата, менавіта час нас і прыспешвае. Нешта неспакойна надта на граніцах нашых...

Мацюша ўзяў з сабой пару чалавек і пайшоў. Валадар хуценька размеркаваў людзей — каго камяні ды пясок вазіць, каго якую іншую справу рабіць, — і ўсе разышліся. Сам князь, з ваяводам разам, таксама працаваў.

Ужо справа да полудня набліжалася, калі да яго падбег Мацюша. Было відаць, што хлапчына задаволены.

— Ну, майстар, як справы? Усё зрабіў, што меркаваў?

— Так, княжа. Вызначыў і тыя межы, дзе трэба будаваць, і зараз, з Божай дапамогай, можна і за працу брацца.

— Дык і пачнём, чаго марудзіць. Я ўжо людзей разаслаў. Трэба камяні ў аснову сцен закладаць.

— Так. На ніз — самыя здаравенныя.

— Тут ужо ты кіруй, майстар, а я табе падпарадкоўвацца буду, бо гэтую справу ты лепей за мяне ведаеш.

— Як загадаеш, княжа.

І пачалася напружаная праца па ўзвядзенні гарадскіх умацаванняў. Спачатку на будоўлі працавалі толькі мужчыны, але потым да іх далучыліся і падлеткі, і жанчыны, бо бачылі людзі, якая цяжкая, але разам з тым і неадкладная гэта справа. Высокія сцены і ў саміх жыхароў адразу выклікалі пачуццё заспакоенасці, раўнавагі, гледзячы на іх, можна было адчуваць сябе ў адносна бяспецы. Вежы вывелі высокія і трывалыя, таўшчыня іхніх сцен была каля двух сажняў, гэткія ж прыкладна былі і крапасныя сцены. Ля брамы, праз якую павінны былі ўязджаць і выязджаць свае і чужыя, паставілі дадатковыя ўмацаванні.

Цэлы год шчыравалі лепельцы, але зрабілі свой горад амаль непрыступным. Ворагі, якія раней тут адчувалі сябе нібы рыба ў вадзе, наскочыўшы нечакана, ажно здзівіліся — за такі кароткі тэрмін і такая надзейная абарона. Але не адступілі, а вырашылі штурмаваць Лепель. Палезлі на сцены адзін раз, другі — атрымалі па зубах. Тады іхні ваявода загадаў абкласці горад і чакаць да таго часу, пакуль жыхары самі ў палон не папросяцца. Ды куды там! Са сцен толькі і неслася:

— Давайце да нас! Давайце сюды, мы вас тут чакаем і пачастуем ужо!

Пастаялі чужынцы ды, панішчыўшы навакольныя вёсачкі, павярнулі назад.

Так паўтаралася неаднойчы, і ўсё дзякуючы надзейным сценам і вежам, якія ўзводзіліся пад кіраўніцтвам Мацюшы.

Калі майстар паміраў, то папрасіў, каб яго пахавалі недалёка ад сцяны — яго першага вялікага збудавання. Людзі выканалі апошнюю волю Мацюшы. З цягам часу сцяна разбурылася, сам горад перамясціўся крыху ў іншае месца, але назва засталася. Таму і вёска наша называецца цяпер Мацюшына Сцяна.

## САВІН ДУБ

Казаў яшчэ мой дзед Ахрэм, што калісьці, у сівыя стагоддзі, тут зусім не было паселішча. Толькі кустоўе густое расло, а між ім сочная трава прабівалася. І што адметна — расла яна заўсёды: і тады, калі дожджык марасіў, і тады, калі ўсё навокал выгарала. Таму вяскоўцы з іншых вёсак сюды накіроўвалі сваіх начлежнікаў. Не глядзелі на тое, што далёка, што натомяцца, галоўнае, каб коней накармілі, бо калі коні галодныя, то ніякай працы ў гаспадарках не будзе.

Між тым кустоўем рос асілак-дуб. Не было такіх дрэваў болей у гэтых абшарах, адзін ён. Спакойна стаяў, велічна. Вятры як усходзяцца, дык кустоўе клоніцца да самай зямлі, а ён і не пахіснецца. Баяўся аднаго — маланак. І што самае галоўнае, яны яго амаль ніколі не міналі. Як выпаўзе чорная, груваcткая хмара, як пачне паласаваць-віжаваць неба сваімі маланкамі, то асілку нашаму даставалася, нібы хто прыцягваў да яго тыя маланкі. Здаецца, хмара і міне ўжо дрэва, але потым шарахне вогнен-

ны пук і прама ў пышную вершаліну ўвап'ецца ці ў таўшчэразны ствол. Калі людзі блізка да дуба падыходзілі, то ажно за галовы хапаліся.

— Гэта ж столькі вогненных стрэлаў ён у сябе атрымаў!

— Але ж, бачыце, жыве... Жывучы, значыцца, хоць казалі, што калі дуб крыху пашкодзіць, то ён болей расці не будзе.

— Няпраўду, выходзіць, гаварылі.

Дык той дуб атрымаў у людзей назву Савін Дуб. А чаму такую назву, спытаецеся? То паслухайце.

Калі Бог сусвет ствараў, то і сава, як і зязюля, і крумкач, жыла сярод людзей. На зямлі ўсе ладзілі. Разлад пачаўся з тае пары, калі Усявышняму ад людскіх грахоў давялося ўцякаць на неба. Як ён туды збег, то і парадкі адразу ж у многім перайначыліся. Спачатку людзі адасобіліся, потым падзяліліся на багатых і на бедных. І так ужо атрымалася, што птушкам ды звярам усялякім выпала разам з беднымі жыць-гараваць, не жадалі багатыя іх да сябе браць. Як ні прасіліся малодшыя браты і сёстры, як ні маліліся перад багатымі, а тыя толькі ў адно слова гаманілі:

— Не патрэбны вы нам. І сваіх клопатаў хапае, неставала з вамі яшчэ валэндацца. Ідзіце да галадранцаў, там вам і паесці знойдзецца, і адпачыць месца будзе.

З таго моманту ўсе жывыя істоты былі звязаны толькі з беднымі.

І жыў-гараваў тут недзе ў той далёкі час адзін селянін. Зямлі маленькі кавалачак меў, а дзяцей тых — што гароху ў хату насыпалася, і праз кожную гадзіну:

— Татка, есці хочам... Татка...

Маўчыць, маўчыць гаспадар, ды потым і ўзарвецца:

— Елі ж толькі што!..

— Усё роўна хочацца...

Тады за малых уступалася жонка і пачынала ўшчуваць мужа:

— Чаго ты, чалавеча, на дзяцей крычыш?

— Дык галава кругам ідзе ад такога вэрхалу.

— А мне, думаеш, не ідзе? Ці мне лягчэй нешта дастаецца? Няўжо ты не разумееш, што паелі яны той вады з нішчымнай лебядою, дык толькі жывоцікі свае паналівалі...

— Дзе ж ім есці ўзяць? — губляўся гаспадар.

— Гэта ўжо зусім іншая справа, але крычаць на малых не трэба, яны невінаватыя.

— Калі шчыра, то і не хацеў, неяк само вырвалася, — пачынаў ужо апраўдвацца селянін.

Часта такія гаворкі ў іхняй хаціне вяліся. Што зробіш, калі ўсім беднякам-гаротнікам гэтак перабівацца даводзілася.

Жыла з тым селянінам і ягоная старэнькая маці. Нікуды працаваць яна ўжо не хадзіла. Гаспадары на яе так і казалі:

— Пасядзі лепей, старэнькая, дома, паглядзі за дзецьмі, дык і дапаможаш гэтым.

Сын яшчэ стражэй наказваў:

— Маці, толькі глядзі за імі пільна, каб якой бяды не ўчынілі. Малыя, малыя, а ўвішныя, толькі адвярніся — што-небудзь выкінуць, дык потым давядзецца валасы на галаве рваць. Калі такое дапаможа...

— Добра, родненькія, — прамаўляла бабулька, задаволеная тым, што хоць нечым можа быць карыснай.

Так яны і ладзілі, так і дапамагалі адзін аднаму. Усё добра ішло: і дзеці былі дагледжаны, і старая задаволена, [redacted] пра гаспадароў дык і згадваць не даводзілася — нарадавацца не маглі на такую няньку. Хвалілі бабульку, а тая ажно цвіла ад радасці. Але і ў іх аднаго разу бяда здарылася. Вялікая бяда.

У той дзень гаспадар з гаспадыняй сабраліся ехаць на далёкае балота сена грэбці. Працы там было зашмат на дваіх, таму вырашылі ўзяць з сабой дваіх старэйшых дзяцей.

Яшчэ толькі світаць пачало, а селянін ужо тупаў па хаце.

— Глядзі, жонка, каб не забыліся дома нічога, бо адтуль вяртацца — час дарма губляць. Я праверу ўсё на возе, а ты тут паглядзі. Дзеці яшчэ якіх з паўгадзінкі няхай паспяць, зараз самы сон...

Чалавек выйшаў на падворак і пакіраваў да воза, а па хаце ўжо паціху пасоўвалася і бабулька.

— Паспалі б яшчэ, маці, — звярнулася да яе нявестка.

— Эй, родненькая, які ўжо ў мяне сон... Хіба ён у старых людзей бывае? Толькі вочы заплюшчыш, а яны чагосьці самі адкрываюцца. За ноч не адпачнеш, а толькі намучышся. Можа, і [redacted] чым дапамагу...

— Мы з вечара ўсё парабілі. Зараз толькі правяраем, каб не пакінуць чаго, бо потым жа вяртацца давядзецца ці шукаць на месцы якое прычындалле...

— Добра глядзіце, дзеткі, добра, а я дома ўсё давяду да ладу, за гэта не хвалюйцеся.

— Ды мы і не хвалюемся, ведаем, што цябе пакідаем за гаспадыню, — прамовіў гаспадар, заходзячы ў хату. — Ну што, будзі дзяцей, ды паедзем.

Пагаманілі так і паехалі на балота. Пакуль дабраліся, то сонца ўжо высока ўзышло. Узяліся за працу. Шчыруюць не разгінаючыся, а за імі сухое сена толькі шапаціць. Радуецца жонка, што многа сена і на надвор'е яго прыбяруць, а гэта значыцца, што ўзімку будзе добры корм жывёле. Гаспадар жа, наадварот: грабе, складвае і ўсё ў бок дома паглядвае. Жонка спачатку не звяртала на гэта ўвагі, а потым заўважыла і запыталася:

— Што гэта ты, чалавеча, адкідваешся? Хвалюе нешта?

— Ды разумееш, мне здаецца, што дома ў нас нешта не так.

— Там жа маці, мы ж і раней на яе гаспадарку і дзяцей пакідалі.

— Раней так, але тут пад сэрца ажно коле...

— Супакойся, гэта ты сам сябе заводзіш. Супакойся.

Цэлы дзень працаваў чалавек, вытрымаў неяк, і як ужо развялі вогнішча і сабраліся начаваць у будане, то ён звярнуўся да жонкі:

— Ведаеш, вы лягайце і адпачывайце, а я тым часам на коніку дамоў з'езджу. Не магу супакоіцца. Да раніцы вярнуся, і зноў пачнём працаваць.

— Не едзь, адпачні лепей, — пачала ўгаворваць яго жонка.

— Паеду, бо не магу... Вы адпачывайце.

Паджгаў мужык на коніку дамоў. І што ж вы думаеце? Прыехаў сярод ночы, а там плач-стогн стаіць, суседзі ходзяць. Ён давай распытваць, што здарылася, а яму і адказваюць, што ягоныя малодшыя дзеці — хлопчык і дзяўчынка — утапіліся. Упалі ў студню, а старая недаглядзела. Вось толькі зараз і знайшлі.

Усхадзіўся сын, пачаў маці клясці праклёнам: «Каб ты савою стала... Каб табе жыцця спакойнага не было... Каб ты днём спала, а ноччу лётала...»

Так усё на самай справе і здзейснілася. Паляцела тая сава-маці і стала жыць на старым таўшчэразным дубе. Адтуль і назва ў яго з'явілася — Савін Дуб, і пазней і вёску так назвалі.



# ЛЁЗНА

У адной вялікай вёсцы жыў дужа багаты купец. Можа, і не вёска гэта была, а якое мястэчка, — не ў тым справа. Галоўнае, што жыў ён з дзецьмі: хлопчыкам і дзяўчынкай. Раслі яны без матулі. Здарылася так, што аднаго разу, калі малады тады яшчэ купец вяртаўся з жонкаю з кірмашу, на глухой дарозе напалі на іх рабаўнікі. Пачаў купец адбівацца, але што ты адзін супраць многіх зробіш? Бачыць — няма паратунку, тады і крыкнуў жанчыне:

— Кінь ім грошы, няхай душацца! Кінь!

А яна ж, дурніца, пашкадавала:

— А раптам адаб'ёмся?..

У купца набоі ўжо скончыліся, ён схапіўся за вострую шаблю і ўжо ледзьве жывы прахрыпеў:

— Кінь, не шкадуй... Застанёмся жывыя, дык яшчэ болей назбіраем, а заб'юць нас тут, то каму гэтыя грошы спатрэбяцца?..

Маладзіца ж тая ўсё яшчэ вагалася, і ваганне каштавала ёй жыцця: нехта з нападаючых даў ёй шабляй па галаве. Тады купец усё ж неяк злаўчыўся, ударыў па той торбе нагою — яна і паляцела. Як пасыпаліся адтуль залатоўкі, як пакаціліся, то разбойнікі адразу кінуліся іх збіраць, а пра гаспадара і забыліся. Ён не даў маху — як джгнуў па конях, як свіснуў, дык яны віхурай нестрыма-

най паляцелі. Праз нейкую гадзіну дома быў. Але там пакуль людзей назбіраў і назад з імі вярнуўся, разбойнікаў і следу не засталося. Забраў толькі забітую жонку, дамоў прывёз і пахаваў на могілках.

Пасля таго выпадку Ахрэм, так яго звалі, усю сваю пяшчоту аддаваў дзецям. Трэба сказаць, што раслі яны паслухмянымі і працавітымі, ніколі не прымушалі бацьку на сябе крычаць ці за дубец брацца. Слова яго было для іх законам. Затое ўжо вечарам, калі спаць збіраліся, дык налашчыцца ніяк не маглі, з бацькам гуляючы.

Замест маці купец трымаў старую-старую пакаёўку, якая яшчэ яго некалі выгадавала. Яна і дапамагала, і па гаспадарцы правіла, калі Ахрэм ехаў некуды па сваіх гандлёвых справах.

Звалі хлопца Андрэй, а дзяўчыну — Марыся. Андрэй быў на два гады старэйшы за сястру, таму ён пастаянна імкнуўся ёй дапамагчы, а часам і павучаў. Тады ўжо сястра не вытрымлівала:

— Яшчэ адзін стары знайшоўся на маю галаву, і гэты мяне вучыць. У самога яшчэ вусы не выраслі, а ўжо камандаваць любіць.

Брат на такія заўвагі не крыўдаваў, наадварот, казаў:

— Я ж для цябе, дурніца, стараюся, хачу, каб табе лягчэй было.

— І ты, братка, на мяне не крыўдуй за гэткія словы, я ж жартуючы...

Так яны ігралі, так мірыліся і так, незаўважна, павыраслі. Хлапчына стаў, што той дуб: высокі, стройны, здаравенны, а ўжо такой прыгажуні, як Марыся, ва ўсім наваколлі нельга было знайсці.

Бацька заглядзіцца на яе і скажа незнарок:

— Вылітая маці, так і павернецца, так і ўсміхнецца... Не дачакалася яна гэтага дня, а то радавалася б, гледзячы на такую красуню...

Пачуе старая пакаёўка і таксама ўсхліпне ды прамовіць:

— Няхай зямелька ёй пухам будзе... Няхай ёй царства нябеснае на тым свеце будзе... Як яна, небарака, недарэчна сваё жыццё страціла...

Пасядзяць ціхенька, а потым пакаёўка і звернецца да гаспадара:

— Ты, Ахрэмка, глядзі, Марыську адну дома не пакідай і не пускай абы-куды. Бачыш, якая прыгажуня ў цябе

вырасла. Па ёй усе хлопцы ў наваколлі сэрцы сушаць, кожны аб адным толькі марыць, каб на яго хоць зірнула ці ўсміхнулася. Наглядай, каб чаго ліхога не здарылася. Насмяецца які злыдзень і пакіне...

— Ды што ты, бабуля, не дапусцім мы такога. Я і сам глядзець буду, і Андрэю накажу, каб пільна сачыў. Ды і ты ж пастаянна дома.

— Эй, Ахрэмка, які ўжо з мяне вартаўнік. Я ж далей уласнага носа амаль нічога не бачу...

Адкуль чакалі бяды, адтуль яна і прыйшла ў гэты дом. Праўда, прыйшла не ад маладых, прыгожых, адчайных хлопцаў, а ад вясковага... бацюшкі. Ён сябраваў з Ахрэмам, і сяброўства гэтае цягнулася ўжо не першы год. Мала таго, ён нават быў хрышчоным бацькам Марыські.

Андрэй бацюшку з глыбокага дзяцінства неўзлюбіў і пастаянна паўтараў:

— Гані ты, татка, гэтага гругана з падворка. Нешта ён усё тут круціцца, нешта вынюхвае... Гані прэч, каб вальней дыхалася.

Гаспадар заўсёды стрымана адказваў:

— Я, сынку, сабе сяброў не выбіраў, яны самі мяне выбралі. Дый і не табе пра іх меркаваць, малады яшчэ, каб з такімі словамі на людзей кідацца...

— Але ж злом ад яго цягне.

— Якім такім злом? Ён жа бацюшка. Бацюшка, разумееш?

— Ну і што з гэтага? — чулася ў адказ. — Калі бацюшка, то і злога ніколі не робіць?

— Што з табой, дурнем, размаўляць, — пачынаў злавацца Ахрэм. — Вось пажывеш з маё, тады і даведаешся, хто ёсць хто...

І як аказалася, меў усе падставы для сваіх сумненняў Андрэй. Пачаў бацюшка пільнаваць, калі ў купца ў хаце нікога, акрамя Марыські, не будзе, і дачакаўся. Сабраўся Ахрэм на кірмаш. Тавару многа набраў, на некалькі вазоў ледзьве ўклалі, таму і Андрэйку з сабою ўзяў, а па гаспадарцы ўпраўляцца пакінуў пакаёўку і дачку, ды яшчэ і наказаў перад ад'ездам дзяўчыне:

— Глядзі, Марыська, нікуды без майго дазволу не ідзі. Будзь дома, дапамагай бабулі, а як я вярнуся, тады і пагуляеш.

— Добра, — весела прамовіла тая, — будзем з бабуляй дома сядзець і песні спяваць.

Зарагаталі абедзве, і гаспадар у добрым настроі паехаў з сынам на кірмаш.

Бацюшка не спяшаўся бегчы ў хаціну да суседа. А раптам вернуцца, тады не паглядзяць, што ў рызе, што служка Бога, такога пытлю зададуць, што і святыя духі не дапамогуць.

Счакаўшы з гадзіну, пакіраваў да купцовага падворка. Бабулька нечага корпалася ў агародзе, дык і не пачула, як хтосьці дзверы ў хату адчыніў. Бацюшка, убачыўшы Марыську, павітаўся.

— Добры дзень, бацюшка, — адказала тая, — а нашых нікога дома няма, паехалі на кірмаш.

— Ведаю, але я не да іх, дачушка, ішоў, я да цябе.

— І па якой нагодзе?

— Сакрэт...

— Што ж такі за сакрэт? І мне нельга даведацца? — гулліва запыталася дзяўчына.

— Чаму няможна? Можна.

— Дык раскрывайце свой сакрэт, навошта час марнаваць.

— Праўду ты, Марыська, гаворыш, чыстую праўду. А прыйшоў я...

— Гэта я бачу.

— Прыйшоў, каб...

— Так вы і да вечара не адкрыеце сваю таямніцу.

— Ды каб з табою палюбіцца прыйшоў...

— Што?!

— Кажу, каб з табою палюбіцца...

Толькі цяпер заўважыла дзяўчына, што нечаканы госць не жартуе і ўсё бліжэй да яе падступае, вось-вось рукамі хапаць пачне. Адступілася яна ў кут і на бацюшку гнеўна пазірае:

— Яшчэ крок да мяне ступіце, і я закрычу.

— Крычы, а хто пачуе? Тваіх жа дома няма, а бабуля глухая, як той пень трухлявы. Так што лепей згаджайся. Не бойся, чаго ты баішся, дурніца?

Вырашыла дзяўчына на хітрасць пусціцца. Трэба ж неяк час пацягнуць і паспрабаваць знайсці выйсце, вось яна і кажа:

— Ой, што вы, бацюшка, што вы... Не магу я на такое пагадзіцца.

— Чаму?

— Ды сорамна мне.

— Толькі і ўсяго?

— А хіба гэтага мала?

І тут Марысьцы цюкнула ў галаву цікавая думка.

— Добра, бацюшка. Калі ты мяне добра папросіш, — адразу перайшла яна на «ты», — то, можа, і саступлю...

Чаго тут толькі стары распуснік ёй не наабяцаў, якіх слоў не нагаварыў, з кім толькі не параўноўваў прыгажуню, каб распаліць яе сэрца. А яна хітра пазірала на яго і таксама вочкі прыплюшчвала, быццам бы ўжо пагаджалася.

Бацюшка бліжэй падсеў, а яна тады яму на самае вуха шэпча:

— Пайшлі, бацюшка, адсюль.

— Куды гэта?

— Хіба не здагадваешся?

— Не.

— Ды тут жа нас могуць незнарок і людзі заўважыць...

— Якія людзі?

— А раптам хто прыйдзе ў хату?

— Дык куды нам ісці?

— Схаваемся дзе-небудзь. Ведаю адну мясцінку...

— Гавары — дзе, бо яшчэ завядзеш куды.

— Не палохайся, бацюшка, не палохайся. З маладой палюбіцца пажадаў, то крыху і патрывай. Пайшлі.

Марыська ўхапіла бацюшку за рукаў і павалакла за сабой. Збоку гледзячы, можна было і сапраўды падумаць, што дзейнічаюць змоўшчыкі.

Павяла бацюшку дзяўчына не куды-небудзь, [redacted] ў... лазню. Яна ж, хітрунка, вытапіла лазню перад гэтым, бо збіраліся з бабуляй памыцца. Адчыніла дзверы, а адтуль гарачынёю так і патыхае.

— Нам і так горача будзе, [redacted] ты яшчэ ў такі жар прывяла, — пачаў было гаманіць бацюшка.

— Жар касцей не ломіць, асабліва старых, — адрэзала прыгажуня.

— Гэта я стары?

— Не я ж.

— Спярша паглядзі, а потым ужо і гамані.

— Ды нядоўга засталося.

Бацюшка ад нецярпення ажно нагамі задрыгаў і загагатаў, нібы малады стаеннік.

— То чаго мы марудзім?

— Не ведаю. Распранайся, бацюшка.

— А ты?

— Дзверы зачыню, каб хто выпадкова не зазірнуў ды не заспеў нас тут...

Бацюшка хуценька распрануўся і праз хвіліну ўжо стаяў пасярод лазні ў чым маці нарадзіла. Нецярпліва чакаў, калі Марыська з перадлазніка выйдзе. Але тая паклікала:

— Бацюшка, хадзі сюды...

Голы мужык прыпусціў туды. Толькі высунуўся, а Марыська на яго як ліне з вядра кіпнем, а потым яшчэ раз. Тут ужо не да палюбоўнай справы! Як загарлаў бацюшка, як заверашчаў, дык ажно, здалося, сцены задрыжалі. Дзяўчына часу дарма не траціла — адчыніла дзверы, і нечаканы госць, голы, ламануў прама ў іх. Крычыць, верашчыць і напрамую джгае. Пакаёўка ўбачыла і, не разабраўшыся, падумала, што гэта нячысцік прэ, пералжагнулася і ў другі бок засучыла.

Прыехаў на наступны дзень Ахрэм з сынам. Пагаманілі, расказалі навіны ды спаць палеглі, а з самае раніцы гаспадар і кажа:

— Нешта бацюшка да нас не паказаўся. Звычайна, як толькі ■ прыязджаю, дык і ён на парог, ■ тут... Што б гэта значыла?

— Ветрам здзьмула твайго бацюшку, — не ўтрываўся Андрэйка.

— Пайду праведаю...

— Ага, збегай, ■ то ён, можа, перапрацаваўся і павярнуцца, небарака, не здолее. Збегай.

Сын з дачкою зарагаталі, а пакаёўка ўзвяла вочы пад столь:

— Няма на вас, маладых, супакою...

Пайшоў Ахрэм да свайго сябрука, а той ляжыць на ложку і стогне.

— Што з табой, бацюшка?

А той жа таксама хітры, прыдумаў, як выкруціцца.

— Збілі мяне люта, суседзе...

— Хто ж да такога даўмеўся?

— Табе скажы — ты не паверыш...

— Чаму гэта?

— Не паверыш, табе кажу, бо на гэтага чалавека ты ніколі і не падумаў бы... Ой, чалавеча, каб жа ты ведаў, як усё цела смыліць, як яно гарыць...

— Дык хто так цябе, бацюшка?

— Гэта ж як ты з сынам на кірмаш паехаў, я вырашыў выйсці на вуліцу. Ажно бачу, нехта праз плот да тваёй хаціны крадзецца. Я за ім. Падумаў, што злодзей хоча пакрасці нешта, ды памыліўся...

— А што ж там такое здарылася?

— Ды да тваёй Марыські, а да маёй хрышчонай дачушкі, нейкі ваўкарэзіна прыцёгся. Такі страшны, ваўкаватага выгляду. І давай яны мілавацца, ды так бессаромна, ды так... нікога не баючыся... Я закрычаў, каб яны злякаліся і пабеглі, але дзе там... Той хлапчына павярнуўся і не ўцякаць кінуўся, а да мяне. Як ухапіў, як пачаў лупцаваць, вопратку з мяне пазрываў... Голага мяне і кінулі ў мой агарод, ■ ні вопраткі, ні ботаў — нічога няма...

— А хто ж гэта быў?

— Разбойнік нейкі, бо добрыя людзі такімі не бываюць і так не выглядаюць.

— А дзе ён вас катаваў?

— У тваёй лазні, чалавеча, у лазні... Бачыш, якую ты дачку ўзгадаваў?

— Але ж...

— Што, не верыш? Мне не верыш?

На гэтае пытанне Ахрэм ужо не адказаў. Ён паджгаў да лазні, каб на месцы ўсё праверыць. Уляцеў у лазню, ажно і сапраўды: валяецца бацюшкава вопратка і, што самае галоўнае, штаны напалову разарваныя. Гаспадар нават і думкі не дапускаў, што гэта іх сам бацюшка з гарачкі і разарваў, калі спяшаўся дарвацца да прыгажуні. Пацямнела ў вачах у Ахрэма, як сляпы паплёўся гаспадар у хату і там накінуўся на дачку:

— Дык вось ты якая?

— Што такое, тата? Якая я?

— Не паспеў бацька з хаты выйсці, а ты любошчамі давай займацца! Гэтага ў нас ніколі не было і не будзе! Я табе бацька, я і вынесу табе свой прысуд!

Бедная Марыська села і горка-горка заплакала. Толькі гаспадара ў такім стане не маглі расчуліць гэтыя слёзы, хутчэй наадварот: яны падагравалі злосць.

— У маёй хаце табе, зласліўка, болей месца няма! Выбірайся прэч!

Заплакала дзяўчына яшчэ грамчэй і пайшла за дзверы, а гаспадару гэтага было мала, і ён раз'юшана закрычаў:

— Андрэйка!

— Я тут, не крычы.

— Вось табе стрэльба, завядзі гэтую гадаўку ў лес і там застрэль, а мне прынясі яе кашулю, каб я глянуў, ці ў крыві яна будзе! Ідзі!

Выйшаў хлапчына за сястрой і гамоніць:

— Пайшлі хутчэй адсюль, каб ён нас не бачыў, а то яшчэ сам задумае цябе забіць, і тады я не здолею дапамагчы.

Марыська загаласіла, а Андрэйка галаву ўхіліў і на сястру глянуць баіцца. Як жа так здарылася, што яна пачала гэткімі бруднымі справамі займацца? Тут сястра, нібы пачула ягоныя думкі, упала на калені і сказала:

— Матуляй нашай клянуся, яе светлай памяццю, што нічога такога не было. Гэта ўсё той чорт даўгагрывы напрыдумляў, бо я яго адвадзіла...

Завёў Андрэйка сястру ў густы лес і кажа:

— Здымі сваю кашулю, апрані маю світку... Пасядзі тут да вечара, нікуды не сыходзь. Я вярнуся, і мы разам пойдзем, не хачу я болей з такім бацькам жыць.

Прыклаўся і са стрэльбы забіў голуба, а яго крывёю вымазаў кашулю, каб бацька не сумняваўся ў тым, што ён ягоны прысуд выканаў. Прынёс дамоў і кінуў кашулю перад гаспадаром на падлогу:

— Вось, глядзі, — гэта тое, чаго ты дабіваўся. Болей у цябе, бацька, ні дачкі, ні сына няма. Сам жыві... з бацюшкам сваім у абдымку, а я сыходжу з дому...

Узяў Андрэйка самае неабходнае, пакаёўка колькі залатовак яшчэ паклала, якія за доўгае жыццё здолела назбіраць, і пайшоў, не развітваючыся.

Пакуль да Марыські дабраўся, то і змрок вечаровы на лес пачаў апускацца. Пасядзелі, супакоіліся, пераспалі ля вогнішча і вырашылі далей самі жыць. А як? Грошай няма, няма за што зямлі добрай у багатых паноў купіць. Тады Андрэйка схітрыўся прыдбаць за тыя залатоўкі лознае месца. Не такое ўжо і страшнае, тым болей што сваё. Збудавалі хацінку і сталі жыць. Потым і зямлю апрацоўваць пачалі, кустоўе тое вынішчаць, але назва засталася — Лознае, Лозна. Пазней ужо і Лёзна зрабілася.

# БЕСКАВА

Жыў у нас тут некалі адзін гаспадар. Звалі яго Антосем. Ад яго ўсё і пачалося, ад яго ўсё і пайшло. А здарылася вось што.

Той Антось быў працавітым чалавекам, але і зайздросным надта. Як толькі ўбачыць у каго-небудзь што лепшае ці прыгажэйшае, то адразу ж і бяжыць да таго гаспадара.

— Раскажы, братка, як гэта ў цябе атрымліваецца? — і чакае адказу.

Чалавек той пачынае неяк тлумачыць, часта зусім пра другое гаворыць, бо і сам не можа дакладна сказаць, як да яго поспех прыйшоў:

— Часта малюся, чалавеча... Стараюся кожны дзень што-небудзь рабіць, каб час марна не прападаў, вось таму і поспех мяне чакае.

І вось аднаго разу той Антось сабраўся везці зерне малоць. Раней жа ўсё з раніцы пачыналі рабіць, а калі млын далекавата знаходзіўся, дык і з вечара ў дарогу выбіраліся. Але наш гаспадар выбраўся з раніцы. Не паехаў, праўда, па той дарозе, па якой усе ездзілі, вырашыў напрасткі прыпусціць. Паспадзяваўся, што там дарога добрая, што конік у яго здаровы, да таго ж вельмі карцела потым пасмяяцца, што іншыя вяскоўцы паўдня дабіраліся, а ён за палову гэтага часу даехаў.

Едзе сабе, песні спявае. Тым часам лес густы пачаўся, змрочна зрабілася, нягледзячы на тое, што раніца. Гаспадар пачаў пакручвацца, нібы нешта яго перасцерагала, але каня не спыняў. Тут пад коламі пачала плюхаць вада, коніку даводзілася ўжо добра выжыльвацца, каб выцягнуць воз з гразі. Селянін злез з воза ды пайшоў побач, толькі і гэта не вельмі дапамагала. Конік ішоў, ішоў і раптам стаў, як укапаны. Як яго Антось ні біў, як ні імкнуўся яму дапамагчы, — не здолеў болей цягнуць. Даў яму вясковец адпачыць і зноў узяўся пугай пярэсціць. Бедная жывёліна напнулася, ірванула — кола затрашчала і разламалася на дзве палавіны. Схапіўся гаспадар за галаву:

— Каб жа цябе чэрці ўхапілі! Каб жа табе спакою на зямлі не было!

Незразумела, каго лаяў чалавек, навокал жа нікога не было — толькі знясілены конік ды густы, непралазны лес.

Выгаманіўся селянін і пачаў разважаць, як выбрацца і далей ехаць. Вырашыў скінуць мяхі на зямлю. Зрабіў. Ды што толку, калі кола няма. Прымайстраваў здаравенную галіну — цяпер конь цягнуў не толькі воз, і паўдрэва. Але ўсё ж паціху рухаліся.

Час ляцеў непрыкметна, дарога вужэла і рабілася яшчэ горшай. Антось быў у глыбокім адчаі.

— Прыцямнее, а я так і не даеду да млына. Не трэба было гэтулькі класці, то і абышлося б...

Нават у галаву не браў чалавек, што ён вінаваты ў тым, што здарылася.

Стаміўся сам, стаміўся конь. Воз спыніўся на месцы. Сядзіць Антось на пяньку побач з возам і на чым свет стаіць лаецца:

— Каб жа табе спакою не было, каб жа здароўя не прыбаўлялася таму, хто на мяне ў гэтыя дні чорным вокам глянуў і ўсё гэта зрабіў... Каб чэрці якія ў твой лёс убіліся...

Толькі ён праклён сказаў, як зусім побач нехта загаманіў:

— Калі ты, чалавеча, заключыш са мною хаўрус, то я буду табе заўжды дапамагаць. А воз да млына зацягнуць — гэта для мяне, што адзін раз плюнуць супраць ветру. Пагаджайся.

Крутнуўся Антось:

— Хто ты?

— Той, каго ты толькі што згадваў.

— Не хлусіш?

— Навошта мне хлусіць?

— А калі я з табою захаўрасуюся, ты мяне не падманеш?

— Дык мы дамову адпаведную заключым. Калі хто яе парушыць, то з таго потым і будзем зганяць грахі.

— Пачакай, дай падумаць.

Сказаў Антось, а сам разважае, якая ж яму выгода ад усяго гэтага будзе. Мяркуе так і гэтак, нарэшце задаволена выдыхнуў:

— Згодны.

— Цяпер паўтарай за мной, нічога не прапускай, каб потым не пераблыталі...

Нячысцік пачаў дамову тую ўголас гаварыць, а селянін за ім паўтарае-стараецца. Скончыў чорт і кажа:

— Цяпер, чалавеча, вось на гэтай бяросце распішамся.

— А чым жа распісацца?

— Дый распісвацца неабавязкова, проста пастаў свой знак, але ўласнай крывёю — гэта абавязкова.

Антось пагадзіўся, і тут закарцела яму падмануць чорта. Глядзіць — нячысцік па нейкай патрэбе адвярнуўся, дык ён па спіне ў коніка свайго рукой правёў, а там ад пугі рубцоў многа засталося, рука адразу закрывавілася.

— Давай, дзе знак ставіць?

Нячысцік падсунуў бярозту, і селянін весела ляпнуў па ёй далонню.

Чорт узрадаваўся:

— Цяпер мы з табой да скону веку хаўруснікі. Цяпер буду табе дапамагаць, ты толькі не губляйся, кліч мяне. Праўда, глядзі, каб людзей побач не было і каб нас ніхто разам не бачыў, бо ўсялякае пачнуць казаць, а гэта да дабра ніколі не даводзіла.

Гамоніць гэтак нечаканы Антосеў памочнік, а сам коніка выпраг, прывязаў ззаду да воза, на сябе хамут ускінуў і папёр цяжкі воз, нібы якую пушынку. Гаспадар сунецца, за хвост конскі трымаючыся, глядзіць, каб дзе не рэзнуцца, за які корч не зачапіцца ці на сук вачыма не ўбіцца.

Тым часам лес пачаў расступацца, і яны выперліся на шырокую паляну. Нячысцік павярнуўся да чалавека:

— Ужо зусім блізка засталося. Я цябе падвязу да самага млына, ты там пераначуй, а я за гэты час у каго-небудзь кола сапру. Да раніцы паспею. Ты спакойна адпачывай і галаву сабе гэтымі клопатамі не забівай. Цяпер мы разам за ўсё адказваем.

Прыцягнуў нячысцік воз, хамут з узмыленай шыі скінуў і паджгаў невядома куды шукаць кола. Антось коніка пусціў пасвіцца, а сам лёг на мяхі і адразу захроп. Ён і сапраўды адчуваў сябе спакойна.

З таго дня і пачалося гэтае незвычайнае сяброўства — чалавека і чорта. У вяскоўца ўвабралася такая вялізная сіла, што ён і сам не верыў, а сяляне пачалі сцвярджаць, што ў Антося ад нараджэння чортава рабро. Гэта азначала, што яшчэ з маленства ён атрымаў незвычайную здольнасць: перамагаць у паядынках, не ведаць стомы нават падчас самай цяжкай фізічнай працы. Спачатку людзі дзівіліся, а потым і баяцца чалавека пачалі. Ведама ж, працуе не болей за іншых, а дабро расце як на дражджах. Вясковец ужо і заганарыўся, абы з кім ужо і не размаўляў, гаварыў усё:

— А навошта мне з гэтымі галадранцамі вадзіцца? Што я, сабе роўных не знайду? Толькі свісну — і сябры ў мяне самі знойдуцца.

Будыніны сабе пастаўляў, што і ў паноў гэткіх не было, жывёлы трымаў не дзесяткі, а сотні, парабкаў ужо чалавек дзесяць было. Усё ішло нібы па маслу. Ды бяда здарылася нечакана: захварэў, ад старасці ўжо, той конік, на якім гаспадар у тую памятную ноч на млын ездзіў. Паглядзеў на яго Антось і прамовіў:

— Ад'ездзіў сваё... Нічога, маладыя падрастаюць...

Але як конік здох, то і гаспадара цяжкая хвароба скруціла. За нейкіх пару дзён і згарэў. Калі паміраў, то ўсё крычаў, родных ужо не пазнаваў:

— Адыдзі... Адыдзі... Бес... Бес, адыдзі...

Так і памёр з тым страшным словам на вуснах. Усё ягонае багацце праз некую гадзіну ўспыхнула і згарэла. Потым толькі людзі здагадаліся, адкуль усё ішло, і таму назвалі тую мясціну Бескава.

## ГАРЭЛІКІ

Ішоў адзін салдат дамоў, вяртаўся пасля таго, як дваццаць пяць гадоў цару верай і праўдай адслужыў. Не надта спяшаўся чалавек, бо балела ягонае сэрца, не спадзяваўся родных ды блізкіх сярод жывых пабачыць. Яшчэ б, гэтулькі часу прайшло! Маленькія дзеці, якіх ён пакінуў у вёсцы, самі сваіх дзяцей ужо займелі. Ці жывая там бедалага жонка, на якую ўсё звалілася, усё лягло непасільным цяжарам? Задумаецца гэтак салдат і ледзьве ногі перастаўляе, вочы слязьмі затуманьваюцца. Яму ў войску што было? І напояць, і накормяць, і спаць пакладуць, і скамандуюць, што рабіць. Там генералы думалі, а салдаты толькі выконвалі.

З такімі думкамі набліжаўся чалавек да свайго дома. Калі надвячорак насоўваўся, то прасіўся да якога гаспадара спаць, і ніхто салдату не адмаўляў. Наадварот, кожны запрашаў да сябе, есці прапаноўваў, бо людзі даўней гасцінныя былі, не тое што цяпер.

Аднаго дня крочыў па пыльнай дарозе. У паветры прыпарвала, нібы ў печы. Здавалася, што зараз зямля сама па сабе задыміцца, а садавіна ды гародніна папячэцца. Навокал палі стаялі счарнелыя — усё з таго, што даўно

дажджу добрага не было. Ды што там добрага, нават і кропелькі вільгаці з неба не выпала за ўсю вясну і лета.

Падышоў салдат да старога дзеда і звярнуўся да яго:

— Ці нельга, бацька, у цябе пераначаваць?

— Чаму ж, чалавеча, нельга? Можна. У мяне хата вялікая, дзеці асобна жывуць, мы са старой удваіх тут. Новаму чалавеку мы заўсёды рады. І пагаварыць ёсць пра што, і распытаць, тым болей што ты па свеце хадзіў і многае бачыў.

— Гэта так, бацька, па свеце мне давялося многа пахадзіць, пабачыць — таксама. А што гэта ў вас, даўно так прыпякае?

— Ой, чалавеча, і не пытайся. Можа, трэці месяц, а можа, і болей. Лічы, як пасеялі збожжа, то ніводнай кропелькі з неба і не выпала. Усё пагарэла. Хіба ж не адчуваеш, што нават дыхаць няма чым...

— Я здалёк іду, але там такой спякоты не адчувалася. Цёпла, праўда, было, а тут жа...

— Пайшлі, салдат, у хату, чаго мы тут, ля плота, стаім. Ужо і вячэра зварылася, так што ты якраз у час прыспеў.

— Ды я есці...

— Не адмаўляйся. Я сам ведаю, што такое ў дарозе месяцамі быць. Яшчэ дзень-другі куды ні ішло, [redacted] такі працяглы тэрмін далёка не кожны вытрымае. Падсілкавацца абавязкова трэба. Не саромейся, мы людзі простыя, і ў нас усё па-простаму, што сабе — тое і гасцям.

Зайшлі ў двор, [redacted] там і гаспадыня выскачыла, падарожнага ў хату запрашае:

— Заходзьце, не саромейцеся. Госць у хату — Бог у хату, — так некалі мяне, яшчэ зусім малую, бацькі вучылі.

Селі за стол, перакусілі і давай размаўляць. Пра што яны толькі не меркавалі, пра што не згадвалі. Цікава было і салдату даведацца, як у родным краі справы ідуць, і старым карцела пачуць, як людзі жывуць, якія ў іх норавы ды парадкі. Прагаманілі да трэціх пеўняў, тады толькі гаспадыня схамянулася:

— Ой, стары! Дык гэта ж чалавек з дарогі, [redacted] мы яго як зацугнялі сваімі размовамі. Яму ж спаць трэба ісці. Я зараз пасцялю на палку.

— Лепей, калі можна, я на сене. Прызвычаіўся за столькі гадоў дзе прыйдзецца спаць, а вось ад паху сена, які з дзяцінства ў галаве засеў, не адвык і да гэтых дзён. Колькі мне там паспаць — пару гадзін...

— Слухай, братка, — перабіў яго гаспадар, — а куды табе спяшацца? Сам жа кажаш, што паспееш, што сэрца заходзіцца... Пераначуй у нас, пабудзь і наступны дзень, ды яшчэ адну ноч паспі, сілы набярыся. Я з табой у хлеў спаць пайду, і мне захацелася на сена, тым болей што яно ў нас лугавое, духмянае, мяккае...

— Вазьміце сабе пад бок што ды накрыцца, начлежнікі, — ласкава прапанавала старая.

Прылеглі гаспадар з падарожным, але ніяк заснуць не маглі, усё размаўлялі. Ціха было на двары, і тут недзе далёка-далёка загрукатаў гром.

— Нарэшце, — вымавіў стары.

— Дабярэцца і да гэтых мясцін, — пагадзіўся салдат.

— Вельмі патрэбны дождж... Вельмі, бо голад запануе на вясну...

Заснулі яны неяк незаўважна. Салдат прачнуўся ад таго, што за сцяною, нібы з вядра, ліў густы дождж. Перакінуўся на другі бок, бліжэй да дзеда, і зноў заснуў.

Дождж ішоў цэлыя суткі, і, вядома ж, у такое надвор'е выпраўляцца было рызыкоўна, таму падарожны і застаўся ў гасцінных гаспадароў.

Зноў прыспеў вечар, і яны з дзедам зноў пайшлі спаць на сена. Слухаючы, як шуміць дождж, стары сказаў:

— Хай ідзе, зямелька нап'ецца, і яшчэ многае вырасце...

У тую ноч падарожны прачнуўся ад таго, што зусім побач размаўлялі. Галасы даносіліся не з хлява, а з кустоўя, што падыходзіла ўшчыльную да сцяны. Салдат ціхенька ўсхапіўся і праз невялічкую адтулінку паміж бярвеннямі, усяго ў пары крокаў, убачыў, праўда не вельмі выразна, некалькіх чалавек, якія, не зважаючы на праліўны дождж, спрачаліся. Адзін, відаць старэйшы з іх, даводзіў:

— Трэба з сабой усё забраць. Навошта тут кідаць?

— А калі па дарозе нас хто перахопіць? Як тады адмовімся, што гэта мы не нарабавалі? — не вытрымаў другі.

«Дык вось яно што, — пранеслася ў галаве ў падарожнага. — Дык гэта не простыя людзі, а разбойнікі, якія на дарогах мясцовых сялян ды купцоў абіралі... Сюды явіліся з нарабаваным і вырашаюць, што з ім рабіць...»

Салдат слухаў іхнюю гамонку, а сам вырашаў, што ж яму рабіць. Проста чакаць не выпадала. А раптам ра-

баўнікі забяруць усё з сабой і пойдуць далей? Так хоць ёсць шанц адбіць у іх што-небудзь. Паразважаўшы так, падпоўз да старога і пачаў яго катурхаць. Калі дзед прачнуўся, то коратка распавёў яму пра ўсё, і яны вырашылі паспрабаваць напалохаць нечаканых гасцей.

Ухапіў салдат вілы, дзед узяўся за цэп, і, нячутна адчыніўшы дзверы, выслізнулі ў цемру. Неўзабаве цішыню і шум дажджу прарэзалі страшэнныя крыкі: «Трымай! Акружай! Акружай іх! Вось яны!»

Крычалі зусім побач, таму ад таго месца, дзе толькі што стаялі рабаўнікі, пачуліся тупат, нейкае бухканне, а потым ужо заціхаючы трэск кустоў. Чужынцы ўцякалі, не выбіраючы дарогі. Салдат з дзедам не падыходзілі да тае мясціны, адкуль уцяклі рабаўнікі, да самае раніцы, і толькі калі пачало шарэць, падаліся туды. Тое, што яны ўбачылі, заставіла іх здранцвець: навокал валяліся каштоўнасці і грошы. Іх было столькі, што ні стары, ні падарожны да гэтага часу нават не бачылі гэткай колькасці. Пазбіралі яны ўсё, падзялілі на роўныя часткі — атрымалася якраз па падарожнаму мяшэчку, які салдат нёс за плячамі.

Перайшоў той дождж, і салдат пачаў збірацца ў дарогу. Развітаўся з гасціннымі гаспадарамі і пайшоў.

Недзе ўсяго за тыдзень і дайшоў. Апошнюю ноч начаваў у закінутым хляве. Вырашыў, што з'явіцца ў паселішча сярод белага дня. Але сон не ішоў, і калі толькі пачало займацца на дзень, ён ужо бег да роднай вёскі. Вось і знаёмая пакручастая лясная дарога, рэчка. Выскачыў на пагорак і... жахнуўся: навокал стаялі адныя папялішчы і ў іх людзі капашыліся. Кінуўся да бліжэйшай купкі і давай распытваць, што здарылася? Аказалася, што былі тут моцныя навальніцы з маланкамі і папалілі многія вёскі. Сказалі, што ягоныя родныя жывыя, і паказалі, дзе іх знайсці. Нібы на крылах паляцеў да іх падарожны. Падбег, слёзы коцяцца, і паўтарае ўсё: «Гарэлікі вы мае родныя... Нічога... Нічога... Абы ўсе жывыя... Грошай у мяне хопіць, каб усю вёску адбудаваць... Гарэлікі вы мае... Гарэлікі...»

Як паставілі людзі новыя хаціны ды іншыя будыніны, то і назвалі вёску тым самым словам, якое вымавіў салдат, убачыўшы, якая бяда ў іх здарылася, — Гарэлікі.

# ЛЫНДЗІНА

Жылі два мужыкі. Абодва працавалі, абодва стараліся, каб неяк выбіцца ў заможных гаспадароў. Толькі Петрусю шанцавала, бо ў яго і жонка працавітая была, і дзеці многа дапамагалі, а Хведару не вельмі шэнціла. Справа ў тым, што і яму дзеці дапамагалі, і сам ён выжыльваўся, але вось жонка ягоная ўсю сям'ю назад цягнула — працаваць не любіла. Едзе Хведар у поле, а гаспадыні наказвае:

— Ты ж глядзі, каб усё тут было прыбрана, усё дагледжана, іначай сама ведаеш, што атрымаеш... Я са старэйшымі дзецьмі прыеду позна, зморымся, то каб і есці своечасова на стале стаяла. Мне — як мне, а вось малым памочнікам каб абавязкова ўсё было.

— Ды што ты, Хведарка, — заліваецца тая, — хіба ж я не ведаю, хіба ж мне ўпершыню?

— Во-во, таму і наказваю, што не ўпершыню. Другая гаспадыня да ўсяго сваім розумам дойдзе, а табе трэба пра ўсё распавесці, ды яшчэ і прасачыць...

— Ой, чалавеча, не турбуйся. Усё зраблю, яшчэ і дзякуй скажаш.

Дзеці ўжо болей не вытрымлівалі і прыспешвалі бацьку:

— Татка, паехалі хутчэй, бо час марнуецца. Людзі ўжо едуць, і нам няма чаго позніцца.

— Добра, родненькія, паехалі, — прыслухоўваўся да сваіх памочнікаў Хведар.

У полі наварочаюць гэтулькі, што людзі і вачам не вераць, ці ж можна столькі зрабіць аднаму даросламу чалавеку з дзецьмі. Толькі і чуваць навокал:

— Во гэта работнікі. З такімі дзецьмі гора — не гора, бяда — не бяда. З імі што хочаш можна перавярнуць, толькі падказвай, павучай...

Радуецца бацька, пачуўшы такія словы, радуюцца дзеці, хоць ад стомы ўжо і да воза не могуць дацягнуцца. Хведар сам іх пазаносіць і супакойвае:

— Зараз прыедзем дамоў, там маці вячэру на стол паставіць. Падсілкуемся, і заваліцеся на палок. Заўтра будзеце спаць доўга, бо ў полі мы справіліся, а тую працу, што ля падворка, я і сам зраблю. Зараз, яшчэ крыху патрывайце...

Дзеці слухаюць тату, а вочкі іхнія самі па сабе зап-

люшчваюцца. Хведар коніка паціху падганяе, каб іх не разбудзіць, каб даць магчымасць паспаць дарогай.

Працавалі звычайна дапазна, ніколі раней за людзей назад не выязджалі. Таму пакуль даедуць, то і змрок ужо запануе ў наваколлі. Уздыхне цяжка-цяжка гаспадар, нібы адчуваючы, што яго дома чакае, і ťазаносіць дзяцей у хаціну. А там... Божачка, ды лепей бы ён такога не бачыў: бруд, смецце, есці яшчэ не наварана, ■ калі і ёсць што, то ці перасолена, ці згарэла. Смярдзіць так, што не прадыхнуць. Усходзіцца селянін:

— Што ў цябе на гэты раз атрымалася? Чаму зноў нічога не прыбрала і не зварыла? Дзе ты цэлы дзень валачылася?

Жонка не каб памаўчаць — пачынала адказваць, ды такімі словамі, што неўзабаве і Хведар замаўкаў, бо адчуваў, што ўсё роўна лайдачцы нічога не дакажаш. Пачынаў яе сарамаціць:

— Мне дык што, я і так спаць лягу, але ж дзеткі нашыя... Няўжо цяжка зварыць своечасова, зрабіць так, каб усмак паелі? А то за кожным разам то перасолена, то перапалена, а закрані, дык назавеш шэраг прычын, з-за якіх нібыта і не паспела нічога зрабіць. Як жа табе не сорамна?

Гаспадыня і тут знаходзілася:

— Думаеш, дома працы ніякай няма? Ты як паехаў у поле, дык я і не прысела, ■ ўсё...

— Ляжала ды ляжала, — перабіваў яе вясковец.

— І не ляжала, толькі прылегла, бо галава закружылася.

— А есці чаму не зварыла?

— Не паспела.

— Дык жа дзеці...

— Дзеці спяць зараз, і не трэба іх чапаць, а раніцай ■ смачны сняданак зраблю, яны тады падласуюцца і за вечар, і за раніцу.

— Хто табе, лында, паверыць? Ці ж ты першы раз мяне падманваеш? І хацеў бы пахваліць цябе, ды няма за што.

— Пабачым, як ты дома ўправішся, калі я жыта жаць пайду.

— Ты пойдзеш... Адну цябе я не пушчу, разам будзем гнуцца, там і пабачым.

— Усе жонкі самі ўпраўляюцца, а чаго гэта ты за мной папляцешся?

— Добра, паглядзім. Да гэтай справы яшчэ далёка. А гаспадаркай не палохай, я спраўлюся, не тое што ты. Сама лында і з лындамі сябруеш.

Пасварацца так, і Хведару ўжо і есці не хочацца. Якая там ежа, калі ўсё цела ад стомы смыліць, ды каб жа яна была добра зварана, а то...

Так чалавек і пакутаваў з лайдачкай. Доўгі час трываў, больш за два дзесяткі гадоў. Ужо дзеці падняліся, дапамагалі спраўна, і ён пачаў свайго суседа па здабытках даганяць. Але гаспадыня не перайначвалася. Тады задумаў гаспадар адвучыць яе ленавацца.

Аднаго разу пасылае ён жонку ў лес і кажа:

— Схадзі ды наламай бярозавага голля, а я венікаў навяжу. Пакуль ты да лесу сходзіш, то я з хлопцамі гной з хлява выкіну.

— Давай я выкіну, а ты схадзі, — запрапанавала жонка.

— Не, калі я пайду, то хлопцы будуць гной выкідаць, а ў цябе якая воўчая хвароба падкінецца. Ідзі ў лес, ды не баўся надта.

Хведар узяўся з хлопцамі за працу, і за нейкую гадзіну вывалілі ўвесь гной. Селі дух перавесці, гаспадар і кажа:

— Вы, хлопцы, на агарод самі павазіце, а я пайду гляну, чаго гэта маці так доўга няма.

Пайшоў Хведар у лясок, а па дарозе выразаў добрую-такі гнуткую лазіну. Ведаў чалавек, на што яе рыхтаваў. Хадзіў, хадзіў, але нідзе жонкі не было. Пачаў шукаць па кустоўі і неўзабаве напароўся на сваю гаспадыню — тая соладка спала на духмянай траве, а побач ляжала ўсяго некалькі бярозавых голек. Усхадзіўся Хведар:

— Ах ты, лында! Ды я цябе ў лес паслаў, пашкадаваў, каб з гноем не рвалася, а табе і гэтая праца цяжкая?! Зараз ты ў мяне паскачаш!

А жонка і не чуе, толькі на другі бок павярнулася. Вось тут і пачалося самае галоўнае. Як замахнуўся Хведар, як сакануў лазінаю ды як закрычыць:

— Гэта табе за ўсе мае крыўды, за ўсе здзекі над дзяцьмі! Лында ты смярдзючая!

Гаспадыня прахапілася, хацела на ногі ўсхапіцца, ды дзе там, моцныя ўдары збівалі з ног. Тады яна папаўзла, а гаспадару гэта і трэба было. Пачаў ён пярэсціць па спіне і прымаўляць:

— Гэта табе лынды біць! Ці ты пакінеш гэты занятак, ці заб'ю ў гэтым ляску!

Лупіў да таго часу, пакуль дамоў не дабраліся. Стагнала, раўла жонка, але Хведар не звяртаў увагі.

Людзі бачылі, як ён яе пярэсціў, дык пасля таго выпадку і празвалі тое балотца-лясок — Лындзіна. Потым там пракапалі канавы, вада сышла, і сталі вяскоўцы на добрай зямлі будынкі ставіць, [redacted] месца па-ранейшаму так і называлі — Лындзіна.

## ЧАРНІЦА

Жыла ў нас некалі, можа стагоддзяў шэсць таму назад, адна жанчына. Усе звалі яе не іначай як Чарніца. Гэта павялося не ад таго, што яна не мылася ці брудна апраналася, не. Справа ў тым, што яна знала шматлікія замовы, сябравала з нячысцікамі і даволі часта палохала сваіх суседзяў. Казалі, што рабіла яна гэта назнарок, каб яе яшчэ болей баяліся. Іначай як можна было растлумачыць, напрыклад, такое: стаіць ціхае надвор'е і раптам усходзіцца страшны віхор, закруціць, засвішча, нагоніць чорную хмару, і тая насваволіць — спаліць пару хацін, паваліць збожжа на нівах. Тады ўжо збіраліся суседзі і шапталіся: «Яна гэта зрабіла... Чарніца... болей няма каму...» — і па баках азіраліся, каб не пачула тая жанчына, бо яна магла адпомсціць.

І што ж вы думаеце? Як ад яе ні хаваліся, як ні прыкрываліся, [redacted] яна заўсёды ведала, пра што гаманілі і што рабілі супраць яе. Заскрыгоча зубамі і сплюне: «Вы ў мяне яшчэ паскачаце... Я вам гэтага не дарую... Будзеце ведаць, што да чаго...»

Распавядалі, што даўней яна жыла з мужам, але чалавека яе некуды на вайну забралі, і ён не вярнуўся. З таго часу Чарніца жыла адна. Спачатку спрабавала па людзях хадзіць, на працу наймацца, а потым спадабалася ёй збіраць у лесе ўсялякія зёлкі і травы і сушыць іх на зіму. Недзе там, шапталі, яна і запрадалася нячысцікам, бо пасля таго стала напускаць пошасць і ўсялякія хваробы.

Жыў у гэтай мясцовасці яшчэ адзін стары дзед, які таксама шаптаў замовы. Да яго і звярнуліся людзі, каб дапамог, падвучыў ці навучыў якому шэпту таямнічаму, які ўплываў бы на вочы і словы жанчыны. Той стары ўважліва выслухаў людзей і запытаўся:

— І даўно гэта стала рабіцца ў вашых падворках?

— Не, не надта... Можа, месяц прайшоў, можа, болей ці крыху меней...

— Каб хто дакладна сказаў, калі першы раз такое здарылася і з кім... Можа, жывёліна захварэла ці хаціна загарэлася?

— Не ведаем такога... А навошта вам гэта?

— Мне тады лягчэй замовіць, навесці на яе вочы туман, які перашкаджаў бы людзям шкодзіць.

— Не, дзедку, не прыгадаем мы такога дня... Дапамагайце, калі ласка, так...

Упрасілі старога вешчуна людзі, каб ён за той жанчынай — Чарніцай — пасачыў і паспрабаваў навесці на яе свае ўжо чары.

Дзед па сцяжынцы падышоў да хаціны варажбіткі і сеў на невысокі каменьчык насупраць дзвярэй пахілай хацінкі, у якой жыла жанчына. Доўга сядзеў, ажно надакучыла, ужо хацеў пайсці, і тут адчыніліся дзверы і на парозе паказалася Чарніца. Яна пайшла прама на старога. Дзед дарма час не губляў, пачаў шаптаць і паплёўваць сабе пад ногі. Чакаў, што варажбітцы зараз дрэнна стане і яна прысядзе ці ўпадзе, ды такога не здарылася. Наадварот, яна падышла да старога ўшчыльную і ціха запыталася:

— Ты чаго, стары чорт, сюды прыцягнуўся?

— Ды я...

— Што ты за мной паўдня ўжо цікуеш?

— Ды я...

— Хто цябе сюды паслаў? Прызнавайся, каб горай табе не было...

— Мяне... Я сам... Стаміўся і сеў...

— Стаміўся? Сеў? І гэтулькі запар прасядзеў?

— А што мне, старому...

— Ведама што — працаваць не трэба. Дармовага хлеба задумаў пакаштаваць? Гавары, бо усё роўна даведаюся, але тады табе бяды нараблю...

Дзед не спалохаўся, але адчуў, як ягонае цела нібы наліваецца волавам і становіцца надзвычай цяжкім. Болей таго, ён пачаў адказваць на ўсе пытанні, прычым гаварыў праўду. Так і выдаў няшчасных людзей.

Вяшчунку затрэсла са злосці:

— Ну цяпер вы ў мяне паскачаце! Цяпер я вам дагаджу! Але найперш цябе, старога пня, пакараю! Каб ты сколькі жыў, столькі і трымцеў! Прэч ад гэтага каменя!

Як прамовіла яна гэтак, дык старога вешчуна затрэсла, нібы лазовы кусцік, і ён уподбежкі прыпусціў ад Чарнічынай хаціны. Пасля таго выпадку ён з ляжанкі болей не ўставаў — ляжаў і стагнаў, бо яго моцна трэсла, да таго ж нікога не пазнаваў. Вось што нарабіла з ім Чарніца.

Пасля такога здарэння суседзі зусім прыціхлі. Баяліся не тое што слова супраць сказаць, але нават прайсці міма той страшнай, пахіленай хаціны. Здавалася, што вось зараз адтуль нехта выйдзе, закілзае рукамі і павалачэ, каб здзекавацца, варажыць.

Але такі ход падзей ужо не задавальняў і саму Чарніцу. Ёй спачатку было добра, што ўсе яе баяліся, а потым стала сумна. Як жа гэта жыць, калі нікога нельга ні пакрыўдзіць, ні праклясці? Дык пачала ўжо ў адкрытую паляваць за людзьмі. Не ўпадабае некага і давай шукаць падставу, каб адпомсціць. І будзе па следзе хадзіць да таго часу, пакуль чалавек той не забудзецца, што за ім сочыць пільнае вока, і нешта не парушыць. Тады і пачынаецца!

Так працягвалася доўга. Ніхто супраць не выступаў, усе баяліся. Ды і зразумець вяскоўцаў можна: кожны меў сям'ю, дзяцей... Але адзін выпадак палажыў канец іхнім бядотам, ■ для Чарніцы стаў пагібельным.

Жыў на хутары ля сваіх бацькоў хлопец. Звалі яго Мартынам. Займаўся хлапчына кавальскай справай, і такім майстрам стаў, што ва ўсёй ваколіцы лепшага за яго не было. Да таго ж і з сябе прыгожы быў: высокі, здаравенны, рукі — што абцугі. І што ж вы думаеце? Чарніцы ён нечым не спадабаўся. Праўда, некаторыя казалі адваротнае: што яна яго пакахала і гэтак старалася да сябе прысушыць. Як бы там ні было, толькі для Мартына прыспелі цяжкія часіны. Пачне працаваць — тут ні з таго ні з сяго агонь патухне ў горне. Пачне жалеза гартаваць — яно не награваецца. Плюне хлопец, раззлуецца і тут пачуе ўдалечыні смех. Гэта Чарніца так радавалася свайму поспеху, таму, што перашкодзіла чалавеку спакойна займацца ўлюбёнай справай.

Так яна рабіла не раз і не два. І ўсё ж Мартын, даведзены да адчаю, вырашыў не паддавацца. Задумаў ён звесці Чарніцу са свету. Але ж яе не заб'еш і не засячэш, яна сама каго хочаш жыцця пазбавіць. І тут яму цюкнула ў

галаву. Прыдумаў каваль своеасаблівую пастку: панавыкопваў глыбокіх ямін. А тады якраз вясна дажджлівая стаяла, іх вадою адразу і пазацягвала. Хлапчына зверху ўсё старанна замаскіраваў голлем, мінулагоднім лісцем і стаў чакаць, калі чараўніца зноў заявіцца.

На наступны дзень, пад самы вечар, Мартын спецыяльна выбраў такі час, Чарніца прыджгала пад кузню і стаілася. Каваль яе заўважыў. Узяў паціху гарачы шворан, непрыкметна выслізнуў за дзверы і як загарлае:

— А цябе хто тут чакае?!

Чарніца нават не паспела нейкія там шэпты прамовіць, спалохалася і пабегла, а Мартын за ёю. Ляцела жанчына, дарогі не разбіраючы, і гопнулася ў глыбокую яміну, толькі бурбалкі зверху паказаліся. Так яна і ўтапілася. Тое месца сталі людзі Чарніцай зваць. Тых ямін ужо даўным-даўно няма, ■ назва і вёска засталіся.

## ШАХІ

Некалі людзей на вайну забіралі ў далёкія краіны. Загадае цар, пазабірае ўраднік мясцовых хлопцаў, і пайшлі яны. Назад вярталіся адзінкі, ды яшчэ і тое добра, каб жывы ды здаровы і каб не калека... Многа тады калек па белым свеце хадзіла, хлеба кавалачак просячы ды прыткнуцца на пару гадзін у сена ці проста на голую падлогу. Ніхто такім людзям не адмаўляў. Ведама ж, самім цяжка было, але і іх заўсёды разумелі.

У нашым паселішчы, кажуць, аднае вясны забралі чалавек дзесяць. І як пайшлі яны, то нібы скрозь зямлю праваліліся. Вярнуўся толькі адзін — ссівелы, зранены, але не калека. Усё сам рабіў, усё даглядаў, ды яшчэ і іншым раіў, бо наглядзеўся, як гаспадарку ў розных землях вялі, як там ад голаду ды холаду выкручваліся.

Пагаманіць той чалавек любіў, як ніхто іншы. Асабліва яму падабалася распавядаць усялякія гісторыі, якія нібыта з ім самім ды з ягонымі сябрукамі-салдатамі адбываліся. Для людзей той адстаўны салдат застаўся Шахам. Чаго яго так дзіўна празвалі, ніхто дакладна сказаць не мог, толькі адзін стары вясковец, можа сучаснік таго салдата, прамовіў незнарок:

— Так празвалі, бо часта нейкага Шаха згадваў. Ці то ваяваў, ці то сябраваў з ім... Людзі так гаманілі, то і я вам пераказваю...

Ад таго салдата да гэтага часу многа здарэнняў распавядаюць. Да якой дзяўчыны звяртаючыся, Шах пытаўся, нібыта неспадзеўку:

— Парасачка, а дзе ты была?

— У Бога.

— А што рабіла?

— Красенне ткала.

— Што зарабіла?

— Кубэлак сала.

— А дзе паклала?

— Пад сталом.

— А чым накрыла?

— Хусцінкаю.

— А дзе ж тое сала?

— Кот ухапіў.

— А дзе ж той кот?

— Пад печ пайшоў.

— А дзе ж тая печ?

— Вадой заплыла.

— А дзе ж тая вада?

— Валы папілі.

— А дзе ж тыя валы?

— Падохлі.

— А дзе ж тая дохля?

— Кветачкамі зарасла.

— А дзе ж тыя кветачкі?

— Дзеўкі парвалі.

— А дзе ж тыя дзеўкі?

— Хлопцы-жаніхі пабралі.

— А дзе ж тыя жаніхі?

— На вайну забралі...

Пасля гэтага ўсе надоўга заціхалі. Маладыя разважалі, як можа іхні лёс скласціся, ■ старыя плакалі горкімі слязьмі, прыгадваючы родных ды блізкіх, якія так і не вярнуліся дамоў з далёкіх паходаў, з крывавых бітваў.

Шах заўважаў, што людзі смуткуюць з ягонага аповеду, і пачынаў іх супакойваць:

— Чаго ўжо вы гэтак замаркоціліся? Не палохайцеся.

— Як жа не палохацца, калі гэта чыстая праўда? Хіба ж толькі цябе з вёскі забіралі, а бачыш, колькіх дачакаліся...

Пасля такіх перакананняў замаўкаў ужо Шах. І яму, відаць, было цяжка ўспамінаць сяброў-таварышаў, якіх

хаваў у розных краінах, далёка ад роднай зямелькі. Потым узмахваў галавою і рашуча казаў:

— Ды чаго ўжо яе гэтак баяцца?

— Каго? — не разумелі астатнія.

— Смерці.

— Смерці?.. Ну вы, дзядзька, скажаце...

— Ды я яе мноства разоў побач бачыў, лічыце, што за руку з ёю здароўкаўся, ■ вось жывы, перад вамі сяджу, вам пра здарэнні тыя распавядаю.

— Пашанцавала вам, дзядзька.

— Не без гэтага, родныя, не без гэтага... Мог бы і я ў чужым краі зямельку парыць, і тады перад вамі сядзеў бы нехта іншы...

— Хопіць, дзядзька, пра гэта, давайце пра весялейшае.

— Не, раскажу вам яшчэ пра тую самую смерць. Мой сябрук некалі распавядаў, а ён усё гэта на ўласныя вочы бачыў.

— Як жа такое магло прыключыцца?

— Ды ўжо ж атрымалася... Вось аднойчы паехаў ён з бацькам ноччу па дровы.

— А чаго гэта ноччу? — перапытаў нехта недаверлівы.

— Ды іх жа, чалавеча, кралі ў панскім лесе. Значыцца, паехалі яны па дровы. Насеклі добры воз, прывезлі на падворак, ■ трэба ж было паспець парэзаць да світання і прыхаваць, каб ніхто не заўважыў ды памешчыку не данёс. Адпачылі бацька з сынам пару хвілін і пачалі рэзаць. Пілуюць і па баках азіраюцца ды прыслухоўваюцца, каб хто не нарваўся. Нікога чужога не было відаць паблізу і не чуваць. Мужчыны вырашылі крыху дух перавесці, бо дроў ужо зусім мала заставалася. Селі яны, перашэптваюцца, і тут усхадзіліся сабакі. Бацька збялеў і прашаптаў:

— Цяпер нам усё... Нехта высачыў...

Сын крутнуў галавою і адказаў:

— Не спяшайся, можа, абыдзецца...

— Чуеш, як сабакі завылі?

— Так... Але трэба глянуць...

Сын хуценька пакіраваў да варот і стаіўся за імі. А той брэх усё бліжэй і бліжэй пасоўваецца, ужо ў суседнім завулку сабакі заходзяцца. Лёг хлопец на зямлю, каб яшчэ меней заўважным быць, і тут убачыў прыгожа апранутую паненку, якая няспешна кіравала па вуліцы прама...

на яго. Валасы ў хлапчыны дыбарам сталі, хацеў было ўцякаць, людзей на дапамогу клікаць, але ногі нібы прыкіпелі да зямлі. А паненка ідзе сабе, па баках азіраецца, нібы і не спяшаецца нікуды. Параўнялася з хлопцам, прыпынілася на хвіліну... і далей рушыла. Хлапчына з палёгкай уздыхнуў і стаў глядзець, куды ж яна пойдзе. Ажно павярнула да суседняй хаціны.

Раніцай па вёсцы пранеслася навіна: у той самай хаціне памерла маладая дзяўчына, якая ўжо год з ложка не ўставала...

Такія гісторыі распавядаў Шах маладым і старым. Паважалі яго людзі, за парадай часта звярталіся, і ён нікому не адмаўляў. Сваіх дзяцей у яго не было, дык ён двух сірот узяў, іх таксама Шахамі звалі. Так і сталі нашыя Шахі.



# МІЁРЫ

Тут некалі жыў чалавек адзін, яўрэй. Звалі яго Меер. Талковы надзіва. Меў не толькі карчомку, але і сваю зямлю, якую апрацоўваў амаль што ўсю сам. Калі і наймаў работніка, то на які тыдзень. Атаясамліваў працу з сумленнем, так і гаварыў: «Той вясковец сумленны, які многа працуе. Калі чалавек многа працуе, то ён мае свае грошы, а не чужыя. Яму красці не выпадае, бо сумленнае імя даражэй за ўсё на свеце. Лайдаку ды гультаю — тым законы не пісаны, яны што хочуць, тое і робяць, бо сумлення няма...»

Людзі, якія блізка не ведалі Меера, здзіўляліся:

— Бачыш ты, як чалавек хараша развражае... А пра яўрэяў жа такое плятуць, што толькі слухай...

Але не пашанцавала таму харошаму чалавеку ў жыцці.

Закахаўся Меер у дзяўчыну. Ведама ж, гэта была яўрэйка, бо на іншых ім не дазвалялася жаніцца. Усхадзіўся малады і да бацькі:

— Тата, я жанюся.

— Навошта табе зараз жаніцца? Ці ты ўжо такі стары?

— Але ж я кахаю дзяўчыну...

— Дык што, гэта прычына для таго, каб на ёй жаніцца?

— А то як жа?

— Ой, сыне, які ты яшчэ малады, неразумны. Хіба толькі па каханні ў наш час жэняцца? Паглядзі сабе яшчэ якую дзяўчыну. Куды спяшацца?

— Але ж мне Франя падабаецца...

— Франя? Так яе завуць? А ці не тая гэта лайдачка, што есці наварыць не ўмее і якую бацькі за любога гатовы замуж выпхнуць?

— Тая, тая, але я ад свайго намеру не адступлюся.

— Ну і дарэмна. Трэба добра прыглядзецца, перш чым такое рашэнне прымаць.

— Я глядзеў, але лепшай за яе не заўважыў.

— Ой, сыне, намучышся ты з ёю, праклінаць праклёнамі чорнымі будзеш той дзень, калі ўпершыню яе імя вымавіў.

— Гэта ўжо, тата, мая справа.

— Глядзі, станеш каяцца, але позна будзе, ніхто тады табе не дапаможа, нават я...

— Усё вытрываю, тата, толькі дазвольце жаніцца.

— Жаніся, каб дурні не пераводзіліся. Мая справа цябе папярэдзіць, а твая — рашэнне прымаць... Табе, а не мне з ёю жыць.

Так вось і ажаніўся працавіты яўрэй на лайдачцы Франі. Бацькі ім крыху грошай далі, на першы час, крыху зямлі нарэзалі, і сталі маладыя жыць сваёй сям'ёй. Як ні цяжка, але затое самастойна, асобна.

Жонка старалася з усіх сіл дагадзіць мужу. Недасыпала, увесь час на нагах і на нагах. Меер не паспяваў у хаціну зайсці, а Франя ласкавым галаском ужо запрашала:

— Садзіся, мужу, за стол, еш, пакуль гарачае, бо, як пахалодае, не такое смачнае будзе.

— З тваіх рук, жонка, мне і халоднае смачнае, — адказваў задаволены гаспадар.

І гаспадыня задаволена, і муж таксама. Ядуць і пасміхваюцца. Меер часта думаў, што дарма ягоны стары на Франю благія словы гаварыў, бо яна самая што ні на ёсць увішная жонка. Другой такой пашукаць трэба, ды ці знойдзеш.

Потым гаспадыня стала толькі Меера за стол запрашаць, а сама адмаўлялася.

— Садзіся поруч, — казаў ёй муж.

— Не, мне не хочацца есці...

— Дык ты ж таксама не ела.

— А гаспадыні і есці неабавязкова. Стоячы ля печы, нанюхаешся, то і не надта хочацца.

— Глядзі, бо пасля мяне не застанецца...

— Еш на здароўе, не саромейся.

Так прайшоў не адзін дзень, не два, а можа, з месяц. Меер занепакоіўся і пабег да свайго старога.

— Тата, растлумач, што тут да чаго. Не можа ж такога быць, каб чалавек гэтулькі часу не еў. Нешта тут не тое.

— Не тое, сынку, не тое. Я цябе папярэджваў, але ты не прыслухаўся да маіх слоў, а зараз ужо позна...

— Чаму?

— Таму што жонка твая...

— Што, тата?

— Яна нячысцікам запрадалася.

Меер ажно аслупянеў.

— Не, не паверу. Не паверу, тата...

— А ты і не вер, ты правер, сынку, тады і пераканаешся.

Прыбіты горам пайшоў ад бацькі сын. Прысунуўся дамоў і, адмовіўшыся ад вячэры, заваліўся на палок. Ляжыць, вочы заплюшчыўшы, і чакае, калі жонка пойдзе куды, каб за ёю кіраваць і на месцы ўсё праверыць. Доўга давялося чакаць гаспадару. Ён ледзьве ўжо не заснуў, калі пачуў, як Франя ўстала і пачала ціхенька прабірацца да дзвярэй. Меер счакаў пару хвілін і выйшаў з хаты. Бачыць, Франя ўжо далекавата па сцяжынцы джгае. Ён прыпусціў за ёй, і тут, нібы назло, месяц выпаўз на неба і лянотна пазіраў на тое, што рабілася ў гэты позні час на зямлі. Ні воблачка, ні ветрыку не было, таму спадзявацца на тое, што прыцямнее, не даводзілася. Меер цяпер прабіраўся па кустоўі, пад нагамі нешта трашчала, вішчэла, хлюпала. На шчасце, Франя спяшалася і не азіралася, а можа, была ўпэўнена ў тым, што нікому ў галаву не прыйдзе сачыць за ёй. Бегала ж да гэтага колькі начэй — і нічога.

Яна ішла па сцяжынцы, а Меер усё меркаваў, куды завядзе яго жонка. І тут нібы нечым цюкнула па галаве — ідзе да могілак. І хоць Франя яшчэ і не паварочвала ў той бок, гаспадар быў цвёрда ўпэўнены ў сваёй здагадцы. Цяпер яго цікавіла зусім іншае — што яна там забылася, што збіраецца там рабіць?

Франя крута заламала напрасткі да могілак. Мееру цяпер было значна цяжэй сачыць, бо яна крочыла праз адкрытае поле. Але неяк дзе за кустоўем, дзе за травою муж прабіраўся за жанчынай.

Нарэшце яна падышла да могілак і спынілася. Зусім непадалёку ад яе ў роснай траве ляжаў Меер. Хвілін пару было ціха, і раптам закрычала сава, ды так голасна, так жахліва, як ніколі не крычала б у лесе. Меер ажно ўстрапянуўся, так яго прабраў да самых касцей той крык. Потым крык паўтарыўся і зашумеў вецер. То яго не было, а то нечакана ўсхадзіўся. Яшчэ праз пару імгненняў на могілкі пачалі злятацца сарокі і крумкачы. Іх набралася столькі, што ў цемры дрэвы і кусты здаваліся нейкімі жудаснымі прывідамі ад птушак, што паселі на іх. Муж падумаў, што гэта ўжо ўсё, але памыліўся. Неўзабаве пачуліся прыцішаныя галасы, і Франя ўзрадавана падалася насустрач ім. Меер не вылазіў са сваёй схованкі, бо перад ім і так усё было як на далоні. Жонка вярнулася да старога, дуплаватага дрэва не адна, а з двума мужыкамі, якія неслі на плячах... рыдлёўкі. Падышлі да дрэва і селі пад ім. Да Меера выразна даносіліся галасы.

— Што гэта вы сёння прыпазніліся? — пацікавілася жонка.

— Ды мае доўга не засыналі. Усё пра страхі вялі размову, таму і я вымушаны быў дома заставацца.

— А ты? — запыталася яна ў другога хаўрусніка.

— На мяне таксама жонка скрыва пазглядае, баюся, каб чаго не западозрыла. Іначай давядзецца нешта рабіць...

— Што рабіць? — спыталася Франя.

— Якая ж ты нездагадлівая...

— Чаму гэта?

— Ды таму...

— Не гарачыся, дай я ёй растлумачу, — умяшаўся першы хаўруснік, — бо вы яшчэ спрачацца тут пачняце. Разумееш, Франя, калі жонкі нашыя ці твой муж даведаюцца пра тое, чым мы займаемся па начах, то яны ж паспрабуюць што?..

— Што?.. — адгукнулася, не падумаўшы нават, Франя.

— Яны паспрабуюць ці прасачыць за намі, ці расказаць пра ўсё людзям. І тады нашая таямніца ўжо не будзе таямніцай. Нас пачнуць праследаваць, а то могуць і смерцю пакараць.

— Смерцю?

— А то... Хто ж нам такое даруе?..

Меер нецярпліва паварушыўся на месцы і зноў стаіўся.

Яму карцела хутчэй даведацца, чым жа займуцца гэтыя злыдні на могілках.

— Добра, хопіць вам пра гэтыя страхі, а то Франю так напалохалі, што яна баіцца і павярнуцца.

— Не баюся, — ляскаючы зубамі, прамовіла тая, — тым болей што мой Меер нічога не заўважае.

— Баран ён, твой Меер, другі даўно пра ўсё даведаўся б.

— Яму ж горай і было б...

— Давайце за справу брацца, няма чаго час дарма бавіць. Хутка і трэція пеўні прагарлаюць, а нам тады трэба разбягацца. Сёння на суседніх могілках пахавалі маладую дзяўчыну. Так ужо хораша апранулі, так ужо прыгожа, нібыта пад шлюб яе вялі.

— А ў нашым маёнтку пан памёр, дык адных пярсцёнкаў, можа, з дзесятак на рукі насунулі... Грошай у манетах многа насыпалі прама ў труну... Вось дзе пажывіцца можна...

Франя маўчала, бо Меер не чуў яе голасу.

— А ты чаго маўчыш? — звярнуліся да яе хаўруснікі.

— У нас на гэтым тыдні ніхто не памёр, а на мінулым пахавалі старога аднаго, але ён жыў як жабрак... Там калі і раскапаем, дык нічога добрага не знойдзем.

— То пайшлі да нас на могілкі.

— Туды, дзе пан? — азвалася першай Франя.

— Так, тую дзяўчыну мы потым адкапаем і распранём. Самае галоўнае, каб з панам нас хто-небудзь не апярэдзіў...

— Так гаворыш, быццам бы ўсе толькі гэтым і займаюцца.

— Чым?

— Ды тым жа, чым і мы.

Хаўруснікі рушылі да суседняга паселішча, а Меер, ні жывы ні мёртвы, падаўся дамоў. Збаяўся чалавек у гэтую ноч далей ісці за імі, бо зразумеў, што злаcліўцы ні перад чым не спыняцца.

Дома ён лёг на палок і стаў чакаць Франю. Тым часам пракукарэкалі трэція пеўні, і за акном пачало шарэць. Меер ажно закалаціўся ад прадчування хуткай сустрэчы з Франяй. І сапраўды, неўзабаве рыпнулі дзверы і на парозе з'явілася яна. Пастаяла імгненне, паглядзела на мужа і шуснула за печ. Адтуль адразу пачуўся храп. Мееру было страшна і брыдка. Як жыць далей з такой пачва-

рай, якая рабуе магілы, нічым не грэбуе?.. Не стрываў, устаў і выйшаў на падворак, каб заняцца якой справай. Калупаецца ля карчомкі і думае, што ж далей рабіць, як быць. Не надта і за парадай да каго звернешся, бо калі людзі пра ўсё даведаюцца... Да бацькі ісці зноў жа не выпадала. Стары ўсё правільна гаварыў, нібы прадчуваў сваім сэрцам бяду, але ж сын не паслухаўся — упёрся на сваім. Вось цяпер і маеш! Доўга тупаў па падворку Меер, пакуль яго не паклікала Франя:

— Мужу, хадзі, снедаць час прыспеў... Хадзі, бо згаладаешся...

Як пачуў яе голас гаспадар, дык яму яшчэ горай на душы зрабілася. Але тут яму нібы нехта шапнуў на вуха: «Чалавеча, даведайся, куды яны тое дабро ды каштоўнасці зносяць».

Сеў за стол Меер. Жонка завіхаецца, нешта гаворыць, а ў яго перад вачыма твары мерцвякоў стаяць, тое, як іх рабуюць. Неяк сербануў пару лыжак Меер і, спаслаўшыся на тое, што з раніцы не надта хочацца есці, падаўся з-за стала. Пайшоў у вёску, а там людзі адзін аднаму страшную навіну перадаюць, што нехта магілу старога памешчыка раскапаў, цела з дамавіны выкінуў, а ўсё каштоўнае, што там было, забраў...

Адышоўся ад іх Меер, бо балюча было такое чуць, тым болей што сам заўсёды зарабляў толькі сумленнай, чэснай працай.

На наступную ноч гаспадар зноў пайшоў за Франяй. Па яе слядах датэпаў да суседніх могілак і там падслухаў, як хаўруснікі дамаўляліся перахаваць дабро. Цяпер Меер вырашыў і надалей сачыць за рабаўнікамі. А тыя дасталі каштоўнасці і грошы і пайшлі.

Ішлі доўга, увесь час азіраліся, спыняліся. Дзеля такой адказнай справы нават не пайшлі рабаваць новую магілу і крочылі толькі ў ім адным вядомым накірунку.

Меер сунуўся за імі. Баяўся — гэта не тое слова, ён яшчэ і азіраўся, бо аднаго з хаўруснікаў, як пазней аказалася, не было на могілках.

Нарэшце выйшлі на адкрытае поле, спыніліся і пачалі спрачацца. Пра што — Мееру не было чуваць. Пастаялі крыху і падаліся да двух вялізных камянёў, якія шэрымі, грувасткімі хацінамі ўзвышаліся непадалёку. Ля найбольшага сталі і хуценька ўзяліся капаць зямлю. Калі туды, у невялікую яміну, паклалі каштоўнасці і старанна іх за-

маскіравалі, то Меер пабег дамоў. Цяпер ён ведаў, дзе ляжаць каштоўнасці. Таямніцы болей не існавала.

Прыйшла Франя і лягла спаць, а гаспадар ніяк не мог супакоіцца. Цяпер яго хвалявала думка, дзе ж быў трэці хаўруснік.

Адказ на яе ён атрымаў ад вяскоўцаў, якія гаманілі, што сёння ноччу забілі аднаго пярэваратня, які адкопваў магілы. Тут ён зразумеў, чаму гэтак тэрмінова перахоўвала Франя з сябруком каштоўнасці, і вырашыў пазбавіцца і ад другога хаўрусніка сваёй жонкі. Але не для таго, каб завалодаць багаццем, не, у яго была іншая думка.

Падпільнаваў Меер таго селяніна, калі ён бег да могілак, і ўлупіў яму цурбалкам па галаве, той і сканаў на месцы. Тады падаўся да жонкі. Яна таксама крочыла да могілак.

— Пайшлі, пайшлі, родненькая... Я цябе ўжо чакаю...

— А ты... Ты чаго тут?

— За табой сачу.

— За мною сочыш?

— Так.

— І даўно?

— Даўно, жоначка, даўно...

— Дык ты пра ўсё ведаеш?

— Ведаю, ведаю... Пайшлі туды, куды спяшалася...

Франя крыху павагалася, а потым згадзілася. Відаць, вырашыла, што разам з хаўруснікам заб'юць мужа.

Але Меер не даў ёй дайсці да могілак, а прымусіў павярнуць да камянёў. Цяпер Франя зразумела, што і сапраўды яе чалавек пра ўсё ведаў.

Падышлі да камянёў, і Меер сурова прамовіў:

— Тут твая і магілка...

Затрэслася жонка.

— Мужу, не трэба...

— Трэба было раней думаць, а зараз позна... — і ўдарыў нажом прама ёй у сэрца.

Меер яе закапаў недалёка ад камянёў. Потым і сам павесіўся. Адны гаварылі, што кахаў надта жонку, а другія, наадварот, што не мог такога сораму вынесці. Як бы там ні было, а грошы тыя, нарабаваныя, перадаў на будаўніцтва царквы. Каля яе яго і пахавалі, бо самазабойцаў нельга на могілкі везці.

Тыя камяні людзі Мееравымі звалі, а хто проста —

Меервы. Сцвярджалі таксама, што маланкі білі толькі ў тыя валуны, пакуль іх не разбілі. Праз дзесяцігоддзі там местачкоўцы сталі хаціны стаўляць і назвалі паселішча Меёры, ці Міёры.

## ВОЎКАЎШЧЫНА

Жыў некалі адзін багаты памешчык, і прозвішча ў яго было дужа цікавае — Буракоўскі. Калі шчыра, то цяжка адказаць, былі тады ўжо буракі вядомы людзям як агародніна ці не, але такое прозвішча ўжо існавала. Пан меў зямлі гэтулькі, што ягоныя слугі, раз'ехаўшыся на самых хуткіх конях, за тыдзень не маглі яе аб'ехаць. Палац збудаваў сабе такі, што да нябёсаў вільчыкам дастаў, з хмарамі гаманіў і ажно сваціўся ад упрыгажэнняў і каштоўнасцей. Падарожныя і іншыя людзі бачылі яго за дзесяткі вёрстаў, бо стаяў яшчэ і на гары. З цягам часу Буракоўскі загадаў пабудаваць побач з палацам высачэнную царкву са званіцай. Ляцелі гукі таго меладычнага звону ў розныя бакі, і здавалася, што праз гэтыя ўдары на зямлю ляцеў голас самога Усявышняга.

Любіў пан Буракоўскі пажартаваць, добра падпаіўшы сваіх гасцей. Калі ж сумаваў, то любіў на паляванне ездзіць. Браў з сабой найбольш спрытных слуг і знікаў у неабсяжных лясах на пару сутак, а то і на болей. Калі ж вяртаўся дамоў, то зноў сумаваць пачынаў. Такое ўжо жыццё раней у багатых людзей было. Яны ж рабіць нічога не рабілі — адно адпачывалі. Усё і далей так ішло б, каб не адзін выпадак.

Быў у Буракоўскага любімы жарабец. Колькі грошай ён за яго аддаў — і ўявіць нават цяжка. Як убачыў, казалі людзі, то адразу і прыкіпеў ды кінуўся да гаспадара з просьбай прадаць.

Цвёрда трымаўся гаспадар, але і Буракоўскі не здаваўся. Маліў, прасіў, гатовы быў на калені стаць, толькі каб займець таго жарабца. Гаспадар не хацеў і гаварыць пра продаж, але як пачаставаў яго памешчык добра, як зрабіла гарэлка сваю справу, то і пахіліў галаву:

— Дарага каштаваць будзе, пане...

— Мяне гэта не хвалюе. Колькі ты скажаш, столькі і заплачу, таргавацца не буду. Грошай у мяне хопіць, вось жарабца такога няма... Хочаш, насыплю залатовак такую гару, што вышэй за жарабца будзе?

— Давай...

Так і дамовіліся.

Нарадавацца памешчык не мог на жарабца. Сам яго даглядаў, сам сачыў за тым, каб у час накармілі, напаілі, сам аб'язджаў, кроку не мог ступіць, каб не спытацца, як там ягоны сябра. Ды ў адзін вечар не ўбераглі жарабца. І вінаватых не аказалася. Здарылася так, што Буракоўскі загадаў вывесці яго са стайні на луг, перад палацам, каб ён там пабегаў. Сабе паставіў крэсла і сеў любавацца. Хораша скакаў жарабец, трымаў паставу і гэтак далей. Гаспадар нават драмаць стаў. Ачнуўся ад страшнага крыку:

— Пане, глядзі!

Крычаў стары конюх, які адказваў за стаенніка.

Буракоўскі зірнуў туды, куды ён паказваў, і ашалела заморгаў вачыма: прама на жарабца ляцела з дзесятак здаравенных ваўкоў. І гэта сярод восені, калі да Каляд было далёка і ваўкі яшчэ не збіраліся ў гайні. Жарабец не ўцякаў, а спакойна стаяў і нібы чакаў.

— Да яго! Да яго!

Але як тут кінешся? Усё роўна не паспееш дабегчы, ды і з голымі рукамі на раз'юшаных ваўкоў не паляціш. Пакуль гаспадар са слугамі ратамі зяўхалі, ваўкі падляцелі да жарабца. Толькі памкнуўся было ўцякаць, ды куды там! Двое шэрых разбойнікаў гопнулі яму на шыю, дык ён і на бок заваліўся, і вострыя воўчыя зубы хутка яму шыю ды горла пракусілі.

Бураковскі нібы страціў прытомнасць, ніяк не мог дацяміць, што ж рабіць.

— За стрэльбамі! За стрэльбамі! Хутчэй!

Пакуль тыя стрэльбы прынеслі ды, злаўчыўшыся, пеканулі па ваўках, то нямала часу прайшло.

Загадаў гаспадар з гонарам пахаваць усё тое, што засталося ад яго любімага стаенніка, і задумаў адпомсціць шэрым, каб яны забыліся дарогу ў гэты край. Доўга хадзіў пахмурны, ні да кога не звяртаўся, ні з кім не размаўляў, толькі пра нешта ўсё думаў.

Аднаго вечара загадаў тэрмінова паклікаць аканома. Калі той увайшоў у пакой, то гаспадар сказаў:

— Вось табе, чалавеча, мой загад... З раніцы заўтра пашлі слуг ва ўсе навакольныя вёскі і хутары, каб яны параспыталі там людзей і папярэдзілі жыхароў, што я заклікаю да сябе на паляванне самых лепшых паляўнічых.

Няхай тлумачаць таксама, што паляваць будзем на ваўкоў. Ды каб не цягнулі, і спяшаліся да палаца. Калі нехта не выканае загад і аслухаецца, то загадаю бязлітасна пакараць — пра гэта хай таксама нагадаюць паляўнічым. Зразумеў?

— Чаму ж не, пане. Усё зразумеў.

— Тады ідзі і выконвай загад.

Яшчэ начны туман не разышоўся, а ўжо затупацелі хуткія капыты і паляцелі слугі.

Праз дзень пачалі сцягвацца да палаца самыя трапныя, самыя вопытныя, самыя адважныя паляўнічыя. Пан сустракаў іх паважна, карміў, паіў і прасіў пачакаць астатніх. За тыдзень сабралася пару дзесяткаў. Буракевіч звечара папярэдзіў іх, што заўтра пачнуць паляваць у бліжэйшым лесе.

Паляванне ўдалося на славу. Навалілі тых ваўкоў, што ажно страшна глядзець было! Потым у другое месца перайшлі, і так цэлы месяц. Калі ўжо прытаміліся і сталі чакаць дазволу вярнуцца па хатах, то пачулі нечаканае:

— Нікуды я вам ісці не дазваляю. Заставайцеся тут. Вашых родных і блізкіх мае слугі перавязуць.

Пабудавалі паляўнічым хаціны, хлявы, далі жывёлы, і яны зажылі спакойным жыццём.

З цягам часу невялікае паселішча паляўнічых перарасло ў прыгожую вёску, за якой замацавалася назва — Воўкаўшчына.

## ПЕРАБРОДДЗЕ

Прыгожая наша мясціна. Мабыць, і самі паспелі заўважыць. Азёрны край — ажно тры возеры побач. Ад іх, гэтых азёраў, і назва ў вёскі з'явілася.

У аднаго бацькі была вялікая сям'я, і пракарміць яе цяжка было. Як ні рваліся гаспадары, як ні шчыравалі, ледзьве канцы з канцамі зводзілі. Калі дзеці падраслі і можна было ўжо болей зямлі апрацоўваць, то паўстала пытанне, дзе яе ўзяць? Паны такую цану заламілі за кавалак, не вельмі прыдатны пад пасевы, што і за ўсё жыццё столькі грошай не назбіраў бы.

Трывалі, трывалі гаспадары, і потым сабралі ўсіх дзяцей, і бацька мовіў:

— Дзеткі нашы родныя, вы толькі не крыўдуйце. Да-

руйце нам, калі што якое... Не заўсёды ў жыцці так было, як хацелася, але зараз ў нас няма іншага выйсця...

— Што, тата, здарылася? — запытаўся старэйшы сын.

— Эх, сынку, каб не гора-бяда, ці дайшлі б мы да такога...

— Ды скажыце ўжо, што здарылася?

— Дай, бацька, я скажу, — уступіла ў размову гаспадыня. — Прабачце, дзеткі, і мяне... Вы падраслі, а зямлі ў нас мала. Каб неяк пракарміцца, трэба камусьці ісці ў чужую старонку, туды, дзе зямля яшчэ не занята, і там заводзіць гаспадарку. Бо калі пажэніцеся ды замуж павыходзіце, то і даць не будзе чаго, жабракамі ўсе пойдзеце па белым свеце. Мы з бацькам падумалі, што старэйшаму, даруй нас, сынок, лёс такі выпадае...

Старэйшы сын устаў, пакланіўся нізка ўсім і адказаў:

— Калі мне, то мне. Я ўсё разумею. Толькі не трэба мне шчасця ў чужых краях шукаць, недалёка ад вас пасялюся — рыбаком буду. Рыбы мноства, і лавіць яе ніхто не забараняе... Зямлю араць — тут памешчык уладар, а над вадою, акрамя Бога, нікога няма... Лаві рыбку, прадавай яе ці мяняй, ніхто і слова не скажа. Дайце мне толькі добрую сетку.

— Ой, сынку, а мы пра гэта і не дадумаліся. Як жа ты нам дапамог... Гэта ж такі грэх на душу бралі, — загаласіла маці.

Бацька толькі хліпаў носам. І тут падаў голас серадольшы сын:

— Адпусціце і мяне з ім.

— Цябе ж ніхто з хаты не просіць ісці, — пачала маці.

— Я сам з ім ісці хачу.

— Навошта? Няўжо табе ў нас дрэнна?

— Не, не з-за таго. Удваіх жа весялей. Да таго ж і хаціну якую агораць, і ў цяжкую часіну дапамагчы...

Бацька таксама падаў голас:

— Яно-то і сапраўды лепей удваіх. Толькі вы, сыночкі, на якія далёкія азёры не забірайцеся, бо атрымаецца, што гэта мы з матуляй вас туды выгналі з роднае хаціны...

— І я прашу, хлопчыкі, паглядзіце дзе паблізу. Тут жа столькі азёраў, а рыбы...

На наступны дзень сыны пабралі самае неабходнае, бацька даў ім дзве новыя сеткі, і пакрочылі яны, шчыра развітаўшыся, у свет. Ішлі не дзень, не два, а можа, з тыдзень. Не таму, што далёка зайшлі, а таму, што не спя-

шаліся, прыглядваліся, раіліся паміж сабою, каб да лепшага чаго прыйсці, бо потым цяжка будзе з абжытага месца здымацца. Пастаяць, сетку закінуць, глянуць на ўлоў, і адзін прамовіць:

— Нешта не надта...

— І мясціна нейкая змрочная... — адзавецца другі.

— Лесу блізка няма... Цяжка будавацца будзе...

— Пайшлі далей.

Так яны і крочылі між азёрамі ды рэчкамі, так і прабіраліся наперад. Неяк прыйшлі да возера, закінулі сетку і давай выцягваць. Выжыльваюцца абодва, а ў сетку нібы камянёў хто панакідаў. Калі ўсё ж выцягнулі яе на бераг, то ўвесь пясок усыпаўся рыбай.

— Ой, колькі яе тут!

— Пару штук давай на полудзень пакінем, астатняе назад кінем, зараз жа яна нам столькі не патрэбна. Потым, калі...

— Ага, калі хаціну пабудуем, то і лавіць болей станем.

Так яны вырашылі супыніцца на гэтым месцы, паміж азёрамі Набіста і Обстэрна. Пахадзілі, палазілі па кустоўі і спыніліся ля высокага грудка, а ўнізе працякала рэчанька, якая злучала абодва возеры.

— Тут хаціну будзем будаваць.

— Так, толькі тут, лепшага месца і не знайсці.

Добра жылося братам. Есці заўсёды хапала, а калі абжыліся, то пачалі рыбу вазіць прадаваць у бліжэйшыя вёскі і мястэчкі. Людзі іх ужо ведалі і заўсёды чакалі. Потым рыбакі пажаніліся, і давялося ім будаваць дзве вялікія хаціны, бо сем'і ж раслі. Пачалі задумвацца гаспадары, што няблага было б да азёрнай рыбкі і кавалак зямлі прыдбаць. Але гэтая мара была пакуль што нездзяйсняльнай. Навакольныя памешчыкі глядзелі, як бы выжыць братоў з таго перабродзя, не тое што зямлі кавалак прадаць. Усё вырашылася само па сабе.

Прачнуўся неяк старэйшы брат ад таго, што ў дзверы ягонай хацінкі нехта стукаў:

— Адчыняй!

— Хто там?

— Адчыняй, тады і пабачыш!

Адчыніў гаспадар дзверы і разгубіўся — перад ім стаялі ўзброеныя людзі.

— Ты мясцовы? — адразу запытаўся чалавек у бліскучай кальчузе.

— Ведама што, калі тут жыву...

— Нам трэба пераправіцца на другі бок. Нас войска ідзе... І кароль з намі...

— Зразумела. Дапамагу. Магу і брата разбудзіць.

— Давай і яго.

Узяліся браты перавозіць салдат, а рачулка тая хоць і не надта шырокая, ды чаўноў жа ўсяго два, а тут цэлае войска трэба перакінуць з аднаго берага на другі. Праз нейкі час старэйшы брат ляпнуў сябе па лбе:

— Як жа гэта я адразу не здагадаўся...

— Ты пра што?

— У нас жа ўсіх чаўноў — шэсць. Паставім іх адзін да аднаго бокам і перакінем бярвенні. Нібы мост будзе...

Як зрабілі так, то ваякі бегма праз своеасаблівы мосцік пабеглі. За нейкую гадзіну і ўправіліся. Кароль, якога падначаленыя генералы звалі Сігізмундам-Аўгустам, загадаў прывесці да яго рыбакоў, якія здзівілі яго кемлівасцю і ўвішнасцю.

— Што хочаце прасіце, бо праз пару хвілін мяне тут не будзе.

Серадольшы брат мяў шапку, а старэйшы выпаліў:

— Нам бы зямлі крыху, каб збожжа пасеяць, агародніны якой пасадзіць...

— Будзе вам зямля. Добра вы мне паслужылі, а я такога ніколі не забываю.

Паклікаў да сябе пісара, і той хуценька выпісаў грамату, у якой гаварылася, што братам перадаецца на вечныя часы зямля. Кароль падумаў і дадаў:

— На дзесяць вёрстаў наўкола...

Так, ад таго пераброду, і з'явілася наша Пераброддзе.

## ТРАБУХІ

Так ужо здарылася, што назва нашай вёскі цесна звязана з вёскай Воўкаўшчына. Некалі, калі яшчэ тут мала дзе жылі людзі, на месцы Воўкаўшчыны стаяла адна-адным хацінка. Тады яшчэ гэтай зямлёю тамтэйшы памешчык Буракевіч не валодаў. Дык вось у той хаціне жыў бедны ляснік, які служыў нейкаму вяліkаму князю. Гэты чалавек, а звалі яго Пархвенам, сям'і не меў, з ім жыла толькі старая-старая матуля. Маці ў першыя часы часта дакарала, каб жаніўся, а потым скарылася лёсу.

Пархвен справу сваю добра ведаў, увесь час прападаў у лесе, сачыў, каб чаго ў гэтых абшарах не здарылася.

Так і на той раз. Пад'еў ён і пачаў у лес збірацца.

— Сынку, прыходзь сёння раней, а то я хвалююся, калі прыцемкі бяруцца. Хоць ты ў мяне і дарослы, і здаровы, што той мядзведзь, але ж усяго толькі адзін...

— Пастараюся раней прыбегчы. У мяне сёння працы няшмат, праверу — і назад.

— Я табе кавалак хлеба з сабой паклала, каб перакусіць было што.

— Дзякуй, родная, ты за мной, як за малым, наглядаеш.

— А ты, якім бы ні быў, для маці ўсё роўна малым будзеш. Будуць свае дзеці — сам зразумееш.

Пайшоў Пархвен у лес і забыўся пра абяцанне заранёй вярнуцца. Дамоў ішоў, калі зоркі ўжо на небе высыпалі, цёмна было навокал. Да хаціны заставалася зусім блізка, калі ён заўважыў заклікальны агеньчык у акенцы. На душы цяплей зрабілася, значыцца, маці зноў не спіць, чакае яго.

Прама з парога бухнуўся:

— Матулечка, родненькая, даруй...

— Ды што ўжо з табой, — адмахнулася тая, нібыта злуючыся.

— Я такое ў лесе бачыў...

— Што ўжо ты бачыў?

— Ты і здагадацца не можаш, куды я сёння патрапіў.

— Куды гэта?

— Табе скажы, дык пра ўсё давядзецца распавядаць.

— А ты і скажы, я ж твая маці, і мне пра ўсё цікава ведаць.

Пархвен сеў за стол, матуля прымосцілася побач, і ён пачаў:

— Іду я, значыцца, іду... Ад самага рання недзе здарылася, можа, гадзіна-другая прайшла, як з дому выйшаў, і чую, што ў пушчы нешта не тое адбываецца.

— Што ж там такое, сынку?

— Ветру не было, а ўсё гуло і стагнала, як падчас моцнай буры. Спалохаўся я, вырашыў схавацца і пачакаць, пакуль усё пяройдзе. Залез глыбока пад вываратень і цікую праз адтуліну, што ж гэта такое навокал мяне адбываецца. Вецер не прыбаўляўся, але гул-трэск тым не меней мацнеў. Я ўжо азірацца пачаў, каб мяне не

было бачна, бо хто ж яго ведае, што можа адбыцца, а тады ўжо хавацца позна будзе.

— Настрáшыўся, сынку, — выдыхнула маці, нецярпліва чакаючы, калі ж Пархвен раскажа ўсё да канца і яна нешта зразумее.

— Сядзеў так з паўгадзіны і ўжо сабраўся быў вылазіць, бо падумаў, што, можа, мне гэта ўсё падалося. Толькі варухнуўся, як зусім побач затрашчала, застагнала і на палянку вылецеў здаравенны дзік. Я такога, колькі ў лесе хаджу, не бачыў. А за ім цэлая чарада малых ды вялікіх дзікоў.

— Вось хто гэта быў, — узрадавалася маці, што ўсё гэтак добра завяршылася.

— Не, матуля, гэта не дзікі былі...

— А хто ж?

— За імі іншыя звяры пабеглі. Ды гэтулькі многа іх было, што і не злічыць. Бягуць, а пад імі зямля ажно стогне...

— Чаго ж гэта яны ўсе ўцякалі?

— Я таксама задаў тады сабе такое пытанне.

— І высветліў?

— Ага!.. За імі гналася столькі ваўкоў, што і глядзець было жудасна. Тысячы... Тысячы, а можа, і болей. Во ўжо паляскаў я там зубамі ад страху... Таму так доўга і затрымаўся. Таму і прыпазніўся.

— А як жа ты дамоў дабіраўся? — устрывожылася старая.

— Прабіраўся зусім іншым бокам.

— І да чаго ж гэта такая навіна?

— Хто яе ведае... Можа, недзе вялікі пажар усхадзіўся...

— А можа, сынку, вайна якая ці што іншае?

— І такое можа быць, пакуль жа невядома.

— Тады сцеражыся, не ідзі далёка ў пушчу. Бяры з сабой сабак, але і іх не адпускай далёка ад сябе. Набояў болей прыхапі — у цяжкую хвіліну спатрэбяцца.

— Добра, матуля, дзякуй за перасцярогу. Трэба і сапраўды даведацца, ад чаго ўсё пачалося.

— Даведайся, сынку, але глядзі ўважліва, ды не спяшайся, бо жыццём рызыкуеш.

— Хачу і цябе, матуля, папрасіць...

— Адносна чаго?

— Каб і ты далёка ад хаты не адыходзіла. Мала што можа здарыцца... Мяне ж побач не будзе. Калі прыйду — невядома. Зачыняйся і сядзі ў хаціне.

— Добра, сынку, за мяне не турбуйся.

На наступную раніцу Пархвен пайшоў у пушчу, каб знайсці, куды ж тыя зграі ваўкоў пабеглі, а дома засталася, як і заўсёды, адна маці. Доўга блукаў ляснік па лесе, доўга прыглядаўся, і калі павярнуў назад, то ўжо зоркі засвяціліся. Да хаты дабраўся і здзівіўся, нешта падказвала яму на гора. Кінуўся ў хаціну, а там косці валяюцца. Усё зразумеў Пархвен — ваўкі сюды ўварваліся, не ўберагласся матуля. Пайшоў ён па воўчых слядах, адышоўся сюды, дзе цяпер наша вёска, і знайшоў матчыны трабухі.

Пазней людзі перабілі тых ваўкоў, пасяліліся тут, і цяпер Трабухі і Воўкаўшчына — адна вёска. Гэты канец — Трабухі, а той — Воўкаўшчына.

## ЧЭРАСЫ

Здарылася гэта падчас вялікай вайны з Напалеонам. Ніхто не чакаў, што армада тая сюды выйдзе, ажно якраз праз нашыя мясціны французы рваліся на Маскву і далей, у глыб Расіі. Старыя людзі пераказваюць, што іхнія бацькі былі сведкамі тых падзей і таму не хлусілі.

Аднаго разу, калі сонца толькі-толькі выкацілася з-за верхавін дрэваў і пакрысе пачало прыграваць, з ляснога гушчару на адкрытае поле пацягнулася войска — стомленыя, запыленыя, многія параненыя, людзі. Большасць ішла пешкі, толькі прыкладна двое з дзесятка ехалі вярхам.

Неўзабаве пратарахцелі некалькі экіпажаў і спыніліся ля студні. З экіпажаў вылезлі вайскоўцы — усе ў дарагіх вопратках, усе пры ордэнах і зброі. Па мове можна было вызначыць, што гэта рускія. Самы старэйшы з іх прысеў на барабан, які своечасова падсунуў яму маладзенькі афіцэр, і тут жа загадаў:

— Карту...

Карта з'явілася гэтак жа хутка, як і барабан. Генерал схіліўся над ёю і надоўга замоўк. Астатнія стаялі за спінаю і чакалі. Турбаваць свайго военачальніка ці то баяліся, ці то проста, памятаючы пра этыкет, не асмельваліся. Ды той сам падаў голас:

— А што, можа, паспрабуем?

Генералы і афіцэры па-ранейшаму стаялі моўчкі.

— Кажу, можа, паспрабуем?

Тады ўсе страпянуліся:

— Вы пра што, ваша светласць?

— Давайце бліжэй, зараз пакажу.

Усе колам абамкнулі сядзеўшага.

— Глядзіце. Бачыце, якая пазіцыя?

— Так, ваша светласць. Пазіцыя выдатная, і мы гатовы тут біцца з ворагам, — нечакана бойка выпаліў самы тоўсты з іх, які нават і не глянуў на карту.

— Ага, так я вам і паверу. На вас, шаноўны, у мяне якраз надзеі і няма. Дарагую цану плаціць давядзецца, калі на вас паспадзяюся.

Астатнія маўчалі.

— Добра запамінайце, што каму трэба будзе рабіць на гэтай пазіцыі. Ворага трэба тут затрымаць... Хоць на паўдня... Зразумелі, чаму я так акцэнтую вашу ўвагу на гэтым полі і на гэтых узлесках?

— Так, ваша светласць, — прагучаў адказ, і ўсе ўважліва сталі вывучаць карту. Нават той тоўсты генерал схіліўся, каб яшчэ раз не атрымаць на «арэхі».

— Пазіцыя зручная, але гармат у нас малавата, людзі змораныя, параненых многа...

— Гэта ведаю, але трэба, іначай уся армія апынецца пад пагрозай акружэння...

Зноў маўчалі генералы і афіцэры. Твары іхнія сталі засяроджанымі, і цяпер яны вельмі нагадвалі тых самых launched ператомленых і знясіленых салдат, якія ішлі ў калоне.

— Трэба пратрымацца, — зноў прагаварыў самы старэйшы.

— Выканаем. Калі трэба — пратрымаемся.

— Дорага гэтая пазіцыя нам каштаваць будзе...

— Так, ваша светласць, але выбіраць не прыходзіцца, мы салдаты.

— Так, салдаты... Ну што, разыходзімся і пачынаем рыхтавацца да сустрэчы непажаданых гасцей? То з Богам.

І тут прагучаў спакойны, ураўнаважаны голас:

— Ваша светласць, дазвольце сказаць...

Гаварыў малады генерал, у якога рука была забінтавана і вісела праз шыю на чорнай хусцінцы.

— Слухаю вас, генерал.

— Хачу ў вас папрасіцца... Дазвольце мне тут застацца...

— Не зразумеў...

— Дазвольце застацца на гэтай пазіцыі з маімі салдатамі...

Запанавала цішыня. Цяпер усе глядзелі не на старога военачальніка, а на параненага генерала.

— Чаму гэта менавіта вам? — Поруч з генералам стаў другі вайсковец. — Чаму не мне? Вы ж не думаеце, што мы ўсе баязліўцы?

— Не, барані вас Бог, сябры. Такое мне і ў галаву не прыходзіла. Проста мае воіны на конях і не так здарожыліся... Ды і боепрыпасаў у мяне болей, чым у вас...

— Але ці пратрымаецеся вы адзін, генерал? — прамовіў яшчэ адзін афіцэр.

— Павінен пратрымацца, іншага выйсця ў мяне не будзе. Параненых маіх і хворых адпраўлю з вамі.

— А падмацаванне вазьміце ад іншых, генерал, — гэта ўжо сказаў стары военачальнік. — Дзякуй вам за тое, што вызваліся. Смяротная справа, але колькі жыццяў захавае, колькі такіх неабходных для рашаючых бітваў байцоў зберажаце... Дзякуй вам.

— Час ідзе, ваша светласць, вам трэба рушыць далей, каб як мага далей адысці, пакуль мы тут біцца будзем...

— Хутка здымаемся, але перад гэтым дапаможам вам добра падрыхтаваць пазіцыю і ворагаў тым самым увядзём у зман. Яны падумаюць, што ўсё войска тут, бо меркаваць будуць па лініі абароны.

— Так, ваша светласць.

— Таму цяпер мой загад будзе такім: «Кароткі прывал і потым будаваць умацаванні». Час зараз працуе на нас, а не на праціўніка.

Неўзабаве закіпела праца. Хутка ўзводзіліся завалы, капаліся траншэі, насыпаліся валы.

Пасля полудня стары военачальнік паклікаў да сябе маладога генерала.

— Ну, мы зараз адыходзім. Параненых і хворых вашых ужо павезлі на павозках. Даю вам яшчэ адзін полк і прашу пратрымацца як мага даўжэй. Пратрымайцеся, а Расія вас не забудзе...

— Калі трэба, то зробім, — стомлена і неяк па-простаму ўсміхнуўся генерал. — Хіба ж нам, ваша светласць, упершыню?

Военачальнік прыхінуў да сябе параненага і пацалаваў.

— Поспеху вам. Удачы. Заставайцеся жывымі.
— Пастараемся, ваша светласць.

Воіны чакалі бою. Усё было неяк надзіва будзённа. Ніхто не адчайваўся, не панікаваў, толькі пазіралі ў той бок, адкуль павінны былі з'явіцца французы.

Да канца дня непрыяцель так і не асмеліўся штурмаваць рускія пазіцыі. Бітва пачалася раніцай наступнага дня і цягнулася да глыбокай ночы. Французы не здолелі прасунуцца наперад, а рускія не адступілі. Дакладней, адступаць амаль не было каму, бо ў баі палегла большасць салдат і афіцэраў. Той малады генерал быў яшчэ раз паранены, і яго неслі да сваіх ужо на насілках. Невядома — данеслі ці не. На месцы сённяшняй нашай вёскі былі насыпаны вялізныя курганы, у якіх пахавалі і французаў і рускіх. Пазней, калі людзі сталі тут будавацца, то перахоўвалі тыя шкілеты ды чарапы, а вёску ад тых чарапоў назвалі — Чэрасы.

## ЯКУБАЎШЧЫНА

Жыў тут некалі памешчык па прозвішчы Сліжаноўскі. Пан быў неблагім чалавекам. Ніколі ён не здзекаваўся з сялян, не прымушаў іх працаваць толькі на сябе, даваў ім магчымасць апрацаваць і ўласныя нівы ды палеткі, а калі нехта звяртаўся да яго за дапамогай, то гаспадар маёнтка не адмаўляў і, пасмейваючыся, казаў:

— Раблю вам дабро, можа, некалі і вы мне гэтым самым адплаціце...

— Адплацім, пане, адплацім. Дабро ніколі не забываецца, — гаманілі ў адказ сяляне.

Гаспадар адразу станавіўся сур'ёзным і дадаваў:

— Боская гэта справа — дапамагаць адзін аднаму...

Вяскоўцы на такія словы толькі схіляліся ў нізкім паклоне. Любілі яны свайго пана Андрэя. Даходзіла да таго, што запрашалі, каб быў у іхніх дзяцей за хроснага, і той не адмаўляўся, рабіў гэта з гонарам ды яшчэ і казаў пыхлівым і ганарыстым суседзям-памешчыкам:

— Сваіх дзяцей у мяне няма. Дабро-маёмасць не будзе каму перадаць, дык няхай гэтыя людзі і іхнія дзеці парадуюцца...

Памешчыкі насы адварочвалі ад такога сабрата, а ён

усміхаўся і, заўважыўшы каго з дзяцей, якія капаліся дзе-небудзь у пясочку, мармытаў:

— Ці не лазіць там і маё хрышчанятка... Але ж чорт іх пазнае — мурзатыя ўсе на адзін капыл.

Але ж быў у пана Слізоўскага і грэх — крыху ленаваўся, таму ніколі не спяшаўся, не надта рваўся. Калі аканом прыводзіў да яго сялян на працу, то сам гаспадар так доўга з імі гаманіў, што аканом пачынаў прасіць:

— Пане, няхай бы людзі працавалі.

— Яны ж і так працуюць.

— Ды не, яны сядзяць і вашыя гісторыі слухаюць.

— Відаць, я добра распавядаю, калі яны мяне так слухаюць.

— Але ж так і дзень пройдзе.

— Ну і што?

— Дык мала зробяць жа.

— То яшчэ пазавеш да мяне.

— А плаціць жа за новы дзень таксама давядзецца.

— І заплацім. Можна падумаць, што не я, а ты ім са сваёй кішэні плаціш.

— Я толькі пану хачу яшчэ сказаць...

— Што яшчэ?

— Яны бачаць, што вы з імі за панібрата, дык мяне не надта слухаюцца.

— Нічога, не перажывай, усё добра будзе. Паспеем і мы сваю працу парабіць. Чалавек калі адпачне, то з новымі сіламі горы зверне.

— З вамі звернеш, — бурчэў незадаволены аканом і адыходзіў.

Быў у Сліжаноўскага і верны сябрук — сын ягонага старога слугі Архіпа. Звалі таго селяніна Якуб. Яны разам з панічом раслі, а колькі разоў біліся — і не злічыць. Але памешчык ніколі не выдаваў Якуба, сцвярджаў, што выпадкова зачапіўся і ўпаў ці што нехта чужы яму нос расквасіў. Сяброўства іхняе не ведала межаў. І гэтаму селяніну пан Андрэй давяраў болей, чым каму з суседзяў-памешчыкаў. Пасля смерці бацькі Якуба, Архіпа, перавёў жыць яго да сябе ў маёнтак і нават аддаў яму ў вечнае карыстанне прасторную альтанку насупраць палаца.

Усё ішло добра. Цяпер сябрукі былі пастаянна побач, гаспадар нават ездзіў з Якубам у поле. Праўда, селянін працаваў, а памешчык ляжаў на возе і пра што-небудзь

уголас гаманіў. Якуб, убачыўшы здаравенны, парослы валасамі жывот Сліжаноўскага, крычаў:

— Ты хоць бы сваё пуза пачухаў, лайдак!

У адказ неслася:

— Я жывот пачухаў, калі ты ў канцы поля быў, а вось ты свой каб і хацеў, дык не пачухаеш, бо яшчэ рэбры ператрэш...

Гэта памешчык пасмейваўся з таго, што Якуб быў худы і высокі.

— Затое мне бегаць лёгка.

— А мне і ляжаць не надта цяжка, — гучаў пафіласофску асэнсаваны за час доўгага ляжання адказ.

— Хоць бы ўстаў ды прайшоўся.

— Можа, яшчэ і кветачак нарваць, а потым з іх вянок звіць? Не чапай мяне, чалавеча, скародзь сваю ніву, бо не паспееш.

Якуб ішоў у другі канец поля, пакрыкваючы на каня, а пан Андрэй глядзеў у сінюткае неба і нечаму, аднаму яму вядомаму, замілавана ўсміхаўся.

Так яны і жылі разам — пан і мужык. Неаднойчы пакеплівалі адзін з аднаго:

— Што ж гэта ты, пане, не жэнішся?

— Навошта мне тая жонка?

— Як навошта? Ды каб табой нехта кіраваў.

— У мяне, сам бачыш, усім аканом кіруе, дай яму Бог здароўечка — здатны чалавек.

— Аканом аканомам, а жонка жонкай. Яна і справы весці будзе.

— Аканом і справы мае вядзе. Ён мяне не падманвае, сумленны чалавек, на шчасце, трапіўся.

— Як жа гэта без жонкі! Дзеці пайшлі б, нашчадкі!

— Нашчадкі... Пойдуць, [redacted] праз дзесятак гадоў за грудкі возьмуць ды ашчэрацца — давай, бацька, грошы! Не, не хачу.

Калі б хто глянуў збоку на сяброў падчас гэткіх спрэчак, дык ні за што не паверыў бы, што адзін з іх селянін, а другі — памешчык. Раззлаваны Якуб мог і плескача адпусціць гаспадару, [redacted] той, хоць і памяркоўны, таксама не ўпускаў моманту, каб не адплаціць.

Але аднаго разу вясковец здзівіў гаспадара. Прыйшоў і сеў перад ім нейкі сумны, негаваркі.

— Што гэта з табой, Якубе?

— Ды тут справа такая... Жаніцца я задумаў...

Пан Андрэй ляпнуўся з усяго маху на азадак, як гэта звычайна робяць дзеці, і зарагатаў:

— Адзін даскакаўся... Даскакаўся, а то ўсё з мяне кпіў. Хто ж яна?

— Арынка, пане.

— Арынка? Табе што, вочы павылазілі, ці ты пра яе нічога не ведаеш? Ды яна ж цябе заесць. Яе маці на бацьку ездзіць, і цябе адразу ж прыгнуць. Глядзі...

— Не дамся... Арынку я кахаю...

— Твая справа, чалавеча. Каб потым не скардзіўся.

Адгулялі вяселле. Пан такое пышнае закаціў, нібыта сам жаніўся. Нічога свайму сябруку не пашкадаваў, так шчодра адарыў, што суседзі-памешчыкі дзівіліся:

— Ці ён не таго? Здурнеў ён ці што?

Але здурнеў, як пазней аказалася, Якуб, якога пан Андрэй перасцерагаў адносна Арыны. Маладая жонка аказалася такой сварлівай і крыклівай, што неўзабаве гаспадару надакучыла слухаць пустую лаянку жанчыны, і ён загадаў аканому:

— Слухай чалавеча, няхай Якубу пубудуюць хаціну ў лагу, за вёскай. Там і поля ім дай, і лес, і сенажаць, толькі каб не чуць гэтых лаянак.

Так з таго часу і пайшло: Якубаў лог—Якубава лагчына—Якубаўшчына.



# ОРША

Некалі, можа тысячу-другую гадоў таму назад, на месцы нашага горада нічога не было, толькі стаяў на высокай-высокай гары, дзе зліваюцца Дняпро з Аршыцай, непрыступны замак. Ды што тут казаць, можа, і тыя рэчкі яшчэ назваў не мелі, бо надта ж у сівыя стагоддзі ўсё гэта адбывалася. Але паслухайце пра ўсё па парадку.

У тым замку-палацы жыў люты князь. Казалі, што ў маладосці ён такім не быў, што сярод звычайных людзей вылучаўся багаццем, ды яшчэ спрактыкаванасцю ў ратнай справе. Гэтага ў яго нельга было адняць. Калі пачынаў вучыць сваіх дружыннікаў, то няхай іх і пяцёра на аднаго яго са зброяй лезлі, а ён толькі зубамі пабліскваў, пасміхваючыся, ды пакрыкваў:

— Весялей, хлопцы, весялей! Не палохайцеся! Вас жа болей!

Але, як тыя ні стараліся, як ні шчыравалі мячамі, усё роўна князь іх перамагаў.

Ніхто і не падумаў бы, што ў хуткім часе гаспадар замка стане такім лютым. Але гэта адбылося.

Аднаго разу вартавы дружыннік, стоячы на баявой пляцоўцы, закрычаў:

— Браткі, бачу нейкага чалавека!

— Дзе?

— Ды вунь, у рове ляжыць...

— Хто ж гэта можа быць? — пачалі гадаць дружыннікі.

Нехта збегаў і прывёў князя. Той некаторы час уважліва ўглядаўся, і потым рашуча сказаў:

— На ўсялякі выпадак падрыхтуйцеся да бою. Можа, гэта ворагі такім чынам нашу пільнасць правяраюць? А чалавека таго трэба выцягнуць...

Людзі адразу забегалі і прынеслі незнаёмца да князя. Ён быў ужо нежывы. Сталага ўзросту ваявода выдыхнуў:

— Так і не даведаемся ўжо, хто ён такі, як у гэтым рове апынуўся... Адляцела ягоная душа на неба... Трэба закапаць.

Забітага панеслі, і тут нехта з дружыннікаў нерашуча прамовіў:

— Княжа, у яго на руцэ нейкая бліскучая цацка закручана...

— Дзе?

— Ды вунь, на правай руцэ...

Нібыта нешта прадчуваючы, падскочыў гаспадар палаца да забітага і праз пару імгненняў закалаціўся на яго грудзях:

— Тата... Тата... Вось як нам з табой давялося спаткацца...

Воі, нічога не разумеючы, стаялі шчыльным паўколам і баяліся нават дыхнуць. Толькі ваявода моўчкі зняў з галавы свой шалом і прыпаў на калена.

Пазней высветлілася, што гэты нябожчык быў родным бацькам князя і некалі, гадоў, можа, дваццаць таму, трапіў, цяжка паранены, у палон да ворагаў. Сын думаў, што ён згінуў недзе ў далёкім свеце, але стары ўпарта прабіваўся дамоў і амаль што дайшоў. Амаль што...

Пахавалі забітага з вялікімі ўрачыстасцямі. Але пасля гэтага гаспадара замка нібы падмянілі: стаў ён нейкім дзікім, нястрыманым. Раней ніколі нікога не караў, а тут дня не праходзіла, каб хтосьці не зайшоўся ў страшных крыках ды праклёнах. А князь сядзеў сабе побач, глядзеў, як пакутуе бедалага, ды толькі пасміхваўся:

— Нічога, нічога, на далейшае разумнейшым будзеш...

Каб жа на далейшае, але колькі чалавек прама пад бізунамі памерлі.

Нават былыя сябры і паплечнікі сталі пазбягаць гаспадара, за лепшае лічылі абысці бокам ягоны замак, бо мала што магло стукнуць у галаву злому чалавеку.

Стары ваявода, які раней заўсёды меў права голас свой падаваць, бо ўмудроны жыццём ды баямі быў, і той у няміласці апынуўся. І вось з-за чаго.

Зазлаваў нечага гаспадар на вартавога, які нібыта на пярэдняй вежы не так службу нёс. Падвялі да князя воя, а яму ўсяго, можа, якіх васемнаццаць вёснаў ад нараджэння мінула. Глядзіць на валадара, вусны дрыжаць, але літасці не просіць.

— Што ты там спіш?! — зароў князь.

— Не спаў я, — годна адказаў вой. — Не спаў, а сачыў за дарогай.

— Ты яшчэ і размаўляць у мяне асмельваешся?!

Здавалася, што са злосці вочы ў князя зараз павылазяць на лоб.

— А мы што, княжа, ужо і слова сказаць не можам? Раней жа... — пачаў было хлапчына, але махнуў адчайна рукой.

— Бізуноў яму! Бізуноў! — затупаў нагамі ў ярасці гаспадар.

— Чакай, княжа, — не стрымаўся ваявода, — чакай. Што ж гэта ты робіш? У чым ён правінаваціўся? Нельга так з людзьмі абыходзіцца. Праз нейкі месяц у цябе нікога ад дружыны не застанецца. Што ж ты робіш?

— А твая якая справа, ваявода? Хто табе даў права мяне перабіваць? Хто табе дазволіў аспрэчваць маё рашэнне?

— Ды хіба ты не памятаеш, княжа, што бацька менавіта гэтага дружынніка выратаваў табе жыццё падчас адной з сечаў? Хіба пра такое можна забыцца? Ён жа ў цябе на руках канаў і прасіў аб адным... Аб адным толькі прасіў, каб ты ягонага сына забраў да сябе ў дружыну, каб у цяжкі момант не пакінуў. Ты ж яму абяцаў, а зараз...

Ваявода змоўк. Відаць, спадзяваўся, што словы ягоныя ўзрушаць гаспадара, прымусяць адмовіцца ад свайго рашэння. Але... Словы ўзрушылі валадара, толькі прывялі да зусім нечаканага рашэння:

— Добра, няхай будзе па-твойму. Няхай... спачатку адлупцуюць вартавога, а потым праверать і тваю скуру на трываласць. Вось тады падрыгаешся, тады будзеш ведаць, як лезці не ў свае справы. Прыступайце!

Пачалі біць маладога воя. Той трымаўся мужна, ні разу не крыкнуў, не застагнаў, і гэта яшчэ болей раз'юшыла гаспадара:

— Мацней лупцуйце! Што вы яго гладзіце?

Потым не вытрымаў, ускочыў і, адпіхнуўшы здаравеннага служку, сам пачаў біць дружынніка. Той і на гэтыя ўдары не адказаў стогнам. Знясілены князь адышоўся ўбок і крыкнуў:

— Цяпер ваяводу!

Старога воя катавалі таксама доўга.

Ачнуўся ён у нейкім кустоўі. Цела смылела і гарэла агнём, паварухнуцца нельга было. Ён застагнаў і зноў страціў прытомнасць. У чарговы раз памяць вярнулася да ваяводы ўжо ў нізенькай хацінцы. Ён павёў вачыма і ўбачыў, што на яго пільна ўзіраюцца дзеці. Паспрабаваў было ўсміхнуцца, але ўсмешка атрымалася нейкая вінаватая.

— Дзе гэта я? — засмяглымі губамі прашаптаў вой.

— Не бойся, чалавеча. Тут цябе ніхто не знойдзе, — адказаў нехта магутным голасам, і над ім нахіліўся такі здаравенны чалавек, што здавалася, калі ён расправіцца ў поўны рост, то галавой падыме страху.

— Як ты мяне знайшоў, гаспадар?

— Ды я са сваімі старэйшымі хлопцамі паціху падпалёўваю ў княжацкім лесе. Неяк жа трэба жыць, сям'я вялікая... Раней усё добра было і хавацца ні ад каго не выпадала, а пасля таго як з князем такое здарылася, то і нам бяда. Пастаянна сочым, каб княжацкія дружыннікі тут не з'явіліся і не ўбачылі якога лася забітага ці дзіка...

— Дык я ж і сам... — ваявода паспрабаваў было сказаць, хто ён такі.

— Ведаю, чалавеча, ведаю. Але грэх гэта вялікі не дапамагчы паміраючаму. Нашыя багі такога не даруюць, ніколі не забудуць. Я ўжо і не думаў, што ты ачуняеш, так яны цябе змалацілі. Малады, дык той праз тыдзень на ногі ўстаў.

— Што, і ён жывы?

— Не толькі жывы, але ўжо і амаль здаровы.

— А дзе ж ён?

— З маімі старэйшымі пайшоў ляда карчаваць. Сказаў, што побач з людзьмі сілы хутчэй набіраецца.

— А ■ ўжо падумаў... — у вачах ваяводы заблішчэлі слёзы.

— Ды не, дзедка наш каго хочаш на ногі падыме. Ён усе травы ведае, якая ад чаго дапамагае... Такі настой заварыць, што ўмомант сілы ўвалье. І ты таксама вярнуўся на зямлю дзякуючы яму.

Гаспадар пагаманіў яшчэ хвілін колькі і пайшоў з хаціны па нейкіх неадкладных справах, а ваявода ляжаў і ўслухоўваўся ў цішыню. Яна пра многае яму нагадвала, але чамусьці найболей пра дзяцінства, юнацтва, бо вырас ён вось у такой жа хаціне, у простай сям'і, дзе ледзьве хапала кавалка хлеба на стале, каб не памерці з голаду. Гэта ўжо потым ён стаў воем і пачаў служыць князю. Спачатку старому, а потым і маладому. Пры адной толькі думцы пра маладога князя хворы ажно скалыхнуўся ад абурэння: «За што ж ён загадвае забіваць да смерці людзей? Дзеля чаго гэта робіць? За што загадаў да паўсмерці збіць яго? За тое, што гэтулькі гадоў верай і праўдай служыў яму?..» Крыўда, глыбокая крыўда, апанавала сэрца воя.

Неяк незаўважна ён задрамаў. Прачнуўся ад таго, што зусім блізка пачуліся мужчынскія галасы і ў хату ўвайшоў гаспадар са старэйшымі сынамі і з маладым воем.

Неўзабаве маленькая хаціна гудзела галасамі. Усе радаваліся таму, што і гэты чалавек паправіцца, устане на ногі і яшчэ пажыве на белым свеце, парадуецца жыццю. Найболей радаваўся, ведама ж, дружыннік. Цяпер ён не адыходзіў ад ваяводы ні на крок. Падаваў, адносіў, падтрымліваў знясіленага яшчэ хворага, і ўвесь час яны гаманілі. На першы погляд магло падацца, што абодва былі радыя магчымасці выгаварыцца. Тут не трэба было некага баяцца, ніхто не віжаваў, не падглядваў.

Неяк, калі ўсе хатнія, змораныя цяжкай дзённай працай, соладка спалі, малады вой зашаптаў:

— Не дарую я яму, ваявода-бацька, не дарую...

— Пра што ты, хлопча? — не зразумеў спачатку той. — Дзякуй небу, што жывымі засталіся... Табе яшчэ жыць ды жыць, а ціхую мясціну мы з табой дзе хочаш знойдзем, толькі б здароўе аднавілася...

Але малады, здавалася, не пачуў, бо працягваў далей:

— За што дзякаваць? Хіба я вінаваты быў? Я застаўся... А дзесяткі, сотні людзей за што той злыдзень згубіў? За што яны ў страшэнных пакутах гэты свет пакінулі? Не ў бітве, не ў сечы, а пад бізунамі? Хіба за гэта ёсць дараванне людское?!

— Цішэй, цішэй, хлопча, не будзі людзей, няхай спяць сабе, бо заўтра ім зноў на працу, зноў стома адолее...

Калі ваявода добра ўздужаў, то малады вой, дапытліва глянуўшы на яго, спытаў:

— Ну што, бацька-ваявода, ты са мной ці тут застаешся?

Стары маўчаў, нешта меркаваў, потым сумна ўсміхнуўся і прамовіў:

— Што ж, і сапраўды прыйшла часіна за нашых сяброў паквітацца. Пайшлі.

Толькі пайшлі яны не ўдваіх, да іх далучыўся і магутны гаспадар з шасцю сынамі:

— Вам гора ад злыдня, а нам што, мёд?

Невялікі атрад рушыў да замка. Доўга яны чакалі зручнага выпадку, ці не болей за тыдзень сядзелі ў засадзе і ўсё ж свайго не ўпусцілі.

Аднаго дня, амаль ужо пад вечар, малады вой катурхнуў ваяводу:

— Глядзіце, брама ў замку апускаецца. Ці не збіраецца гэта князь куды праехацца, на ноч гледзячы?

— А мо і тое, — прашаптаў стары. — Рыхтуйцеся, хлопцы, ды памятайце, што я вам даводзіў, бо біцца давядзецца не абы з кім, а са спрактыкаванымі дружыннікамі, якія не раз сваімі мячамі ворагаў перамагалі...

Апошнія імгненні цягнуліся надзвычай марудна. Потым праз невялікі масток вылецеў вершнік і за ім пяцёра ці шасцёра дружыннікаў.

Бойка была надзвычай жорсткая, і ніхто ў ёй дараваць жыццё не прасіў. Нарэшце двое з дружыннікаў былі забіты. Моцна паранілі і двух сыноў гаспадара, а князь усё яшчэ адбіваўся ад імгненнавокага мяча ваяводы. Стваралася ўражанне, што яшчэ хвіліна-другая — і стары вой не вытрымае. Менавіта ў гэты момант ён і нанёс страшнай сілы ўдар. Князь пахіснуўся і гопнуўся долу. Стары знямогла апусціўся побач. «Гэта табе, ваўкалача, за сяброў нашых, за тых, каго ты са свету звёў... Няма табе болей месца на святой зямлі... Укіньце яго, хлопцы, у рачулку, няхай яго там самы аб'ядаюць. Каб кроў твая ржою стала... Каб з яе нічога добрага не прарасло і не выбілася...»

Так і сталі, ад той падзеі, пазней рачулку Іржыцай зваць. Хто Іржыцай, а хто Іршыцай. Замак той рассыпаўся на камяні. А пазней паселішча жыхары назвалі Ржою ці Ршою. Можа, не ведалі, адкуль назва, а можа, былі перакананы, што і пра благое трэба нашчадкам данесці. Пазней ужо стала Орша.

# БАРАНЬ

У адной сям'і рос маленькі хлопчык Міканорка. Бацькі яго лашчылі і шкадавалі, ды здарылася ліха: захварэлі яны. На ўсю вёску іхнюю тады нейкая пошасць найшла, людзі, што мухі, мерлі. Так тая хвароба выкасіла вяскоўцаў, засталіся ўсяго, мoжа, чалавек з десяць у жывых, і сярод іх Міканорка. Забралі яго да сябе бабуля і дзядуля, якія жылі ў другой вёсцы. Увагі ды ласкі ўдзялялі яму не меней за родных бацькоў, нічога для ўнука не шкадавалі. Куды самі ішлі ці ехалі, туды і Міканорку за сабой цягнулі. Калі што якое, дык дзед мовіў:

— Яму ж, небараку, дома сумна аднаму сядзець — ні пагуляцца няма з кім, ні пазабаўляцца...

А бабуля, ведама ж жанчына, дадавала:

— Ды і пакрыўдзіць незнарок хто можа, мы і не пабачым. Няхай з намі будзе, усё ж спакайней.

Вось такая залішняя перасцярога і падвяла аднойчы старых. Хацелі як лепей, а зрабілі наадварот. Паслухайце, як было.

Аднаго разу, на вялікае свята Вялікдзень, усе людзі да цэркваў збіраліся, дык і старыя паехалі, з разлікам, каб усяночную адстаяць і толькі з раніцы падавацца дамоў. Міканорку з сабой узялі, а каб хлопчык усё ж паспаў, то наклалі ў воз сена, узялі падушку, посцілку.

Прыехалі да царквы, а там народу... Пакуль месца знайшлі, пакуль коніка распрэглі, пакуль маломy растлумачылі, што да чаго, то і часу нямала прайшло. Бабуля, адыходзячы, наказала:

— Глядзі ж, родненькі, захочаш спаць, дык кладзіся і спі, а мы будзем часта падыходзіць. Калі хто прычэпіцца, то не бойся, крычы. Людзей многа, яны ўмомант учэпяцца і надаюць у каршэнь злыдню.

— Ідзіце — я не баюся. Мне тут усё цікава, дык ■ з воза за ўсімі назіраць буду, — адказаў малы.

Старыя і пайшлі. Пастаялі нейкую гадзіну ў царкве, бабуля прыбегла глянуць на ўнука — той сядзеў на возе і дапытліва пазіраў наўкола. Яна спакойна падалася назад. Потым гэткі ж манеўр здзейсніў дзед. І на той раз усё было ў парадку. Так яны і стаялі ў царкве сярод людзей. Час ад часу выбягалі і назад вярталіся. Потым, калі Міканорка спаць лёг, то старая яго накрыла добра, перахрысціла і службу дaслухваць пайшла.

Благое раніцай здарылася. Людзі натоўпам з царквы паваліл, да вазоў разыходзіцца сталі, і тут старая занепакоілася:

— Дзеду, а дзе ж гэта наш Міканорка?

— Ён жа спаў... Можа, у сена зашыўся, дык і не відаць яго, жэўжыка...

— Ды не, нешта тут не тое.

— Зараз глянем.

Падышлі да воза, зірнулі — і сапраўды, няма малога. Яны туды, яны сюды, крычаць-клікаць пачалі, у людзей дапытвацца — нідзе хлапчука не было, ніхто яго не бачыў.

Заплакала горка-горка бабуля, загаласіла:

— Не ўбераглі... Не ўбераглі хлапчынку... Бяда нам цяпер вялікая... А можа...

Ускінулася старая і кінулася назад у царкву. Уляцела, а ўжо бацюшка з дзякам яе зачыняць збіраліся. Укленчыла:

— Бацюшка, родненькі, ратуй...

— Што здарылася?

— Унучак наш прапаў... Няма нідзе, колькі ні бегалі, колькі ні гукалі...

— Можа, недзе з сябрукамі галёкае?

— Ды не, у яго сяброў тут няма, бо ён жа ў нас на хутары жыў... Бацькі ягоныя даўно памерлі, і мы малечу гадавалі...

— Пашукаць трэба лепей.

— Ды мы ўжо ўсё абшукалі, і людзі нам дапамагалі... Усе куткі, усе закавулкі абгледзелі...

Задумаўся бацюшка, не ведае, што і параіць старой жанчыне, як яе суцешыць. А тая глядзіць на яго, паратунку чакае. Потым, павагаўшыся, прамовіў:

— А можа, гэта ты Богу нашаму прынесла малога сённяшняй ноччу ў ахвяру?

Бабуля як стаяла на каленях, так ледзьве не грохнулася галавою аб падлогу. Не чакала яна такога ад служкі Усявышняга.

— Што гэта ты, бацюшка, пляцеш? Як гэта ў цябе язык на такое павярнуўся? Я ж і табе, і Богу свята верыла, а ты вунь пра што падумаў...

Плюнула старая са злосці, крутнулася і з царквы падалася. А там яе ўжо людзі з навіной чакалі. Аказалася, што нехта ўсё ж бачыў, як ля іхняга воза круціліся двое жабракоў. Ці не яны гэта зладзейства і ўчынілі...

Як пачула такое старая, дык валасы на галаве пачала рваць:

— Родненькі мой, каханенькі мой! Ды яны ж могуць цябе калекам зрабіць. Як жа мы цябе не ўсцераглі!..

Побач стаяў і плакаў стары. Так яны і паехалі, плачучы ды стогнучы, дамоў, так і жылі далей, праклінаючы злую долю, штодня звяртаючыся да неба, каб яно забрала іх з гэтай зямлі, дзе ім ужо не было болей радасці. Ды не спяшалася неба выконваць іхнія просьбы, не забірала да сябе, нібы сцвярджаючы, што прыспее яшчэ часіна і сустрэнуцца яны з унукам.

А з Міканоркам вось што здарылася. Сапраўды, у тую ноч ля царквы было многа ўсялякіх жабракоў ды калек. Яны толькі і чакалі моманту, каб выплакаць у вяскоўцаў кавалак хлеба ці якую капейчыну. Справа ў тым, што на Вялікдзень ніхто не меў права ў гэтым адмаўляць — ні багаты, ні бедны. Дык вось, двое жабракоў, мужык з жонкай, круціліся ля воза, дзе спаў хлапчынка, і ён ім нечым спадабаўся. А справа ў тым, што самі яны былі жабракамі не ад таго, што зямлі не мелі, а ад таго, што працаваць не любілі. Вось паспаць, паляжаць — гэта справа зусім іншая, а каб на ніве шчыраваць — і ў галаву не прыходзіла. Пабачылі, што ніхто на іх увагі не звяртае, схапілі соннага хлопчыка з сена і ўцякаць. Бягуць, а Міканорка і вочкі свае не расплюшчвае — спіць соладка, дый годзе.

Прачнуўся малы ў чужой хаціне і давай горка плакаць, дамоў прасіцца. Гаспадары яго ўсяляк супакойваць пачалі:

— Чаго ты, дурненькі, плачаш? У нас табе намнога лепей будзе, спакайней. Цацак табе ўсялякіх наробім, гуляцца з імі станеш...

А той сваё:

— Завязіце да бабулі, да дзядулі... Да іх хачу...

Тады гаспадары, асабліва не валэндаючыся, адлупцавалі малога і прымусілі маўчаць. Забіўся Міканорка ў куточак на печы і голас падаць баяўся, каб зноў біць не сталі.

У той жабрацкай сям'і, у гаспадара, былі два старэйшыя браты, якія ў свой час па-справядліваму падзялілі на тры надзелы бацькоўскую зямлю, каб нікому не было крыўдна, і спраўна вялі свае гаспадаркі. Нельга сказаць, што яны былі багацеямі, але што заможнымі сялянамі сталі, дык гэта дакладна. Спачатку браты дапамагалі малодшаму з жонкай, але потым паглядзелі, паглядзелі і плюнулі.

— Што ж мы на іх будзем рукі рваць, а яны самі толькі палежваюць ды пасміхваюцца? Калі ім добра, то і нам няблага. Як хочуць — няхай так і жывуць. Не станем ім перашкаджаць, але і дапамагаць болей не будзем.

У іх сем'і вялікія, дружныя, працавітыя былі. Як выйдуць на любую працу, то толькі глядзі, як справа наперад пасоўваецца.

Аднаго разу глядзяць, ажно і ў малодшага брата нейкі хлапчук па падворку ходзіць. Яны кінуліся да гаспадара дапытвацца, адкуль дзіця ў хаце. Каб яшчэ немаўля, дык зразумела, а то хлопчыку ўжо на выгляд гадоў дзесяць. Жабракі праўды не сказалі, маўляў, наш, дый годзе! А калі браты добра прыціснулі, то гаспадыня задаволена прамовіла:

— А вам якая справа? Усынавілі мы сірацінку! Зразумелі?! Мы ж у вас не дапытваемся, адкуль на вашых падворках дзяцей гэтулькі. А вы аднаго ўбачылі і адразу прыляцелі!

Крутнулі галовамі браты і пайшлі з двара. Калі ўжо добра адышліся, то адзін з іх і кажа:

— Бачыў, братка, як той хлапчынка спалохана туліўся да сцяны? Што саўчанятка якое...

— Так, відаць, не соладка яму прыйшлося за тыя пару начэй, якія тут правёў. А як яно потым будзе?..

Разам браты дайшлі да сваіх хацін, пагаманілі яшчэ крыху і разышліся. Дома таксама распавялі пра тое, што бачылі і чулі.

Ды ўсё ж Міканорку пашанцавала. Справа ў тым, што рос ён кемлівым хлопчыкам, мог да такога дадумацца, што і дарослы сваім розумам не дайшоў бы.

Неяк непрыкметна год за годам мінаў. Ён усё навучыўся рабіць — і араць, і скародзіць, і сеяць, таму з кожным годам усё болей і болей зямлі засяваў. Да таго часу гаспадар-жабрак памёр, а ягоная жонка пайшла недзе ў людзі прасіць хлеба, хоць Міканорка і казаў ёй, што ў саміх цяпер на тры сям'і хопіць. Ды не паслухалася гультайка, не хацела хлопцу ні дапамагаць, ні падпарадкоўвацца. Як пайшла, то недзе заблукала на лясных дарогах і парвалі яе там ваўкі. Пра гэта ўжо праз пару месяцаў паведамілі маладому гаспадару падарожныя, якія ці то чулі гэтую навіну, ці то на ўласныя вочы бачылі.

Вось тут зразумеў Міканор, што зусім адзін застаўся, што няма болей каго баяцца, бо, па-першае, сам за сябе

пастаяць мог, а па-другое, гаспадарка да яго перайшла, і цяпер, калі яе па-разумнаму весці, то ўсяго заўсёды ставаць будзе, нават у самыя засушлівыя і неўрадлівыя гады.

Згадаў і старых дзедку ды бабульку, якія яго некалі прытулілі, не далі сканаць дзе-небудзь пад плотам ці трапіць на сняданак лясным звярам. Захацелася яму распытаць людзей, схадзіць у тую вёску, адкуль яго некалі ўкралі. А тут яшчэ адна падзея прымусіла яго на некаторы час пакінуць дамоўку і хавацца.

Здарылася вось што. Тыя два браты ягонага былога гаспадара шкадавалі яго толькі перад вяскоўцамі, калі жывыя жабракі былі, ды па-ранейшаму нічога не рабілі, і гаспадарка была ў заняпадзе. А калі ўбачылі, што Міканор гаспадарку пачаў наладжваць, а праз некаторы час яна стала лепшай за іхнія, то зайздрасць абодвух забрала. Як жа так? Зямля іхняга бацькі-нябожчыка, брата ўжо няма, а гэты хлопец-прыхадзень якое дачыненне мае да іхняй спадчыны? Болей таго, жонкі ў справу падключыліся і давай нашэптваць-падвучваць:

— Што вы з ім валэндаецеся? Заманіце ў лес ды забіце.

— Ага, забіце, — адказвалі тыя. — Ды ў яго сілы — на шасцярых хопіць і яшчэ застанецца на тое, каб магілы ўсім выкапаць...

Яно і сапраўды так. Хлапчына вымахаў, дай Бог кожнаму. Сілы меў, што сапраўдны волат-асілак.

— Баіцеся ў адкрытую забіць, дык падпаіце і ўтапіце дзе-небудзь... — не адступаліся жанчыны.

— Дык ён жа не п'е, — пачынаў першы.

Другі звычайна дадаваў:

— А калі і пачне піць, то што той конь выжлукціць. І не дурань жа ён, і нас прымусіць выпіць з ім. Зноў не на нашу карысць... Потым яшчэ на смех перад людзьмі выставіць. Ён такі...

Доўга спрачаліся паміж сабою жанчыны і мужчыны, не маглі нічога прыдумаць, але потым усё ж неяк вырашылі, што падпільнуюць на лясной дарозе і з-за куста сякерай па галаве сякануць. Тут ужо ніякая сіла не дапаможа. Задаволеныя спаць палеглі, дамовіўшыся, хто з раніцы пойдуць Міканора прасіць дапамагчы бярвенні на воз сцягваць. Ён да іхняй дзялкі пакіруе, там яны яго і перастрэнуць.

Але ў адным пралічыліся зласліўцы. Справа ў тым, што дачка сярэдняга брата закахалася ў Міканора. Вось

яна падслухала гаворку бацькоў, ды яны не надта і хаваліся, размаўлялі ўголас, дачакалася, пакуль яны паснулі, выскачыла з хаціны і памкнулася да Міканоравага дворышча. Ноч была на двары, страшнавата, а ісці трэба было з добрую вярсту, ды ўсё глухім борам...

Калі дабралася да хаціны Міканора, то той яшчэ не спаў, сядзеў перад грубкай, кідаў туды трэсачкі і задуменна глядзеў на полымя, якое то гасла, то ўзгаралася з новай сілай. Побач сплаваў-выводзіў сваю адвечную песню кот — верны спадарожнік гаспадара. У гэты момант і грукнула ў дзверы, хлопец ажно ўздрыгануўся.

— Каго гэта там нясе ў такі позні час? Каму гэта не спіцца?

Убачыўшы на парозе дзяўчыну, Міканор зніякавеў, ды тая пачала сама:

— Міканорка, сцеражыся...

— Чаго гэта? Каго мне баяцца? Дзе яны?

— Ды яны не тут, яны заўтра цябе чакаць будуць...

— Хто?

Тут дзяўчына і расказала яму пра ўсё. Міканор выслухаў уважліва, прызадумаўся, а потым рашуча ўстаў і прамовіў:

— Ну што ж, яны так вырашылі, то няхай па-іхняму і будзе, я не супраць!

— Ды ты што, Міканорка? — зайшлася ў роспачы дзяўчына. — Уцякаць табе трэба! Уцякаць, [redacted] не чакаць, пакуль яны цябе на той свет справадзяць!

— Я і сам не хачу на той свет! А ўцякаць — тым болей! Чаго гэта я некаму столькі працы пакіну? Я іх проста правучу, каб да скону жыцця запомнілі, як супраць сумленных людзей благое задумваць!

— Вось гэта іншая справа, — узрадавалася дзяўчына.

— Цяпер пайшлі, я цябе дамоў правяду. А за мяне не бойся, я што-небудзь прыдумаю, дзякуй, што папярэдзіла.

Раніцай, толькі сонца над лесам устала, старэйшы з братоў ужо грукацеў у аканіцу да Міканора:

— Уставай, чалавеча! Уставай, не спі гэтак доўга!

Гаспадар устаў і, нібы нічога не ведае, спытаўся:

— А што здарылася?

— Ды ці не дапаможаш ты нам сёння лес вазіць? Самі не адолеем, цяжкавата...

— Дапамагу, — адразу пагадзіўся той, — чаму ж доб-

рым суседзям не дапамагчы. Зараз па гаспадарцы парадак навяду і да вас прыбягу. Без мяне не пачынайце, чакайце, колькі часу ні прайшло б.

— Вось дзякуй, суседзе, — замітусіўся той. — Мы табе таксама адпрацуем. За намі не застанецца.

Пабег задаволены нядобразычлівец, а Міканор сабраўся і спакойна пайшоў сабе. Праўда, пайшоў не туды, дзе браты жылі, а зусім у адваротным накірунку. Вырашыў, пакуль што якое, то лепей пашукаць сваіх — дзедку ды бабульку. Ідзе паціху ды ў людзей распытвае. Так амаль да вечара самага кіраваў, і пашанцавала яму — знайшоў чалавека, які добра памятаў тую гісторыю ля царквы, калі яго ўкралі. Дык ён і расказаў Міканору, як да хутара дайсці. Хлапчына нават пераначаваць адмовіўся і, нягледзячы на стому, паджгаў туды. Недзе сярод ночы якраз і дабраўся. Глядзіць — стаіць хатка, пахіленая, старэнькая. Забілася сэрца трывожна, але заўважыў выбітую сцяжынку. Калі сцяжынка не зарасла, то жыве нехта. Пастукаўся ціхенька ў акно. І што ж вы думаеце? Жывыя абое былі — і дзед, і баба. Пазнаць Міканора не пазналі, але як ён ім пра ўсё распавёў, то ледзьве ўголас не галасілі. Сказаў хлапчына, што прыйшоў за імі, каб жыць разам, каб ніколі болей не разлучацца.

З раніцы запрэглі коніка, паклалі самае неабходнае і паехалі. Калі ўехалі ў тыя мясціны, дзе Міканор хутар меў, то бабулька завойкала:

— Вой, барыста як! Вой, бор які! Вой, борань якая! Якія дрэвы таўшчэразныя!

Мужчыны толькі пасміхваліся, слухаючы, як дзівілася старая. Ажно наперадзе Міканор убачыў двух вяскоўцаў, якія, апусціўшы плечы, пляліся па дарозе. Ухапіў ён добры кол і за імі. Падляцеў ды як пачаў іх пярэсціць, то тыя, што зайцы ў жыце, кінуліся бегчы. Ды хіба ж чалавек сталага ўзросту ад маладога ўцячэ? Добра ім перапала. А Міканор, мала таго, што лупцуе, дык яшчэ і пакрыквае:

— Я вас адвучу людзям пагражаць! Я вас навучу мірна ціха жыць!

Ледзьве тыя вышкрабліся ад яго. Вярнуўся хлапчына да сваіх і распавёў, з-за чаго ўсё пачалося.

Так, у размовах, і дабраліся да Міканоравай хаціны і сталі жыць-пажываць. Міканор пазней жаніўся на той самай дзяўчыне, якая яго аб небяспецы папярэдзіла. По-

тым дзеці ў іх пайшлі, унукі. А паселішча тое ад бабульчыных слоў так і назвалі — Боранъ, значыцца, што бор густы навокал. Потым, неяк незаўважна, і Барань стала.

## НАРЭЙКАВА

Жылі два браты. Аднаго звалі Парэйка, а другога — Нарэйка. Парэйка быў надзвычай багаты. Куды вокам ні кінь, усюды палі ды лугі, балоты ды лясы Парэйкавы раскінуліся. Жыў сабе, што пан які, а можа, і намнога багацей, бо далёка не кожны памешчык меў гэтулькі багацця. Адных толькі работнікаў наймаў на сезон чалавек па дваццаць — трыццаць, а круглы год з дзесятак трымаў. Сям'я ж у яго была невялікая: сам, жонка ды сынбэйбус. Ля дзевак круціцца ці ля салдатак — гэта яшчэ куды ні ішло, а вось працаваць... Бацька, здаралася, разздаваўшыся, хапаў які цурбалак і крычаў:

— Ці заб'ю цябе, гада, ці да працы прывучу!

Але сын не надта звяртаў увагу на ўсё гэта. Пераседзіць дзе-небудзь той гнеў і далей сабе палежвае.

У другога брата, у Нарэйкі, усё было іначай: зямлі амаль не было, багацця — ніякага, а дзяцей — што тых гарошын у стручку. Усе плачуць-енчаць, есці хочуць, а дзе ж тае ежы набраць, калі ўраджай з поля яшчэ да Каляд з'елі? Вось і круціўся Нарэйка, вось і насілася ягоная жонка, каб недзе чым разжыцца ды есці зварыць. Але, як бы там ні было, духам яны ніколі не падалі, болей таго, пастаянна жартавалі, песні спявалі, адным словам, сям'я дружна жыла. Таму і вяскоўцы ім спачувалі, чым маглі, тым і дапамагалі.

З-за таго, што Нарэйка быў надзвычай востры на язык, яго ўсе імкнуліся ўзяць сабе за свата. Ведалі, што калі ён згоду дасць, то і калоду за дзяўчыну сасватае ці, наадварот, хлопца вакол любога пня абкруціць — гэтак ужо ведаў тую далікатную справу. З гэтага занятку бедны селянін добры прыбытак у сям'ю меў, бо плацілі яму шчодра. Нават калі для іншага палічылі б замнога, то для гэтага нічога не шкадавалі. Калі селянін пачынаў аднеквацца, маўляў, чаго вы, людзі, гэтулькі мне многа наклалі, то тыя таксама не маўчалі:

— Э, братка, былі б мы, а хлеб і да хлеба заўсёды знойдзецца. Ды і ці апошні раз мы да цябе па гэтай справе звяртаемся? Вунь колькі ў нас дзяцей, а яны ж не ста-

рэюць, а сталеюць, і іх трэба будзе жаніць. Зноў да цябе пакіруем...

Расхваляваны Нарэйка звычайна казаў:

— Дай Бог, каб так было, а [illegible] пакуль хадзіць на сваіх нагах буду, нікому з вас не адмоўлю. У чым іншым, можа, не дапамагу, а ў гэтым... Толькі каб у вас усё атрымлівалася...

Вяскоўцы паважалі Нарэйку, ды і як такога чалавека не паважаць. Лёгка сказаць — сасватаць дзеўчыну. А калі да справы дойдзе, то далёка не кожны здолее пару слоў складна прамовіць. Адзін нешта мямліць, другі чырванее і губляецца, а трэці ўвогуле як панясе...

Родны брат Парэйка таксама надумаў жаніць свайго лайдачыну і гультаіну, але не пайшоў прасіцца да беднага брата, каб той быў за свата. Куды там! Гэты выбраў сабе такіх жа багатых, як і сам, сватоў, такіх жа ганарлівых. Праўда, дзеўчыну наглядзелі прыгожую, з заможнай сям'і, але не з такой багатай, як Парэйкава. Сын нічога, што працаваць не жадаў, але жаніцца абы на якой не хацеў. Скрывіўся, калі яму пачалі пералічваць, да каго можна ў сваты падавацца, і грэбліва мовіў:

— Вы гэтых сабе, даражэнькія, пакіньце. Не хачу і чуць пра іх. Мне да Насткі давайце кліны падбівайце. Вось дзе мне пара...

— Але ж, сыночак, — паспрабавала было маці, — яна не надта каб з багатай сям'і...

— А вы што, сваё багацце не са мной пакінеце, у магілу з сабой пацягнеце?

Як сказаў ён такія словы, то бацькі адразу зразумелі, каго ўзгадвалі і што гэты ў цяжкую хвіліну не надта іх пашкадуе. Угнулі галовы, пераглянуліся ды сказалі адно аднаму:

— Няхай ужо так і будзе. Толькі каб ажаніўся, а багацця, і сапраўды, у нас хопіць яшчэ на пару сем'яў...

Сабраліся сваты і разам з жаніхом паехалі да тае дзяўчыны-прыгажуні. Меркавалі, што ўсё добра атрымаецца, хто ж асмеліцца такому багатаму хлопцу адмовіць. Толькі паспадзяваліся, як на самай справе аказалася, дарэмна.

Ганарлівыя сваты ў двор да гаспадара ўехалі на конях. А коні ў іх былі спраўныя, сытыя, гладкія. Гаспадыня паглядзела на коней дый мовіць мужу:

— Ой, чалавеча, якія ў іх коні прыгожыя ды наравістыя... Якія коні...

Але гаспадар быў не дурань і адразу асадзіў жанчыну:

— Ты не на коней заглядайся, яны і ў нас неблагія. Ты на жаніха глядзі, ён жа, калі што якое, нам за зяця будзе...

Як глянулі на таго жаніха, а яно і з выгляду было відаць, што не толькі лайдак, але яшчэ і вялікі дурань. Тым не меней у хату шчыра запрасілі, як звычай таго патрабаваў, пачаставалі сватоў, і тыя ўрачыста пачалі нешта плесці пра чырвоную дзяўчыну. Толькі не надта гладка ў іх гэта атрымлівалася. Сваты ўжо і самі разумелі, што не трэба было ім згаджацца на такі адказны выезд, але што ўжо зробіш. Пачалі, то трэба справу і заканчваць.

Ды ўсё сама Настка вырашыла: як пачула, што сваты пачалі гаспадарку ды коней расхвальваць, выскачыла з-за печы і пеканула:

— А на якога чорта мне вашыя коні патрэбны? Якая мне да іх справа, што яны гладкія ды харошыя? Мне хлопец добры ды харошы патрэбны, а гэта ж боўдзіла нейкае! — і зарагатала, а за ёю і гаспадары ў смех укінуліся.

Сваты за шапкі — і ўцякаць. Але ж у вёсцы навіны не схаваеш. У той жа дзень усе ведалі, як справа скончылася, і давай кепікі ладзіць. Вымушаны быў багаты брат да беднага, да Нарэйкі, ісці прасіцца, каб ён за свата быў. А той, не будзь дурнем, і гаворыць:

— Я сасватаю твайго сына за добрую дзяўчыну, але ты мне за гэта дасі добры надзел зямлі. І каб сенажаць у мяне была, і каб лесу кавалак... Ведаеш жа, што мне за гэта ўсе шчыра плацяць. Калі не заплаціш, то стануць казаць, што ты скнара. Табе ж сорамна будзе, бо на самай справе ты далёка не такі...

Нарэйка заўсміхаўся, спадабалася яму, што родны брат пра яго такія словы сказаў.

— Добра, я згодны, няхай па-твойму будзе. Толькі глядзі, каб і тут канфуз які не атрымаўся.

— Не атрымаецца, братка, гэта ўжо мой непакой.

І што ж вы думаеце? Як сказаў бедны брат, так яно і атрымалася. Сасватаў ён дзеўчыну прыгожую. Адзін толькі хіб у яе быў — такую лянотную трэба было днём са свечкамі пашукаць. Яе бацька як убачыў на сваім падворку Нарэйку, то ажно заскакаў вакол яго:

— Братачка, толькі з'яднай іх. Я таксама табе заплачу.

Так яно і атрымалася. Згулялі вяселле, а потым ужо маладыя пачалі біцца, даказваць адзін аднаму, хто з іх працуе, а хто нічога не робіць. Так яны ўсё жыццё ў згрызоце ды бойках і праіснавалі.

Толькі Нарэйку гэта зусім не хвалявала. Ён атрымаў ад старэйшага брата тое, пра што дамаўляліся, а яшчэ і бацька дзяўчыны накінуў, так што ладны кавалак зямлі выйшаў. Свой хутар стаў. І лес блізка, і луг пад бокам, і рачулка побач, з крыніцы выцякае. Тут сваю хаціну і ўсе будынкі Нарэйка і паставіў. Потым побач іншыя сталі хаціны будаваць, але месца ўжо пастаянна толькі Нарэйкавым называлі. Так і вёска Нарэйкава стала.

## ПАДДУБЦЫ

Там, дзе рэчка наша зараз цячэ, раней стаялі высокія, вячыстыя дубы. Пад імі тулілася толькі адна маленькая хацінка з вузенькім падслепаватым акенцам, якое амаль да зямлі ніжнім канцом дакраналася. Людзі падарожныя, якія сюдою часта праходзілі, рэдка падыходзілі да яе, каб вады папрасіць напіцца ці пераначаваць. Глянуць, якая яна бядотная, ды далей кіруюць, бо бачаць, што там надта не разжывешся.

Але дарма яны так думалі. Справа ў тым, што там не бабулька знямоглая і не дзядулька стары жылі, а гаспадарылі браты-разбойнікі, Фёдар ды Пятро. Такія ўжо здаравенныя, што ва ўсім наваколлі ім роўні па сіле не было, а адчайныя ды бязлітасныя, дык, можа, і ва ўсім белым свеце другіх такіх не знайшоў бы. Днём адсыпаліся ў сваёй хацінцы-ляжанцы, а ноччу справу злосную спраўлялі, па навакольных дарогах засады наладжвалі ды людзей нявінных рабавалі. Мала таго, яшчэ прымушалі людзей што-небудзь ганебнае рабіць (бацьку — дачку згвалціць ці сына — маці), [redacted] потым забівалі і пакідалі сярод шляху. Вопратку ды коней не бралі — коні ў іх былі. Забіралі толькі срэбра-золата. Хітрыя былі, асабліва Фёдар. Пятро, дык той, мабыць, яшчэ б што іншае цягнуў, [redacted] старэйшы брыво як скрывіць ды як тупне нагою:

— Ты што, даўбешка, хочаш, каб нас з-за гэтае апранахі знайшлі? Хочаш, каб людзі з наваколля здагадаліся, чым

мы тут займаемся? Мала ты маеш ад нашага занятку? Сказаў табе — бяры грошы, астатняе на месцы кідай!

Пятро разумеў, што брат не жартуе, і хуценька выконваў загад. Толькі адгаворваўся:

— Я ж хацеў як лепей, [redacted] ты адразу пагражаць узяўся. Я ж для дваіх стараўся...

— Дваіх з-за такой дробязі потым і жыцця пазбавіць могуць... Не думаеш ты, браце, сваёй думалкай ні кропелькі. Пайшлі хутчэй адсюль, пакуль ніхто не нарваўся і нас не заўважыў.

Так яны не дзень, не два гаспадарылі на дарогах, а можа, гадоў з дзесятак. Вясковыя жыхары баяліся ноччу на шлях выйсці, стараліся толькі днём ездзіць, у вялікія абозы сабраўшыся. Але і гэта мала выратоўвала. Нападалі разбойнікі — нікога жывым не выпускалі, толькі потым удовы ды сіроты галасілі-заходзіліся над загінуўшымі мужамі ды бацькамі.

Ніхто нават падумаць не мог, што яны такія зладзействы ўчыняюць. Што лайдакі, дык ці мала такіх на свеце, што, шырачэнныя плечы маючы, працаваць не жадаюць? А хто з сякерамі ці даўбешкамі іх бачыў? Ніхто. Вось яно і атрымлівалася, што не падкапаешся. Выпадкова сталася, што ўсё ж прынялі яны пакаранне за тыя шматлікія забойствы і пакуты, якія на зямлі ўчынілі. Вось як гэта адбылося.

Жылі муж з жонкай. Жылі беднавата, ледзьве канцы з канцамі зводзілі. Хлеб на стале штодня быў, і за тое Богу дзякавалі. А ў адзін год ім нават пашанцавала — вырасла ў іх цялушка, ды такая спраўная, такая гладкая, што ажно суседзі зайздросцілі, гаманілі паміж сабой, што калі прадаць у добрыя рукі, то і кароўка таму гаспадару на славу будзе, і гэтыя грошай возьмуць, каб неяк сваю гаспадарку выправіць. Радаваліся муж з жонкай, раіліся і ніяк не маглі вырашыць, што ж купяць, калі ўсё добра абыдзецца. Гаспадыня хацела пару авечак ды свіней завесці, [redacted] гаспадар настойваў на новым хлеўчуку і свірне.

Нарэшце прыспела тая часіна, калі цялушку трэба было весці прадаваць. Дачакаліся вялікага абозу, і муж паджгаў у мястэчка. Жонка дома засталася і наказала чалавеку, каб толькі з людзьмі хадзіў.

На базары яму адразу пашанцавала — цялушку купілі, прычым за тую цану, якую ён сам і прызначыў. Пакруціўся чалавек, купіў сякіх-такіх падарункаў дзецям і жонцы,

астатнія грошы ў лапаць, пад анучу, засунуў і вырашыў дамоў падавацца, чаго дзень траціць. Тут і дарогі ўсяго — нейкіх вёрст з пяць. Светлы дзень, якія тут рабаўнікі? А галоўнае — карцела хутчэй пахваліцца перад жонкай.

Ідзе селянін, азіраецца, прыслухоўваецца, каб незнарок на каго не нарвацца. Усё было ціха, спакойна. Да дому ўжо нейкая вярста заставалася, павесялеў гаспадар, кроку прыбавіў. І трэба ж было такому здарыцца — наляцеў на братоў-разбойнікаў, якія сядзелі на вялізных валунах і меркавалі, куды лепей ноччу падацца рабаваць.

— Хадзі да нас, чалавеча, не палохайся. Хіба ж ты нас не ведаеш? Пасядзі крыху, потым далей сабе пойдзеш.

Селянін паспрабаваў было адмовіцца:

— Спяшаюся я, людцы, дома справы чакаюць...

— Ва ўсіх справы, усіх чакаюць. Сказалі табе — хадзі да нас ды сядай, значыцца, рабі так, бо табе ж горай будзе!

Бачыць гаспадар, што не выкруціцца, падышоў і сеў. Тады яны давай дапытвацца:

— А дзе ж гэта ты быў? За якія грошы гэтулькі падарункаў накупіў?

Селянін не вытрымаў і ўзарваўся:

— Дзе быў — гэта мая справа, а за што накупіў? За сваё, не за ваша. Я ж у вас не дапытваюся, чаго вы тут расселіся?..

Толькі ён так сказаў, як Пятро рэзнуў яго цурбалкам па галаве, дык той і ўпаў мёртвым. Пачалі браты шукаць грошай — нічога не знайшлі. Хацелі ўжо ісці, але Фёдар перадумаў:

— Не можа такога быць, каб у яго грошай не было. Дрэнна мы шукалі, давай яшчэ паспрабуем...

Распранулі бедалагу дагала і знайшлі тыя няшчасныя грошы. Узрадаваліся, што няблага для іх дзень пачаўся, пакінулі труп, а самі плетанулі як мага далей адтуль.

Жонка гаспадара дома чакала-чакала і ўжо пачала непакоіцца. Выйдзе за вароты, пастаіць, і назад, потым — зноў.

Ужо і вечар прыспеў. Пастухі прыгналі кароў з пашы і прынеслі жанчыне страшную навіну, што муж яе, нежывы, ляжыць у кустоўі.

Пабегла туды гаспадыня з дзецьмі, ажно і сапраўды — ляжыць яе чалавек забіты ды скрываўлены, а ўсе тыя сціплыя падаруначкі, якія ён жонцы ды дзеткам нёс, параскіданы, у зямлю ўтаптаны. Жанчына нават не стала тыя няшчасныя грошы за цялушку шукаць, бо для яе не гэта самае галоўнае было. Галоўнае — яна страціла гаспадара, апору ў сям'і, на якім усё трымалася, за якім і яна спакайней сябе адчувала. А што зараз? Як жа адной дзяцей маленькіх на ногі ўзняць? Загаласіла бедная, закачалася, валасы на галаве стала рваць. Вяскоўцы пазбіраліся, галовы долу нахілілі, жанчыны таксама слёзы льюць. І тут удава ў праклёны страшныя ўкінулася.

— Каб жа, — гаворыць, — тых, хто гэта зрабіў, перуны страшныя пабілі! Каб іхнюю хаціну маланкі з першай жа хмары не мінулі! Каб у іх вада-малако ў калодзежы крывёю стала! Каб ім спакою ні на гэтым, ні на тым свеце не было!

Пахавалі недарэчна загінуўшага селяніна, і стала жанчына адна з дзецьмі гараваць. Але праклёны яе дарам не прайшлі. Аднаго разу, недзе пад самы поўдзень, выйшла груваcткая хмара, і загуло-затрашчала ўсё навокал. Першыя ж стрэлы ўлупілі ў тую хацінку, дзе браты жылі. Яны ў той момант якраз п'яныя спалі, так і згарэлі разам з нарабаваным дабром. А ў калодзежы іхнім кроў стала. Дык людзі гэта як пабачылі, то і зразумелі, хто ўсё злое і ліхое ў наваколлі чыніў.

Ад тых часоў застаўся да нашых дзён толькі напаўразбураны калодзеж і назва з'явілася — Паддубцы.

## ПАНІЗОЎЕ

Старыя людзі кажуць, што назва вёскі дайшла да нас з даўняга часу. Раней людзі тут жылі надта заможна. А што ж вы хочаце, лес побач, да лугу — рукой падаць, а да сенажацяў усяго з вярсту нейкую трэба праехаць. Усе выгоды пад бокам, толькі жыві, толькі радуйся. Ды, відаць, людская натура ўжо такая: добра жывецца, а хочацца яшчэ лепей. Так і тут. Ужо добра ўзбагаціліся людзі, але ўсё роўна грэблі і грэблі пад сябе. Жабракі тое паселішча бокам абыходзілі, бо з года ў год перадавалася пагалоска, што тут аднаго старога з хлопчыкам-павадыром сабакі

насмерць загрызлі — злосны гаспадар натравіў. Толькі нездарма ў народзе гавораць, што як бы ты ні круціўся, але абавязкова дакруцішся. Так і тут атрымалася. Паслухайце пра ўсё па парадку.

Так ужо павялося, што ў кожнай вёсцы сяляне царкву стаўлялі, крыжы на ўваходзе ў паселішча і пры выхадзе з яго ўзводзілі, каб нячыстай сіле не было дзе павярнуцца ці пошасці якой сваю пашчу разявіць. А гэтыя не баяліся, мабыць, адчувалі, што і смерць і хваробы іх самі палохаюцца, стараюцца не наведвацца ў гэты край.

Гаспадары зайздросцілі адзін аднаму па-чорнаму, кралі — толькі адвярніся, то зубы з рота павырываюць. А вось каб каму дапамагчы — такога не было.

Жыў там адзін селянін з жонкай ды з сынам. Багацця ўсялякага яны гэтулькі дамоў нацягалі, што на тры пакаленні людзей хапіла б, ды яшчэ і засталося б. Але кожны ранак гаспадар з сынам куды-небудзь кіравалі, каб выглядзець, дзе што блага ляжыць, ды сперці. Калі тым зладзеям не ўдавалася што ўкрасці за дзень, то дахаты цягнуліся, нібы тыя сабакі пабітыя, ледзьве ногі перастаўлялі.

Аднаго разу нехта іх падвучыў, што, маўляў, трэба зла-віць вужынага цара, садраць з яго шкуру і тады атрымаеш здольнасць бачыць схаваныя глыбока пад зямлёю шматлікія скарбы. Гадоў колькі на Узвіжанне яны шчыравалі-пільнавалі, але не шэнціла ім, гады бокам на зімоўкі накіроўваліся. Потым неяк усё ж падпільнавалі. Колькі яны ні ў чым не павінных гадаў перабілі — пералічыць цяжка! Баяліся, што вужынага цара ўпусцяць, дык усіх агулам малацілі. Схапілі таго вужа, з каронай на галаве, і нават дамоў не панеслі, тут жа і аблупілі, каб па дарозе ўжо і золата з прыхаваных скарбаў назбіраць. Шкуру садралі, а вуж круціцца, сканаць ніяк не можа, пакутуе ды шыпіць ад болю.

Схапілі зладзеі тую шкуру і прыпусцілі па кустоўі да вёскі. Прабеглі ўсяго нейкую сотню крокаў, ажно нібы з-пад зямлі да іх данеслася:

— Гаспадара пазваць да сябе хачу! Гаспадара пазваць да сябе хачу! Чаго я тут гэтулькі гадоў ляжу і ніхто мяне не забірае?!

— Хто гэта? — вылупіўся бацька на сына.

— Не ведаю, — ціха прамовіў той.

— Хто ты? — крутнуўся на месцы старэйшы.

— Я... — данеслася зусім блізка. — Я — скарб.

— Скарб?

— Ага, а ты цяпер мой гаспадар і маеш права рабіць са мной усё, што пажадаеш.

— А што з табой можна рабіць? — ад радасці, мабыць, вясковец не ўсведамляў добра, пра што яшчэ можна запытацца.

— Усё.

— І забраць цябе можна?

— Гэта ў першую чаргу.

— Тады скажы, дзе ты хаваешся?

— Ды зусім побач. Трухлявы пень бачыш?

— Ну...

— А пару крокаў ад яго, па правы бок, расце бярэзінка...

— І яе бачу.

— Дык пад ёю [redacted] і ляжу.

Голас не паспеў яшчэ заціхнуць, [redacted] бацька з сынам ужо падбеглі да той бярэзінкі і пачалі голымі рукамі траву-пясок драць. Неўзабаве разлёгся радасны кліч. Гарлаў малодшы:

— Знайшлі! Знайшлі! Скарб знайшлі! Вялізны чыгун з золатам! Цяпер усе каштоўнасці на белым свеце будуць нашыя! Цяпер толькі мы іхнія гаспадары!

— Толькі мы! — падхапіў бацька, але праз пару хвілін, колькі меў сілы, рэзнуў сына ў вуха. Той не чакаў такога павароту справы:

— За што, тата? За што ты мяне гэтак лупцануў?

— Каб ведаў, дурында, як крычаць!

— А хіба няможна?

— Ведама ж, не!

— Чаму?

— А калі падпільнуе хто-небудзь, пачуўшы, што мы ўзбагаціліся? Тады дарога нам — да бліжэйшай цёмнай мясціны... Там ужо нам хутка рады дадуць...

— Ой, татачка, я пра гэта і не падумаў. Не сярдуй, гэта ж [redacted] з радасці...

— На першы раз дарую, а потым — сам глядзі, шкуру, нібы з таго вужа, спушчу, не пашкадую!

— Добра, тата, — нахіліўся долу сын. — Але мне карціць спытацца яшчэ пра адно...

— Пра што гэта?

— Трэба ж, відаць, закопваць гэтыя мясціны, дзе мы будзем скарбы забіраць...

— Навошта?
— Па іх жа вяскоўцы могуць здагадацца, чым мы тут займаемся і чаго па лясах ды па палях бегаем.
— Слушна гаворыш, сынок, — мовіў старэйшы і прысеў на пень, — трэба нешта прыдумаць.
— Прыйдзецца засыпаць.
— Але ж часу многа на гэта страцім. Яшчэ колькі скарбаў знайшлі б...
— Яно-то так, але нічога іншага не застаецца.
— А я прыдумаў, што рабіць, каб ніхто не сачыў за намі... Усё вельмі проста — закляцці-праклёны шаптаць.
— Добра прыдумаў! Лёгка і, галоўнае, хутка.
Падляцелі да яміны і давай у два галасы замаўляць ад чужых вачэй. Але як толькі пачалі пляваць на зямлю, то разлёгся магутны голас:
— Спыніцеся, бо пакрыўджуся!
Прыціхлі бацька з сынам, пераглянуліся і зноў за сваё ўзяліся. Той голас паўтарыў пагрозу, але і на гэты раз зладзеі не звярнулі на яе ніякай увагі. І тут нешта затрымцела, закалацілася, і той кусцік, дзе стаялі бацька з сынам, праваліўся некуды ў апраметную, а на паверхні заблішчэла вада. З тае яміны забіла крыніца, якая дала пачатак свавольніцы-рэчцы, а рэчка тая, у сваю чаргу, да раніцы затапіла ўсё наваколле — ні жыхароў-злыдняў, ні іхніх пабудоў не было відаць.
З тае самае часіны кожнае вясны вада затапляе нізкія мясціны — агароды, нівы, палі, а людзі праклінаюць грахі далёкіх продкаў, але ніколі не адмаўляюцца ад назвы паселішча — Панізоўе.

## ЦЕРАБОЎНЯ

Жыў-быў бедны чалавек. Ад бацькі яму нічога не засталося ў спадчыну, а калі больш дакладна, то старэйшыя браты яго пакрыўдзілі, калі зямлю ды нажытак дзялілі, — сабе ўсё пазабіралі, а яго выправілі ў белы свет. Нават скарыначкі хлеба не далі, яшчэ і прыгразілі, што ў каршэнь надаюць, калі забавіцца.
Малодшы, звалі яго Васілём, не надта братоў баяўся, бо моцны фізічна быў. А вось характар меў мяккі, падатлівы, любому гатоў быў саступіць, чым браты часта і карысталіся.

Заплакаў хлапчына і пайшоў з бацькоўскае хаты на ноч гледзячы. Спачатку голад не вельмі апаноўваў, але потым дапёк. Круціўся ён, круціўся і нарэшце даўмеўся (справа летам была), вырашыў у лес падацца з дарогі, якіх ягад пашукаць і тым самым голад перабіць.

Збочыў ён са сцяжынкі і ўбіўся ў такі густы ды прыгожы маліннік, што ягады было — хоць ты лапатаю згрaбай. Так захапіўся Васіль, што і небяспекі не заўважыў. Ды што не заўважыў, нават і не адчуў. Ускінуў вочы і ажно аслупянеў: прама перад ім стаяў здаравенны, як гара, мядзведзь. Стаяў і, здавалася, здзіўлена глядзеў на чалавека, які не ўцякаў ад яго, а спакойна займаўся сваёй справай. Ды куды там бегчы! Хлопец паспрабаваў было прыпусціць куды ўбок, але ногі нібы прыкіпелі да зямлі. А сонейка свеціць ласкава, птушачкі навокал шчабечуць — жыць хочацца. Таму, відаць, і запрасіўся Васіль:

— Не чапай мяне, мядзведзь-бацюхна. Нікому я ніколі крыўды не чыніў, часцей мне дрэнна прыходзілася... Во і зараз хаджу па белым свеце ды шукаю свайго шчасця. Не чапай...

Так ціхенька гамоніць, а сам сочыць за тым, што звер далей рабіць будзе. А той нібыта зразумеў словы чалавека — нахіліўся, панюхаў паветра, павярнуўся і падаўся ў гушчар, толькі голле затрашчала пад магутнымі лапамі.

Васіль счакаў крыху і падаўся на тую сцяжынку, па якой ішоў. Пакуль супакоіўся, пакуль асэнсаваў, куды далей шлях трымаць, то і надвячорак прыспеў, трэба было думаць, дзе на ноч спыніцца. А тут, як на тую бяду, ніводнага паселішча блізка не было відаць, ніводнай жывой душы не сустракалася. Неяк незаўважна дабраўся да незнаёмай рэчкі, улез у ваду і давай у траве рыбу рукамі лавіць. Раней жа яе столькі было, што за якую гадзіну голымі рукамі можна было на сям'ю налавіць. Таму і ў Васіля неўзабаве штук колькі рыбін на беразе падскоквала. Тады вылез падарожны з рэчкі, нацягнуў сухога галля, запаліў вогнішча, насмажыў рыбы на агні. Наеўся добра ўпершыню за колькі дзён, прыткнуўся галавою да купіны, світкай накрыўся і, гледзячы на патухаючае вогнішча, непрыкметна задрамаў.

Спіць хлапчына, і сніцца, быццам бы ён са сваім бацькам-нябожчыкам размаўляе. Той стаіць перад усімі сынамі і кажа: «Глядзіце, сыночкі, жывіце дружна, дапамагайце адзін аднаму, каб людзі з вас потым не смяяліся, не га-

варылі, што ў добрага бацькі дрэнныя дзеці павыраслі, бо мне ад такіх слоў і ў магіле няёмка будзе...»

І што самае дзіўнае, усе сыны дружна адказваюць: «Ды не, тата, за нас табе сорамна не будзе! Спі спакойна, і няхай зямелька наша родная будзе табе мяккаю коўдраю, пуховаю падушкаю...»

Не вытрымаў Васіль, крутнуўся і гучна прамовіў: «Што ж вы, злыдні, бацьку супакойваеце, а самі вунь што вырабляеце?! Ды калі б ён пра ўсё ведаў, то ў магіле перавярнуўся б ад абурэння!»

Так крутнуўся, што ажно прачнуўся. Расплюшчыў вочы і ніяк зразумець не можа, дзе знаходзіцца. Вогнішча не патухла. Наадварот, ярка гарэла, а навокал яго сядзелі некалькі чалавек і ціхенька размаўлялі. Адзін з іх, убачыўшы, як Васіль перавярнуўся, прамовіў:

— Во, і хлапчыне паспаць не далі... Ён, мабыць, здарожыўся, а мы без дазволу на агеньчык выбіліся, ды яшчэ і гаспадара патурбавалі без дай прычыны...

— Нічога, нічога, — паспяшаўся супакоіць іх падарожны, — аднае тае бяды, што прачнуўся. Спяшацца мне няма куды, а пасцель у мяне вялікая, хоць да полудня круціся-пераварочвайся, ніхто на працу не прымусіць ісці...

Незнаёмыя людзі нявесела засмяяліся, а самы старэйшы з іх запытаўся:

— Што ж ты, чалавеча, на беразе рэчкі спіш? Ці то да людзей не паспеў дайсці, ці то ўжо так прытаміўся, што тут і зваліўся?

— Ды не, не надта я і стаміўся, проста няма да каго ісці...

— Раскажы, як жа ў цябе ўсё так атрымалася?

— Ды не надта гэта вясёлая гісторыя. Родныя браты мяне з бацькоўскай зямлі сагналі. Сказалі, каб сам сваё шчасце шукаў...

— Сам шчасце шукаў, — задуменна паўтарыў старэйшы. — А яно што, шчасце, толькі і чакае, пакуль яго ў рукі возьмуць?

Але на гэтае пытанне ніхто не адказаў. Мабыць, кожны думаў аб сваім, набалелым.

Колькі часу панавала начная цішыня, потым яе парушыў голас аднаго з незнаёмцаў:

— А як цябе завуць, хлапчына?

— Васіль.

— Васіль... Гэта добра... А ці не хочаш ты, чалавеча, з намі пайсці?

— Чаму б не...

— Нават не пытаешся — куды?

— А мне зараз усё роўна. З вамі весялей будзе. Калі бераце з сабой, то куды вы, туды і я...

— Во гэта па-нашаму! — засмяяўся старэйшы. — А каб ты не думаў, не гадаў, чым мы займаемся, то адразу скажу: паноў багатых цярэбім.

— Як гэта? — не адразу зразумеў Васіль.

— Лішняе адбіраем ды бедным раздаём, — растлумачылі яму больш даходліва.

— Дык гэта ж святая справа, — горача ўсхапіўся хлапчына.

Навокал выбухнуў здаровы, дружны смех, ажно полымя вышэй угару шуганула.

З таго часу і стаў Васіль хадзіць разам з ліхімі сялянамі ды памешчыкаў розуму вучыць, каб не здзекаваліся з вяскоўцаў, каб не абіралі да ніткі, ды ці мала што можна было давесці ў дурныя панскія галовы? А як ціха стала ў тых мясцінах, то пабудавалі яны сабе хаціны і зажылі разам. А вёску сваю так і назвалі — Церабоўня.

## ЮШКАВА

Некалі тут, не тое, што зараз, такія мясціны былі, што ні праехаць, ні прайсці. Калі надаралася страшэнная засуха ці маразы лютыя зімою ўдаралі, то да сваіх родных наведваліся ў суседнія вёскі ці ў якое мястэчка выязджалі, а ў асноўным сядзелі па тры-чатыры гады ў паселішчы, нікуды і не рыпаліся, не рызыкавалі людзі жыццём.

Касілі, аралі, сеялі, але толькі з боку вёскі, там, дзе ўсё ўжо вымацалі, выступалі, дзе не баяліся, што раптоўна разявіцца «чортава акно» і прагна схопіць чалавека або жывёлу.

З тых часоў і гісторыі ўсялякія пра гэтыя мясціны распавядаюць.

Аднаго разу бацька з сынам паехалі на балота сена забіраць, якое ўлетку накасілі і згрэблі ды ў стог вялікі паставілі. Запрэглі коней, сабралі ўсё, што трэба ў такую дарогу, перакусіць з сабой гаспадыня дала, а стары дзед выйшаў і перасцярог, да сына, у асноўным, звяртаючыся:

— Глядзіце там, мужчынкі, асцярожненька. Глядзіце, бо балота наша жартаваць не любіць. Крок-другі няправільна зробіш, і давядзецца адплату плаціць балотнаму гаспадару...

Сын не вытрымаў і махнуў рукою:

— Вярзеш ты, бацька, абы-што, нават слухаць ахвоты няма.

— А ты слухай, слухай ды на вус сабе матай, каб ведаў, што рабіць, калі ліха надарыцца.

— Якое там ліха можа быць? Хто пра яго калі тут згадваў?

— Згадвалі, і неаднойчы. Гэта ты такі мондры ў мяне вырас, што ніколі да таго, пра што людзі гамоняць, не прыслухоўваўся. І свайго сына такім жа невукам гадуеш. Глядзі, каб плакаць не давялося, — па-сапраўднаму раззлаваўся старэча.

Сын адмахнуўся і скамандаваў ехаць.

Коні, весела памахваючы хвастамі, ветрам ірванулі па наезджанай дарозе. Бацька з сынам, каб весялей было, песню завялі, бо трэба было пераадолець добры дзесятак вёрстаў. А стары ўсё стаяў на дворышчы, і калі да яго выйшла сынава жонка, то, звяртаючыся да яе, прамовіў:

— Ніколі ён мяне не слухаў. Вось і сёння адмахнуўся. А бачыш, галубка мая, усё на адлігу паказвае. У балоце яна раптоўна пачынаецца, азірнуцца не паспеюць, як захлюпоча пад нагамі...

— Што ж нам рабіць, тата? — адразу занепакоілася тая.

— Трэба нешта прыдумаць, каб своечасова ім дапамагчы, каб да дрэннага іх гэтая абыякавасць не давяла.

Бацька з сынам тым часам і да стога свайго прыджгалі. Ведама ж, па снезе пустыя сані лёгка бягуць, тут і баяцца няма чаго, што перакулішся ці ў які корч скіруеш. Коні самі дарогу выбіраюць.

Саскочыў старэйшы з саней і крычыць залівіста:

— Бачыш, як хутка даімчалі, і ніякіх перашкод, ніякага чорта не напаткалі... А то стары заладзіў сваё — глядзіце, глядзіце... — І так натуральна перадражніў бацьку, што сын ажно з рогату залёгся.

— Давай, сынку, сена на сані класці. Спачатку на адны, потым на другія. Тут дарога добрая, недалёка, то да вечара пару разоў абернемся.

Закіпела-заспорылася ў іх праца. Успацелі абодва, кажушкі паскідалі, пара, нібы ад якіх гаршкоў, ад плячэй валіць. Не заўважылі, што ў паветры пацяплела, мабыць, ім здавалася, што гэта так распрацаваліся ды ўгрэліся. За нейкую гадзіну сані наклалі і пад рубель за-

цягнулі. Пачалі ля другіх завіхацца, і раптам сын выгукнуў:

— Тата, здаецца, дождж імжыць...

Бацька супыніўся, сумна ўсміхнуўся і дадаў:

— Вось табе і напрацаваліся... Трэба стог прывяршыць ды гэтае сена, што на недаладжаных санях, пад верх падкінуць, каб не так намокла. Дождж праз пару хвілін перастане, бо гэта ж не восеньскі дождж, а зімовая пацяруха...

Апрануліся і прыселі адпачыць. Ажно і сапраўды, праз колькі часу дожджык перастаў.

— Вось бачыш, ён і сена намачыць не паспеў. Зараз пакіруем, — звярнуўся бацька да сына. — Нічога страшнага не здарылася...

Пакуль накідалі другія сані, пакуль іх добра ўтапталі ды пад рубель уцягнулі, то і часу крыху прайшло.

— Ну што, паехалі?

— Паехалі.

Запрэглі коней і... толькі тут заўважылі, што снег зрабіўся чорным і, дзе ступалі, там адразу выбівалася наверх вада.

— Тата, трэба хутчэй, бо дарогу залье, — занепакоіўся сын.

— Ага, зараз рушым...

Паспрабавалі было падагнаць коней, каб і тыя, застоеныя, паспяшаліся, але жывёліны храплі, упіраліся і не надта рваліся па ранейшай дарозе. Бацька не ведаў, што рабіць, разгублена азіраўся, а параіцца не было з кім, бо сын жа ведаў яшчэ меней за яго. Пайшоў сам наперадзе, а каня ўзяў за аброць. Але прайшлі, можа, з паўвярсты, і вады стала намнога болей. Цяпер ужо і назад шлях быў адрэзаны. А часу патрацілі даволі многа. Вось і мелі. Крычы — не крычы, ніхто ўсё роўна не пачуе. Першым не ўтрываўся сын:

— Трэба было слухаць дзядулю. Ён жа нешта хацеў параіць, а ты ўсё адмахваўся. Вось цяпер і маем... Куды падацца, як вылезці з балота? Ды што ўжо вылезці, хоць бы жывымі застацца. А то так вада і заглыне. Толькі і застаецца, што залазіць на сані ды чакаць, пакуль вада над галавою самкнецца ці калі зноў падмерзне. А гэта можа здарыцца і праз тыдзень...

Бацька спачатку маўчаў, а потым загаманіў і ён:

— Каб жа я, сынок, ведаў, што яно так усё павернецца... Усё за жартачкі ўспрымаў, пакуль во самі не напаткалі гэтае ліха... Як нам здсюль выбірацца?..

Прыціснуліся на санях спіна да спіны і маўчаць. А які ж зімою дзень? Пару гадзін сонца пабудзе, і змрок апаноўвае наваколле. Так і тут. Ужо шарэць пачало, і раптам недзе здалёку, як падалося сыну, данесліся галасы.

— Бацька, бацька, ці чуеш?..

— Што?

— Нехта, здаецца, кліча нас...

— Хто тут нас, сынку, у такую часіну шукаць будзе? Мабыць, падалося табе.

Заціхлі, абодва са спадзяваннем услухоўваючыся ў незвычайную балотную цішыню. Неўзабаве данеслася выразнае:

— Мужчынкі, мужчынкі, дзе вы тут? Адгукніцеся!

— Тата, дык гэта ж нас дзядуля кліча. Мы тут!.. Дзеду, мы тут!..

Праз дзесятак хвілін да іхніх саней пад'ехалі сані. Праўда, пустыя, але бацька з сынам не маглі паверыць, што яны... пад'ехалі, бо пад снегам ужо даволі высока ўзнялася вада.

— Што, мужчынкі, сумуеце? — весела запытаўся дзядуля, нават і словам не абмовіўшыся пра тое, што я, маўляў, вас перасцерагаў. — А мы дома з гаспадыняй сядзелі, сядзелі, ды нешта вас доўга няма, то вырашылі праехацца і глянуць, як тут у вас справы...

— Няважныя справы, тата, няважныя, — азваўся сын. — Бачыш, што навокал стала?

— Бачу, але навошта сядзець? Трэба ж дамоў прабівацца.

— Коні не ідуць.

— Зараз пойдуць. Вы толькі за мной кіруйце, і ўсё будзе добра.

У санях весела божкала гаспадыня, радая, што яе мужчынкі жывыя і здаровыя.

Дзед пакіраваў першым, а за ім пайшлі і жывёліны, запрэжаныя ў сані з сенам. Калі выехалі на вясковую вуліцу, то сын, звяртаючыся да бацькі, сказаў:

— А я і не думаў, што мы з балота сёння выб'емся. Там жа такая юшка... Такая юшка, што і ступіць нельга...

— Юшка юшкай, мужчынкі, — звярнуўся да іх дзед, — але вам яшчэ і навука добрая на будучае будзе.

Тых мужчын і сталі потым Юшкавымі зваць, ад тае балотнае вады-юшкі. Ад тых часоў і вёска назву сваю атрымала. Да нашага дня так і засталося.



# ПАСТАВЫ

У даўнія часы жылі тут два браты — Іван і Пятро. Першы ад нараджэння быў хітры, ліслівы, калі яму што трэба было, то з-пад зямлі мог узяць, з рук выхапіць. Такім ужо анёлкам прыкінецца, што проста шкада на яго глядзець, не тое каб просьбу ягоную не выканаць. А Пятро, наадварот, быў працавіты, сумленны, але не вельмі гаваркі, хутчэй — маўклівы. Бацька часта яму гаварыў:

— Прападзеш ты, сынку, з такім норавам. Трэба і табе неяк да жыцця прыладкоўвацца. Не глядзі, што там прыгожа ці не надта, а дабівайся свайго. Ажэнішся, дзеці пойдуць, іх жа трэба карміць, апранаць. Адной сумленнай працай ты не выцягнеш, перайначвайся. Глядзі, як Іван. Нічога ж амаль не робіць, у параўнанні з табой, а мае ў дзесяткі разоў болей. Ён і пражыве лягчэй, і такімі, як ты, камандаваць будзе, бо ўмее. Да любога пана, да любога гаспадара падкоціцца. У каго ён толькі такі ўдаўся?

— Што ты, тата, гаворыш? Вунь колькі людзей сумленна жывуць, ні да каго не падлашчваюцца, нікому не падслужваюць, і нічога — ніхто з голаду ды холаду не паміраў. Як яны — так і я. Мяне ніхто не папракне ні ў чым.

— Праўду гаворыш, сынку. Я сам такое жыццё пражыў, таксама за правіла меў толькі чэснай працай на

хлеб зарабляць, таму і перасцерагаю: надзвычай гэта цяжка. Усё самому ды ўсё аднаму, а дапамогі ніякай і ні ад каго...

— А вось ажанюся, дзеці пойдуць... Потым жа яны падрастуць, на ногі стануць, дапамагаць мне будуць, не каму іншаму...

— І гэта так, Пятро. Але спачатку трэба самому на добрую гаспадарку выбіцца, вось дзе ўся загваздка...

— Неяк жа, як і людзі, змагацца буду.

Пасля такой размовы з малодшым бацька шкадаваў, што гэтак зрабіў, што сумленнага з дзяцінства чалавека падбіваў, лічы, на грэх, і прасіў у яго прабачэння. Пятро на гэта адказваў проста:

— Тата, я вельмі ўдзячны табе за парады. Іншая ўжо справа — карыстацца імі ці не. А за гэта дзякуй. Буду ведаць, як працей, не выжыльваючыся надта, пражыць можна.

Да Івана бацька баяўся падыходзіць. Неяк заікнуўся было:

— Што гэта ты, сынку, як маленькі, перад усімі шапку сваю скідаеш? І не сорамна табе? Людзі ж смяюцца...

— А што мне людзі? — вызверыўся той.

— Самае галоўнае — што пра цябе людзі гавораць.

— Для мяне гэта не галоўнае. Людзі твае пабрэшуць і стомяцца, а жыць мне трэба, не каму-небудзь іншаму. Так, як ты пражыў, жыць не жадаю...

— Але ж...

— Вучы лепей Пятра. Ён чалавек негаваркі, сціплы. Ён усё слухае, што яму гавораць. А я буду жыць па-свойму.

— Эх, сынку, сынку...

— Нічога, бацька, не прападу.

— Я ведаю, што не прападзеш, але ж ці такім шляхам ісці трэба?..

— Што ты мяне павучаеш? Жонку і жыццёвы шлях кожны сам сабе выбірае, — катэгарычна адрэзаў Іван.

Пасля таго выпадку бацька болей да Івана з такімі пытаннямі не падыходзіў.

Захварэў стары гаспадар і, паклікаўшы да сябе сыноў, прамовіў:

— Прыйшла мая часіна адправіцца ў той свет, куды пайшла ваша маці-нябожчыца. Даруйце, калі што якое

не так было, але я хацеў вам, сыночкі, толькі самага добрага...

— Што ты, тата? — адразу падскочыў да яго Іван. — Чаго гэта мы на цябе крыўдаваць будзем?

Але бацькаў позірк шукаў Пятра. Той стаяў ля парога, і скупыя мужчынскія слёзы каціліся па ягоным твары.

— Не плач, сынку, я сваё пражыў. Пражыў добра, у згодзе з жонкай. Ніхто з нас не смяяўся. Усё жыццё працаваў і не горшым, чым астатнія, гаспадаром быў. Вас узгадавалі, што яшчэ трэба чалавеку для таго, каб спакойна накіравацца на тое неба?

Сыны маўчалі. Іван чакаў, калі ж стары пачне гаварыць пра падзел зямлі ды маёмасці, а Пятро — той ні пра што такое не думаў, ён шкадаваў, што бацька хутка адыдзе і тады не будзе ўжо з кім пагаманіць ды параіцца.

— Усё, што нажылі, што сабралі, дзеці, хачу падзяліць пароўну. Каб не крыўдзіліся вы, каб не часалі нядобразычліўцы потым языкі, дык вы лепей зараз скажыце, што не даспадобы прыйшлося, каб я яшчэ нешта перайначыць паспеў...

— Усё добра, тата, усё добра, — адразу азваўся Пятро.

— Па палавіне, дык па палавіне, — па-філасофску зазначыў Іван і неяк двухсэнсоўна глянуў на Пятра.

— Абяцайце мне, дзеці, што будзеце жыць паміж сабою ў міры і згодзе.

— А то як жа па-іншаму? Так і будзе, — цвёрда зазначыў старэйшы.

— Дапамагайце адзін аднаму, не фанабэрцеся. Калі ў некага лепей атрымлівацца будзе, то не зайздросце, а старайцеся, дык і ў вас добра выйдзе. Я заўсёды так рабіў.

— І мы так будзем, — абсек старога Іван.

— Не сварыцеся. Гэта самае горшае, што можа адбыцца паміж братамі. Некаторыя, праўда, умудраюцца яшчэ і за чубы ды за частаколіны ўхапіцца... Барані вас Бог ад такога, гэта мяне і ў магіле пераверне...

— Ляжы спакойна, не варочайся, чаго ўжо там, — нейкім незнаёмым, чужым голасам адрэзаў Іван.

Пятро глянуў на брата і стрымана прамовіў:

— Прытрымай свой язык, братка, а то глядзі, каб я табе яго не прышчаміў. Абы-што плявузгаеш...

Старэйшы на ўсялякі выпадак перайшоў на супрацьлеглы бок, бо фізічна Пятро быў намнога мацнейшы, і

зараз вочы яго гарэлі такім агнём, што, сапраўды, чакаць добрага не даводзілася. Далей пачуўся слабы бацькаў голас:

— Меней старайцеся гаварыць, а болей рабіць, то і павагі ад людзей будзе даволі... А калі станеце пляскаць языкамі, то і адносіны адпаведныя будуць...

— Што гэта ты, бацька, усё пра адно і тое ж? — ужо больш паважліва прамовіў Іван і нецярпліва глянуў на малодшага, каб той незнарок зноў не пакрыўдзіўся. Але той стаяў і плакаў.

— Глядзі, Іван, адчувае маё сэрца нядобрае, але памятай, што я і з таго свету буду за табой назіраць. Глядзі...

Гэта былі апошнія словы гаспадара хаціны. Позірк ягоны стаў невідушчым, ён затрызніў і да раніцы памёр. Пахавалі яго сыны і пачалі жыць кожны на сваёй палавіне.

Недзе праз тыдзень паселішча даведалася пра навіну — мясцовы пан прызначыў Івана сваім войтам. Сяляне ўзрадаваліся:

— Дык ён жа наш... Наш чалавек, не тое, што раней-шы. Той чужы быў, ад таго і люты, як звер... А гэты свой, цяпер і нам палёгка будзе. Пятро, а ты ўвогуле весела зажывеш. Гэта ж твой родны брат.

— Не спяшайцеся.

— Што не спяшайцеся?

— Не спяшайцеся радавацца.

— Незразумела ты говорыш.

— Прыйдзе новы войт, то ён вам даходліва растлумачыць, што да чаго...

— Ты нібы незадаволены? Па твары відаць.

— Я свайго брата лепей ведаю.

— Хочаш сказаць, што ён яшчэ горай за папярэдняга будзе?

— Нічога я, людзі, гаварыць не буду, неўзабаве самі ва ўсім пераканаецеся.

Усё атрымалася так, як прадказаў Пятро. Ужо на наступны дзень адчулі аднавяскоўцы, як улада псуе чалавека, як ён мяняецца.

Яшчэ толькі сонца зазалаціла стрэхі хацін, а войт ужо хадзіў з кіем па вёсцы і барабаніў у сцены:

— На панскую ніву! На панскую ніву!

Гаспадары спрабавалі нешта даказваць. Адны крычалі:

— Дык сёння ж мы на сябе павінны працаваць!.. Учора ж на пана гнуліся!..

У адказ гучала:

— На панскую ніву! На панскую ніву!

Другія спрабавалі падкрэсліць іншы факт:

— Рана ж яшчэ зусім... Нас ніколі на досвітку на панскае поле не выганялі.

— З гэтага дня прывыкайце, кожны раз так будзе.

— Але ж...

— На панскую ніву! На панскую ніву!

Не абмінуў войт і братаву хаціну. Грукнуў так, што, здавалася, сцяна вываліцца. Гаспадар выйшаў і прамовіў:

— Што, спакойна пастукаць не можаш? У міжрожжа, можа, хочаш?

Войт спалохана акінуўся. Але, мабыць, згадаў, хто ён такі з гэтага дня, і загарлаў:

— Ты што, пагражаеш мне? Мне пагражаеш?

Пятро сумеўся.

— На першы раз я табе, брат, дарую, але на будучае запомні: ніякага спуску табе не будзе. А зараз — на панскую ніву! І хутчэй, не цягні час!

— Іду ўжо, іду...

З таго самага дня і пачалося для вяскоўцаў жахлівае жыццё. Спачатку яшчэ баяўся іх крыху Іван, а потым зразумеў, што зараз супроць яго ніхто і рота не раскрые, што ён цяпер улада, і давай накручваць. Толькі стане жанчына, каб спіну расправіць, дык войт як улупіць па плячах кіем, то ажно галёкне ў сярэдзіне. З мужчынамі інакш распраўляўся. Няхай заўважыць, што нехта спрабуе гультаяваць ці перадыхнуць, то падыдзе і працэдзіць скрозь зубы:

— Заўтра ты мне за гэта адпрацуеш.

— А што н такога зрабіў?

— Заўтра ўдвая адпрацуеш. Яшчэ пытанне задасі — прымушу тры дні запар гнуцца, і нічога ты не зробіш.

Што заставалася гаротнаму селяніну, акрамя як падпарадкавацца. Ужо ў людзей сілы неставала гэтулькі працаваць. Некаторыя хворыя ляжалі, а некалькі сялян памерла. Тут людзі зразумелі, пра які нораў ім некалі казаў Пятро.

Аднойчы ехалі сяляне з лесу, дзе памешчыку лес валілі і вывозілі. Стомленых коней, разам з павозкамі, пусцілі аднаго за адным ісці па дарозе, а самі ішлі купкай ды перамаўляліся:

— І як жа гэта так можна, Пятро? — не вытрымаў самы стары з іх. — У адной жа вы сям'і выраслі... Нас, зразумела, ён прыціскае, каб пану дагадзіць і самому ўзбагаціцца, але цябе... За што цябе?

Пятро маўчаў. Што ён мог адказаць? Але рэзала па сэрцы тое, што родны брат гэтак над людзьмі здзекаваўся.

— Не чапай яго, чалавеча, хіба не бачыш, што яму цяжэй, чым нам.

— Гэта ж трэба, — умяшаўся трэці. — Разам раслі, разам бацькі гадавалі, а такія розныя атрымаліся браты.

— Як тыя дрэвы ў лесе: адно высокае, прамое, ■ другое нізкае ды крывое. І нічога тут не зробіш, прырода так размеркавала...

— Нездарма гавораць, што гарбатага і зласлівага толькі магіла выправіць...

— Але ж людзі і іншае кажуць.

— Што?

— Ды тое, што гарбатых і зласлівых зямля ў апошнюю чаргу да сябе прыгортвае.

Пятро ішоў моўчкі. Да яго нават і словы сялян не ўсе даляталі, бо стаміўся моцна за дзень, ды і дома працы яшчэ многа чакала. Азваўся толькі раз, але сказаў злосна і коратка:

— Даскачацца на сваю галаву. Нам ужо баяцца болей няма чаго...

За астатнюю дарогу нехта толькі выдыхнуў са скрухай:

— Трэба ж, каб менавіта ў нас быў такі войт. Няхай бы яго чэрці куды ў іншае месца занеслі...

Адказалі яму перад самай вёскай:

— Табе, ведама, лягчэй было б, але ж там таксама людзі жывуць, ты пра іх падумаў?

З тым і разышліся сяляне па хатах. Кожнага чакалі яшчэ і гаспадарчыя клопаты.

Наступнае раніцы Іван хадзіў нейкі змрочны, не гаварыў нават, а толькі лупіў у сцены хацін і злосна крычаў:

— На працу! На працу! У лес!

Падышоў да братавай хаціны, крыху пастаяў, нібы пра нешта падумаў, і гупнуў:

— На працу! У лес!

Пракрычаў і стаў чакаць, калі Пятро з хаціны выйдзе

на падворак. Але той не выходзіў, мабыць, моўчкі збіраўся на працу. Пакруціўся Іван і адышоў, але недалёка: прыхаваўся за дрэвам.

Брат тым часам выйшаў, запрог каня і паехаў. Калі конь параўняўся са схованкай Івана, той выскачыў і ўскочыў у воз да малодшага:

— Што ж гэта ты, брат?..

Пятро маўчаў, нібы Івана тут і не было.

— Пытаюся, што гэта ты?

Але адказам зноў было маўчанне.

— Што ты вырабляеш?

— Я?

— Ты.

Пятро аглядваўся па баках, але нічога не адказваў. Івана гэта злавала:

— Супраць мяне людзей падбіваеш!..

— Якіх? — здзівіўся Пятро.

— Ты і не ведаеш? Так я табе і паверыў.

— А гэта ўжо твая справа.

— Глядзі...

— Не палохай. Ужо і так далей жыць немагчыма. Зусім ты людзей за людзей не лічыш, глядзіш толькі, каб самому выслужыцца ды ўзбагаціцца...

— Што такое кажаш, дурань?

— Я не дурань, я на сабе гэта ўсё адчуваю.

— А навошта супраць мяне людзей наводзіш?

— Ды іх і наводзіць не трэба, яны самі цябе разарвалі б, каб маглі. Яшчэ такое і здарыцца... Нядоўга табе здзекавацца з безабаронных...

— Ты мне пагражаеш?

— Не, проста гавару. Накіпела...

— І мне таксама. Таму сёння адзін будзеш вазіць бярвенні. Усе астатнія будуць па двое, па трое, а ты адзін, каб у цябе болей не кіпела.

Сказаў так войт і саскочыў з воза, пайшоў на суседнюю вуліцу.

Пятро цэлы дзень сам круціўся з бярвеннямі. Змарыўся так, што і дыхаць цяжка было, і гэтая стома прывяла да трагічнага выпадку. Хацеў ён наваліць бервяно на воз, а яно саслізнула і прыдавіла чалавека — ні крыкнуць, ні паклікаць на дапамогу. Знайшлі Пятра ўжо нежывым. Выцягнулі з-пад бервяна і прывезлі дамоў.

Засталася жонка ўдавою, дзеці сіротамі. Але войт не звяртаў на гэта ўвагі, ганяў іх на працу, як і астатніх. Ні жалю не ведаў, ні спачування. І што ж вы думаеце?

Старэйшы Пятроў хлопец — Алеська, якому ішла ўжо пятнаццатая вясна, быў крэпкі, як лугавы дубок. Мала гэтага, такі ўжо кемлівы хлапчына рос, што і дарослыя дзівіліся, гледзячы на тое, што ён вымайстроўваў, ды слухаючы ягоныя разважанні. Ён і матулю супакойваў, ён і паншчыну адбываў, ён і дома паспяваў круціцца.

Аднаго разу сказаў матулі:

— Хачу я млын пабудаваць. У наваколлі ніхто не мае, вось і зажывём...

Гаспадыня заплакала:

— Сыночак, ці ж ты адзін усё выцягнеш?

— А я ў людзей дапамогі папрашу. Дапамогуць, бо нябожчыка-тату часта згадваюць...

Так і атрымалася. Дапамаглі сяляне. Алеська кіраваў, а яны будавалі. І праз нейкі месяц зрабілі млын на рэчцы, якая працякала якраз па ўчастку Пятровай сям'і. Нічога не парушыў малады гаспадар. Ды і сяляне працавалі начамі, бо не было ў іх днём часу.

Каб лепей было пад'язджаць ды каб вада не залівала, старыя людзі прапанавалі насыпаць стаўні. І гэта зрабілі. Усе радаваліся, нібы малыя дзеці, а найболей Алеська. Са злосці скрыгатаў зубамі толькі Іван.

Аднаго вечара ён пакраўся да млына. Хто яго ведае, чаго ён там хацеў: ці то проста паглядзець, ці то сапсаваць млын. Як бы там ні было, але знайшлі яго ажно праз два дні ў рацэ. Ці сам упаў, ці нехта гопнуў па галаве, а потым ужо ўкінуў — так і засталося таямніцай.

А Алеська сям'ю сваю і сапраўды ў заможную гаспадарку вывеў. З людзьмі жыў дружна, ніколі не сварыўся, не адмаўляў у дапамозе, дык неўзабаве і астатнія сталі бліжэй да млына сяліцца, а месца тое называлі — па ставы. Потым ужо два гэтыя словы злучыліся і атрымалася — Паставы.

## ВАРАПАЕВА

Хто гаворыць, што некалі, у даўнія гады, быў такі славуты рабаўнік у навакольных лясах і звалі яго Ворап, а хто даводзіць, што само рабаўніцтва, разбой у тыя гады азначалася гэтым жа самым словам — ворап. Ад таго,

маўляў, і пайшла назва паселішча. Нам здаецца, што першая легенда больш правільная, што так яно і было на самай справе.

У тыя гады, калі напалеонаўцы ішлі на Расію, у тутэйшых лясах з'явілася вельмі многа ўцекачоў. Хто ад каго ўцякаў? Ды каму як выпадала. Сяляне ад памешчыкаў джгалі ў лес, каб там адпачыць ад штодзённай паншчыны ці, дачакаўшыся зручнага выпадку, разлічыцца са сваім адвечным крыўдзіцелем; салдаты збягалі ад вайсковых камандзіраў, каб сярод бароў ды пушчаў адпачыць ад вечных пабояў і здзекаў; наступаючыя ворагі таксама нярэдка далучаліся да лясных жыхароў, бо меркавалі, што ў гэтых непралазных мясцінах лягчэй цэлым застацца ад кулі ці штыка, як на полі бою.

Спачатку лясныя людзі грамілі толькі панскія маёнткі, а потым, калі, відаць, у сілу ўвайшлі, то пачалі і вайсковыя абозы шкуматаць. Не надта глядзелі, рускія там ехалі ці напалеонаўцы, адна патрэба была — пажывіцца. Так «весела» на тутэйшых дарогах зрабілася, што ўжо і вясковыя жыхары, і вайскоўцы па адным ды па два ніколі не хадзілі па сцяжынках ці па дарогах.

Местачкоўцам было прасцей: даведваліся пра небяспеку і сядзелі сабе па вёсках. А вось вайскоўцам горай даводзілася. Ім жа загад аддадуць, і паспрабуй яго не выканай! Зыходзячы з гэтых абставін, пачалі вайсковыя начальнікі моцную і вялікую ахову да абозаў прыстаўляць, і гэта дапамагала, бо далёка не кожны рабаўнік мог вылезці са сваімі сябрамі супраць добра абучаных ваеннай справе салдат. Вось і праводзілі часта толькі поглядамі багата нагружаныя вазы ды экіпажы размаляваныя.

І вось неяк загаманілі лясныя жыхары пра аднаго маладога рабаўніка, які ні перад чым не ведаў страху, нікога не баяўся. Звалі яго Ворап. Спачатку тыя, хто ўжо болей чым год сядзеў у лясах, не верылі:

— Ай, можа, які выскачка. Не столькі зробіць, колькі нахваліцца... Аднаго якога пана абрабаваў, то і пагудка па лесе пакацілася...

Вострыя на языкі заўсёды знаходзіліся, асабліва сярод вольных людзей, якія над сабой ніякай улады не адчувалі, жылі самі па сабе. Але калі даведаліся, што Ворап з сябрукамі растрапаў дашчэнту вялізны вайсковы абоз, які суправаджаў цэлы эскадрон вершнікаў, то жадаючых пачасаць языкі значна паменшала.

Так, з цягам часу, Ворап і стаў гаспадаром гэтай пушчы. Усе ягоныя загады выконваліся безагаворачна. Сказаў атаман, каб бедных не рабавалі і не забівалі, і дапамагалі ім, — так і рабілася, бо аднаго з тых, хто не паслухаўся і працягваў жыць ранейшымі законамі, Ворапавы хлопцы злавілі і павесілі побач з тым самым шляхам, дзе ён забіў няшчаснага селяніна.

Калі Ворап задумваў нейкую буйную аперацыю, то збіраў усіх разбойнікаў, якія на той час былі ў пушчы. Як рабіў гэта? Ды проста загадваў, і хлопцы хуценька папярэджвалі астатніх, і збіралася немаленькае войска.

Аднаго разу лясныя жыхары адпачывалі ды перамаўляліся паміж сабою. Тут нехта з сябрукоў Ворапа і ляпнуў:

— Але ж сёння я і паненку бачыў...

— Дзе гэта ты яе бачыў?

— З карэты галаву высунула, калі ехала.

— Можа, душна было, дык і высунула.

— Ці на тваю нямытую рожу глядзела?

Вакол весела зарагаталі, задаволеныя ўдалым жартам.

— Нашы з мястэчка казалі, што гэта дачка генерала. Яе бацька паўсюдна за сабою возіць. Вось з Францыі ў Расію прывёз, а цяпер, відаць, назад уцякаюць. Але што прыгожая, то прыгожая, я яшчэ такой ніколі не бачыў.

— А дзе гэта ты мог яе бачыць? У гэтым прасмердлым балоце седзячы? Табе жабу ўбачыць і то за гонар.

Той, на каго гэта казалі, не пакрыўдзіўся, азваўся:

— Лепей у гэтым, як вы кажаце, балоце сядзець, чым пад панскімі бізунамі пішчаць. Надта мне такая музыка надакучыла.

Нечакана ўсіх перабіў Ворап:

— Глянем заўтра, якая там прыгажуня. Але калі ў ёй нічога асаблівага няма, то мы цябе на ёй і ажэнім.

— Чаго гэта мяне? — спалохаўся мужык.

— А вось захацелася нам на вяселлі пагуляць...

Недзе праз пару гадзін разбойнікі рушылі да мястэчка, каб там, на месцы, глянуць, пад якой аховай выедзе той самы генерал.

Доўга чакалі людзі. Ужо і развіднела, ужо і сонца потым высока ўзнялося, а генеральскай карэты ўсё не было. Яна не выязджала з мястэчка. Разбойнікі пачалі дапікаць разведчыка:

— Слухай, братка, а можа, табе гэта прыснілася?

— Ды не спаў я... На ўласныя вочы бачыў...

— Мала што ты мог, чалавеча, бачыць, у кустоўі седзячы...

— Наступным разам самі схадзіце ды пасядзіце, то і супакоіцеся.

У гэты момант нехта крыкнуў:

— Гэтая?

Разведчык толькі зірнуў і радасна азваўся:

— Гэтая... Гэтая карэта, генеральская, і дзяўчына з бацькам у ёй...

Ворап дадаў:

— Аховы нямнога... Відаць, генерал паспадзяваўся на тое, што днём едзе, што лясныя дарогі ўжо мінуў... Зараз мы яго памацаем...

Бойка цягнулася некалькі хвілін. Каго з вершнікаў застрэлілі, каго збілі з коней, хто ўцёк, а генерала выцягнулі з экіпажа жывым. Ён спрабаваў адбівацца, але як убачыў, якія волаты стаяць перад ім, дык адразу супакоіўся. Ворап шуснуў у сярэдзіну карэты і... за ім вылезла дзяўчына. Разбойнікі ажно раты паразяўлялі, бо і сапраўды такой прыгажуні не бачылі. Забраў яе Ворап сабе за жонку, нікому не аддаў. Але нядоўгім было іхняе шчасце, бо маладую жанчыну ўкусіла гадзюка і яна сканала. А на тым месцы, дзе яе пахавалі, Ворап паставіў сабе хацінку і стаў самотна дажываць свой век. Таму і паселішча пазнейшае назвалі ад ягонага імені — Варапаева, ды так і засталося, ніхто не перайначваў.

## ПАДВІШНЯК

Наша вёска не надта старая, і назва была прыдумана прыгожая. Самі ж бачыце, як хораша гучыць, а яшчэ калі ў маі зацвітуць вішні, усыпаючы ўсё навокал белым пухам сваіх пялёсткаў, то ствараецца ўражанне, што нібыта з неба самога ўсё гэта сыплецца.

Расказваюць, што, можа, гэта было яшчэ ў мінулым стагоддзі. Жылі дзед з бабай. Нічога не нажылі за свой век, а людзі, значна маладзейшыя, і багацце мелі, і зямлю куплялі. Багацейшым заўсёды зайздросцяць, вось і тут сталі старыя суседзям зайздрыць. Што ні вечар, то сядалі за стол, а пасля яшчэ і на печы лежачы, да паўночы разбіраліся, чаму так у іхнім жыцці сталася.

Вось усталі яныаднае раніцы і пачалі справамі па гаспадарцы займацца: баба нешта ў хаце рабіла, а дзед на падворку катурхаўся. Гаспадыня зварыла есці і прыйшла мужа снедаць клікаць. Стала побач і пазірае, як той спрытна працуе, потым пачула галасы і ўскінулася:

— Глядзі, дзеду, дзеці ў школку ідуць... Весела ім...

— А чаго ім сумаваць, часіна такая для іх прыспела.

Снедаюць, а жонка ўсё нешта маўчыць. Звычайна дык так гаманіла, заціхнуць не магла, а тут... Стары здзіўлена пазіраў на яе, а потым не вытрымаў:

— Што з табою здарылася? Ці не захварэла?

— Не...

— А чаго ж гэта ты прымоўкла?

— Думаю... — адказала старая, але болей, як дзед ні стараўся, нічога не сказала.

Дзед ажно зазлаваўся, але змоўчаў, толькі было чуваць, як ён настойліва шукаў нешта ў місе з варывам. Баба чакала, што ён не вытрымае і запытаецца, і, не дачакаўшыся, усё ж выказала набалелае:

— Слухай, дзед...

— Ну што яшчэ?

— А ці не пайсці табе, дзеду, у школу?

Стары як сядзеў, так і адкінуўся галавою да сцяны ды зайшоўся з рогату.

— Не смейся, падвучышся — жыць станем намнога лепей...

Невядома, як яна яго там угаворвала, але вядома дакладна, што ўгаварыла.

Сабрала баба дзеду торбачку і паслала яго ў тую хаціну, дзе школа была:

— Ідзі... Глядзі толькі, старайся там...

— Ну гэта я і сам ведаю.

Настаўнік, убачыўшы старога, спачатку зніякавеў, а потым спытаўся:

— Чаго ты, старэча, прыйшоў?

— Вучыцца хачу, пан настаўнік, — адказаў той.

— Ведаеш што?.. Ты вельмі позна, дзеду, прыйшоў...

Вярнуўся гаспадар дахаты і паведаміў старой словы настаўніка.

— Вядома ж, пакуль мы пагаманілі, пакуль высветлілася, што да чаго, то і час прайшоў...

— Усюды трэба быць увішным, старая. Запознішся, дык іншыя лепшае перахопяць.

— Нарэшце і ты зразумеў.

— Заўтра раней пайду.

Яшчэ сонца з-за стрэх не паказвалася, а стары ўжо грукаў у дзверы той хаціны, дзе школа размяшчалася. На парог выскачыў сонны настаўнік:

— Што, што такое?

— У школу прыйшоў.

— У школу?.. — настаўнік уважліва яго агледзеў і прамовіў:

— Ранавата ты сёння, дзеду, прыпхаўся... Ідзі, спі далей...

Тут усё зразумеў стары, павярнуўся, апусціў галаву і паплёўся да сваёй хаціны. Ідзе, як мокрае гарыць. І раптам на сцяжынцы бачыць — нешта чарнее. Падышоў бліжэй, а гэта... сумка з грашыма. Ён яе раскрыў, а там поўна залатовак... Узрадаваўся дзед і як на крылах паляцеў да гаспадыні. Селі яны і пачалі меркаваць, што за грошы купяць. Дзед і кажа:

— Зямлі купім, хату новую, будынкі гаспадарчыя паставім... Жывёлу завядзём іншую...

А баба:

— І каб вішанькі раслі... Каб садочак, няхай сабе і невялічкі, у нас быў...

Так яны і зрабілі. Купілі ўсё, адбудаваліся, сад пасадзілі. Вішні цвісці пачыналі, то людзі і казалі звычайна:

«Сёння [redacted] быў (ці была) пад вішнямі...»

Некаторыя казалі: «Пад вішнякамі...»

Так і назва ў вёскі з'явілася — прыгожая, самабытная — Падвішняк.

Але, што самае дзіўнае, — школу ў Падвішняках называюць Схолінскай, і вось чаму.

У маёнтку, які цяпер завуць Схоліна, жыў некалі не надта багаты пан Сарока. Добры чалавек быў, спагадлівая душа, нічога благога пра яго людзі ніколі не гаманілі. І была ў яго дачка Схоля. У бацьку пайшла — такая ж прыгожая, вясёлая, добрая вырасла. Пан Сарока нарадавацца на дзяўчыну не мог, толькі і паўтараў: «Схоля мая, Схолечка...»

Таму і маёнтак свой назваў па яе імені — Схоліна. Гэта азначала — зямля дачкі.

У 40-ыя гады пана Сароку раскулачылі і вывезлі ў Сібір ці то ў Казахстан некуды. У пакінутым маёнтку размясцілі пачатковую школу — Схолінскую. Назву захавалі панскую, як ні перліся супраць гэтага ўсялякія чы-

ноўнікі. Пасля непадалёку ад Схоліна, у вёсцы Падвішняк, пабудавалі сямігодку, а яшчэ пазней — няпоўную сярэднюю школу ў Навасёлках, але назва яе засталася ранейшая — Схолінская. Па імені дачкі пана Сарокі — Схолі. Куды яна сама дзелася, ніхто і сказаць зараз не можа. Такі ўжо лёс чалавечы...

## ПАПОЎЦЫ

Некалі ў адной вёсцы, непадалёку ад нашай, жыў поп. Такі ўжо сквапны быў, такі зладзеяваты, што толькі адвярніся — умомант сапрэ што-небудзь, ды мала гэтага, яшчэ і нагаворыць на каго.

Сяляне добра ведалі гэты хіб бацюшкі, таму прыпіралі яго да сцяны, прымушалі прызнацца ва ўсім, і той, заўважыўшы, што сяляне настроены сур'ёзна, ішоў на паддаўкі:

— Я гэта прыхапіў... Я... Але вы нічога благога не думайце і не плявузгайце, бо гэта зусім выпадкова здарылася. Не заўважыў і сам, як прыхапіў...

— Мы так і падумалі, бацюшка. Але ж ты і хлус... Але ж ты круцель...

— Болей так не паўторыцца.

— Хацелася б верыць, ды заракалася свінка ў гразь не лезці...

— Гэта я свінка?

— Не, ты поп, а заракалася — свінка.

Ведалі сяляне, што неўзабаве бацюшка зноў што-небудзь сапрэ, таму не надта яму давяралі. Ведалі і тое, што папа можна было пераканаць толькі тады, калі ён быў адзін, але калі былі ўдваіх з дзякам, то хоць ты ім кол на галаве чашы, яны на сваім стаяць будуць.

Панадзіліся яны лазіць да чужых жонак. Як спадабаецца чыя маладзіца, дык калі не дзяк, то бацюшка абавязкова да граху давядзе. Давядзе, ды потым яшчэ і пасмейваецца:

— Слухай мяне, жанчына. Не пазірай скрыва, прынясі на наступны раз кумпяк і пару каўбас.

— Але ж, бацюшка...

— Ведаю, што пад сенакос беражэш. Не прынясеш — не адпушчу грахоў.

— Ага, сам жа дабіваўся, а як пад сябе падтаптаў, дык і Богам пагражаеш. Ён жа таксама ўсё бачыў. Глядзі, каб і табе бокам не вылезла.

Не адну жанчыну гэтак абабралі і зняславілі божыя

служкі. Колькі яны людскога дабра пераелі, колькі грошай выцягнулі, то, сапраўды, аднаму Богу вядома. Але ж і на іх знайшоўся чалавек, навучыў іх так, што да скону жыцця адмовіліся рабіць благое.

Жыла ў той вёсцы прыгожая маладзіца. Звалі яе Марыля. Другі год усяго прайшоў, як яна пабралася са сваім Янкам. Кахалі моцна адзін аднаго, нават на працу ездзілі толькі ўдваіх, не зважалі надта, што людзі казалі:

— Вы ўжо і мужчынскую справу ўдваіх правіце, і жаночую.

Муж з жонкай толькі пасміхваліся ў адказ:

— А мы неяк і не заўважаем, і не падзяляем працу на жаночую ці мужчынскую. Нам бы толькі разам быць...

Бацюшка з дзякам вока паклалі на Марыльку. Праходу ёй не давалі, то адзін, то другі чапляліся.

— Прыходзь сёння вечарам да адрыны... Я буду чакаць... — запрашаў бацюшка.

— Марылька, сэрца маё, — мовіў дзяк. — Не магу без цябе... Прыходзь сёння да старой вярбы...

І гэтак цягнулася не адзін дзень. Зусім стала немагчыма спакойна жыць Марыльцы. Сорамна ж было сказаць Янку, бо яшчэ не так зразумее. Але неяк не вытрымала і пра ўсё чыста распавяла. Той моўчкі выслухаў, прыціснуў да сябе жонку і прамовіў:

— Што ж, сходзіш ты. Толькі скажы ім, няхай да адрыны абодва прыходзяць... Да нашай... А я быццам бы на млын паеду. Потым вярнуся і прыхаваюся. Ты спачатку бацюшку падгавары, каб ён пазней за дзяка прыйшоў. Каб разам не прысунуліся. Астатняе ўсё бяру на сябе...

— Добра, Яначка, усё зраблю, як ты кажаш.

Толькі прыцямнела, як загрукалі калёсы — паехаў Янка на ноч у млын. Марылька азірнулася і паволі пацісна да адрыны. Сцішылася там і чакае. Ужо і сцямнела, і боязна ёй адной стаяць, ажно чуе — нехта крадзецца. Глянула туды — дзяк. Спалохалася. Што ж будзе, калі Янка не аб'явіцца? Згвалцяць тады яе тут і скажуць, што сама напрасілася.

Дзяк адразу пачаў абдымацца, але маладзіца астудзіла яго запал:

— Давай, дзяча, пасядзім крыху, пагамонім, а потым ужо...

— А можа, наадварот?

— Ды не...

Селі яны, але дзяк зноў абдымацца палез і заваліў жанчыну на спіну. І тут штосьці як лупянула яго па галаве! А потым давай біць па чым папала. Збіла тое невядомае дзяка да страты прытомнасці і за ногі павалакло ў кустоўе.

Тым часам прыбег бацюшка на спатканне. І гэтак ужо завіхаецца, гэтак ужо вымаўляе. Тое самае здарылася і з папом. Лупіў яго мужык колькі ўлезла, ■ потым і кажа:

— Я вялікі грэшнік. У наступную нядзельку ў царкве дасі мне слова перад малебнам сказаць.

Бацюшку было ўсё роўна, абы жывым выпусцілі.

Прыспела тая нядзеля. Народу сабралася ў царкве — не праціснуцца. І не столькі на малебен, колькі паглядзець на ссінелых ды счарнелых бацюшку і дзяка. Тут выходзіць поп і гаворыць:

— Людзі, зараз перад вамі выйдзе і пакаецца вялікі грэшнік. Слухайце яго ўважліва, бо ўсё, што ён скажа, — боская праўда... Шчырая праўда...

Выйшаў Янка наперад і, пакланіўшыся, сказаў:

— Вяскоўцы! Запомніце адно: і дзяк, і бацюшка нашыя — вялікія бабздыры! І ўсе дзеці ў вёсцы, якія рыжыя, ад іх пайшлі!

Як зарагаталі тут людзі, як усхадзіліся, ■ боскія служкі кінуліся ўцякаць. Уцяклі з тае вёскі, з тае царквы і сталі жыць у невялічкай хацінцы, удваіх толькі. Нейкі жабрак раней у ёй жыў ды памёр, і яна засталася стаяць. Тых людзей, якія пазней там сталі сяліцца, па гэтай простай прычыне і назвалі — Папоўцамі, а вёску іхнюю — Папоўцы.

## СІМАНЫ

Усё гэта здарылася яшчэ да таго, як французы сюдою на Маскву ішлі, праз нашу вёску. Тады яна зусім маленькая была, можа, усяго некалькі хат, ■ пасярод стаяла прыгожая драўляная царква. Зрабілі яе людзі з нашага паселішча па прозвішчы Сіманы — бацька і тры сыны. Залатыя рукі майстры тыя мелі, ведалі сваю справу да драбніц.

Усе ў адной хаце жылі, і хата тая як крэпасць была: на чатыры вуглы, ■ пасярэдзіне падворак.

Непадалёку ад іх жыў адзін чалавек, і звалі яго Грышка. Працаваць ён не любіў, а прызвычаіўся толькі лайдачыць і гарэлку піць, якую сам жа і рабіў. Суседзі колькі разоў ратавалі яго ад вернай смерці. Грышку і коні за-

таптані б, каб не выцягнулі з хлява, і замерз бы і снегам засыпала б, калі б не напароліся зімой на п'янага, і быў бы невядома дзе і з кім, калі б п'янага ад рабаўнікоў не адбілі... Але гэта не падштурхнула яго пазбавіцца шкоднай звычкі. Суседзі і сарамацілі чалавека, і ушчувалі — нічога не дапамагала.

Пабачылі Сіманы, што такім чынам не пераканаць Грышку кінуць піць і ўзяцца за працу, дык вырашылі дзейнічаць іншым шляхам. Аднаго разу стары гаспадар, калі ўсе яны разам адпачывалі пасля доўгага працоўнага дня, прамовіў:

— Сынкі, здаецца, я прыдумаў. Няўжо і на гэты раз не ўдасца?..

— Ты пра што, тата?

— Ды ўсё пра яго, пра Грышку... Ратаваць трэба чалавека, бо на вачах прападае...

— Дык гавары, што ты задумаў.

— Вырашыў я, хлопцы, што мы пабудуем прыгожуюпрыгожую царкву, у якую не толькі мы, але і людзі з навакольных вёсак хадзіць будуць. Грышка таксама не вытрымае і прыйдзе да царквы, а калі стане разам з усімі Богу маліцца, то на гарэлку хутка забудзецца.

— Задума добрая, тата, але мне здаецца, што марна ўсё гэта, — азваўся старэйшы сын.

— Выратаваць чалавека, ачысціць ягоную душу марна?

— Не, я не гэта меў на ўвазе.

— А што?

— Тое, што не паддасца Грышка на тваю хітрасць. Трэба яму тая царква... Вось каб карчомка, дык тут іншая справа, а так...

— Ты не верыш?

— Не, тата.

— А вы, хлопцы? — звярнуўся ён да астатніх сыноў.

— Ды і мы не надта верым, але чалавечую душу трэба ратаваць, можна і паспрабаваць. Калі Грышку царква не спатрэбіцца, дык іншым людзям даспадобы будзе.

— Вось снег сыдзе, сонейка крыху прыгрэе, і пачнём будаваць. Бярвенні ў нас сухія ёсць, а болей нічога і не трэба.

— Сеяцца, тата, у першую чаргу трэба будзе, ■ ўжо потым... — уставіў важкае слова старэйшы сын.

— Ведаю, сынку, пра гэта ні на хвіліну не забываюся. Працаваць на будоўлі будзем у тыя дні, калі па гаспадарцы працы неадкладнай не будзе.

Як узяліся Сіманы за будаўніцтва, дык за пару месяцаў і ўзвялі цэркаўку. Невялічкую, праўда, але затое так ужо выштукавалі, што нібы лялька якая перад людзьмі паўстала. Пацягнуліся людзі з навакольных вёсак да яе маліцца, а пагудка па ўсім краі разнеслася пра залатыя рукі майстроў, пра іхнія добрыя памкненні. Шчыра маліліся вяскоўцы і зносілі ўсялякія дарункі да царквы, каб задобрыць Бога, каб заклікаць яго дапамагаць у будзённых справах. Пакуль там папа не было, то маліліся як хто мог і такія ж малітвы шапталі. Адно ведалі цвёрда: калі добра плаціць, добра прасіць і нічога не парушаць, дык Усявышні абавязкова пачуе іхнія просьбы.

Грышка, як прадказваў старэйшы сын, у царкву не хадзіў, толькі сядзеў вечна п'яны на дарозе і брыдка лаяўся на тых, хто спяшаўся пакланіцца Богу.

— Іншых спраў у вас, лайдакоў, няма, як толькі лынды біць ды дабро гурбамі вакол раскладваць...

Сказаў такія словы і адразу нечага прыціх, відаць, у ягонай п'янай галаве мільганула нейкая думка. Хуценька ўзняўся і, чапляючыся за плот, пасунуўся да сваёй хаціны.

І вось аднойчы, зімою, калі ўсе людзі з наваколля і з таго самага невялічкага паселішча, пасярод якога стаяла царква, соладка спалі, разгулялася страшэнная завіруха. Выла і гуло так, нібы неба збіралася абрынуцца на зямлю. Старадаўнія дрэвы трашчалі, нібы салома, і валіліся долу. Хаты трэсліся, нібы якія пухіры, і вось-вось, здавалася, пазрывае іх з месца. А ў самую поўнач зямля моцна скаланулася. Вяскоўцы выскачылі з хат, глядзяць, а там, дзе стаяла царква, — толькі невялікі пагорак застаўся. Значыцца, правалілася Божая будыніна. Потым разгледзелі, што ад хаты, дзе жыў Грышка, да пагорка цягнуліся сляды, а вось назад іх не было. І зразумелі людзі, з-за каго ўсё гэта здарылася.

З кожным годам пагорак той усё большы станавіўся, нібы яго хто з сярэдзіны падсыпаў.

Вёску людзі так і назвалі — Сіманамі, а пагорак той завецца Грышкавай гарой.

## ЧЫРВОНЫ РУЧАЙ

Была ўжо сярэдзіна гарачага, спякотнага лета. Надвор'е стаяла такое, якое звычайна і просяць людзі ў Бога паслаць на жніво. Дажджоў не было, і нават хмарак не

нанюсіла. Буйное жыта выспела, як мае быць, і хіліла свае поўныя каласы да зямлі-асновы. Але жаць на гэты раз вяскоўцы не спяшаліся. Вось нібы штосьці здарылася з людзьмі: ходзяць, смяюцца, гамоняць, а як толькі пра працу падумаюць ці пра якую дарогу, то адразу імі сон авалодвае, і нічога ты не паробіш, раніца гэта ці вечар — кладуцца і спяць. Потым прахопяцца і з жахам кажуць:

— Што ж гэта мы такое робім? Трэба ж неяк і за справу брацца. Жыта ў полі ўжо дайшло, трэба жаць яго... Спяшацца трэба, бо дажджы могуць пайсці, а тады без хлеба на ўвесь год застанёмся. Трэба спяшацца...

Спяшацца-то трэба было, але спячка не адпускала людзей.

Не ў вёсцы, [redacted] на хутары жыла адна сям'я. Вось гаспадыня, параіўшыся са сваім бацькам, вырашыла кіраваць на ніву жыта жаць. З раніцы ўзяла сярпок і пайшла. Ніўка тая была пад самым лесам. А лес жа тады стаяў не такі, як сёння. Ён жа быў суцэльны, густы, непралазны, першастваральны. Звяр'я ўсялякага, птаства было столькі, што на кожным кроку траплялася што-небудзь жывое.

Узялася гаспадыня жаць, але так здарылася, што і двух снапочкаў нават не навязала, як выйшла да яе з лесу прыгожая дзяўчына, таксама з сярпом. Падышла да жнейкі, павіталася і прапанавала дапамагчы.

— Ды не, дзякуй, — адказала жанчына. — Я ж толькі зажынаю, дык яшчэ не надта стамілася.

— Бачу, што зажынаеш, але ж у цябе ніўка вялікая, стомішся яшчэ не раз. Дазволь стаць поруч.

— Дзякуй вялікае. А як жа зваць цябе, незнаёмка, адкуль ты прыйшла? — пацікавілася гаспадыня.

Тая адказала, ужо жнучы:

— Здалёк я прыйшла, маладзічка, здалёк... А як завуць — пазней скажу.

Зацiхла гаспадыня і давай жаць моўчкі ды толькіназіраць за нечаканай памочніцай. Так яны працавалі да самага полудня. Стаміліся, але выгляду не падаюць, і кожная не хоча першай спыняцца, каб не паказаць, што менавіта яна ў працы слабейшая. Нарэшце гаспадыня не вытрымала:

— Я схаджу дамоў папалудную. Хадзем са мной.

— Не, я лепей тут пабуду, адпачну.

— То, можа, што прынесці?

— Тады шклянку малака, калі не шкада.

— Такой працаўніцы не толькі шклянкі малака не шкада.

Жанчына прынесла той прыгожай дзяўчыне шклянку малака і іншай ежы, але жнейка выпіла толькі малако і зноў узялася жаць. Працуе ды яшчэ і гаспадыню падганяе:

— Давай, давай, маладзічка, то заўтра [redacted] ўжо не прыйду. Старайся сёння, удваіх намнога болей зробім, чым ты за два дні сама.

Так дзень прайшоў у працы, вечар ужо набліжаўся. Тая прыгажуня гляне на лес, схіліцца ды прамовіць: «Зараз, зараз я іду... Пачакай яшчэ крыху, бо гэтак даўно не працавала, што адарвацца не магу...» Нахіліцца і зноў жне.

Гаспадыня спачатку падумала, што ёй падалося, быццам бы незнаёмка з кім размаўляе. Але ўслухалася і пачула — крача нехта. Глянула вакол і ўбачыла чорнага-чорнага крумкача, які ляцеў зусім непадалёку. Тут і жнейка павярнулася да яго, а гаспадыні сказала:

— Зараз я ўжо пайду, маладзіца, толькі сноп дажну. Дзякаваць мне не трэба...

— Але ж ты гэтулькі дапамагла...

— Нічога, і мне часам хочацца папрацаваць.

— То хоць скажы, як цябе завуць?

Незнаёмка разагнулася, моўчкі глянула на гаспадыню, [redacted] потым неяк сумна ўсміхнулася, перакрывіла свой прыгожы твар і ледзьве чутна прашаптала:

— Вайна... Вайна мяне завуць... А гэта мой родны брат, крумкач, прылятаў клікаць мяне на вяселле... Весяліцца наша часіна прыспела...

— А чаго гэта?

— Бо праз пару тыдняў тут будзе лютая бітва. Людзі будуць гнуцца і гінуць, як нам, з сярпамі, пакланяюцца гэтыя каласы...

Незнаёмка адразу ж і знікла, толькі яшчэ пару разоў данёсся да вуха жанчыны жудасны крык-стогн крумкача.

Прыйшла яна дамоў і пра ўсё расказала. Ажно і сапраўды, праз пару тыдняў тут такая бітва распачалася, такое пабоішча здарылася, што да гэтага часу людзі жахаюцца. Недалёка ад гэтых мясцін цякла безназоўная рэчка, дык яна ўся чырвоная зрабілася, скрывавілася, гэтулькі ахвяр было. З тае пары і сталі называць рачулку, ад гэтага месца, Чырвоным Ручаём, а пазней і вёска стала так называцца.



# ПОЛАЦК

Жыў некалі адзін музыка. Скрыпач. І да таго здатны чалавек быў, што птушкі навокал замаўкалі, калі ён іграў. Рака і тая прыцішвала свой бег, каб хвалі паспелі паслухаць чароўныя мелодыі і панесці пра іх добрую славу далей, да самых нізоў. Вецер, які перад гэтым выварочваў-ламаў здаравенныя дубы, раптам супакойваўся. Вось што музыка таго скрыпача простага рабіла. Казалі, што, перш чым загаварыць, той чалавек пачаў смыком вадзіць па дзедавай скрыпцы, якую таму таксама старэйшыя перадалі. Так яно ў іхнім радаводзе вялося, што майстэрства перадавалася з пакалення ў пакаленне.

Звалі таго чалавека Саўкам. І сабою прыгожы быў хлапчына: высокі, статны, як заспявае ды як тупне нагою, то не адно дзявочае ды жаночае сэрца замірала ў салодкім спакоі, не адна спадзявалася, што менавіта на ёй спыніць гэты чалавек свой выбар, менавіта яе возьме за гаспадыню. Але не хацеў скрыпач жаніцца. Некаторыя сцвярджалі, што адмаўляецца таму, што ягоная дзяўчына выйшла замуж за багатага і стала жыць ці то ў княжацкім, ці то ў панскім палацы. Як пачуў Саўка пра такую навіну, дык з хаты, можа, з тыдзень не вылазіў. Усе чулі, як горка-самотна ў тыя смутныя дні спявала ягоная скрыпка, як маці казала суседзям:

— Ой, людцы мае, хоць бы чаго благога сабе не зрабіў...

— Дык вы, цётка, глядзіце за ім, вачэй не спускайце.

— Я ж так і раблю. Але ж і праца па доме ёсць...

— Нічога, цётачка, вы за гэта не перажывайце. Мы і ніву вашую дагледзім, і за жывёлай паназіраем, толькі каб у вашай хаце ўсё наладзілася.

— Дзякуй вам, людцы.

Саўка нічога тады не выкінуў, але на вяселлі ды на вечарынкі хадзіць адмовіўся. Як яго ні ўпрошвалі, колькі грошай ні абяцалі, ён сцвярджаў сваё:

— Не пайду. Вы, людцы, не крыўдзіцеся. Не магу я зараз іграць, душа не ляжыць...

Так і ішлі людзі з хаціны ні з чым. Матуля Саўкава толькі і мовіла, апраўдваючыся за сына:

— Даруйце, але нічым я дапамагчы не магу. Не хоча іграць. І дома нават сам не іграе. У працу ўкінуўся, нібы той вол трохжыльны. Нават са сцяны скрыпачку не здымае.

Так працягвалася дзесьці каля года. Хлопцы ды дзяўчаты ўжо і ў хаціну да Саўкі перасталі наведвацца, ведалі наперад, чым ён адкажа ў чарговы раз. А малады гаспадар працаваў. Даглядзеў гаспадарку так, што зайздросціць іншыя пачалі:

— Ты глядзі, як усё акуратна ды спраўна робіць.

— А хіба ж не ўмее.

— Раней жа...

— Раней на скрыпцы іграў і часу неставала, асабліва перад святочнымі днямі ці перад вясельнымі, ■ зараз чалавек да зямлі прырос...

Хто яго ведае, колькі яшчэ часу Саўка не браў бы скрыпку ў рукі, каб не адзін выпадак.

Здарылася так, што ён з матуляй жаў жыта і падчас полудня да іх падышлі пасядзець-адпачыць суседзі. А ў суседзяў была прыгажуня дачка, якая ў апошні час расквітнела кветкай-вяргіняй, што тая вясна пасля суровай зімы. Звалі яе Насткай. Селі, слова за слова, неба дзякуюць, што надвор'е добрае стаіць, што з хлебам будуць, і тут дзяўчына, цяжка ўздыхнуўшы, прамовіла:

— Усё гнешся, працуеш... Каб хоць хвілінку пайграў, дык і спіна адышла б адразу, і сіла аднавілася б...

Яна звярталася не да Саўкі — да ўсіх, бо, відаць, вельмі стамілася на самай справе. Але хлапчына нечакана заявіў:

— Сёння-то не, а заўтра дык дакладна вам сыграю. Вазьму скрыпку ў поле і сыграю.

Як сказаў, так на наступны дзень і зрабіў. Праўда, нядоўга іграў, але выводзіла ягоная скрыпка такія мелодыі, так за душу брала, як, можа, ніколі раней гэтага не рабіла. Высока-высока, некуды ў сінюю далячынь, узляталі гукі простага інструмента і там недзе расставалі. Усе сядзелі і слухалі, нібы зачараваныя. Думалі пасля гэтага, што і на вячоркі Саўка пойдзе, і па вяселлях вандраваць стане. Ды не, такога не здарылася. Толькі ў полі і іграў, толькі і выводзіла яго скрыпка сумныя ці вясёлыя мелодыі, калі побач з ім сядзела прыгажуня Настка. Цяпер ужо ўсе вяскоўцы гаманілі, што скрыпач закахаўся, што нарэшце знайшлася тая дзяўчына, якая ўзбудзіла ягоную душу, якая прымусіла Саўкава сэрца па-новаму глянуць на жыццё. Гаманілі ўжо і пра хуткае вяселле, бо і Саўка нашэптваў не раз Настцы:

— Калі ўжо, мая ты прыгажуня, мне да тваіх бацькоў сватоў прысылаць?

— Ай, Савачка, пачакай яшчэ крыху. Дай мне яшчэ жыццю парадавацца, за мамчынай ды за татчынай спінаю пасядзець.

— А то замужам ты радавацца не будзеш?

— Буду, але ж... Дзеці пойдуць, гаспадарка ўласная на плячах павісне... Не стане часу прыгажосцю захапляцца.

— То калі?

— Давай ужо восенню, раз ты такі нецярплівы. Восенню, калі бацькі адробяцца, бо раней яны ні за што на свеце і не пагодзяцца.

Дачакаліся і вяселля, і зажылі маладыя весела ды дружна. Ды што ж яшчэ можа пагражаць, калі кахаюць адзін аднаго, калі абодва працавітыя? Так усе думалі, як і мы з вамі, а аказалася, што ёсць такая рэч у свеце, якая можа любога чалавека з правільнага шляху збіць. І рэч гэтая — гарэлка.

Доўгі час не хадзіў іграць на вечарынкі ды на вяселлі Саўка, але аднаго разу прыйшла да яго прасіцца сама дзяўчына. Не бацькі, не жаніх, а дзяўчына.

— Не адмоўце, майце ласку...

— А чаго ж гэта ты сама прыйшла? — пацікавіўся Саўка.

— А хто ж яшчэ павінен быць?

— Ну бацька, матуля ці які дзядзька або жаніх твой...

У адказ горка заплакала дзяўчына. Гаспадар і не рад быў, што закрануў чалавека.

— Што з табой? Чаго ты?

Тут ужо і Настка са свякроўкаю кінуліся супакойваць дзяўчыну:

— Не плач. Не плач, родненькая. Чаго ты слёзы льеш?

— Ой, жыццё маё такое...

— Дык ты ж яшчэ і замужам не пажыла, а ўжо рукі апусціла.

— Бо ёсць ад чаго апусціць. Сірата я круглая. Няма ў мяне ні таткі, ні мамкі, таму я сама і прыйшла да вас, таму і прашу, бо болей няма каго.

Сцішыліся ўсе, і напружаная цішыня запанавала ў хаціне. Першым яе парушыў Саўка:

— Дык што мне рабіць? — нібы самому сабе пад нос, прабубнеў ён.

Ніхто яму не адказваў. Гаспадар нецярпліва крутнуўся да жонкі, але тая паціснула плячыма, маўляў, што я, калі ты сам такі парадак увёў. Тады азвалася маці:

— Можа б, ты, сынку, выручыў гэтую дзяўчыну? Не па-людску будзе, калі ты ёй адмовіш. У яе, мабыць, і заплаціць няма чым. Да каго яна яшчэ пойдзе, як не да цябе?

— Няма, цётачка, няма, — захліпала зноў дзяўчына, — я хацела прасіць пайграць на вяселлі напавер, а потым бы адпрацавала...

— То, можа, пайграў бы, Саўка? — нерашуча ўступіла ў гаворку і Настка, якой таксама стала шкада сірату. — Працы ў нас такой няма. Там усяго адну ноч пераначуеш і дамоў вернешся...

Гаспадар маўчаў, толькі пазіраў на дзяўчыну, якая жаласна глядзела прама яму ў вочы. Потым схамянуўся:

— Калі так, то пайду і сыграю.

— Вось малайчына, сынку, — узрадавалася маці. — Людзей трэба выручаць. Можа, і нам некалі давядзецца прасіцца.

— Толькі, Настка, я платы ніякай ад яе, ад сіраты, не хачу. Абыдземся, у нас жа ўсё ёсць...

— Так, родненькі, так. На той плаце, што табе гэтая дзяўчына адпрацуе, мы не ўзбагацеем. Няхай яны лепей на сваім падворку ці па гаспадарцы папрацуюць, там ім працы хопіць па самыя вушы.

— Тады дамовіліся. Бяжы, дзяўчына, дамоў і не перажывай. Адыграю вам вяселле.

З таго вечара ўсё і пачалося. Зноў пачалі запрашаць Саўку на вяселлі, а ён перастаў адмаўляцца. Ды гэта ж нічога, але чалавек пачаў зазіраць у чарку. А як пачаў выпіваць, дык і да справы не надта ўжо цягнуўся. Маці плакала, Настка галасіла, што ўсё не так у іхняй хаце пайшло. Саўка, калі прачынаўся, абяцаў:

— Болей і на губу гарэлкі не вазьму! Усё на гэтым! Апошні раз! Абяцаю!

Настка дык тая стрымлівалася, магчыма, верыла ў абяцанні мужа, а вось матуля рэзала праўду прама ў вочы:

— Абяцалася свіння гразі не чапаці... Ці ж гэта табе, чалавеча, не сорамна, ці ж табе справы да сваёй сям'і няма? У цябе ж трое дзетак, яшчэ а́дно аднаго не панясе, а ты гэтак распіўся! І што ты добрае ў той гарэлцы знайшоў?

Саўка сярдзіта паварочваў вачыма і запэўніваў:

— Болей не буду! Вось пабачыце, што не буду!

Але матуля і тут не супакойвалася:

— Няма на цябе болей у мяне веры! Дзе-небудзь у лужыне жыццё сваё п'яны скончыш ці пакалечышся. Хто цябе тады глядзець будзе? Настка?! Ды ты на яе плечы, лайдачына, і так усё ўзваліў! Паглядзі, як яна змізарнела, куды яе прыгажосць падзелася? Чаму ніводнага разу не запытаўся, ці цяжка адной?

Хто яго ведае, колькі яшчэ часу піў бы Саўка, каб зноў-такі не выпадак.

Аднаго разу іграў ён вяселле ў свайго стрыечнага брата. Платы браць не хацеў, а гаспадар яго шчыра гарэлкай частаваў. І так набраўся Саўка, што нават сваю звычайную норму перапіў. Гаспадар прапанаваў яму застацца на ноч, толькі Саўка не пагадзіўся:

— Зайду. Дзе п толькі не быў, але свайго двара ніколі яшчэ не мінаў.

Ідзе Саўка, плявузгае абы-што сабе пад нос, песні гарлае, бо побач жа нікога няма. А калі б і быў, дык чаго там п'янаму чалавеку палохацца? Потым прысеў на нейкі пагорачак і як засучыў на скрыпцы кадрылю, дык і зоркі ў небе, здавалася, ярчэй засвяціліся ды заскакалі. Іграе музыка, языком прышчоўквае ў такт і яшчэ ўмудраецца лапцем крутнуць перад сабою, нібыта скача на пару з

якой ладнай маладзіцай. Так іграў чалавек і не заўважыў, як да яго падышоў і прысеў побач прыгожы хлапчына. Мала таго, што прысеў, дык пачаў бойка лупасіць у бубен, які таксама невядома адкуль з'явіўся. Цяпер яны ўжо ўдваіх папісквалі і пасвіствалі. Саўка азірнецца на незнаёмца, усміхнецца, а той яму зубы пакажа — і далей рэжуць. Потым выдыхнуўся музыка, перапыніўся і пытаецца:

— А ты чый жа гэта будзеш? Нешта я цябе не ведаю.

— Затое я цябе, Саўка, ведаю добра.

— Саўку ўсе ведаюць.

— Яно так, музыка ты хвацкі. Нідзе і ніколі я не чуў, каб чалавек гэтак хараша іграў, хоць па свеце мне давялося пабадзяцца...

— Ды ўжо ж, — задаволена хмыкнуў музыка.

— Слухай, а ты і сёння з вяселля?

— Так.

— У мяне да цябе, чалавеча, такая просьба-прапанова. Ты ж усё роўна платы на вяселлі не ўзяў...

— Пра ўсё ты ведаеш...

— Так даводзіцца жыць. То, можа б, і нам на вяселлі пайграў?

— Якое такое вяселле пасярод ночы? — здзіўлена пачаў азірацца Саўка.

— У нас такая завядзёнка, што вяселлі гуляюць паіншаму.

— А я і не чуў нават.

— Многія не чулі. Ну то што, пагаджаешся? Мы шчыра заплацім... Золатам... Чыстым золатам... Так што згаджайся.

— А калі не пагаджуся?

— Твая справа, але іншага разу можа не выпасці. Глядзі, колькі грошай упусціш...

Гамонка пра вялікія грошы збіла з панталыку п'янаватага Саўку, таму ён і пагадзіўся.

Але ж нездарма ў народзе гавораць, што за грошы ўзяўся — чорту прадаўся.

Пайшоў той хлапчына наперадзе, а Саўка за ім чыкільгае ды на скрыпцы яшчэ ўмудраецца іграць. Час ад часу, праўда, пытаецца:

— Хутка ўжо ці не?

Павадыр павернецца і прамовіць:

— Хіба ты галасоў не чуеш? Хіба ты агнёў яркіх наперадзе не бачыш?

— Не...
— Ды ўжо зусім блізка, патрывай яшчэ крыху.
— А мне не прывыкаць. Я вытрымаю.
— То і добра.

Прыходзяць яны ў вялікі-вялікі палац. Паноў там багатых ды паненак было гэтулькі, што з усяго наваколля пазбірай, то і на палову не хапіла б. Гэта і падалося Саўку падазроным, але павадыр не даў яму і рота адкрыць.

— Ты ўсё дапытваўся, дзе іграць давядзецца? А вось тут і рэж! За грашыма мы не пастаім!

— Але ж...

— Што такое яшчэ?

— Ці ўмеюць яны тыя танцы скакаць, якія я зайграю?

— Нашы госці па-ўсялякаму ўмеюць. Няхай цябе гэта не палохае.

Як зайграў Саўка, а паны з паненкамі як пусціліся ў скокі, ды яшчэ і морды такія рабілі, што ён ажно са смеху даходзіў. Госці падскоквалі, не супыняліся, а музыка таксама хвацка трымаўся, даказваў, што лепей за яго іграць ніхто не ўмее. Потым адумаўся: іграць-то ён іграе, а як жа плаціць будуць? На звычайным вяселлі ўсё проста: шапку пакладзеш, і госці туды капейкі свае кідаюць. Супыніўся Саўка, і тут да яго пачалі падлятаць распараныя танцоры:

— Пайграй яшчэ, скрыпачу! Не сядзі, бо мы застудзімся, стоячы!

Саўка ўсміхнуўся:

— Я іграю, а хто мне заплаціць?

Госці ажывіліся:

— Гэта мы зараз выправім! Ірай — не пашкадуеш! Глядзі, колькі накідаем!

Як сталі кідаць грошы, ды чыстае золата, то накідалі ў хуткім часе Саўку амаль што па калені. Пабачыў такую справу музыка і ўзяўся за скрыпку. Як падумаў, колькі золата дамоў прынясе, то ажно сэрца ў грудзях залякацела ад радасці.

Рэжа музыка польку-весялуху, а тым часам недзе далёка-далёка пракукарэкаў певень. І тут Саўка... прахапіўся. Здзічэла азіраўся па баках і ніяк не мог дацяміць, дзе гэта ён і як тут апынуўся. Навокал была вада, густая балотная трава, а сам Саўка сядзеў на гнілой смярдзючай купіне.

«Вось дапіўся, дык дапіўся, што ледзь у палце не ўта-

піўся...» — горка сказаў скрыпач і прысягнуў, што ніколі болей піць не будзе, што будзе жыць дзеля родных.

А дома матуля яшчэ дадала, увесь час прымаўляла:

— Вось напіўся, што з палтам ажаніўся! Каб цябе, дурня, болей ужо ногі там не насілі! Каб ты смалы напіўся!

Так людзі і сталі зваць тое месца, дзе Саўка блукаў, — Палта, балотам па-іншаму, а рэчку, якая падзяляла яго на дзве палавіны, — Палатаю. Ад рэчкі потым і паселішча пайшло, якое людзі назвалі Полацакам.

## ВЕТРЫНА

Некалі праз нашы мясціны праязджала вядомая расейская царыца Кацярына II. Спынялася на кароткія адпачынкі і абавязкова выклікала да сябе мясцовых жыхароў, каб тыя паспявалі ёй простыя песні. Сама садзілася ў высокае крэсла, абапал яе станавіліся шматлікія слугі і князі, якія заўсёды суправаджалі Кацярыну II у дарозе, і слухала, нават размаўляць нікому падчас гэтага не дазваляла.

Аднаго разу прыселі слухаць песні, а нейкі багаты ці то князь, ці то граф вырашыў паказаць сваё абурэнне гэткім парадкам. Пасярод самай журботнай песні ўзяў ды і ляпнуў:

— А мне да ўсяго гэтага, як чорнаму сабаку справа да блох... Ці ж то для нашага, княжацкага, вуха гучанне?

Астатнія толькі коратка хіхікнулі, але ніхто ў адкрытую не пасмеліўся падтрымаць ганарліўца — хто збаяўся, а хто мудра вырашыў, што за лепшае будзе прамаўчаць, бо занадта доўгі язык да дабра не даводзіць. Убачыў той хвалько, што і Кацярына II нічога не адказала, і вырашыў, што яна не супраць, каб ён так і далей гаманіў. Таму працягваў:

— І што тут цікавага? Выюць-гарлаюць, хістаюцца нечага... Навошта мне гэта?

У адказ пачуўся сцішаны смех, але Кацярына II і на гэты раз не павярнулася.

Франтаваты князь зусім ужо распеpacketed:

— Стаяць тут, смярдзяць, кажухі нямытыя... — і хацеў яшчэ нешта дадаць, але не паспеў — сялянкі скончылі сваю сумную песню і схіліліся ў нізкім паклоне. А над натоўпам пранёсся ўладны голас Кацярыны II:

— Каму там надакучыла стаяць ды нюхаць?

— Не нюхаць, а слухаць, ваша царская вялікасць, — паспрабаваў было пажартаваць ганарлівец.

— То ён мяне яшчэ і папраўляе?! Маўчаць!

Прыдворныя схілілі галовы, слугі плетанулі як мага далей, каб лішні раз не пападацца пад гарачую руку. Ведалі, што ім усё роўна перападзе, яшчэ дастанецца і ад сваіх паноў. Але сама болей напалохаліся сялянкі. Яны стаялі, і чуваць было, як гучна ляскочуць іхнія зубы. На гэта і звярнула ўвагу Кацярына II:

— Вы яшчэ тут... стаіце? Не палохайцеся, з вашых галоў і валасінка не ўпадзе. Дзе мой намеснік?

Аднекуль з натоўпу раптоўна ўзнік невысокага расточку чалавечак і падляцеў да валадаркі.

— Я тут...

— Гэтым людзям шчодра заплаціць трэба... Не шкадуючы...

— Але ж...

— Што яшчэ?

— Ды звычайным вясковым бабам ці трэба гэтулькі грошай даваць?

— То што, толькі вашым жонкам ды дочкам даваць? Толькі каб вы кралі? Плаці і маўчы. Не з тваёй кішэні, з дзяржаўнай людзям плачу...

Намеснік кінуўся выконваць загад.

— А дзе той, якому што да блох, што да песень — усё роўна?

Запанавала цішыня. Было чуваць, як звіняць у руках намесніка залатыя.

— Дык дзе гэта ён?

— Я тут... — пачулася ледзьве чутна.

— Хадзі, мой каханенькі, сюды. Хадзі, не палохайся, зараз ты мне спяваць будзеш.

Князь на паўсагнутых нагах падцягнуўся да валадаркі.

— То што, табе не падабаюцца тыя песні, якія я слухаю?

— Падабаюцца...

— Чаго ж тады перабіваў, перашкаджаў мне слухаць?

— Нешта...

— Перад паненкамі маімі хацеў свой нораў і гонар паказаць? То і пакажаш, толькі ў іншым месцы. Калі ўбачу, што стараешся, то, можа, і дарую ды назад да сябе ў світу забяру, а зараз... А зараз... Эй, дзядзька, — звяр-

нулася Кацярына II да здаравеннага чырванашчокага фурмана, — злазь ды хадзі сюды. А ты, княжа, будзеш цяпер на ягоным месцы. Глядзі, калі недзе не ўправішся, то атрымаеш плескачоў, ды не ад мяне, а ад твайго непасрэднага начальніка, які не надта любіць адно і тое ж два разы паўтараць.

Так на ўсю астатнюю паездку стаў той ганарлівы князь фурманам. Ад сораму згараў, павярнуцца лішні раз не асмельваўся, каб твару ягонага старыя знаёмыя не ўбачылі. А тут яшчэ, ліха на яго, начальнік такі трапіўся, што і перадыхнуць не даваў. Калі што — адразу гарлаў:

— З-за чаго цябе кормяць, гультаіна? Бізуноў захацелася?

Ляцеў тады бедалага-князь, нібы яму крылы ўторквалі, і шчыраваў. Увесь час толькі і спадзяванняў у яго было, каб неяк выслужыцца, каб яго заўважылі і дазволілі вярнуцца назад. Спадзяваўся, і такі момант наступіў. Праўда, прайшло добрых два ці тры месяцы. Прызвычаіўся, ганарлівец, і да кпінаў, і да крыкаў, і да таго, што іншыя фурманы, спачуваючы яму, нечым пастаянна дапамагалі. Цяпер і былы князь разумеў, што без такіх шчырых і простых людзей у жыцці нельга абысціся.

Аднаго разу прыпынілася Кацярына II са сваім шматлікім абозам у прыгожым месцы. Справа была ранняя, да ночы было далекавата. Валадарыня загадала паклікаць да сябе спявачак з бліжэйшага паселішча. Адным словам, усё паўтарылася, як і шмат разоў да гэтага. Села яна ў крэсле, але, вырашыўшы нешта загадаць, раптоўна ўзнялася. У гэты момант моцны парыў ветру сарваў з яе галавы лёгкі саламяны капялюшык і панёс яго. Кацярына II толькі і паспела, што ўскрыкнуць:

— Трымайце яго. Гэта ж мой самы любімы! Бачыце, як тут ветрана!..

Кінуліся слугі ды прыбліжаныя за капялюшыкам, але самым першым прыспеў да яго той самы ганарлівы князь. Ухапіў ён капялюшык і да валадарыні паджгаў. Тая яго адразу за гэта і даравала.

Сяляне, якія прыйшлі спяваць песні і ўсё гэта чулі на свае вушы, пераказалі іншым. З таго часу і пайшла назва — Ветрына.

# КАЗІМІРАВА

Жыў некалі ў нашай мясцовасці пан Казімір. Мала таго, што быў ён надзвычай багаты, дык яшчэ такі сквапны ды бязлітасны ўрадзіўся, што даруй, Божа, каб не дапусціць болей такіх людзей на белым свеце гаспадарыць. Ледзь што не так — адразу закрычыць-загыркае на шматлікіх слуг, якія маглі і родных бацькоў у магілу загнаць:

— Улупіце яму бізуноў, каб ведаў, як мне не падпарадкоўвацца! Каб ведаў, што кожнаму, хто не пакловіцца мне, не будзе літасці!

І жыў у прыгоне ў таго бязлітаснага пана каваль Сцяпан з жонкай ды дзеткамі. Добры быў майстар, што хочаш мог зрабіць. Але дзе ж вы бачылі, каб памешчык ды простаму селяніну дазваляў нешта без загаду зрабіць? Ніколі такога не здаралася. Апошнюю шкуру драў з каваля Казімір. Не глядзеў, што той з рання да змяркання ў кузні грукаў па кавадле, дык яшчэ прымушаў і зямлю апрацоўваць, і падаткі своечасова плаціць. З-за гэтых падаткаў усё і завязалася. Пан загадаў іх плаціць. А з чаго было плаціць Сцяпану? Вось і ўпаў ён перад гаспадаром:

— Паночку, не губі...

— Чаго ты хочаш, Сцяпан?

— Паночку, будзь ласкавы, дазволь мне крыху пазней за ўсё заплаціць і тыя падаткі прынесці. Не паспяваю... Не магу адзін усяго перарабіць...

— А ты жонку прымушай дапамагаць.

— Яна і так не разгінаецца. Усё адна сама робіць, бо мне ж каваць даводзіцца.

— А ты дзяцей прывучай.

— Дык маленькія ж яшчэ. Няхай пабегаюць, сонцу яснаму парадуюцца.

— Лайдакоў гадуеш?

— Няпраўда, пане, — не ўтрываўся Сцяпан.

— Дык ты яшчэ і пярэчыць мне ўзяўся? Вось за гэта і дня табе не дарую.

— Але ж я...

— І слухаць болей не жадаю. Каб да заўтрашняга вечара ўсё на мой падворак звёз.

Што было рабіць Сцяпану? Здавалася, што і сонца для яго болей не свяціла. Ведаў, што калі не паспее ад-

дацць, дык памешчык на ягонай сям'і адыграецца. Ужо і дамоў не хацеў чалавек ісці. Што ж ён там сваёй жонцы ды галодным дзецям скажа?

Выращыў тады каваль утапіцца. Ідзе, не заўважае нічога навокал. Тым часам і цямнець пачало. Густы змрок апанаваў кустоўе і ўсё вышэй і шырэй распускаў свае ўчэпістыя лапы-косы. Ачнуўся крыху, калі пачуў нейкія незразумелыя крыкі, галасы, устрапянуўся і пачаў углядацца наперад. Ажно бачыць — вогнішча гарыць. На яго і папраставаў Сцяпан. Не тое што захацелася жыць, але неяк само па сабе ўсё атрымалася. Пасунуўся бліжэй і спыніўся разгублена: перад вогнішчам сядзела некалькі дзесяткаў цыганоў. Паклікалі яны да сябе каваля, запрапанавалі сесці. Самі маўчаць, і іхні госць не адзываецца. Ажно праз некаторы час самы стары цыган прамовіў:

— А што гэта ты, бацю, такі хмурны? Здарылася, можа, што? Скажы, чалавеча, а раптам дапаможам?

— Эх, людцы добрыя, ды мне ўжо ніхто не дапаможа. Мяне ўжо толькі адна сырая магіла чакае, там я выйсце бачу...

— Ну туды мы, бацю, усе паспеем, ніколі не прыпознімся, — зноў падаў голас стары цыган.

— У мяне зусім іншая справа... — і распавёў пра ўсё.

Цыганы сядзелі і моўчкі слухалі, не перабівалі, але твары іхнія станавіліся ўсё зласнейшымі. Было відаць, што іх добра зачапіла чужое гора. Гаварыў, гаварыў Сцяпан, а напрыканцы не ўтрываўся і заплакаў.

— Чаго ты, чалавеча? Усё яшчэ перайначыцца, — паспрабавалі было супакоіць яго цыганы.

— Не, людзі добрыя, нічога ўжо не перайначыцца. Мне не сябе шкада, а жонку ды дзетак маленькіх. За што ім пакутаваць даводзіцца?

— Каб жа мы, братка, ведалі, за што... Самі ж бачым з твайго аповеду, што невінаваты ты, што гэта памешчык твой лютуе.

— Не адчайвайся, бацю. Кладзіся спаць, а сонца ўзыдзе, то і паратунак нейкі прыйдзе.

— Які сон? Які паратунак? Мне зараз самы момант, што галаву ў пельку ўсунуць.

Стары цыган не вытрымаў і ўзарваўся:

— Ну павесішся ты ці ўтопішся... Што табе з гэтага? Нічога. Што дзецям тваім ці жонцы за палёгка? Ніякай. Таму думай, чалавеча, а на неба не надта спяшайся. Паспееш.

— Але што я магу адзін зрабіць?

— Адзін — нічога. А вось калі мы ўсе агулам возьмемся, то нешта і прыдумаем. Думаеш, нам гэты пан папярок горла не стаў? Стаў, ды яшчэ як. Колькі ён нашых коней загадаў адабраць, колькіх нашых цыганоў на стайні секлі — не пералічыць. Мы яму ніколі не даруем. Кладзіся, чалавеча, спаць. Старэйшыя пасядзяць, пагамоняць, і ўсё пойдзе на лад. Я табе абяцаю, што мы дапаможам.

Прылёг Сцяпан і задрамаў, а некалькі цыганоў ссунуліся ў купку і пра нешта доўга яшчэ паціху спрачаліся. Яны ляглі ўжо на самым світанні.

Калі каваль прахапіўся, то наўкола яго бегалі мурзатыя дзеці, па-ранейшаму дымела вогнішча, хадзілі паважныя цыганы.

— Што ж, чалавеча, мы табе дапаможам, — падышоў да каваля ўчарашні стары цыган, — але спачатку пра ўсё паслухай. Значыцца, так. Вось табе колькі залатовак, іх хопіць, каб аддаць усе падаткі. Гэта мы з усяго табара сабралі. Памешчык твой пачне цікавіцца, адкуль ты іх узяў, бо ён жа выдатна ведае, што ў цябе нічога за душою няма. Ты адразу не прызнавайся, а потым і шапні, што скарб знайшоў і што там гэтага золата — хоць мех цэлы насыпай. Прывядзеш пана вунь да таго дуба, а мы яго там і сустрэнем... Пастарайся толькі, каб ён людзей многа з сабой не браў. Зробіш?

— Зраблю, бацька, можаце на мяне спадзявацца. А за грошы гэтыя я вам адраблю. Я ж каваль.

Пан Казімір ажно вочы вылупіў, калі ўбачыў каваля, бо слугі яму ўжо данеслі, што таго дома не было. А калі яшчэ і залатоўкі на стол ляглі, то гаспадар і мову спачатку страціў. Потым, праўда, адышоў і пачаў дапытвацца, адкуль яны ў беднага селяніна. Так памешчык і трапіў у пастку. Сцяпан патрываў, а потым нібыта і прагаварыўся. Казімір, каб ні з кім не дзяліць золата, з адным толькі слугой паехаў да ўяўнага скарбу. Там яго і злавілі цыганы. Доўга меркавалі, як з вылюдкам разлічыцца, і нарэшце прыдумалі: расшчапілі пень і ўсунулі ў расколіну панскае прычындалле. Казімір так і сканаў ад болю і крыку. А месца тое людзі празвалі Казімір Роў. Потым там паселішча стала, і называцца пачало крыху па-іншаму — Казімірава.

# КАРШУНЫ

Наша мястэчка дужа старадаўняе. Людзі гавораць, што пайшло ад тых яшчэ часоў, калі Бог свет ствараў.

Як Бог стварaў усё жывое, то стараўся рабіць працавітых, сумленных, шчырых істот, каб калі і адрозніваліся, дык толькі ростам, вагою ці сілай — нічым іншым. Ды хіба ж так атрымліваецца, як задумваецца? Пастаянна ж нешта не выходзіць, недзе хіб абавязкова вылезе. Так і тут ва Усявышняга пайшло бокам. Усё ён прадугледзеў, але аднаго не разлічыў — не падумаў, што сярод створаных ім істот могуць аказацца і такія, якія толькі і рабіць будуць, што пахваляцца, ці, горай за тое, толькі за кошт іншых жыць, ■ самі нават ніякіх намаганняў для таго, каб пракарміцца, не прыкладуць. Каб жа ён такое прадбачыў. А то наштукаваў птушак усялякіх, маленькіх і вялікіх, рознакаляровых і шэрых, і пачаў раскідваць іх ва ўсе бакі. Кіне ды яшчэ і прымовіць: «Ляціце высока і далёка!»

А зверху толькі радасны шчэбет у адказ даносіцца.

Кіне чарговых птушачак і зноў: «Ляціце! Размнажайцеся ды з людзьмі ў згодзе жывіце!»

Слухае, як ягоныя стварэнні заліваюцца, і на сэрцы лёгка робіцца.

Каб жа птушак толькі некалькі было, дык і справы ўсяе на паўгадзінкі. Але нарабіў іх Бог надзвычай многа, каб на ўвесь свет хапіла, бо пакуль яны размножацца, пакуль разляцяцца, то ці мала часу пройдзе?

Стаміўся Усявышні, сеў, адпачыў крыху і думае, як бы хутчэй іх павыпускаць на волю, душы жывыя ў іх паўкладваць. Засумаваў было, што працы яшчэ многа. Ды што ж рабіць, такі ўжо лёс першастваральніка, калі ніхто не мог падмяніць. Але ў гэты самы момант за спінаю пачулася лёгкае пакірхванне. Акінуўся Усявышні — а перад ім нячысцік стаіць, сваім пачварным хвастом-венікам пакручвае. Яны тады яшчэ пасяброўвалі, не сварыліся.

— Чаго прыджгаў?

— Ды...

— Кажы, што трэба, час дарма не марнуй, сам жа бачыш, колькі ў мяне яшчэ працы. Трэба тэрмінова рабіць.

— Божа, дазволь, я табе ў гэтай справе крыху дапамагу.

— У гэтай справе? А ці ўправішся?

— Толькі таго клопату. Каб што цяжкае...

— Гэта толькі на першы погляд проста, а на самай справе...

— Ухапіў птушачку ды падкінуў. Там ужо няхай яна сама мяркуе, як ёй быць...

— Бачыш, ты і гэта ведаеш.

— А я даўно назіраю.

— За кім?

— За табой, Божа.

— Ну і як?

— Таму і падышоў да цябе, бо падалося, што і я магу справіцца.

— Удваіх, ведама, справа хутчэй пойдзе. Глядзі яшчэ раз, як усё трэба рабіць. Глядзі ўважліва, бо калі пераблытаеш што, у нас не будзе магчымасці перайначыць.

Узяў Усявышні птушачку, кінуў угару і прамовіў: «Ляці высока і далёка, людзей радуй сваім спевам...»

Птушачка адразу і азвалася недзе з паднябесся сваім звонкім галасочкам. Чорт ажно перакуліўся праз галаву ад нецярпення:

— Давай і я.

— Бяры.

Ухапіў птушачку нячысцік і сціснуў яе так, што тая ажно колер свой перамяніла. Бачыў Усявышні, што яна на самым пачатку была рознакаляровая, а тут атрымалася нейкая шэрая. Закрычаў:

— Не цісні так, кідай!

Нячысцік замахнуўся і шпурнуў птушачку не як жывую істоту, а як звычайна камень кідаюць. Паляцела тая не ўгару, а ўбок ды, крылцамі ніводнага разу ўзмахнуць не паспеўшы, гопнулася аб зямлю.

— Што ж ты робіш? Ты ж казаў, што ўсё ўмееш, я ж табе яшчэ і паказваў!..

— А хіба яна не ўзляціць?

— Давай паспрабуем цябе гэтак лёпнуць аб глебу і пабачым, што будзе...

Яны, відаць, доўга яшчэ спрачаліся б, але ў гэты момант пачуўся непрыемны голас:

— Чаго ціснеш? Чаго кідаешся?

Аслупянелыя нячысцік з Богам павялі галовамі, але нікога не ўбачылі. Тым не меней голас загучаў зноў:

— Раскідаўся... Расціснуўся...

— Дык гэта ж... — першым зразумеў чорт.

— Што?

— Гэта ж тая птушка крычыць, што я кінуў...

Падбеглі яны да тае мясціны, куды птушка ўпала, а адтуль пырхнула непрыгожае шэрае стварэнне. І зноў загарлала:

— Раскідаўся!.. Каб табе...

Тут нячысцік не ўтрываўся і пачаў чорным праклёнам праклінаць дзіўную птушку:

— Каб ты начамі лётала! Каб ты спакою не ведала!

Потым перадыхнуў і дадаў, як сам лічыў, найбольш важкі аргумент:

— Каб ты сырога мяса не ела! Каб ты адной мярцвячынай ласавалася!

Тая птушка як паляцела, так болей назад і не вярнулася. Але, як потым высветлілася, усё, што нячысцік праклёнам закляў, тое на самай справе і атрымалася.

А нашу вёску так назвалі ад таго, што нібыта непадалёку ля той горачкі, што зараз лесам парасла, усё гэта ў старадаўнія часы і адбывалася. Ад таго, што першы каршун на зямлі менавіта тут з'явіўся. Нездарма ж у нас і сёння яшчэ гавораць, калі на чалавека раззлуюцца ці ўпікнуць яго ў сквапнасці хочуць:

— Што ты на мяне глядзіш? Што каршуном уставіўся?

Адтуль, ад таго далёкага часу, і пайшлі нашы Каршуны.

## СТАРАЯ ПАЛАТА

Было ў аднаго бацькі, які некалі жыў тут, непадалёку, на хутары, два сыны. Усяго ў той сям'і хапала. Зямлі гаспадар багата меў. Калі маладзейшы быў, дык сам ва ўсім разбіраўся і спраўляўся, а калі састарэў, то і парабкі-работнікі не дапамагалі, якіх пастаянна з дзесятак наймаў.

Сыны не ў яго ўдаліся. Сцяпан, старэйшы, любіў на рыбалку валэндацца. Вось толькі сонца занялося — ён з хаціны адразу ж знікае. Колькі ні крычаў гаспадар, колькі маці яго ні ўшчувала — нічога не дапамагала. Акінецца злым вокам на бацькоў ды прамовіць сярдзіта:

— Як хачу, так і жыву!

— Сыночак, дык зямля ж у нас недагледжаная.

— Няхай яе парабкі даглядаюць!

— Але ж гэта наша ўсё.

— Я і не кажу, што чужое. Няхай бацька, заплаціўшы,

і дзярэ з іх тры шкуры. А мне што, я на рыбалцы пасяджу, на юшку налаўлю.

— Калі тое было? — уступаў у спрэчку стары. — Калі ты больш за пару рыбін дамоў прыносіў?

— А што, не было?

— Не было. Толькі прыляціш галодны, як воўк, ды ўсё са стала ды з печы пахапаеш, не думаючы надта, што астатнія галоднымі застануцца.

— То ўжо мне бацька і кавалак хлеба не дасць?

— І не дам!

— Людцы, перастаньце сварыцца! Знайшлі з-за чаго крычаць! — Гаспадыня кідалася да сына з мужам, ■ тыя, разгарачаныя, ужо былі гатовы за грудкі ўшчаперыцца.

— Каб я цябе болей у гэтай хаціне не бачыў! — сурова прамаўляў гаспадар.

Але ж і сын не саступаў:

— А я болей і сам не пайду! Згарыць яна няхай, твая праца! Не сядзіцца табе спакойна, дык дай мне вольна пажыць! Не хачу я ў зямлі корпацца! Мне на рэчцы добра! Пайду на Палату, сяду на беразе і буду сачыць за паплаўком! Там спакойна і ціха, і ніхто не ўпікае, што корміць мяне! — і, ляпнуўшы дзвярыма, знікаў з хаты.

Гаспадар доўга яшчэ не знаходзіў спакою:

— На Палату яго цягне! Там яму намнога лепей, чым дома! Працаваць яму не хочацца! І не трэба, сам спраўлюся! Пакуль хаджу, да таго часу буду і гаспадарку весці! Ад цябе, смаркача, не залежу!

Жонка спрабавала супакоіць мужа.

— Чаго ўсхадзіўся, чалавеча? Сядзь, перадыхні, а то з самае раніцы сварыцца ўздумаў. Не трэба так. Мы ж яшчэ не зломкі. Неяк і перацягнем лёс гэты. Ды і малодшанькі наш, можа, па другім шляху пойдзе, не па такім, як Сцяпан. Стане дапамагаць. А мы пабачым, што ўсё добра ў яго атрымліваецца, дык і адмовім яму ўсё з гаспадаркі ды з палеткаў. Няхай правіць, а рыбаку — ляжаць на баку...

— Што Сцяпан, што Гаўрыла — аднаго поля ягады. Ні таго не прымусіш працаваць, ні таго. Толькі і глядзяць, каб дзе паспаць ці пралайдачыць цэлы дзень. Хутка за стол нават на руках насіць будзем. Старэйшы на рыбалцы цэлыя дні прападае, а малодшы з руляй па лесе бегае ды ўсё пераконвае, што хутка ўсіх звяроў перастраляе.

— Ага, мужу, і ў каго яны такія пайшлі? — задуменна прамаўляла жанчына.

Пачуўшы такое пытанне, неяк раптоўна абмякаў і гаспадар:

— І не кажы. Здаецца ж, мы ніколі і хвілінкі лішняй не пасядзелі, не адпачылі. А яны...

— Маленькія былі такія ласкавыя, паслухмяныя.

— Цялятка ласкавае, пакуль матку ссе.

— Вось каб усё можна было назад перамяніць...

— І што б ты рабіў тады?

— Па-іншаму выхоўваў бы.

— Як жа гэта?

— А з самага маленства не шкадаваў бы іх, а прымушаў працаваць. Спачатку, калі дзецьмі былі, пакрысе, а потым і болей.

— Усе мы ўчарашнім днём, стары, разумныя...

Пагамоняць так, крыху супакояцца, а тым часам ужо і малодшы, Гаўрыла, вочы прадзірае. Першае, што ён заўсёды прасіў, было:

— Есці там дайце што-небудзь.

— А куды ты, сыночак, не паспеў? — ласкава пыталася маці, не даючы магчымасці гаспадару адразу ўсхапіцца лаяцца з Гаўрылам. Можа, устаў бы ды дапамог чым...

— І так жа ўсё паароблена. А ўставаць мне зарана не выпадала сёння.

— Чаму гэта?

— Учора дзіка я ў лесе падняў. Ды такога здаравеннага... Зраніў яго моцна, некалькі разоў страляў, але не дабіў. Натаміўся, набегаўся, што ледзьве дамоў даваloкся.

— Мог бы дзе і ў балоце пераначаваць, не надта а цябе, лайдачыну, чакаў, — пачынаў злавацца гаспадар, пачуўшы хлусню малодшага.

— Памаўчы, стары, памаўчы...

— Я яшчэ нічога такога і не сказаў.

— Але ж і не маўчыш.

— І не збіраюся.

— Я ж прашу.

— Ты просіш, а яны карысталіся і карыстаюцца такімі момантамі вельмі зручна. З раніцы самае адзін перасварыўся і на Палату ўцёк, а зараз вось і другі дзёру задасць. Зноў будзем самі ўсё рабіць ды да ладу даводзіць. Гэты ляжыць колькі часу, хоць бы на падворак выйшаў ды карову напаіў ці на пашу выгнаў. А то ён мне хлусіць, як учора лынды цэлы дзень біў...

— Не хлушу, праўду кажу.

— Каб ты так хлеб еў, як ты мне калі праўду казаў! — узарваўся гаспадар. — Дзе ж гэта бачылі, каб родныя дзеці так ад працы ўцякалі?! Той за вуду — і заламаў на рэчку, а гэты зараз ламаку сваю на плячо павесіць — і зноў джгне ў другі бок! Каб ужо вы там, у той Палаце, ці патапіліся, ці ў якім гнілым балоце ногі сабе павыкручвалі, як мне ўсё гэта надакучыла! Даць бы якім кіем па спіне добра, то знаў бы, як ленавацца!

Гаспадыня спяшалася на выручку малодшаму:

— Ой, не чапай яго, чалавеча. Неяк жа і мы будзем. Жывуць жа людзі.

— Людзі жывуць, а мы — пакутуем.

— Чаму гэта?

— Бо нас Бог пакрыўдзіў. Двух лайдакоў у адну сям'ю даў — рыбака ды паляўнічага. Ад такіх сыноў нічога добрага не чакай.

— А можа...

— Ды не перайначацца яны. Хоць бы па якой дзеўчыне ці ўдаве ім знайсці, і няхай бы прэч з майго падворка кіравалі, каб і не смярдзелі тут.

— Дзеці ж родныя, стары...

— А мне, думаеш, не баліць?

Пакуль яны паміж сабою гэтак разбіраліся, Гаўрыла паспяваў сабрацца і плетануць з хаты.

Колькі яшчэ часу так прайшло — ніхто добра і не памятае, але ж неяк пажаніліся Сцяпан з Гаўрылам, і жанок нішто сабе ўзялі. Ды бацька не мог ім даравадь таго лайдацтва, якім яны яму надакучылі. Калі сыны запыталіся, колькі зямлі дасць ім гаспадар, то той крыкнуў:

— Ты будзеш, сынку, мець Новую Палату, а ты — Старую Палату!

Не мясцовы чалавек і не зразумее. Значыцца, бацька даў на пасаг аднаму — зямлю ля старога рэчышча рэчкі, а другому — ля новага.

Вось адкуль з'явілася назва паселішча Старая Палата.

## ШПАКОЎШЧЫНА

Даўно такое здарылася. Войска напалеонаўскае ў наш край заявілася. Хто ж яго ведае, як бы ўсё атрымалася, калі б захопнікі крыху па-іншаму сябе паводзілі. А то ж, як прыйшлі, адразу пачалі забіваць ды рабаваць, паліць

ды вынішчаць усё навокал, каб нічога жывога не засталося. Людзі, можа, так і не імкнуліся б помсціць, каб такой крыўды не адчувалі, а то ж... Прачнуцца з самага світання, а паселішча чужынцамі шчыльна акружана. І пачынаецца тут! Маладзіц ды дзяўчат гвалцяць. Мала таго, што з жанчын здзекуюцца, дык на вачах у іхніх жа мужоў усё гэта робяць ды яшчэ і рагочуць:

— Што, торбы сялянскія, дачакаліся? Думалі — воля вам вернецца, шчасце прыйдзе. Як бы не так. Глядзіце, як мы з вашымі жанчынамі ўпраўляемся...

Дзе ж гэта вы бачылі, каб нехта такое трываў? Уставалі супраць захопнікаў мужыкі, збіраліся групамі, у цэлыя атрады ладкаваліся, і тады ўжо добры адпор давалі французам ды іхнім памагатым.

У нашых мясцінах цэлы атрад утварыўся, і ўзначаліў яго не хто іншы, як сам памешчык. Звалі таго пана Іван, а прозвішча меў Шпакоўскі. У мірны час такі чалавек быў, што пашукай, ды ці знойдзеш дзе такога, каб гэтак добра разумеў людзей простых, каб гэтак шчыра ім дапамагаў. Разбіраўся ва ўсім і дапамагаў. Казалі, што за ўвесь час, калі да яго са скаргамі ды з просьбамі прыбягалі, толькі адзін раз і не дапамог. Прычым не дапамог гультаю і п'яніцу горкаму, які пастаянна гарэлку піў ды жонку сваю ганяў з канца вёскі ў канец.

А так атрымалася, што калі дзеці ягоныя павыраслі, то за матулю, ведама ж, уступацца пачалі. Як далі раз, другі добра ў рэбры, дык ён і прыбег да Шпакоўскага скардзіцца. А той выслухаў уважліва, распытаў, не спяшаўся судзіць адразу, каб не выйшла чаго не па-справядліваму, і кажа:

— Усім дапамагаў і табе дапамагу, чалавеча, бо такі ўжо ў мяне жыццёвы прынцып: нікому ў дапамозе не адказваць.

Узрадаваўся п'яніца:

— Панічыку, родненькі, выручай. Да скону жыцця свайго за тваё здароўе ў царкве маліцца буду. Толькі пакарай ты жонку ды сыноў маіх, каб яны мяне болей не чапалі.

— Не зачэпяць, бо і ты іх болей чапаць не будзеш. А зараз паслухай, чалавеча, мяне. Ідзі на стайню і раскажы там пра ўсё, толькі нічога не ўтойвай.

— Дзякуй, панічыку! Дзякуй вам.

— Не спяшайся дзякаваць. Ідзі, няхай там выслухаюць...

Паджгаў п'яніца да стайні, толькі пяткі чорныя замільгацелі. А пан Шпакоўскі выклікаў да сябе верных слуг і гаворыць ім:

— Слухайце, хлопцы, там я гаспадара аднаго на стайню паслаў, то вы яму добра ўрэжце, каб да самай смерці памятаў, як над жонкай ды над дзецьмі сілу сваю паказваць. Усыпце якраз столькі, каб завязаць можна было...

Слугі ўсё так і зрабілі. Далі таму п'яніцу горкаму гэтулькі гарачых, што ён колькі жыў, то не тое што не піў, але нават баяўся ў бок жонкі крыва зірнуць.

Вось такі быў пан Шпакоўскі.

Калі прыйшлі французы, то Шпакоўскі сабраў усіх сваіх дворных і сялян ды прамовіў:

— Добра мы з вамі, людцы, жылі, але цяпер прыйдзецца нам бараніцца, бо самі ведаеце: вайна ідзе — мужык раве... Застанёмся на месцы, то ці пераб'юць, ці да таго зрабуюць, што жыць далей не будзе як. Выбірайце самі.

— А што нам пан прапануе? — пачуўся з натоўпу спакойны, упэўнены голас.

— Я што прапаную? Я думаю, што самае лепшае — прыхавацца ў нашым густым лесе і адтуль наведвацца ў госці да чужынцаў, каб яны ні на хвіліну не забываліся, хто на гэтай зямлі гаспадары. Так, мажа, і самі выратуемся, і ад сем'яў нашых бяду адвядзём.

— Добра пан задумаў.

— Ну а вы што скажаце, мужчынкі?

— Такая ўжо нашая справа — ва ўсім падпарадкоўвацца свайму гаспадару. Не раз ужо вы нас выручалі ў безнадзейных становішчах, будзем спадзявацца, што і на гэты раз добра атрымаецца.

— Што ж, дзякуй за падтрымку. Не будзем дарма дарагі час губляць, трэба збірацца. Праз пару гадзін каб усе са скарбам ды з павозкамі стаялі на гэтым самым месцы. Павядзе нас стары ляснік, які пушчу ведае, як сваю печ.

Так яны і сталі гаспадарыць у тым непралазным лесе. Калі даведваліся, што недзе французы рукі распусцілі, то кіравалі туды і вучылі захопнікаў розуму.

Аднаго разу з'явіўся ў лагеры разведчык і кінуўся да вяскоўцаў, якія, седзячы на сонейку, чысцілі зброю:

— Дзе пан?
— Навошта ён табе?
— Трэба.
— Адпачывае ён. Ноччу з групай людзей гуляць хадзіў, вярнуўся на досвітку. Няхай яшчэ паспіць.
— Трэба будзіць, справа неадкладная.
— А што такое?
— Ягоную сяброўку з суседняга маёнтка французы з сабой забралі...
— Зразумела, тады зараз разбудзім.
Выслухаў Шпакоўскі, што да чаго, доўга маўчаў, а потым азваўся:
— План будзе такі. Я пераапрануся селянінам. Са мной пойдзе ўсяго чалавек колькі, астатнія будзеце ў засадзе чакаць сігналу. Знак як падамо, тады і кідайцеся на дапамогу.
Так і зрабілі. Шпакоўскі з найбольш адчайнымі да дарогі прабраўся, па якой павінен быў той самы абоз праехаць, а астатнія засталіся ў засадзе.
Калі французы з'явіліся, то спачатку ўсё ціха ішло, а потым перастрэлка ўшчалася. Выскачылі тады сяляне з засады — і да павозак. Адбілі паненку, але пана Шпакоўскага варожая куля смяротна параніла. Падхапілі яго на рукі, а ён толькі што і паспеў прашаптаць:
— Цяпер вольна зажывяце, але без мяне...
Памёр храбры памешчык, і пахавалі яго недалёка ад той дарогі, на пагорачку. Самі засталіся пасля вайны жыць у тым самым месцы і вёску сваю, у памяць пра адважнага Шпакоўскага, назвалі Шпакоўшчынай.



# РАСОНЫ

Мудрыя людзі паведамілі, адкуль раса-расіца на свеце з'явілася. Так ужо атрымлівалася, што ў даўнія-даўнія часіны яе ўвогуле не існавала ў прыродзе. Ад аднаго выпадку ўсё пайшло.

Было ў адной сям'і тры сястры: Бярозка, Ліпка і Расіца. Такія дзіўныя імёны мелі дзяўчаты таму, што ў той перыяд на нашых землях панавала язычніцтва і ягоныя законы распаўсюджваліся на ўсіх.

Бацька спачатку крыўдаваў на лёс, што ў хаціне былі адны жанчыны. Сядзе за стол, замаркоціцца, схіліць галаву, ні з кім не размаўляе. Тады жонка не вытрымлівала і старалася пераканаць мужа, што не ўсё так дрэнна ў іх — дочкі выраслі прыгожыя, працавітыя. Унукаў панараджаюць — не будзе калі ім, старым, сумаваць ды галаву тлумам усялякім забіваць. Вось толькі каб усё добра было ў іх.

— Каб жа ўсё добра было, — нібы адгукаўся гаспадар.

А сёстры і сапраўды былі прыгажунямі, асабліва малодшая — Расіца.

Працавалі сёстры заўсёды разам. Маці наперадзе, а яны за ёю. Бацька цягнуў усё мужчынскае, а калі не паспяваў, то да яго далучалася жонка. Дочкам не дазвалялі рабіць такую працу:

— Не трэба вам, дачушкі, да гэтага прызвычайвацца. Будуць мужчыны ў вашых сем'ях — яны і паробяць, а мы яшчэ не зломкі, самі ўправімся.

Ды дачушкі не сунімаліся, усё парываліся дапамагчы, асабліва Бярозка. Яна і ад прыроды была здаравейшая за сясцёр — каранастая, учэпістая.

— Дайце дапамагу, няма чаго вам ірвацца. Калі яшчэ тое замужжа, а зараз што нам — стаяць і назіраць?

— Але ж, дачушка...

— Давайце, не адмаўляйцеся.

І тады ўжо дзве малодшыя рабілі жаночую працу, а трое з сям'і шчыравалі над мужчынскай работай. Так у іх добра ўсё атрымлівалася, што людзі зайздросцілі.

— Глядзі ты на іх, як стараюцца. І мужчына толькі адзін у хаце, а ўсё дагледжана ды да справы даведзена. Паглядзі толькі, на працу ідуць — спяваюць, з працы вяртаюцца — таксама, быццам бы іх і стома ніякая не бярэ.

Стома, канешне, брала, але маладыя гады не давалі магчымасці гнуцца да зямлі, пахмурнець тварам. Усё маладое прыгожае, а калі гэта яшчэ і дзяўчаты, дык які ўжо там сум. Толькі і чуваць, што смех ды песні навокал разносяцца, і бацькам лепей ля іх, зусім жа іншы настрой пануе.

Так і працягвалася з году ў год, пакуль не недарыўся адзін выпадак.

Нездарма людзі гавораць, што як ты ні круціся, а ад кахання не схаваешся. Так і тут здарылася. Моладзь збіралася вечарамі разам з усяго паселішча ды весялілася як магла. Там сабе хлопцы дзяўчат выглядалі, а дзяўчаты, ведама ж, праз нейкі тэрмін станавіліся іхнімі жонкамі. Адным словам, так у прыродзе было заведзена.

Сёстры таксама хадзілі на луг, дзе збіраліся іхнія сябры ды сяброўкі. Вакол іх вілося намнога болей хлопцаў, чым ля астатніх, бо, як мы ўжо казалі, былі яны дужа прыгожымі.

Аднаго разу прыйшоў на луг каваль, які жыў на хутары. Да паселішча яму было хадзіць далекавата, таму ён тут з'яўляўся рэдка, хутчэй людзі да яго ездзілі. Звалі яго Ракшам. Здаравенны, сапраўдны асілак, але нясмелы.

Дык вось прыйшоў ён, сеў і апынуўся плячо ў плячо з Расіцай. Тая заводзіла сваім звонкім голасам песню, астатнія падхоплівалі, і старадаўнія словы несліся несупыннымі птушкамі ў начную цішыню. Скончылі песню, азірнулася дзяўчына і ўбачыла побач з сабой Ракшу.

— Чаго ты маўчыш увесь час, Ракша?

— Спяваеш хараша, дык навошта перабіваць.

— А што ўжо там незвычайнага ў гэтай песні? Спявай, дый годзе, толькі каб словы ведаў.

— Ну не скажы. Калі б я завыў, то...

— Што атрымалася б? — ужо гарэзліва дапытвалася Расіца.

Каваль азірнуўся па баках, паглядзеў, каб ніхто не падслухаў, і адказаў:

— Мядзведзі з лесу паўцякалі б з перапуду, падумалі б, што гэта нехта з іхніх сваякоў раве-галосіць.

Дзяўчына смяялася так звонка і залівіста, што ўсе паглядзелі на яе, спрабуючы здагадацца, з чаго яна так заліваецца. Але тая не гаварыла, відаць, таксама добра разумела, што калі чалавек шчыра прызнаўся, то няма чаго пра гэта ўсім разносіць. Толькі млынароў сын, які ўвіваўся і нікога не падпускаў да Расіцы, нахмурыўся і стаў за спінаю ў каваля. Спачатку не асмельваўся зачапіць, але, заўважыўшы падміргванні некаторых хлопцаў, што, маўляў, не губляйся, мы паможам, з гонарам прамовіў:

— Нешта тут дымам засмярдзела...

Ніхто не звярнуў увагі на гэтыя словы. Тады боўдзіла не знайшоў нічога лепшага, як паўтарыць:

— Дымам смярдзіць...

На гэты раз яму адказалі, і даволі хутка. Праўда, не каваль, як ён спадзяваўся, а Расіца.

— Ты нос па ветры не трымай, завярні яго крыху ўбок, вунь ён які ў цябе здаравенны.

Выбухнуў магутны рогат.

Разгублены кавалер не ведаў, як яму быць далей. Круціўся, азіраўся, шукаў спагады і... знайшоў яе толькі ў вачах двух сябрукоў, якія хадзілі за Бярозкай ды Ліпкай. Праз колькі імгненняў багаты хлапчына ўзяўся за сваё:

— Чаго ты тут расселся?

Але Ракша не адказваў.

— Чаго сядзіш тут?

Запанавала цішыня, бо ўсе выразна бачылі, што неўзабаве распачнецца бойка. Тыя, хто гэтага баяўся, падаліся ўбок, астатнія засталіся і сцішана назіралі за тым, што ж будзе далей. Толькі каваль і на гэтае запытанне нічога не прамовіў, спакойна пазіраў на Расіцу і нечаму задуменна пасміхаўся. Дзяўчына таксама смяялася, нібы адчувала, што Ракша проста так не дасца ў рукі.

— Чаго ты маўчыш? Я ж да цябе звяртаюся! — не адставаў малады млынар.

Ракша маўчаў, але не вытрымала Расіца:

— Чаго ты сляпіцай у вочы лезеш? Цябе чалавек не чапае, а ты да яго чапляешся. Адыдзі.

— А я не да цябе звяртаюся, а да гэтага маўклівага цурбалка звяртаюся, хачу, каб ён мне...

Надта ўжо расхрабрыўся нахабнік, але таго, што адбылося далей, ён не прадугледзеў. А далей усё адбылося неяк вельмі імкліва. Ракша раптоўна павярнуўся і сам запытаў:

— Са мною, відаць, пасядзець хочаш?..

Млынар з раскрытым ротам стаяў і толькі зяўкаў, а кавалёвы рукі абцугамі сціснулі тоўстае цела і гопнулі яго побач з сабой, праўда, з другога пляча, не з таго, дзе сядзела Расіца. Гопнулі так, што ляснулі зубы і кавалер ледзьве не заскавытаў ад болю.

— Дык што ж ты маўчыш? То такім галасістым ды гаваркім быў, а тут абмяк нечага...

— І паветра зноў засмярдзела, — дадаў нехта.

— Ага, — пагадзіўся Ракша, — толькі не дымам...

І гэтая абраза не дапамагла. Млынароў сын нібы скамянеў, усё імкнуўся нешта сказаць, але з шырока раскрытага рота неслася нешта невыразнае.

Зноў усе зарагаталі, а калі смех сцішыўся, то пачуўся голас Ракшы:

— Няхай тады бяжыць ды другога якога маўклівага цурбалка знойдзе. Яму ж з намі нецікава.

— І то праўда.

— Пабяжыш? — нахіліўся каваль да млынаровага плечука.

Галава неяк міжволі хіснулася, нібы сцвярджальна адказала.

— То я цябе гэтак проста не адпушчу, крыху падмагну... — прамовіў Ракша і прыўзняў млынара. Той і абмяк. Але каваль не звяртаў на гэта ўвагі:

— Прабач, братка, а цябе крыху перагну, каб больш зручна было хуткасць набіраць...

Пасля гэтых слоў ён паставіў млынара ракам, потым маланкаю мільгануў здаравенны бот Ракшы, і млынар паляцеў потырч прама ў густое кустоўе. Доўга яшчэ адтуль чуўся трэск, нейкае невыразнае скавытанне, а можа, і прыгалошванне.

Дамоў у гэты вечар Расіцу праводзіў Ракша. Ішоў поруч з прыгажуняй высачэнны, здаравенны, але... маў-

клівы. Тая ні хвілінкі не маўчала, і было добра відаць, што яна задаволена тым, як усё склалася.

З таго вечара і пачалі яны сябраваць. Пакахаліся і ўжо не маглі дня адзін без аднаго пражыць. Сёстры, дык тыя даймалі сваю малодшую:

— Ты ж толькі не спяшайся, сястрычка.

— У чым гэта?

— Ды замуж выходзіць, а то нас, старэйшых, перагоніш, і тады нам круціцца давядзецца.

— Вы скажаце. Не будзеце і вы ў дзеўках сядзець. Хто б казаў...

Пасмяюцца так і зноў за працу. Бацька дык той душою адышоў, калі даведаўся, якія жаніхі да ягоных дачок ходзяць. Ужо і лёс свой не дакараў, бо ведаў, што такімі зяцямі ганарыцца неўзабаве будзе.

Млынароў сын разам з сябрукамі паспрабаваў было перастрэць Ракшу ў цёмнай мясціне, але з гэтага нічога добрага не атрымалася. Маецца на ўвазе для млынара. Пасля тае разборкі млынар некалькі тыдняў дома адлежваўся, на людзі не паказваўся і... адмовіўся ад думкі завалодаць сэрцам Расіцы, змірыўся з лёсам.

А Ракша сустракаўся з дзяўчынай амаль цэлы год, і ўжо дамовіліся, што восенню, калі адробяцца, каваль прышле сватоў у хату да бацькі Расіцы. Паціху і да вяселля рыхтаваліся, а потым гаспадар даведаўся, што і Бярозка з Ліпкай чакаюць сватоў, і таксама ў гэтую ж восень. Спачатку зніякавеў, як жа гэта адразу столькі ўсяго адсвяткаваць, потым паразважаў, махнуў рукою і задаволена вымавіў, звяртаючыся да жонкі:

— Неяк жа выцягнем... Адразу ўсё зробім і цяжар гэты з плячэй скінем. Затое зяцёў будзе...

— Во, і ты нарэшце задаволены ходзіш, а то ўсё маркоціўся ды перажываў. Я ж табе казала, што ўсё як мага лепей атрымаецца.

І што ж вы думаеце? Не атрымалася гэтак, як меркавалі. Зусім па-іншаму выйшла, але ў гэтым ніхто не быў вінаваты. Стыхія шчырых людзей пакарала. За што? То і зараз невядома...

Аднаго разу разыгралася вялікая навальніца. Білі перуны не шкадуючы, толькі зямля калацілася. А як перайшла хмара, дык прыбеглі людзі і закрычалі:

— Бядота здарылася! Бядота!

Расіца нібы адчувала — выскачыла першай з хаціны:

— Якая?

— Ракшу разам з кузняй маланка спаліла...

Як пачула такую навіну дзяўчына, дык пабегла да хутара. Спачатку не паверыла, але калі прыбегла і ўбачыла адны галавешкі, то зразумела, што праўду вяскоўцы сказалі. Села на камень і заплакала. Усю ноч сядзела, дамоў не ішла, а як прыйшлі па яе бацькі, дык на тым месцы нікога не было. Сталі ўглядацца і заўважылі расу на кустоўі і траве. З лістоў нібы слёзы сцякалі. Не вытрымала маці, загаласіла:

— А дачушачка ты наша, а родненькая ты наша...

Але як яна ні плакала, як ні стагнала, як ёй ні дапамагалі Бярозка з Ліпкай — усё было дарма.

Вось адкуль на зямлі раса з'явілася. Ад вернага кахання. А тое месца, дзе ўсё гэта адбылося, пазней людзі Расновымі Слёзкамі назвалі. Так, кажуць, доўга працягвалася, ды стагоддзяў колькі таму зноў перайначылі назву, тады ўжо сталі Расоны. Так і цяпер вядзецца.

## КРАСНАПОЛЛЕ

Наша вёска першапачаткова стаяла не на гэтым месцы, а крыху ўбаку. Так ужо здарылася, што пасля вялікага пажару ўсё паселішча перанеслі, а тыя папялішчы пасвяцілі святою вадою, каб болей такое ніколі не здарылася ні пры жыцці таго пакалення, ні пры жыцці іхніх нашчадкаў. І назва ў паселішча зусім не выпадковая, не радасная, калі так можна сказаць, бо за гэтай назвай хаваецца жудасная гісторыя.

Людзі тут жылі адвеку. Яны шчыра працавалі і гэтак жа шчыра адпачывалі. Спачатку, гаварылі, увогуле вольнымі былі, ніякага пана над сабою не мелі. Кожны вясковец быў сам сабе гаспадар. Зямлі араў ды засяваў гэтулькі, колькі сілы дазвалялі ды колькі мог сваёй сям'ёй прыбраць-уладкаваць, каб нішто дарма не прапала. Баяліся тагачасныя земляробы неахайнасцю і абыякавасцю гнеў боскі на сябе наклікаць.

Ды неяк так адбылося, што пачалі паны рассяляцца па зямлі. І ў нашай мясціне памешчык у хуткім часе з'явіўся. Нічым асаблівым спачатку не вылучаўся. Жыў гэтаксама, як і астатнія. Вось толькі працаваць не надта любіў, а ўсё найболей на іншых пакрыкваў.

Ягоныя дзеці прыціскаць вяскоўцаў пачалі і так закруцілі, што сяляне ажно ўзвылі:

— Як жа нам далей жыць?
— А як хочаце, так сабе і жывіце.
— А як жа дзяцей карміць?
— Вы іх напладзілі, вы з імі і разбірайцеся. А калі што не падабаецца, то ідзіце адсюль у любым накірунку.
— А куды ж нам ісці? Пашкадуйце нас, пан, не прымушайце толькі на сябе працаваць, дайце магчымасць нам і ўласную зямлю абрабляць.
Неяк памешчыкі тыя прыгнятаць прыгняталі, але саступалі вяскоўцам, бо разумелі, што чым спраўней будуць жыць сяляне, тым болей можна будзе з іх выціснуць. А што з галаты возьмеш?
Пад старасць паны часцей за ўсё перайначваліся, рабіліся больш спагадлівымі і памяркоўнымі, і тады ўжо людзі на іх і слова крыўднага не гаварылі, не хацелі крывіць душою. Так і вялося са стагоддзя ў стагоддзе. Мяняліся пакаленні, але парадкі заставаліся, ніхто не імкнуўся іх мяняць, бо ўсіх яны больш-менш задавальнялі.
Але не магло ж так быць у прыродзе, каб увесь час спакойнае жыццё плыло, нешта павінна было перамяніцца. І перамянілася.
У аднаго пана нарадзілася дачка. З маленства нічым асаблівым не вылучалася, а вось калі падрасла, то такое пачала вырабляць, што матулі сталі сваіх дзяцей ёю палохаць. Усе парадкі, якія да яе існавалі, гэтая Франя (так тую паненку звалі) адмяніла і свае ўвяла. Цяпер ужо вяскоўцы павінны былі працаваць на памешчыцу не толькі ў будныя дні, але і ў святую нядзельку, не толькі ўдзень, але і ўначы. Паспрабавалі было паўшчуваць пані:
— Нельга ж так... Мы ж таксама людзі...
— Вы — людзі?! Упершыню такое чую!
— Мы ж свайго поля не паспяваем апрацаваць. Як нам далей жыць?
— Як хочаце, так і жывіце, мяне гэта не займае.
— Дык мы ж, як тыя мухі, памром усе.
— Памірайце, я сабе новых сялян прыганю.
Пагаманілі яшчэ колькі хвілін вяскоўцы, спадзяваліся, што гаспадыня ў нечым саступіць, а яна зараўла:
— Гайдукі! Дзе вы там, валацугі чортавы! Вечна вас няма! Толькі хлеб мой, гультаі, пераводзіце!
Уляцелі тыя, нібы раз'юшаныя сабакі.
— Слухаем, пані!
— Усыпце гэтым хадакам, каб яны болей мяне не турбавалі, ведалі сваё месца!

— Будзе зроблена!

І як далі! Уцякалі людзі як мага далей ад панскага дома, але з парадкамі змірыліся.

Толькі памешчыца не супакоілася, прыдумвала ўсё новыя і новыя здзекі і катаванні. Аднаго разу вёска жахнулася, людзі не маглі дацяміць, як жа такое можа быць? А здарылася вось што. Пані загадала, каб яе маленькіх сабачанят карміла жанчына, якая толькі што нарадзіла сама двойню.

Пачала прасіцца небарака:

— Пані, нельга мне, бо мае ж дзеткі памруць... У мяне малака не хопіць і туды і сюды...

— Маўчы!

— Пані, родненькая, пашкадуй, не прымушай рабіць гэта!

Тады клікнула гаспадыня верных гайдукоў, і яны так спаласавалі бедную жанчыну, што тая і не ўзнялася. Выкінулі яе за дзверы да сабачанят і там пакінулі. Пакуль бедалага апрытомнела, пакуль ачомалася, то ці ж мала часу прайшло. За гэты час адно з яе немаўлят памерла, а другое сканала на руках у гаротнай жанчыны. Не вытрымала яна такога гора — павесілася на старой бярэзіне.

Памешчыца нават не дазволіла яе мужу зняць адразу памерлую:

— Няхай павісіць! Каб усе бачылі, што чакае таго, хто аслухаецца маіх загадаў! Няхай вісіць!

— Пані...

— Я ўсё сказала.

— Але ж у нас, пані, і старэйшая дзяўчынка ёсць. Яна ж бачыць, што яе маці ў вяроўцы хістаецца...

— Няхай вучыцца і не прызвычайваецца аслухвацца!

— Ой, Божачка, ды ці ж можна так?

— Мне ўсё можна!

— Дазвольце хоць на могілкі занесці ды там пахаваць. Навошта з мёртвых здзекавацца? — не вытрымаў селянін.

Сказаў так і адразу зразумеў, што не даруе яму Франя. І яна, ваўкарэзіна, загадала. Але што?!

— Слугі мае верныя! Загадваю раскарчаваць і выраўняць могілкі, а на зямлі той жыта пасеяць. Ды не самі гэта рабіце, а няхай мужыкі з жонкамі ўсё выконваюць, а вы толькі за працай сачыце!

Так яны і зрабілі. Цэлы тыдзень працавалі людзі, раўнуючы месца пахавання ці аднаго пакалення продкаў. Слязьмі горкімі абліваліся, прабачэння прасілі, малітвы

да неба накіроўвалі, каб дараваўся ім грэх гэткі. Нарэшце ўсё раскарчавалі, выраўнялі, узаралі і жыта пасеялі. Прыехала памешчыца, зірнула і сказала:

— Жыта павінна добрае вырасці... Зямля свежая...

Разышліся людзі і сталі чакаць кары нябеснай, бо былі пераканаman, што гэтага ім продкі не даруюць. Пра пані ўжо і гаворка не ўзнікала. Але час ішоў, а ўсё заставалася спакойна. Зусім зніякавелі сяляне. Зіма прайшла, за ёю вясна, жыта трэба было ісці жаць. А яно вырасла высокае, густое, буйное. Пані нарадавацца не магла.

Нарэшце прыспеў час жніва. Памешчыца сама кінулася зажынаць. Але толькі ўхапіла каласы ў руку, як тут жа і ўпала. Сэрца яе не вытрымала — захлынулася ад злосці.

Некалькі дзён запар дзьмула віхура, стагнала зямля. Сяляне баяліся вылазіць з хацін, бо думалі, што і іх неба пакарае. Ды абышлося.

Тое поле вяскоўцы празвалі красным, бо яно было ўзарана на крыві і касцях продкаў. З цягам часу людзі, якія ўжо не ведалі, што там даўней было, сталі на ім будаваць хаціны, але назва засталася і да нашых дзён — Краснаполле.

## МУРАГІ

Жыў-быў гаспадар, і было ў яго трое сыноў: Сцяпан, Іван ды Пятро. Здаровыя хлопцы, працавітыя, а бацьку свайго шанавалі, то нібы нейкае дзіця малое. Не давалі яму ўжо нічога рабіць, самі ўсё перахопвалі. Гаспадар злаваўся часам:

— Што ж гэта вы, хлопчыкі, на мяне так глядзіце, нібыта я ўжо глыбокі стары?

— Ды не, тата, мы так нават і не думаем, але ты столькі сілы ды здароўя патраціў, каб нас выхадзіць, што зараз адпачывай.

Задумаецца бацька пасля такіх слоў і ледзьве не заплача, бо прыгадае сваё жыццё. Ажаніўся з жонкай. Харошая яна была, ласкавая, добрая, спагадлівая, ніколі голасу не ўзвысіла, ніколі не паскардзілася, што стамілася. Траіх сыноў, аднаго за другім, нарадзіла. Ды трэба ж было, відаць, такому здарыцца.

Пайшла яна жыта жаць, а муж нешта на падворку неадкладнае рабіў. Дзеці ля яго корпаліся. Гаспадар яшчэ і наказаў жанчыне:

— Ты ж, родненькая, там доўга не затрымлівайся. Заўтра ўсе разам паедзем, ты не рвіся. Адна ўсё роўна так многа не зробіш, як удваіх.

Каб жа ведаў, што благое здарыцца, дык абавязкова пабег бы следам, а то ж...

Жанчына зайшла на сваю ніўку і ўзялася шчыраваць. Хацелася ж болей зрабіць, каб заўтра муж здзівіўся, колькі многа яна адна зрабіла. Нават не адпачывала да самага полудня, спынілася на пару хвілін, каб вадзіцы папіць. Затое калі прысела перакусіць, то здалося ёй, што ўпадзе ад стомы. Такое і раней не раз здаралася, але пасядзіш, перакусіш, а потым зноў працуеш. Так і тут яна зрабіла. Паела, але стома не пакідала, навалілася на галаву, устаць не дае, нібы прымушае паспаць прылегчы. І ўсё ж жнейка не паддалася, падхапілася, вырашыла пахадзіць туды-сюды і так санлівасць развеяць.

Пайшла да кустоўя, вярнулася назад, пакіравала на другі бок ніўкі і толькі дайшла да канца жытнёвага поля, як прама на яе вылецела пара здаравенных ваўкоў. Такіх вялізных, ашчэраных, што ў беднай жнейкі ажно сэрца залякацела. Яна як стаяла, так і села на месцы. Звяры падляцелі да яе і... Жанчына заплюшчыла вочы і застыла, нават рукі не ўздымаліся бараніцца. Ваўкі прыпыніліся, пачмыхалі разгарачана і паджгалі далей.

Болей у той дзень яна не працавала. Нешта нібы абарвалася ў сярэдзіне, ледзьве дабралася да дамоўкі.

Муж як убачыў яе, дык адразу зразумеў, што нешта здарылася, і прымусіў жонку расказаць. Калі пачуў, то спалохаўся яшчэ болей:

— Каб хоць зляк чорны на цябе не напаў. Божачка, што ж мы тады рабіць будзем? Пабягу зараз якога чалавека знайду, каб замовы над табой пашаптаў.

— Але, здаецца, усё добра...

— Глядзі, а то збегаю...

— Не трэба. Пасплю, да раніцы ўсё само і пройдзе.

— Каб жа так...

— Вячэраць не буду, не хочацца нешта, пайду лягу.

Зайшла жанчына ў хаціну і павалілася на палок. Дзеці прыціхлі адразу, бо ўбачылі, што матулі дрэнна.

Палеглі ўсе спаць, а раніцай прачнуўся гаспадар і да жонкі:

— Ну як?

А тая не адказвае. Ды і не магла адказаць, бо трызніла. Пабег тады чалавек да старых людзей, каб замовы па-

шапталі. Прыйшлі яны, паселі і сталі глядзець на хворую. Маўчалі, пакутліва цягнуўся час, а яны ўсё не пачыналі шаптаць. Гаспадар ужо месца сабе не знаходзіў. Нарэшце самы стары, можа стогадовы, дзядулька прамовіў:

— Не дапаможам мы тут, чалавеча.

— Чаму?

— Яна моцна напалохалася.

— Але ж вы пашапчыце.

— Шэпты нашыя не возьмуць таго чорнага спалоху. Зразумей нас правільна, гаспадар, мы не адмаўляемся, мы адразу цябе папярэджваем, што калі і станем шаптаць, то нічога не пераменіцца.

— А можа?..

— Не, родненькі, яна доўга не працягне. Стане сохнуць, як тое дрэва, што карані пабітыя ды паабсяканыя. Здаецца, і зелянее, а яно ўжо і не жыве. Трывай, чалавеча.

— Я-то не сагнуся, але ж трое дзяцей застаецца... Трое сыночкаў...

— Вось і будзеш ім і за бацьку, і за маці. Цяжка, ведама ж, але мацуйся. Нічым мы табе не дапаможам, таму лепей пойдзем. Прабач, што так атрымалася.

І сапраўды, жанчына пражыла ўсяго недзе каля месяца і памерла. Пахавалі яе, і застаўся гаспадар адзін з трыма малымі дзецьмі. Ён іх узняў, выгадаваў, паставіў на ногі. Сам, адзін, бо другі раз так і не ажаніўся.

А сыны выраслі на зайздрасць.

— Вось гаспадары, дык гаспадары, — гаманілі вяскоўцы. — Пашанцуе некаму з зяцямі...

Ішлі гады, гаспадар старэў, ■ сыны сталелі. Сабраў ён іх неяк надвячоркам дый распачаў размову:

— Што ж, хлопчыкі, давайце ўсё паладкуем...

— А хіба ж у нас, тата, непарадак недзе?

— Не, усё добра.

— То чаго ж...

— У іншым парадак трэба навесці. Зямлю паміж вамі хачу падзяліць, лес, сенакос, каб потым не спрачаліся. Табе, Сцяпан, як самаму старэйшаму, ніву вышэйшую аддаю. Табе, Іван, як серадольшаму, — каля лесу. А табе, Пятро, як самаму малодшаму, — мурагі, тыя, што ля ніжэйшай нівы.

Пакланіліся сыны, шчыра падзякавалі бацьку, на тым гаворка і скончылася.

Калі бацька памёр, то яны сталі асобнымі сем'ямі жыць, і там, дзе Пятро асеў, пазней паселішча ўзнікла, а назвалі яго тым прыгожым словам — Мурагі.

## НОВАЯ (Папова Лука)

Некалі тут у нас царква была. Вялікая, прыгожая, да яе мноства народу збіралася, а як якое свята — то і не прайсці і не праехаць, гэтулькі ўжо набівалася. Бацюшка быў нейкі недалужны: то нешта згубіць, то забудзе замкнуць, і зладзеі пакрадуць, а то што-небудзь сцягнуць, а на яго выдумаюць. Людзі не асмельваліся дапытвацца, ды ці можна ў боскага служкі ўсялякія падрабязнасці выпытваць? Усім пападдзя запраўляла. Яна не саромелася, магла пры людзях бацюшку адчытаць, а то і за доўгія валасы пацягаць, калі што не па яе атрымлівалася. І не звяртала ўвагі — святочны быў дзень ці будзённы. Неяк нават на ўсяночнай перад Вялікаднем счапіліся. Народ рагатаў, канешне. Ды і што ён мог зрабіць?

І ўсё ж паплаціўся бацюшка за сваю неахайнасць. Здарылася ўсё наступным чынам.

Аднаго разу бацюшка нечага запозніўся ля царквы, усё тупаў ды тупаў. Можа, баяўся ісці зараней дамоў, каб лішні раз не трапляцца на вочы жонцы, а можа, яшчэ па нейкай нагодзе. І тут падляцела прыгожая карэта, запрэжаная чацверыком, і з яе выскачылі хлопцы.

— Хто вы такія? — запытаўся бацюшка.

— Не бойся, не госці, — са смехам адказалі тыя і павалаклі папа ў карэту.

Потым двое выскачылі зноў, пабралі з царквы ўсё самае каштоўнае, паселі і паехалі. Поп спачатку сядзеў ціха, а потым пачаў патрабаваць, каб яго выпусцілі. У адказ адзін з хлопцаў так рэзнуў яму кулаком у лоб, што ў бацюшкі ажно знічкі ў вачах засвяціліся, і ўсю дарогу потым ён з усім згаджаўся і паўтараў адно толькі слова: «Добра».

Вось едуць яны, і рабаўнікі пачалі бацюшку падвучаць:

— Значыцца, так. Заедзем у краму і возьмем там усе тавары, а ты паводзь сябе добра, не ўздумай крычаць ці на дапамогу каго клікаць, іначай...

— Добра.

— Вось і малайчына. Будзеш ва ўсім слухацца, дык дамоў цэлага і здаровага адпусцім.

— Добра.

Прыехалі яны да крамы і сталі самыя дарагія тавары браць. Гаспадар глядзеў, глядзеў, а потым і запытаўся:

— Хлопцы, браць берацe, а хто плаціць будзе?
— Ды вунь ён і заплаціць, — і паказваюць на бацюшку.
Тады гаспадар кінуўся да папа:
— Гэта праўда?
— Добра.
— Але ж яны на многа грошай тавараў набіраюць.
— Добра.
— І за ўсё чыста заплаціце?
— Добра.
— Тады няхай усё да драбніцы забіраюць.
Тыя хлопцы ўсё выбралі, сабраліся, паселі сабе спакойненька і паехалі, а бацюшка застаўся з гаспадаром.
Сядзяць на парозе. Гандляр не ўтрымаўся і зноў пытаецца:
— Дык вы будзеце плаціць?
— Добра.
Чакаў, чакаў гандляр, калі ж бацюшка заплаціць, а тым часам і сонца пачало садзіцца. Трэба было дамоў збірацца, зачыняць усё на ноч, хоць у краме амаль нічога і не засталося. Не вытрымаў гаспадар, ухапіў бацюшку за грудкі:
— Грошы аддавай!
А той у адказ:
— А дзе ж табе іх вазьму?!
Як вызверыўся тут гандляр, як урэзаў папу між вачэй ды як напусціў на яго сабак, то той, небарака, ледзьве адбіўся. Уцякаў куды вочы глядзелі. Убіўся ў глухую мясціну і там, пабудаваўшы сабе нейкую зямлянку, стаў жыць. Людзі тое месца назвалі пазней Паповай Лукой, ды так і замацавалася назва. Потым, у 1938 годзе, перайначылі ў Новую.

## ПЕРАМОГА (Мыцькава)

Ехаў адзін чалавек густым лесам дамоў. Справа ўжо пад вечар позні рухалася, таму яму было крыху страшнавата. Каб смялей і весялей было, вырашыў песні пець. Разы са тры ікнуў са страху, а потым і завыў:

Едзь, едзь, Ванечка,
Бо ў цябе конік чужы, не свой,
Начавацьмеш гэтую ночку ў дарозе,
Прывязаўшы коніка к бярозе...

Перапыніўся, прыслухаўся, ці не тупае хто паблізу, і далей заспяваў:

Бяроза ж ты мая белая,
Галоўка ж ты мая бедная,
Хто ж майго коніка напасе,
Да новай стаенькі завядзе...

Вечаровае рэха патройвала сілу голасу, і песня неслася да самых аблокаў, якія ўсё ніжэй апускаліся да зямлі.

Звалі таго чалавека Міцька, але дражнілі крыху інача — Мыцька, ад таго, што сам селянін няправільна вымаўляў сваё імя.

Так бавіў дарогу селянін, і тут заўважыў нейкага чалавека, які таропка даганяў ягоны воз.

— Трр, ваўкарэзіна! Стой, воўчае мяса! Ляціш, нібы за табой сотня ваўкоў гоніцца!

Міцька стараўся крычаць у поўны голас, каб той чалавек зразумеў, што ён нічога не баіцца. Незнаёмец падбег і запрасіўся:

— Гаспадар, ці не возьмеш да сябе на воз? Стаміўся я сёння, гэтыя вёрсты мераючы. Столькі ад самае раніцы прайшоў, сілы ў нагах не засталося, падкошваюцца.

— Ведама што, чалавеча, сядай. Месца хопіць, і конік мой ад гэтага выжыльвацца не будзе.

— Вось дзякуй, — прамовіў незнаёмец і ўваліўся ў воз.

— Адкуль жа ты, чалавеча, дарогу топчаш?

— Сёння, можа, вёрст з трыццаць адмераў. Адкуль? Калі скажу, то вы не паверыце, што я ад тае вёскі свой шлях пачынаў.

— І ўсё ж скажыце.

— Незнаёмец назваў вёску. Міцька і сапраўды пра такую вёску не чуў, але вырашыў не паказваць гэтага:

— Чаму ж не, памятаю. Некалі ў дзяцінстве з нябожчыкам-бацькам там быў. Даўнавата, праўда, у памяці ўсё сцерлася. Але адзін раз быў дакладна, бо назва дужа знаёмая.

— Давялося, значыцца, і вам падарожнічаць многа? А я таму і стаміўся сёння, што хацеў як мага болей прайсці. Заўтра ад самае раніцы зноў у дарогу. Толькі пераначаваць бы дзе — і далей...

— А чаго ўжо так спяшацца?

— Ды справа прыспешвае.

Памаўчалі крыху, потым Міцька пачаў дапытвацца:

— Як жа вас завуць? Апрануты вы, як заможны пан, а пехам ідзяце.

— Так ужо атрымалася.

— Гаварыць не хочаце? Ваша справа, калі так.

Той паніч круціўся, круціўся пад бокам і не вытрымаў:

— Скажу я табе, чалавеча. Толькі ты нікому гэтага не гавары. Згода?

— Згода. На мяне ў гэтым плане можаце смела разлічваць.

Незнаёмец азірнуўся, хоць навокал было зусім цёмна, потым нахіліўся да селяніна і выразна прашаптаў:

— Я пошасць.

— Ды ну? Не, не веру.

— Чаму гэта?

— Бо ўсялякая пошасць ці паморак жаночы выгляд мае. А перада мною паніч. У нас адна старая бабулька на ўласныя вочы бачыла, як паморак людзей касіў. Дык вось яна казала, што гэта была непрыгожая, жудасная на выгляд жанчына. А тут...

— Як сабе хочаш, гаспадар, але я чыстую праўду гавару.

— Жартуеш ты, паніч, за дурня мяне лічыш, ды дарма.

— Ну то і не будзем болей пра гэта. Слухай, а ты не падкажаш, у каго ў вас пераначаваць можна?

— Гэта справа простая. Можаш і ў мяне, месца ўсім хапае.

— Вось дзякуй табе, чалавеча. А табе пару залатовак за гэта дам.

— Ды што ўжо там...

Міцька сказаць сказаў, але калі пра залатоўкі пачуў, дык адразу скеміў, што не абы-каго вязе, а багатага чалавека.

Прыехаў Міцька дамоў з нечаканым госцем, перакусілі, і адвёў гаспадар паніча спаць у хлеў, на свежае, духмянае сена. Даў чым накрыцца і сказаў, каб той з раніцы адыходзіць не спяшаўся, а завітаў у хату і паснедаў з гаспадарамі.

Сам вярнуўся ў хату і распавёў жонцы пра ўсё. Тая адразу пачала жагнацца:

— Вечна ты каго-небудзь на нашу галаву прысунеш. Трэба была табе зараз гэтая пошасць. Навошта ты яе прывалок?

— Ды я... То што ж рабіць?
— Не ведаю.
— Але ж гэтая пошасць багатая.
— На самай справе? Тады... Вазьмі сякеру і...
— А потым?
— Потым табе за тое, што ты пошасць са свету белага звёў, людзі будуць кланяцца ды дзякуй казаць. Грошы, каштоўнасці забяры сабе, ■ труп на месцы пакінь. Потым я сама ўсё зраблю, калі ты баішся.

Узяў Міцька сякеру і, забраўшыся ціхенька ў хлеў, забіў там таго паніча, які сябе выдаваў за пошасць. Грошы ўсе павыбіраў у шапку, ■ калі тая напоўнілася, то за пазуху і ў кішэні. Прынёс у хаціну, і жонка ўсё забрала і захавала. Як толькі развіднела, гаспадыня паджгала па вёсцы і давай усім гаварыць:

— Мой Міцька сёння ноччу пошасць засек.
— Праўда?
— Ідзіце да нас у хлеў ды паглядзіце.

Пайшлі людзі глядзець, а там не пошасць, а паніч багаты ляжыць. Нехта здагадаўся і пазваў стражнікаў.

Прыехалі тыя, паглядзелі на забітага і кажуць:

— Ды гэта не пошасць, гэта — вядомы злодзей, якога мы даўно шукалі. Дзякуй табе, чалавеча, што ты яго пакараў.

Так і стаў Міцька багатым селянінам. Зямлі прыкупіў, на хутар перабраўся. Потым там паселішча ўтварылася, і назвалі яго Міцькава, але, пасмейваючыся, суседзі пастаянна павучалі:

— Не Міцькава, а Мыцькава.

Так і павялося з таго даўняга часу. Пазней перайменавалі, і стала Перамога.

## ЧЫРВОНАЕ ЗНАМЯ (Куляшова)

Жыў некалі ў нас вельмі хітры селянін. Такі ўжо кемлівы быў, што збярыце вы ўсю вёску разам, а ён усіх абдурыць ды яшчэ потым і пасмейвацца будзе:

— Ну што, злавілі ката за хваста, ■ коніка за рогі?
— Якія ж у каня рогі?
— А якія вы мне сапернікі?

Маўчалі сяляне, не адказвалі на такі здзек, бо што ж ты зробіш, калі не дадумаліся, як Куляша (так звалі таго хітруна) перамагчы.

Праўда, трэба адзначыць, што вясковец не надта да простых людзей вязаўся. Пасмяецца крыху і тут жа робіць выгляд, быццам бы нічога на самай справе і не здарылася, быццам бы ён такога і не памятае, а калі нехта напомніць, то Кулеш зморшчыць нос і прагугнявіць:

— Каб жа я ўсё памятаў... Не, такога не было...

Потым нечага перастаў быў вясковец жартаваць, усё хадзіў хмурны, не адказваў на кепікі. Занепакоіліся сяляне:

— Што гэта з ім? Ці не захварэў незнарок чалавек?

— Каб даведаліся, дык, можа, чым і дапамаглі б...

— Але ж ці падыдзеш да яго...

— А чаму і не. Давайце ўсе і паспрабуем.

Зайшлі на падворак да Куляша і пачалі распытваць у гаспадара, што здарылася, што ён гэтакі невясёлы пастаянна ходзіць? Можа, чым дапамагчы трэба?

Селянін ажно праслязіўся:

— Людцы мае добрыя, даруйце мне, што некалі з вас жартаваў. Колькі жыць буду, больш так не зраблю. Я з вас смяяўся, а вы да мяне з дапамогай прыйшлі...

— Чаго ты, чалавеча? Хіба мы не разумелі, што ты гэта робіш без злосці, проста каб пасмяяцца ды каб нас павесяліць. Што рабіць, калі і на самай справе так было? А раз высмееш, другі, дык і за галаву некаторыя пачалі брацца, думаць-разважаць. Многае і нам гэта дало. Таму ніякай крыўды за тое на цябе не трымаем, не турбуйся. А дапамагаць табе бяромся ад шчырага сэрца. Раскажы толькі, што ў цябе здарылася?

— Што здарылася? Пан з зямлі зганяе.

— Вось табе і маеш... Не надта вясёлыя справы. Паспрабуй тут выкруціцца.

— Але ж выкруціцца трэба, — рашуча адрэзаў стары дзед, які таксама прывалокся з маладзейшымі, — бо калі нічога не прыдумаем, то памешчык наздзекуецца з чалавека. Тут ужо не да жартаў будзе.

— А з-за чаго ён да цябе чапляецца?

— Ды нехта данёс пану, што я з ягонай сям'і жартаваў. Вось і атрымалася, што даскакаўся я з-за свайго языка.

— Нехта і цябе, выходзіць, добра падкусіў.

— Ды яшчэ як.

Доўга сядзелі і думалі вяскоўцы. І так прыкідвалі, і так бралі — нічога прыдумаць не маглі. Ажно і тут той самы стары дзед ляпнуў свой саламяны капялюш аб зям-

лю і, тупнуўшы нагою, сказаў:

— Ты, Кулеш, пастаянна з нас жартаваў, а на гэты раз ты над панам пацешышся, — і распавёў, што ён прыдумаў.

Доўга рагаталі вяскоўцы, але нічога не гаварылі, баяліся, каб зноў хто не падслухаў ды памешчыку іхнюю таямніцу не раскрыў.

З самае раніцы паджгаў Кулеш у двор да пана. Яшчэ сонца толькі абудзілася і лянотна выпаўзала з-за старога, густога лесу. Пастаяў чалавек, пакруціўся — пан яшчэ спаў. Не станеш жа проста так турбаваць гаспадара. Крыху адышоўся, прысеў на камень, закурыў сваю люлечку і стаў чакаць, калі нехта з панскай сям'і на падворак выгляне. Вяскоўцу пашанцавала. Недзе, можа, праз гадзіну сам гаспадар, выставіўшы вялізнае чэрава, выпаўз на ганак і стаў, соладка прыжмурваючы свае свіныя вочкі.

Убачыў памешчыка Кулеш і што было сілы засучыў прама да падворка. Потым перапыніўся і пайшоў ужо спакойненька. Заўважыў вялізную пярэстую свінню, якая з дзесяткам парасят рохкала ў вялікай, смярдзючай лужыне, і... зняў шапку ды давай ёй нізка-нізка кланяцца. Жывёліна, ведама, не звяртала ўвагі на тое, што ёй аказвалі гэткі вялікі гонар, па-ранейшаму нешта шукала ў чорнай, густой твані і, знайшоўшы, узвышала голас, відаць, клікала парасят.

— Што гэта ты, дурань, робіш? — данеслася здзіўленае з ганка.

— Як што, паночку?

— Я ў цябе запытаўся, і адказвай.

— І адкажу, бо тут нічога мудрага няма. Гэта ж ваша свіння даводзіцца роднай цёткай маёй свінні.

— Ну і...

— Усіх родных трэба паважаць.

— І свінню?

— І свінню.

— Дык ты прыйшоў на падворак, каб маёй свінні пакланіцца?

— Не толькі для гэтага, яшчэ прычына ёсць...

— Можа, мне грошы за зямлю прынёс?

— Пакуль што не, але мяркую праз пару дзён прынесці.

— Дык чаго ж ты прыпёрся?

— Мая свіння сваю дачку замуж аддае, дык я прыйшоў яе цётку на вяселле паклікаць.

— І як жа гэта свінню да цябе загнаць на тое вяселле?

— Вельмі проста — звязаць ды ўкінуць на воз. Але ж я хачу яшчэ папрасіць... каб і дзетак яе прывезлі, няхай і яны там паласуюцца...

— А іх як?

— Яшчэ прасцей — у мяшок, і ўся справа.

— Але хто ж павязе?

— Я і сам магу. Толькі загадайце, каб пагрузілі свінню з парасятамі на воз.

Усё так зрабілі, як Кулеш прасіў, і паехаў ён дамоў. Едзе і па дарозе спявае-крычыць:

— Усё Куляшова! Усё Куляшова!

Людзі да яго, [redacted] ён:

— Прадаю парасятак! Прадаю парасятак!

Паглядзелі сяляне, што парасяты спраўныя, і за пару гадзін раскупілі, [redacted] свінню гаспадар дамоў завёз. Памешчык не вытрымаў да вечара, пасядзеў на двары ў сябе, а потым загадаў фурману везці да Куляша. Прыехалі, а той сядзіць сабе спакойненька і люльку пакурвае.

— Дзе мая свіння?

— Якая?

— Ты што, дурны?

— Ага.

— Дзе свіння?

— У мяне толькі свая. Тут усё Куляшова.

Убачыў пан, што нічога не атрымаецца, і паехаў назад. А хітры мужык прыкупіў зямлі і яшчэ грошай суседзям пазычыў. Вёску назвалі Куляшова, у гонар таго хітрага чалавека, які гэтак добра выкруціўся з цяжкага становішча. Пазней перайменавалі ў Чырвонае Знамя.



# СЯННО

Гэта было ў тыя часы, калі татары крымскія напалі на нашу зямлю.

У аднаго беларускага князя, землі якога ляжалі якраз на месцы сучаснай Сенненшчыны, была прыгажуня жонка, і звалі яе Мар'я. Такая ўжо прыгожая нарадзілася, што і да гэтых дзён народ пра яе песні спявае. Вернай заставалася свайму князю Івану да апошняй хвіліны, нават перад смерцю не пабаялася адказаць татарскаму хану і сцвердзіць, што ва ўсім белым свеце кахае аднаго мужа. Але паслухайце пра ўсё па парадку.

Напалі татары на наш край, а бараніць яго не было каму ў той момант, бо мясцовага валадара не было ў замку. Дзе ён быў са сваёй дружынай, пра гэта народныя дарадцы нічога не даносяць. Вядома дакладна толькі адно: у замку заставалася толькі Мар'я з маленькай дачушкай і крыху большым сынком.

Калі разведчыкі паведамілі хану, што князя Івана няма дома, ён ажно языком зацмокаў ад задавальнення, але загадаў свайму мурзе яшчэ раз праверыць:

— Сам павядзеш невялікі атрад вояў. Праверыш на месцы, ці няма засады. Калі што, адразу ж вяртайся, а калі ніякіх ваякаў там не будзе, то заставайся, а да мяне прышлі толькі пару вершнікаў, каб паведамілі, што шлях вольны.

— Зараз адпраўляцца?

— Не спяшайся. Я хачу яшчэ нешта табе сказаць, але каб астатнія не чулі. — І ўжо цішэй дадаў: — Галоўнае — даведайся, ці ў замку князёўна Мар'я. Кажу толькі табе, бо давяраю.

Мурза як стаяў, так і гопнуўся перад ханам на калені:

— Усё зраблю...

— Ты пастараешся, і я цябе аддзячу. Атрымаеш большую частку палону і каштоўнасцей. А зараз не спяшайся, адпачні добра. Людзей вазьмі не болей сотні, але адбяры самых верных. Увечары зайдзі да мяне, тады і дагаворым.

Мурза на сваіх скрыўленых ад пастаяннага знаходжання ў сядле нагах пачыкільгаў да войска.

Вечарам, калі зоркі пачалі запальвацца на небе, да хана правялі мурзу.

— Гатовы?

— Так, ясналікі.

— Людзей адабраў?

— Роўна сотню. У ёй мае родныя браты ды тыя вершнікі, якіх я ведаю з дзяцінства.

— Разумна зрабіў. Калі надарыцца магчымасць, то паспрабуй захапіць замак, адбівацца ж не будзе каму. Запомні, мяне найперш цікавіць князёўна. Калі што з ёй здарыцца, то лепей вам назад не вяртацца. Палон можаш браць любы, рабаваць — таксама, усё гэта застанецца вам, але князёўну адправіш у наш лагер. А зараз час выступаць.

Сотня нячутна выехала з лагера. Хітрыя татары яшчэ ад таго часу, як ступілі на чужую тэрыторыю, абвязалі ногі коням анучамі, і тыя зараз ляцелі, нібы якія жудасныя здані, — нячутна, зрэдку пафыркваючы.

А ў замку і сапраўды не было вялікай аховы. Князь Іван пакінуў толькі пару дзесяткаў дружыннікаў, ды і сярод тых палова — з незалечанымі ранамі. Развітваючыся з жонкай, князь паабяцаў вярнуцца не болей як праз месяц.

— Заўсёды так гаворыш, каб я не хвалявалася, а сам і па паўгода дома не бываеш,— па-добраму ўпікнула мужа Мар'я.

— Усяляк здараецца, родненькая, усяляк...

— То і гаварыў бы праўду.

— Хто ж яе, праўду, ведае, — змрочна сказаў Іван і прыхіліў галаву каханай да сваіх магутных грудзей. — Дзяцей будзіць не буду. Пагляджу, як спяць, і вярнуся.

Праз пару хвілін князь выйшаў на ганак.

— Спяць, ды гэтак соладка, што і самому яшчэ падрамаць захацелася.

Князёўна ўсміхнулася:

— Я ж табе не перашкаджала. Сам жа ўсхадзіўся менавіта зараз ехаць у паход.

— Мае віжы данеслі, што там ворагі сілы збіраюць. Не з'яўлюся своечасова, дык і напасці могуць. А ты не хвалюйся. Пакідаю з табой сотніка і з ім — надзейных людзей. Яны не праспяць, яны чужынцаў за дзесятак вёрст чуюць.

— Я і не баюся.

— Чарнавус! Пятро! — гукнуў князь. — Дзе ты там?

— Я тут, княжа, — прагуў магутны голас за спінаю.

— Глядзець за князёўнай і за дзецьмі будзеш, Пятро.

— Дажыўся...

— Што ты там вуркочаш?

— Кажу, дажыўся, як стары дзед, якога да ўнукаў прыстаўляюць. Можа, княжа, мне лепей у паход, няхай хто іншы застанецца?

— Не, сябра, не крыўдуй. Пакідаю цябе, бо дружыннікаў амаль не застаецца. Глядзі мне за князёўнай ды за дзеткамі, а мы доўга не затрымаемся, напалохаем чужынцаў дый назад.

— Княжа, дык мною толькі і палохаць, — пажартаваў Чарнавус, і ўсе жарт падтрымалі.

Войска выступіла ў паход, ■ ў замку застаўся толькі Пятро з дружыннікамі ды слугі.

Пятро, які прызвычаіўся ўсё жыццё праводзіць у паходах, і тут не расслабляўся. Адабраў дзесятак самых вынослівых, самых увішных вояў і разаслаў іх у розныя бакі, каб сачылі за наваколлем і калі што — адразу паведамілі. Сам жа быў увесь час непадалёку ад князёўны і яе дзяцей, а калі і адыходзіў, то пакідаў замест сябе пару здаравенных дружыннікаў.

Прайшоў тыдзень, другі, усё было спакойна. Пятро толькі хадзіў туды-сюды і пакрыкваў на дружыннікаў:

— Вы мне глядзіце, не спіце!

Тыя таксама не маўчалі і, азірнуўшыся, каб сотніка не было побач, дадавалі:

— Ужо і забыліся, калі спакойна спалі.

Але, як аказалася, лішняя перасцярога не пашкодзіла.

Аднаго надвячорка да ўязной брамы, зачыненай цяжкімі варотамі, падляцеў узмылены вершнік:

— Адчыняй... Свае, — данеслася да вартавога.

Хвілін праз колькі знясілены дружыннік дакладваў сотніку:

— Татары блізка.

— Дзе?

— За ноч дабяруцца.

— Многа?

— Не. Мы налічылі ўсяго сотню. Але, здаецца, нешта тут не тое...

— Чаму гэта?

— Без завадных коней ідуць. Звычайна яны па два, па тры кані вядуць, а тут...

— Зразумела. Значыцца,недзе сталі лагерам, будуць па наваколлі шныраць. Дзе астатнія воі з вашай заставы?

— Сачыць засталіся, каб ведаць, куды накіроўваюцца татары.

— Дзякуй табе, вой. Зараз ты адпачні, а потым мы ўсе адсюль з'едзем...

— Што, пакінем замак?

— Не пакінем, а што-небудзь прыдумаем. Не забывайся, што нас тут пакінулі князёўну ды дзяцей маленькіх ахоўваць.

Праз хвіліну зычны Пятроў голас разносіўся па падворку:

— Збірацца! Усім збірацца!

Мар'я з нянькай і дзецьмі стаялі на ганку.

— Князёўна, цябе з дзецьмі і людзьмі мы выведзем праз падземны ход. Перачакаеце ў лесе, пакуль мы не вернемся. Чакаць доўга не давядзецца, можа, усяго да раніцы, а калі і болей, то ненамнога.

Стары дружыннік павёў князёўну і жанчын да падземнага хода, пра існаванне якога ведала ўсяго некалькі

чалавек. Пятро вывеў свой невялікі атрад за браму, пакінуўшы ў замку толькі траіх вояў:

— Будзеце стаяць на баявой пляцоўцы, ля брамы. Калі ворагі з'явяцца, то адразу хавайцеся ў падзямелле.

— Добра, — адказалі тыя і палезлі да байніц.

Мурза разлічваў, што ягоны манеўр удасца. Хто мог заўважыць невялікі атрад, які днямі адседжваўся ў лясах, а прабіраўся толькі начамі? Ад захопленых у палон сялян даведваліся, што робіцца навокал, і забівалі іх, а трупы старанна хавалі.

Нарэшце да мэты засталося зусім блізка, усяго якіх дзесятак вёрст. Мурза звярнуўся да людзей:

— Сёння на світанні, калі сонца яшчэ не паспее добра ўзняцца над вяршалінамі, нас чакае багатая здабыча. Рабіць усё трэба хутка і, разам з тым, надзейна, каб нікога не засталося на месцы. Але самае галоўнае — трэба захапіць у палон князёўну, якую мясцовыя жыхары параўноўваюць з сонцам.

— Хто яе захопіць, таму яна і дастанецца? — запытаўся надзвычай брудны вершнік.

— Не, яна дастанецца толькі мне.

— Чаму гэта?

— Таму, што тут загадваю я, і ніхто болей. Калі некаму не падабаецца, то потым растлумачу...

Воінаў, якім нешта не падабалася ці якія нешта не разумелі, не аказалася. Усе ведалі, як мурза можа тлумачыць.

— Зараз крыху адпачнём і рушым наперад, — працягваў мурза. — Тут трэба прабірацца яшчэ цішэй. У замку людзей зусім мала, нас таксама нямнога для аблогі, таму будзем дзейнічаць скрытна і неспадзеўкі.

Неўзабаве вершнікі зноў апынуліся ў сёдлах і падаліся наперад, прабіраючыся па вузкай лясной дарозе. Яны нават і не зразумелі спачатку, калі па іх пачалі страляць з лукаў. Мурза крутнуўся ў сядле і крыкнуў:

— Засада! Засада! Адбіваемся!

Адбівацца добра тады, калі ты бачыш ворагаў, а калі яны схаваныя ў цемры ды яшчэ маскіруюцца за дрэвамі і кустоўем і ты ў іх нібы на далоні, дык гэта зусім іншы выпадак. І, да таго ж, невядома, колькі іх там, у які бок

адбівацца? Пакуль татары круціліся, спрабуючы знайсці выйсце, упала палова вояў. Астатнія пачалі бязладна прабівацца: хто лез, з канём разам, праз лес куды вочы глядзелі, а хто гнаў жывёлін прама па дарозе, якую да таго часу ўжо перагарадзілі магутнымі дрэвамі спераду і ззаду.

Адным словам, бойкі не атрымалася, бо нябачныя саапернікі перастралялі пераважную большасць чужынцаў, не вылазячы на дарогу. Калі сярод жывых засталося зусім мала людзей, то на дарогу, ломячы кустоўе, выбраліся дружыннікі і ўзяліся вязаць палонных і дабіваць тых, хто не жадаў здавацца. Сярод палонных аказаўся і паранены мурза. Збіраліся падлічыць забітых і паланёных, але сотнік Пятро загадаў:

— Няма, хлопцы, часу. Трэба ў замак кіраваць, каб які другі атрад туды не прабіўся. Няма там у нас людзей, разрабуюць усё.

Але на замак ніхто не напаў. А вось паланёны мурза сканаў, так і не паспелі яго дапытаць. Сотнік злаваўся:

— Гэты б расказаў, што яны планавалі, а так...

— Дык у нас жа іншыя палонныя ёсць, — суцяшалі яго.

— А карысці з іх?

Тым часам вярнуліся князёўна з дзецьмі і жанчынамі. Узрадавалася тая, што Пятро гэтак хітра усё зрабіў, але яе супыніў сотнік:

— Яны недзе зусім блізка. Гэта невялікі атрад быў, а асноўныя сілы стаяць... Вам, князёўна, лепей схавацца ў лесе і счакаць там нейкі час.

— Не, Пятро, я тут мужа чакаць буду. Ён хутка прыйдзе.

— Але ж татары могуць раней з'явіцца.

— Гэта мы яшчэ пабачым.

Мар'я засталася ў замку, а недзе праз пару дзён усяго прываліла ўсё татарскае войска пад сцены замка і пачалася аблога. Але што маглі зрабіць нешматлікія дружыннікі супраць у сотні разоў іх пераўзыходзячага ворага? Нічога. Пратрымаліся трое сутак, а потым вораг уварваўся ў замак. Гінулі апошнія абаронцы. Стары дружыннік бег, трымаючы на руках малых, а за ім спяшалася Мар'я. І тут варожая страла ўпілася вою ў спіну і ён упаў. Мар'я схапіла дзяцей.

— У падземны лаз... Пад бярэзінкай... Пацягні за кусцік... Там ён, — паспеў прахрыпець паміраючы вой.

Да князёўны бег Пятро. Ён ужо быў не раз паранены, але магутная сіла дазваляла яму трымацца на нагах. Ухапіў дзяцей — і пабеглі. Ды недалёка адбегліся: наваліліся на іх ворагі. Мар'ю скруцілі, а Пятро ўсё ж паспеў скокнуць з малымі ў лаз. Татар, што падаліся за ім, ён там і прыкончыў сваім бязлітасным мячом. Астатнія пабаяліся лезці.

Задаволены хан не ведаў, як і хваліць сваіх вершнікаў.

— Бярыце, усё бярыце... Усё ваша... Мне хопіць гэтай прыгажуні, — і паказваў на Мар'ю.

Ворагі доўга не затрымаліся, адразу ж кінуліся ўцякаць, баяліся, каб не дагнаў іх князь Іван, бо сапраўдную сілу ягонага войска выдатна ведалі.

Колькі ні дабіваўся князёўны хан, яна ніводнага разу нават не зірнула на яго. Паспрабаваў авалодаць прыгажуняй сілай, і тады яна запрасілася:

— Божа, калі ты ёсць на небе, то зрабі так, каб я стала птушкай і паляцела да сваіх дзетак, да свайго мужа...

І ў тое ж самае імгненне зрабілася яна невялічкай птушачкай, якая пырхнула ўвысь. Паляцела Мар'я дамоў, стала плакаць-галасіць, слёзы праліваць. Ды не ведала, небарака, што яе дзетак выратаваў Пятро-сотнік і дабраўся да князя Івана, што муж кінуўся даганяць ворага і разбіў іх на сіняй рацэ. Плакала і кружылася, кружылася і плакала птушка, і там, дзе падалі яе горкія слёзкі, узніклі сінія, бяздонныя азёры.

Сталі там жыць людзі і пераказваць гэтае паданне з пакалення ў пакаленне. А некалі сюдою ехала Кацярына II, злая расейская царэўна, са сваім Сенатам. Яны тут спыняліся начаваць, і таму мястэчкоўцы назвалі паселішча Сяннат. Мала што яны разумелі ў тым слове, але да нашых дзён дайшло ўжо перайначанае — Сянно.

Гавораць яшчэ, што такая назва з'явілася ад таго, што ў гэтых мясцінах заўсёды гандлявалі сенам. Хто ж яго ведае, ці так яно...

## МАШКАНЫ

Даўней людзі па хутарах жылі. Не так, як зараз, што ўсе ў адной вёсцы, а параскіданы гаспадаркі былі па ўсім наваколлі, і толькі час ад часу збіраліся суседзі, каб пагаманіць, распавесці пра тое, што чулі, ці запрасіць да сябе ў госці або на якую неадкладную працу, абяцаючы ці шчыра заплаціць, ці адрабіць потым, калі з'явіцца неабходнасць.

Розныя людзі жылі, але найболей сумленныя, працавітыя. І вось аднаго разу прыбіўся на хутар адстаўны салдат. Ведама ж, што ён мог выслужыць за сваю царскую службу — якіх пару рублёў ды яшчэ колькі бліскучых медалёў. А хоць пара рублёў была на тыя часы і значнай сумай, толькі пабудавацца на яе самому было немагчыма. Вось і хадзіў былы салдат па хутарах і прасіў, каб выручылі людзі, падсабілі. Звалі яго Машкан. Чалавек ён быў неблагі, ветлівы, таму і не адмаўлялі людзі, абяцалі дапамагчы.

Але запрасіць-то запрасіў, а трэба ж нечым мужчын і частаваць, бо яны ж не проста так пазбіраюцца, а будуць цэлымі днямі, з ранку да вечара, фізічна намагацца. Тое-сёе прыкупіў салдат, нешта спагадлівыя суседзі далі, але ўсё роўна было малавата, ён і сам гэта адчуваў. А пад бокам у яго жыў стары дзед. Сахвей ягонае імя было. І такі ўжо той стары скнапны быў, такі злыдзень, што ва ўсім наваколлі пашукаць — не знойдзеш. Вось да яго і звярнуўся Машкан, каб той пазычыў тое-сёе з прысмакаў.

— Няма ў мяне нічога, Машкан, няма, — адказаў стары, нібы баючыся, што зараз да яго кінецца салдат і ўсё паадбірае. Потым адразу ўстаў і яшчэ раз прамовіў:

— Але ж галодныя людзі — не працаўнікі.

— Я і сам ведаю.

— Дык шукай якіх прысмакаў.

— А дзе ж я іх знайду?

— Шукай... А ў мяне няма, нічога ў мяне няма, чалавеча, — прамовіў дзед і паджгаў, нібы малады, да сваёй хаціны.

Машкан глядзеў задуменна яму ўслед і пра нешта думаў.

«Хутка і сапраўды талака збярэцца, а ў мяне і скрыліка сала ці якога мяса няма. Трэба неяк круціцца, толькі як?..»

Прамовіў гэта Машкан сам сабе і прылёг на духмяную траву. Але які там сон, які адпачынак, калі зусім іншым галава забіта? Круціўся, з боку на бок павароч-ваўся, а потым раптоўна ўскочыў на ногі.

«А што, чаму б і не выйсце? Чаму не? Цяпер ты ў мяне паскачаш, стары злыдзень, цяпер будзеш ведаць, як з мяне здзекавацца...»

Стары дзед соладка пазяхаў на печы. На двары ўжо сцямнела. Баба ягоная храпла так, што, здавалася, зараз захлынецца ад уласнага храпу. Што рабіць чалавеку на старасці гадоў, калі ён мае моцную гаспадарку, калі ў яго ўсё ёсць, калі на яго пастаянна працуе пара параб-каў? Толькі і палежваць ды з іншых, няўдалых ды гарот-ных, пасміхвацца. Пры такой думцы стары ажно нагамі ад радасці задрыгаў.

А на вуліцы тым часам не ўсе спалі. Машкан, стаіў-шыся, чакаў сваёй часіны дзейнічаць. Праспявалі другія пеўні, і ён амаль нячутна праслізнуў да кладоўкі, дзе ў старога гаспадара ляжала ўсё сала ды мяса, а таксама іншыя прадукты. Сабакі не брахалі, бо кемлівы салдат кінуў ім па кавалку зайца, перад гэтым старанна перавя-заўшы яго ўсялякімі ніткамі. Сабакі рвалі і не маглі пар-ваць кінуты ім ласунак, а Машкан дзейнічаў. Наклаў вялізны мех сала з мясам, набраў сыру ды іншых прыпа-саў і падаўся назад. Аднёс далекавата, а потым усміхнуўся сам сабе: «Што ж гэта ■ ў чалавека нават дазволу не запытаўся? Трэба вярнуцца ды ўсё па-людску зрабіць, каб пасля не крыўдзіўся, не гаварыў іншым, што яго не папярэджвалі. Трэба вярнуцца...»

Захаваў той мех і пакрочыў паспешліва назад. Паста-яў каля плоту, потым падышоў да акна. Засмяяўся ледзь-ве чутна і загрукаў кулаком у аканіцу:

— Дзед Сахвей!

Неўзабаве з хаты жаночы голас запытаўся:

— Хто там?

Але Машкан не адказваў, чакаў, калі азавецца Сах-вей. Той прагарлаў:

— Хто там? Што трэба?

Тады салдат, давячыся са смеху, прамовіў:

— Вам чорт сала нарэзаў і прыслаў!

Гаспадар ажно захлынуўся ад злосці:

— Уцякай, пакуль я на цябе сваіх парабкаў з сабакамі не спусціў!

— Але ж загадана вам перадаць! Нікому болей!

— Уцякай, каб позна потым не было!

— Як сабе хочаш...

— Я не жартую! — катэгарычна адрэзаў стары, а сам узіраўся ў цемру, спрабуючы ўбачыць таго, хто завітаў да яго ў такі час.

Толькі і салдат не дурань быў, каб выстаўляцца.

— Адмаўляешся ад сала, вяртаеш яго назад чорту, то я так і перадам...

— Так і перадай, што не трэба мне чортава сала!

— Добра...

Пагаманіў Машкан і пакіраваў назад, спяшаючыся, каб да світання занесці цяжкі мех сабе да будана і старанна яго прыхаваць. Настрой у салдата быў ужо зусім іншы. Пераходзячы невялічкую канаву-рачулку праз масток, нават заспяваў:

Ішоў салдат па кладачцы,
Знайшоў сала па нязгадачцы,
Не браў і не ўкраў,
Сам Сахвей падараваў!

Сабраліся людзі на талаку да Машкана. Працавалі шчыра і елі смачна, ды яшчэ гаспадара хвалілі, што частуе іх не шкадуючы.

А стары Сахвей знайшоў прапажу і прыбег на будоўлю. Схаваўся ў кустоўі і загарлаў:

— Машкан — злодзей! І ўсе вы тут Машканы!

Калі хату паставілі ды іншыя будыніны ўзвялі, то і хутар той Машканамі празвалі, а потым і вёска ад яго пачалася.

## РАСНА

Быў у аднаго пана, які некалі валодаў тутэйшай зямлёй, верны аканом. Звалі яго Пётра. Ніхто не крыўдзіўся на гэтага чалавека, бо ён дужа спагадлівы быў. Заплача ўдава, запросіцца:

— Не гані сёння мяне, пане аканом, далёка ад хаціны на працу, бо нешта мае дзеткі замаркоціліся. Дык я да іх падчас полудня збегаю, праведаю, каб чаго благога не здарылася.

— Добра, — толькі і адкажа той, а потым яшчэ і дадасць: — і дамоў на пару гадзін раней за астатніх падавайся. Я табе дазваляю, а калі-небудзь, як ўсе жывыя-здаровыя будуць, адпрацуеш.

Так і жыў аканом з людзьмі. Зайздросцілі сяляне з іншых вёсак:

— Што вам на лёс плакацца? Да вас пан рук не працягвае, увогуле вамі не займаецца. Аканом адно глядзіць, ды і той чалавек, якіх пашукаць трэба.

Памешчык таксама быў задаволены аканомам, сваім сябрукам-хаўруснікам так прама і гаварыў:

— Я ніколі за парадкам у маёнтку ды на палетках не сачу. Там у мяне і так парадак.

— Але ж нехта назірае?

— Аканом.

— Усяго адзін? І няўжо не крадзе?

— Уявіце сабе, што не.

— Не можа такога быць, каб аканом і не краў. Не верыцца нешта.

— Вам не верыцца, а я такога чалавека маю.

— Пашанцавала тады пану. Можа прадасце?

— Не, каго іншага — калі ласка, а гэтага не. Ні за якія грошы не прадам.

— Шанцуе ж людзям, — уздыхалі расчараваныя госці. — У нас і адвярнуцца нельга, а тут...

Ніколі памешчык не лаяўся на Пётру, не абзываў яго ды не кідаўся ўсялякімі словамі, ■ калі што трэба было, то звычайна клікаў:

— Аканом, хадзіт-ка пасядзім крыху ды пагамонім.

Сядуць і, нібы роўныя, гавораць. Потым разыходзяцца.

А аднаго разу пан ужо да таго расчуліўся, што прамовіў:

— Я цябе, Пётра, ніколі са службы не праганю. Нават калі ты ўжо не здужаеш запраўляць маімі справамі, то ўсё роўна застанешся ў мяне. Стану тваім дзецям ды ўнукам плаціць за шчырую службу.

— Дзякуй, пане, — пакланіўся нізка аканом, але сам падумаў зусім пра іншае.

— Што ты, яшчэ нешта хацеў сказаць?

— Ёсць такая прымаўка ў народзе: «Панская ласка, жончына праўда, сынава жальба — усё толькі да парога».

— Дык ты мне не верыш?

— Прабачце за шчырасць, пане, але дзе вы бачылі, каб памешчык ды пра мужыка клапаціўся?

— Ну, а я буду.

— Дзякуй на добрым слове, але мне ўсё роўна не верыцца. І я вам дакажу, што маю рацыю.

— Паспрабуй.

Гаспадар хутка забыўся на тую гаворку, але Пётра не. Украў ён аднаго разу ў памешчыка гусака і прынёс дамоў. За ўсю сваю працяглую службу ўсяго раз такое і зрабіў. Вось і кажа ён жонцы:

— Звары гусака, толькі нікому нічога не распавядай.

— А дзе ты яго ўзяў? — спыталася тая.

— У пана ўкраў. Толькі ж глядзі, нікому не скажы.

Зварыла жонка гусака, з'елі яны яго, і, здаецца, усё ціха атрымалася. Але ж так толькі падалося. Выйшла жонка на вуліцу, а там кума ваду бярэ з калодзежа. Яна і давай прасіцца:

— Дай, кумка, вады напіцца.

— Ці ў цябе дома вады няма?

— Ёсць.

— А што ўжо ты такое смачнае з раніцы ела, што піць гэтак захацела?

Дурная жанчына пра ўсё чыста і распавяла, ды яшчэ і дадала:

— Ты ж толькі нікому пра гэта не распавядай, бо нас тады пан пакарае.

Але тая кума ўсяго праз нейкую гадзіну расказала другой куме. А тая кума надта злавала на аканома, што прымушае яе працаваць. Бачыце, яна была лянотная жанчына і лепей бы паляжала ці паспала, чым гнуцца на памешчыцкім палетку. Таму яна доўга не цягнула, а пабегла адразу ж да пана і пра ўсё чыста паведаміла. Гаспадар не павeрыў ёй, загадаў слугам, каб адлічылі нядобразычлівай жанчыне лозаў на стайні. Адлупцавалі языкатую і яна, лямантуючы, паджгала дамоў. А памешчык вырашыў усё ж пералічыць сваіх гусей — і аднаго гусака не хапала. Выклікаў ён аканома і закрычаў:

— Дзе гусак?!

А той не прызнаецца. Тады гаспадар зароў:

— Павешу цябе за гэта!

— Вось, пане, і праўда ваша. Вы ж абяцалі, што ніколі

голас на мяне не ўзвысіце, да глыбокай старасці карміць мяне будзеце, а зараз пагражаеце павесіць.

— І павешу, як ты ні выкручвайся.

— А я і не выкручваюся. Толькі перш дазвольце схадзіць дамоў, бо там у мяне ёсць грошы і іх жа трэба падзяліць паміж жонкай і сынам.

— Не абдурыш. Я цябе адпушчу, [redacted] ты ўцячэш...

— Не ўцяку, пайшлі тады разам.

Заходзяць яны ў хаціну да аканома, [redacted] там жонка сядзіць за сталом.

— Заві сына ў хату.

— Чаго гэта?

— Грошы дзяліць паміж вамі буду.

Паклікала жанчына сына, аканом дастаў грошы і давай іх дзяліць. Але, што самае дзіўнае, раскладваў не на дзве, а на тры часткі.

— Чаго гэта ты так робіш? — не вытрымаў пан.

— Адна кучка таму, хто з жонкай жыць потым стане, другая — сыну, на гаспадарку, а трэцяя...

— А трэцяя?

— Таму, хто мяне павесіць.

Тут сын ускочыў:

— Давай [redacted] цябе павешу!

Не вытрымаў Пётра:

— Бачыш, пане, а мы яшчэ спрачаліся. Ці ж не праўда, што панская ласка, жончына праўда ды сынава жальба толькі да парога? За гуску мяне вешаць сабраліся, а сын за грошы нават згодны прысуд над родным бацькам выканаць...

— Твая праўда, аканом, ты выйграў. Што тая кветка росная-росна, якая на сонца трапляе, няшчасная, так і чалавек ад сваіх родных залежыць. Крыўдна даведвацца, што вось так яны да яго адносяцца. Але я сваё слова ўсё ж стрымаю: дам табе зямлі добрай надзел, і там будуйся. Хто яго ведае, як яно потым станецца...

Даў памешчык Пётру зямлі, і той пабудаваў там свой падворак, а хутар назваў Росна, бо вельмі яму запалі ў душу словы пра няшчасную кветку. Людзі ўжо значна пазней назву тую перайначылі і сталі называць паселішча — Расна.

# САВІНІЧЫ

Некалі, у даўнія стагоддзі, у птушак, як і ў людзей, усё было агульнае: і жыллё, і корм, і іншыя якія справы ды прычындалы. Цара выбіралі на некалькі гадоў, а калі ён у нечым правінавачваўся ці не адпавядаў займаемай пасадзе, то перавыбіралі і замянялі іншым. Так і жылі. Усё па-справядліваму атрымлівалася. Якая крыўда ці злыбеда ўзнікала, адразу пішчалі-свісталі:

— На суд! На суд збіраемся!

З усіх канцоў пушчы, з усіх канцоў палеткаў ды ніў, лугоў ды балот прылятала птаства.

Сам Бог зайздросціў, што птушкі да такога дадумаліся і няма ў іх з-за гэтага ні войнаў, ні боек. Правучаць злодзея ці нядобразычліўца і зноў мірна і спакойна сабе жывуць. Во добра было б, каб і сярод людзей так атрымлівалася. Аднаго разу нават вырашыў падслухаць ды падгледзець, як той суд адбываецца. Стаіўся ў кустоўі, непадалёку ад палянкі, на якую зляталіся птушкі, і стаў чакаць. Нарэшце ўсе зляцеліся, і велічны арол — ён жа птушыны цар — прамовіў:

— Усе тут?

— Усе.

— Тады можна пачынаць? Давайце цішэй...

Птаства паціху ўгаманілася і прыціхла.

— Хто на каго скардзіцца?

— Хто там скардзіцца? Хто там скардзіцца? — загаманілі, звяртаючыся адна да адной, птушкі.

Усявышні напрог слых.

— Верабей вінаваты... Верабей, — заціўкалі з аднаго боку птушкі.

— Не, не ён, не ён, — запярэчылі з другога.

Арол разгублена пазіраў па баках і ніяк не мог дацяміць, што адбываецца на гэты раз. Раней выказваліся пакрыўджаныя і ўсё, а тут...

— Дык хто вінаваты, я ў вас пытаюся?

— Верабей, — панеслася з аднаго боку.

— Не, не ён, — пачулася з другога.

— А хто ж тады? — раззлаваўся птушыны цар і тупнуў лапаю. — Гаварыце, пакуль не загадаў слугам даць вам добра ў спіны.

— Ён пачаў зерне красці ў гаспадароў.

— Яму ж таксама карміцца трэба, — пачаў было арол.

— Але хіба яму ўсялякіх лічынак мала?

— Слушна кажаце, — пагадзіўся арол.

— Ён крадзе, а на ўсіх птушак гамоняць, што мы зладзействам займаемся. Як нам такое трываць?

— І гэта праўда.

— Вядома, што праўда. Людзі птушак адганяць ад сваіх дамоў пачалі, біць-вынішчаць. Усё з-за аднаго... Трэба нешта неадкладна рабіць, іначай многія з-за вераб'я-злодзея загінуць.

— Чакайце, чакайце. Не надта спяшайцеся і не вельмі крычыце. Крыкам нічога не выправіце. Трэба судом справядлівым усё разабраць і тады толькі судзіць.

— А мы для гэтага і суд сабралі і цябе, наш цар, на яго запрасілі, каб ты разабраўся і прысудзіў вераб'я да якога прысуду.

— Зараз, зараз усё вырашым. Толькі не крычыце, супакойцеся.

Усявышні ў карчах ажно перасмыкнуўся і прамямліў: «Амаль як у мяне, калі мае святыя ды апосталы ўсходзяцца. Не пазайздросціш зараз арлу...»

Але арол надзіва лёгка знайшоў выйсце. Пакрычаў, пакрычаў крыху, патупаў нагамі і, пабачыўшы, што гэта ніякага выніку не дае, загадаў змрочным крумкачам, якія непарушна сядзелі ў яго за спінаю:

— Слугі мае верныя, навядзіце парадак, бо мы і да ночы тут справу не вырашым.

Грувасткія крумкачы ўзняліся ў паветра і праз колькі імгненняў пачалі лупцаваць самых крыклівых птушак. Тыя не ўцякалі, адразу замаўкалі, бо ведалі, што іх чакае ў выніку непадпарадкавання.

«Бачыш ты... — здзіўлена працягнуў у кустоўі Усявышні. — Усё ў парадак за пару хвілін прывядуць...»

Сапраўды, недзе хвілін праз дзесяць на паляне ўсталявалася напружаная цішыня і было чуваць толькі, як махалі крыламі, разлятаючыся, слугі арла — крумкачы. Яны болей не селі за спінаю ў свайго валадара, а стаіліся па баках, гатовыя ў любую хвіліну накінуцца на таго, хто паспрабуе парушыць парадак.

— Давайце сюды вераб'я, — пачуўся голас арла.

Вераб'я выпхнулі на сярэдзіну.

— Зерне краў?

— Не.

— Як жа не, калі на цябе ўсе паказваюць?

— Не, не краў.

Арол ажно заціх на хвіліну, так нязвыкла было яму чуць такую самаўпэўненую хлусню.

— Але ж сведкі...

Верабей набраўся столькі пыхі, што перабіў свайго валадара:

— Яны спецыяльна сведчаць супраць мяне, бо зайздросцяць.

— Чаму зайздросцяць?

— Што ў мяне ўсё атрымліваецца.

— І што ўжо ў цябе так добра атрымліваецца?

— Усё.

— Дарма ты так пахваляешся.

— Іх падкупілі.

Як толькі верабей вымавіў гэтыя словы, то аслупянелыя ад хлусні птушкі паўскоквалі з месцаў і запатрабавалі:

— Пакараць! Пакараць яго! Ён жа хлусіць! Ён не прызнае нашых законаў!

Пакуль арол разважаў, слугі ягоныя не ўпільнавалі, як самыя бойкія птушкі кінуліся на вераб'я. Што тут пачалося! Усявышні горка ўсміхнуўся і падаўся далей ад тае злашчаснае паляны: «Верабей, калі выжыве, то запамятае гэты дзень надоўга...»

Але верабей быў не такі ўжо і дурны. Справа ў тым, што яшчэ зараней ён падрыхтаваў сабе дзірку ў дупле. Зрабіў такую, каб самому толькі пралезці. Туды ён і шмыгнуў, адчуўшы небяспеку. Птушкі паразважалі і вырашылі, што самае лепшае ў дадзеным выпадку — браць дупло ў аблогу і дачакацца таго моманту, калі зморaны голадам верабей сам вылезе да астатніх ды папросіць літасці. Так і зрабілі. Арол, праўда, па-свойму крыху перайначыў:

— А чаго мы ўсе тут чакаць будзем? Пакінем каго-небудзь аднаго, большага і мацнейшага за вераб'я, а потым птушкі мяняцца будуць.

— Правільна, — загаманілі астатнія. Кінулі жэрабя, і па ім выпала першай сцерагчы саве. А сава тады была ўвогуле голая, без аніякага пер'я. Яна адразу загаварыла:

— А як жа я на ноч застануся? Холад мяне тут прабярэ да самых касцей.

Тады арол загадаў:

— Давайце скінемся ёй па пёрку. Нам — нічога, а яна ўся ў пер'і будзе.

Скінуліся птушкі, і сава задаволена ажно вочы скасавурыла на сябе самую, гэтак ёй новае ўбранне спадабалася. Як бы там ні было, але хітры верабей таго моманту дачакаўся, калі світанне настала і вартаўніца зяхаць пачала, і ўцёк. Як даведаліся пра гэта птушкі, давай біць саву. Лупяць і прымаўляюць:

— Навошта мы табе свае пёркі давалі?! Як жа ты глядзела сваімі лупатымі вачыма?! Каб жа ты цяпер да скону свайго начамі не спала, а лётала, а днём, калі мы лётаем, ты хавалася...

Так яно і сталася з таго моманту. І доўга яшчэ стары дуб паказвалі, у якім дупло было і дзе той хітры верабей хаваўся. Звалі той дуб Савінічам, а вёску, якая пад ім узнікла, назвалі Савінічамі.

## ХОДЦЫ

Раней на месцы нашай вёскі быў маёнтак пана Рэнцэля. Сярдзіты быў памешчык, надта не любіў, калі нехта супраць яго слова казаў. Гаварылі, што ён і са сваімі сябрукамі гэтаксама сябе паводзіў. Як раззлуецца, то толькі і крычаў:

— На двубой! На двубой!

Адкуль ён такое старадаўняе слова пераняў, ніхто не ведаў, але ведалі затое, што Рэнцэль у двубоі заўсёды браў верх. Налупасіць саперніка, а потым і смяецца:

— Табе, галубочак, са старой бабцяй на кіях біцца, а не са мной. Вось табе яшчэ на добры ўспамін, і кацiся, ды глядзі, болей не заводзься з мацнейшым! — і лупяне ці кулаком, ці бізуном.

За гадоў пяць мясцовы пан усіх суседзяў ад сябе адвадзіў, баяліся да яго і былыя сябры наведвацца. Ніхто ж сказаць не мог, што ліхому гаспадару ў галаву ўваб'ецца і чым гэта наведванне для госця скончыцца. Лічылі за лепшае бокам абысці маёнтак ці пасядзець у якой іншай кампаніі, толькі не з тым ліхім чалавекам.

Рэнцель тады пачаў сам зачэпку шукаць, каб толькі з кім завесціся ды пабіцца. Выходзіў ці выязджаў на даро-

гу і чакаў, пакуль які багаты экіпаж пакажацца, каб спачатку пасправачацца, а потым ужо і да абразы ці да бойкі перайсці.

Аднаго разу, казалі, высунуўся ён і надзвычай доўга чакаў. Ад таго і раз'юшыўся і пачаў да свайго фурмана, Грышкі, чапляцца. Той маўклівы чалавек быў, дабрадушны, нікога ў жыцці не пакрыўдзіў, а вось сам зносіў шматлікія абразы ад пана, а калі — і пабоі. І гэта нягледзячы на магутны целасклад і фізічную моц. На гэты раз Грышка не маўчаў, адказваў на ўсе зачэпістыя пытанні пана, і гэтая незалежнасць фурмана выбіла Рэнцэля з раўнавагі. Болей ён пытанняў не задаваў, а лупянуў кулаком-грушаю прама ў лоб беднаму фурману. Які іншы чалавек ад такога ўдару зваліўся б з ног, а Грышка толькі хіснуўся ды набычыўся. Памешчык заўважыў гэта і не стаў болей выпрабоўваць лёс — адчапіўся. І тут яму пашанцавала. На дарозе нарэшце паказаўся нейкі экіпаж.

— Вязучы ты, Грышка...

Але Грышка нічога не адказаў, не хацеў падтрымліваць гаворку дурнаватага гаспадара.

На гэты раз памешчык запыніў нейкага ці то немца, ці то француза і пачаў брыдка таго лаяць. Бедны падарожнік нічога не мог зразумець, лыпаў вачыма. Але і гэтага хапіла Рэнцэлю, каб прычапіцца і добра намяць бакі небараку.

Калі вярталіся дахаты, то задаволены Рэнцэль на ўсё горла спяваў песні, што вельмі нагадвала лютаўскае спяванне ваўкоў-драпежнікаў. Ажно Грышка не стрымаўся і даволі гучна прамовіў:

— Чакай, яшчэ і твая чарга прыйдзе... Даспяваешся...

Ды толькі пан не вельмі прыслухоўваўся да таго, што гаварыў ягоны фурман. У яго быў добры настрой.

Выязджалі яны на тую дарогу не раз і не два. Здаралася, што і зімою, у самыя завірухі, у самыя маразы не сядзелася ліхому памешчыку дома, свярбелі ў яго кулакі, прагнуў ён паздзекавацца з людзей. Вядома, што перападала і Грышку, але ён усё трываў. Трываў да аднаго выпадку. А здарылася тады вось што.

Вырашыў пан Рэнцэль ехаць на дарогу не днём, а надвячоркам, бо ад некага прачуў, што суседзі папярэджваюць падарожных абмінаць гэтыя мясціны днём. Настрой у пана быў неблагі ў прадчуванні, што некага ўвечары

добра адлупасіць, таму з дваровымі ды з фурманам не заводзіўся, толькі і загадаў:

— Грышка, запрагай! Хутка выязджаем!

Неўзабаве колы таратайкі мякка затухкалі па вільготнай, бо нядаўна прайшоў дождж, зямлі.

На дарозе нікога не было. Чакалі гадзіну, трывалі другую — нават зайца не ўбачылі, не тое што чалавека. Рэнцэль пакуль што не чапаў Грышку, але той ведаў, што хутка пачнецца.

Так і здарылася. Памешчык зусім спахмурнеў. Відаць, шукаў зачэпку, і нарэшце знайшоў:

— Грышка, чым ты гэта смярдзіш?

— Нічым.

— Не, смярдзіш.

— Можа таму, што цыбулі наеўся?

— А мне да гэтага справы няма! Мяне абурае іншае — чаго ты спрачаешся! — вымавіў Рэнцэль і замахнуўся. Але адбылося нечаканае: ягоны кулак рассек цемру, а ў панскіх вачах успыхнула цэлае суквецце рознакаляровых агеньчыкаў. Ён спачатку і не здагадаўся, што гэта Грышка пачаставаў яго сваім кулаком-гарбузом. За першым пайшоў і другі ўдар. Памешчыка нібы пад пахі падхапіла нейкая невядомая сіла, выкінула з таратайкі, і ён гопнуўся на зямлю.

— Ты што ж гэта, гад?.. — запытаўся ашаломлены пан.

— А чаму цёмна? — прагарлаў Грышка і наддаў яшчэ.

Ён задаваў самыя недарэчныя пытанні і суправаджаў іх магутнымі ўдарамі. Рэнцэль зразумеў, што фурман папросту можа пазбавіць яго жыцця, і ўзмаліўся:

— Перастань...

— Што? — пачулася ў адказ.

Тут ужо памешчыку стала не да просьбаў. Ён вырашыў уцякаць. Але на ногі ўстаць было не так проста, бо кожны ўдар яшчэ болей прыбіваў яго да зямлі. Неяк усё ж усхапіўся, крутнуўся і пабег. Але ззаду дыхаў-тупаў Грышка. Памешчык, сабраўшы апошнія сілы, адарваўся ад фурмана, але затое ўлез ў такую балаціну, што куды ні паварочваўся — усюды па пояс увальваўся ў твань. Акрамя таго, камары ды іншы гнюс спакою ні хвіліны не давалі.

Грышка пастаяў крыху і паехаў да маёнтка. Па даро-

зе завярнуў да начлежнікаў, якія цесным колам ляжалі вакол вогнішча.

— Слухай, Грышка, хто гэта сёння ў нашым балоце галосіць і ўвесь час нібы ходзіць?

— А гэта, людцы добрыя, ходцы такія лазяць.

— Чэрці ці што? — не зразумелі сяляне.

— Ага, — рагатнуў фурман і паехаў сабе далей.

Толькі раніцай вылез з балаціны Рэнцэль на гладкую дарогу. І хоць ён стараўся зрабіць гэта незаўважна, хоць быў пакусаны і мурзаты да непазнавальнасці, сяляне здагадаліся, хто гэта такі. Тады і пачалі гаварыць, як толькі пачуюць ноччу шум у балоце:

— Рэнцэль ходцы робіць...

Дзеці не маглі зразумець і таму дапытваліся ў старэйшых:

— А што гэта такое?

І атрымлівалі філасофскі адказ:

— Падрасцяце — самі даведаецеся.

Пасля таго выпадку Рэнцэль нікога з людзей і пальцам не крануў, так яго Грышка адвучыў. І фурмана з працы не выгнаў. Але затое ягоны маёнтак стаў Ходцамі называцца. Пачуўшы такую назву, гаспадар адно толькі ўздрыгваў.

## ШАМЯТОЎКА

У нас тут жыў памешчык Шэмет. Не надта багаты і крыху дурнаваты быў. Дзе б гэта вы яшчэ знайшлі пана, які ўсю працу сам браўся рабіць? Ведама, ён і работнікаў наймаў, і парабкаў трымаў, але штодня і сам прысутнічаў на палетках ці на нівах. Здзіўляліся працуючыя:

— Паспаў бы, паночку, мы тут і самі ўправімся.

— Э, не, — адказваў Шэмет, — вам толькі павер. Вы мне тут такога панарабляеце, што потым я рады за тыдзень не дам.

— Але ж аканом ля нас гнецца.

— А што аканом? Ён глядзіць, каб сабе што сперці, а не каб панскае захаваць.

Сапраўды, аканом быў зладзеяваты, але ж і Шэмет быў скупы да дзіўнага. Памешчык, а хадзіў у нейкіх лахманах. Да яго з-за гэтага багатыя суседзі не наведваліся.

— Заедзь да гэтага мужыка, а ён смярдзіць, нібы жабрак, які два гады не мыўся.

Пра Шэмета нават распавядалі такі выпадак.

Аднаго разу наняў ён маладога хлопца касіць. Ведаў пан, што так, як гэты чалавек, ва ўсёй ваколіцы ніхто не касіў — адзін мог з трыма справіцца. Пад'ехаў памешчык перад змярканнем да хаціны касца і гаворыць:

— Ці не пакосіш ты, хлопча, у мяне?

— Пакашу, чаму ж не.

— То заўтра, з самае раніцы, і прыходзь.

— Пачакай, пане, а колькі заплаціш?

— А колькі ты хочаш?

— Пан жа ведае, як я кашу?..

— Ой, можна падумаць, што ты лепей за мяне касою водзіш, — спецыяльна, каб збіць цану, сказаў Шэмет.

— Я, пане, не першы раз да людзей іду касіць, і мне звычайна плацяць за двух касцоў.

— Бог з табой, чалавеча, што ты такое гаворыш?

— Тое, што патрабую ад кожнага гаспадара... Лішняга мне не трэба, але ж і задарма касіць не збіраюся.

— Мнагавата ты просіш.

— Не многа. Плату бяру за двух касцоў.

Спрачаліся яны доўга, але нарэшце пагадзіліся на тым, што касец атрымае за дзень па чатыры залатоўкі. Гэта было крыху меней, чым давалі двaім касцам за дзень, але ненамнога. Вытаргаваў сваё хлопец. Праўда, памешчык паставіў умову:

— Калі ты за тыдзень працы хоць раз прыстанеш і не ўправішся са мной, то заплачу табе, як звычайнаму касцу.

— Добра, але ў мяне таксама ёсць умова. Калі пан прыстане, то ўжо не чатыры залатоўкі мне ў дзень дасць, а шэсць.

— Ах ты, гіцаль! — узарваўся памешчык.

— Не падабаецца — шукай сабе другога, — не вытрымаў і касец.

Давялося Шэмету пагадзіцца. Дамовіліся, што з раніцы хлопец прыйдзе да яго, а потым увесь тыдзень будзе начаваць у пана на падворку.

На досвітку касец прыйшоў да памешчыка. Той яшчэ соладка спаў, хоць усім сцвярджаў, што доўга ніколі не спіць. Хлопец загрукаў у аканіцу:

— Пане! Уставай, а то і дзень праспіш!

Ускапіўся Шэмет, раскатурхаў гаспадыню, каб есці ў торбу паклала, і пакіравалі на луг.

Спыніліся ля кустоўя, паскідалі торбы. Касец сваю пад куст кінуў, а што там — кавалак хлеба, ніхто на яго не паквапіцца, Шэмет жа павесіў на рабіну — баяўся, каб мышы не прагрызлі дзірку ды не выелі ягоныя прысмакі. Перажагналіся, і памешчык запытаўся:

— Першым пойдзеш?..

— Так, не люблю за кімсьці плясціся.

— Глядзі, каб [redacted] табе пяты не паабразаў.

— Паглядзім, чаго там...

Папляваў хлапчына на рукі, глянуў на сваю коску, апусціў яе ў траву і ўзяўся шчыраваць. З боку гледзячы, здавалася, што ён не косіць, [redacted] плыве па траве — гэтак лёгка касіў. Шэмет ажно рот ад здзіўлення разявіў, але ж адставаць нельга было, тым болей што пахваляўся не адставаць.

Касец спакойна памахваў касой, нібы ветрык на грудзі голькай наганяў, [redacted] пан расчырванеўся, расчмыхаўся, але трымаўся за пару крокаў.

Прайшлі яны пакосаў колькі. Адчуў памешчык, што рукі пруцянеюць і цяжка яму будзе вытрымаць гэткі рытм, але нічога не гаварыў, каб не даць зачэпкі хлапчыне пасмяяцца.

Вывалілі яны многа травы, і Шэмет ціха прамовіў:

— Папрацавалі, а цяпер можна і перакусіць...

Касец нічога не адказаў, зразумеў, што пан удосыць стаміўся, і пайшоў за ім да кустоўя. Селі есці. Хлопец хлеба палавіну з'еў, вадою запіў і лёг спаць. Памешчык жа шчыраваў каля торбы, спадзеючыся, што калі пад'есць, то прыбавіцца сілы. Паеў добра, дык і самога сон размарыў, не стамляўся так ніколі. Лёг пад куст і захроп.

Касец даўно выспаўся, але не ўставаў, чакаў, калі гаспадар прачнецца. Нарэшце Шэмет устаў і здзівіўся:

— Мнагавата праспалі. Нядвячорак ужо хутка.

— Затое адпачылі.

— Яно-то так... Але косіш ты хвацка.

— Я не хваліўся, калі цану вызначаў.

— Угнацца за табою... — разгаманіўся памешчык.

— А давай мы наадварот зробім. Няхай пан першы цісне, [redacted] я за ім... Тут ужо я буду глядзець, як пярэдні косіць, і не буду вельмі націскаць.

— Давай, — пагадзіўся Шэмет, спадзеючыся, што яму намнога лягчэй будзе. Не падумаў, што і тут хлапчына не саступіць.

Стаў Шэмет першым, і пайшлі касіць. Хлопец лянотна памахваў касою і пасміхваўся, а Шэмет узмакрэў і ўвесь час азіраўся.

— Чаго круцішся, пане?

Той прамаўчаў.

— Давай хутчэй, а то пяткі паабразаю!

Памешчык пнуўся, пнуўся і нарэшце закрычаў:

— Згары ты, чорт рыжы! Здаюся!

— Во гэта іншая справа. Значыцца, шэсць залатовак за дзень?

— Што ўжо з табой зробіш. Атрымаеш свае шэсць залатовак.

Вось такі быў памешчык Шэмет. Смяяліся з яго, кпілі да самай смерці, а калі памёр, то вёсачку, якая неяк непрыкметна прытулілася да маёнтка, назвалі Шамятоўка.



# ТАЛАЧЫН

Раней парадкі на зямлі зусім не такія вяліся, як сёння. Калі паслухаеш гамонку старых людзей, то дзіву даешся, як такое магло быць. Нараджаліся дзеці, віталі іх родныя і блізкія, жылі побач усё жыццё, працавалі разам, бараніліся ад усялякіх ворагаў, а вось калі чалавек да старасці дажываў, то тут зусім іншае прыключалася. Быў заведзены такі парадак: дасягаў стары селянін ці сялянка васьмідзесяці гадоў (а тады людзі намнога болей жылі), то іх прылічвалі да старых. А калі так, то ў тэрміновым парадку іхнім дзецям трэба было весці сваіх бацькоў ці, можа, ужо і дзядоў, у густы-густы лес і там пакінуць. Вялі ў такую гушчэчу, у такую глухамань, што і здаровы, магутны чалавек назад не прабіўся б, не тое што старыя ды знямоглыя. Усё рабілася ноччу, відаць, усё ж саромеліся вяскоўцы суседзяў. Хоць усе так рабілі, але сумленне грызла, што гэткім чынам пазбаўляюцца ад бацькоў. Чуваць было часам начамі, як крычаць-гарлаюць людзі, просяць дапамагчы, але ніхто да іх не кідаўся на выручку, рабілі выгляд, што не чуюць.

Але аднаго разу здарыўся выпадак, які перавярнуў усю гэтую традыцыю.

Былі ў аднаго бацькі два сыны — Сцяпан ды Іван. Дружныя хлопцы, працавітыя. На свайго старога і па-

добныя былі: гэткія ж здаравенныя, гэткія ж шчырыя, ніколі нікога не пакрыўдзілі, нікому кавалка хлеба не пашкадавалі, на дапамогу па першаму голасу прыходзілі. Радавалася матуля з бацькам, што ў іх такія сыны растуць. Часам сядалі побач і гаманілі:

— Цяпер і да лесу кіраваць не страшна.

— А чаго страшыцца? Такіх хлопцаў на ногі паставілі...

— Што мядзведзі.

— Асабліва Сцяпан.

— Не, Іван не слабейшы.

— А працуюць...

— Ага, што спяваюць.

— Люблю глядзець на іх, як разам ідуць.

— Калі плячо ў плячо.

— А якія ж яны маленькія былі, памятаеш?

— Ды хто лепей за мяне гэта і памятаць павінен...

— Шкада, што хутка пойдзем ад іх...

— Што зробіш, калі жыццё так складзена. Нічога і не перайначыш. Не намі заведзена, не нам і адмяняць.

— Але хацелася б яшчэ сярод дзяцей пажыць, унукаў паняньчыць...

— Мала да гэтага няньчыла?

— Многа, але ўсё роўна цягне. Малыя ж ні крыўды, ні шкоды не робяць. Каб так і сталыя людзі...

— Што зробіш... — глуха азваўся стары і задумаўся.

Маўчала і гаспадыня.

Неўзабаве надышоў той час, калі бацька паклікаў сыноў, а сам з жонкай, апрануўшыся, нібы на свята, селі ў куце. Сцяпан з Іванам ужо адчувалі, што да чаго, і як толькі зайшлі, дык адразу ў іх вочы слязьмі заліліся.

— Што гэта вы, хлопчыкі? — не вытрымала матуля.

— Ай, нешта прымроілася, — азваліся сыны, не жадаючы гаварыць праўду.

— Усё добра, кіньце дурное, — паспрабаваў храбрыцца бацька. Праўда, голас быў нейкі глухі, тужлівы.

— Сядайце, сыночкі, — запрасіла маці.

Сыны селі і апусцілі галовы.

У хаце запанавала цішыня. Напружаная, нейкая нават жудасная. Потым яе парушыў бацька.

— Вось што, хлопцы. Не ведаю, як і пачаць, з чаго вязаць гэтыя словы...

— Ды ўжо... — паспрабавала было і маці, але адразу ж папярхнулася.

— Адным словам, год за годам... Неяк непрыкметна ўсё і праляцела... Трэба вам...

Гаспадар разгублена пазіраў на гаспадыню, але тая таксама апусціла галаву і маўчала, толькі плечы яе калаціліся ад бязгучнага плачу.

— Трэба вам, сыночкі, нас...

Сыны не глядзелі на бацьку.

— Ды што ўжо тут цягнуць... Завядзіце нас заўтра ноччу ў лес... Надышла наша часіна...

— Тата, а можа, яшчэ рана? — адгукнуўся Іван.

— Так, можа, гэта памылка? — падтрымаў брата Сцяпан.

— Не, дзеткі. Нам ужо многа гадоў з матуляй стукнула. Разам мы некалі нарадзіліся, разам вось і паміраць даводзіцца.

Пры словах пра смерць сыны ажно ўздрыгнулі, але бацька працягваў:

— Пражылі мы сваё жыццё добра. Не сварыліся, не смяяліся з нас людзі, што мы гультаі ці абібокі якія. Працавалі. Гаспадарку вунь якую трымалі. Спачатку ўсё на нас адных вісела, а потым вы, нашы дубочкі, падняліся, тады ўжо іншая справа пайшла. Пасля таго як нас адведзяце ў лес, не спрачайцеся, не лайцеся, усё паміж сабою пароўну падзяліце. Хаціны далёка адна ад другой не стаўляйце. Так лягчэй і руку пры небяспецы падаць будзе, і калі якое іншае ліха надарыцца, то таксама лягчэй выправіць.

Маці ўсміхнулася:

— Давайце, дзеткі, болей не будзем пра смерць гаварыць. Давайце лепей прыгадаем, што каму найболей запомнілася, каб ведалі, з чым мы ідзем ў глухі лес. Каб унукам нашым расказвалі, якія мы былі, каб не палохалі іх намі...

— Намаркоціцца паспееце, сыночкі, — падаў голас і гаспадар, — ■ нам хочацца адысці туды вясёлымі, каб ніякія клопаты на нас не віселі. Гэта наша апошняя ноч. Наступная будзе ўжо не тут, а ў глухім лесе...

Пачалі яны згадваць вясёлыя выпадкі і ў нейкай ступені і сапраўды забыліся пра смутак. Потым гаспадар устаў:

— Ідзіце, сыночкі, адпачывайце, а то вам жа заўтра яшчэ трэба цэлы дзень працаваць, ■ потым яшчэ і ноччу не спаць... Мы тут удваіх пасядзім, яшчэ што-небудзь прыгадаем. Заўтра мы вам ужо не памочнікі, застанемся дома...

Пажадалі сыны бацькам спакойнай ночы і выйшлі. Зайшлі ў сваю палавіну, але спаць не клаліся, сядзелі на палку ды пра нешта думалі.

Сцяпан прамовіў:

— Эх, каб можна было пакінуць іх...

Іван спачатку маўчаў, здавалася, што і не чуў братавых слоў, але потым страсянуўся:

— Як ты сказаў? Пакінуць?

— Ага... Хіба ты не жадаеш гэтага?

— Яшчэ як хачу, братка, таму і перапытваю. А ведаеш што? Давай іх пакінем.

— Як гэта?

— Проста.

— Проста? Але ж іх заўважаць...

— Не заўважаць, калі ў нас галовы на плячах, а не гарбузы з вушамі.

— Дык гавары тады, не цягні. Толькі цішэй, каб дзеці ды жонкі нашы не пачулі, а то яшчэ незнарок дзе прагаворацца, тады ўсе нашыя памкненні бокам пойдуць.

Браты сцішыліся, і Іван зашаптаў:

— А не павядзём іх да лесу.

— Але ж...

— Мы павядзём, як і трэба, з вечара... А потым вернемся назад.

— Не...

— Не спяшайся. Не адны вернемся, а з бацькамі.

У Сцяпана адвісла ніжняя губа. Нават у цемры гэта было добра відаць, таму малодшы брат не вытрымаў і грамчэй прамовіў:

— Губу прыбяры, а то лапцем наступлю.

Другі раз Сцяпан не дараваў бы такой абразы, а тут і кулаком не варухнуў.

— Куды ж мы іх тут схаваем?

— Не тут, бо ў хаце і дзеці, і гаспадыні, і суседзі нечакана зайсці могуць, ды ці мала можа здарыцца...

— А дзе ж тады?

— Трэба месца вернае выбраць. Каб і навідавоку было, і каб ніхто не здагадаўся, што там нехта ёсць.

— Трэба думаць...

Зноў прыціхлі браты. Але на гэты раз цішыню перабіў ужо шэпт Сцяпана:

— Ведаю... Ведаю, дзе можна схаваць...

— Дзе?

— У старой варыўні... У той, што ў канцы агародаў стаіць, ля самага лесу... Тут жа мы пастаянна корпаемся, людзі і не дадумаюцца ў варыўню зазірнуць. А бацькі нас бачыць будуць, дзяцей нашых...

— Вось малайчына, братка, што да гэтага дадумаўся, — пахваліў Іван Сцяпана.

— Чакай радавацца, тут мяне яшчэ адна думка даймае...

— Якая?

— Ці пагодзяцца яны з нашымі дзеяннямі?

— А мы,ведаеш, што скажам? Скажам праўду: што не можам без іх і не хочам весці людзей, самых блізкіх, самых родных нам, у лес на з'ядзенне ненажэрным звярам. Што мы ад сваіх бацькоў адмаўляцца не збіраемся...

Дачакаліся браты раніцы і, як ні ў чым не бывала, пайшлі на працу. Адшчыравалі на ніве і вярталіся дамоў. А бацькі стаялі і пазіралі на дарогу. Канечне, і ім не хацелася ў той глухі лес, ды не паказвалі выгляду, стаялі і перамаўляліся:

— Глядзі ты, як бойка крочаць, нібы нічога і не здарылася, — не ўтрываў стары.

— А што такога здарылася? — уступілася за дзяцей жонка.

— Ды падумалася...

— Табе падумалася, і адразу ляпаеш абы-што. А ім, думаеш, лёгка ўсё гэта рабіць?

Сыны не надта спяшаліся да бацькоў. Павячэралі, пераапрануліся і тады толькі падаліся ў другую палову хаты.

Бацькі ўжо сядзелі таксама апранутыя і нейкія сцішаныя.

— Ну што, пайшлі? — звярнуўся Сцяпан да старых.

Тыя моўчкі ўсталі, паглядзелі па кутах, гаспадыня для нечага падгрэбла вугольчыкі на прыпечку, і пераступілі парог.

— У апошні раз, — падаў голас стары.

Яго, праўда, ніхто не падтрымаў. Гаспадыня плакала, а сыны, здавалася, не звярталі на гэта ўвагі. Далей крочылі моўчкі. Стары ўсё парываўся нешта сказаць, але баяўся, што астатнія здагадаюцца, як яму зараз цяжка і як не хочацца пакідаць родны падворак. Калі падышлі да старой варыўні, якая самотна віднелася ў змроку, то гаспадар не вытрымаў і заплакаў:

— Чаго ты, мужу? — падала голас гаспадыня.

— Ды ўсё ж сваімі рукамі стаўляў і болей ніколі не ўбачу... Назаўсёды развітваемся...

— Што зробіш, не адным нам такі лёс выпаў...

— Так-то яно так, але гэта не суцяшэнне.

Увайшлі ў лес. Сцяпан, які ішоў першым, перасцярог:

— Асцярожна, каб вочы не павыбіваць.

— А навошта яны нам, вочы? — здзівіўся бацька. — На пару гадзін, а там...

— Гэта яшчэ як сказаць, — азваўся Іван. — Вочы губляць не спяшайцеся, яны заўсёды спатрэбяцца. Так, братка?

Колькі часу ішлі моўчкі, ■ потым Сцяпан перабіў цішыню:

— Што, можа, адпачнём?

— Які адпачынак? Ты што, здурнеў? — накінуўся на яго бацька. — Калі так сунуцца будзем, то вы нас і за двое сутак ў глухі бор не заведзяце...

— Туды паспеем, — заключыў Іван. — Сядайце ды адпачніце.

Старыя моўчкі селі, але па ўсім было відаць, што іх гэтая прапанова насцярожыла.

— І доўга мы тут валэндацца будзем? — загаманіў стары.

— Пасядзім з гадзінку, ■ потым і далей пойдзем.

— Гадзінку?!

— А што, мала?

— Не смейцеся!

— Мы і не смяёмся.

— Збірайцеся ды пакіруем далей.

— Не спяшайся, бацька...

— Растлумачце, што задумалі.

— Ды ўжо ж давядзецца... Мы не пойдзем у той глухі куток, куды раней бацькоў вадзілі...

— А куды?

— Мы ўсе назад вернемся.

— Ой, дзеткі мае, а чаму ж гэта? — ускінула рукі матуля.

— Вельмі проста — мы не хочам вас губляць. Пракарміць вас пракормім у любым выпадку, а на з'ядзенне дзікім звярам не аддадзім.

— А што людзі скажуць?

— Раней жа нічога не казалі, калі безабаронных ста-

рых пасярод пушчы кідалі. Нікому і ў галаву не прыходзіла апраўдвацца.

Старыя змоўклі. Сыны, заўважыўшы іхнія ваганні, пачалі пераконваць далей:

— Мы ўсё прадумалі. Будзеце жыць у старой варыўні, што ў канцы агарода, а мы вам будзем есці па чарзе насіць.

— Але ж калі нехта заўважыць? — нерашуча запытаўся бацька.

— А мы, па-першае, нікога не баімся. Мы — вашыя дзеці, і гэтым усё сказана. Мы так вырашылі, — катэгарычна адрэзаў Іван.

Вярнуліся яны дамоў. Жонкі сыноў, можа, пра нешта і здагадваліся, але выгляду не падавалі. А сынам радасна было, што сваіх старых уратавалі ад вернай смерці. Вечарам каторы заходзіў у варыўню пагаманіць з бацькамі, ды яшчэ спецыяльна прасіў:

— Мы заўтра далекавата ад хаты будзем. Вы сачыце за малымі. Не вылазьце, але калі што якое, то голас падайце, п мы іх папярэдзім, скажам, што за імі будзе лесавік наглядаць і, калі што якое, пакрыкваць.

— Добра, сынку, — радаваліся дзед з бабай. — Нам бы толькі працу якую, а то сумна, маркотна без яе сядзець.

— Будзе яшчэ і праца, не спяшайцеся. Усё будзе.

Так і мінаў час. Усё ішло спакойна да тае пары, пакуль ліха не здарылася: загаманілі людзі, што паморак пачаў лютаваць у гэтым краі, а як ад яго ратавацца, ніхто і не ведаў. Адзін тое раіў, другі — другое казаў, ды не атрымлівалася нічога. А ўжо з суседніх паселішчаў прыбягалі:

— Паморак... Паморак набліжаецца... Ратуйцеся...

Тады браты вырашылі запытацца ў бацькі. Ён жа намнога за іх старэйшы і павінен ведаць, як людзей уратаваць ды іхнюю жывёлу.

Вечарам пайшлі абодва ў варыўню і распавялі бацьку пра паморак. Той уважліва выслухаў, памаўчаў і прамовіў:

— Быў некалі, у маёй маладосці, такі выпадак. Ратаваліся мы тады ад пошасці, але гэта амаль тое самае. І нам удалося вырвацца з зубоў смерці...

— А як?

— Мы лес валілі і на свежае месца хаціны пераносілі.

Да сябе ніякіх людзей не дапускалі, жывёлу трымалі ў хлявах, дымам абкурвалі ўсё навокал. Калі дрэвы валілі, то дроў жа хапала.

Сцяпан падаў голас:

— Ці многа, бацька, мы з Іванам навалім? Тут трэба ўсё хутка зрабіць.

— А вы не самі. Вы талакою.

— А гэта яшчэ што такое?

— Гэта калі ўсе людзі разам збяруцца і адну працу робяць, у дадзеным выпадку — дрэвы валяць.

Радасныя сыны з самае раніцы паджгалі да вяскоўцаў. Растлумачылі, што да чаго, і давай рабіць так, як бацька навучыў. І што ж вы думаеце? Ураталіся. Усе выжылі, ніхто не памёр. Тады кінуліся аднавяскоўцы да братоў:

— Хто ж вас навучыў?

— Ды бацька падказаў.

— Чый?

— Наш.

Перасталі тады людзі старых людзей у глухі лес паміраць вадзіць, а наладзілі вялікае гулянне. Ехаў адзін падарожны тым краем і запытаўся:

— Чаго гэта ў вас такая калатнеча?

— Ад талакі калатнеча, — адказвалі яму радасныя людзі.

Нічога той не зразумеў добра, а паехаў хутчэй далей, часта пра сябе паўтараючы: «Ад талакі калатнеча... Ад талакі калатнеча...»

Паўтараў, пакуль не пераблытаў і не атрымалася: «У талачы калатнеча...»

Таму людзі і назвалі тое вясёлае паселішча Талачын, такую далі назву, якая вяла свой пачатак ад талакі.

## ЕЛЬНІКІ (Папоўка)

Жыў у нас некалі поп. Хто яго ведае, як звалі таго бацюшку, не захавалася ягонае імя ў памяці людзей, а можа, і спецыяльна не захавалі, бо быў ён надзвычай скваліны. Жонку сваю са свету белага гатовы быў звесці за тое, што тая падавала жабракам.

— Чаго гэта ты раскідаешся маім дабром?!

— Дык сорамна ж. Усе людзі як людзі: і пакормяць

жабракоў, і пераначаваць пусцяць, і з сабой есці дадуць, а мы...

— Няма чаго. Будзеш кожнаму жабраку хлеб даваць, то ў хуткім часе і сама па белым свеце пойдзеш.

Аднаго разу ішлі два жабракі і хлопчык-павадыр з імі. Ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка, дзе пераначуюць, дзе адпачнуць. Не прывыкаць ім было да бясконцых дарог, не было куды і спяшацца. Вось і прыйшлі яны ў вёску, дзе той сквапны поп жыў, і гэта ж трэба такому здарыцца — выйшлі да папоўскага падворка. Заўважылі чалавека і кажуць:

— Падары, чалавечку, нам паесці...

— Не чалавек я вам! — пачулася грознае ў адказ.

— А хто ж?

— Бацюшка я мясцовы!

Тыя падумалі, што калі бацюшка, то абавязкова падасць перакусіць, і зноў пачалі прасіць:

— Бацюшка, божы чалавек, падай нам скарынку хлеба, Хрыста радзі... Падай...

Поп ажно пачарнеў са злосці, а жабракі ж гэтага не заўважалі і па-ранейшаму цягнулі:

— Падай скарыначку, бацюшка...

Поп узарваўся:

— Прэч адсюль! Хіба не бачыце, што я на абедню сабраўся?!

— Якая абедня? Ужо ж надвячорак...

— Яшчэ і перабрэхвацца са мной надумалі?!

Зразумелі жабракі, што нічога ім тут не свеціць, і павярнуліся было ісці, але было ўжо позна: поп спусціў на іх, небарак, сваіх злых сабак. Добра, што пачулі людзі крыкі падарожных і выратавалі іх, а то да смерці пагрызлі б сабакі... Адзін са старых толькі і прамовіў са слязьмі на вачах:

— Каб жа ты, злыдзень, са сваімі сабакамі перабрэхваўся... Каб яны цябе гэтак грызлі, як нас ды нашага хлапчука...

Павялі людзі гаротных далей ад гэтага страшнага месца, усе узрушаныя, раззлаваныя.

— Гэта ж трэба так з людзьмі абыходзіцца. Ну, пашкадаваў ты даць паесці, але навошта сабакамі натравіў?!

— Нам не прызвычайвацца, але хлопчыка нашага шкада... Сірацінку падабралі, прыгрэлі, сканаць не далі, а тут вось што вырабляецца... Ды каб хто іншы гэта рабіў, а то сам бацюшка, які людзей дабро рабіць заклікае...

Другі жабрак увесь час маўчаў, адно толькі перабіраў збялелымі вуснамі і пра нешта думаў. Потым і ён азваўся:

— Нічога, той, што на небе, усё бачыць. Не толькі нас лёс не шкадуе, але і папа гэтага таксама пашчыпле добра...

— Што ты гаворыш, дзедку? — пачалі дапытвацца вяскоўцы.

— Тое, людцы, што добра ведаю. Пакарае яго Бог, такое зло нікому не даруецца. Нікому, і яму таксама. Пабачыце.

Накармілі людзі жабракоў, супакоілі іх і спаць паклалі. Паснулі і самі, а ноччу занялося такое полымя, што на пару вёрст відаць было. Пакуль расчомаліся вяскоўцы, пакуль павыскаквалі з хацін ды здагадаліся, што гарыць папоўскі дом, то і пажар тушыць было позна, усё там пагарэла. Ледзьве бацюшка з жонкай ды з дочкамі паспеў праз акно выскачыць.

Пачаў ён галасіць, але ніхто яму не спачуваў:

— Вось і ты спазнаў, як добра на душы, калі такое гора здараецца. А то самы разумны быў, усіх павучаў, патрабаваў, каб табе падпарадкоўваліся... І цябе Бог пакараў. Не ўсё ж чужую кроў піць.

Бегаў, круціўся поп, але да каго ні падскокваў — усе адварочваліся. Хоць здаўна разумелі ў народзе, што чалавеку ў горы трэба дапамагаць, ды не такому ліхому, які быў іхні бацюшка.

— Што рабіць мне цяпер? Што рабіць?

Маўчалі вяскоўцы, а поп, нібы заведзены, дапытваўся:

— Што рабіць? Парайце, дапамажыце...

Чыйсці голас бухнуў:

— А ты людзям дапамагаў? Ты каму кавалак хлеба даў ці, можа, нешта пазычыў?

— Дурны быў...

— А цяпер, значыцца, паразумнеў?

— Ага... Дапамажыце, людзі добрыя. Дапамажыце...

— Мы табе дапаможам, а ты потым за ранейшае возьмешся?

— Не, такім ніколі болей не буду.

Стаялі сяляне, пераміналіся нерашуча, не ведалі, што рабіць. Сітуацыю разрадзіў адзін стары дзядулька-вясковец:

— Даганяй тых жабракоў. Калі яны табе даруюць,

тады ўсё і наладзіцца. Іначай нічым не выправіш свайго становішча.

Паджгаў поп па дарозе, толькі пыл ззаду слупамі ўзняўся. Доўга ён бег, ажно ўзмакрэў увесь, але нарэшце дагнаў тых старых з павадыром. Упаў перад імі на калені і давай прасіцца:

— Даруйце мне, людзі добрыя. Нейкая сіла чорная ў той момант на мяне напала, не памятаю, што і рабіў. Даруйце...

Старцы спыніліся і пераглянуліся. Потым адзін з іх ціха сказаў:

— Добра, мы паспрабуем табе дараваць, але пры адной умове: ты пойдзеш з намі і мы цябе выпрабуем. Калі вытрымаеш, то даруем, а не — дык не.

— Згодны, згодны я, — затараторыў бацюшка, — як хочаце мяне выпрабоўвайце, толькі зрабіце так, каб зноў да мяне мой нажытак вярнуўся.

— Вярнуцца ён не вернецца, будзеш нажываць яго па-новаму. І яшчэ адно: каб людзей болей не крыўдзіў, бо наша слова і тады цябе дастане.

З таго дня стаў бацюшка з жабракамі па белым свеце хадзіць. Старыя прывучвалі свайго спадарожніка людзям дабро ды шчасце прыносіць, [redacted] не крыўду і зло. Самі пасядуць адпачываць, хлапчука свайго прылашчаць, [redacted] бацюшку загадваюць:

— Назбірай ламачча, запалі вогнішча і пастаў вадзіцу грэцца ў гаршчэчку...

У другім выпадку поп за такія загады ды за словы ім такога нагаварыў бы, што яны і з месца не зрушыліся б, а тут адразу кідаўся выконваць. Стараўся выслужыцца, бо баяўся, што падмануць яго старыя, адпомсцяць яшчэ болей за тое, што ён ім зрабіў. Так месяцы тры бацюшка з імі хадзіў, а аднаго надвячорка адзін з жабракоў прамовіў:

— Тут мы цябе і пакінем. Тут жыць застанешся. Забярэш родных, і, каб ніхто пра тваё мінулае не здагадаўся, — тут заставайся.

Жабракі далей пайшлі, а бацюшка застаўся. Пабудаваў сабе хаціну, перавёз сям'ю і зажыў. Тую горку, дзе папоўская сядзіба стаяла, людзі Папоўкай празвалі, а пазней і вёска назву ад яе атрымала. У Ельнікі перайменавалі яе значна пазней.

# КОЛАСАВА (Халопкавічы)

Некалі, яшчэ за прыгонам, усіх сялян прымушалі на памешчыкаў працаваць, спуску людзям не давалі. Мала таго, што памешчык здзекаваўся, то яшчэ аканом ці войт біў дзе папала і чым папала.

Тут, дзе зараз наша вёска стаіць, некалі было панскае поле. Прозвішча таго памешчыка, [redacted] можа, гэта і мянушка, было Хлапкоўскі. Казалі, што яно да яго таму прыляпілася, што ён за кожным словам імкнуўся падкрэсліць, што сяляне не людзі, а ягоныя халопы:

— Што вы, хлопы, парадку не ведаеце? Мала бізуноў у вашы худыя спіны ўпівалася?

Хто не спраўляўся адпрацаваць ці нечым крыху правінавачваўся, таго сярдзіты Хлапкоўскі загадваў забіраць да сябе ў маёнтак. Адтуль людзей дамоў назад ужо не выпускалі, там яны і гнуліся да скону жыцця.

Аднойчы войт накіраваў двух такіх бедалаг — старога і маладога — араць панскую ніву.

— На дваіх вам дзённая норма — палова гэтага поля.

Стары араты змоўчаў, а малады паспрабаваў было аспрэчваць:

— Ці адолеем мы за дзень?

— А мяне гэта не хвалюе.

Тады на дапамогу паспяшаўся стары:

— Дык валы ж не выцягнуць...

— А вы адзін аднаго прыпрагайце, тады справа весялей пойдзе.

— Пану жарты, а нам...

— А што вам? Хадзіце за плугам, дый годзе. Толькі тае працы. Няхай валы плугі цягаюць. Давайце за справу. Пад вечар праверу.

Неўзабаве па ніве пацягнуліся першыя баразёнкі.

Доўга аралі вяскоўцы. Ужо ледзьве ногі перастаўлялі, але хацелі да полудня палову зрабіць, а пасля, калі валы крыху паскубуць травы, дабіць другую. Стары так і сказаў:

— Пасля полудня, хлопча, працаваць няма калі. Не паспееш азірнуцца, як ужо вечар над галінамі павісне.

— Але [redacted] ўжо не магу...

— Думаеш, мне лёгка? Доля наша, чалавеча, такая.

— Згары яна, такая доля.

— Не згарыць, а разам з намі скончыцца.

Узаралі яшчэ крыху і пайшлі да куста, ля якога пакінулі сваю торбачку з кавалачкам праснака ды бутэлькай малака на дваіх. Што ж там той яды на дваіх: праглынулі — і не заўважылі. Стары нават пасмяяўся:

— Нам бы зараз малочную крыніцу...

А малодшы дадаў:

— І сцірту пірагоў. Тады б і аралася. І яшчэ... паспаць бы якую гадзінку.

— З гадзінку можна і падрамаць, — пагадзіўся стары. — Войта зараз не павінна прынесці, а болей тут нікога няма. Ты лягай, а я табе гісторыю адну распавяду, як дзед са смерцю пасябраваў і дзякуючы гэтаму стаў багатым гаспадаром.

Час ляцеў незаўважна. Не паспеў стары араты дагаварыць сваю показку, як раздаўся крык. Крычаў стары пан:

— Што?! Хто дазволіў?! Спаць?! Не працуеце, а толькі дарма хлеб пераводзіце! Войт! Пакараць!

Ухапіў войт са слугамі бедалаг-аратых, прывязалі іх да дрэваў і закатавалі да смерці. Так тое месца, а пазней і вёску, сталі ў народзе называць — Халопкавічы, бо там жыцця халопаў, ці хлопаў, як сам памешчык гаварыў, пазбавілі. Потым назву змянілі, і стала вёска Коласава.

## ЛЕСІНА (Кулакі)

Было ў бацькі пяцёра сыноў і тры дачкі. Гаспадара звалі Нічыпарам, і займаў ён пасаду княжацкага палясоўшчыка. Была тады такая. У ягоныя абавязкі ўваходзіла сачыць за парадкам у бліжэйшых лясах ды, заўважыўшы якое парушэнне, паведамляць ляснічаму, а той ужо даводзіў гаспадару. Нічыпар быў спраўным служакам, ніводнага разу яго не лаяў пан ляснічы, толькі ў прыклад іншым ставіў. А тыя слухалі і разважалі, у чым жа справа, чаму ў Нічыпара ўсё нармальна, а ў іх не атрымліваецца? Таксама ж стараюцца, недаядаюць і недасыпаюць...

— Можа, ён нешта нячыста робіць?

— Хто ж яго там ведае...

— А можа, браткі, ён з лесавіком якую сувязь мае?

Тут усе прыціхлі.

— А што ж вы думаеце? — не вытрымаў нехта. — Такое не выключана...

— Можа, якія адносы робіць свайму лесавіку, дык той яго і падтрымлівае.

— Цікава было б даведацца...

— Яно, канечне, няблага б. Але як?

— Вось у гэтым і ўся справа. Трэба меркаваць.

— Давайце, браткі, вось што зробім. Не спяшаймася зараз па хатах, а прысядзем вось тут, на палянцы, і абмяркуем, як ды што. Можа, неяк і дадумаемся, як пра Нічыпараву таямніцу даведацца.

Паселі палясоўшчыкі ў цеснае кола пасярод чыстай палянкі і загаманілі. Спакойна гэтак, памяркоўна, нікога не палохаючыся, бо ведалі, што ляснічы ніколі па лесе сам не ездзіць, а Нічыпар да ўласнай леснічоўкі іншым шляхам вяртаецца. Каб жа яны ведалі, што той проста дзеля цікаўнасці на гэты раз за імі вырашыў прасачыць, дык не сядзелі б гэтак спакойна, а то...

Гамоняць палясоўшчыкі, нікога не баяцца, ў якім дзесятку крокаў, у густым кустоўі, стаіўся Нічыпар і ўважліва ловіць кожнае слова.

— Давайце прасцей зробім, — запрапанаваў раптам хтосьці са змоўшчыкаў.

— Як прасцей?

— Не будзем тут галовы свае тлуміць ды нейкія грандыёзныя планы будаваць.

— Не пабудуеш, дык да чорта нашыя намаганні палязяць, — незадаволена буркнуў ці не самы старэйшы з палясоўшчыкаў.

— Я не супраць плана. Я супраць усяго вельмі складанага.

— Што, з галавой не ўсё добра? Не ўспрымае складанага? — зноў не ўтрымаўся нехта.

Астатнія весела зарагаталі, але той, хто прапаноўваў, не пакрыўдзіўся, наадварот, працягваў далей:

— Мы проста... Проста прасочым.

— Думаеш, атрымаецца? Нічыпар жа не дурань...

— Ведама што. Але ж і мы не дурні. Думаю, што з ночы трэба засесці ў засаду непадалёку ад ягонай леснічоўкі і ўважліва за ўсім сачыць.

— Справу гаворыш.

— Доўга сядзець давядзецца.

— Затое даведаемся, як ён са сваім лесавіком кантачыць.

— Дык так і зробім. Ніхто ж нічога іншага не прапаноўвае, на гэтым і спынімся.

— А калі збірацца?

— Давайце з самага вечара, у мяне. Бо ад майго падворка да Нічыпаравага ці не сама бліжэй будзе.

— Тады дамовіліся. А зараз, браткі, па хатах.

Падбадзёраныя такім рашэннем, палясоўшчыкі дружна пакіравалі па дамах, каб праз некалькі гадзін зноў сабрацца.

Нічыпар пачакаў, пакуль яны разышліся, і вылез са сваёй схованкі. «Так, значыцца, я ўжо і з лесавіком сябрую... Цяпер будуць сачыць, як я гэтую самую сувязь здзяйсняю... Няхай паглядзяць, няхай пачакаюць, а я абавязкова што-небудзь прыдумаю. Прыдумаю...»

Так пагаманіў сам з сабою, а потым пабег. Бег ды пасмейваўся: «Запомняць яны на ўсё жыццё, як за мною сачыць... Я ім зраблю...»

Прыджгаў палясоўшчык дахаты і да жонкі:

— А дзе хлопцы?

— Ляда карчуюць, а што?

— Нічога.

— Садзіся есці.

— Не да гэтага.

Прыбег бацька на ляда і да сыноў:

— Пайшлі дамоў, хлопцы, праца неадкладная ёсць.

Тыя прызвычаіліся, што ўсім кіраваў бацька, і нават пытанняў ніякіх не задалі. Ля хаціны гаспадар прамовіў:

— Сыночкі, трэба саломы панакладаць у невялікія копны... Вось там... У пяць...

— А чаму ў пяць?

— Бо вас у засадзе будзе пяцёра... Я ў хаціне застануся...

Зрабілі гэтую справу, тады палясоўшчык далей даводзіць:

— Цяпер вазьміце па добраму цурбалку і схавайцеся. Госці прыйдуць, дык адразу не чапайце, знак падам я. Хавайцеся.

Палясоўшчыкі, дачакаўшыся змяркання, сунуліся да Нічыпаравай леснічоўкі. Заўважылі копны з саломай, і нехта ціха зашаптаў:

— Як для нас зроблена... Хаваемся ў іх.

Пазашываліся ў салому і пазіраюць на хаціну. А ноч ужо глухая стаіць. Раптам адчыніліся дзверы, і на парозе, у водсвеце агню, з'явіўся гаспадар з вялізным чыгуном у руках. Да засаднікаў данеслася:

— Куды ты гэта прэш?

— Аднос лесавіку нясу...

Палясоўшчыкі напрагліся. Не чакалі, што гэтак хутка далучацца да чужой таямніцы.

А Нічыпар борздзенька пакрочыў да адной з копнаў. Падышоў і... лінуў кіпень на салому. У адказ разнёсся дзікі крык і з капны вылецела двое леснікоў.

— Лупі іх, хлопцы! — данеслася да астатніх.

Спачатку і не зразумелі, што да чаго, але калі іх пачалі лупцаваць цурбалкамі ды дапамагаць яшчэ і кулакамі Нічыпаравы сыны, то тады дайшло да палясоўшчыкаў, што іх купілі. Плетанулі яны ўцякаць, але мала каму не перапала ў бакі.

Пазбіраліся, можа, праз пару гадзін ля той самай хаціны, адкуль рушылі ў засаду. Усе чухаліся, войкалі, абмацвалі гузакі, і нехта ўсё стагнаў:

— Але ж і кулакі! Кулакі! Што вёдры!

— Сапраўдныя кулакі! Ці ж так біць за тое, што падглядзець хацелі?

З таго часу палясоўшчыкі паміж сабою пачалі клікаць Нічыпара Кулаком. Потым людзі назвалі так невялікае паселішча, якое ўтварылася на месцы невялічкай леснічоўкі. Так і вёска пайшла — Кулакі. Пазней перайменавалі ў Лесіна.

## ПАЛЯВАЯ (Манастыры)

Даўней цэрквы былі рэдка. Трэба было пару дзесяткаў вёрст адмераць, каб памаліцца Богу ды прынесці яму якія ахвяраванні. Дарма кажуць, што толькі пры язычніцтве ахвяры прыносілі. І нашыя бацькі некалі таксама і ў праваслаўныя храмы неслі ўсё, што дома было. Бацюшка ніколі не адмаўляўся, глядзеў, наадварот, каб хто не ўхіліўся ад такіх прынашэнняў.

Мне самой не выпадала хадзіць да царквы, бо я пастаянна хварэла. Нарадзілася такая.

Бацькі, бывала, на ўсяночную як пойдуць, дык да самай раніцы няма. Сяджу тады адна дома. І страшна мне, і сумна, і плакаць з такой нагоды хочацца. Колькі слёз і праліла — гэта аднаму Богу вядома.

І вось аднаго разу здарылася такое, адкуль і пачалася ўся гэтая гісторыя. Справа была якраз перад Вялікаднем.

Мае ўжо пакіравалі да царквы разам з суседзямі, каб не так маркотна было тыя вёрсты мераць.

Царква была тады прыгожая, вялікая, мураваная. Здалёк яе было відаць, свяцілася-гарэла на сонейку.

Мае пайшлі, а я выйшла на ганак, потым на прызбу прысела і заплакала. Крыўдна стала, за што на мяне такое пакаранне абрынулася? Ажно падалося мне, што нехта насупраць мяне стаў і ўважліва пазірае. Узняла галаву: і сапраўды — сусед наш, Цімох, стаіць і пасміхваецца. Выцерла я твар, але ж супакоіцца адразу не магу. Тады сусед і пытаецца:

— Чаго гэта ты, Тадорка (так мяне завуць), плачаш? Гавары, не саромейся. Я, можа, не з таго смяюся, што ты плачаш...

— А з чаго? — вырвалася ў мяне.

— З таго, што ўсё гэта дробязі ў параўнанні з вялікай бядой.

— У мяне, значыцца, бяда невялікая? Я цяжка хварэю, не магу з людзьмі ў царкву пайсці, а ты сцвярджаеш, што бяда невялікая?..

— Канечне.

— Ты мне лепей скажы, чаго ты не пайшоў да царквы? Усе падаліся, старыя ды малыя дома засталіся, і ты з імі...

— А што я там забыў? — пытаннем на пытанне адказаў Цімох.

— Як што? А малебны, і людзі навокал, і свята?..

— Не люблю я ўсё гэта. Тлумна там. Крычаць, штурхаюцца, кірхаюць, хоць усе сцвярджаюць, што прыйшлі з адзінай мэтай — памаліцца Богу. Лепей дома пасядзець, спакайней.

— Але ж і памаліцца час ад часу трэба.

— Я і малюся.

— Дома?

— Ды не. Дома яснае сонейка перашкаджае.

— Не зразумела...

— Тады скажу больш зразумела — на малебен свой хаджу ў наш лес.

— У лес?.. Але ж гэта грэх...

— Ніякага граху ў гэтым не бачу. Я ж нікому не перашкаджаю да Усявышняга звяртацца, няхай і мне не замінаюць. Я пра гэта не расказваю, дык ніхто і не ведае.

— Ой, як жа гэта...

— Вельмі проста: сам сабе і Бога выбраў, і царкву пабудаваў.

— Добра табе. Ты здаровы, хадзіць паўсюдна можаш. А што мне казаць...

— Давай я і табе дапамагу.

— Ты?.. Дапаможаш?.. Не смяшы, Цімох, мне ўжо каго толькі ў хату не прыводзілі, а лягчэй ад гэтага не зрабілася. Не жартуй, грэх гэта.

— Я сур'ёзна кажу. Што, ты мне не верыш?

— Нешта вагаюся...

— Дзякуй, што шчыра адказала. Мне лягчэй будзе выправіць тваю хваробу.

— А што для гэтага трэба?

— Нічога асаблівага. Вось пачакаем з паўгадзіны і пойдзем на маё месца.

Доўга вёў мяне сусед. Я ўжо і спалохалася крыху, ноч жа была на дварэ. Але Цімох упэўнена вёў наперад. Я стамілася і запрасілася:

— Цяжка мне ісці, галава кружыцца...

— То давай перадыхнём, але табе абавязкова трэба дайсці. Слухайся мяне, і я цябе пастаўлю на ногі.

Нарэшце мы спыніліся і Цімох выдыхнуў:

— Тут...

— Але тут жа нічога няма... Звычайны лес навокал...

— Звычайны ён толькі на першы погляд, а для мяне тут усё святое: і гэтая палянка, як лапінка, і гэтыя дубкі, і, найперш, гэты здаравенны асілак, які ўзвышаецца над ляснымі абшарамі...

— Чаму?

— У яго маланка, Тадорка, пастаянна б'е. А хіба ты не чула, што дрэвы, у якія трапляюць вогненныя стрэлы Перуна, здольны вылечваць людзей ад самых цяжкіх хвароб?

Пагаманілі мы пару хвілін, і Цімох пачаў нешта нашэптваць. Потым сусед сказаў:

— Дам я табе крыху атрэсткаў ад дрэва і кары. Ты іх заварвай, нібы маліннік, і пі той узвар. Па тры разы на дзень. А ў наступную суботу мы з табой зноў сюды прыйдзем. Праз пару месяцаў ад тваёй хваробы і следу не застанецца.

Так і вылечыў ён мяне. Як ён ні прасіў, я ўсё ж распавяла родным ды блізкім, хто мяне выратаваў. Тыя кінуліся, каб аддзякаваць суседу, але Цімох усё адмаўляў.

Пазней вяскоўцы даведаліся, што ён увогуле пераб-раўся жыць да таго, абагаўлёнага ім самім, дуба. Тое месца сталі называць Манастырок. Ад таго, што там, як манах, жыў просты чалавек. Казалі, што да яго яшчэ некалькі сялян далучылася. Тады ўжо назву перайначылі ў Манастыры. Значна пазней яна стала Палявой.

## ЦАРКОВІШЧА

Жылі некалі маці з сынам. Беднавата жылі, цяжка ім даводзілася. А тады людзі таксама дзяцей крыху вучылі то грамаце, то як гаспадарку весці ды разжывацца. Таму і маці вырашыла павесці Сцяпанку свайго вучыць.

Не надта хацелася малому, але што зробіш. Сабраліся яны і пайшлі, а дарога была не простая, далёкая, пакручастая. Прайшлі многа ці мала, стаміліся і вырашылі адпачыць.

— А дзе прысядзем? Мясцінкі прыдатнай паблізу не бачна, хіба што... на могілках?

— А чаму б і не. Мы ж нічога благога рабіць не збіраемся, толькі адпачнём.

Падышлі да могілак, прыселі на вялікую магільную пліту, і маці горка-горка выдыхнула: «Ох...»

Ажно ў той жа самы момант выскачыў здаравенны дзяцюк:

— Клікалі?

— Каго?

— Мяне.

— А хто ты такі?

— Ды я і ёсць той самы Ох.

— Гэта я выпадкова прамовіла...

— Ты як сабе хочаш, але я павінен табе з гэтага моманту служыць.

Памаўчалі крыху, і потым Ох запытаўся:

— А куды гэта ты, гаспадыня, ідзеш?

— Вяду свайго Сцяпанку вучыць. Ды малы ён яшчэ, прытаміўся, сабраліся адпачыць. Таму тут селі, і вось што атрымалася...

— Зразумела... То давай я твайго сына і навучу.

— А ці не сапсуеш мне яго?

— Ды не, не бойся.

— То заставайся, Сцяпанка, з Охам.

— Баюся я, мамачка.

— Не палохайся, сынку. Думаеш, у іншым месцы лягчэй будзе? Там жа таксама многае табе невядома. Заставайся.

Развіталася маці з сынам, ■ з Охам дамовілася, што прыйдзе роўна праз тры гады на гэтае самае месца, каб забраць Сцяпанку. Шкада ёй было пакідаць малога, тым болей што зусім жа не ведала Оха, ды нейкае пачуццё падказвала, каб не палохалася. Азірнулася матуля яшчэ пару разоў і паплялася дамоў.

Час гэты цягнуўся для жанчыны надзвычай марудна. Не магла дачакацца, калі ж гэта тыя тры гады скончацца. Сумавала, бо раней хоць са Сцяпанкам магла ў хаціне пагаманіць, з ім разам у поле выйсці ці на луг, ■ тут — усё сама. Вельмі часта яна плакала. Дзе прыхінецца, там і плача. Вяскоўцы суцяшалі як маглі, але з гэтага мала што атрымлівалася.

— Ніяк не дачакаюся, людцы, калі да Сцяпанкі ісці трэба.

— Усё добра будзе, пабачыш.

— Можа, яно і так, ды вельмі перажываю, супакоіцца не магу.

Нарэшце прыспеў той дзень. Яшчэ да полудня, да тае часіны, калі павінен быў прыйсці Ох, жанчына ўжо пабегла да магілы. Села і цярпліва чакала. Сонца марудна паўзло па небе. Калі яно ўзнялося даволі высока, сялянка крыкнула: «Ох!..»

Неўзабаве затрашчала кустоўе і перад ёю паўсталі Ох са Сцяпанкам. Хлапчука, праўда, было не пазнаць. Ён выцягнуўся, падужэў, апрануты быў добра. Кінуўся да матулі на грудзі, так яны і знерухомелі. А Ох стаяў побач і радасна ўсміхаўся.

— Я ж гаварыў, гаспадыня, што ўсё добра будзе, — падаў ён голас, калі маці з сынам крыху апамяталіся.

— Сам жа разумееш, як страшна было кідаць малога з незнаёмым мне чалавекам...

— Яно-то так, але распытай у Сцяпана, чым ён зараз можа займацца, якую справу здольны рабіць.

— Раскажы, сынку.

Той радасна пачаў пералічваць:

— Магу будаваць, не важна з чаго — з камянёў ці з дрэваў, магу гандляваць, не важна чым, але ў гэтым доб-

ра разумею, магу весці гаспадарку, наперад вырашаючы, дзе найбольшы прыбытак чакае, магу...

— Чакай, сыночак, чакай. Нам жа гэтага па вушы хопіць. Падзякуй Оху, ды пайшлі дамоў.

Магутны Ох адразу зніякавеў і апусціў галаву. Перайначыўся і Сцяпанка.

— Матуля, не спяшайся. Не спяшайся мяне ад Оха забіраць.

— Чаму?

— Не ўсяму я яшчэ навучыўся. Дазволь яшчэ на тры гады з ім застацца.

— Вось яно як павярнулася... А ці ты падумаў, як мне даводзіцца?

— Я пра гэта ні на хвілінку не забываўся. Ох можа пацвердзіць.

— Так, гаспадыня, ён толькі і дапытваўся ў мяне, як ты там сама з гаспадаркай упраўляешся. Каб меў магчымасць, то паляцеў бы да цябе хоць на імгненне, каб толькі зірнуць... Ён не хлусіць.

— А чаму ты яшчэ, сыночак, хочаш навучыцца?

— Усяму. Ды і Ох стаў мне родным чалавекам. Ён жа такі добры, такі спагадлівы, ніколі за тры гады не крыкнуў на мяне, голасу не ўзняў. Ён усяму навучыць, а нам гэта потым спатрэбіцца. Патрывай яшчэ тры гадочкі...

— Эх, Сцяпанка. Што з табой зробіш. Я вельмі баялася, каб чаго дурнога не здарылася, и зараз убачыла цябе, і душа мая спяваць гатова. Таму заставайся, павучыся ў Оха яшчэ тры гады.

Да самага вечара сядзелі яны і гамапілі. Ох і есці аднекуль прынёс, а калі прыспела часіна развітвацца, то прамовіў:

— Не хвалюйся, гаспадынька, і на гэты раз усё абыдзецца. Пабачыш.

— Зараз мне спакайней, не так баюся, як у першы раз. Усталі, маці з сынам пацалаваліся і дамовіліся праз тры гады спаткацца на гэтым самым месцы.

Пайшла жанчына дамоў. Яна ўжо не плакала, бо тое, што ўбачыла, падбадзёрыла яе. Цяпер верыла толькі ў лепшае.

Мінулі яшчэ тры гады. Пабегла маці на могілкі, села на магілку і, дачакаўшыся, калі сонейка высока стала, прамовіла: «Ох...»

Выйшлі да яе двое — і не пазнаць. Ох, дык той смяяўся, а Сцяпанка, ростам ужо вышэйшы і ў плячах не вужэйшы за свайго настаўніка, кінуўся да матулі, падхапіў яе на рукі і закружыў.

Разгаманіліся, і цяпер, аказалася, Сцяпанка ведаў яшчэ намнога болей, чым тады, у першы раз. Ох так і сказаў:

— Цяпер ён, што я: усё ведае. Можна смела пускаць яго ў жыццё.

— Дзякуй табе, Ох, што ты мне хлопца вывучыў.

Абодва дзяцюкі зарагаталі.

— Мама, ён ніякі не Ох, ён — Пятро. Выпадкова тады апынуўся на могілках, калі мы з табой крочылі...

Развіталіся яны цёпла і дамовіліся, што кожны год, на гэтым самым месцы, будуць сустракацца і пераказваць адзін аднаму, як жывуць. Так і рабілі. А недзе гадоў праз дзесяць, калі Пятро загінуў ад рук разбойнікаў, Сцяпан наняў людзей, і тыя пабудавалі на могілках прыгожую царкву, у гонар добрага чалавека. Месца тое, калі царква разбурылася, ці яе разбурылі, назвалі Царковішчам. Адтуль і вёска наша пайшла.



# УШАЧЫ

Жыла некалі ў ваколіцах нашага горада, якога тады яшчэ, як вы самі здагадваецеся, не існавала, адна злая чараўніца. Вельмі моцныя яе чары былі. Дастаткова было ёй зірнуць сваім чорным вокам на кагосьці, ды яшчэ пару слоў прашаптаць, як таго чалавека адразу ці хвароба якая скручвала, ці смерць забірала. Ніхто не мог вылечыць.

Звалі тую чараўніцу Чарняўка. Можа, таму, што чорныя праклёны на людзей насылала, а можа, таму, што чорныя і доўгія валасы мела. Сцвярджалі таксама, што жанчына тая была надзвычай прыгожая. Нікога з мужчын да сябе і блізка не падпускала. Мовілі, што яе каханага некалі на вайне забілі, і яна не магла здрадзіць светламу каханню. Гадоў дзесяць адна жыла: зашылася ў лясную гушчэчу і збудавала, як магла, нейкую хацінку на беразе пакручастай лясной рачулкі. Супакоілася душою, расквітнела яшчэ болей. Есці ёй хапала. Тады ж птушак ды рыбы навокал было ў многа разоў болей, чым сёння.

Хадзіла Чарняўка па лясах, забіралася ў незнаёмыя мясціны, лазіла па тых сцяжынках, дзе да гэтага толькі звярыныя ногі ступалі.

Аднаго разу чараўніца падалася да высокай дубровы, якая была ад яе хацінкі вярстах у пяці. Ішла не спяшаючыся, любавалася прыродай. Пакуль дайшла, то і сонца

высока ўзнялося. Села дзяўчына адпачыць, ажно падалося ёй, што недзе прагучаў паляўнічы рог. Усхапілася, услухалася і сапраўды: гучаў паляўнічы рог. Тады яна павярнула дамоў, каб не трапляцца на вочы людзям, бо ведала, што ў дуброве часта палююць на звяроў усялякія князі ды баяры. Калі ўжо да хацінкі заставалася нейкая вярста, Чарняўка пайшла спакайней, бо сюды ніколі ніхто не заязджаў, глухі быў куток. Пачала збіраць лясныя кветкі, і раптам зусім блізка пачула голас: «Няўжо давядзецца тут, у гэтай багне, косці свае скласці...»

Цікава стала Чарняўцы, хто ж гэта гамоніць. Паціху падалася на голас і ледзьве не самлела ад таго, што ўбачыла: на невялічкай палянцы ляжаў паранены конь, пад ім вершнік, які спрабаваў выбрацца з-пад цяжкай жывёліны, а насупраць драў капытом зямлю вялізны тур. Вочы ягоныя наліліся крывёю — гэтак раз'юшыўся. Потым кінуўся тур да распластанага вершніка і ўдарыў. Праўда, чалавека не зачапіў — дабіў каня.

Чарняўка стаяла і не магла зварухнуцца. То адважная была, а тут спалохалася, ды і страшна было назіраць за гэтакай дуэллю. Тур зноў разагнаўся і кінуўся на ляжачага чалавека. А той бараніцца не мог, бо ягоны меч ляжаў за колькі крокаў і дацягнуцца да яго ён не мог. Чарняўка не ведала, як гэта атрымалася, але яна закрычала, ды гэтак адчайна, звонка, што тур уздрыгануўся. Страху, відаць, яна на яго не нагнала, але здзівіць здзівіла. Таму ён пастаяў крыху, павагаўся, нібы разважаючы, дабіваць ці не саперніка, а потым, смешна дрыгнуўшы кароткімі, нязграбнымі, на першы погляд, нагамі, падаўся з паляны. Дзяўчына не спяшалася вылазіць са свайго сховішча, баялася, што звер не адышоў далёка, што недзе таксама стаіўся. Потым усё ж адважылася і падкралася да паляўнічага. Той ужо не варушыўся: ад болю ён страціў прытомнасць.

«Як жа цябе выцягнуць, чалавеча? — сама з сабой разважала чараўніца. — Конь так прываліў, што і не паварухнуць, а прыўзняць ці адсунуць яго я не здолею. Трэба нешта іншае прыдумваць...»

Пасядзела і... пачала раскопваць зямлю пад целам чалавека, каб потым, усунуўшы параненага ў гэтую яміну, пацягнуць на сябе і такім чынам вызваліць. Зараз у яе была магчымасць добра разглядзець паляўнічага, і вынік быў несуцяшальны: перад ёю быў багата апрануты верш-

нік і яго, ведама, будуць шукаць. Чым гэта для яе скончыцца? Але нікога блізка не было.

Доўга корпалася дзяўчына, стамілася, не раз адпачывала, ды неяк усё ж вызваліла вершніка і стала меркаваць, як зацягнуць яго да сябе ў хаціну. Проста цягнуць нельга было: застаўся б след, ды і паляўнічы быў моцна зранены.

Калі занесла яго на плячах да хаціны, то стаяў ужо надвячорак.

Паклала Чарняўка параненага на вялізную ласіную шкуру, разадрала, а дзе і разрэзала закарэлую ад крыві вопратку і пачала старанна абмываць раны.

Між тым у гаршчэчку забулькала вада. Дзяўчына накідала туды ўсялякіх лісточкаў, карэньчыкаў, старанна перацерла варыва, перамяшала яго. Потым зляпіла невялічкія нібыта праснакі і пачала прыкладваць іх да ран.

«Вось так лепей будзе. Гэта гной ды бруд выцягне, раны хутчэй зацягнуцца. Трывай, трывай, родненькі», — сама з сабой размаўляла Чарняўка.

Яна не заўважыла, як пачала называць параненага гэтым словам. Адумаўшыся, схамянулася: «Вось яшчэ... Дахадзяга нейкі...»

Але, угледзеўшыся, прамовіла іншае: «І ніякі ён не дахадзяга. Наадварот, вельмі прыгожы...»

Зрабіўшы ўсё, лягла спаць. Спала чуйна, некалькі разоў падымалася і давала хвораму піць. Той глытаў, але ў прытомнасць не прыходзіў.

Некалькі сутак ляжаў так паляўнічы. Яму не станавілася лягчэй, і Чарняўка ўжо пачала сумнявацца, што дапаможа яму. Шкада ёй было параненага, дый адчула прыхільнасць да яго.

«Паспрабую, родненькі, апошні свой сродак. Калі і ён не дапаможа, то толькі неба будзе валадарыць над тваім лёсам...» — і пачала шаптаць замову, якую калісь пераказала ёй бабуля. Паўтарыла тры разы запар вечарам, а потым яшчэ і ўранку. Калі Чарняўка апошні, трэці, раз у адчаі шаптала замову, паранены ледзь-ледзь адплюшчыў вочы і да яго слыху данеслася:

— Першым разам, добрым часам Небу чыстаму прамалюся, зоркам ясным пакланюся і ўсім жывым істотам прыхінуся. Усе мае жывыя, душы дамавыя, станьце ў гэты момант на дапамогу, акажыце мне вялікую сілу... Прашу вас, упрашаю і на помач заклікаю...

Стаіць дуб на такавым полі, мае ён дванаццаць какатоў, дванаццаць дубцоў-вярхоў. На тых вярхах-дубцах сядзіць арол з залатой дзюбкай, з сярэбранымі кагцямі. Сярэбранымі кагцямі лечыць, косці праграе, залатой дзюбкай усю шуму і болесць з галавы-цела вымае і нясе ён на мха, балата, на ніцыя лозы, на крутыя горы, на жоўтыя пяскі, на цёмныя ляскі, на мох, на балота, на гнілыя калоды, дзе совы-начніцы не ўзляталі рана. Дзе гэтыя совы-начніцы не ўзляталі рана і там усю болесць забіралі ад сэрца і ад белага цела...

Чарняўка, можа, працягвала б шаптаць, але ў гэты момант пачуўся слабы голас:

— Дзе гэта я?

— Загаварыў... Загаварыў, родненькі... Значыцца, дапамагла бабульчына замова і будзеш ты доўга жыць цяпер.

— Дзе я? — паўтарыў паранены.

— У мяне. У мяне ў хацінцы. Не палохайся. Памаўчы лепей, бо табе трэба маўчаць, а паболей піць ды есці, каб набрацца сілы, каб аднавіць тую кроў, якую страціў.

Знясілены хворы памкнуўся было нешта прамовіць, але не здолеў — заснуў.

— Вось так лепей, а то разгаварыўся, — расчулена прашаптала гаспадыня.

Прачнуўся паляўнічы толькі на другі дзень. Яму стала лягчэй і ён ужо еў усё, што падавала яму Чарняўка. Зараз ёй было прасцей карміць хворага: не трэба было сілай расціскаць яму зубы, уліваць у рот варыва. Спачатку незнаёмец прыглядваўся і амаль не задаваў пытанняў, а потым разгаварыўся. Відаць, вярнуліся сілы, ды і перад сабою ён бачыў сапраўдную прыгажуню.

— Як цябе завуць, гаспадынька?

— А навошта табе?

— Каб ведаць, каму дзякаваць за выратаванае жыццё.

— Чарняўка.

— Язычніца?

— Так.

Памаўчалі і запыталася ўжо гаспадыня:

— А ты хто такі і як у гэтым глухім краі апынуўся?

— Сама ж бачыла — паляўнічы. А апынуўся тут, бо ляцеў стрымгалоў за вялізным турам. Такога я яшчэ не бачыў.

— Мог даляцецца...
— Ведама што. Каб не ты...
— Абышлося... Скажы лепей, як цябе завуць?
— Васіль.
— Імя нязвычнае для нас. Ты што, не нашай веры?
— Так, я хрысціянін.
— Значыцца, ты не просты чалавек?
— Кінь дурное, Чарняўка.
— Адказвай, чалавеча. Мне карціць даведацца.
— Князь я. Уладальнік усёй гэтай зямлі.

Гаспадыня змоўкла. Прадчуванні яе спраўдзіліся.

— А дзе ж твая ахова была, княжа? Куды сябры ды воі падзеліся?
— Адсталі.
— Адсталі? І шукаць цябе не кінуліся?
— Мабыць, шукалі, ды не знайшлі. Ты, відаць, усё хітра падстроіла.
— Гэта мая справа, — неяк суха прамовіла чараўніца. — Як хацела, так і зрабіла.
— Не злуйся.
— Чаго мне злавацца. Спі давай, набірайся сілы.

Хворы заціх, бо зразумеў, што далей працягнуць размову не ўдасца, — Чарняўка яе не падтрымае.

Так ляцеў дзень за днём. Паранены князь ужо спрабаваў уставаць, але гаспадыня, калі заўважыла, забараніла:

— Рана яшчэ, княжа.

Міналі дні і тыдні, і неяк незаўважна пакахаліся Васіль з Чарняўкай. Князь абяцаў і бажыўся сваім Богам, што забярэ ў свой стольны горад і дзяўчыну, але тая не давала веры:

— Не жартуй, Васілька, не трэба.
— Чаго?
— Каму я там патрэбна?
— Мне.
— Знойдзеш ты сабе прыгажэйшую і намнога багацейшую і забудзеш пра мяне. Нават у марах не згадаеш пра тую, якая выратавала табе жыццё.

Князь супярэчыў, але абодва вырашылі да пары да часу не кранаць гэтую тэму.

Аднаго разу Васіль папрасіў дзяўчыну завесці на тое месца, дзе яго ледзьве не дабіў раз'юшаны тур. Чарняўка, нічога не падазраючы, пагадзілася, а калі прыйшлі на палянку, то князь прамовіў:

— Адсюль я ўжо і сам дарогу знайду.

— Куды?

— Да свайго горада. Няма чаго мне ў балоце сядзець, мяне княства чакае.

— А я? — вырвалася ў дзяўчыны.

— Пойдзеш са мною.

— І за мяне вырашыў? Дарма, княжа.

— Як сабе хочаш, — адрэзаў Васіль і бойка пакрочыў да дубровы.

Доўга плакала Чарняўка, праклінала сябе, што паверыла князю, але змяніць ужо нічога нельга было. Нарадзіла яна дзяўчынку. Калі першы раз зірнула на маленькае стварэнне, якое смешна крывіла ротам, то ажно ўсміхнулася, ці не ў першы раз пасля расстання з Васілём:

— Бачыш ты, малая, [redacted] ўжо мяне дражніць...

Сказала так і весялей на душы зрабілася, што ўжо не адна будзе.

Чараўніца жыла ў той жа хацінцы. Праўда, людзі пасоўваліся ўсё бліжэй і бліжэй да патаемнай некалі пушчы. Абжывалі прыдатныя для сяўбы землі, высякалі і разворвалі ляды, адным словам, жыццё кіпела. Здаралася, што і да яе наведваліся людзі: то які чалавек заблукаў, то з палявання позна было ў далёкую хаціну вяртацца, і, каб не калець на дажджы ды ветры, паляўнічы ішоў на агеньчык сярод густога лесу. Так і даведвалася Чарняўка пра тое, што адбывалася навокал. Так і данесліся да яе чуткі, што ўладарыць гэтай зямлёю па-ранейшаму магутны князь Васіль, што ажаніўся ён і гадуе сына.

Балела душа ў жанчыны, але нікому яна сваю крыўду не паказвала. Вось толькі калі вельмі брала, то пачынала ні з таго, ні з сяго помсціць простым людзям, якія і дачынення ніякага да яе гора-бяды не мелі. Потым, апамятаўшыся, залівалася слязьмі і прасіла даравання... у дачушкі.

Звала яна сваю малую Уша — такая трава лугавая, мяккая, доўгая, хвалістая. Валасы такія ў дзяўчынкі былі, вось і імя па гэтай нагодзе атрымала. Чарняўка часта жартавала:

— У мяне валасы, як воранава крыло, а ў цябе, як лён. І чаго гэта?

Увесь час Чарняўка была разам з Ушою. Дзе сама хадзіла, там і дачушку вадзіла. Усё ёй паказвала, тлумачыла, адказвала на бясконцыя пытанні дапытлівай малой.

Не забывалася чараўніца і пра тое, як у такія гады вучылі яе матуля і бабуля, якія замовы шапталі, як прызвычайвалі да таямніц чараўніцтва. Таму і гэтаму рамяству вучыла дачушку.

Непрыкметна міналі гады. Вырасла Уша такой прыгажуняй, якой, можа, і сама Чарняўка ў маладосці не была. Гледзячы на яе, чараўніца не адзін раз прамаўляла, невядома да каго звяртаючыся:

— Дзе ты сваё шчасце знойдзеш, самотная мая? Дзе яно цябе чакае?

Чакала, як аказалася пазней, на тым месцы, дзе некалі і саму Чарняўку. Пайшла неяк Уша на рэчку і засядзелася там. Задумалася, можа, таму і не пачула, як да яе падляцелі вершнікі. Іх было некалькі, усе збройныя, маладыя, вясёлыя. Убачылі дзяўчыну і ґукнулі:

— Быць такога не можа... Нам, мабыць, мроіцца...

— Што? — вырвалася ў дзяўчыны.

— Адкуль тут такая прыгажуня?

Болей Уша не прамовіла ні слова, павярнулася і пабегла. Вершнікі, весела смеючыся, засталіся на месцы, акрамя аднаго, які паскакаў за ёю.

— Чаго ты ўцякаеш, дзяўчына? Пастой крышачку.

Ён так хораша глядзеў на яе, што Уша затрымалася, і яны пагаманілі. На развітанне той хлапчына прамовіў:

— Заўтра чакаю цябе на гэтым самым месцы. Прыходзь.

— Чакай, — толькі і данеслася ў адказ.

Малады паляўнічы закахаўся ў дачку чараўніцы, і яны сталі сустракацца. Заўсёды на адным месцы: пад старым, галінастым дубам.

Чарняўка неўзабаве адчула, што з дачкою адбываюцца нейкія перамены, і вырашыла прасачыць. Калі першы раз убачыла хлапчыну, то ледзьве не ўскрыкнула, гэтак той быў падобны да князя Васіля. Потым аказалася, што гэта на самай справе быў малады княжыч. Хацела перасцерагчы дзяўчыну, але перадумала, бо спадзявалася, што хоць ёй пашанцуе ў жыцці, што не будзе хоць дачка туляцца па пушчах, па барах, а зажыве сярод людзей.

Да таго ж па ўсім было відаць, што Уша і сама збіраецца пра ўсё распавесці матулі, ды адкладвае. Чарняўка таксама не спяшалася распытваць, чакала.

І вось аднаго разу пабегла Уша на спатканне. Не было яе доўга. Тым часам хмара чорная напаўзла, загрымеў

гром, заблiскалi маланкi. Адзiн раз так лупянула, што зямля хадуном захадзiла. Нейкае прадчуванне ажно падкiнула чараўнiцу, яна не вытрымала i пабегла да дуба. I што ж вы думаеце? Стары, таўшчэразны асiлак гарэў — у яго ўлупiла страла Перуна, а побач ляжалi ён i яна — Уша i княжыч. Дзяўчына была мёртвая, а хлапчына ўсё шаптаў, да самага скону паўтараючы iмя каханай: «Уша... Уша...»

Потым, калi i ён памёр, то рачулку, якая цякла ля дуба, назвалi Ушою, а княжыч ператварыўся ў шэры камень.

З цягам часу людзi пастаўлялi хацiны на тым месцы i назвалi паселiшча Ушачы.

## КАЧАНЫ

Жылi некалi тут два хiтрыя браты — Фёдар i Якiм. Займалiся земляробствам, але падраблялi гандлярствам. I так здарылася, што апошняе пайшло ў iх намнога лепей за першае. Вырашылi тады яны увогуле перайсцi на гандаль — так i пражыць лягчэй, i рвацца надта не трэба. Праўда, Якiм, больш памяркоўны, вагаўся:

— Каб нам, браце, не праляцець з гэтым гандлем... Давай зямлю не будзем прадаваць. На ўсялякi выпадак...

Як пачалi браты займацца новай справай, дык зусiм пра зямлю клапацiцца перасталi, адна ў iх думка ўжо была — як грошай болей прыдбаць.

I трэба сказаць, што шанцавала новаспечаным гандлярам, мелi яны неблагi прыбытак. Здавалася б, i пройгрышны варыянт задумаюць, але так пракруцяць, што выйдуць сухiмi з вады. Потым пасмейваюцца:

— Ведаць трэба, з кiм звязваецеся. Нас перахiтрыць вырашылi. Ды мы сотнi такiх, калi iх нават разам сабраць, абдурым.

Ад нараджэння Фёдар з Якiмам былi худыя, як трэскi. Як нi елi, як iх мацi нi кармiла, а раслi хлопцы ў заможнай сям'i, — па-ранейшаму заставалiся худымi.

Гадоў па трыццаць мелi ўжо браты. Бацькi iхнiя рана памерлi, а Фёдар з Якiмам сем'ямi не абзавялiся. Людзi пасмейвалiся:

— Як гаспадароў не стала, то яны i есцi перасталi. Баяцца, каб не збяднець, i жонак не бяруць, бо жанчын жа кармiць трэба...

Людзі жартавалі, а браты ўвагі на кпіны не звярталі, сваім займаліся. Праз пару гадоў яны мелі ўжо вялікія грошы. Але, што самае галоўнае, пачалі папраўляцца. Спачатку непрыкметна, а потым так раз'еліся, што і пазнаваць іх людзі, асабліва якія даўно не бачылі, перасталі. Цяпер пра іх ужо казалі:

— Зусім, як качкі, гатовы і за сабой усё паесці...

Ды братам мала справы было да таго, што навокал адбывалася. Чым больш яны ўзбагачаліся, тым больш ганарыліся і выхваляліся. Цяпер ужо і з суседзямі першымі не віталіся.

Трывалі, трывалі сяляне, а потым вырашылі правучыць задзір. Доўга разважалі, як лепей зрабіць. Найбольш катэгарычныя кідалі:

— Што тут доўга валтузіцца! Злавіць іх, зацягнуць у цёмны кут ды ўсыпаць.

— А што, яны ад гэтага разумнейшымі стануць?

Некаторыя раілі:

— Пусціць ім чырвонага пеўня пад страху...

— Паліцыя тады знойдзе вінаватых і ў Сібір сашле, а яны па-новаму адбудуюцца...

— Так, няважна атрымаецца. Трэба... такое незвычайнае, каб да іх на ўсё жыццё прыліпла, і яны гэтага не забылі...

Ужо добра прыцемак узяўся, а людзі не разыходзіліся, не маглі прыдумаць такое пакаранне, якое зняславіла б багатых братоў у найбольшай ступені. Так бы, відаць, і не прыдумалі, каб не стары дзед, які ўвесь гэты час моўчкі драмаў ля гаманлівага натоўпу.

— Трэба іх у карчму неяк зацягнуць і добра напаіць. Яны ж за свае ніколі піць не стануць, а вось за чужыя...

— А што — гэта справа.

— Давайце тады скінемся па якой залатоўцы ды напоім злыдняў.

Падлічылі сяляне, колькі ім абыдзецца гэтая «навука», пашкрэблі патыліцы і махнулі:

— Вучыць, дык вучыць! Няма чаго тады брацца, калі грошай шкадаваць!

На наступны дзень, недзе ўжо надвячоркам, да Фёдара з Якімам зайшло пару вяскоўцаў:

— Тут такая справа...

— Прасіць прыйшлі? Мы нічога не падаём і не пазычаем!

— Ды не. Прыйшлі вас запрасіць з намі пасядзець...
— Дзе, чаго?
— У карчомцы.
— Але ж...
— Ды ў нас радасць — старасту новага выбіраем. І гарэлка агульная, ужо куплена...
— Чаго ж вы маўчалі гэтулькі часу? Так бы адразу і сказалі. Пайшлі!
У карчме стаялі шум, крыкі. Вяскоўцы пасадзілі братоў за асобны стол і ўзяліся частаваць. Піць падносілі бесперастанку, и закусваць — адну кіслую капусту. У другім выпадку Фёдар з Якімам, можа, нешта і сказалі б, и тут жа ўсё было дармовае. Таму пілі, елі не ў сябе. Сяляне ўжо пачалі занепакоена пераглядвацца паміж сабою: што рабіць? Амаль усю гарэлку браты папілі, але яна іх не брала.
— Нічога, гарэлка сваю справу зробіць, — заспакоіў усіх стары дзед, які і прапанаваў такім чынам пакараць сквапных гандляроў.
— Глядзі, калі не атрымаецца, то ты ў нас сам бочку кіслай капусты з'ясі.
— Не атрымаецца — з'ем. А зараз не перашкаджайце іншым яе есці.
Фёдар з Якімам працягвалі піць і гэтак жа актыўна закусваць. Магло падацца, што яны першы раз у жыцці ядуць гэткую смачную капусту. На самай справе яна была разлезлая, смярдзючая. Нарэшце людзі заўважылі, што браты ўжо не вельмі разумна ўсміхаюцца. Тады паднеслі яшчэ па кварце, па апошняй, на большае грошай не хапіла. Праўда, Моўша-карчмар заспакоіў:
— Калі і гэтая не возьме, дык и сваёй кварту дадам.
Гэтая ўзяла. Фёдар з Якімам амаль адначасова спаўзлі пад стол і пачалі там нешта шукаць. Адтуль даносіліся не вельмі прыемныя і смярдзючыя гукі-стрэлы. Недзе хвілін праз дзесяць Моўша загарлаў:
— Людцы добрыя! Выкіньце іх пад плот, далей ад карчмы, бо з-за гэтых качаноў смярдзючых потым у хату не зайсці будзе!..
— Качаны смярдзючыя! — засмяяліся вяскоўцы, хапаючы абпаскуджаных гандляроў за што папала. — Качаны... Смярдзючыя...
Так з таго здарэння і сталі зваць двух братоў Качанамі Смярдзючымі, дакладней, мянушку такую прыляпілі. Але

потым, можа, у другім ці ў трэцім пакаленні, мянушка гэтая абкарацілася і засталося проста — Качаны. І вёска ад іх пайшла.

## ЛАБУНОЎШЧЫНА

Вёска наша называецца ад імя аднаго чалавека. Жылабыла тут некалі вельмі страшная варажбітка. Не тым страшная, што для людзей благое рабіла, ■ тым, што непрыгожая была. Варажбітка ж яна была спагадлівая, чуллівая, нікому ў дапамозе не адмаўляла, у любую пагоду ішла да хворага, а плату за свае паслугі не брала.

Звалі тую варажбітку Ганна. Да яе так звярталіся і старыя, і малыя, нягледзячы на тое, што яна дзецям, напрыклад, у мацеркі падыходзіла.

Аднаго разу па вёсцы пранеслася навіна:

— Ганна цяжарная...

Спачатку ўсе не паверылі, а потым вырашылі ўсё ж праверыць. Паслалі да варажбіткі старую сялянку, якая сама добра ўсялякія хваробы замаўляла і памыліцца ў такім выпадку не магла. Пайшла старая, а астатнія чакаць засталіся.

Доўга бабы не было. Ужо змяркацца пачало, і маладзіцы занепакоіліся, што час каровак даіць, а яны тут сядзяць.

Нарэшце нехта заўважыў старую, і усе ўсхапіліся. Яна джгала так, нібыта за ёю гналася добрая гайня ваўкоў.

— Ну што? — пасыпаліся пытанні на старую, якая ніяк не магла дух перавесці. — Праўда гэта, ці не?

— Ага. Цяжарная.

Народ аслупянеў, ніхто і слова не мог прамовіць. Тады ўзялася тлумачыць старая:

— Хутка нарадзіць павінна. З гэтай нагоды нідзе і не паказваецца.

— А бацька хто ж?

— Мужык.

Натоўп выбухнуў рогатам.

— Ведама ж, не казёл.

Смяялася і сама бабця, шырока раскрываючы бяззубы рот. Відаць, была задаволена тым, што гэтак удала пажартавала, сама таго не жадаючы.

— А што яшчэ?

— Болей нічога цікавага не даведалася. Як ні выпытвала, так і не адкрылася мне.

— А ты што, поп, каб табе грахі спавядаць?

— Не поп, але ж...

Пагаманілі так і разышліся па хацінах.

Недзе праз месяц усяго Ганна нарадзіла. Навіну гэтую прынесла тая самая старая.

— Хлопчыка нарадзіла. І такога прыгожага...

— Як сама?

— Каб табе язык твой загарнуўся. Каб ты вечарам жонкі баяўся, дурында, — накінулася бабця на таго, хто засумняваўся было ў яе словах. — Калі я сказала, што прыгожага, значыцца, так яно і ёсць.

Ішоў час. Паступова Ганна зноў стала з'яўляцца на людзях. Гледзячы на яе, вяскоўцы дзівіліся: яна нібы перарадзілася, нібы гадоў з плячэй скінула.

— Ганна, як сынок?

— Расце, дзякуй Богу.

— Дай Бог яму здароўя.

— Дзякуй, людцы, дзякуй, родненькія. Не забуду я вашу спагаду. Калі што якое, клічце мяне, адразу прыбягу.

— Паклічам. Але і ты да нас звяртайся, не саромейся.

Непрыкметна праляцела гадоў дваццаць. Сын у Ганны вырас сапраўдным прыгажуном. Не хлусіла тады бабця, калі сцвярджала, што немаўля прыгожае. Валасы — пшанічнага колеру, вочы — нібы з бяздоннай крыніцы вады чыстай налілі, сам здаравенны, высокага росту. Паважна ішоў вуліцаю і з усімі вітаўся, і поруч з ім, подбегам, крочыла шчаслівая матуля.

Сяляне часта запрашалі іх у госці, асабліва тыя, каму варажбітка дабро рабіла.

Часам, і заходзілі, а часам, і адмаўляліся, спасылаючыся на неадкладныя справы.

Звалі таго хлапчыну Юрасём, але людзі прыляпілі яму мянушку — Лабун. Справа ў тым, што ён, як дзве кроплі вады, быў падобны на вясковага каваля, якога дражнілі Лабуном.

Хлапчына не крыўдаваў. Што тут ад лёсу адмаўляцца, калі ён усім кіруе.

Так і жыла Ганна з сынам, але аднаго разу здарылася страшнае гора, пра якое яшчэ доўга-доўга згадвалі вяс-

коўцы, пераказвалі яго з пакалення ў пакаленне, нават да нашага часу тая показка захавалася.

Пайшоў Юрась на луг, да возера. Тады яно было на месцы нашай вёскі, а сама вёска знаходзілася крыху ўбаку. Нешта там хацеў рабіць. Менавіта ў гэты час адна з вясковых дзяўчат-прыгажунь вырашыла пакатацца на чоўне па возеры, а сілы не разлічыла, човен нахіліўся, і яна ўпала ў ваду. Пачала клікаць на дапамогу.

Юрась пачуў крык і пабег праз луг да возера. А луг нізкаваты быў, балоцісты. Пакуль дабег да берага, то ці мала часу прайшло, але дзяўчына яшчэ жывая была. Паплыў да яе і давай ныраць, бо бедалага ужо на дно пайшла. Ды сцягнула яму нагу. Атрымалася так, што і дзяўчыну не выратаваў, і сам утапіўся. Калі пра гэта даведалася Ганна, то закляла тое возера:

— Каб па табе хвалі болей не бегалі... Каб па табе чаўны не плавалі, а стала ты роўным полем...

Так яно ўсё і зрабілася. А назва засталася ад таго мужнага хлапчыны — Лабуноўшчына.

## РЫБАКІ

Адбылося гэта даўно, можа, стагоддзяў пяць таму, а можа, і болей.

Дзе зараз наша вёска стаіць, тады паселішча не было. Возера, рачулка, лугі-балаты і ўсё на гэтым. Ды яшчэ, праўда, густое кустоўе, якое непрыкметна пераходзіла ў стары непралазны лес. Мала хто сюды забіваўся. Баяліся людзі глухіх мясцін, стараліся абыходзіць іх бокам, каб на якое ліха не напароцца.

Потым пачалі з'яўляцца на возеры рыбакі. Прыязджалі яны сюды толькі ўзімку, калі ўсё наваколле пакрывалася густым пластом снегу, і водную прастору надзейна скоўваў таўшчэразны лёд. Лавілі людзі тут рыбу. Казалі, што гэтулькі яе нідзе не было, як у нашым возеры і ў рэчцы. Самы былі, што тыя чаўны. Дык вось, наловяць рыбы, намаразяць яе цэлы абоз і кіруюць да роднай вёскі, каб і дня лішняга ў нашай мясціне не заставацца. Чаго яны баяліся?

Сцвярджалі, што тут нешта спрадвеку палохала. Днём яшчэ не так, а вось ноччу... Тады і заснуць нельга было. Толькі самкнеш вочы, а ўжо нясецца:

— Агу! Агу! Іду!

Спалоханыя людзі перашэптваліся:

— Чуеце? Ідзе... Уцякаць трэба...

— Куды ты ноччу папнешся? Дзе-небудзь у «чортава акно» правалішся ці заблукаеш у лесе і потым замерзнеш.

— А што ж рабіць?

— Чакаць, болей нічога не выпадае.

Пазней крыху прызвычаіліся, і палова людзей спала, дакладней, драмала, а другая палова засцерагала іхні трывожны адпачынак. Недзе пасля паўночы мяняліся. Можаце сабе ўявіць, які там адпачынак быў для стомленых рыбакоў. Назва адна, [redacted] не спакойны сон.

А аднаго разу здарылася бяда. Адзін з рыбакоў праваліўся ў палонку і моцна застудзіўся. Хварэў так, што нават вопытныя рыбакі, паміж сабою перамаўляючыся, сцвярджалі:

— Не працягне і ночы. Не працягне...

— Куды там... Хоць бы пару гадзін пражыў. Гарыць жа, трызніць...

Раней з-за аднаго чалавека работу не спынялі, таму і хворыя, і параненыя чакалі, калі скончыцца лоў, і потым толькі ехалі назад. Так і тут вырашылі — пакласці хворага ў хляўчук, куды складвалі рыбацкае прычындалле, каб не пазабывацца, ды каб на зямлі не ляжала, бо ці снегам пазасыпае, ці ветрам куды паадносіць. Зрабілі там невялічкую грубку, палілі зрэдку, калі есці варылі.

Пакінулі беднага рыбака ў прамерзлым хляве на сасновых лапках ляжаць, а самі падаліся лавіць рыбу. Прайшлі суткі, а небарака не паміраў. Есці ён таксама нічога не еў, бо ў сябе не прыходзіў. Адно толькі ляжаў ды трызніў. Так прайшоў, можа, з тыдзень. Нарэшце рыбакі пачалі збірацца дамоў.

— А што з хворым рабіць? — запытаўся самы малодшы, якому шкада было жывога чалавека.

Астатнія зацята маўчалі.

— Што з хворым рабіць будзем? — перапытаў малодшы. — Нельга ж яго тут пакідаць...

— Дык што, з сабой везці? — злосна прамовіў чарнявы рыбак. Ён нам і тут начамі адпачыць не даваў, а па дарозе ўвогуле надакучыць.

— Але ж ён жывы...

— Засталося яму жыць... Ці не бачыш, у якім ён стане?

— І кідаць жа нельга...
— Чаму нельга?
— Ён жа замерзне.
— Шкадуеш? То заставайся з ім.
— А чаму менавіта я?
— Таму што думаць трэба. Яму мы ўжо нічым не дапаможам, а на тое месца, на якім ён на возе ляжаў бы, мы лепей пакладзём пару кулёў мёрзлай рыбы. Прадамо і пару залатовак будзе. Усё нейкая падтрымка ў нашай справе.
— Але ж жывы чалавек...
— Зноў ты за сваё ўзяўся? Памаўчы лепей і дапамагай увязваць вазы. Хочаш — заставайся, а калі з намі едзеш, то давай весялей рухайся.
Шкада было маладому рыбаку свайго таварыша. Разам жа ў дзяцінстве бегалі, а тут кідаць даводзіцца... Памкнуўся было застацца, але як прыгадаў тыя незразумелыя гукі, то страшна стала, забыўся пра сяброўства і пра тое, што чалавеку дрэнна, пабег да астатніх.
Так і пакінулі хворага рыбака аднаго. Ежы, праўда, нейкай паклалі, але нічога болей.
І што ж вы думаеце? Той рыбак не памёр, выжыў. Ці то нехта яму дапамог, ці то небам яму было наканавана жыць, але смерць адступіла. Калі ён апрытомнеў, то ніяк не мог зразумець, чаму застаўся адзін, чаму нікога няма. А калі зразумеў, то горка-горка заплакаў і пакляўся адпомсціць зласліўцам.
Неяк перанёс ён маразы, неяк узняўся на ногі і дачакаўся вясны. А калі ярка засвяціла сонейка, то вырашыў збудаваць сабе хаціну. Аднаму цяжка было рабіць, ды яшчэ знясіленаму, але ён узяўся, бо ведаў, што наступная зіма можа быць больш суровая. Выбраў удалую мясцінку — пагорачак на беразе, сярод лесу, і стаў туды бярвенні гладкія, ашкураныя падцягваць. Неяк і агораў хаціну, зрабіў печ маленькую і задаволена падсумаваў:
— Цяпер зусім іншая справа. Цяпер можна і жыць. Не тое будзе, што гэтай зімой...
Ежы аднаму хапала. Навокал гэтулькі звяроў, птаства, рыбы, толькі не лянуйся. Харчоў сабе на зіму запас, зажыў спакойна. У гонар свайго выратавання паставіў высокі крыж.
А тыя рыбакі, якія яго пакінулі, на наступную зіму вярнуліся сюды, бо вельмі ім у мінулы раз пашанцавала. Прыехалі і не знайшлі пакінутага імі чалавека.

— Птушкі ды звяры з'елі... — вырашылі яны, а далей і не разбіраліся.

Налавілі рыбы цэлую гару і вырашылі дамоў ехаць, пакуль мароз трымаецца, пакуль завірухі няма. Нагрузілі абоз і падаліся. Але тут усхадзілася такая завіруха, што і свету белага не ўбачылі. Спыніліся і нехта крыкнуў:

— Агонь!..

Пабраліся на яго і ўвесь абоз, разам з людзьмі, патапіўся ў балоце.

З таго выпадку і сталі зваць гэтае месца Рыбакамі, а потым і вёску — Рыбакі.

## СКАЧЫХА

Яшчэ зусім нядаўна, там, дзе зараз стаіць наша вёска, узвышаўся высачэнны бясконцы лес. А з ім звязвалі існаванне ўсялякіх нячысцікаў ды ведзьмаў, ваўкалакаў ды пярэваратняў. Той лес называлі не іначай як Чартавіскам, ці Чортавым Жытлом. Цяпер дайсці да яго можна вельмі проста — дарогаю, якая раўнютка ўецца паміж палёў ды лугоў.

Здаралася, людзі касілі на балоце, і тады абавязкова адзін аднаму наказвалі:

— Калі, братка, пачуеш, як у нашым канцы крычаць нехта будзе, дык бяжы на дапамогу.

— Абавязкова, чалавеча. Усе як збярэмся, то тая пачвара і ўцячэ.

— Няхай толькі застанецца, дык галаву адным махам знясем, — заходзіліся маладзейшыя з сялян, якія яшчэ мала верылі ў тое, што ім распавядалі старэйшыя.

— Меней хваліцеся, а то наклічаце не толькі на свае галовы, але і на нашыя...

— Што наклічам?

— Не што, а каго... Скачыху...

— Палохаць палохаеце, але ці бачыў хто з вас яе?

— Самі не бачылі, але людзі старэйшыя нам такое даводзілі.

Пагаманіўшы трохі, людзі разыходзіліся, бо з раніцы трэба было выязджаць на балота. Ужо былі адкляпаны косы, сабраны няхітрыя прычындалы, змазаны калёсы, адрамантавана вупраж. Словам, гаспадары былі гатовы да касьбы.

Яшчэ сонца толькі-толькі паказалася, а людзі, нібы тыя мурашкі, ужо капашыліся па дварах, выязджаючы на сенакос. Пачалі касіць і забыліся, што там нейкая Скачыха палохае-лякае. Кожны стараўся як мага болей выкасіць. Шчыравалі да вечара, а потым разышліся па выжарах, дзе некалі стаялі буданы, і пачалі зноў часовы прытулак на ноч рыхтаваць. Палова мужчын гэтым займалася, а другая — есці варыла. Тут і аднавіліся гамонкі пра жудасную пачвару.

— Што ні кажыце, а яна недзе сядзіць і сочыць за намі, — падаў голас сівенькі дзед і палахліва азірнуўся.

— Ага, толькі і чакае моманту, каб цябе сабе на вячэру сцягнуць, — упікнулі яго малодшыя касцы.

— Вам бы толькі пажартаваць, зубы паскаліць, а што на самай справе можа адбыцца, вы не верыце.

— Во, зараз і гэты пачне гаварыць, што бачыў Скачыху на ўласныя вочы.

— Не, але я не адмаўляю, што яна ёсць.

— Эй, мужчынкі, давайце лепей перакусім ды ляжам спаць, а калі тая баба тут і ёсць, дык няхай таксама спакойна адпачывае, — лагодна перабіў нехта з касцоў.

Астатнія, не спрачаючыся, пагадзіліся:

— Хоць адзін чалавек здагадаўся, што сказаць. Пайшлі і праўда перакусім, ды адпачнём.

Неўзабаве над балотам запанавала цішыня. Толькі чуваць было, як гудуць-пагражаюць цэлыя хмары надакучлівых камароў. Іх не адваджваў нават смярдзючы дым з гнілых парахнякоў, якія спецыяльна падкідвалі ў агонь, каб адпалохваць гнюс.

Адзін жа касец, малады хлапчына Антось, вырашыў схадзіць на якія паўгадзіны да сябрука, які павінен быў знаходзіцца дзесьці непадалёку. Бацька паспрабаваў было затрымаць сына:

— Сядзі, куды цябе панясе? Лепей паспі якую гадзіну лішнюю.

— Ды я ненадоўга. Пагамонім з Васілём і разыдземся.

— Яшчэ на якую Скачыху напорашся...

— Кінь дурное, бацька, ты яшчэ ў гэтыя забабоны верыш?

— Людзі дарма казаць не будуць.

— Людзям дай толькі пагаманіць, а пра што — гэта іх не хвалюе. Язык жа без касцей.

— Глядзі, каб потым не пашкадаваў, а то вельмі ўжо ты язык свой распускаеш. Ранкам разам з астатнімі падніму...

— А я і не прашу, каб ты мне спаць болей, чым іншым, даваў.

Сабраўся Антось і паджгаў у накірунку таго будана, дзе павінен быў знаходзіцца ягоны сябрук. Здавалася, што гэта зусім блізка, а на самай справе аказалася далекавата. Мала гэтага, змрок рабіў сваю справу: неяк непрыкметна збіўся Антось з дарогі. Каб адразу заўважыў, то назад пайшоў бы, а то ж крочыў і крочыў наперад. Апамятаўся толькі тады, калі пад нагамі пачала правальвацца і пагрозліва выгінацца балотная твань. Крычаць не выпадала, баяўся, што потым вяскоўцы з яго смяяцца будуць. Кінуўся ў адзін бок, у другі — усюды было адно і тое ж: гнілое балота. Сеў на купіну хлапчына і вырашыў чакаць світанку, каб пры сонцы выбіцца на дарогу. І тут нешта, амаль што побач, закрычала-загаласіла:

— Іду! Іду! Іду!

Уздрыгануўся Антось, зразумеў, што гэта тая самая Скачыха верашчыць, усхапіўся і пабег. Але праз дзесятак крокаў праваліўся ў багну і стаў тапіцца. Тады толькі пачаў зваць на дапамогу, але ніхто не бег. Крычаў, з апошніх сіл выбіваўся, але неяк усё ж вылез з таго «чортавага вока». Ухапіўся за бярэзінку і стаіць. У гэты момант яму падалося, што побач нехта ходзіць.

— Хто тут? — крыкнуў ён.

Але па-ранейшаму панавала цішыня, толькі чуваць было — скок, скок! Добра ўсвядоміў Антось, што Скачыха недзе побач. Гукнуў што было сілы:

— Дзе ты?! Вылазь!

Ды ў адказ па-ранейшаму захлюпацела-заскакала нешта паблізу. Хлапчыне пamроілася, што нехта паклікаў яго:

— Хадзі сюды... Хадзі...

І ён пайшоў. Паціху прабіраўся на той патаемны голас, але наблізіцца так і не ўдавалася. За пару крокаў ад яго ішла істота, якая і вяла за сабою. Потым Антосю падалося, што выбіўся на роўны луг і што ўжо зараз пад нагамі стане цвёрды бераг, ды, на вялікі жаль, так толькі паказалася, бо праз пару імгненняў уляцеў ён у раку. У тое самае месца, дзе быў страшэнны вір. Хлапчына і крыкнуць не паспеў. Знайшлі ягонае цела, можа, праз тыдзень за пару вёрст ад месца здарэння — вада вынесла.

З таго здарэння Скачыхай усе тутэйшыя сталі зваць высакаватую гару, якая ўзвышалася над берагам ракі. Сцвярджалі, што менавіта там аблюбавала сабе месцажыхарства пачвара. Як яно было на самай справе, ніхто не ведае, але назва засталася. Калі на тым пагорку ўзнікла паселішча, то і за ім замацавалася трывала, ды так і засталася.

## СУДЗІЛАВІЧЫ

Непадалёку ад нашай вёсачкі ў далёкія гады працякала рачулка. На адным яе беразе стаяў прыгожы каменны палац і жыў там багаты памешчык. Сям'і не меў, адна дачка была. Жонка некалі ўтапілася ў рацэ. Гаварылі, што пан пасля такога выпадку загадаў выкапаць шырачэнныя каналы, праз якія большая частка вады пастаянна сплывала ў буйнейшыя рэкі, [redacted] мясцовая паступова ператварылася ў рачулку. Гаспадар з памешчыка быў неблагі. Усё ў яго было, усяго хапала, не шкадаваў ён і людзям. Прыйдзе да яго хто прасіцца, дык гаспадар толькі галаву нахіліць і ціхенька запытаецца:

— Што ў цябе, чалавеча, здарылася?

Той упадзе на калені і давай скардзіцца, што лёс цяжкі, што ні капейкі за душою не мае, а жыць жа неяк трэба.

— Толькі і ўсяго? — перапытае пан. — Гэта мы выправім...

Скажа так і адразу загадае войту ці каму там, каб чалавеку дапамаглі. Выскачыць селянін, ажно свеціцца, і на ўсё горла пачынае памешчыка хваліць:

— Вось гэта пан. Вось гэта гаспадар. Я яму пару слоў не паспеў сказаць, а ён мне тут жа загадаў дапамагчы. Цяпер [redacted] да скону жыцця буду памятаць пра такую добрую душу. За яго Богу маліцца буду...

Гаспадар чуе, як яго селянін хваліць, і адно ўсміхаецца ў вусы:

— Як мала чалавеку для шчасця трэба. Сказаў пару слоў, [redacted] ён мяне з Богам параўноўвае...

Да таго памешчыка заўсёды ішлі сяляне з рознымі спрэчнымі пытаннямі. Раней жа іх цэлая процьма ўзнікала. Калі пачнеш па судах судзіцца, то ўвесь свой набытак спусціш, а праўды не даб'ешся. Таму знаходзілі значна лягчэйшы шлях — ішлі да памешчыка і прасілі рассудзіць. Асабліва часта звярталіся да яго па пытаннях межаў.

Ён ніколі не адмаўляў, дакопваўся да сутнасці і судзіў па-справядліваму.

Так і жыў той памешчык з сялянамі мірна-дружна. Здаралася, што даводзілася яму судзіць і куды болей сур'ёзныя справы.

Аднаго разу прыбегла да яго заплаканая жанчына і гопнулася на калені.

— Што здарылася?

— Паночку... Яго няма...

— Каго?

— Майго мужа, паночку...

— Можа, недзе загуляў?

— Ды не, паночку, ён ніколі ў такую дурніцу не кідаўся. Ён кароўку ўчора на базар прадаваць павёў...

— Ну і?

— Усе людзі вярнуліся дамоў, а майго Янічкі няма.

— А ці бачылі яго там вяскоўцы?

— Так, паночку, бачылі. І сцвярджаюць, што ён кароўку прадаў і дамоў вяртацца збіраўся.

— А можа, у карчомку завітаў?

— Не, не магло такога здарыцца, тым болей, што наш сусед у карчомцы быў і майго Янічку зваў з сабою.

— А Янка?

— Адмовіўся.

— Значыцца так. Ідзі дамоў, жанчына, а я распытаю.

Пайшла сялянка дахаты, слязьмі горкімі заліваючыся, а пан, да гонару ягонага будзе сказана, не проста так справадзіў гаротную, а пачаў распытваць людзей, якія ў той дзень былі на базары. Неўзабаве і на след выйшаў. Аказалася, што Янічка дамоў пайшоў не адзін, а з двума мужчынамі. Выклікалі іх да пана па адным, пачалі дапытвацца, але тыя не прызнаваліся. Тады пан спытаўся ў лоб:

— Куды грошы падзелі?!

Тыя ажно аслупянелі. Адзін закрычаў:

— Не бралі! Не бралі!

А другі, нібы папярхнуўшыся, толькі і заенчыў:

— А яны... Яны...

— Дзе?!

— Я не вінаваты! Я не вінаваты! Я пакажу!

Загадаў памешчык склікаць усіх сялян з навакольных вёсак і судзіць перад усім народам гэтых забойцаў, якія пакваліліся на грошы і перавялі чалавека.

Сабраўся народ, прыйшлі дарослыя і малыя. Усе сабраліся, каб выказаць абурэнне забойцам. Памешчык выступаў за суддзю. Распытаў, як адбылося забойства, дзе закапалі забітага, куды пахавалі грошы, і вынес прысуд:

— На дуб іх. Там іхняе месца, толькі там, бо няма ім месца сярод сумленных людзей.

Павесілі забойцаў на дубе. Тое месца, дзе адбываліся памешчыцкія суды і ў далейшым, назвалі Судзілавічамі. Там жа і камень ляжаў здаравенны, на які звычайна прымушалі ўзлазіць абвінавачваемага. Той камень, калі ўжо вёска Судзілавічы існавала, на млынавыя жорны перарабілі. Доўга ён працаваў на сялян, пакуль на дробныя камяні не рассыпаўся. Вось адкуль назва пайшла.



# ЧАШНІКІ

Даўным-даўно, калі нашым краем гаспадарыў магутны князь, здарылася гэтая гісторыя. Звалі таго князя Сямён. Не стары чалавек яшчэ быў, даволі магутны і надзвычай разумны. Вось толькі дачуецца, што ворагі на ягонае княства кіруюць ці яшчэ якая бядота пагражае, то сядзе, нікуды не выходзіць пару гадзін, а потым кліча ганцоў:

— Ляціце ў розныя канцы княства і загад мой перадайце: усім гарадам умацоўвацца, а вартавым атрадам патроіць пільнасць, каб ненарокам нас не прыспелі ворагі. І яшчэ перадайце, каб харчы ды баявыя запасы паявілічвалі тэрмінова, каб праверылі трываласць гарадскіх сцен і вежаў. Хто не будзе падпарадкоўвацца ці час стане цягнуць, таму галаву адразу з плеч далоў, дазволу майго не пытайцеся, ад майго імя дзейнічайце. Нікому злачынства, калі потым людзі з-за яго гінуць будуць, не дарую.

— Зразумела, княжа!

— Калі зразумела, то кіруйце ў дарогу, а як вернецеся, то першай справай да мяне, дакладваць, як там справы на месцах.

Птушкамі сарвуцца ганцы і паімчаць у розныя бакі. А праз пару дзён, некаторыя і праз тыдзень, вяртаюцца назад стомленыя, здарожаныя, але задаволеныя, што выканалі

княжацкі загад. Толькі дух перавядуць і адразу ж дакладваюць валадару, што ўсё ў парадку, што парушэнні былі, але па іх любую аблогу можна было вытрымаць.

— Мясцовым ваяводам наказалі, што ты вельмі турбуешся пра парадак, і тым людзям два разы паўтараць не трэба, яны з першага разу ўсё разумеюць.

— Так, яны такія... Сам падбіраў, — задаволена гуў князь.

— Вартавыя пільна сочаць за межамі княства. Пакуль што і блізка чужынцаў няма. Усё ціха, усё спакойна.

— Дзякую вам за службу, хлопцы. Зараз адпачывайце. Трое сутак вас турбаваць не будуць.

— І табе дзякуй, княжа, — адкажуць стомленыя воіны і пойдуць з пакоя.

Валадар заставаўся ў пакоі адзін. Ніхто да яго ў такія моманты не меў права ўваходзіць. Ніхто, акрамя аднаго чалавека — чашніка. Менавіта ён падаваў свайму гаспадару чашу за сталом, менавіта ён адказваў, як ахоўнік, за жыццё князя. І зразумела, што на такое месца падбіралі чалавека надзейнага. Глядзелі, каб у вайсковай справе быў нібы агонь і каб здароўем пераўзыходзіў астатніх, каб розумам не адставаў, каб язык трымаў за зубамі і не сунуўся, куды не трэба, без дай прычыны.

У князя Сямёна быў менавіта такі чашнік. Звалі яго Пятро, а мянушку гэты чалавек меў нейкую дзіўную — Свярдзёл. Дзіўную для таго, хто яго не ведаў, а для таго, хто бачыў хлапчыну ў справе, усё было зразумела: калі ўвап'ецца ў каго позіркам, дык той адразу пачынае губляцца, кідацца, гаварыць абы-што, а целаахоўніку гэта і трэба. Усё выведае, паспее папярэдзіць князя ці сам, без валадара, разабрацца.

Вось і зараз князь сядзеў, а дзверы нячутна адчыніліся і гэтак жа нячутна цераз парог пераступіў здаравенны чалавек. Стаіўся, нібы яго тут і не было. Толькі князь ведаў, што Пятро чакае ягонага загаду ці пытання якога.

— Што, Пятро?

— Усё нармальна, княжа.

— Калі нармальна, то гэта добра. А вось у мяне нешта не атрымліваецца. Баюся, што на мяжы татары недзе стаіліся, а мы пра іх нічога не ведаем.

— А што, нашы віжы гэтак дрэнна сочаць?

— Не, стараюцца. Справа ў тым, што людзі, часам, самі таго не жадаючы, памыляюцца.

— Конь, княжа, і на чатырох капытах, а спатыкаецца.

— Калі так разважаць, то можна любога гультая і лайдака апраўдаць.

— Я нікога не апраўдваю, княжа, я толькі гавару пра тое, што сам ведаю.

— Не крыўдуй, Пятро, але прадчуванне ў мяне нейкае дурное. І ты ж ведаеш, што яно мяне амаль ніколі не падводзіла. Давай пашлём дадатковыя атрады ў тыя мясціны, дзе, як мне здаецца, трэба чакаць удару.

— Але ж там ёсць і заставы, і віжы, і асобныя дазоры.

— А мы пашлём так, каб мясцовыя нічога не ведалі пра дадатковыя атрады.

— Ці не пакрыўдзяцца яны, ці не прымуць, княжа, гэта як недавер да сябе?

— Усялякае можа здарыцца, але людзей, тым не меней, пашлём. Пакліч да мяне сотніка Фёдара. Скажы, каб хуценька джгаў, бо ён любіць затрымлівацца.

— А я папрашу, — адказаў Пятро.

На гэта князь зарагатаў:

— Мядзведзь, толькі нядоўга прасі, бо Фёдар яшчэ заікацца пачне...

Праз колькі часу сотнік быў у князя.

— Вось што, чалавеча. Справа тут ёсць адна...

— Слухаю.

— Прыйдзецца табе са сваёй сотняй на мяжу з'ездзіць. Задача ў цябе будзе няпростая: выведаць, ці не лезуць дзе татары, ці не стаіліся непадалёку. Нешта тут падазронае. Ужо пяць гадоў як да нас не наведваліся.

— У мінулы раз падарункаў добрых наклалі, вось яны і не паспелі яшчэ пералічыць.

— Добра сказаў, — пахваліў валадар, — але глядзі пільна. Справа ў тым, што там ёсць нашы атрады і віжоў хапае...

— І мне трэба ўсё рабіць так, каб мясцовыя ваяры не заўважылі, што я за іхнімі спінамі нешта выведваю...

— Разумны ты, сотнік, час ужо і тысячу вояў табе даваць.

— Жыццё вучыць, княжа.

— Дзень-другі можаш ехаць, не скрываючыся, а потым прабірайся так, каб ніхто і не ведаў, і не чуў.

— Зразумела.

— Тады заўтра, з самае раніцы, у дарогу.

Сотнік устаў і хуценька выйшаў, а князь прамовіў, звяртаючыся да Пятра:

— Бачыў?
— І чуў, княжа.
— І што скажаш?
— Разумны чалавек.
— А ты прасіць, прасіць, — перадражніў князь чашніка, і абодва зарагаталі.
— Фёдар зробіць, назад проста так не вернецца, усё выведае. Калі трэба — стоіцца, што і мыш не заўважыць.
— А ты адкуль ведаеш?
— Мы з ім, княжа, раслі разам, разам да цябе ў дружыну прыйшлі. Потым мяне сюды забралі, а ён сотнікам стаў. Але сяброўства нашае не перарываецца.
— Гэта добра, Свярдзёл, добра... Будзем чакаць.

Сотніка не было доўга. Прайшоў, можа, месяц, а можа, крыху і болей, а ад яго ні чуткі, ні слова. Князь ужо пачаў злавацца:
— Што там здарылася? Чаму няма ганца? Чаму сам не вяртаецца?
Звяртаўся ён, канечне ж, да Пятра, але той маўкліва ўзвышаўся ля дзвярэй.
— Чаго маўчыш? — накінуўся на яго Сямён.
— А што гаварыць?
— Твой жа сябрук. Можа, ён перакінуўся ад мяне да іншага гаспадара? Чаму яго так доўга няма?
— Да іншага гаспадара ён не перакінецца.
— Чаму гэта?
— Таму што ў яго тут і родныя ўсе, і блізкія, і няма яму чаго ў чужым краі рабіць.
— Ты так упэўнена гэта сцвярджаеш...
— Бо веру ў Фёдара. Нешта, відаць, не атрымліваецца, таму і не вяртаецца. Можа, час падбірае, можа, сітуацыю высвятляе...
— У цябе заўсёды адгаворкі знойдуцца. Няхай бы ганца прыслаў...
— Усё будзе добра, княжа. У Фёдару не сумнявайся.
Потым гамонка непрыкметна перакінулася на іншыя навіны, і валадар крыху супакоіўся. А праз пару дзён вярнуўся і Фёдар. Змарнелы, стомлены, але задаволены.
— Ну што там, распавядай, — з трывогай у голасе звярнуўся да яго князь.
—Усё пакуль што добра, княжа.
— Чаму пакуль?

— Таму што на нашых межах татараў няма і паблізу ад межаў — таксама.

— А чаго ж ты так доўга не вяртаўся? Чаму нікога не паслаў з паведамленнем?

Фёдар усміхнуўся:

— А я, княжа, у госці да іх хадзіў. Пакруціўся ля мяжы, паблізу ад яе — чыста. Вырашыў тады глыбей прасунуцца.

— А калі б заўважылі?

— То нехта іншы зараз дакладваў бы, а не я.

— Ну і што там?

— Татары ідуць да нашай мяжы. Неўзабаве паспрабуюць напасці. Мы там пару чалавек у палон былі захапілі, дык калі пачалі іх дапытваць, то яны ўсё чыста і расказалі. Таму нас так доўга і не было. Пакуль жа ўсё разведалі...

— Малайчына. Зараз ідзі адпачывай, [illegible] праз дзень дружыну павядзеш у тое месца, дзе сам быў. Там і сустрэнем няпрошаных гасцей. Няма чаго іх на сваю зямлю пускаць. Як думаеш, Пятро?

— Фёдар ужо надумаў сам дзейнічаць, то яшчэ і вымову атрымаў. Я скажу што-небудзь, дык таксама не спадабаецца.

— Добра, добра, не дзьмі губы, што тая дзяўчына.

— Калі князь так рашыў, то я падпарадкоўваюся волі.

— Я не пра волю ў цябе пытаюся, я парады прашу.

— Ведама, што лепей чужынцаў за межамі княства разбіць, каб нашы людзі не пакутавалі чарговы раз.

— Вось бачыш, і ты нешта разумнае сказаў. А зараз пайшлі ў двор. Трэба да паходу рыхтавацца. Трэба добра падумаць, каб чаго не забыць, не ўпусціць, бо потым давядзецца крывёю за ўсё плаціць. Будзем дружыну збіраць ды аглядаць усё...

Усяго за суткі князь падрыхтаваў дружыну і выступіў у паход. Наперадзе ішла Фёдарава сотня, якая ўжо пабывала тут і добра ведала дарогу. Сам князь ехаў сярод простых дружыннікаў і жартаваў з імі. Нішто так не супакойвала і не ўраўнаважвала, як смех. Поруч пагігікваў Пятро. Да мяжы яшчэ было далекавата, небяспекі не адчувалася і вораг іх заўважыць тут не мог, таму трымаліся спакойна. Пад канец другога дня да Сямёна падляцеў на ўзмыленым кані Фёдар.

— Княжа, хутка мяжа. Тут трэба сцерагчыся, каб не

выкрыць сваю прысутнасць, бо татары ці бокам пойдуць, ці затояцца.

— Ведаю, сотнік. Таму затояцца не татары, а мы. Вось пазіцыю выберам і затоімся. Няхай думаюць, што нікога паблізу няма, няхай радуюцца, што шлях для іх адкрыты. Мясціну ўдалую трэба знайсці...

— Знойдзем. Мы ноччу пакруцімся тут... Войска няхай на гэтым месцы застаецца, пакуль мы не адшукаем добрай пазіцыі.

— Так і зробім, Фёдар. Шукай-круціся са сваімі людзьмі, але не забывайся і пра татараў.

На наступны дзень дружына, стаіўшыся і адступіўшы з паўвярсты ад невялічкай рачулкі, адпачывала ў глухім лесе. Татараў чакалі менавіта тут, бо і вада тут была мелкая, і бераг палогі, і нічога чужынцы не заўважылі — ехалі спакойна.

Недзе пад полудзень паказаліся ворагі. Трымаліся ўпэўнена, не думалі нават, што іх тут ужо чакаюць. Княжацкая дружына вылецела нечакана і пачала секчы чужынцаў. Але і тыя не паддаваліся, не кінуліся ўцякаць.

Біліся моцна і доўга. Князь Сямён ледзьве галавою не лёг. Выратаваў яго верны Пятро-чашнік. Калі ззаду да валадара падкраўся ўвішны татарын і ўжо замахнуўся было сваёй крывой шабелькай, то Пятро распалавініў яго магутным ударам мяча.

Неўзабаве ворагі не вытрымалі і пабеглі, але ўсюды іх знаходзілі, даганялі і забівалі ці бралі ў палон.

Скончылася бітва, выцер князь Сямён свой скрываўлены меч і паклікаў:

— Чашнік, хадзі сюды.

Пятро падышоў і стаў побач, яшчэ разгарачаны, не адышоўшы ад бітвы.

— Дзякуй табе.

— Пустое, княжа.

— Каму пустое, а каму жыцця каштавала. За гэта ўзнагароджваю цябе, Пятро: аддаю ўсе бліжэйшыя ад поля бою землі. Жыві тут так, як твая душа пажадае.

Вось з таго самага часу і застаўся чашнік у нашых мясцінах. Пабудаваў сабе хаціну, сталі побач з ім людзі сяліцца іншыя і паступова ўзнікла паселішча, якое назвалі ад імя першага чалавека, ці, дакладней, ад ягонай пасады — Чашнікі.

# БАРАВЫЯ

Жылі-былі маці з бацькам. І была ў іх адзіная дачка, якую звалі Хімкай. Так здарылася, што пахварэлі бацькі, і ўсім дзяўчынка запраўляла — і па гаспадарцы глядзела, і за агародам сачыла, і каровак на пашу выганяла. Прыбяжыць дамоў, перакусіць і за якую справу хапаецца. Гаспадары перажывалі, што гэтакае звалілася на яе дзіцячыя плечукі, але зрабіць нічога не маглі — хвароба ніяк не пакідала іхнія змарнелыя целы.

Аднаго разу жанчына прачнулася сярод ночы і разбудзіла мужа:

— Ведаеш, мне здаецца, што зараз я размаўляю з табой апошні раз...

— Чаго гэта ты?

— Нічога, проста мне так падалося.

— Мала што падацца можа.

— Не... Паслухай мяне, чалавеча, лепей...

— Слухаю, толькі супакойся, а то яшчэ Хімку разбудзіш, а яна і так натамілася, ледзьве дамоў прыплялася.

— Выканай, калі памру, дзве мае просьбы.

— Зноў ты...

— Прашу пахаваць мяне на высокім узгорачку. Не хачу ў сырой зямлі ляжаць.

— Але ж і я магу памерці.

— Не, ты выжывеш. Мне сон прысніўся. Ты выжывеш, не палохайся.

— Другая мая просьба такая — глядзі за Хімкай, не давай яе нікому ў крыўду. Не давай, прашу цябе і заклінаю.

— Ды ты што? Каб я родную дачку некалі пакрыўдзіў?.. — зазлаваў гаспадар.

Але гаспадыня не звярнула на гэта ўвагі:

— Па-ўсялякаму ў жыцці выпадае. Глядзі ж, памятай пра гэта.

Недзе праз пару дзён гаспадыня і сапраўды памерла. Гаспадар жа, наадварот, паправіўся, паздаравеў. Паклікаў ён суседзяў і пахавалі нябожчыцу, як яна і прасіла, на высокім узгорачку.

Нядоўга сумаваў без жанчыны гаспадар. Праз нейкіх паўгода прывёў у дом другую гаспадыню. Вось тут і пачаліся для Хімкі сапраўдныя пакуты, а не жыццё. Што ні зробіць — усё дрэнна, дзе ні ступіць — усё не так. Ледзь толькі вочы прадзярэ — адразу крык чуе:

— Цябе кармлю, а якая ад цябе карысць?! Дурную авечку корміш, дык з тае хоць мяса ды поўсць. А з цябе?!

Маўчыць Хімка, слёзы горкія глытае, а бацька хоць бы якім словам за дачку заступіўся. Не. Адвернецца і маўчыць, нібы не чуе.

Новая жонка ўбачыла, што гэтак справа ідзе, і давай большага дамагацца:

— Праганяй яе прэч з хаты! Няма ёй тут болей месца!

— А што людзі скажуць?

— Выбірай — яна ці я? Не прагоніш яе, то пайду я з хаты. Так і ведай.

І што ж, вы думаеце, бацька родны зрабіў? Так, выгнаў сваю Хімку з хаты. Тая, бедалага, прасілася дазволіць ёй жыць хоць у хляве, хоць у адрыне, якая далекавата ад хаты стаяла, але бацька быў няўмольны.

— Не, выбірайся. Так спакайней будзе.

— Як скажаш, татачка, — толькі і прамовіла на развітанне Хімка ды, захлынуўшыся слязьмі, пайшла з дому.

Лёгка сказаць — пайсці з дому. А куды? Ішла яна, куды вочы глядзелі, і дайшла да густога бору. І як на тое шчасце, перад самым змярканнем натрапіла на таўшчэразнае дрэва, у якім было вялізнае дупло. Забілася дзяўчынка ўсярэдзіну і заснула. А калі прачнулася ды агледзелася добра, то павесялела: дрэва тое магло падысці і для жылля. Вялікае дупло нагадвала сабою пакойчык, нават шчылінка-акенца ёсць. Да таго ж утульна, зацішна. Толькі і жыві, ніхто цябе лаяць не стане, пальцам не кране.

Нанасіла Хімка туды моху, выслала падлогу, зрабіла сабе ложак, стол, нешта падобнае на зэдлік і засталася ў дупле. Днём па лесе хадзіла, ягады, грыбы збірала ды на зіму сушыла, а вечарамі, вогнішча невялічкае расклаўшы, любіла пасядзець і памарыць. Кожны, відаць, у маладосці любіць гэтым займацца. Ужо і дзверы сякія-такія зрабіла. Так што стала Хімка сапраўднай гаспадыняй, супакоілася.

Неяк надвячоркам сядзела яна ля вогнішча, пра нешта думала, і тут нехта пастукаўся ў дзверы, ціха, але настойліва. А на вуліцы ў гэты час вецер шумеў, дождж ліў нібы з вядра.

— Хто там? — спыталася дзяўчына.

— Пусці, гаспадыня, пагрэцца.

— А хто ты такі?

— Не бойся, я не пакрыўджу, пусці.

Упусціла яна падарожнага, а ім аказаўся малады хлапчына. Селі яны і разгаманіліся. Слова за слова і высветліла Хімка, што перад ёю былы парабак, які ўцёк ад свайго памешчыка і ўжо цэлы тыдзень блукаў па лясах. Заснулі незаўважна, а раніцай той хлапчына прапанаваў:

— Ведаеш што, Хімка? Давай жыць разам.

— Як гэта?

— А вось так. Жыццё наша гаравое, а жыллё баравое. Не прападзём.

Хімка пагадзілася. Так яны сталі мужам і жонкай. А вёску іхнюю назвалі ўжо пазней — Баравыя. Ад таго, што жылі ў бары.

## ВЯЖОЎКА

Тут, дзе цяпер вёска наша стаіць, некалі быў груд, а на ім стаяла камяніца-вежа. Прыгожая і разам з тым трывалая. Рабілі яе майстры не толькі для таго, каб там балявалі гаспадары, але і на выпадак нечаканага нападу ворагаў ці якіх іншых ліхіх людзей. Багаты памешчык, які валадарыў над гэтым краем, прывёз майстроў аднекуль здалёк, то яны яму адразу ж паабяцалі, толькі ваколіцы агледзеўшы:

— Такую вежу ўзвядзём, гаспадар, што і ў цароў-каралёў ніколі не было.

— Пастарайцеся, работнічкі. Я вам грошай-золата не пашкадую, што папросіце, тое і атрымаеце. Але калі...

— Што яшчэ пан хоча ад нас пачуць?

— Я не пачуць хачу, а папярэдзіць вас.

— Адносна чаго?

— Калі вы зробіце вежу, падобную на тыя, якія мне даводзілася бачыць, ці якія тут, па суседству, узвышаюцца, то не будзе вам узнагароды. Атрымаеце не золата, а пакаранне. Суровае і бязлітаснае.

— Зразумела, пане, — адразу сумеліся майстры.

Толькі самы стары не падаў і знаку.

— Справімся, гаспадар. Толькі каб нам памочнікі былі, каб падносілі ды падвозілі камяні ды пясочак, ваду ды бярвенні.

— Адносна гэтага вы не турбуйцеся. Будуць вам памочнікі. Што скажаце, тое і будуць рабіць.

— Гэта добра. Тады ўсё зробім. Нават падземны ход працягнем на цэлую вярсту, — дадаў стары майстар.

— Падземны ход? А ён навошта?

— На ўсялякі выпадак, пане, не пашкодзіць. А раптам нехта наскочыць і давядзецца ўцякаць?

— Што ў мяне, людзей мала, каб адбіцца?

— Па-ўсялякаму здараецца. Бывае, што і сіла сілу ломіць.

— Значыцца, зробіце? Тады з заўтрашняй раніцы і пачынайце.

Пакланіліся майстры і пайшлі з пакояў, а гаспадар задумаўся. Нешта не задавальняла яго ў гаворцы са спрактыкаванымі людзьмі. Здавалася, што недзе яны яго падманулі. Таму вырашыў гаспадар, акрамя таго, што сам будзе пільна за ўсім сачыць, яшчэ і спецыяльна прыставіць да майстроў з гэтай мэтай чалавек колькі. На ўсялякі выпадак, каб потым не пашкадаваць.

Сталі ўзводзіць вежу. Пан бегае, усюды тыкаецца — правярае. А майстры толькі пасміхваюцца:

— Які ўсё ж гаспадар трапіўся недаверлівы...

— Паглядвае, каб камяні не рассыпаліся...

Стары майстар не смяяўся, наадварот, супакойваў сваіх малодшых паплечнікаў:

— Чаго гэта ўсхадзіліся?

— Дык смешна...

— Смешна будзе тады, калі закончым работу. Можа так здарыцца, што гаспадару не спадабаецца, і ўсё на тым скончыцца...

— Як гэта?

— А хіба вы не чулі, якое пакаранне ён нам абяцаў? Глядзіце, бо памешчык за ўсім сочыць. Ведайце пра гэта і меней языкамі мянташце.

Як выгаварыць стары малодшым, дык яны потым цэлы дзень маўчаць, баяцца і рот раскрыць.

Так яны спрачаліся і мірыліся, але справу сваю ведалі выдатна. Вежа расла прама на вачах. Ужо і шапку трэба было рукою трымаць, каб на самы верх глянуць. Але майстры не спыняліся — гналі і гналі рад за радам будыніну да нябёсаў. Калі ўзвялі, можа, на сотню сажняў угару, то стары майстар падышоў да памешчыка, пакланіўся яму і прамовіў:

— Ну вось і ўсё, пане, прымай нашу працу.

— Ужо зрабілі? Усё да канца?

— Так.

— А пра ўмову нашу не забыліся?

— Пра такое не забываюцца.

— Ясна... Можна правяраць? Тады пайшлі.

Ідзе памешчык з сябрамі і дарадчыкамі, а за ім следам пад пільнай аховай майстры крочаць. Пакратае гаспадар сцяну рукою, прыхінецца вухам і слухае, нібы якую жывую істоту да грудзей прыхіляе. Дзівуюцца людзі, але маўчаць.

Нарэшце абышлі палац-вежу і спыніліся. Думалі ўсё, але...

— А зараз яшчэ з самага нізу да верху праверым. Паглядзім, каб там якіх хібаў не было, — сказаў памешчык.

Як глянулі правяральшчыкі знізу ўверх, то і расхацелася ім лезці, але што зробіш, калі падрадзіліся дапамагчы пану. Давялося караскацца ўсім. Калі стаялі на вышыні, то нехта выдыхнуў:

— Але ж і прыгажосць...

— Такой і бачыць да гэтага дня не даводзілася...

Гаспадар гэтыя словы міма вушэй прапусціў, выгляду нават не падаў, што чуў. Не хацеў, каб майстры бачылі, што ён задаволены будынінай. Усё спрабаваў нешта знайсці, да нечага падкапацца. Нечакана павярнуўся да майстроў і выпаліў:

— Але аднае рэчы вы не зрабілі.

— Якой? — падскочылі здзіўленыя будаўнікі.

— Забыліся?

— Не можа такога быць.

— Яшчэ як можа. А падземны ход дзе? Дзе той лаз, які абяцалі пракапаць на цэлую вярсту?

Памешчык пераможна абвёў вачыма дарадчыкаў і майстроў. Усе маўчалі, чакалі, што ж далей адбудзецца. Але ніякіх цудаў не здарылася. Той самы стары падышоў да пана і ціхенька прапанаваў:

— Пане, давайце адыдземся.

Калі адышліся, то стары сказаў:

— Пайшлі, пане, я пакажу, дзе той ход пачынаецца, ніхто, нават мае памочнікі, пра яго не ведаюць. Я спецыяльна так рабіў, каб людзі не ведалі, тады ім можна будзе смела карыстацца ў цяжкую хвіліну, ніхто не знойдзе і даганяць не будзе...

— Вось яно што...

— Справа наша такая.

Развітаўся гаспадар з майстрамі па-добраму. І сам застаўся задаволены, і людзі. Цяпер ён мог смела сядзець у сваёй вежы-палацы, ніхто не асмельваўся на яе напасці. Так цягнулася да таго часу, пакуль аднойчы маланка не ўдарыла ў вершаліну і не абваліла вежу. Толькі і засталася ад яе адна назва — Вяжоўка. Але калі хто жадае пашукаць тое месца, дзе яна стаяла, то гэта будзе зусім проста зрабіць — там валяюцца камяні.

## ІКАНКІ

Паехаў бацюшка з дзякам у млын муку малоць. А тады гаспадары не на адзін дзень ехалі, а выязджалі з вечара, каб чаргу там заняць, бо людзей шмат збіралася, з усяго наваколля. Млынар нікому не адмаўляў, але і сачыў за тым, каб чарга не парушалася, бо тады пачыналі вяскоўцы хапацца за чубы, біцца паміж сабою.

Вось прыехалі бацюшка з дзякам да млына, якраз у той час, калі трэція пеўні гарлаць пачалі.

— Мабыць, самыя першыя будзем, — не вытрымаў, каб не пахваліцца, дзяк.

— Няблага было б...

— Кажу вам, што нікога няма.

— Хто ж яго ведае...

— Ды я і так бачу, што пуста навокал.

— Ну і зрок у цябе, дзяча.

— Зрок, як зрок. Галоўнае, што самыя першыя будзем.

Толькі бацюшка рот раскрыў, каб свайго служку пахваліць, як з кустоўя данеслася:

— Ага, першымі будзеце... Ад канца...

— А канец... Дзе ён? — прамямліў дзяк.

— Ды з паўвярсты будзе...

Бацюшка з дзякам прыціхлі і пакіравалі дарогай уздоўж шматлікіх вазоў. Пад'ехалі да канца, дачакаліся, калі і да іх нейкі селянін прыбіўся, ды пачалі меркаваць, як далей быць. Тут стаяць — сама меней двое сутак трэба. Тады бацюшка і прамовіў:

— Слухай, дзяча, а ведаеш як давай зробім? Давай дачакаемся світання, скінем тут мяхі са збожжам, і ты застанешся іх сцерагчы.

— А...

— А я ад'еду.
— Куды гэта?
— Тут непадалёку жыве майстар, які нам абразы малюе для царквы.
— Дык і што з гэтага?
— Праведаю яго і даведаюся, ці гатовы наш заказ...
Бацюшка быў не дурань лыкнуць гарэлкі, і дзяк пра гэта ведаў, бо і сам часта заседжваўся з ім у царкве, пасля службы. Таму і не хацеў, каб поп адзін ехаў. І майстра таго дзяк ведаў — неблагі чалавек, ніколі з хаты проста так не выпусціць, бутэльку-другую абавязкова на стол паставіць.
— Не, бацюшка, давай лепей дачакаемся світання і разам паедзем. І працаваць не трэба, мяхі туды-сюды кідаючы, і адпачнём там, як людзі, а потым вернемся.
— І то праўда.
— Ды не ўцячэ ад нас гэты млын, бацюшка, — жвава ўзяўся пераконваць пана дзяк, — прыедзем якраз у тэрмін. Яшчэ, як вы казалі, і абразы ў майстра глянем.
Дачакаліся ўзыходу сонца і патарахцелі ў вазку на другі канец паселішча, дзе якраз і жыў патрэбны ім чалавек.
— Куды гэта яны? — не маглі зразумець сонныя сяляне, уздымаючы галовы са сваіх мяхоў.
— Як куды? А вы хіба не здагадваецеся? — адказвалі другія.
— Павесяляцца людзі, — выдыхнуў нехта. — А тут сядзі яшчэ колькі часу...
— Вечара дачакаецеся — нарагочацеся.
— З каго?
— А з гэтых двух... Я падстрою, толькі дапамажыце...

Дзяк з бацюшкам сядзелі ў майстра ўвесь дзень. Так нарэзаліся, што і спявалі, прычым, далёка не царкоўныя малітвы, і апавядалі пра жанчын такое, што хоць ты было вушы затыкай. А напрыканцы бацюшка пусціўся ў скокі, пасля чаго сказаў гаспадару:
— Ну ўсё. Нам час, чалавеча, да млына кіравацъ.
— Едзьце з Богам, — трымаючыся за шула, выправаджваў іх майстар.
Паляглі бацюшка з дзякам на мяхі, абразы паклалі пад галовы, і конік сам пасунуў іх у патрэбным накірунку.

Прачнуліся ад холаду пасярод нейкага балота. Не было побач коніка, не было мяхоў, а пад азадкамі храбусцелі... новенькія абразы, якія яны забралі ў майстра.

— Дзе гэта мы?

— А хіба я ведаю, — гыркнуў поп. — Казаў жа табе, каб пасядзеў на месцы, усё добра атрымалася б, а так...

— А так удваіх сядзім. І няблага, — кальнуў дзяк.

Бацюшка адказаць не паспеў, бо нейкі дзікі голас завыў:

— Давай!

— Што? — заляскацелі зубамі поп з дзякам.

— Абразы!

Служкі маўчалі, потым бацюшка разгублена прамовіў:

— Аддавай... Іконкі...

Тады навокал выбухнуў рогат, ды такі, што, здавалася, хісталася балота, скакалі зоркі ў небе.

— Давай... Іконкі... Вось табе і пажартавалі... — даносіліся галасы.

Бацюшку з дзякам было не да смеху. Ім гэты выпадак згадвалі да скону, а вёску тую, дзе млын некалі стаяў, назвалі Іконкі, а пасля крыху перайначылі і сталі зваць Іканкі.

## МЯДЗВЕДСК

У старадаўнія часы, калі яшчэ, мажа, і прыгону людзі не ведалі, а працавалі на саміх сябе, усё гэта здарылася. Але як ты ні будзь вольным, а на зямлі гнуцца ўсё роўна цяжка. Трэба ж не толькі хлеб ўзрасціць, але і да хлеба чаго прыдбаць, апрануць сваю сямейку, абагрэць яе ды дзетак узгадаваць.

Вядома, маркотна і надзвычай цяжка кожны дзень цягнуць ярэмца хлебароба. Дзе ж гэта вы бачылі, каб чалавек-працаўнік некалі проста так прысеў адпачываць ці браўся ляскаць языком? Не, не было такога. Няхай толькі прысядзе, дык яго адразу па-ўсялякаму высмеюць і мянушку такую прылепяць, што і для праўнукаў застанецца.

З-за працы няма часу спыніцца, палюбавацца на прыгажосць. А прыгажосць вакол была незвычайная. Усё ў прыродзе ішло па ўстаноўленаму парадку.

Куды вокам ні кінеш, птушачкі ўсялякія весела пяюць ды радасна шчабечуць, на зялёных гольках рассеўшыся.

Не трэба ім клапаціцца, што ў добрую пару поле не ўзарана, што не засеяна яно ці не паскароджана. Не падбіраюць яны надвор'е, каб у час жыта зжаць ды звезці з поля ўсялякае збожжа, не баяцца, што дождж пойдзе і страха над галавою можа працячы. Пойдзе дождж, дык яны пад лісточкі, пад кусточкі пахаваюцца, перасядзяць там і зноў шчабечуць-заліваюцца, гора сабе ніякага не ведаюць. Пра тое, як пракарміцца, ды як далей жыць, яны не задумваюцца, бо за іх Бог клапоціцца. Усё для іх робіць, усё для іх выпраўляе. Зноў жа, вопратка на іх вечная: не зношваецца і не рвецца і не трэба думаць, каб яе дзе выгадна памяняць. Выпадзе пара-другая пёркаў, дык на іх месцы адразу ж іншыя выраступь, куды гусцейшыя ды цяплейшыя. Чалавеку такое і ў сне не прысніцца, а калі, надарыцца, і прысніцца, то ўсё роўна не збудзецца, як ты ні круціся, як ні спрабуй нешта перайначыць.

Паглядзіш, а птушкі і ляцяць, куды хочуць. Ніхто іх не спыняе, паноў над імі няма. Сабраліся, зачырыкалі і ўзвіліся ў вышыню, толькі іх і бачылі. А чалавеку чамусьці заўсёды зайздросна, заўсёды таксама паляцець хочацца ад гэтага поля, ад гэтых будзённых турбот-клопатаў. Але адвернецца селянін, падумае і да зямлі вяртаецца, нечым яна вабіць, прываражвае да сябе.

Гавораць, што недзе ў тыя гады і з'явілася на зямлі гарэлка, бо як жа яшчэ заставалася жыць селяніну? Працуе, працуе ён, гнецца, гнецца, але да пары. Як стоміцца надзвычай, то лыкне колькі гарэлкі і адразу зусім іншы настрой у яго робіцца — скакаць ці спяваць хочацца, а на ўсялякія нягоды і ўвагі не звяртае. Як ёсць — так і добра.

Жыў тут некалі адзін такі чалавек. Шчыры працаўнік быў, нідзе не адставаў, усюды паспяваў. Да гарэлкі таксама надта не цягнуўся. Выпіваў крыху ўжо ў самых адчайных выпадках, калі, здавалася, душа з цела збіралася ўцякаць.

Але аднаго разу напіўся моцна. Заснуў, нібы ў яму праваліўся, а калі прачнуўся, дык захацелася пахмяліцца. Колькі ні хадзіў па людзях — ніхто не даваў.

Але чалавек гэты як захварэў. Не даюць яму гарэлкі, а ён усё роўна працаваць не ідзе. Сядзе ды сядзіць са старымі цэлы дзень, ці ляжыць дзе ў цянёчку, не зважаючы на жончыны стогны-плачы.

Убачылі людзі, што так справа павярнулася, і да яго:

— Чаго'ты лайдакуеш, чалавеча? Чаго ляжыш?

— Не магу нічога з сабой зрабіць.

— Але ж гэта грэх вялікі.

— Навошта мне ваш грэх. Няхай ён таму будзе, хто не дае мне гарэлкі пахмяліцца. Калі б далі, то я зусім па-іншаму сябе адчуваў бы.

— Што ж гэта ты, братка, так апусціўся, як курыца падчас дажджу?

— Паглядзелі б вы на сябе.

— Але ж мы працуем.

— А мне, мабыць, сам Бог так даў, — прамовіў той лайдак і палез спаць у свой бярлог, які зрабіў пад высокім дубам, бо дамоў нават спаць не хадзіў.

— Хлопцы, — раптам азваўся адзін з сялян, — а давайце скінемся ды купім яму гарэлкі. Пакутуе ж чалавек, а так, можа, адыдзе і ўсё ў яго наладзіцца.

Так і зрабілі. Скінуліся ды купілі таму чалавеку пару пляшак гарэлкі.

— На, папраўляйся.

Ухапіў лайдак адну пляшку і адразу апаражніў, і з другой яшчэ лыкнуць паспеў. Адным словам, астатнім мала што засталося, толькі што па якой кропельцы.

Як напіўся той вясковец, дык весела яму стала. Пачаў усялякія штучкі выкідваць: і так павернецца, і гэтак перакінецца. І трэба ж было такому здарыцца — ішлі якраз тры жабракі-падарожныя. Паважаныя людзі, ніхто не крыўдзіў. А гэты п'яніца вырашыў напалохаць невядомых людзей. Апрануў на сябе кажух, вывернуўшы поўсцю наверх, і паджгаў насустрач. А тут аказалася, што гэта былі не простыя жабракі, а сам Усявышні з апосталамі. Бачаць, ажно ляціць на іх нешта незразумелае. Бог тады і кажа:

— Каб ты такім быў да скону веку свайго... Каб ты ніколі гэтай поўсці з плячэй не здымаў...

Так яно і сталася. Паспрабаваў той п'яніца распрануцца, і кажух з плячэй не здымаецца — прырос. Пабег ён да людзей, а тыя ад яго кінуліся ўцякаць. Страшна ім стала, напалохаліся. Дык нічога таму дурню не заставалася рабіць, як пасунуцца ў лес, далей ад вяскоўцаў, каб ненарокам тыя яго не забілі. Таму так і сталася, што мядзведзь улетку смыкаецца ды лякае сялян, а зімою спіць у берлагу. Кажуць, што менавіта таму любіць мядзведзь вельмі гарэлку ды салодзенькі мядок. Тое месца, дзе некалі жыў мядзведзь, тое дупло пад дубам, назвалі людзі Мядзведскам. Так тая назва і засталася да гэтага часу, праўда, ужо за вёскай.

# СЛІДЦЫ

Гэта было шмат стагоддзяў таму назад. Людзі падан-не перадаюць з пакалення ў пакаленне, таму і да нас яно дайшло. Мне некалі мая бабулька яго паведала. Як рас-казвала, то плакала і бажылася, што ўсё гэта чыстая праў-да, бо яна нават аднаго сведку ведала, які нібыта бачыў тыя сляды на камянях...

А было ўсё так. На высокім прыгожым пагорку, каля спрадвечнага цёмнага лесу, адзін багаты князь, які, відаць, валадарыў над гэтымі мясцінамі, вырашыў пабудаваць царкву. Выклікаў аднекуль майстроў (а хто гаворыць, што за самага галоўнага быў мясцовы дойлід, што ніадкуль людзей і не выклікалі), запрасіў да сябе ў палац і сказаў:

— Вось што, майстры, хачу [redacted] царкву пабудаваць.

— Святая справа, княжа, — адразу ж ухвальна загулі муляры.

— І я так мяркую.

— Усё, што ўмеем, княжа, мы тут пакажам...

— Але хочацца мне, людзі, каб царква атрымалася незвычайная.

Майстры здзіўлена пераглянуліся:

— Нам бы больш падрабязна, княжа, каб мы змаглі ўявіць, астатняе самі дадумаем.

— Хачу, каб царква была нібы паветраная... Каб ства-ралася ўражанне, што яна плыве ў паветры, а не на мес-цы стаіць...

— Цяпер зразумела, княжа, — упэўнена прамовіў ста-рэйшы майстар, — цяпер выканаем загад.

— Старайцеся.

— Не без гэтага, княжа, не без гэтага.

Пачалі тыя майстры будаваць храм, прытрымліваю-чыся аднаго залатога правіла — не спяшаліся, усё рабілі-даводзілі грунтоўна. Папярэдзілі князя, каб загадаў ён выставіць надзейную ахову і каб да іх нікога не падпускалі. Баяліся, што іхні сакрэт стане вядомы многім, таму так і сцерагліся. Сам князь, калі прыязджаў да іх, то асцярож-на прабіраўся да будоўлі. Прыглядваўся, азіраўся, але нічога не мог зразумець. Сцены стаялі звычайныя, як і ў іншых будынках, і ніякай лёгкасці ў іх не адчувалася. Але не чапаў валадар майстроў. Бачыў, што тыя шчыруюць ад раніцы да вечара. Адно прасілі, каб з будаўнічымі ма-тэрыяламі не было затрымкі. Князь даваў ім тэрміну ўся-

го адзін год. Не такі ўжо ён і працяглы. Не паспее вясна закончыцца, а ўжо восень правы зіме ўступае.

Аднаго разу прыйшоў надвячоркам да валадара старэйшы майстар і кажа:

— Княжа, заўтра апошні дзень нашага тэрміну заканчваецца.

— Ведаю, чалавеча.

— Сябры паслалі мяне сказаць, што мы паспелі зрабіць усю неабходную працу ў тэрмін.

— Паспелі? Дык пайшлі, я агледжу.

— Не, нельга.

— Чаму?

— Рана яшчэ. У нас яшчэ цэлыя суткі. Вось заўтра надвячоркам і прыходзьце правяраць. Заўтра будзе самы час.

— Але ж карціць глянуць.

— Не трэба, княжа. У нас таксама ўсё прадумана наперад, і баяліся мы аднаго — каб не запозніцца, каб паспець у час. Іначай і вы застаняцеся незадаволеным, і пра нас пагудка благая пойдзе, што мы толькі абяцанкамі кідаемся, а слова свайго трымаць не ўмеем.

— Ды што ўжо там. Калі трэба, то адзін дзень і патрываць можна.

На тым і разышліся.

Дрэнна спалася ў тую ноч князю, некалькі разоў падхопліваўся і падбягаў да акна, каб зірнуць на вуліцу, але за акном яшчэ панаваў змрок.

Цэлы дзень валадар сноўдаўся з кута ў кут нібы непрыкаяны. Варта хадзіла за ім і моўчкі пераглядвалася. Было зразумела, што ўсе чакалі аднаго — вечара.

Нарэшце князь зірнуў на сонца і сказаў:

— Ну што, час да царквы ісці.

— Так, княжа. Народ ужо сабраўся, ад полудня шнуруюць, чакаюць, калі можна будзе глянуць на цуд, створаны людскімі рукамі.

— А ты адкуль ведаеш, вой?

— Мае ўсе родныя і блізкія збіраліся ісці паглядзець. Таму і суседзей і знаёмых паклічуць. Адсюль і ведаю.

Калі выехалі на суседні пагорак, то ад нечаканасці ажно спыніліся: народу было гэтулькі, што нельга было праехаць. Таму скаціліся і пайшлі.

Падышлі бліжэй, і тут валадару падалося, што царква пачала ўздымацца і хутка дасягне аблокаў. Услед за

гэтым глыбокі ўздых пранёсся па шматтысячным натоўпе:

— Ляціць, глядзіце, ляціць...

— Царква ўздымаецца, людзі...

— Нібы на скрыдлах...

Сам князь не гаварыў нічога, але разам з тым адчуваў, як валасы ў яго становяцца дыбарам.

— Майстроў, майстроў да мяне! — загадаў ён.

Тых падвялі.

— Прасіце, што пажадаеце, усё дам.

— Нам, княжа, загадайце заплаціць, нічога іншага не трэба. Будаваць — гэта нашае прызванне.

— Як вам удалося?

— Мы вас тады зразумелі, адчулі, вось і перадалі. Але, княжа, стаяць царква будзе пры адной умове.

— Пры якой?

— Пакуль вы будзеце жыць, і яна да таго самага часу будзе тут узвышацца...

Заплаціў князь майстрам у дзесяць разоў болей, чым яны прасілі, і адпусціў. А сам стаў маліцца разам з простымі людзьмі ў царкве. Доўга так працягвалася. Але ўсяму ў жыцці прыходзіць канец, таму і валадар, стаўшы старым, захварэў і памёр. Пахавалі яго, а царква... Ніхто ж не ведаў, што пры яе закладцы нейкая ўмова існавала. Прастаяла яна пасля смерці гаспадара яшчэ трое сутак, а потым... Прачнуліся людзі, паглядзелі — няма царквы. Яны на пагорак, а там толькі некалькі камянёў засталося, і на іх сляды ад чалавечых ног.

— Глядзіце, слідцы, — прамовіў нехта ціха.

Так і сталі тое паселішча зваць, якое пазней на гэтым пагорку было ўзведзена, Слідцы.



# ШАРКАЎШЧЫНА

Калісьці вельмі даўно жыў-быў у нашай мясцовасці спрактыкаваны гаспадар. Такі ўжо чалавек удаўся, што і хвіліны спакойна не мог пасядзець, увесь час нешта рабіў. Людзі ўжо і пасмейваліся з яго:

— Што ж гэта ты, Ахрэм? Няхай бы хоць гадзіну якую перадыхнуў.

— А я як на цяжкай працы стамляюся, дык лягчэйшую пачынаю рабіць.

— І ў каго ты такі працавіты ды кемлівы ўдаўся?

— У дзеда.

— А чаму не ў бацьку?

— Не, у дзеда, бо менавіта ён мяне ўзгадаваў. Ён мяне ўсяму навучаў, дарогу ў жыццё даваў.

— Пазайздросціш табе... Такіх людзей не знойдзеш.

— Эх, браточкі, ды і вы такія ж, толькі сябе збоку не бачыце...

— І дзеці ў цябе, Ахрэм, да працы ненатольныя. Колькі памятаем, столькі яны табе дапамагалі.

— Гэта чыстая праўда, бо я іх прывучваў працаваць з калыскі. Не перагружаў работай, а даваў такую, якую маглі выканаць. Мала-памалу і мае сыночкі сталі мне вернай падмогай.

— Што падмога, то падмога. Колькі не шукай, а такіх хлопцаў ці знойдзеш.

— Ды і вашы дзеці не горшыя.

— Нашы таксама слухаюцца і дапамагаюць, але твае намнога болей. А косяць як... Паглядзець толькі і застаецца, як яны адзін за адным ідуць, а ты наперадзе.

— Не, апошнім часам сам першы не іду. Сыны мяне ашчаджаюць і пакідаюць ззаду. Першым Сцяпан валіць, за ім Іван, за Іванам Фёдарка, мой малодшанькі, Шарачок. А я ўжо за ім...

— А чаму Шарачок?

— Гэта мы яго так паміж сабой завём. Вочы ў яго не чорныя, не блакітныя, а шэрыя. Таму і Шарачок.

Адным словам, зайздросцілі Ахрэму вяскоўцы, што сыны ў яго працавітыя, што сам ён няўломак, і за гэтым усім забываліся, што і жонка ягоная — Адэля — адыгрывала ва ўсім гэтым не апошнюю ролю.

Хлопцы падрасталі, а бацькі непрыкметна старэлі. Яны нават здзівіліся, калі заўважылі, што бацька іхні ўжо сівы.

— Тата, а чаго гэта? — нібы малыя, задалі пытанне.

— А гэта, сыночкі, гады свае сляды пакідаюць.

— Яны ўсіх так сярэбраць?

— Так, перад імі ніхто не ўтрывае. Якім бы асілкам хто ні быў, якім бы храбрым ці трывалым, але перад імі не ўстаіць. Яны заўсёды сваё возьмуць. Спачатку не так, а потым накінуцца, прыгнуць галаву ніжэй, горб на спіне з'явіцца, ногі-рукі трымцець стануць. Потым і смерць запануе...

— Што ты, тата, кінь пра такое і думаць.

— Пажэніцеся, свае сем'і пазаводзіце, потым і пастарэеце, а вашы дзеці на змену прыйдуць. Так спакон вякоў цягнецца. Нічога людзі не могуць зрабіць, бо гэта не ў іхняй уладзе. Усё ад Бога, дзеці, на зямлі і на ўсіх нас ягоныя законы размяркоўваюцца.

Не часта пра такое гаварыў Ахрэм з сынамі, але цяпер ужо тыя болей увагі ўдзялялі бацькам, а працаваць дык увогуле амаль нікуды не бралі.

— Сядзіце дома, па гаспадарцы калупайцеся, а ў полі мы ўсё самі паробім. Няма чаго вам туды сунуцца. Такія ўжо з вас памочнікі...

Ахрэм спачатку крыўдаваў, але Адэля супакоіла яго. Болей таго, яшчэ і слушную параду дала:

— Зямлю ўсю, чалавеча, трэба заранёй падзяліць, каб

пасля нашай смерці яны не надумаліся за чубы хапацца, ды людзі каб з іх не смяяліся.

— Нашы не такія.

— Хто яго ведае, што можа здарыцца. На людзей, кажуць, часінамі находзіць, таму не трэба цягнуць. Давай, Ахрэмка, збяром сыноў вечарам ды падзелім усё пароўну, пакуль мы жывыя і пры памяці.

На тым і парашылі. Селі на прызбе і сталі чакаць хлопцаў з поля.

Павячэралі ўсе разам, і бацька адразу ж распачаў гамонку:

— Ведаю, сыночкі, што натаміліся вы моцна, што не да гэтага вам зараз, але мы з матуляй параіліся і рашылі лепей усё зараней зрабіць, каб потым позна не было.

— Не разумеем, — пераглянуліся сыны.

— А вы паслухайце, не перабівайце. Хочам мы зараз увесь наш нажытак на вас траіх падзяліць. Таксама і зямлю падзелім, каб потым у вас ніякіх спрэчак-боек не ўзнікала.

— Ды мы...

— Не спяшайцеся перабіваць. Вы выдатна ведаеце, што наша зямля, сенакос, ды палоска лесу цягнецца, нібы пуга якая, на тры вярсты ў даўжыню і на сорак сажняў у шырыню. Таму цяжка дзяліць яе, але...

— Неяк пераб'ёмся.

— Але думаю, сыночкі, — працягваў бацька, — што не пакрыўджу вас.

Сыны маўчалі, прыціхлі і бацькі. Потым гаспадар запытаўся:

— Чаго замаркоціўся, Шарачок?

— Хачу вам выйсце падказаць, але баюся, што пакрыўдзіцеся.

— Гавары, сынку, ніхто тут крыўдзіцца на цябе не будзе. Мы ж сабраліся, каб параіцца.

— Тут, тата, такая справа. Давайце, калі вы ўжо дзяліць задумалі, то не рэжце ўсё на кавалкі, а падзяліце ўздоўж. Як яно ёсць, так і дзяліце.

— Але ж вузенька, сынку, атрымаецца.

— Так, — пагадзіліся і астатнія, — павярнуцца канём не будзе як...

— Затое без крыўды, без нянавісці. Лічу, што толькі так можна падзяліць. І марокі ніякай, і сварыцца мы не будзем.

— Шарачок праўду кажа, па яго, тата, і дзялі. Нам жа зямля дастаецца, не каму-небудзь іншаму.

Так і падзяліў Ахрэм усю сваю зямлю, сенажаць ды лес, удаўжкі. Атрымалася кожнаму недзе ўсяго па дзесятку сажняў, затое ў даўжыню — на чатыры вярсты, ажно стомішся, пакуль да канца дойдзеш. Браты яшчэ і жэрабя пацягнулі, каму які надзел, і Шарачок апынуўся паміж братамі.

— Мы за табой прыглядваць будзем, — пажартаваў старэйшы брат.

— Каб не хітраваў, — дадаў сярэдні.

— Жывіце, дзеткі, дружна, — папрасіла матуля. Нам ужо мала засталося, то вы не паганьце наша імя, спраўна зямлю апрацоўвайце, каб людзі на вас ніколі пальцамі не паказвалі і не смяяліся.

Прайшло колькі часу. Памёр Ахрэм, пахавалі сыны і сваю матулю. Самі ўжо сем'ямі абзавяліся, дзеці ў іх пайшлі. Зямлі, здавалася, і дастаткова ад бацькі перапала, але, калі на тыя раты раскінуць, то ледзьве канцы з канцамі зводзілі. Ды не губляліся. Працавалі дзе толькі маглі, падпрацоўвалі. Рыбу хадзілі лавіць, звяроў біць. І з мясам былі, і з пер'ем. Жанкі іхнія ды дзеці ў лес па грыбы-ягады бегалі. Так і ішла справа. Былі, як кажуць, радасці, але былі і ліхія часіны. Такое яно жыццё, каб людзі ніколі надта не расслабляліся, памяталі пра тое, што нехта ўладарыць над іхнімі лёсамі.

Шарачку пашанцавала крыху болей за братоў, бо ў яго, прама на палетку, забруілася крыніца. І вось як гэта здарылася.

Неяк узяў ён свайго старэйшага сыночка на ніву, каб той яму хоць коніка павадзіў. Нічога, што слабы памочнік, але ж намнога весялей, чым самому, унурыўшыся, шчыраваць. Хадзіў-хадзіў хлапчук і, ведама ж, стаміўся і стаў прасіцца адпачыць.

Спачатку неяк угаварыў бацька Яначку павадзіць яшчэ крыху, але потым Шарачок заўважыў, што і сапраўды хлапчук ледзьве ногі перастаўляе, і ў яго ажно сэрца зайшлося. Пашкадаваў малога:

— Ідзі, сынку, вунь пад той кусцік, што наперадзе, і там пасядзі, адпачні. Я яшчэ пару кругоў прайду і да цябе далучуся. Палуднаваць будзем.

Яначка пакіраваў да таго кусціка, прысеў і пачаў корпацца ў пясочку. Ведама ж — дзіця. Бацька хадзіў за сахой, а хлопчык іграўся і раптам закрычаў:

— Татка! Татка!

Шарачка як падкінула. Падумаў, што, можа, на гадзюку напароўся ці яшчэ што страшнае здарылася. Паляцеў, нібы на крылах, а хлопчык усё не пераставаў крычаць:

— Татка! Татачка!

Ужо бацька зусім блізка. Падляцеў, слова сказаць не можа, так пералякаўся ды засопся, толькі прыціскаў сына да сябе.

— Што тут, Яначка? Што, сынку? Я з табой...

— Глядзі, што я там знайшоў...

— Дзе?

— Пад самым кусцікам...

Гаспадар упёрся поглядам пад кусцік, але нічога там не заўважыў.

— Ты лепей паглядзі, — сказаў Яначка, выкруціўся ад бацькі і падскочыў да кусціка. — Глядзі...

Шарачок міргаў вачыма.

— Вада? Адкуль яна тут?

— А яна, татка, з зямлі выбівае...

— З зямлі? Сыночак, Яначка, дык гэта ж крынічка! Вада сцюдзёная заўсёды цяпер у нас пад рукой будзе. Не трэба з дому браць і потым цёплую піць.

Бацька з сынам выбралі вольны час, прыехалі спецыяльна да крынічкі, расчысцілі яе дно, паглыбілі яго, а вакол узвялі дубовы зруб. Павесілі на кусце конаўку, каб было чым піць ваду, адтуль усё і павялося.

Працуюць, працуюць сяляне ці сялянкі, а потым нехта разагнецца і прамовіць:

— Пайшлі да Шаракоўшчыны. Там вадзіцы пап'ём...

Так тая крынічка і служыла людзям. Доўгія гады, нават стагоддзі гэта ўсё працягвалася. Ніколі да яе не зарастала сцяжынка.

Дзякуючы таму, што некалі маленькі Яначка пакорпаўся ў пясочку і дапамог вадзе выбіцца наверх, бруілася тут чысцюткая крыніца. Поле тое людзі называлі па-рознаму, хто Шаракоўшчынай, хто Шаркаўшчынай. Так і вялося. Таму і ў нашы дні можна пачуць усялякія назвы, але лепей за ўсё гучыць Шаркаўшчына, хоць мясцовыя жыхары прамаўляюць і Шаркоўшчына.

# КАЗАКІ

Гэтыя падзеі здарыліся пры прыгоне. Паны-памешчыкі лютавалі, служкам сваім над сялянамі здзекавацца дазвалялі, але і апошнія, часам, не вытрымлівалі — паўставалі. Тады ўжо помсцілі да апошняй кроплі крыві, нікога не шкадавалі — ні паноў саміх, ні іхніх жонак, ні дзяцей.

У нашых мясцінах быў адзін надзвычай люты пан. Звалі яго Звяздоўскі. Хто яго ведае, дзе карані радаводу гэтага памешчыка былі. Адно людзі ведалі дакладна: што прыехаў ён сюды ці то з польскай, ці то з рускай службы. Як пасяліўся, дык адразу пачаў свае парадкі наводзіць. Ледзь толькі што не па-ягонаму атрымаецца, то загарлае:

— Слугі! Да мяне!

Тыя ляцяць, баяцца, каб на іх саміх панскі гнеў не выліўся.

— Кіруйце па палетках, па нівах-сенажацях ды назірайце, як мужыкі працуюць. Не шкадуйце іхніх спін, не жальцеся над жонкамі ды дзецьмі, бо яны такія самыя мужыкі, не паспееце адвярнуцца — яны на зло што-небудзь учыняць.

— Выканаем, шаноўны пане, — адказвалі тыя і імчалі выслужыцца перад лютым гаспадаром.

Сам Звяздоўскі звычайна заставаўся ў маёнтку і там загадваў катаваць самых непаслухмяных вяскоўцаў. Сам абавязкова пры пакаранні прысутнічаў ды яшчэ і здзекаваўся:

— Чаго ж ты, родненькі, крычыш? Ты спявай, спявай!

А двум здаравенным служкам, якія за ім, нібы здані, паўсюдна хадзілі і ўсе ягоныя загады выконвалі, казаў:

— А вы яму дайце добра. Дайце, каб мала не падалося.

Тыя стараліся. Так давалі, што за якіх пару хвілін душа з беднага сялянскага цела адлятала высока, у недасягальную для Звяздоўскага мясціну, бо, каб мог, то ён бы і душы людскія катаваў.

Так працягвалася, казалі, гадоў дваццаць. Сяляне трывалі, маліліся, каб Бог забраў хутчэй з гаротнай зямлі гэткага вылюдка, але Усявышні не надта спяшаўся выконваць людскія просьбы: ці то якія справы яшчэ больш неадкладныя былі, ці то не меў сілы звесці яго з зямлі. Як бы там ні было, але памешчык адчуваў сябе на гэтай самай зямлі галоўнай істотай.

І вось неяк вяскоўцы з аднае невялічкае вёсачкі сабраліся ў прыцемках (баяліся днём, каб хто з панскіх паслугачоў не заўважыў ды не падслухаў, ■ потым гаспадару не данёс) і давай раіцца, што далей рабіць, бо болей так жыць не маглі.

— Няхай ужо лепей усіх, разам з жонкамі і дзецьмі, закапаюць жывымі ў зямлю, чым так пакутаваць.

— Да каня ці да вала намнога лепей адносяцца, чым пан да нас. Мала таго, што лупцуюць кожны дзень, дык на сваю сям'ю не даюць магчымасці папрацаваць.

— На памешчыка гнешся, гнешся, а сваім дзецям і з'есці няма чаго.

— Трэба, браткі, нешта рабіць.

— А што тут зробіш?

Усе замаўчалі. Ведалі, што далей трываць нельга, але і пэўнага выйсця не бачылі. І тут раздаўся адчайны голас:

— Чаго сцішыліся?! Што, зноў пагамонім і разыдземся, а ён будзе па-ранейшаму над намі здзекавацца?!

— Чаго ты крычыш?

— Бо надакучыла маўчаць!

— То прапануй.

— Я і хачу сказаць — давайце бунтавацца!

— Не выйдзем на працу, ці што?

— Не, у лес падамося.

— А сем'і?

— З сабой забяром.

— А жывёлу: коней, каровак, авечак?

— А многа іх у нас? Што тычыцца будынкаў, то іх спалім, каб у ліхія рукі не дасталіся. А ў лесе... У лесе не будзем сядзець спакойна, а прыгадаем панам ды падпанкам, як яны з нас здзекаваліся.

— Во гэта справа! На такое мы згодны!

Калі памешчыку данеслі, што згарэла цэлая вёска і жыхароў нідзе няма, дык ён, асабліва не задумваючыся, адказаў:

— А туды ім і дарога.

Але праз некаторы час пачаў шкадаваць, што не разабраўся, не даў веры, бо ўсе навакольныя маёнткі згарэлі. Паноў-падпанкаў мноства перабілі, перавешалі. І ягоных слугаў амаль не засталося. Калі Звяздоўскі пачынаў патрабаваць, каб сяляне больш спраўна працавалі, то сяля-

не ўжо не схілялі моўчкі галовы, адусюль чуліся, праўда, яшчэ не ў поўны голас, гнеўныя галасы:

— Пачакай, пачакай, і на цябе яшчэ казакі знойдуцца...

І знайшліся такі. Падпільнавалі лясныя жыхары ліхога пана, калі той ля рачулкі прагульваўся. Нават і піскнуць не паспеў, як ужо калыхаўся на высокай асіне.

Лягчэй стала сялянам жыць, бо тыя паны, якія пазней сюды прыязджалі, ужо не так люта адносіліся да людзей.

А жыхары той вёсачкі, якія ўцяклі, так і засталіся жыць сярод адвечнага лесу, а пра іхняе адважнае мінулае нагадвала толькі дзіўная назва, якая назаўсёды засталася з імі, — Казакі.

## КУКАЎКА

На месцы, дзе цяпер наша вёска стаіць, даўней раслі адвечныя, таўшчэразныя дубы, якія здзіўлялі падарожных ды праезджых людзей сваёй таўшчынёй і вышынёй. Як ні дапытваліся яны, у чым прычына, сяляне часцей за ўсё маўчалі, а калі і адказвалі, то з гэтых адказаў нічога нельга было зразумець, адчувалася нейкая недамоўленасць.

Найбольш кемлівыя пачыналі дапытвацца цішэй:

— Калі не хочаце, то і не кажыце, раз вы ўжо гэтую таямніцу нам адкрыць баіцеся. Дубы вашы ад гэтага меншыя не зробяцца, і вам горай не стане...

— Стане, — выдыхалі тады местачкоўцы.

— Незразумела гаворыце...

— Справа ў тым, што мы свае дубы... слязьмі і крывёю пастаянна паліваем...

— Слязьмі і крывёю?

— Так. Толькі паблізу ад нашых мясцін нікому пра тое, што зараз пачуеце, не распавядайце, каб наш памешчык не даведаўся, бо тады канец усім нам будзе.

— Што, такі суровы?

— Нават не тое слова...

І расказвалі звычайна адно і тое ж паданне ці, дакладней, відаць, гісторыю.

Усімі навакольнымі абшарамі валодаў мясцовы памешчык. Мала таго, што ён быў люты і сквапны, дык яшчэ і сляпы, праўда, не ад нараджэння. З тым вылюдкам спра-

баваў было адзін адчайны чалавек разлічыцца, ды не атрымалася да канца, толькі зроку ваўкалака пазбавіў.

Была ў таго хлапчыны каханка. Прыгожая дзяўчына, працавітая. Не адзін на яе заглядваўся, але яна да пчаляра мясцовага хінулася, да Мартына. Так яны і сябравалі, так і хадзілі ўсюды ўдваіх. Збіраліся жаніцца. А пан наш, ён тады таксама малады быў, увёў такі закон: дзяўчына, якая замуж выходзіць, павінна першую ноч не з мужам правесці, а з памешчыкам. І людзі выконвалі і маўчалі, бо паспрабуй голас падаць — галава на плячах не ўтрымаецца.

Калі пачуў пан, што Мартын жэніцца і бярэ сабе ў жонкі тую самую прыгажуню, якую ён даўно на прыкмеце меў, то ажно зарагатаў і нагамі затупаў ад задавальнення:

— Нарэшце... Нарэшце... Значыцца, сёння я з ёю ўсю ноч пацешуся...

Ягоны рогат падтрымалі шматлікія слугі, і панесліся дзікія крыкі ды рогат за вокны жахлівага палаца.

— Збегайце, папярэдзьце яе, каб не марнавала час, крыху раней прыходзіла. Шапніце, што я даўно жадаю яе. Калі будзе мяне слухацца, дык багатыя падарункі атрымае. Зямлі дам, лесу... Азалачу. Так і скажыце.

Слугі пабеглі, а з памешчыкам застаўся толькі верны войт.

— Што вы, пане? Навошта ёй гэтулькі багацця даваць?

— А хто дае?

— Дык вы ж...

— Я? Эх, войце, адно слова — сказаць, а зусім іншая справа — выканаць. А ты падумаў...

— Было, пане.

І зноў абодва зарагаталі. Але смяяліся яны, як аказалася, рана. Неўзабаве прыбеглі пасланыя слугі і яшчэ ад парога залапаталі наперабой:

— Пане... Пане... Не слухаецца...

— Хто? — ажно прыўстаў гаспадар.

— Дзяўчына. Сказала, што і чуць пра вас не жадае, не тое што з вамі спаць.

— Прывалаклі б сюды адразу!

— Там гэты... Як яго...

— Мартын? І вы збаяліся?

— Ён біцца пачаў.

— Звязаць і абодвух да мяне ў пакоі! Я ім пакажу, ганарліўцам, як мае загады не выконваць! Яны ў мяне паскачуць!

На гэты раз колькасць слуг была значна большай, і праз некаторы час Мартына з каханкай прывалаклі ў палац.

— Дык, кажаш, са мной спаць не жадаеш?

— Не!

— Зараз я пры тваім жаніху зраблю сваю справу і ніхто мне не перашкодзіць, — прамовіў пан і падаўся да дзяўчыны.

Тая адчайна баранілася, крычала, але нічога зрабіць не змагла... Гаспадар, задаволены, узняўся і прамовіў:

— Вось і ўсё. Адпусціце іх.

Маладых адпусцілі, але, як аказалася, зрабілі гэта зарана, бо Мартын выхапіў здаравенную паходню з рук аднаго са слуг і скочыў да памешчыка. Задушыць пана ён не паспеў, але здолеў выпаліць злыдню вочы. І сам загінуў у палацы. А ягоная каханка ўцякла.

Пасля таго, як аслеп, памешчык прызвычаіўся хадзіць на паляванне. Дзіўна, але страляў трапна, па слыху.

Так ён паляваў на птушак, а да людзей ужо не чапляўся, за імі сачылі падпанкі. Але неяк да яго прывялі жанчыну і сказалі, што гэта тая самая каханка Мартына.

Усхадзіўся пан:

— На гэты раз ты ў мяне паскачаш!

— Не палохай. Не баюся [redacted] цябе, — горда прамовіла жанчына.

— Пабачым!

— Ты ўжо не пабачыш.

Загадаў памешчык той жанчыне залезці на дуб як мага вышэй і кукаваць, [redacted] сам адышоўся на патрэбную яму адлегласць і стрэліў у тым напрамку. Жанчына мёртвай упала з дуба.

Але знайшлося ліха і на памешчыка. Аднаго разу, калі ён павёў у лес сваю чарговую ахвяру, здаравенная галіна дуба ўпала прама на злыдня. Там ён і згінуў, ніхто яго не даставаў.

Мясцовасць тую назвалі Кукаўкай. Пазней там вёска ўзнікла, наша вёска.

# ЛУЖКІ

Падчас вайны 1812 года праз нашы мясціны баявыя дзеянні пракочваліся двойчы: першы раз, калі рускія адступалі, а другі раз, калі ўжо адступалі французы. Дык ад таго самага першага разу і засталася назва невялічкага паселішча, якое ўзнікла якраз там, дзе стаяла вялізнае войска Напалеона. Паслухайце, як усё адбывалася.

Пра тое, што пачалася вайна, мясцовыя жыхары даведаліся са спазненнем. Па-ранейшаму займаліся гаспадарчымі справамі, ды неяк і не заўважылі, што глухія іхнія мясціны, кудою і за месяц ніякі вершнік ці экіпаж не праязджаў, зрабіліся больш ажыўленымі. Сталі з'яўляцца вайсковыя вершнікі, якія, праўда, не гаманілі ні з кім, а толькі пілі, разгарачаныя, ваду са сцюдзёнай крыніцы і праз імгненняў колькі да слыху даносіўся звонкі пошчак капытоў. Ніякіх буйных атрадаў ці партый тут пакуль што не наглядалася. Усе тыя ганцы былі адзіночныя.

Сядзелі неяк вяскоўцы на прызбе і гаманілі. Дзень яны адпрацавалі, нарабіліся ўволю і зараз быў самы той момант, калі можна было даць адпачынак стомленаму целу. Гаворка лянотна перакочвалася з адной тэмы на другую, заціхала і зноў ускіпала. Мужчыны разыходзіцца не спяшаліся. Не надта часта выпадалі такія хвіліны, каб сабрацца разам ды перакінуцца словам-другім. Вось тут і прагучала нечаканае пытанне:

— А што гэта вершнікі ўсё ездзяць праз нашу вёску?

— Ага, мае дзеці кароў пасвілі, дык гаварылі, што ў іх коннік дарогі пытаўся...

— Наш ці што?

— Не тое, каб наш, але расеец, бо дзеці ж зразумелі пытанне.

— Нешта тут не тое робіцца... Каб было ў каго запытацца...

— У нас тут і людзей такіх няма.

— Чаму няма? Ёсць.

— Хто?

— Ды салдат... Той, што некалі да нас прыбіўся пасля заканчэння службы.

— Думаеш, ён нешта ведае?

— Ён жа былы вайсковец, можа, пра нешта і здагадваецца...

— А дзе ён зараз?

— Ля хаты корпаецца. Калі я сюды ішоў, то вітаўся з ім, — адказаў адзін вясковец.

Натоўп паволі пасунуўся ў накірунку патрэбнай сялянам хаціны. Сапраўды, салдат яшчэ не закончыў сваю працу і падладжваў плот. Заўважыўшы людзей, кінуў усё і стаў чакаць.

— Слухай, братка, — звярнуўся да яго той самы селянін, які задаваў пытанне пра вершнікаў, — чаго гэта вершнікі тут так часта насіцца сталі?

— Каб жа я ведаў...

— Бачыш, і ён нічога не ведае, — азваліся астатнія.

— Але ж ты ў войску служыў. Павінен хоць нешта адчуваць адносна ўсяго гэтага...

— Адчуваць? Ды вы сядайце, чаго стаіце. Паспрабуем разам разабрацца, што тут магло здарыцца.

— А ты, чалавеча, мяркуеш, што нешта здарылася?

— Хутчэй за ўсё. Ганцы за проста так не сталі б насіцца.

— І якая можа быць прычына? — асцярожна запытаўся стары дзед.

— Вайна, можа, дзе пачалася, — выдыхнуў салдат і зацягнуўся едкім дымам з глінянай трубачкі.

— Вайна?

— Яна, браце. Калі дзе якая бітва ці войска ідзе, то веставых-коннікаў не злічыць.

— З кім жа вайна ў нас можа быць?

— Ды ці мала з кім. Ім не сядзіцца, а салдацікі гаротныя кроў сваю праліваюць.

— Ракою... — прамовіў салдат і вочы ягоныя затуманіліся, відаць, прыгадаў сяброў-таварышаў, якія засталіся на шматлікіх палях бітваў.

— Як жа ўсё ж даведацца?

— Калі сюдою войскі пойдуць, то адразу даведаемся, а калі не, то пашанцуе.

— Чаму?

— Бо спаляць, вынішчаць усё. Там жа не сотня-другая людзей пройдзе, а дзесяткі тысяч. Можаце ўявіць, што тут будзе рабіцца...

— А што ж нам рабіць, салдат, каб уратавацца?

— Давайце зараз усе разам і вырашым. Я прапаную перайсці жыць куды ў іншае месца. Самі выратуемся і сем'і свае выратуем. Жывёлу пазабіраем, а ўсё, што ў хацінах лепшага ёсць, пахаваем. Можа, будынкі не будуць

паліць, калі і спаляць, дык адбудуем. Галоўнае, каб людзі жывыя засталіся.

— Ведама што. Так і зробім.

Перабраліся людзі пасля тае размовы жыць у глухую пушчу. Месца выбралі такое, што і сам чорт не знайшоў бы, не тое што чужынцы. Паступова супакоіліся, прызвычаіліся. Есці было што, а да астатняга сялянам не прывыкаць. Потым нехта данёс чутку, што вайна пачалася. Нават у пушчу цягнула дымам.

— Усё навокал паляць. Добра, што мы здагадаліся ўцячы, а то і нам такое ж было.

Паслалі разведчыкаў праведаць, ці ёсць ворагі на месцы былой вёскі. Тыя неўзабаве вярнуліся і сказалі, што агромністы лагер стаіць якраз там, дзе некалі любілі касіць сена, — на лугах.

Калі французаў прагналі, то вяскоўцы выбраліся з лесу, але пасяліліся не на старым паселішчы, а там, дзе быў лагер непрыяцеля, бо надта многа ўсялякага дабра, патрэбнага ў гаспадарцы, пакідалі там французы. А вёску тады назвалі Лужкамі, што між лугоў стаіць.

## ЛЯДНІКІ

Жылі-былі дзед і баба. Так ужо здарылася, што пабраліся яны тады, калі ў дзеда жонка памерла, а ў бабы той муж сканаў. Таму было ў іх двое дзяцей, дзве дачкі: бабіна — Насцёна, і дзедава — Алёна. Яны імкнуліся кожны свайму дзіцяці дапамагаць, і неяк незаўважна баба пачала ў хаце гаспадарыць. Дзедава дачка стала ёй упоперак горла, з-за таго і сварыліся, бо дзед ведаў сваю Алёну, што ніякая яна не лайдачка, а ўжо прыгажуня — то пашукаць яшчэ такую ж.

Баба ўпікала дзеда:

— Як ты сваю дачку любіш. Хвіліны не пройдзе, каб не пахваліць. Але, было б каго.

— А то не?

— Вырасла нейкая караўка...

— На сваю паглядзі лепей.

— Мая самая, што ні на ёсць, прыгажуня!

— Ага, толькі людзей надвячоркам і палохаць такой прыгажуняй...

— Затое мая працавітая! Вось!

— Я ж табе ўжо казаў, якая яна працавітая.

— Давай тады праверым!

— Давай.

Неяк, паспрачаўшыся, вырашылі дзед з бабай адправіць дачок у лес, па чарніцы, і паглядзець, хто больш спраўны да працы.

Павячэралі і ляглі спаць. Але гаспадыня яшчэ доўга не спала, было чуваць, як яна пра нешта шапталася з Насцёнай. Суцішыліся толькі тады, калі дзед спецыяльна кірхануў.

З самага рання гаспадар сказаў дзяўчатам:

— Пойдзеце па чарніцы. У лес. Хочам паглядзець, хто з вас больш увішная да працы, а то ў нас спрэчкі з-за гэтага ўзнікаюць. Праверым раз і назаўсёды.

— Пойдзем, — адказалі дочкі і моўчкі сталі збірацца.

Дзіўна было, што Насцёна, якая звычайна супраціўлялася, аднеквалася, тут маўкліва пагадзілася.

Стары, праўда, нічога не сказаў, толькі глянуў чулліва на Алёну, маўляў, дакажы, даражэнькая, не падвядзі. Дачка прыжмурыла вочы і ўсміхнулася. Гаспадару адразу ж стала лягчэй на сэрцы, бо дачка зразумела ўсё правільна. Гаспадыня, дык тая прамовіла, да Насцёны звяртаючыся:

— Не забудзь, дачушка, што я табе вечарам казала...

— Не, матуля, усё памятаю і ўсё так зраблю.

Пайшлі дочкі ў лес і зайшлі даволі далёка. Туды, куды не хадзілі вясковыя жанчыны браць чарніцы, бо баяліся, каб лесавік іх там не закружыў ці каб якое іншае ліха не здарылася. Гэтым жа двум хацелася натрапіць на нябраныя ягады.

Нарэшце знайшлі такія ягады — буйныя, як боб, толькі і бяры. Алёна як узялася, дык адразу ў пасудзіне палова стала, а Насцёна — адну ягадзіну ў рот, а адну ў пасудзіну.

Час ляцеў непрыкметна, і недзе адразу пасля паўдня Алёна сказала:

— Мне ўжо час дамоў вяртацца.

— Чаго гэта так рана?

— Ды браць няма куды болей. Поўную каробку сваю набрала, трэба вяртацца.

Тут Насцёна зразумела, што прайграла, але прыгадала тое, чаму яе навучыла матуля.

— Не спяшайся, давай пасядзім крыху. Адпачнём і потым дамоў рушым, усё роўна яшчэ ранавата.

— Давай, — пагадзілася Алёна.

Каб жа яна ведала, што задумала злаплівка Насцёна, дык ніколі на такое не пагадзілася б. Селі яны ля сцяжынкі і вырашылі падрамаць якіх з паўгадзінкі. Алёна заснула, а Насцёна лупянула яе па галаве цурбалкам і зарагатала:

— Вось і ўсё табе! Цяпер не будзе выхваляцца твой татачка, што ты намнога лепшая за мяне. Не будзе скаліць зубы, што я лайдачка ды няўмека. Цяпер табе зямля сырая вочы закрые...

Мала гэтага, перасыпала ягады з Алёнчынай каробкі ў сваю і паджгала дахаты.

Маці яе ўзрадавалася:

— Вось бачыш, якая мая дачушка!

— А дзе ж Алёна? — пачаў дапытвацца бацька.

— Ды яна са мной не хадзіла. Асобна падалася, відаць, каб мяне перагнаць. Толькі не атрымалася, я больш спраўнай аказалася...

Паснулі ўсе ў хаце, а стары гаспадар не спаў, ніяк не ішоў да яго сон, усё здавалася, што нешта тут не тое. Але дзе ж ты станеш шукаць дачку, калі навокал бяскрайнія лясы? Прачнуўся на досвітку і ў двор выскачыў, ды нікога не было. Так і прапала ягоная Алёна.

Але Бог злітаваўся над ёю, дапамог дзяўчыне ў цяжкую хвіліну: Не забіла яе злаплівка да смерці, толькі моцна прыглушыла. Апрытомнела дзяўчына, але ўзняцца не магла, толькі застагнала ціхенька. І тут пачула нейчы голас:

— Хто ж гэта цябе? Давай я табе дапамагу.

Болей нічога не пачула дзяўчына, бо страціла прытомнасць.

Прыйшла ў сябе ў невялічкай, чысцюткай хацінцы. За сцяною было чуваць, як стогне-галосіць вецер, хлюпоча дождж.

— Дзе гэта я?

— У мяне ў гасцях, — пачуўся зычны голас, і дзяўчына ўбачыла здаравеннага чалавека са светлай бародкай, вочы якога іскрыліся смехам.

— А ты хто?

— Я? Я — Змітрык. Жыву ў гэтай глухамані адзін. Калі быў яшчэ зусім малы, дык пошасць вымарыла ўсю

нашу вёску і, злякаўшыся, збег я, куды вочы глядзелі. Неяк тут апынуўся. Далей дарогі не мог знайсці, ды, шчыра кажучы, і не шукаў. Застаўся. Так і жыву. Прызвычаіўся да лесу. Цяпер і не ўяўляю сябе без яго. А ты доўга не адыходзіла, — нечакана перавёў гаворку Змітрык. — Заставайся тут, са мной. За жонку мне будзеш.

Так і вырашыліся ўсе пытанні ў жыцці дзяўчыны. Сталі яны ў лесе жыць. Дзеці ў іх пайшлі. А калі старэйшы хлопчык падрос, то Алёна запрасілася ў мужа:

— Давай сходзім да той вёскі, адкуль я родам. Хачу глянуць, ці жывы тата, ды і людзям праўду трэба расказаць.

— Давай. З раніцы пойдзем, да вечара вернемся назад.

Так і зрабілі. Падышлі яны да знаёмай хаціны, і хлопчык зайграў на дудачцы:

Іграю, дзедка, памалу,
Каб не закрануць у мамкі рану,
Бо яе сястрыца ледзь не загубіла —
Цурбалкам па галаве біла...

Як пачуў гранне гаспадар, дык адразу ж да іх выскачыў. Забралі яны яго з сабой жыць. Стары ўсё дапытваўся, як жа гэта яны ў лесе выжылі. На што яму Змітрык адказваў:

— Мы ляда здаровае раскарчавалі...

Тады дзед толькі і паўтараў:

— Ляднікі вы мае... Ляднікі вы мае дарагія...

Так тое паселішча пасярод лесу дрымучага і назвалі потым.

## ЮЗІХА

Гэтая гісторыя надта даўняя. Здарылася яна, калі яшчэ, можа, прыгон быў у самай сіле. Людзі тады амаль ніякіх правоў не мелі. Што памешчык загадваў, тое і выконвалі. Болей таго, пан мог прадаць сваіх людзей, разлучыць іх назаўсёды, маладога хлопца, які нечым яму не дагадзіў, аддаць у салдаты.

Такая гісторыя і ў нас здарылася. Быў у адной матулі сын. Звалі яго Юзік. Бацьку яго некалі сасна ў лесе прыдавіла, таму хлопец за дваіх цягнуў гаспадарку. Зайздросцілі людзі, што яны шматлікімі сем'ямі не маглі так упраўляцца, як Юзік адзін, хвалілі яго.

Маці ажно цвіла ад гордасці. Яшчэ б! Каму не спадабаецца, калі ягонае дзіця хваляць?

— Сыночак, адпачні крыху, да равеснікаў схадзі, пагуляй. Якую дзяўчыну дамоў правядзі...

— Рана мне яшчэ, матуля,— аджартоўваўся той.

— Нічога не рана. Якраз твая часіна гуляць прыспела.

Сама падганяла хлапчыну, а потым будзе яго за гэта і праклёнамі чорнымі частаваць. Але ж яна не ведала, што сын пакахае не тую дзяўчыну, якая ёй самой падабалася.

Аднаго разу, калі маці ў чарговы раз прыстала да яго ўсё з тым жа пытаннем адносна жаніцьбы, Юзік не вытрымаў:

— Ды ёсць у мяне дзяўчына. Я кахаю яе і хачу прасіць, каб ты дазволіла мне да яе сватоў паслаць.

— Вось як... А хто ж яна такая?

— Алёнка.

— Алёнка? Гэтая галадранка?

— Навошта ты так, мама...

— Не, на ёй ніколі жаніцца не дазволю. Хіба што праз мяне пераступіце!

— Чаму, мама?

— Не пара яна табе!

— Але ж я яе кахаю.

— Знойдзеш сабе іншае каханне!

— Ды не хачу я іншай.

— То і з гэтай ты ў мяне шчасця не пабачыш.

— Навошта ты так гаворыш, я ж твой адзіны сын?

— Не сын ты мне болей, калі не жадаеш мяне слухацца! Так і ведай!

Але хлапчына не паслухаўся і ажаніўся. Людзі ўхвалялі такі ўчынак, што, маўляў, у чалавека свая галава на плячах і ён сам мяркуе, як яму далей жыць. Толькі ж жанчына не паддалася — пайшла да пана і папрасіла, каб аддаў Юзіка ў салдаты.

— Вось дурная жанчына, — вырачыў той вочы, — іншыя плачуць-галосяць, каб не аддаваў, а гэтая наадварот. Потым жа на коленцах перада мною станеш поўзаць, каб дапамог табе чым...

— Не, паночку, не буду. Толькі дзякуй скажу.

— І чым жа табе сын гэтак дапёк?

— Не слухаецца, паночку.

— Добра, няхай будзе па-твойму.

Як даведаўся Юзік, што яго аддаюць у салдаты, то горка-горка заплакаў, так не хацеў разлучацца з жонкай, а тая яшчэ болей плакала і ўсё прыгаворвала:

— Звядзе яна, Юзічак, мяне са свету белага. Не наканавана нам з табой болей пабачыцца...

— Супакойся, родненькая, нічога благога маці табе не зробіць.

— Не, сэрцам чую, што злое яна задумала.

Перад самым адыходам прасіў сын, каб маці не крыўдзіла нявестку, а чым магла навучала, дапамагала.

— Я ўжо яе навучу, — буркнула тая ў адказ.

А што далей было, то нашы людзі нават песню напісалі, і ў ёй чыстая праўда. Паслухайце.

Ой, чыё то жыта?
Чые то пакосы?
Чыя то дзяўчына
Распусціла косы?

Косы распусціла,
Гуляць не хадзіла,
Гэтая дзяўчына
Хлопца прысушыла.

Мела маці сына,
Рана ажаніла,
Маладу нявестку
Адразу неўзлюбіла.

Праважала маці
Сына у салдаты,
Маладу нявестку —
Ў поле жыта жаці.

Жала яна жыта,
Жала — не дажала,
На заходзе сонца
Тапалінай стала.

Як прыехаў сыну:
«Добры вечар, маці,
А што за таполя,
Расце каля хаты?»

«Не пытайся, сыну,
Пра тую прычыну,
Бяры тапарыну,
Сячы тапаліну!»

Рубануў раз першы —
Яна пахіснулась,
Рубануў раз другі —
Яна запрасілась:

«Не сячы, мой мілы,
Я — твая дружына,
Разгарні ты голле,
Там — малы дзяціна!»

«Маці, мая маці,
Што ты нарабіла,
Ты верна каханне
Навек разлучыла!..»

Расказвалі людзі, што калі Юзік пайшоў, то ягоная матуля па-ўсялякаму чаплялася да нявесткі. Людзі ўсё чулі і бачылі дык паміж сабою гаманілі:

— Зноў няшчасную Юзіху свякроў лае. Чаго ёй толькі нестае, чаго дабіваецца ад маладзіцы?

А гаспадыня дабівалася аднаго — звесці нявестку з белага свету. Тая ўжо і не спала амаль, не адпачывала

ніколі, усё старалася дагадзіць наравістай жанчыне, але замест добрых, спагадлівых слоў заўсёды чула толькі адно:

— І за які грэх мне такое пакаранне?

— Няўжо я вам, матуля, такая кара?

— Маўчы, гадаўка, — абрывала нявестку.

Тая і не вытрывала надта доўга. Аднае раніцы знялі яе сяляне з разгалістай вярбы, якая расла над самай ракой. Там жа, на беражочку, і пахавалі бедалагу.

Калі вярнуўся з войска Юзік, то першай справай пачаў дапытвацца, дзе жонка. Яму і паказалі зарослую магілку. Тады ён кінуўся ў раку ды ўтапіўся.

Даўно гэта было. Няма і тае вярбы, і тае рачулкі, а вось памяць пра гаротную жанчыну захавалася ў паданні. Ад гэтага падання і вёска пайшла — Юзіха.



# ШУМІЛІНА

Падчас Айчыннай вайны 1812 года, калі рускія войскі ўцякалі ад французскіх, нехта [redacted] царскіх генералаў слушна заўважыў:

— Далей адыходзіць нельга, бо нас дагоняць і ці пераб'юць, ці акружаць.

— А што ж ты прапаноўваеш? — запыталіся астатнія.

— Трэба падумаць, але так дзейнічаць нельга, бо французскія палкі на хвасце пастаянна сядзяць. І як ты ад іх ні адбівайся, праз гадзіну-другую яны зноў прычэпяцца.

— Твая праўда, генерал, — адказалі астатнія военачальнікі. — Мы таксама пра гэта думаем. Але што тут перайначыш? Хутчэй рухацца мы не можам. У нас і людзі стомленыя, не адпачывалі вунь колькі часу, і параненых ды хворых многа.

— Да таго ж боезапасаў малавата...

— І папаўненне невядома калі будзе... Дзе яно тое злучэнне з асноўнымі сіламі, і сам Бог не ведае...

— Так, цяжкасцей многа. І ўсё ж трэба нешта рабіць. На тое мы салдатамі і камандуем, каб меркаваць ды прапаноўваць, каб людскія жыцці захоўваць.

Пакуль мы тут размаўляем, недзе французы нам на хвост зноў садзяцца...

Усе змоўклі. Пагаварыць і разысціся ці скамандаваць павярнуць полк кругом — справа няхітрая, а вось прыдумаць нешта такое, што тут затрымала б ворага, прымусіла б яго дзейнічаць не гэтак нахабна, — зусім іншае.

І тут загаманіў той самы стары генерал. Ён адчуваў, што маладзейшыя чакаюць, каб слова ўзяў менавіта ён, бо і вопыту ў яго болей, і бываў стары служака ва ўсялякіх сітуацыях.

— Я вось што думаю, сябры...

Астатнія пасунуліся бліжэй.

— Давайце зробім французам такі мяшок. Пярэднія палкі, якія ўжо далекавата адсюль адышлі, няхай выбіраюць зручную пазіцыю, каб яна сама на нас працавала.

— Чаму пярэднія, а не заднія?

— Адказваю. Яны будуць там чакаць непрыяцеля, прапускаючы праз свае пазіцыі нашы падраздзяленні. Вораг і не здагадаецца, якая пастка яго чакае наперадзе, будзе, як і заўсёды, дзейнічаць нахрапіста. Тут і напорацца...

— Слушная прапанова, — аднучасова загаманілі ўсе генералы.

Праўда, праз нейкую хвіліну пачуліся і прапановы, якія нібыта ўдакладнялі план старога генерала.

— Трэба засекі парабіць.

— Загадаць, каб тым, хто застаецца, аддавалі боезапасы. Тады і пратрымаюцца людзі даўжэй, і гушчыня агню будзе намнога большай.

— Засаду не трэба абцяжарваць ніякімі абозамі.

— Артылерыю пакінуць толькі лёгкую. На коннай цязе.

— Трэба пазіцыю выглядзець у вузкім месцы, каб у непрыяцеля не было магчымасці манеўраваць.

Стары генерал ажно свяціўся. Вось, маўляў, якія ў мяне паплечнікі — нават драбніцы не ўпусцяць. Потым нечакана запытаўся:

— Засталося вырашыць яшчэ адно — хто застанецца камандаваць засадай.

Нейкі момант панавала цішыня, а потым, амаль аднучасова, усе зрабілі крок наперад і прагучала:

— Дазвольце мне!

Генерал ажно праслязіўся:

— Ды тут, сыночкі, такая справа... Я сам вырашыў застацца.

— Чаму менавіта вы? Мы што, баімся французаў, ці што?

— Вы нам не давяраеце?

— Супыніцеся. Вы добра ведаеце, як я да вас адношуся. І адносна даверу пытання не павінна ўзнікаць. Але ж...

— Што?

— Хачу сам кіраваць салдатамі ў гэтай бітве. Мне яшчэ не даводзілася лоб у лоб сутыкацца з напалеонаўцамі, усё вам загадваў, і вы выконвалі.

— Дазвольце і мне, ваша светласць, застацца, — азваўся адзін з камандзіраў.

— За што табе такая прывілея?

Нехта ледзьве не ляпнуў, што гэты малады і хвацкі вайсковец выслужыцца жадае. Добра, што так не зрабіў, бо далей пачулася:

— Проста мне тут неабходна застацца.

— Што за неабходнасць такая?

— Я ж артылерыяй камандую. І мне давядзецца выбіраць найбольш скрытныя пазіцыі для батарэй і потым тэрмінова перакідваць іх з аднаго месца на другое.

— Ну што, вырашылі, хто тут застанецца? — запытаўся стары генерал.

— Так точна!

— Тады ўсе па войсках і выконвайце тэрмінова загад. Асноўную ўвагу звярніце на пярэднія палкі, ад іх многае будзе залежаць. Не забудзьцеся параненых і хворых адправіць у тыл, як бы хто ні прасіўся. Невядома яшчэ, як гэтая бітва для нас складзецца. Вось і ўсё, што хацеў вам сказаць, а зараз, відаць, самы момант развітацца на ўсялякі выпадак.

— Ды што вы, ваша светласць.

— Нічога, нічога, я не прымхлівы, але вайсковае жыццё, самі ведаеце, пераменлівае.

—Будзем спадзявацца на лепшае, ваша светласць.

— Зразумела.

Праз нейкі час усе разышліся. На месцы засталіся толькі стары генерал ды той вайсковец-артылерыст.

— Ну, што, братка, паваюем? — звярнуўся да яго генерал.

— Пастраляем, — спакойна адказаў той.

— Здагадваешся, што на верную смерць засталіся?

— Так точна.

— Дык навошта напрасіўся? Я стары і аджыў сваё. А ты ж яшчэ зусім малады.

— Тут мае салдаты застаюцца, ваша светласць.

— Вунь яно што... Далёка пойдзеш, сынку...

— Відаць, што так, калі толькі сёння ці заўтра ў гэтай самай засадзе выжыву.

— Шчыра табе гавару, што гарантый нікому не даю. Будзем бязлітасна біцца.

— А мы хужэй і не ўмеем.

— Дык бяромся за справу?

— Так, няма чаго цягнуць.

Гэта зараз, калі ўсюды тэхніка, войскі хутка з месца на месца перабіраюцца, а ў тыя ж часы ўсё пешкі рабілася.

Спачатку выбралі ўдалую пазіцыю. Дарога ішла лесам і ўпіралася ў пагорак. Нікуды не павернеш, ніякім чынам не зманеўруеш і вымушаны будзеш прымаць бой у такім незайздросным становішчы.

Паглядзеў той артылерыст і вырашыў:

— Вось тут, на пагорку, самую вялікую батарэю трэба паставіць. Расчысцім ад вялікіх дрэў сектар абстрэлу, а кустоўе нам не перашкода. Будзем біць толькі ўздоўж дарогі, навылёт прастрэльваць, як у тунелі.

— А зарадаў у вас хопіць?

— Назбіраем. Ужо ёсць па два запасы, яшчэ пакінуць адступаючыя.

— Глядзі, бо на цябе ў першую чаргу разлічваю. У людзях ты ўпэўнены?

— Не падвядзём, ваша светласць.

Доўгіх тры дні рыхтаваліся да бітвы рускія войскі. Прапускалі праз пазіцыі адступаючых і ўсё капалі, будавалі, умацоўвалі. Тыя, хто праходзіў, здзіўляліся:

— Ого, якая сіла!

— Саб'е француз пыху!

— Няхай пераканаецца, што і ў нас ёсць чым здачы даць!

Людзі на вачах весялелі, але камандзіры падганялі іх:

— Мы не застаёмся, праходзім далей.

— Чаму?

— Бо не адпачывалі і сярод нас многа параненых і хворых.

— Дык і што з гэтага?

— А тое, што загады не абмяркоўваюцца. Загадана праходзіць далей, тут за нас іншыя разбяруцца.

Некаторыя салдаты плакалі, прасілі дазволу застацца, сцвярджалі, што ў іх свае рахункі з ворагам, але ніякія просьбы не прымаліся ў разлік.

Неўзабаве прайшлі апошнія палкі рускіх войск. Цяпер тыя, хто застаўся ў засадзе, нецярпліва чакалі ворага.

Стары генерал сядзеў на невысокім бярозавым цурбалку і пра нешта думаў, гледзячы на дарогу, на якой нікога пакуль што не было.

— Думаю, яны сёння не пойдуць, — ціха, нібыта самому сабе, прамовіў ён.

Але той палкоўнік-артылерыст, які стаяў непадалёку, пачуў і падтрымаў гэтую думку.

— А ты чаму так думаеш? — зацікавіўся генерал.

— Не адважацца яны ў незнаёмых мясцінах ноччу ехаць. Гэта ж не ў мірны час. І гарнізонаў іхніх тут пакуль што няма.

— Пакуль што... Толькі б не пранюхалі, што іх тут чакае...

— Варта патроена, ваша светласць. Аддадзены загад не страляць, а знішчаць паасобных вершнікаў ды разведчыкаў толькі халоднай зброяй.

— Думаю, што ўсё пачнецца з самае раніцы.

— Хутчэй за ўсё.

Ноч прайшла спакойна, праўда, у напружанай цішыні. Вакол ляжалі сотні, тысячы людзей. Амаль ніхто не спаў. Забаронена было курыць, распальваць вогнішчы, размаўляць у поўны голас. Людзі трывалі. Даймаў гнюс, але ад яго адмахваліся голькамі.

Ноч летняя кароткая. Не паспела сонейка закаціцца за адным краем лесу, а ўжо з-за другога хітравата выглядвае. Заспявалі-засвісталі птушкі. Усё ажыло. І тут перадалася каманда:

— Падрыхтавацца! Без каманды не страляць! Падпускаць амаль ушчыльную!

Салдаты зразумелі, што разведчыкі заўважылі ворага і паведамілі пра гэта камандзірам. А праз некаторы час паказалася даўжэзная калона. Ворагі не адчувалі небяспекі, ішлі, нібы ў сябе дома. Калі амаль параўняліся з засадай, грымнула кароткае слова:

— Агонь!!!

Што тут пачалося, Божа мілы! Вораг улез на пару вёрст у своеасаблівы мяшок і непрыяцеля дабівалі з удала выбраных пазіцый — зверху, а гарматы прастрэльвалі наскрозь і не было дзе французам схавацца, не было куды ўцякаць.

Білі без перадыху недзе ажно да полудня. Потым спусціліся ўніз і пабралі палонных, якія цудам уцалелі, ды і то таму, што хаваліся пад забітых, пад трупы коней.

Салдаты радаваліся, хоць, ведама, страцілі многа і сваіх. Вайна ёсць вайна, і як ты ні страляй, але і праціўнік адстрэльваецца.

Быў цяжка паранены стары генерал. Салдаты вынеслі яго на палянку. Там ён расплюшчыў вочы і ціха запытаўся:

— Ну як?

— Перамога, ваша светласць, — са слязьмі на вачах адказаў артылерыст.

— Пастраляў?

— Пастраляў.

— І жывы?

— Нават не паранены.

— Малайчына. А я вось... Але нічога, гэтае шумлівае месца надоўга запомніцца ворагам.

Памёр той генерал, не давезлі яго да сваіх. З таго часу пачалі ў народзе гаварыць: «Шумела месца гэта калісьці ў баі з французамі». Пасля таго бою лес назвалі Шумным Борам, а паселішча, якое з'явілася там, — Шумным Сялом. Адтуль і пайшла назва Шуміліна.

## КАЗЬЯНЫ

Было ў бацькі два сыны — Іван ды Касьян. Радаваўся бацька, што хлопцы падрастаюць, дапамогай надзейнай будуць, ганарыўся імі, нават перад жонкай. Неаднойчы, нібы перад чужым чалавекам, выхваляўся:

— Глядзі, якія дзецюкі растуць. Хлопцы, што дубы. З імі ў любой справе можна заставацца, нідзе не падвядуць. Гляджу на іх і сэрца радуецца.

— Думаеш, маё не радуецца?

— Вясёлыя, здаровыя. Што Іван, што Касьян. Нікому не саступяць.

— Думаеш, калі ўпартыя, то і добра?

— Ну і дрэннага ў гэтым нічога няма. Сваю праўду трэба адстойваць.

— Праўду, ведама, трэба, толькі...

— Што «толькі»? Да чаго ты хіліш?

— Скажы, дык яшчэ пакрыўдзішся. Ты ж вунь як на сыноў глядзіш.

— Я на праўду ніколі не крыўдзіўся.

— Каб жа так было на самай справе, а то ўсходзішся...

— Не ўсхаджуся, гавары. Я ж бачу, што ты нешта ўвесь час ад мяне хаваеш.

— Калі так, то не крыўдуй, чалавеча. Адкажы мне на пытанне, ці не заўважыў ты, як сябе паводзяць нашы сыны?

— Чаму ж не, — заўважыў.

— Ну і?

— Нічога дзіўнага. Хлопцы, як хлопцы. Здаравейшыя хіба што за іншых.

— Не, бацька, не толькі гэта.

— Цікава, а што ты яшчэ заўважыла за імі?

— Не за імі, а толькі за адным, за Іванам.

— За Іванам?

— Так. Хіба ты не бачыш, які ён хітры? І хітры толькі для сябе. Ён ніколі нікому не дапаможа — ні свайму, ні чужому. Дай такому ўладу — апошнюю шкуру спусціць з чалавека. Даруй мне, Божа, гэткі грэх, бо гэта ж маё дзіця. Трэба нам нешта рабіць, каб сына, пакуль яшчэ зусім не запазніліся, перайначыць.

— Паспрабуем.

Ды не паспелі яны перайначыць Івана. Спачатку гаспадар захварэў. Крыху пакірхаў і памёр, а потым і матуля іхняя злегла. Паклікала да сябе сыноў і стала прасіць:

— Глядзіце, дзеткі, жывіце дружна. Не злуйцеся адзін на аднаго, не сярдуйце. Людзям чужым у дапамозе не адмаўляйце, то і яны вам ніколі не адмовяць. А як станеце пыхліва да іх адносіцца, то і яны вам такім жа манерам аддзячаць.

— Добра, мама.

— Яшчэ адно запомніце назаўсёды: ніколі не рвіцеся людзьмі камандаваць, надзвычай няўдзячная гэта справа.

— Ды мы ніколі ў жыцці да такога не дойдзем.

— Я, дзеткі, сказала, а вы ўжо глядзіце.

Памерла і маці, і засталіся Іван ды Касьян адны. Не было з кім параіцца, трэба было ўсё самім рабіць, толькі на сябе разлічваць. Касьян як быў простым і даверлівым, дык такім і застаўся. А вось Іван... Іван перайначыўся. Адразу пачаў хітраваць, шукаць для сябе выгоду.

— Давай, — гаворыць, — братка, мы нашу ніву засеем.

— Ведама ж, — пагадзіўся Касьян.

— Потым паглядзім, каму якая палова дастанецца.

— Ды якая гамонка тут можа быць пра нейкія там палавіны? Удваіх пасеем — удваіх і збяром.

— Не, братка, трэба нам прызвычайвацца гаспадарыць паасобку, бо некалі ж і сем'і завядзём...

— Добра. Калі ты так вырашыў, то так і зробім, бо ты ў сям'і старэйшы.

Усе справы браты рабілі пароўну, але дзяліць гаспадарку Іван не спяшаўся. Ён і тут зручны момант падбіраў, каб большы кавалак адхапіць. А небарака Касьян і не думаў пра гэта, як і пры бацьках, шчыраваў на ніве ад раніцы да самага вечара. Потым Іван стаў дамоў раней вяртацца, маўляў, трэба па гаспадарцы ўпраўляцца. А праз некаторы час малодшы брат адзін усю працу цягнуў, бо старэйшы стаў у пана войтам. Збыліся словы матулі-нябожчыцы. Тут толькі зразумеў Касьян, якая жытка чакае яго наперадзе, але нічога ўжо нельга было перайначыць. Вось тады і прапанаваў Іван:

— Давай, братка, дзяліцца будзем. Я сабе вазьму палавіну ўсяго. Але ж ты глядзі, я забіраю крыху большую.

— А чаго гэта?

— Так трэба.

— Нам жа бацька ды матуля зусім іншае намаўлялі. Яны ж перасцерагалі, каб мы не сварыліся, не злавалі адзін на аднаго.

— А мы злавацца і не будзем.

— Як жа не злавацца, калі ты вунь што вырабляеш? Ты ж не проста большую палову бацькоўскай зямлі забіраеш, але і намнога лепшую.

— Пагавары ў мяне, то я табе наладжу! Я зараз войт, як я скажу, так і будзе! І нікому ты не паскардзішся, ні да каго плакацца не пойдзеш!

Так і падзяліў бацькоўскую зямлю Іван. Мала гэтага, узяў сабе жонку з багатым пасагам і зажыў прыпяваю-

чы. Сам ужо не гнуўся на зямлі, на яго іншыя працавалі. А брату дык увогуле спакою не даваў. Дзе якая праца цяжэйшая, ці дзе трэба нарвацца так, што потым трое сутак не разагнешся, туды Касьяна пасылаў. Як ён толькі яго ні прыніжаў, як ні здзекаваўся.

Малодшы брат сям'ю вялікую займеў, дык перабіваліся з крапівы на лебяду — зямлі ж не было. Потым неяк усё ж здолеў Касьян дакупіць за бясцэнак яшчэ крыху пустэчы і там ужо пабудаваўся ды з дзецьмі і жонкай гараваў. Таму тую мясціну і назвалі Казьяны, ад ягонага імя.

## ЛАСВІЦКІЯ

Жылі ў нас тут некалі муж з жонкай — Мар'яна ды Мартын, а прозвішча іхняе было Ласвіцкія. Добра жылі, працавалі шчыра. Людзі іх за гэта паважалі. І дзеткі ўжо ў іх былі — хлопчык і дзяўчынка. Мар'яна была вельмі прыгожая. Здавалася, што ад яе нейкая весялосць сама па сабе сыходзіла і зараджала радасцю іншыя сэрцы.

А непадалёку ад той вёсачкі, дзе жылі Ласвіцкія, была царква, і туды хадзілі жыхары навакольных вёсак на малебны.

Правіў там бацюшка. Стараваты ўжо, але такі бабздыр, што і свет не бачыў. Даруй мне, Божа, што такое кажу, але ўсё было на самай справе, і выпадак той многія згадваюць. Дык вось як убачыць бацюшка прыгожую маладзіцу, то адразу і кідаецца да яе. Доўга хадзіць будзе, праследаваць, пакуль свайго не даб'ецца, а як дасягне, дык да другой перакінецца. І так з многімі жанчынамі ўпраўляўся.

Аднаго разу кінуў ён вокам на Мар'янку і пачаў падбіраць зручны момант. Нарэшце такая хвіліна прыспела — трэба было людзей спавядаць. Бацюшка іншым грахі адпускае, а сам з прыгажуні вачэй сваіх бессаромных не спускае. Падышла да яго маладзіца, поп і пытаецца:

— Чым грашыла?

А Мар'янка яму ў адказ:

— Нічым.

— Не можа такога быць.

— Можа.

— Не паверу, што нідзе не саграшыла.

— Але ж вам так і казаць, бацюшка, нельга.

— Мне ўсё можна.

Мар'янка адвярнулася, каб саступіць месца другому, і тут бацюшка таропка зашаптаў ёй на вуха:

— Можна, я да цябе ў госці ўвечары прыйду?

— Ой, бацюшка. Я ж замужам.

— А ты мужа куды-небудзь адпраў.

— Куды ж яго адправіць?

— Скажы, каб на базар з'ездзіў ці на млын падаўся. Мала што можна прыдумаць...

— А навошта прыдумляць?

— Якая ж ты...

— Ды якая ўжо ёсць, — прыкінулася дурніцай маладзіца.

— Такая прывабная, а ўсё з мужам ды з мужам.

— Мне з ім добра.

— Але з іншымі можа быць лепей. Павер мне, я гэта добра ведаю.

— Што вы, бацюшка, грэх жа гэта незамольны!

— Я табе іх хоць сотню адпушчу, ты толькі мяне слухайся!

Мар'янка хвілін колькі прамаўчала, а потым прашаптала:

— Згодная я, згодная. Толькі адпусці мяне, бацюшка, бо людзі навокал, здагадацца могуць.

— А што мне яны? Ты лепей скажы, калі прыходзіць?

— Вечарам... Вечарам...

— Я і сам ведаю, што не днём, але калі?

Мар'янка крутнулася і, прыхінуўшыся да папа, прашаптала:

— У нядзельку.

Задаволены поп узяўся спавядаць людзей з патроенай энергіяй, а Мар'янка падалася да мужа, які цярпліва чакаў яе ля дзвярэй.

— Што гэта ён цябе так доўга трымаў?

— Ат...

— Гавары, не бойся.

— Сам ведаеш. Дабіваўся, каб у госці запрасіла.

— Трэба было і запрасіць.

— Але ж ён яшчэ сказаў, каб я цябе перад гэтым вечарам выправіла куды, тады ён і прыйдзе.

— У які дзень ты сказала?

— У нядзелю.

— Што ж, калі запрасіла, то і сустрэнем адпаведным чынам. Падрыхтавацца толькі трэба.

Пачула Мар'янка, як муж спакойна гамоніць, і сама супакоілася. Пачала дапытвацца, што задумаў яе чалавек, але той толькі пасміхваўся:

— Настане час — сама ўбачыш.

Дома гаспадыня ўсё паглядвала, што ж там рыхтуе муж. А той наліваў ваду, разводзіў яе гарэлкай і дадаваў яшчэ нечага жаўтаватага. Рабіў усё спакойна, нават нейкую песеньку пад нос мурлыкаў.

Нарэшце прыспеў той дзень, калі трэба было чакаць Мар'янцы госця. Муж сказаў:

— Не палохайся, частуй папа не шкадуючы і гарэлкі яму паболей налівай. Я побач буду. Нічога благога ён табе не зробіць.

Неўзабаве і бацюшка прыджгаў. Гаспадыня за стол яго пасадзіла, а ён усё абдымацца лезе, цалавацца. Тады Мар'янка зміківціла:

— Выпі, бацюшка, спачатку, не спяшайся.

А што папу тую гарэлку выпіць, калі там нейкіх пару квартаў усяго! Узяўся піць і напіўся, нічога не памятаў, што далей было.

А было вось што. Вярнуўся Мартын. Ухапілі яны з жонкай папа за ногі-рукі і паклалі на воз. Завёз яго чалавек да гнілога балота і выкінуў. Пастаяў крыху, паслухаў, як поп храпе і вурчыць, і прамовіў:

— Абкладзешся ты сёння, бацюшка, як самая смярдзючая свіння. Я табе такога намяшаў, што па-добраму не пройдзе...

Пад самую раніцу ля начлежнікаў, якія пасвілі коней, раздаўся дзікі крык:

— Чорт! Чорт! Чорт!

Крычалі дзеці, якіх старэйшыя выправілі на начлег, а самі заваліліся спаць. Але калі раскатурхалі мужчын, то тыя даволі хутка далі рады «нячысціку». Адлупцавалі як маглі, і ўсё, смеючыся, дапытваліся:

— І адкуль гэта ён такі смярдзючы вылез?

Бацюшка хрыплым голасам выў:

— Гэта ўсё Ласвіцкія! Ласвіцкія!..

З таго часу, калі нехта блукаў ці моцна напіваўся, то з яго смяяліся і гаварылі, што гэта Ласвіцкія дурня вучылі. А тое паселішча так і назвалі ад тых кемлівых мужа ды жонкі.

# ЛЮБІЧЫ

Даўно гэта здарылася, тады, калі сам Бог са святымі па зямлі хадзілі. А жылі яны ў тыя гады не на небе, а на высокай гары, якая, можа, яшчэ і ў нашыя дні стаіць, узвышаецца.

Ішоў аднаго разу Усявышні з найбліжэйшымі апосталамі. Сунуліся паволі, па баках пазіралі, сачылі за парадкам. Бог, той больш спраўна пазіраў, бо ён жа ўсё на зямлі прыдумаў, таму і карцела паназіраць, як справы ідуць. А вось апосталы, дык так толькі зіркалі, а калі якое парушэнне і заўважалі, то Усявышняму не казалі.

Ноч прыспела, падарожным ужо спаць захацелася, і пачалі яны выглядаць якую хаціну, дзе пераначаваць. Ажно ўбачылі — у нейкай будыніне святло гарыць, узрадаваліся, а найболей — адзін з апосталаў.

— Вось, — кажа, — зараз перакусім чаго і спаць пад страхою будзем. Але перш трэба зірнуць у акенца, паглядзець, што там робіцца.

Другі паспрабаваў было супярэчыць, ён толькі і рабіў, што агрызаўся з паплечнікам, ды тут умяшаўся Усявышні:

— Чаго не падзялілі? Так і рвяцеся, каб пасварыцца. І не сорамна?

— Ды я толькі зірну і адразу ж назад.

— Няёмка неяк, — засаромеўся Усявышні.

— А чаго там...

Падкраўся апостал да будыніны і зразумеў, што гэта не хаціна, а нейкая лазня. Сцішыўся і ўтаропіўся ў акно. Доўга не мог зразумець, што там адбываецца. Вылупіўся, ужо ўвесь у акно ўлез, а ўсё роўна не дацяміць. Нарэшце дайшло — гэта ж бабка-павітуха жанчыне цяжарнай дапамагае. Плюнуць ужо збіраўся, але вырашыў дачакацца, пакуль парадзіха народзіць, каб хоць паведаміць, хто на свет божы з'явіўся толькі што. Неўзабаве і дзіцятка закугікала, і да служкі Божага данесліся ласкавыя словы:

— Любіч мой... Першанькі... Каханенькі... Любіч мой...

— Бачыш ты, любіч. Значыцца, хлопчык.

Каб жа так сказаў ды пайшоў, то нічога і не здарылася б, а то ж зноў памкнуўся да акна. А ў гэты момант бабка-павітуха павярнулася і заўважыла ў акне ўскудлачаную галаву. Падумала, што нейкі злыдзень падкраўся, каб сурочыць немаўля. І такая яе злосць ахапіла, што

ўхапіла яна бярозавае палена і запусціла ім у акно. Апосталу прама па галаве і ўгрэла. Ён ажно з капытоў зваліўся і загаласіў:

— Каб жа табе шчасця-долі ніколі не было! Каб жа цябе зямля сырая з'ела! А каб твайму немаўляці-любічу долі шчаслівай не было!

Бог з другім апосталам пачулі і бліжэй падбеглі. Думалі, што, можа, дапамога тэрміновая патрэбна, і калі даведаліся, што да чаго, то другі апостал ледзьве ў скокі не пусціўся ад радасці, што цікаўнаму паплечніку добра перапала.

Каб не Бог, дык і пабіліся б, але Усявышні раззлаваўся і прыкрыкнуў:

— Ану супыніцеся, бессаромнікі! Распусцілі языкі! Яшчэ людзі пачуюць, дык сораму тады не абярэмся! Пайшлі адсюль хутчэй!

Пакрочылі яны на другі канец вёскі, але ўсю дарогу чулася сцішанае:

— Каб жа таму немаўляці долі добрай і ласкавай не было... Любіч... Даўся ты ў знакі мне, але і я табе дамся...

І што ж вы думаеце? Чорным праклёнам, аказваецца, закляў той апостал хлапчука. Усе ягоныя словы спраўдзіліся. Тое немаўля стала дарослым чалавекам. Звалі яго Любічам. Так і прыліплі тыя ласкавыя матуліны словы да яго. Добрае імя, і чалавек добры быў, але вось не шанцавала яму ў жыцці. Днямі навылёт працаваў, амаль не адпачываў, але ўсё роўна нічога не атрымлівалася: то залівала ягоныя палеткі, то навальніца з градам іх біла, то жывёла ўбівалася і ўсё дачыста вытоптвала. Але чалавек не скараўся, трываў, неяк знаходзіў у сабе сілы змагацца. Ні дзецям, ні жонцы нічога не гаварыў, а сам, з кожным днём усё болей змрачнеў.

Аднаго разу і Любіч не вытрымаў, выйшаў з хаціны ўвечары, каб родныя не бачылі, сеў на прызбу і горка-горка заплакаў. Плача і не чуе, што нехта насупраць яго спыніўся і чакае, пакуль ён галаву падыме. Тады ўскінуўся гаспадар і бачыць — стаіць перад ім сівы чалавек, у звычайнай сялянскай вопратцы, толькі што ў акуратна пашытай ды падагнанай.

— Чаго ты, гаспадар, гэтак горка плачаш?

— Ат, — адмахнуўся Любіч, — жытка ў мяне такая.

— Раскажы, як яно ўсё здарылася. Пачні з самага пачатку, калі зможаш.

Усё расказаў селянін, нічога не стаіў. Уздыхнуў тады ягоны суразмоўца:

— Не пазайздросціш табе. А як жа твае прозвішча?

— У мяне і прозвішча і імя аднолькавыя — Любіч.

— Любіч?

Задумаўся Усявышні (а гэта быў менавіта ён) і доўга сядзеў моўчкі, усё прыгадваў, дзе чуў гэтае імя. Неўзабаве Любіч запрасіў:

— Пайшлі, дзедку, да мяне ў хаціну. Пакармлю цябе, ды пераначуеш. Чаго-чаго, а месца ў мяне хапае.

Бог жа не гаварыў, хто ён на самай справе, не прызнаваўся. Ляглі спаць, а Усявышняму ўсё не спіцца, і тут да яго данеслася ласкавае жаночае:

— Любіч мой родненькі, як мне цябе шкада. Убіваешся ты, пеpажываеш... І нічога з усяго гэтага не атрымліваецца. Ці той Бог не бачыць, як ты пакутуеш?

Тут Усявышні і прыгадаў, як некалі такое самае імя праклёнам крыў апостал. Раніцай падзякаваў Бог гаспадарам, а Любіча папрасіў выйсці з ім у двор і там ужо прамовіў:

— Чалавеча, пераедзь з гэтага месца ў іншае.

— Я ўжо два разы пераязджаў — не дапамагае.

— На гэты раз дапаможа.

Бог прымусіў таго апостала забраць свае праклёны назад, каб Любічу нармальна жылося. Той забраў, нават не спытаўся, для чаго гэта трэба.

З тае часіны зажыў Любіч добра-шчасліва на сваім хутары, бяды-гора болей не ведаў. Адтуль, ад яго, і назва пайшла — Любічы.

## СІРОЦІНА

Калісьці і ўзгорак гэты, на якім зараз стаіць наша вёска, і само паселішча называліся па-іншаму. Многа навокал усялякага звяр'я ды птаства вадзілася, землі прыдатныя для сяўбы былі, таму і не дзіўна, што неўзабаве людзі тут зажылі заможна. Уся вёска жыла добра, акрамя аднаго хлапчыны. Яськам яго звалі. А жыў ён бедна не таму, што ленаваўся ці адмаўляўся працаваць. Проста так здарылася, што ў яго рана памерлі бацькі і яму ўсё даводзілася здабываць самому. Болей таго, ён карміў яшчэ і дзядулю свайго, які некалі не даў яму замерзнуць ды памерці ад голаду.

Стары ўжо і не ўставаў. Адно сабе ляжаў на палку ды чакаў Яську, каб пагаманіць, адвесці душу ў размове. Часта згадваў, як сам быў малады, і тады абавязкова прамаўляў:

— Ведаеш, унучак, у наш час людзі былі намнога лепшыя і ласкавейшыя...

— А чаму так, дзедку?

— Хто ж яго ведае...

— Але ж нейкая прычына ёсць.

— Ды відаць, што так. Можа, людзі былі ад прыроды дабрэйшымі, а можа, на ўсялякія каштоўнасці ўвагі не звярталі. Глядзелі, каб хлеб і да хлеба на стале было, а астатняе не надта цікавіла.

— Не магло такога быць, каб грошы людзей не цікавілі, — не даў веры Яська. — У нас зараз за капейку галаву адарвуць.

— Так, унучак, гэта праўда. І яшчэ чыстая праўда тое, што чым багацейшы чалавек, тым ён больш сквапны...

Так адзін раз яны гаманілі, а потым Яська зусім нечакана выпаліў:

— Вось бы мне пашанцавала скарб знайсці...

— Скарб? — зяхнуў дзедка. — Навошта ён табе?

— Як навошта?

— Ну, што б ты з ім рабіў, каб знайшоў?

— Ды я...

— Вось, нават і не ведаеш, а яшчэ гаворыш.

— Я не ведаю?

— Ты.

— То слухай, дзедка. Калі б знайшоў, то адразу прыкупіў бы ладны кавалак зямлі. Потым хаціну здаравенную і светлую, як вялізны палац, пабудаваў бы.

— А яшчэ?

— Яшчэ? Жывёлы ўсялякай накупляў бы.

— Згодны, а далей?

— Каб усяго-ўсяго ставала, назіраў бы.

— Усяго ставала? А яшчэ чаго б ты жадаў?

Тут Яська задумаўся. Не ведаў, па шчырасці, што і адказаць старому.

— А ці даваў бы ты людзям бедным грошы?

— Ведама ж.

— І напавер?

— І напавер.

— І проста так, нават тады, калі б бачыў, што ў чалавека не будзе чым табе іх аддаць?

— Тады тым болей.

— Малайчына, Яська, што хоць у думках людзям нічога не шкадуеш. У цябе яшчэ няма, а ты ўсё роўна згодны аддаваць іншым, дапамагаць. Сам жа сцвярджаў, што ведаеш, як грошы людзей псуюць.

Пагаманілі яны і спаць палеглі. Але на гэты раз не спалася. Дзеду і так надакучыла ляжаць, а ўнук загарэўся на самай справе адшукаць скарб. І не абы-які, а залаты, незлічоны, каб не толькі сабе, але і іншым хапіла.

Як устаў раніцай, дык, ад'язджаючы ў поле працаваць, так і сказаў старому:

— Як бы там ні было, а скарб я знайду!

— Эх, дурненькі. Усе пра такое мараць, але потым, калі расчароўваюцца, яшчэ болей змрачнеюць.

— А я знайду! — стаяў на сваім Яська.

— Добра, добра, хлапчына, не рві душу, — лагодна пагаджаўся дзедка і пасмейваўся: — Знойдзеш, дык лепей жыць станем.

Пасля той размовы Яська і на самай справе пачаў шукаць скарб. Як толькі выдавалася вольная хвіліна, то ён не адпачываў, не ляжаў, не кіраваў да хлопцаў ды дзяўчат, а браў рыдлёўку, сякеру і ішоў у адным яму толькі вядомым накірунку. Капаў, высякаў, вывальваў, але не шанцавала дзецюку. Прыйдзе дамоў, ледзьве цераз парог пераваліцца, а на наступны дзень трэба ж на працу ісці. Як заўважыў такое стары, дык давай ушчуваць Яську:

— Чалавеча, ты яшчэ з месяц пашукаеш і ног не пацягнеш.

— Нічога, я здаровы.

— Які ж ты здаровы? Ты лепей на сябе паглядзі. Схуднеў увесь, змізарнеў так, што адна скура ды косці на целе адсвечваюць.

— Скарб знайду, тады і ад'емся.

— Адпачыў бы лепей, — пачынаў па-іншаму стары.

— А я і так не стаміўся.

— Яно і відаць, што не стаміўся. Супакойся, унучак.

— Не, пакуль не знайду — не супакоюся.

— Каб жа гэта бокам не абярнулася.

— Не абернецца.

Яська так пераканана сказаў, што стары і заціх. Але, мабыць, і сам не здагадваўся, што і сапраўды, скарб можа і гора прынесці. Вялікае, непапраўнае.

Аднаго разу, была тады святая нядзелька пайшоў хлапчына шукаць скарб. На гару падаўся. Узяў сваё прычындалле і перад самым адыходам сказаў дзеду:

— Сёння, відаць, нешта знайду. Сон прысніўся мне шчаслівы.

— Каб жа тое, што сніў, ды рукой ухапіў, — пасмяяўся дзедка.

— Ухаплю ж некалі...

Пайшоў Яська, ■ назад ніводнага разу і не азірнуўся. Каб зрабіў гэта, то, можа, і заўважыў бы, як за ім ад самага паселішча краліся два хлопцы. Яны даўно сачылі за Яськам, спадзяваліся, што на дурню пажывяцца. Назіраць — гэта ж вам не капаць, не працаваць.

Яська спачатку ў адным месцы капаў. Вырыў глыбокую яміну і, нічога не знайшоўшы, перайшоў у другое. Там капнуў толькі і напароўся на скрыню з золатам. Хлапчына ад радасці ажно закрычаў. Але гэта была апошняя ягоная радасць, і закончылася яна ў той яміне-магіле. Забілі яго тыя злыдні, ■ скарб забралі. Уцякаючы, нават цела не закапалі. Знайшлі потым Яську-небараку там вяскоўцы і да хаціны прынеслі. Горка плакаў па ім дзедка. А тое месца пасля гэтага здарэння Сіроціна назвалі.

## ЯЗВІНА

Здарылася гэта даўно. Колькі стагоддзяў таму назад, ніхто і не ведае. Справа ў тым, што выдаўся такі прыдатны год, які, можа, у стагоддзе ўсяго раз і выпадае. Цёплая, тумановая восень, роўная, без завеяў і сцюжаў зіма, а вясна калі пачалася, то надвор'е стаяла пагодлівае, ласкавае. Уначы ішоў дождж, абмываў зямельку, а ўдзень ясна свяціла сонейка ды так грэла, што, здавалася, не на глебе стаіш босымі нагамі, а на печы сядзіш.

Пасадзілі людзі з вясны ўсё, што трэба, і нарадавацца не маглі, як усё пусцілася ў рост. Пазбіраюцца ў вольную часіну, пасядуць і толькі і чуваць:

— Але ж і прэ ўсё з зямлі!

— Ага, як тое цеста з дзежкі!

— Учора, здаецца, парасткі зусім маленькія былі, ■

сёння зайшоў, дык ледзьве сваю ніву пазнаў. З хлебам будзем.

Але здарылася ліха. Прынёс тую жахлівую навіну ў вёску адзін селянін, натрапіўшы на ўсё тое зусім выпадкова. І дзякуй Богу, што так адбылося, а то і не даведаліся б ні пра што і загінулі ўсе да аднаго.

Пайшоў той вясковец у госці да сваякоў. Выпілі там няблага, пасядзелі, трэба і дамоў вяртацца. А ноч хутка апусцілася, вось сваякі і ўгаварылі госця застацца і раніцай кіравацьу дарогу.

Пераспалі і зноў за стол селі, а як селі, дык недзе толькі пасля полудня вясковец ачомаўся:

— У гасцях добра, родненькія, але дома лепей, вяртацца трэба, бо хатнія хвалявацца будуць.

— Яно-то так, чалавеча...

— Паціху пайду, давядзецца яшчэ ці раз у дарозе адпачыць, дух перавесці.

Развітаўся той чалавек і пайшоў. А дарога ішла ўвесь час лесам. Таму як увайшоў у яго, дык і сонца свяціць перастала, прыцямнела адразу. Селянін жвава перабіраў нагамі. Ужо не надта далёка і да хаты заставалася, як раптам... убачыў незнаёмую маладзіцу, якая сядзела ля дарогі на пні і трымала вялікі сноп жыта. Падышоў чалавек бліжэй і яшчэ болей здзівіўся, бо такога буйнога жыта яму за ўсё жыццё не даводзілася бачыць. Толькі рот раскрыў, каб запытацца, дзе гэта такая збажына вырасла, як тая маладзіца, нягледзячы на тое, што перад ёю быў мужчына, адгарнула валасы з грудзей і пачала карміць немаўля. Корміць, а сама плача-заліваецца. Селянін збіраўся было запытацца, чаго яна так убіваецца, як заўважыў, што ссаў жаночае малако не сыночак, не дачушка, а... вялізны вуж, скруціўшыся ў прыполе. Ухапіў цурбалак вясковец, каб лупянуць вужаку і вызваліць маладзіцу, бо так і падумаў, што ад гэтага яна і галосіць, але жанчына загаманіла:

— Вялікі ўраджай... Небывалы...

— Ага, — паддакнуў чалавек, — і паўсюдна такі.

— Але ж бяда будзе.

— Якая?

— Не будзе яго каму ўбіраць.

— Чаму гэта?

— Праз пару тыдняў сам пабачыш.

— Што?

— Зямля пакрыецца язвамі... Дым пойдзе... Смурод... Людзі стануць, нібы мухі перамерзлыя, паміраць...

— Але ж... — пачаў было чалавек і акінуўся да маладзіцы.

Акінуцца акінуўся, а той і дух прапаў. Нікога не было на пні, акрамя таго самага вялізнага вужа, які, сыкаючы, збіраўся спаўзаць.

Прыджгаў у вёску селянін і расказаў пра ўсё вяскоўцам. Пачалі яны разважаць, што б гэта магло азначаць. Людзі вопытныя і спрактыкаваныя адразу сказалі, што трэба чакаць нейкай бяды і быць увесь час напагатове, каб яна знячэўку не заспела. Вырашылі, што трэба ўвесь час паліць вогнішчы, каб усялякія нячысцікі ды здані баяліся і блізка падыходзіць.

Так прайшоў, можа, з тыдзень, а можа, і болей. Аднаго разу пайшлі мясцовыя хлопцы на рэчку, каб рыбы ноччу палавіць, бо яна на цяпло вельмі ідзе. І сапраўды, пашанцавала ім, гэтулькі налавілі, як ніколі раней. Селі, распалілі вогнішча і гамоняць, радуюцца, што так добра ўсё атрымалася. Вырашылі дамоў не вяртацца, бо мяхі з рыбай не зацягнуць, а дачакацца раніцы, коніка запрэгчы і завезці.

Недзе пасля паўночы на супрацьлеглым беразе з'явіліся дзве жанчыны і пачалі прасіцца, каб іх у чоўне перавезлі. Хлопцы спачатку пагадзіліся, але потым адзін з іх усклікнуў:

— Паглядзіце! Паглядзіце, браточкі!..

Уставіліся астатнія і тут толькі заўважылі, што там не проста жанчыны, а нейкія страшныя стварэнні.

— Дык гэта, мабыць, і ёсць тое нашэсце, якое мы чакаем, — выказаў меркаванне нехта з рыбакоў. Трэба ў вёсцы ўсіх папярэдзіць, каб ведалі, дзе яно зараз туляецца.

— Адзін няхай бяжыць, а астатнія...

— А што астатнім рабіць?

— Паспрабуем галавешкамі ў іх кідаць. Гэтыя пачвары агню ніколі не любілі.

Як пачалі хлопцы шпурляць галавешкі, дык разоў колькі і ў жанчын патрапілі. Загаласілі-заенчылі тыя:

— Каб жа вам спакою не было!

— Каб вы пагнілі ўсе тут!

— Каб вас хваробы выкасілі!

— Нядоўга чакаць засталося!

А хлопцы не звярталі ўвагі. Тым часам да іх і падмога

з вёскі падскочыла. Тут ужо ўсе ўхапіліся кідаць галавешкі. Тыя стварэнні і збеглі.

Загарлаў трэці певень, і паволі высунулася з-за лесу сонца. І тут перад вяскоўцамі адкрылася жудаснае відовішча. Нехта ажно выдыхнуў:

— Ой, якія язвы на зямлі...

Астатнія маўчалі. Праўда, потым і яны загаманілі на ўсялякія галасы:

— Смурод ідзе ад тых ямін — не прадыхнуць.

— Гэта ж, відаць, уся тая зараза выходзіць.

— Ой, як язвена.

Так і адагналі людзі ўсялякія хваробы ад свайго паселішча, але тое месца, дзе гэта здарылася, назвалі Язвіна, каб нашчадкі памяталі, што заўсёды трэба быць пільнымі і ўважлівымі да ўсялякіх перасцярог.

# ЗМЕСТ


ВІЦЕБСК . . . . . . . . . . . 3
Руба . . . . . . . . . . . . . 9
Буева . . . . . . . . . . . . . 12
Буяны . . . . . . . . . . . . 15
Казакі . . . . . . . . . . . . 18
Крынкі . . . . . . . . . . . . 21

БЕШАНКОВІЧЫ . . . . . 25
Ула . . . . . . . . . . . . . . 32
Будзілава . . . . . . . . . . 38
Быстры . . . . . . . . . . . 42
Мамойкі . . . . . . . . . . . 44
Холм . . . . . . . . . . . . . 48
Цялепы . . . . . . . . . . . 51

БРАСЛАЎ . . . . . . . . . . 54
Відзы . . . . . . . . . . . . . 62
Ахрэмаўцы . . . . . . . . . 65
Дудалі . . . . . . . . . . . . 66
Зыбкі . . . . . . . . . . . . . 70
Опса . . . . . . . . . . . . . 73

ВЕРХНЯДЗВІНСК (ДРЫСА) . . . . . . . . . . . 77
Кульнева (*Царковішча*) . . . . . . 84
Сар'я . . . . . . . . . . . . . 88
Сасновы Бор (*Галяшы*) . . . . . . . . . 91
Свабода (*Вароны*) . . . 94
Чырвоны Кастрычнік (*Бикі*) . . . . . . . . . . . . 97

ГАРАДОК . . . . . . . . . . . 101
Астраўляны . . . . . . . . 107
Верамеева . . . . . . . . . 109
Прудок . . . . . . . . . . . . 113
Смолаўка . . . . . . . . . . 116
Цыганы (*Цыганяты*) . 119

ГЛЫБОКАЕ . . . . . . . . 123
Восава . . . . . . . . . . . . 125
Гатаўшчына . . . . . . . . 128
Гваздова . . . . . . . . . . 132
Малінаўшчына . . . . . 135
Навасёлкі . . . . . . . . . 138

ДОКШЫЦЫ . . . . . . . . 142
Бягомль . . . . . . . . . . . 149
Бакшты . . . . . . . . . . . 156
Беразіно . . . . . . . . . . . 159
Бірулі . . . . . . . . . . . . 163
Круляўшчына . . . . . 166
Порплішча . . . . . . . . . 169

ДУБРОЎНА . . . . . . . . 172
Брухаўцы . . . . . . . . . 178
Залатовічы . . . . . . . . 182
Копці . . . . . . . . . . . . . 185
Ляды . . . . . . . . . . . . . 188
Мардухі . . . . . . . . . . . 192

ЛЕПЕЛЬ . . . . . . . . . . . 196
Бяседы . . . . . . . . . . . . 201
Закаліўе . . . . . . . . . . . 204
Крыўкі . . . . . . . . . . . . 208
Мацюшына Сцяна . . 209
Савін Дуб . . . . . . . . . 212

ЛЁЗНА . . . . . . . . . . . . 216
Бескава . . . . . . . . . . . 224
Гарэлікі . . . . . . . . . . . 227
Лындзіна . . . . . . . . . . 231
Чарніца . . . . . . . . . . . 234
Шахі . . . . . . . . . . . . . 237

МІЁРЫ . . . . . . . . . . . . 241
Воўкаўшчына . . . . . . 248
Пераброддзе . . . . . . 250

Трабухі . . . . . . . . . . 253
Чэрасы . . . . . . . . . . 256
Якубаўшчына . . . . . . 259

ОРША . . . . . . . . . . . . 263
Барань . . . . . . . . . . . 269
Нарэйкава . . . . . . . . 276
Паддубцы . . . . . . . . . 279
Панізоўе . . . . . . . . . 282
Церабоўня . . . . . . . . 285
Юшкава . . . . . . . . . . 288

ПАСТАВЫ . . . . . . . . . . 292
Варапаева . . . . . . . . 299
Падвішняк . . . . . . . . 302
Папоўцы . . . . . . . . . 305
Сіманы . . . . . . . . . . 307
Чырвоны Ручай . . . . 309

ПОЛАЦК . . . . . . . . . . 312
Ветрына . . . . . . . . . . 319
Казімірава . . . . . . . . 322
Каршуны . . . . . . . . . 325
Старая Палата . . . . 327
Шпакоўшчына . . . . . 330

РАСОНЫ . . . . . . . . . . 334
Краснаполле . . . . . . 339
Мурагі . . . . . . . . . . . 342
Новая *(Папова Лука)* 345
Перамога *(Мыцькава)* 346
Чырвонае Знамя
*(Куляшова)* . . . . . . . 349

СЯННО . . . . . . . . . . . 353
Машканы . . . . . . . . . 360
Расна . . . . . . . . . . . . 362
Савінічы . . . . . . . . . 366
Ходцы . . . . . . . . . . . 369
Шамятоўка . . . . . . . 372

ТАЛАЧЫН . . . . . . . . 376
Ельнікі *(Папоўка)* . . 383
Коласава
*(Халопкавічы)* . . . . . 387
Лесіна *(Кулакі)* . . . . 388
Палявая
*(Манастыры)* . . . . . 391
Царковішча . . . . . . . 394

УШАЧЫ . . . . . . . . . . 398
Качаны . . . . . . . . . . 405
Лабуноўшчына . . . . 408
Рыбакі . . . . . . . . . . . 410
Скачыха . . . . . . . . . . 413
Судзілавічы . . . . . . . 416

ЧАШНІКІ . . . . . . . . . 419
Баравыя . . . . . . . . . . 425
Вяжоўка . . . . . . . . . . 427
Іканкі . . . . . . . . . . . . 430
Мядзведск . . . . . . . . 432
Слідцы . . . . . . . . . . . 435

ШАРКАЎШЧЫНА . . . 438
Казакі . . . . . . . . . . . 443
Кукаўка . . . . . . . . . . 445
Лужкі . . . . . . . . . . . . 448
Ляднікі . . . . . . . . . . 450
Юзіха . . . . . . . . . . . . 453

ШУМІЛІНА . . . . . . . . 457
Казьяны . . . . . . . . . . 462
Ласвіцкія . . . . . . . . . 465
Любічы . . . . . . . . . . . 468
Сіроціна . . . . . . . . . . 470
Язвіна . . . . . . . . . . . 473

**Віцебшчына:** Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў / Склад., запіс, апрац.
В 54 А. М. Ненадаўца.— Мн.: Беларусь, 2000.— 478 с.: іл.— (Мой родны кут).
ISBN 985-01-0107-5.

Чацвёртую кнігу з серыі «Мой родны кут» складаюць апрацаваныя легенды і паданні, звязаныя з паходжаннем назваў 129 населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Не адно пакаленне было ўзгадавана на захаванні памяці сваіх продкаў, таму і дайшлі да нас вусна-паэтычныя звесткі адносна тых гнёздаў, дзе набіраліся сіл слаўныя героі-волаты, змагары-бунтары, сяляне-працаўнікі, што грудзьмі баранілі родную зямельку, нідзе і ніколі не давалі яе ў крыўду, за гонар лічылі памерці, але не саступіць ні пядзі няпрошаным гасцям.

Спроба такога выдання прадпрымаецца ўпершыню.

Адрасавана тым, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю, духоўнай культурай беларускага народа.

**УДК 882.6-3+398.22(=826)**
**ББК 84(4Беи)+82.3(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ВІЦЕБШЧЫНА**

Складальнік **Ненадавец** Аляксей Міхайлавіч

Рэдактар *С. А. Корань*
Мастакі *М. У. Анемпадыстаў, В. П. Аніськова*
Мастацкі рэдактар *А. Г. Дашкевіч*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *С. Л. Печанёвай*
Карэктары *Р. П. Іваненка, Н. М. Масарэнка, Н. Г. Лешчанка, Г. К. Піскунова, Л. Б. Шынкевіч*

Падпісана да друку з арыгінала-макета 19.10.2000. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера газетная. Гарнітура Таймс. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 25,2. Ум. фарб.-адб. 25,62. Ул.-выд. арк. 26,29. Тыраж 2000 экз. Зак. 1998.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.600.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 31.12.97. 220004, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220005, Мінск, Чырвоная, 23.



*На беразе пакручастай,*
*непрадказальнай рачулкі Віцьбы*
*вырас высокі, спачатку драўляны,*
*а там ужо і мураваны, замак-крэпасць.*
*Яго звалі, ад рэчкі, Віцьбескам.*


ISBN 985-01-0107-5